Кніга прысвечана гісторыі кнігавыдавецкай справы на Беларусі і ролі выдатнага беларускага вучонага-асветніка Францыска (Георгія) Скарыны ў распаўсюджанні друкаванага слова сярод свайго народа і народаў іншых славянскіх краін.



1-6-2
6-67



# Ад рэдакцыі



жыцці кожнага народа, у гісторыі яго культуры і грамадскай думкі пачэснае месца належала і належыць кнізе, гэтаму найвялікшаму тварэнню чалавечага генія.

З'явіўшыся ў асяроддзі аднаго народа, кніга з цягам часу станавілася здабыткам іншых народаў. Пераходзячы з стагоддзя ў стагоддзе, ад аднаго пакалення да другога, яна засталася неўміручай крыніцай асветы і духоўнага ўзбагачэння, сродкам пераемнай сувязі мінулага з сучасным, фактарам цывілізацыі і прагрэсу. Звяртаючыся да гісторыі кнігі на зямлі нашых продкаў, мы заўважаем тут наяўнасць вельмі ранняй кніжнай традыцыі. Як вядома, ужо ў XII ст. Ефрасіння Полацкая займалася перапісваннем кніг ад рукі. Рукапісныя кнігі распаўсюджваліся і ў старажытным Тураве, з імем якога звязана, у прыватнасці, з'яўленне Тураўскага евангелля XI ст.

Парой узнікнення друкаванай кнігі ў беларускага народа з'яўляецца пачатак XVI ст. Гэта выдатная падзея ў гісторыі нашай культуры мае сваю дакладную дату і заснавальніка.

Такой датай лічыцца 6 жніўня 1517 г., калі наш славуты зямляк з Полацка, вялікі асветнік і гуманіст Францыск (Георгій) Скарына надрукаваў у Празе чэшскай першую беларускую кнігу і прызначыў яе «людем посполитым к научению». Праз два гады ён выдаў на беларускай мове яшчэ 22 кнігі «Бібліі», а, вярнуўшыся з Прагі, у 1525 г. у Вільні здзейсніў публікацыю «Апостала» і «Малой падарожнай кніжыцы». А каб кніга была больш зразумелай, Ф. Скарына забяспечыў яе тлумачальнымі словамі на палях і неабходнымі ілюстрацыямі ў тэксце.

З заснаваннем кнігадрукавання і выданнем першай кнігі пачалася новая эпоха ў культурным жыцці беларускага народа. Гэта падзея ўвайшла ў яго свядомасць як факт выключнай важнасці, якім, з аднаго боку, было абумоўлена далейшае інтэлектуальнае развіццё самога народа, а з другога — засведчана зараджэнне ў яго асяроддзі цэлага рада навуковых галін, такіх, як філалогія, лексікаграфія, выяўленчае мастацтва і інш.

Але не толькі заснаваннем кнігадрукавання ў Беларусі вымяраецца заслуга Ф. Скарыны перад гісторыяй культуры. Са скарынінскіх прадмоў мы даведваемся, што свае выданні ён прызначаў галоўным чынам для распаўсюджвання адукацыі сярод простага люду. Тым самым Ф. Скарына кнігу дэмакратызаваў і пазбавіў царкву манаполіі на яе. У гэтым сутнасць неўміручага грамадзянскага подзвігу беларускага першадрукара.

З імем Ф. Скарыны звязана і станаўленне літаратурнай мовы беларускага народа. Ім упершыню ўведзена яна ў кніжны зварот, ім нададзена ёй і першая літаратурная апрацоўка. Гэта скарынінскае пачынанне затым было пераняты і з поспехам прадоўжана бліжэйшымі яго паслядоўнікамі — Сымонам Будным і Васілём Цяпінскім.

Варта ўвагі і тое, што праз друкаваную кнігу Ф. Скарына пазнаёміў народы Еўропы яшчэ з адной, да таго часу маловядомай славянскай мовай — беларускай, увёў ва ўсходнеславянскіх землях такі новы від грамадскай дзейнасці, як кнігадрукаванне, і такую пачэсную прафесію, як кнігадрукар.

З таго часу прайшло 450 год. Непазнавальным стала жыццё сучаснага беларуса. У выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ён набыў сваю дзяржаўнасць, стварыў нацыянальную па форме, сацыялістычную па зместу культуру і зараз як роўны сярод роўных у вялікай мно-

ганацыянальнай сям'і савецкіх народаў будуе самае передавое ў свеце камуністычнае грамадства.

Агульная забяспечанасць беларускага насельніцтва кнігамі ў сучасны момант дасягнула звыш 80 мільёнаў тамоў, якія канцэнтруюцца больш як у 20 тысячах бібліятэк. Усё гэта сведчыць аб тым, што кінутыя Ф. Скарынай у пачатку XVI ст. зерні «разумнага, добрага, вечнага» далі багаты плён на ніве сучаснай культуры беларускага народа.

Асэнсоўваючы 450-гадовы шлях, пройдзены беларускай кнігай, і ацэньваючы велічнасць скарынінскага ўкладу ў скарбніцу духоўных здабыткаў беларускага народа і народаў славянскага свету, даследчыкі розных часоў звярталіся да літаратурнай спадчыны Ф. Скарыны, усебакова і ўдумліва вывучалі яе, у выніку чаго склалася вялікая спецыяльная літаратура, якую называюць Скарыніянай.

Нягледзячы на гэта, нельга сцвярджаць, што скарынінская спадчына і дзейнасць беларускага першадрукара поўна і дасканала вывучаны. Велічныя з'явы маюць асаблівасць лепш успрымацца і становяцца больш зразумелымі на адлегласці ў часе. Таму зусім заканамерны той факт, што ні адна папярэдняя эпоха не раскрывае ўсёй глыбіні іх сутнасці і заўсёды пакідае наступным эпохам сказаць аб іх нешта новае, больш грунтоўнае.

Прысвячаючы гэты зборнік 450-годдзю беларускага кнігадрукавання і ўшаноўваючы памяць яго заснавальніка — выдатнага сына зямлі беларускай Францыска Скарыны, рэдакцыя, зразумела, не лічыць, што ў зборніку сказана апошняе навуковае слова па шматлікіх і разнастайных пытаннях скарыназнаўства. Яна толькі спадзяецца, што матэрыялы зборніка прыцягнуць увагу новых даследчыкаў і тым самым будуць садзейнічаць больш паспяховаму вывучэнню невычэрпнай і для ўсіх часоў аднолькава дарагой скарынінскай спадчыны.





Францыск (Георгій) Скарына. Гравюра з «Бібліі»



В. У. ЧАПКО, А. П. ГРЫЦКЕВІЧ

# Эпоха Ф. Скарыны



поха, калі жыў і дзейнічаў выдатны беларускі мысліцель, вучоны, першадрукар Францыск (Георгій) Скарына — 80-я гады XV ст. — 30—50-я гады XVI ст., — была часам вялікіх пераўтварэнняў у эканамічным развіцці еўрапейскіх краін, важнейшых падзей у іх сацыяльна-палітычнай гісторыі, буйных дасягненняў у развіцці навукі і мастацтва, рэзкіх сутыкненняў у галіне ідэалогіі, часам важнейшых геаграфічных адкрыццяў. Гэты перыяд з'явіўся пачаткам новага этапа ў гістарычным развіцці народаў Еўропы: у нетрах феадальнага грамадства ў радзе заходнееўрапейскіх дзяржаў пачынаюць зараджацца капіталістычныя формы гаспадаркі. Асабліва спрыяльныя ўмовы для развіцця капіталізму склаліся к XVI ст. у краінах Заходняй Еўропы, у першую чаргу ў Італіі, Англіі, Францыі. Важнейшай умовай фарміравання там капіталістычнага спосабу вытворчасці быў высокі для таго часу ўзровень развіцця гаспадаркі, у прыватнасці рамяства і гандлю. Прадукцыйныя сілы ў гэтых краінах развіваліся раўнамерна, бо спусташальныя нашэсці азіяцкіх качавых

народаў не дасягалі Заходняй Еўропы. Важнай умовай была блізкасць да марскіх шляхоў сусветнага гандлю таго часу — Міжземнага мора і ўсходняй часткі Атлантычнага акіяна.

У краінах Усходняй і часткова Цэнтральнай Еўропы працэс распаду феадальнага спосабу вытворчасці і пераходу да капіталістычных форм вытворчасці замаруджваўся. Гэта тлумачыцца тымі прычынамі, што прадукцыйныя сілы тут працяглы час разбураліся ў выніку сістэматычных спусташальных нашэсцяў татара-манголаў, затым крымскіх татар і турэцкіх захопнікаў. У значнай меры фарміраванне капіталістычных адносін у некаторых краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы было замаруджана ўзмацненнем з XVI ст. паншчыннай сістэмы гаспадаркі і ростам феадальна-прыгонніцкага прыгнёту сялянства, які наступіў пасля падаўлення буйных народных паўстанняў. Развіццё паншчыннай гаспадаркі было абумоўлена стварэннем спрыяльных умоў для збыту памешчыцкага хлеба ў краіны Заходняй Еўропы, у якіх рост гарадскога насельніцтва, развіццё мануфактур выклікалі павелічэнне попыту на сельскагаспадарчыя прадукты.

Асноўнай умовай фарміравання капіталістычных адносін у іх пачатковай стадыі, якую К. Маркс назваў працэсам так званага «першапачатковага накаплення», з'явілася наяўнасць вялікіх груп людзей, асабіста свабодных, але пазбаўленых сродкаў вытворчасці і таму не меўшых сродкаў для існавання. Утварэнне гэтага рэзерву свабодных рабочых рук было вынікам экспрапрыяцыі непасрэдных вытворцаў у горадзе і вёсцы. Класічным узорам стварэння такога рэзерву шляхам адабрання зямлі ў сельскага насельніцтва была Англія, дзе ў выніку развіцця буйной авечкагадоўлі, у выніку «агароджвання» масы дробных землеўласнікаў-арандатараў былі сагнаны з зямлі і вымушаны былі пайсці ў гарады ў пошуках хлеба і працы. Гэты поўны трагедыі працэс англійскі палітычны дзеяч і гуманіст, аўтар вядомай кнігі «Утопія» Томас Мор вобразна вызначыў формулай «Авечкі з'елі людзей».

Другім бокам працэсу першапачатковага накаплення з'явілася канцэнтрацыя буйных грашовых сродкаў у руках нямногіх асоб, якія атрымалі магчымасць укласці іх у прамысловую вытворчасць.

Важнейшай умовай разлажэння феадальнай гаспадаркі і ўзнікнення капіталістычнай вытворчасці з'явіліся дасягнутыя к XVI ст. значныя поспехі ў развіцці прадукцыйных сіл. Высо-

кага ўзроўню дасягнула вытворчая тэхніка, адначасова вырас і паглыбіўся грамадскі падзел працы. Развіццё тэхнікі з'явілася вынікам шматвяковага накаплення вытворцам — сялянамі і рамеснікамі — вытворчага вопыту, пастаяннага і няўхільнага ўдасканальвання прылад працы.

Асабліва вялікія крокі зрабіла вытворчая тэхніка ў галіне прамысловасці — у тэкстыльнай вытворчасці, горнай справе, металургіі. Важную ролю ў тэхнічным прагрэсе адыграла прымяненне вадзянога кола.

Некаторае, хоць і менш хуткае, развіццё адбывалася і ў сельскай гаспадарцы. Пашыраліся пасяўныя плошчы, паляпшалася сістэма землекарыстання, удасканальваліся сельскагаспадарчыя прылады.

Тэхнічны прагрэс, далейшае паглыбленне грамадскага падзелу працы побач з пашырэннем унутранага і знешняга рынкаў былі галоўнай прычынай сацыяльна-эканамічных змен, якія пачаліся ў еўрапейскіх краінах у XVI ст.

У выніку гэтых зрухаў у стане прадукцыйных сіл, ускладнення вытворчасці ў перадавых краінах Заходняй Еўропы дробная гаспадарка непасрэдных вытворцаў феадальнага грамадства аказалася няздольнай да далейшага развіцця і ў цэлым радзе галін вытворчасці стала ўступаць месца больш прадукцыйным формам вытворчасці — капіталістычным. Развіццё грамадскага падзелу працы таксама стварала ўмовы для арганізацыі больш буйных прадпрыемстваў, заснаваных на наёмнай працы.

Новыя формы вытворчасці ў першую чаргу сталі ўзнікаць у гарадах — месцах канцэнтрацыі рамеснай прамысловасці.

Капіталістычная прамысловасць узнікла шляхам падпарадкавання дробных прадпрыемстваў гандлёваму і ліхвярскаму капіталу. У XVI ст. найбольш шырокае распаўсюджанне атрымлівае так званая «рассеяная мануфактура» — падпарадкаванне дробных вытворцаў, што працавалі дома, купцу-капіталісту, які забяспечваў іх сыравінай, прыладамі працы, грашыма і збываў іх вырабы. У асобных гарадах перадавых заходнееўрапейскіх краін пачала з'яўляцца і больш высокая форма — цэнтралізаваная мануфактура, якая аб'ядноўвала рабочых у адным памяшканні, дазваляючы ўводзіць тэхнічныя ўдасканаленні і ўскладняць раздзяленне працы.

Такім чынам, капіталістычная вытворчасць у форме цэнтралізаванай або рассеянай мануфактуры ўзнікае ў першую

чаргу ў краінах Заходняй Еўропы, гэта значыць там, дзе была высокаразвітая рамесная вытворчасць з далёка зайшоўшым працэсам падзелу працы, дзе ўжо стварыўся значны пласт экспрапрыіраваных людзей. У краінах Усходняй і часткова Цэнтральнай Еўропы, дзе ўсе гэтыя ўмовы выступалі менш выразна, дзе яшчэ застаўся шматлікі пласт прыгоннага сялянства, капіталістычныя формы развіваліся значна слабей.

Працэсу распаду феадалізму і фарміравання капіталізму ў краінах Еўропы садзейнічала адкрыццё новых гандлёвых марскіх шляхоў і новых краін на працягу XV—XVI стст. «Адкрыццё Амерыкі, — пісаў Ф. Энгельс, — было выклікана прагай золата..., таму што еўрапейская прамысловасць, якая так магутна развівалася ў XIV і XV стст., і гандаль, які ёй адпавядаў, патрабавалі больш сродкаў абмену» [1]. На пошукі золата кідаліся ўсе пласты тагачасных вышэйшых колаў — і феадалы, і духавенства, і багатыя гараджане. Усе былі ахоплены неймавернай прагай накаплення скарбаў, імкненнем да раскошы. На вопыце купцоў, якія вялі заморскі гандаль, усе пераконваліся, што найбольш хуткім сродкам абагачэння быў гандаль з азіяцкімі краінамі. Але к таму часу гандлёвыя аперацыі з гэтымі краінамі сталі манаполіяй гарадоў Італіі, галоўным чынам Венецыі і Генуі. Іншыя краіны Еўропы не мелі непасрэдных гандлёвых сувязей з Азіяй і куплялі ўсходнія тавары ў італьянскіх купцоў — пасрэднікаў у гэтым гандлі. У выніку такога аднабаковага гандлю еўрапейскія краіны неўзабаве сталі адчуваць вялікую нястачу ў золаце і серабры.

К сярэдзіне XV ст. туркі сваімі заваёвамі закрылі еўрапейскім купцам шлях на Усход праз Малую Азію. Пачаўся заняпад міжземнаморскага італьянскага гандлю. Неабходна было знайсці іншы марскі шлях ва ўсходнія краіны, багатыя на каштоўныя тавары — шаўковыя тканіны, вострыя прыправы і інш. Таму ўжо ў канцы XV ст. еўрапейцы ўзмоцнена сталі шукаць новыя шляхі на Усход, адпраўляючыся ў далёкія марскія падарожжы. Гэтыя падарожжы сталі магчымымі дзякуючы дасягнутым к таму часу поспехам у развіцці прадукцыйных сіл, удасканаленню мараплавальнай справы, а таксама дасягненням у галіне астраноміі, у прыватнасці развіццю ідэі аб шарападобнасці зямлі.

---

[1] К. Маркс, Ф. Энгельс. Избранные письма, 1948, стар. 426.

К канцу XV—пачатку XVI ст. адносяцца і тыя дасягненні ў галіне геаграфічных ведаў, якія атрымалі назву вялікіх геаграфічных адкрыццяў. У 1497—1498 гг. зрабіў падарожжа партугалец Васка да Гама, які ўпершыню аб'ехаў Афрыку каля ўсходняга ўзбярэжжа і, пераплыўшы Індыйскі акіян, дасягнуў Індыі. У 1503 г. ён паўтарыў сваё падарожжа. Вялікай падзеяй у гісторыі чалавецтва з'явіўся 1492 г. — год адкрыцця Хрыстафорам Калумбам Амерыкі. У 1499—1504 гг. у выніку падарожжаў Амерыга Веспучы былі даследаваны берагі Паўднёвай Амерыкі. У 1519—1522 гг. іспанская экспедыцыя партугальца Ф. Магелана зрабіла першае кругасветнае падарожжа.

«Адкрыццё капальняў золата і серабра ў Амерыцы, вынішчэнне, заняволенне і пахаванне жывымі туземных жыхароў у рудніках, першыя крокі па заваяванню і разграбленню Ост-Індыі, ператварэнне Афрыкі ў запаведнае поле палявання на чорнаскурых — такі быў золак капіталістычнай эры вытворчасці» [1].

Узнікненне новага, капіталістычнага спосабу вытворчасці прывяло не толькі да істотных змяненняў у эканамічным ладзе, яно выклікала вялікія змены сацыяльнага парадку. Ускладнілася класавая структура грамадства. Побач са старымі класамі феадальнага грамадства — феадаламі і сялянствам — сталі з'яўляцца новыя класавыя групы — буржуазія і рабочыя мануфактур. На працягу наступных стагоддзяў гэтыя групы развіліся ў два антаганістычных класы капіталістычнага грамадства. У XVI ст. класавая барацьба ў еўрапейскіх краінах ускладнілася і надзвычай абвастрылася. Супраць феадальнай дзяржавы, супраць панавання класа феадалаў выступілі і сяляне, і гараджане ў цэлым, адстайваючы свае інтарэсы і прад'яўляючы свае патрабаванні. XV—XVI стст. былі эпохай найвышэйшага ўздыму антыфеадальнага сялянскага і плебейскага руху (гусіцкія войны ў Чэхіі, Вялікая сялянская вайна ў Германіі і інш.). Разам з тым у эканамічна найбольш развітых краінах Еўропы стала ўзнікаць новая форма класавай барацьбы — барацьба плебейскіх мас супраць нованароджанага прыгнятальніка — буржуазіі, якая па-драпежніцку рвалася да нажывы, багацця, да эканамічнай перавагі і палітычнага панавання.

---

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 23. М., 1960, стар. 760.

XVI ст. з'явілася пачаткам важнейшага сацыяльна-палітычнага працэсу ў гісторыі еўрапейскіх народаў — фарміраванне нацый. Гэты працэс быў абумоўлен эканамічнымі, палітычнымі і культурнымі з'явамі. Народнасці, што склаліся ў папярэдні час, змаглі ўтварыць моцныя ўстойлівыя групы толькі з зараджэннем і развіццём капіталізму, які быў звязан з утварэннем моцнай эканамічнай супольнасці, складваннем адзінага нацыянальнага рынку.

З канца XV ст. у палітычнай гісторыі рада еўрапейскіх краін пачаўся этап складвання і развіцця абсалютызму. Абсалютная манархія з'яўляецца найбольш закончанай формай палітычнай цэнтралізацыі феадальных дзяржаў.

У большасці краін Заходняй Еўропы к пачатку XVI ст. працэс палітычнага аб'яднання нацыянальных тэрыторый і ўтварэння цэнтралізаваных дзяржаў у асноўным закончыўся. Але такія буйныя краіны, як Германія і Італія, працягвалі заставацца эканамічна і палітычна раздробленымі, раздзеленымі на асобныя самастойныя княствы, герцагствы, вобласці, гарадскія рэспублікі і г. д.

На тэрыторыі Германіі і Аўстрыі працягвала існаваць «Свяшчэнная рымская імперыя германскай нацыі», аднак фактычна кожная з частак, што ўваходзілі ў яе склад, адчувала сябе аўтаномнай. З канца XIV ст., а затым у XV—XVI стст. імператарскую карону трымалі магутныя аўстрыйскія эрцгерцагі Габсбургі, якія імкнуліся стварыць адзіную велізарную моцную дзяржаву, узмацніць сваю ўладу. Гэта палітыка асабліва актывізавалася пры Карле V (1519—1556), калі ў склад імперыі ўвайшла Чэхія.

У XV—XVI стст. таксама і ў ідэалагічным і культурным развіцці еўрапейскіх народаў наглядаюцца глыбокія зрухі, абумоўленыя распадам феадальнага спосабу вытворчасці і фарміраваннем капіталістычнага ўкладу ў нетрах феадальнай сістэмы.

Абвастрэнне антыфеадальнай класавай барацьбы выклікала небывалы ўздым барацьбы ідэалагічнай, якая адлюстравала ідэйнае наступленне новага класа — буржуазіі на ідэалогію Сярэдневякоўя — галоўную зброю каталіцкай царквы. Гэта барацьба праявілася ў XVI ст. у цэлым радзе краін Еўропы ў форме Рэфармацыі. Рэфармацыйны рух у розных краінах набываў розныя формы, але аб'ектыўна ўсюды меў адзін змест — барацьбу з феадальнымі парадкамі.

XV—XVI стст. былі эпохай найвялікшага напружання чалавечых здольнасцей, прыдушаных у перыяд змрочнага Сярэдневякоўя, часам велізарных дасягненняў у галіне прыродазнаўчых навук. У гэты час бурнага росквіту дасягнулі літаратура, жывапіс, архітэктура, з'явіліся найвялікшыя тварэнні мастацтва, якімі і цяпер ганарыцца чалавецтва. Гэтыя вякі былі першай гістарычнай стадыяй буржуазнай культуры Заходняй Еўропы, перыядам росквіту так званай культуры Адраджэння. Узнікненне новай культуры звязана са з'яўленнем асобнай групы ўнутры гарадскога насельніцтва — інтэлігенцыі, якая не была звязана з царквой (урачы, настаўнікі, розныя чыноўнікі, архітэктары, музыканты, мастакі і інш.).

Культура Адраджэння ўпершыню з'явілася ў Італіі, у тых яе гарадах, дзе раней за ўсё сталі ўзнікаць капіталістычныя формы ў прамысловасці. Але і ў іншых краінах Еўропы, хоць і некалькі пазней, у руках гарадскіх вярхоў накопліваліся вялікія капіталы, і там узнікалі навуковыя, літаратурныя і мастацкія плыні такога ж характару і ідэйнага зместу, як і ў Італіі, хоць і менш ярка выражаныя. У канцы XV і на працягу XVI ст. культура Адраджэння распаўсюдзілася па ўсіх краінах Еўропы. У першую чаргу яна пранікла ў асяроддзе багатых гараджан, галоўным чынам купецкіх вярхоў, захапіла таксама феадальную арыстакратыю, што жыла ў гарадах, і асабліва каралеўскія і княжацкія двары. Багата запазычваючы ад італьянскага Адраджэння, новыя культурныя плыні ў еўрапейскіх краінах мелі свае спецыфічныя рысы, народжаныя своеасаблівасцю сацыяльных, эканамічных і палітычных умоў жыцця таго ці іншага народа.

Узнікненне і росквіт раннебуржуазнай культуры — культуры Адраджэння — адносяцца да перыяду панавання феадальных парадкаў. Буржуазія тады яшчэ не сфарміравалася як клас, не заняла пануючага становішча ў вытворчым і палітычным жыцці. Састаў буржуазіі на той стадыі фарміравання капіталістычнага спосабу вытворчасці, яе месца ў грамадскім укладзе значна адрозніваліся ад становішча і характару буржуазіі больш позняга часу. Гэта і вызначыла асаблівасці культуры Адраджэння. Супярэчнасці буржуазнага грамадства, якое толькі нараджалася, яшчэ не паспелі развіцца, яшчэ не выспелі тыя якасці, што ператварылі буржуазію ў рэакцыйны, паразітычны клас. У той час для дзейнасці чалавека адкрываліся вялікія прасторы. Таму людзі эпохі Адраджэння

былі ўпэўнены ў магчымасці бясконцага развіцця чалавечай асобы. Пераходны характар эпохі распаду феадальнага ладу, калі шляхі далейшага развіцця яшчэ не былі яснымі, падтрымліваў у людзей такія ілюзіі. Гэта параджала ў дзеячоў Адраджэння аптымістычны дух, напоўнены ўпэўненасцю ў перамозе, прасякнуты ідэямі вызвалення чалавецтва ад сярэдневяковай цемры і феадальнага прыгнёту. Характэрнай рысай ранняга буржуазнага грамадства было імкненне стварыць новую, свецкую культуру ў процівагу панаваўшай да гэтага феадальна-царкоўнай культуры. У аснову новай культуры клалася ідэя бясконцага развіцця чалавечай асобы, вызваленай ад неабходнасці падпарадкавання царкоўным аўтарытэтам, яе фізічнага і духоўнага ўдасканалення.

У паняцце «Адраджэнне» ўваходзіць і культ рэальнага зямнога жыцця, і велізарная прага ведаў, і імкненне да адкрыццяў і вынаходстваў ва ўсіх галінах навукі і культуры. Адной з важнейшых рыс светапогляду людзей Адраджэння з'яўляецца імкненне крытычна аналізаваць як знешнія сувязі чалавека, так і ўнутраны яго свет, вывучаць і правяраць усе з'явы рэчаіснасці.

Культура Адраджэння ў процівагу царкоўнай па характару культуры феадалізму мела свецкі, жыццёвы напрамак. Свецкі характар новай культуры вызначаўся далёкімі ад царкоўна-схаластычных форм інтарэсамі яе заснавальнікаў і носьбітаў — прадстаўнікоў буржуазіі, якая была занята імкненнямі да набыцця ўсё большых багаццяў і палітычнай барацьбой. Гэтым людзям быў глыбока чужы аскетызм, адлучанасць ад свету, адмаўленне ад зямных, чалавечых радасцей, пахаванне сябе ў манастырскіх мурах у імя «тагасветнага вечнага шчасця». Прадстаўнікі маладой буржуазіі, якія з вялікімі цяжкасцямі дабіваліся багацця, раскошы, чым — яны бачылі — не за працу, а па «праву нараджэння» валодалі прадстаўнікі феадальнай арыстакратыі, хацелі атрымаць узнагароджанне за свае турботы не на небе, а на зямлі. Пасля клапот і дзелавых хваляванняў буржуа хацелі адпачынку для цела і душы. Таму яны адмоўна адносіліся да ідэі «грэшнасці» чалавека, яго жаданняў, радасцей і задавальненняў, якая прапаведавалася каталіцкай царквой. У процілегласць царкоўнай пропаведзі аб неабходнасці поўнага адмаўлення ад рэальнага быцця ў імя бога прадстаўнікі гуманістычнага светапогляду абвяшчалі чалавека, яго розум і цела цэнтрам сваёй увагі,

заклікалі і вучылі атрымліваць асалоду ад прыроды, твораў мастацтва, дасягненняў чалавечай думкі.

Чалавек, а не бог знаходзіцца ў цэнтры ўвагі гуманістаў. Гуманісты былі выхадцамі з нерадавітых сем'яў, і яны асуджалі ганарыстасць феадалаў, высмейвалі забабоны феадальнага грамадства, гордасць паходжаннем, знатнасцю роду, лічачы, што толькі той варты павагі і пашаны, хто дасягнуў гэтага ўласнымі выдатнымі і вялікімі справамі [1].

Адзін з важных бакоў гуманістычнага светапогляду — абвяшчэнне ўсебаковага і бязмежнага развіцця чалавечай асобы. Ідэалам гуманістаў быў эрудыт — чалавек, які валодаў усебаковымі і глыбокімі ведамі ў розных галінах навукі і мастацтва. Такіх людзей нямала парадзіў перыяд росквіту Адраджэння — XV—XVI стст. Характарызуючы эпоху Адраджэння, Ф. Энгельс пісаў: «Гэта быў найвялікшы прагрэсіўны пераварот з усіх перажытых да таго часу чалавецтвам, эпоха, якая мела патрэбу ў тытанах і якая парадзіла тытанаў па сіле думкі, страсці і характару, па шматбаковасці і вучонасці» [2]. Але ідэя развіцця чалавечай асобы, якая высоўвалася гуманістамі, мела ў сабе рысы аднабаковасці і эгаістычнасці. Ажыццяўленне гэтага ідэалу дапускалася толькі для невялікай групы «выбраных», асабліва адораных людзей. Большасць дзеячоў эпохі Адраджэння з пагардай адносіліся да неадукаванай «чэрні» (vulgus), паколькі яны былі выразнікамі інтарэсаў буржуазіі, якая абагачалася за кошт эксплуатацыі нізоў, народных мас.

У цеснай сувязі з гэтай ідэяй знаходзіцца і такі бок гуманістычнай ідэалогіі, як індывідуалізм, які з'явіўся свайго роду адлюстраваннем вечнай варожай канкурэнцыі буржуазіі паміж сабой у пагоні за багаццем. У адрозненне ад феадалаў, якія абапіраліся на права ўсяго свайго класа, прадстаўнікі буржуазіі дабіваліся поспехаў і багацця кожны паасобку, сваімі сіламі, і гэта параджала крайні прынцып індывідуалізму «кожны за сябе і для сябе».

Індывідуалізм гуманістаў выяўляўся ў самых разнастайных формах — і ў нізкапаклонстве перад удачлівым дзялком, і ў захапленні талентам, і ў падкрэсліванні вартасці чалавечай

---

[1] Я. Буркхардт. Культура Италии в эпоху Возрождения, т. I. СПб, 1904, стар. 64—78.

[2] Фридрих Энгельс. Диалектика природы. М., 1964, стар. 7.

асобы, беражлівых адносінах да яе імкненняў і жаданняў. Гэта апошняе мела ў сабе такую заганную ідэю, якая абвяшчала задавальненне патрэб чалавечай асобы як самамэту, адкрывала шлях нястрымнаму эгаізму, ухваляла асабісты поспех у любой, нават у ганебнай справе. Таму ў радзе выпадкаў гэту ідэю выкарыстоўвалі цёмныя дзялкі для адмаўлення ўсякай грамадскай маралі, для апраўдання «моцных» людзей, што дабіваліся ўлады ці багацця шляхам яўных парушэнняў норм чалавечага супольнага жыцця.

Для гуманістаў эпохі Адраджэння характэрным з'яўляецца тое, што, нягледзячы на адмоўныя адносіны да царкоўна-аскетычнага светапогляду, яны не рашаліся адкрыта парваць з каталіцкай царквой. Многія дзеячы эпохі Адраджэння былі людзьмі рэлігійнымі і, вывучаючы прыродазнаўчыя навукі, займаючыся «свецкім» мастацтвам, знаходзілі час і жаданне аддаваць пэўную даніну богу.

Дзеячы эпохі Адраджэння з вялікай павагай і захапленнем адносіліся да антычнай культуры. Многія з іх прысвяцілі ўсё сваё жыццё пошукам старажытных рукапісаў, скульптур, архітэктурных помнікаў. Гуманісты, выдатна ведаючы лацінскую мову, ачышчалі сярэдневяковую «варварскую» латынь. Мовай гуманістычнай літаратуры стала вытанчаная лацінская мова антычнасці. Усе дзеячы Адраджэння вывучалі і ведалі старажытных пісьменнікаў і філосафаў, каменціравалі іх. Звяртаючыся да класікаў старажытнасці, гуманісты ў значнай меры прынялі іх погляды. Але адначасова яны ўнеслі ў культуру Еўропы многа новага, невядомага ні антычнасці, ні Сярэдневякоўю [1]. Разам з тым многія з іх прысвяцілі сваё жыццё стварэнню культурных помнікаў на мове свайго народа. Для эпохі росквіту Адраджэння характэрна хуткае развіццё розных галін навукі. Гэта звязана з абвяшчэннем гуманістамі прынцыпа ўсебаковага навуковага даследавання прыроды, яе законаў, рашучага адмаўлення сярэдневяковай схаластыкі.

У гэты перыяд былі дасягнуты вялікія поспехі ў розных галінах тэхнікі, звязаных непасрэдна з гандлем і мараплаваннем (вынаходства компаса і прыбораў для вызначэння геаграфічнай шыраты, удасканаленне прыёмаў караблебудавання і інш.). Удасканальваецца выраб гадзіннікаў, оптыка, развіва-

---

[1] И. Н. Голенищев-Кутузов. Итальянское Возрождение и славянские литературы. М., 1958, стар. 12.

ецца хімічная прамысловасць. Значна паляпшаецца будаўнічая тэхніка. Патрэбы вытворчасці і гандлю выклікалі актыўнае вывучэнне прыродных з'яў, пашырэнне геаграфічных ведаў. Вялікія поспехі былі дасягнуты ў галіне астраноміі, узмацнілася ўвага да вывучэння анатоміі і медыцыны, а таксама жывёльнага і расліннага свету. У гэты час з'яўляюцца першыя батанічныя і заалагічныя сады.

Але яшчэ большае месца ў навуцы належала астралогіі, якая займалася вывучэннем уплыву нябесных свяціл на лёс людзей, і алхіміі, якая намагалася атрымаць «філасофскі камень».

Велізарнае значэнне для развіцця навукі і літаратуры мела вынаходства кнігадрукавання (каля 1440 г.), якое хутка пранікла ва ўсе краіны Еўропы і неўзабаве стала магутным сродкам распаўсюджання новай культуры, важнейшай зброяй ідэалагічнай барацьбы.

XV—XVI стст. былі перыядам росквіту культуры Адраджэння і распаўсюджання яе ў розных краінах Еўропы. Пры гэтым распаўсюджанні ўшыркі культура гуманізму папаўнялася і ўзбагачалася спадчынай сярэдневяковай народнай культуры [1]. У кожнай краіне з'явіліся свае выдатныя дзеячы навукі і мастацтва, якія ўнеслі многа новага ў культуру гуманізму. Больш усяго выдатных дзеячоў у розных галінах мастацтва дала радзіма гуманізму Італія. Тут у гэты час жылі буйнейшыя мастакі, скульптары, архітэктары: Леанарда да Вінчы (1452—1519), Рафаэль Санці (1483—1520), Мікеланджэла Буанароці (1475—1564), Джарджоне (1478—1510), Тыцыян (1477—1576), пісьменнік і паэт Ладавіка Арыёста, гісторык Франчэска Гвічардзіні, пісьменнік і публіцыст, ідэолаг палітычнага аб'яднання Італіі Нікола Макіявелі (1469—1527) і інш.

Францыя дала ў гэты час найвялікшага пісьменніка-гуманіста Франсуа Рабле, аўтара славутага рамана «Гарганцюа і Пантагруэль», у Англіі дзейнічаў мысліцель Томас Мор, аўтар «Утопіі». У Нідэрландах з вядомым памфлетам «Пахвала дурасці» выступіў Эразм Ратэрдамскі. У Германіі гучала крытыка царквы Марцінам Лютэрам і грымелі заклікі да паўстання Томаса Мюнцэра. У Польшчы ствараў свае бессмяротныя

---

[1] И. Н. Голенищев-Кутузов. Итальянское Возрождение и славянские литературы, стар. 10.

шэдэўры скульптар Віт Ствош, пісаў сваю геніяльную працу «Аб абарачэнні нябесных сфер» Мікалай КаперНік. Такая вялікая плеяда сучаснікаў Ф. Скарыны.

Варта больш грунтоўна паглядзець на эканамічнае і палітычнае жыццё тых краін, якія ў сваіх вандраваннях наведаў і дзе жыў беларускі першадрукар, — Італіі, Чэхіі, Польшчы.

Італія ў XV ст. па свайму эканамічнаму развіццю была самай перадавой краінай у Еўропе. Яе гарады займалі першае месца па ўзроўню рамяства, развіццю гандлю і банкаўскай справы. Тут упершыню з'явіліся капіталістычныя формы вытворчасці ў выглядзе мануфактур. Маючы на ўвазе італьянскія гарады, К. Маркс указваў, што «першыя зародкі капіталістычнай вытворчасці спарадычна сустракаюцца ў асобных гарадах па Міжземнаму мору ўжо ў XIV і XV стагоддзях» [1]. Аднак найбольш развітай сферай гаспадарчага развіцця гарадоў Італіі заставаўся гандаль, які звязваў іх з усімі еўрапейскімі краінамі. Італьянскія купцы трымалі ў сваіх руках манаполію гандлю з усходнімі краінамі, які да сярэдзіны XV ст. вёўся ў асноўным па Міжземнаму мору. Дзякуючы гэтаму шырокаму гандлю ў гарадах Італіі ўтварыліся багатыя вярхі з купцоў і банкіраў, якія валодалі велізарнымі па таму часу капіталамі. У радзе гарадоў гэтыя вярхі захапілі ў свае рукі і палітычную ўладу. У Італіі вялася пастаянная барацьба за ўладу паміж асобнымі групамі буржуазіі, пераварот адбываўся за пераваротам, прыводзячы да ўлады тую ці іншую партыю. Найбольш энергічныя прадстаўнікі буржуазіі, феадальнай арыстакратыі і ваенных наймітаў часта захоплівалі ўладу і станавіліся тыранамі. Багацеі намагаліся пераўзысці адзін аднаго ў паказной раскошы, узводзілі палацы, прыгажэйшыя адзін ад другога, куплялі багацейшае адзенне, акружалі сябе шэдэўрамі мастацтва. Каб адцягнуць народныя масы ад барацьбы, багацеі паддобрываліся да іх, наладжвалі пышныя святы, раздавалі дробныя падачкі.

Разбагацеўшыя буржуа, феадальная арыстакратыя акружалі сябе дзеячамі мастацтва — архітэктарамі, мастакамі, музыкантамі, паэтамі і спевакамі. Пры дварах тыранаў, герцагаў і нават некаторых пап жылі вялікія гуманісты таго часу [2].

---

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 23, стар. 728.
[2] Виллари Паскуале. Никколо Макиавелли и его время. М., 1914, стар. 27—45.

Але, нягледзячы на знешнюю раскошу і дабрабыт, Італія ў канцы XV ст. ужо хілілася да заняпаду. Яна працягвала заставацца палітычна раздробленай краінай. Купецтва італьянскіх гарадоў, якое разбагацела дзякуючы транзітнаму гандлю, канкурыруючы паміж сабой, было мала зацікаўлена ў палітычным аб'яднанні краіны. Таму ў Італіі працягвала існаваць мноства дробных гарадоў-дзяржаў — тыраній і рэспублік, сярод якіх найбольш буйнымі былі Мілан, Венецыя, Фларэнцыя (дзе царавалі банкіры Медзічы), Папская вобласць, Неапалітанскае каралеўства.

З канца XV ст. у Італіі стаў адчувацца заняпад прамысловасці і гандлю. Гэта было абумоўлена тым, што тут не склаўся адзіны ўнутраны рынак, прамысловая вытворчасць працавала на знешні рынак.

У XVI ст. у іншых краінах Еўропы таксама стала развівацца ўласная капіталістычная прамысловасць, якая паспяхова канкурыравала з італьянскай, і Італія страціла рынкі збыту для сваіх тавараў. Разам з тым знізілася значэнне гарадоў Італіі ў пасрэдніцкім гандлі Заходняй Еўропы з Усходам у выніку захопу туркамі Малой Азіі і адкрыцця шляху вакол Афрыкі.

Усе гэтыя прычыны эканамічнага заняпаду ў спалучэнні з палітычнай слабасцю краіны прывялі да сур'ёзных сацыяльных перамен. Рэзка пагоршылася становішча працоўных мас; закрыццё рада мануфактур выштурхнула гарадскіх рабочых на вуліцу, прымусіла іх у пошуках пражытку вярнуцца ў вёску і стаць арандатарамі дробных кавалачкаў зямлі на кабальных умовах. Купцы і прамыслоўцы, не маючы рынкаў збыту, сталі ўкладваць свае капіталы часткова ў фінансава-ліхвярскія аперацыі, часткова ў зямлю. Купляючы зямельныя ўладанні, яны набывалі разам з імі і дваранскі тытул. Адбылося перараджэнне багатых гараджан, зліццё іх з феадальнай знаццю. Зноў адраджаюцца феадальныя норавы і традыцыі.

Палітычная раздробленасць рабіла Італію лёгкай здабычай суседніх дзяржаў — Францыі і Іспаніі. Безупынныя войны спусташалі італьянскую тэрыторыю на працягу 65 гадоў — з 1494 па 1559 г. Кожны з дробных уладароў у сваёй барацьбе з супернікамі і з народнымі масамі звяртаўся за дапамогай да іншаземных каралёў. У 1494 г. французскі кароль Карл VIII, пакліканы міланскім герцагам, прайшоў з грабяжамі ўсю Італію. У 1512 г. Медзічы, выгнаныя з Фларэнцыі ў выніку

народнага паўстання пад кіраўніцтвам Саванаролы, паклікалі на дапамогу іспанцаў. Войны ішлі з пераменнымі поспехамі, пакуль іспанскі кароль Карл I Габсбург (з 1519 г. германскі імператар Карл V) у 1525 г. у бітве ля Павіі не атрымаў перамогі. Праз год ён захапіў і разграбіў Рым.

У шмат якіх італьянскіх гарадах — Генуі, Фларэнцыі, Палерма, Бергама, Брэшыі і інш. узнімаліся народныя паўстанні супраць тыранаў і іх іншаземных саюзнікаў, але ўсе яны бязлітасна падаўляліся. З усіх гарадоў Італіі ў першай палавіне XVI ст. толькі Венецыя працягвала захоўваць незалежнасць. Дзякуючы гэтаму яна заняла ў той час першае месца па развіццю культуры. Тут хутка развівалася кнігадрукаванне, у горадзе было больш друкарняў і кніг, чым ва ўсіх іншых, разам узятых, гарадах Італіі. У канцы XV—пачатку XVI ст. тут асталяваліся шмат якія дзеячы Адраджэння — публіцыст П'етра Арэтына, мастакі Джарджоне, славуты Тыцыян. У склад Венецыянскай рэспублікі ўваходзіла і Падуя, якая славілася сваім універсітэтам. У Падуанскім універсітэце ў адрозненне ад многіх іншых еўрапейскіх вышэйшых навучальных устаноў панавала гуманістычная ідэалогія, у цэнтры ўвагі стаялі свецкія навукі, тут знаходзілі прыпынак разнастайныя віды вальнадумства, і Падую ўжо з XIV ст. празвалі прыстанкам паратунку для ўсіх, каго праследавалі за «ерась». Тут глыбока вывучаўся Арыстоцель, высокага развіцця дасягнулі прыродазнаўчыя навукі. Да 1525 г. ва універсітэце выкладаў вядомы гуманіст П'етра Пампанацый, які ў сваёй працы «Аб бессмяротнасці душы» выклаў матэрыялістычны пункт погляду, адхіляючы бессмяротнасць душы. Універсітэт выхаваў плеяду выдатных вучоных і дзеячоў культуры Адраджэння. Тут вучыліся Піка-дэла Мірандола, Франчэска Гвічардзіні, Ладавіка Арыёста, П'етра Бемба, Тарквата Таса, Мікалай Капернік.

Другой краінай, дзе доўгі час жыў і працаваў Ф. Скарына і дзе ён, па ўсёй верагоднасці, памёр, была Чэхія. З другой палавіны XIV ст. Чэхія таксама ўступіла ў паласу эканамічнага ўздыму. Цэнтрам эканамічнага жыцця краіны ўсё больш становіцца Прага. Тут расце рамесніцтва, пашыраецца ўнутраны і знешні гандаль. Асабліва ўзмоцнена развіваліся гандлёвыя сувязі Чэхіі з краінамі Усходняй Еўропы — Германіяй, Польшчай, Вялікім княствам Літоўскім. Пражскія «грошы» былі асноўнай грашовай адзінкай у Літоўскай дзяржаве.

Аднак паражэнне Вялікай сялянскай вайны пачатку XV ст. неўзабаве прывяло да ўзмацнення рэакцыйных сіл. Разграміўшы сялянства, узмацнілі сваю ўладу над ім буйныя феадалы, якія абагаціліся за кошт секулярызацыі царкоўных земляў. На каралеўскі трон саджаліся іх стаўленікі. Цэнтральная ўлада аслабела, адраджалася феадальнае безуладдзе. Феадалы ўзмацнілі запрыгоньванне сялян, у 1487 г. яны дабіліся рашэння сейма аб пазбаўленні сялян права пераходу. Гарадам было строга загадана вяртаць збеглых сялян. Прыгонныя сяляне падлягалі суду толькі сваіх уладальнікаў і не мелі права скардзіцца на іх. Феадальна-прыгонніцкі прыгнёт чэшскага сялянства з канца XV ст. стаў яшчэ больш цяжкім. Узмацненне феадальнай рэакцыі выклікала ў адказ уздым класавай барацьбы. Уцёкі сялян у канцы XV—пачатку XVI ст. прынялі масавы характар, адбыўся рад буйных сялянскіх хваляванняў, актывізавалася барацьба гарадскіх нізоў супраць купецтва і феадалаў. Досыць частымі былі выпадкі своеасаблівых стачак рабочых і чаляднікаў: у 1519 г. хваляваліся пражскія капялюшнікі, у 1523 г. — лазеншчыкі і цырульнікі. У 1521 г. у Прагу прыехаў Мюнцэр і заклікаў чэшскі народ да выступлення супраць феадалаў. Вялікая сялянская вайна ў Германіі знайшла гарачы водгук у Чэхіі. Ідэі лютэранства шырока распаўсюдзіліся сярод бюргераў і часткі дваранства [1].

Панаванне феадалаў нанесла ўдар па рамяству і гандлю, аслабіла чэшскую дзяржаву.

Паражэнне чэшска-венгерскага войска ў бітве з туркамі пры Магачы ў 1526 г. выкарысталі аўстрыйскія эрцгерцагі Габсбургі і захапілі Чэхію, якая з гэтага часу ўвайшла ў склад аўстрыйскіх земляў, паступова ўсё больш і больш губляючы сваю самастойнасць. Гэта адмоўна адбілася на эканамічным і культурным развіцці Чэхіі.

Палітыка нацыянальнага і палітычнага прыгнёту, якая праводзілася Габсбургамі, выклікала ўздым народнага руху. У 30-я гады XVI ст. адбыўся рад буйных сялянскіх хваляванняў, у 1547 г. разгарэлася буйное агульначэшскае паўстанне, цэнтрам якога стала Прага. Рознагалоссі ў лагеры паўстаўшых, куды ўваходзілі і многія феадалы, і бюргеры, і народныя масы, прывялі да паражэння паўстання. Аднак барацьба чэхаў за сваю незалежнасць працягвалася. Канец XIV і ўсё

[1] История Чехословакии, т. I. М., 1956, стар. 251—261.

XV ст. — гэта перыяд росквіту чэшскай культуры, што развівалася пад уздзеяннем двух фактараў — гусіцкай рэформы і гуманізму. Гуманізм у Чэхіі спачатку знайшоў сваіх прыхільнікаў толькі ў прыдворных колах, але ў канцы XV ст. гуманістычныя ідэі распаўсюдзіліся ўжо досыць шырока. Пачынаюць перакладацца на чэшскую мову творы класікаў сусветнай літаратуры, іх чытанне і каменціраванне ўключаюцца ў праграму Пражскага універсітэта, адкрытага ў 1348 г. Развіваецца таксама літаратура на чэшскай мове. Вядомымі гуманістамі Чэхіі канца XV—пачатку XVI ст. былі паэт-сатырык Багуслаў Лабковіц (1460—1510) і юрыст Віктарын Карнель (1460—1520), аўтар капітальнай працы па чэшскаму праву, пісьменнік і перакладчык Мікалай Конач і інш.

Шырокае распаўсюджанне сярод народа набывае пісьменнасць. Цяга да навукі выклікала тут узнікненне кнігадрукавання амаль у той жа час, калі яго вынайшаў Гутэнберг. Прага з канца XV ст. стала адным з буйнейшых цэнтраў еўрапейскага кнігадрукавання. У краіне вялікага росквіту дасягнула народная паэзія, якая адклікалася на ўсе падзеі. Кніга стала важнай зброяй у ідэалагічнай барацьбе чэхаў за сваю нацыянальную незалежнасць.

У Польшчы, з якой таксама звязана біяграфія Скарыны, на працягу XV ст., як і ў іншых краінах, наглядаецца эканамічны ўздым, узмацняецца рост гарадоў, расце гарадское рамяство. Усё гэта з'явілася асновай для ўзнікнення элементаў капіталістычнай вытворчасці. Узнікаюць асобныя мануфактуры, напрыклад у Кракаве. З развіццём гарадоў і росквітам рамяства звязана пашырэнне ўнутранага і знешняга гандлю. Значных памераў дасягнуў гандаль сельскагаспадарчымі прадуктамі.

У канцы XV—пачатку XVI ст. у Польшчы адбываліся глыбокія змены ў арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Пануючая да гэтага прадуктовая і грашовая рэнта замянялася адработачнай рэнтай — паншчынай. Аналагічныя працэсы адбываліся і ў іншых краінах Усходняй і часткова Цэнтральнай Еўропы. Узмацненне паншчыны было звязана з таварнай вытворчасцю, якая развівалася ў феадальнай гаспадарцы. Фальварачна-паншчынная сістэма не толькі пагоршыла становішча польскіх сялян, яна істотна закранула інтарэсы гарадоў. Шляхта актыўна дамагалася надзвычайных правоў у гандлі сельскагаспадарчымі прадуктамі і дабілася для сябе

права бяспошліннага вывазу іх па Вісле да Гданьска, нанёсшы гэтым самым удар па гарадскому гандлю.

Такім чынам, фальварачна-паншчынная сістэма вяла да разбурэння сялянскай гаспадаркі і збяднення сялян, да скарачэння гарадскога гандлю і рамяства, а ў выніку да эканамічнага заняпаду Польшчы.

Эканамічны заняпад злучаўся з аслабленнем цэнтральнай улады ў Польшчы. У другой палавіне XV — першай палавіне XVI ст. адбываўся працэс афармлення саслоўнай манархіі, аднак яна мела тут істотныя асаблівасці і не прывяла да палітычнай цэнтралізацыі краіны, не падрыхтавала пераходу да абсалютнай манархіі. Гэта тлумачыцца эканамічнай і палітычнай слабасцю польскіх гарадоў, а таксама ўмацаваннем уплыву ў палітычных справах сярэднепамеснай шляхты, якая дабілася адхілення ад удзелу ў саслоўным прадстаўніцтве гандлёва-рамесных пластоў горада.

У выніку ў Польшчы не склаўся неабходны для цэнтралізацыі саюз каралеўскай улады і буржуазіі. Каралеўская ўлада тут паступова апынулася ў поўнай залежнасці ад шляхецкага прадстаўніцтва. Слабасць вярхоўнай улады Польшчы абумовіла ўзмацненне ўнутраных міжусобіц у краіне, барацьбу паміж рознымі групамі феадалаў.

У першай чвэрці XVI ст. у Польшчу праніклі рэфарматарскія ідэі. У гэты перыяд яны захапілі толькі прыдворныя колы і некаторых буйных феадалаў, якія зацікавіліся ідэяй абмежавання маёмасных прэтэнзій царквы. У 20-я гады XVI ст. у асяроддзі нямецкай часткі насельніцтва паўночнапольскіх гарадоў стала распаўсюджвацца лютэранства, але нават у гарадах яно не набыло шырокага рэзанансу. Вялікія падзеі адбыліся ў Гданьску, дзе рух лютэран выліўся ў паўстанне, падаўленае неўзабаве каралеўскімі ўладамі [1].

XV ст. у гісторыі польскай культуры азнаменавалася значнымі поспехамі, выкліканымі папярэднім эканамічным уздымам і развіццём элементаў капіталістычнай вытворчасці. У гэты перыяд у Польшчы развіваецца гуманізм, які ўпершыню пранік у каралеўскі двор і двор брата караля — кракаўскага епіскапа Фрэдэрыка. У хуткім часе гуманістычныя ідэі распаўсюдзіліся сярод рада свецкіх і духоўных магнатаў і

---

[1] Н. Любович. История Реформации в Польше (Кальвинисты и антитринитарии). Варшава, 1883, стар. 179—185.

гарадскіх вярхоў. Аднымі з першых польскіх гуманістаў былі Грыгорый з Санока, Пётр з Бліна і выдатны публіцыст Ян Астрарог (1436—1501), аўтар працы «Мемарыял аб ладзе Рэчы Паспалітай», у якой быў выкладзен першы праект рэформы палітычнага ладу ў Польшчы ў кірунку ўзмацнення вярхоўнай улады і абмежавання прывілеяў царквы. Выдатным гуманістам XV ст. быў гісторык Ян Длугаш (1415—1480), які напісаў капітальную дванаццацітомную «Гісторыю Польшчы», заснаваную на дэталёвым вывучэнні розных крыніц, у тым ліку рускіх летапісаў [1].

У XV ст. цэнтрам асветы і нацыянальнай польскай навукі становіцца Кракаўскі універсітэт, заснаваны ў 1364 г. Ён набыў шырокую вядомасць і за межамі Польшчы. Там вучылася многа чэхаў, немцаў, літоўцаў, венграў. У апошнія дзесяцігоддзі XV ст. гуманізм моцна ўсталяваўся ва універсітэце. У вучэбныя праграмы ўключаюцца грэчаская мова, рыторыка, вялікая ўвага ўдзяляецца прыродазнаўчым і матэматычным навукам.

У другой палавіне XV ст. у Польшчы ўзнікае кнігадрукаванне. Першая друкарня была заснавана ў Кракаве ў 1475 г. Развіццё кнігадрукавання садзейнічала шырокаму распаўсюджанню свецкай літаратуры. Развіваецца паэзія як на лацінскай, так і на народнай польскай мове. Узнікае вялікая навуковая літаратура. Першая палавіна XVI ст. была росквітам польскай навукі. Да гэтага часу адносіцца навуковая дзейнасць выдатнага астранома і мысліцеля Мікалая Каперніка (1473—1543) — аднаго з буйнейшых прадстаўнікоў прыродазнаўчанавуковага матэрыялізму эпохі Адраджэння.

* * *

У канцы XV — першай палавіне XVI ст. беларускія землі ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, якое ў той час займала вялікую тэрыторыю ва Усходняй Еўропе—ад Балтыйскага мора і Мазовіі на захадзе да Ржэва, Мажайска, Калугі, Тулы, Яльца і ракі Аскол на ўсходзе, ад вярхоўя Волгі на поўначы да прычарнаморскіх стэпаў на поўдні. Вялікае княства Літоўскае было феадальнай дзяржавай, якая ўключала ўласна літоўскія землі, усе беларускія землі, значную частку ўкраінскіх і рускіх земляў.

[1] История Польши, т. I. М., 1954, стар. 132—138.

Літоўскія князі імкнуліся да захопу рускіх земляў. Аднак узмацненне Вялікага княства Маскоўскага і аб'яднанне вакол яго рускіх земляў прывялі да стварэння моцнай Рускай цэнтралізаванай дзяржавы. З 90-х гадоў XV ст. на працягу першай палавіны XVI ст. у выніку руска-літоўскіх войнаў (1492—1494, 1500—1503, 1507—1508, 1512—1522, 1534—1537) да Рускай дзяржавы адышлі ўсходнія тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага: у 1494 г. — Вязьма, Масальск, Белеў, Навасіль; у 1503 г.— Таропец, Дарагабуж, Бранск, Курск, Ноўгарад-Северскі, Чарнігаў, Гомель (да 1537 г.), вярхоўе Северскага Данца; у 1514 г.— Смаленск. У 1537 г. да Рускай дзяржавы быў далучан Себеж. Па меры скарачэння тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага ўдзельная вага беларускіх земляў, іх значэнне ва ўнутранай і знешняй палітыцы дзяржавы, іх роля ў яе культурным жыцці павялічваліся.

К пачатку XVI ст. у выніку цэнтралізатарскай палітыкі літоўскіх князёў вярхоўная ўлада ў дзяржаве значна ўмацавалася. Большая частка ўдзельных уладанняў была ліквідавана. Вынікам цэнтралізатарскай палітыкі вялікакняжацкай улады з'явілася адміністрацыйная рэформа пачатку XVI ст., калі на тэрыторыі Беларусі былі створаны Віцебскае, Полацкае і Навагрудскае ваяводствы. Гэта рэформа была накіравана на абмежаванне палітычнай улады мясцовай феадальнай знаці Беларусі. Аднак асобныя землі Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку і беларускія, карысталіся пэўнай аўтаноміяй: гэтым землям даваліся абласныя прывілеі, там існавалі абласныя сеймы, на якія збіраліся феадалы. Так, у канцы XV — першай палавіне XVI ст. абласныя сеймы збіраліся ў Віцебскай і Полацкай землях [1], а ў 1551 г. нават адбыўся аб'яднаны сейм гэтых земляў [2].

Вядомы абласныя прывілеі, якія вялікі князь даў Віцебскай зямлі на розныя правы і «вольнасці» ў 1503 і 1561 гг., Полацкай зямлі — у 1511 і 1547 гг. Па прывілею Віцебскай зямлі ваявода ў Віцебск прызначаўся вялікім князем са згоды мясцовых феадалаў.

У эпоху Скарыны ў Беларусі яшчэ захоўваліся ўдзельныя княствы, у якіх княжылі сваякі літоўскай вялікакняжацкай

---

[1] М. К. Любавский. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1915, стар. 88—90.

[2] Там жа, стар. 90.

дынастыі Гедымінавічаў, нашчадкі Гедыміна і Альгерда, або Рурыкавічы. Так, да 1529 г. існавала Мсціслаўскае княства, да 1521 г.—Пінскае, Клецкае і Давыд-Гарадоцкае, да пачатку XVI ст. — Кобрынскае. Доўга існавала ўдзельнае Слуцкае княства, у якім правілі нашчадкі Альгерда князі Алелькавічы. Нават пасля канчатковай ліквідацыі ўдзельнай сістэмы ў першай чвэрці XVI ст. яно, увайшоўшы ў склад Навагрудскага павета, захавала ў структуры сваёй адміністрацыйнай, судовай і ваеннай арганізацыі некаторыя рысы былога ўдзельнага ўладання аж да 1791 г. Усе гэтыя княствы, якія раней жылі сваім асобным жыццём і з цэнтральнай уладай дзяржавы былі звязаны досыць слаба, галоўным чынам праз сваіх уладальнікаў, у працэсе цэнтралізацыі дзяржаўнай улады ў Вялікім княстве Літоўскім ператварыліся ў буйныя феадальныя вотчыны. Сацыяльны лад Беларусі ў эпоху Скарыны не адрозніваўся ад сацыяльнага ладу суседніх з ёю краін. Пануючым класам тут былі феадалы.

З агульнай масы феадалаў выдзяляліся магнаты — радавітыя і буйныя землеўладальнікі, арыстакратычныя вярхі феадальнага класа. Магнаты, нашчадкі ўдзельных князёў і прадстаўнікі некалькіх знатных літоўскіх фамілій, з'яўляліся ўласнікамі земляў, валодаючы імі «з поўным правам і панствам». Адпраўляючыся на вайну, магнаты выступалі военачальнікамі, камандавалі сваімі войскамі. Княжацкія і памешчыцкія маёнткі былі вызвалены ад розных натуральных павіннасцей, акрамя замкавай, дарожнай, маставой і часам падводнай. Да ліку буйных феадалаў Беларусі ў першай палавіне XVI ст. адносіліся магнаты літоўскага паходжання, якія ў большасці сваёй засвоілі беларускую культуру,— слуцкія князі Алелькавічы, Гальшанскія, Гаштольды, Забрэзінскія, Радзівілы, Пацы, Сангушкі, Чартарыйскія; магнаты беларускага паходжання — Глебавічы, Валовічы, Ільінічы, Тышкевічы, Сапегі; польскага паходжання — Кішкі; украінскага — Хадкевічы, Гарнастаі, а таксама нашчадкі Рурыкавічаў — Астроўскія, Друцкія, Лукомскія, Масальскія, Саламярэцкія [1].

У асноўнай масе сярэднія і дробныя феадалы Беларусі былі мясцовага, беларускага паходжання. Гэта былі ўладальнікі невялікіх маёнткаў, часам з адной-дзвюма вёскамі, часткай

---

[1] Adam Boniecki. Poczet rodów w Wielkiem księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887, стар. 20, 392.

вёскі ці нават без вёскі. Значная частка дробных феадалаў, нізы класа наогул не мелі сялян. Часта яны жылі ў адной вёсцы і мала чым адрозніваліся па свайму быту ад сялян, толькі не выконвалі феадальных павіннасцей.

Асноўная маса феадалаў Вялікага княства Літоўскага ў XV—першай чвэрці XVI ст. называлася баярамі. З пачатку XVI ст. іх усё часцей і часцей сталі называць шляхтай, зямянамі, баярамі-шляхтай, панамі-зямянамі. Тэрміны «баяры панцырныя» і «баяры путныя» сталі абазначаць у XVI ст. і прадстаўнікоў ваенна-служылых сялян (раней іх называлі слугамі путнымі). Паміж дробнымі феадаламі і ваенна-служылымі сялянамі не заўсёды можна правесці выразную грань. Гэта тэрміналагічная няяснасць адлюстроўвала тую пераходную ступень, якую ў эканамічных і прававых адносінах займалі ваенна-служылыя людзі паміж феадаламі і сялянамі. У XVI ст. на тэрыторыі Беларусі адбываўся працэс больш выразнага вызначэння класа феадалаў, канстытуіравання яго ў шляхецкае саслоўе. Асноўная маса баяр, а таксама некаторая частка ваенна-служылых сялян — баяр панцырных і слуг путных — аформілася ў шляхецкае саслоўе.

Феадальная іерархічная лесвіца ў Беларусі не адрознівалася ад структуры феадальнага класа іншых еўрапейскіх краін. Ваенна-служылыя людзі былі блізкія па становішчу да заходнееўрапейскіх васалаў. Падабенства іх да дробных феадалаў Францыі і Германіі заключаецца як у месцы, якое яны займалі ў феадальнай іерархіі (у Германіі ў XIII—XIV стст. дробныя васалы, па «Саксонскаму зерцалу», адносіліся да VI і VII, апошняга класа, ваенных шчытоў; у Францыі ў XIII ст. у іх былі простыя ваенныя лены), так і ў фарміраванні гэтай групы феадалаў часткова за лік выхадцаў з сялян (у Германіі міністэрыялы паходзілі ў асноўнай масе з серваў). Як і ў Беларусі, у заходнееўрапейскіх краінах у працэсе фарміравання дваранскага саслоўя частка дробных васалаў не ўвайшла ў склад рыцарскага саслоўя: свабодныя служылыя людзі ў Францыі («валеты») і ў Германіі. Становішча ваенна-служылых людзей Беларусі ў пэўнай меры нагадвае становішча служылых людзей «па прыбору» і аднадворцаў у Рускай дзяржаве.

З 1434 г. з мэтай палітычнай кансалідацыі вакол вялікакняжацкай улады феадалы Беларусі і Украіны («князі і баяры рускія») былі ўраўнаваны ў правах з літоўскай знаццю.

Тым не менш рэальная палітычная ўлада доўгі час знаходзілася ў руках літоўскай знаці. У 1529 г. быў выдадзен Літоўскі статут, кодэкс феадальнага права, які замацоўваў пануючае становішча феадалаў у краіне, іх правы на зямлю і ўзмацняў запрыгоньванне сялян.

Асноўным эксплуатуемым класам беларускага феадальнага грамадства было сялянства, якое складала абсалютную большасць насельніцтва. У канцы XV — першай палавіне XVI ст. беларускае сялянства падраздзялялася на чатыры асноўныя групы з розным прававым становішчам.

Першую групу феадальна-залежнага сялянства складала «чэлядзь нявольная» («парабкі», «жонкі», «нявольнікі», «халопы», «рабы») [1]. Гэта была самая малалікая група сялянства, што знаходзілася ў поўнай уласнасці феадалаў, якія перадавалі «чэлядзь» у спадчыну, мелі права распараджацца «чэляддзю», як рэчамі, купляць, прадаваць, дарыць, забіваць. Нявольніцкае становішча было спадчынным. Згодна з Літоўскім статутам 1529 г., у нявольніцкае становішча траплялі народжаныя ад «нявольнікаў», палонныя чужаземцы, тыя, што бралі шлюб з нявольніцай ці нявольнікам, злачынцы, прыгавораныя да пакарання смерцю і аддадзеныя пацярпеўшаму (па яго жаданню). «Чэлядзь нявольная» працавала ў панскіх дварах феадалаў.

Другой вялікай па колькасці групай феадальнага сялянства (гэта група пастаянна павялічвалася) былі «людзі непахожыя», «отчычы», «отчызныя людзі» — прыгонныя сяляне, якія з пакалення ў пакаленне жылі на адным месцы і продкі якіх «засядзелі», гэта значыць пратэрмінавалі «даўнасць земскую» на зямлі феадала і страцілі права пераходу да іншага феадала. Феадал мог купіць і прадаць «отчыча» з зямлёй і без зямлі. З ператварэннем паншчыны ў асноўную павіннасць прыгоннага сялянства «отчычы» сталі называцца «людзьмі цяглымі», «людзьмі прыгоннымі» [2]. Група «непахожых людзей» бесперапынна папаўнялася за лік іншых груп сялянства, галоўным чынам за лік таго, што вялікі князь даваў феадалам землі, населеныя сялянамі.

---

[1] В. И. Пичета. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961, стар. 288—290.
[2] Там жа, стар. 385.

Трэцюю, таксама вельмі вялікую групу сялянства Беларусі складалі ў першай палавіне XVI ст. «людзі пахожыя», або «людзі вольныя», свабодныя. Гэтыя сяляне яшчэ мелі асабістую свабоду, маглі пераходзіць ад аднаго пана да другога. Колькасць «пахожых» сялян увесь час скарачалася. Гэты працэс адбываўся з-за страты права пераходу тымі «пахожымі», якія працяглы час заставаліся ў маёнтку феадала. У Літоўскім статуце 1529 г. тэрмін даўнасці, згодна з якім «пахожы» селянін траціў права пераходу і станавіўся «непахожым», не быў указан, хоць там устанаўліваўся дзесяцігадовы тэрмін «земскай даўнасці». Феадалы Беларусі выкарыстоўвалі гэтыя артыкулы Літоўскага статута, каб замацаваць «пахожых» сялян, якія пражылі больш дзесяці год у іх уладаннях [1], і такім чынам зрабіць іх «непахожымі», прыгоннымі.

Прывілеяванай групай сялянства Беларусі былі сяляне-слугі. У цэлым гэта катэгорыя сельскага насельніцтва была больш заможнай, найбольш забяспечанай зямлёй і ў той жа час найбольш неаднастайнай па свайму складу.

Вышэйшую групу сялян-слуг складалі ваенна-служылыя людзі — слугі путныя, баяры панцырныя, баяры путныя, слугі панцырныя. Ніжэйшымі групамі сялян-слуг былі слугі-рамеснікі — млынары, цесляры, бондары, кавалі і інш. і сельскагаспадарчыя слугі — асочнікі, стралкі, рыбаловы, конюхі, баброўнікі. Сярод сялян-слуг сустракаліся выхадцы з «чэлядзі нявольнай».

Канец XV — першая палавіна XVI ст. у Беларусі былі часам далейшага развіцця земляробства. У заходняй і цэнтральнай частках Беларусі ўжо адбыўся пераход да трохпольнай сістэмы, хоць тут яшчэ практыкавалася і двухпольная сістэма земляробства [2]. На поўдні і ўсходзе Беларусі захаваліся лядная і аблогавая сістэмы земляробства. Шырока былі распаўсюджаны ў Беларусі паляванне, рыбалоўства, бортніцтва. Каб павялічыць свае грашовыя даходы, феадалы Беларусі сталі вывозіць прадукты сельскай гаспадаркі за граніцу. У сувязі з гэтым паступова рос панскі засеў. К канцу

---

[1] В. И. Пичета. Белоруссия и Литва XV—XVI вв., стар. 411.

[2] Е. П. Шлоссберг. Состояние сельского хозяйства и распространение денежной ренты перед аграрной реформой в Белоруссии. «Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы 1962 г.». Минск, 1964, стар. 116—117.

XV ст. паншчына займала першае месца сярод іншых сялянскіх павіннасцей.

У гэты перыяд у Беларусі існаваў рад буйных гарадскіх цэнтраў, у якіх канцэнтраваліся рамесная вытворчасць і гандаль. Сельская мясцовасць была звязана з гарадскімі рынкамі. Паступова вёска і горад усё цясней звязваліся паміж сабой. У гарадах і мястэчках у вялікакняжацкіх і прыватнаўладальніцкіх маёнтках праводзіліся таргі і ярмаркі.

Росту гарадоў у значнай меры перашкаджалі ваенныя дзеянні, барацьба паміж рознымі феадальнымі групоўкамі, грабежніцкія напады крымскіх татар (асабліва моцныя ў першай чвэрці XVI ст.), спусташальныя пажары, эпідэміі. У Мінску, напрыклад, адным з найбольш вялікіх быў пажар у 1547 г., калі, як пісаў вялікі князь, «замок менский и место менское зо всим маетностями их, подданных наших, погорело». І далей гаварылася: «Был великий впад»[1]. Усе гараджане абавязаны былі плаціць падаткі, выконваць розныя павіннасці ў карысць дзяржавы, а жыхары прыватнаўладальніцкіх гарадоў, акрамя таго, плацілі яшчэ падаткі свайму ўладальніку-магнату і выконвалі для яго розныя павіннасці.

Але, нягледзячы на рад неспрыяльных умоў, гарады Беларусі ў XV — першай палавіне XVI ст. развіваліся, ажыўляліся іх сувязі з гарадамі Украіны, Літвы, з рускімі гарадамі. Гарады Беларусі былі таксама значнымі цэнтрамі транзітнага гандлю. Вялікакняжацкі прывілей 1444 г. з усіх гарадоў Вялікага княства Літоўскага выдзяляў 15 «лепшых», з ліку якіх сем прыпадала на тэрыторыю Беларусі — Полацк, Віцебск, Слуцк, Мінск, Навагрудак, Брэст і Гродна. Самым буйным горадам Беларусі ў той час быў Полацк, радзіма Ф. Скарыны.

К пачатку XVI ст. у Беларусі было каля 30 гарадоў і больш 100 мястэчак. Асноўнае насельніцтва гарадоў называлася мяшчанамі. Рост эканамічнага значэння беларускіх гарадоў прывёў да таго, што мяшчане некаторых з іх (Брэста, Гродна, Слуцка, Полацка, Мінска, Навагрудка) атрымалі самакіраванне на аснове Магдэбургскага гарадскога права. Самакіраванне гараджан выражалася не толькі ў праве самім вырашаць пытанні ўнутрыгарадскога жыцця, але і ў замацаванні ў вялікакняжацкіх прывілеях сваіх саслоўных правоў, у са-

---

[1] Беларускі архіў, т. III. Мінск, 1930, стар. 14, 16.

слоўнай адасобленасці, што давала магчымасць абмежаваць самавольства феадалаў і вялікакняжацкіх намеснікаў. У барацьбе за самакіраванне ўсе гараджане выступалі разам. Але ў той жа час у гарадах існавалі супярэчнасці паміж гарадскімі вярхамі і сярэднім пластам гараджан — асноўнай масай рамеснікаў і гандляроў, з аднаго боку, і гарадскімі нізамі — чаляднікамі, вучнямі рамеснікаў, слугамі і інш. — з другога.

У канцы XV ст. у Беларусі ўзнікаюць рамесныя цэхі. Першапачаткова такія карпарацыі называліся не цэхамі, а брацтвамі, старостамі. Цэхі ў Беларусі будаваліся на звычайнай трохчленнай аснове: майстар, чаляднік, вучань. Паўнапраўным членам цэха быў толькі майстар. Цэхавая арганізацыя аблягчала рамеснікам барацьбу супраць феадалаў, але вяла да кансервацыі рамеснай вытворчасці (усякія абмежавальныя меры і ўмовы), замаруджвання росту тэхнічнага ўзроўню і маштабаў вытворчасці і была накіравана на эксплуатацыю майстрамі чаляднікаў і вучняў.

Гарадское насельніцтва ў асноўнай сваёй масе складалася з беларусаў. З канца XIV ст. пастаяннымі, хоць і невялікімі, групамі гарадскога насельніцтва становяцца яўрэі (у асноўным у заходнебеларускіх гарадах) і татары (галоўным чынам у гарадах цэнтральнай часткі Беларусі).

Канец XV — першая палавіна XVI ст.— гэта час далейшага развіцця беларускай культуры эпохі феадалізму. К гэтаму часу ўжо сфарміравалася беларуская народнасць.

У другой палавіне XIV ст. заходнеруская (беларуская) мова ўжо прыкметна адрознівалася ад мовы старарускай народнасці. З гэтага часу яна стала дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага. Літоўская мова ніколі не была дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага. У дыпламатычных зносінах з краінамі Заходняй Еўропы звычайна ўжывалася ў якасці афіцыяльнай лацінская мова, зрэдку — нямецкая. У зносінах з краінамі Усходняй Еўропы, зрэдку і з Польшчай — беларуская. Канцылярыя вялікага князя карысталася беларускай мовай; гэта была мова актаў. На ёй пісаліся літоўскія статуты, сеймавыя прашэнні вялікаму князю і яго адказы сейму. Шматлікі актавы матэрыял канцылярыі Вялікага княства Літоўскага захаваўся ў выглядзе Літоўскай метрыкі. Праўда, некаторыя прывілеі землям пісаліся на лацінскай мове, спачатку для ўласна літоўскіх земляў, а затым і для ўсяго Вялікага княства Літоўскага, аж да 1551 г.

Па-латыні пісаліся прывілеі для Жмудзі і Падляосся, выдаваліся акты аб правах і прывілеях каталіцкай царквы на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, а таксама прывілеі гарадам уласна літоўскіх земляў. У XVI ст. ва ўжытак вышэйшых колаў феадальнага грамадства Вялікага княства Літоўскага стала ўваходзіць польская мова. Так, у прыватных пісьмах магнаты сталі ўжываць яе з пачатку XVI ст. Беларуская мова ўрадавых устаноў, судоў і г. д. некалькі адрознівалася ад народнай беларускай мовы прымессю канцылярызмаў, паланізмаў і мовы царкоўнай службы [1].

З ростам рамяства, гандлю, з развіццём гандлёвых сувязей узрастала імкненне да адукацыі. Адукацыя ў Беларусі ў канцы XV — першай палавіне XVI ст. была сканцэнтравана ў невялікіх школах пры цэрквах і манастырах, а таксама пры дварах буйных феадалаў. Розныя дакументы XV—XVI стст., складзеныя на беларускай мове, сведчаць аб распаўсюджанні пісьменнасці сярод пэўных колаў насельніцтва. Пісьменнымі павінны былі быць прадстаўнікі духавенства, чыноўнікі вялікакняжацкай адміністрацыі і гарадскога магістрата, буйныя феадалы, багатыя купцы, цэхавая старшына. У школах непадзельна панаваў царкоўны светапогляд.

Школа садзейнічала развіццю зацікаўленасці да больш высокіх ступенек адукацыі. Дзеці некаторых феадалаў, багатых купцоў, скончыўшы школу, накіроўваліся за мяжу, у Прагу, Кракаў і іншыя універсітэцкія гарады, каб працягваць вучобу ва універсітэтах. Ф. Скарына, напрыклад, у 1504—1506 гг. вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, пасля здаваў экзамен на ступень доктара медыцыны ў Падуанскім універсітэце. Вядомы і іншыя імёны жыхароў Беларусі, што займаліся ў XVI ст. у заходнееўрапейскіх універсітэтах. Так, у Кенігсбергскім універсітэце вучыліся студэнты са Слуцка Іван Родзіч, Канстанцін Запольскі, Якаў Слуцкі. У пачатку 80-х гадоў XVI ст. у Інгальштадскім універсітэце (Баварыя) займаліся князь Аляксандр Алелькавіч і 15 суправаджаўшых яго маладых людзей [2]. Усе яны былі выхадцамі з феадалаў.

---

[1] Stanisław Kutrzeka. Historja ustroju Polski w zarysie, t. II. Litwa. Lwow i Warszawa, 1921, стар. 51—52.

[2] Die Matrikel der Universität Königsberg i. Pr., I Band, I Heft. Leipzig, 1908, стар. 15, 53, 67; P. Czaplewski. Polacy na studyach w Ingolsztacie. Z rękopisów uniwersytetu Monachijejskiego. Poznań, 1914, стар. 25—26.

З ростам колькасці пісьменных узрастаў попыт на кнігі на роднай мове, што ў сваю чаргу ўплывала на развіццё кнігадрукавання.

Першыя друкаваныя кнігі на царкоўнаславянскай мове выйшлі ў канцы XV ст. у Кракаве і прызначаліся яны для ўсіх усходніх славян. Аднак пачатак гісторыі беларускага кнігадрукавання звязваецца з дзейнасцю беларускага першадрукара Ф. Скарыны.

Далейшае развіццё атрымала беларускае летапісанне. Беларускія летапісы XV ст. (так званыя «кароткія») — Супрасльскі, Увараўскі (або Слуцкі), Пазнанскі, Акадэмічны спісы, «Хроніка аб вялікіх князях літоўскіх», «Летапіс Аўраамкі» — складаліся з агульнарускага летапіснага зводу ў мясцовай апрацоўцы. У іх давалася апісанне палітычнай гісторыі Літвы і Беларусі з пазіцый класа феадалаў. Так, у Слуцкім летапісу, складзеным пры двары слуцкіх князёў Алелькавічаў, многа ўвагі ўдзелена палітыцы гэтых магнатаў, іх сувязям з літоўскай вялікакняжацкай дынастыяй і з маскоўскімі вялікімі князямі. Асновай «Летапісу Аўраамкі» (1495), складзенага ў Смаленску, паслужыў Пскоўскі звод з апісаннем падзей у паўночна-ўсходніх рускіх землях. Да гэтых летапісаў прымыкае летапіс сярэдзіны XVI ст. «Хроніка Быхаўца», у якой ёсць багата цікавых вестак па гісторыі беларускага, украінскага і рускага народаў. Напісана «Хроніка Быхаўца» на беларускай мове, блізкай да размоўнай. Аўтар яе, па сцвярджэнню М. Улашчыка, быў ураджэнцам Беларусі (з раёна Навагрудка—Слуцка) [1].

Важную ролю ў развіцці беларускай культуры адыгралі брацтвы — рэлігійна-нацыянальныя арганізацыі праваслаўнага мяшчанства, якія звычайна ствараліся вакол прыхадскіх цэркваў і манастыроў на аснове існаваўшых у гарадах рамесных арганізацый. У 1458 г. было створана Віленскае брацтва, у XVI — пачатку XVII ст. брацтвы ўзнікаюць у Мсціславе, Брэсце, Слуцку, Мінску, Оршы, Магілёве, Гродна і іншых гарадах. Першапачаткова брацтвы ставілі перад сабой рэлігійныя і дабрачынныя мэты — утрыманне «шпіталяў», дапамога хворым, бедным, сіротам. Потым яны ўсё больш і больш пачынаюць займацца пытаннямі выхавання і адукацыі. Пры брацтвах адкрываюцца школы. У іх, як і ў іншых тагачасных

[1] Хроника Быховца. М., 1966, стар. 24.

школах, пануе і поўнасцю вызначае кірунак і змест выкладання царкоўны светапогляд. Разам з тым вучэбная праграма ў гэтых школах ужо ўключала больш шырокае кола прадметаў. Так, у праграму школы, адкрытай брацтвам у 1597 г. у Магілёве для навучання дзяцей членаў брацтва і «ўбогіх сірот», уваходзіла выкладанне «мовы і пісьма славянскага, рускага (беларускага.— *В. Ч., А. Г.*), грэчаскага, лацінскага, і польскага» [1]. У шмат якіх школах выкладалася арыфметыка. Выкладчыкамі ў школах былі святчэннікі, манахі. Асноўнымі вучэбнымі дапаможнікамі былі свяшчэнныя кнігі. У наступны перыяд (канец XVI—першая палавіна XVII ст.) у брацкіх школах з'явіліся спецыяльныя вучэбныя кнігі — граматыкі царкоўнаславянскай, лацінскай, грэчаскай, польскай моў. У брацкіх школах вывучалася сем «свабодных мастацтваў» — цыкл «трохпуцце» (граматыка, рыторыка, дыялектыка) і цыкл «чатырохпуцце» (арыфметыка, геаметрыя, астраномія і музыка) [2].

У сувязі з наступленнем каталіцызму асаблівае значэнне ў грамадскім жыцці Беларусі набылі рукапісныя палемічныя творы, накіраваныя на абарону праваслаўнай рэлігіі. Палемічная літаратура пачала распаўсюджвацца ў першай палавіне XVI ст. Так, у 30—40-я гады гэтага стагоддзя было вядома напісанае ў 1534 г. пасланне прота [3] Афонскай гары Гаўрыіла да ўгорскага караля Янаша, якое пасля было выкарыстана аўтарам казання «На богамерзкую, на паганую лаціну» (каля 1582 г.). У барацьбе супраць каталіцызму беларускія палемісты нярэдка выкарыстоўвалі пераклады грэчаскай аднатыпнай літаратуры, а таксама творы рускага публіцыста Максіма Грэка. У XIV ст. у Супрасльскім манастыры быў складзен спецыяльны зборнік палемічных твораў, які ўключаў 26 артыкулаў. Адзін з іх быў напісан яшчэ ў 1511 г. у адказ на сачыненне нейкага каталіцкага епіскапа. Палеміст, які напісаў гэты артыкул, абвінавачвае каталіцкую царкву ў «адшчапенстве» ад усяленскіх патрыярхаў, адхіляе каталіцкія догматы аб гегемоніі рымскага папы і аб апостале Пятру як

---

[1] Цыт. па кн.: История Белорусской ССР, т. 1. Минск, 1961, стар. 142.

[2] М. Б. Ботвинник. У истоков учебной книги. Минск, 1964, стар. 14—15.

[3] *Прот* — глава савета (прататона) прадстаўнікоў афонскіх праваслаўных манастыроў, які ажыццяўляе кіраўніцтва аўтаномнай акругай Афонскай гары (з XV ст. да нашага часу). Адначасова ён — ігумен галоўнага, Карэйскага манастыра. Янаш Запальяі — венгерскі кароль (1526—1540).

намесніку Ісуса Хрыста. Пры гэтым ён часта спасылаецца на пісанні Іаана Дамаскіна, Васілія Вялікага, Грыгорыя Багаслова, Іаана Златавуста і іншых аўтарытэтаў хрысціянскай царквы [1]. Палемічная літаратура атрымала шырокае распаўсюджанне ў Беларусі з другой палавіны XVI ст. і дасягнула свайго апагея ў першай чвэрці XVII ст.

Адным з найбольш ранніх праяўленняў грамадска-палітычнай думкі ў Беларусі была вусная народная творчасць — шматлікія і разнастайныя песні, легенды, казкі, загадкі, прыказкі, прымаўкі.

У гэты час досыць шырока бытавалі творы старарускага эпасу. Адначасова ўзнікалі новыя вуснапаэтычныя творы, у якіх адлюстроўвалася гераічная барацьба беларускай народнасці з іншаземнымі захопнікамі — немцамі (крыжакамі), татарамі, літоўскімі феадаламі. Узнікалі народныя паданні аб «крыжацкіх магілах». Нягледзячы на суровыя ганенні і забароны з боку царквы, якая на працягу некалькіх стагоддзяў спрабавала выкараніць рэшткі язычаства, асабліва шырока была распаўсюджана абрадавая паэзія, што суправаджала гадавы круг земляробчых абрадаў і сямейна-бытавыя святы. Ва ўсіх гэтых абрадах і звычаях, асабліва ў калядных пераапрананнях, веснавых карагодах, хаджэнні валачобнікаў на вялікдзень, у купальскіх гульнях, а таксама ў выступленнях скамарохаў праяўлялася народнае тэатральнае мастацтва [2].

Беларускае мастацтва гэтай эпохі прадстаўлена помнікамі архітэктуры, жывапісу і скульптуры. Да нашага часу дайшло вельмі мала помнікаў беларускага дойлідства XV—XVI стст., створаных рукамі працалюбівых і таленавітых майстроў.

Большасць буйных гарадоў таго часу — Полацк, Віцебск, Брэст, Слуцк, Гродна, Навагрудак і інш. былі ўмацаваны сценамі, вежамі, землянымі валамі і равамі. Сцены гарадскіх умацаванняў часцей за ўсё ўзводзіліся з дрэва. Вежы і крапасныя сцены мелі байніцы, прызначаныя для стральбы, скідвання каменняў і гарачай смалы на праціўніка, які асаджаў горад.

Усе ўмацаванні ўзводзіліся жыхарамі гарадоў. У гэта будаўніцтва народныя майстры ўкладвалі багаты шматвяковы

---

[1] М. А. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мінск, 1958, стар. 34—35.

[2] История Белорусской ССР, т. 1, стар. 139—140.

вопыт. Умацаванні мелі не толькі абарончае значэнне, але і архітэктурна афармлялі гарады. У цэнтры гарадоў будаваліся ўмацаваныя рэзідэнцыі феадалаў — замкі. Умацаванні замкаў складаліся, акрамя земляных валаў і равоў, яшчэ са сцен і вежаў, што акружалі ўнутраны двор. Так, замак у Міры, пабудаваны ў 1508—1510 гг., акрамя чатырох крапасных сцен, меў пяць вежаў з байніцамі і высокі земляны вал. У двары змяшчаўся трохпавярховы палац, упрыгожаны жывапісам, скульптурай і знешнімі ляпнымі дэталямі.

Да нашага часу дайшло мала імён беларускіх народных майстроў разьбы па дрэву і драўлянай скульптуры. Вядомы імёны пінскага разьбяра па дрэву XV ст. Апацця і аршанскага майстра XVI ст. Андрэя.

У XV—XVI стст. далейшых поспехаў дасягнула беларуская графіка ў сувязі з шырокім распаўсюджаннем перапіскі кніг. Некаторыя рукапісныя кнігі таго часу ілюстраваліся мініяцюрнымі малюнкамі на гістарычныя і рэлігійныя тэмы. Далейшае развіццё беларускай графікі звязана ўжо з друкарскай дзейнасцю Ф. Скарыны.

Вялікае значэнне для развіцця грамадска-палітычнай думкі ў Беларусі мелі яе сувязі з суседнімі краінамі.

У першай палавіне XV ст. у Беларусі атрымалі распаўсюджанне ідэі гусізму. Гэтаму садзейнічалі эканамічныя, палітычныя і культурныя сувязі паміж Чэхіяй і Вялікім княствам Літоўскім. У Пражскім універсітэце навучаліся выхадцы з Літвы і Беларусі. У 1397 г. пры універсітэце была заснавана асобная калегія для студэнтаў з Вялікага княства Літоўскага.

Рэфармацыйны рэлігійны рух пачаў пранікаць у Беларусь з Чэхіі. Іеранім Пражскі, паплечнік Яна Гуса, у 1413 г. быў у Літве і Беларусі, наведаў Вільню і Віцебск. У Віцебску ён правёў два месяцы. Канстанцкі сабор абвінавачваў Іераніма Пражскага ў тым, што ён, знаходзячыся ў Літве, імкнуўся ўцягнуць «рускі» народ у гусізм [1].

Пасля разгрому гусітаў у Чэхіі вызваленчыя ідэі гусізму працягвалі аказваць свой уплыў у Беларусі. У першай палавіне XVI ст. у Беларусі існавалі групы чэшскіх братоў. Водгукі гусіцкіх ідэй пазней далі аб сабе знаць у поглядах выдатных

---

[1] В. И. Пичета. Белоруссия и Литва XV—XVI вв., стар. 678.

прадстаўнікоў беларускай культуры XVI ст. Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага.

Самай яркай фігурай гуманізму ў Беларусі і Літве стаў Францыск (Георгій) Скарына, дзейнасць якога была падрыхтавана ўсім ходам гістарычнага развіцця Беларусі і беларускай культуры.





Францыск (Георгій) Скарына. З афорта мастака Л. Рана



**В. К. ЗАЙЦАЎ**

# Перадумовы гуманізму ў Беларусі

поха, у якую жыў Скарына, адзначана ў гісторыі шматлікімі знамянальнымі падзеямі, што паклалі незабыўны адбітак на эканамічнае, палітычнае, ідэалагічнае і культурнае жыццё ўсяго еўрапейскага свету. Не засталіся ў баку ад уплыву гэтых падзей і ўсходнеславянскія народы, у тым ліку беларускі.

Развіццё раннекапіталістычных адносін і рост еўрапейскіх гарадоў з іх спецыфічнай культурай, вялікія геаграфічныя адкрыцці і развіццё гандлёвых зносін паміж Еўропай і аддалёнымі краінамі Азіі і Амерыкі прывялі да тых вялізных грамадскіх зрухаў, якія стварылі ў сукупнасці эпоху, што прынята называць Адраджэннем.

Скарына жыў у той час, калі грымела слава вялікіх першаадкрывальнікаў новых земляў: Хрыстафора Калумба, Амерыга Веспучы, Фернанда Магелана і Васка да Гамы, людзей, для якіх быў цесны прывычны «orbis terrarum», а «terra incognita» стала спакуслівай мэтай усяго жыцця. У гэту эпоху тварылі найвялікшыя майстры пэндзаля—мастакі Рафаэль, Мікеланджэла, Леанарда да Вінчы. Калі Францыск Скарына

пачынаў свой жыццёвы шлях, выйшаў у «плаванне» славуты «Карабель дурняў» (1494), твор вялікага гуманіста, бічаваценя грамадскіх заган Себасцьяна Бранта, а пазней, у 1516 г., прагучала саркастычная «Пахвала дурасці», якая належала пяру Эразма Ратэрдамскага. Еўропа ўжо ведала імёны выдатных італьянскіх паэтаў Тарквата Таса і Ладавіка Арыёста.

У Заходняй Еўропе, на Балканах і ў Польшчы былі нястомныя працаўнікі, якія неслі людзям друкаванае слова. Дарэчы, ужо праз некалькі гадоў пасля выхаду з друку першай у свеце друкаванай кнігі Іагана Гутэнберга (сярэдзіна 40-х гадоў XV ст.) у славян кнігі друкуюцца ў Кракаве, у Празе чэшскай, у Обадскай друкарні ў Чарнагор'і.

Еўрапейскі свет хвалявалі сялянскія войны і пропаведзь ідэолагаў сялянска-плебейскага ерэтычнага руху і пратэстантызму Томаса Мюнцэра, Марціна Лютэра і Жана Кальвіна. Летуценнікі гэтай эпохі спрабуюць стварыць новы ідэал грамадскіх адносін. Калі Скарына рыхтуе да друку свой пераклад «Бібліі», выходзіць у свет «Утопія» Томаса Мора, а яшчэ раней на плошчах Рыма і Фларэнцыі гучыць нястрымная антыпапская інвектыва Джыралама Саванаролы.

Зламаўшы жорсткія і цесныя рамкі сярэдневяковай схаластыкі, буйна расцвітаюць навукі, літаратура, выяўленчае мастацтва, архітэктура, тэатр. Адбываецца адкрыццё чалавека ў свеце і свету ў чалавеку, самым радыкальным чынам змяняецца погляд на каштоўнасць самога жыцця і месца ў ім чалавека. Думка чалавека ўсё больш і больш разыходзіцца з царкоўнай дагматыкай і секулярызуецца, заваёўваючы права чалавека на месца «пад сонцам». Заяўляе аб сабе індывідуалізм як поўнае выяўленне чалавечых правоў і магчымасцей. У Еўропе абуджаецца гуманістычны дух, які ў той час ахапіў многіх. Пачалася вялікая барацьба эгаістычных інтарэсаў і прадпрымальнасці з руцінай жыцця, якое закаснела ў сваіх сярэдневяковых рамках. Многіх ахапіла прага вандраванняў, авантур, подзвігаў, ведаў. (Праўда, у некаторых выпадках эгаістычныя інтарэсы людзей эпохі перараcталі ў прагу заваяванняў і пакарэння заморскіх земляў і народаў). У гэту эпоху аб чалавеку перасталі ўжо меркаваць толькі ў залежнасці ад яго адносін да царквы і рэлігіі; чалавек як асоба, як носьбіт грамадскага пачатку сам стаў аб'ектам разгляду і мэтай мастацтва, літаратуры, навукі.

У рамках гуманістычнай ідэалогіі складваецца новае прадстаўленне аб нацыянальнасцях і нацыянальных мовах. Еўропа паступова звяртаецца да народных моў замест латыні ў якасці мовы навукі і культуры. Рэнесансная паэзія і гістарычная літаратура пачынаюць адлюстроўваць узросшую нацыянальную самасвядомасць і значэнне моў. Ад усведамлення індывідуальнай каштоўнасці чалавека людзі пераходзілі да прызнання каштоўнасці за вялікімі нацыянальнымі калектывамі і сцвярджалі іх права на грамадскае быццё.

Рэнесансная хваля з Італіі даходзіла да ўсіх краін Еўропы і ахоплівала ўсё больш і больш шырокія масы людзей. Да таго ж трэба ўлічваць, што эканамічны прагрэс, які намеціўся ў многіх еўрапейскіх краінах, новыя формы вытворчых адносін непазбежна вялі да ўзнікнення новых прадстаўленняў у сферы ідэалогіі і культуры. Еўрапейскі свет жыў пошукамі новых ідэалаў і больш дасканалых норм грамадскага жыцця. Пазбавіўшыся ад прадстаўленняў сярэдніх вякоў, Еўропа стала на шлях Адраджэння.

У гэтых пошуках прымаў самы актыўны і непасрэдны ўдзел слаўны сын беларускага народа Францыск Скарына, які ўславіў сваю краіну шматлікімі подзвігамі на арэне культуры і грамадскай думкі.

* * *

На беларускай зямлі сыходзіліся каталіцкае і праваслаўнае веравызнанні; тут было скрыжаванне гандлёвых шляхоў, якія вялі з Расіі і Украіны ў Еўропу; тут праходзіў шлях культурнага абмену паміж Захадам і Усходам. Гэта тэрыторыя на працягу стагоддзяў была аб'ектам дамаганняў многіх знешніх сіл.

У такіх складаных умовах беларускі народ у наступны перыяд здолеў стварыць сваю мову, захаваць сваю культуру, выкаваць нацыянальную самасвядомасць, не ўпадаючы ў крайнасці ў пытаннях нацыянальных і канфесіянальных. На беларускай зямлі ўжо ў XV—XVI стст. пачалі складвацца выразна выяўленыя прынцыпы лібералізму ў грамадскім жыцці, верацярпімасці і «свецкасці» мыслення. Гэтыя прынцыпы склаліся ў выніку гістарычнага жыцця як праяўленне неабходнасці суіснавання з іншымі народамі Вялікага княства Літоўскага. Разам з тым беларусы не мірыліся з прыгнётам

ні ў пытаннях нацыянальных, ні ў адносінах веры або мовы.

Перадумовы гуманізму ў Вялікім княстве Літоўскім можна аднесці да XV ст. Гэты час з'яўляецца эпохай беларуска-ўкраінскага перадгуманізму, які ўзрос на базе многіх фактараў грамадскага жыцця. Қалыскай гуманістычнай думкі былі ўкраінскія і беларускія гарады, якія ў канцы XV ст. дасягнулі такога ўзроўню развіцця, што ім патрэбны быў новы статут як умова іх далейшага росту. Супярэчнасці паміж новымі рамкамі гарадскога жыцця і старым правам у некаторай меры вырашала Магдэбургскае права, якога дабіваліся гарады. Мяшчане і плебейская частка горада, а таксама частка сялянства, якая адчувала на сваёй спіне цяжкасць аковаў феадальнай сістэмы і царкоўнай арганізацыі, у радзе выпадкаў былі тым асяроддзем, якое лёгка ўспрымала ерэтычныя ідэі. Новыя адносіны фарміраваліся ў нетрах цэхавай вытворчасці. Цэхі ў сярэдзіне XVI ст. прадстаўлялі ўжо сілу, якая заявіла сваё права на жыццё і пагражала шляхце. Шляхта патрабавала ўмяшання каралеўскай улады. Так, ужо ў 1547 г. на Віленскім сейме «літоўскія чыны, дваране і рыцары» звярнуліся да Сігізмунда Аўгуста са скаргай на рамеснікаў, якія «водле воли своее» ўстанаўліваюць цэны на сваю прадукцыю [1].

Дакументы канца XV—пачатку XVI ст. налічваюць у Мінску каля 20 рамесніцкіх прафесій. Працэс афармлення цэхаў быў паказчыкам расшырэння і ўмацавання горада. Рамеснікі ператвараліся ў самую буйную праслойку гарадскога насельніцтва. Пакуль што гараджане не прадстаўлялі сацыяльнай сілы, яны не неслі нават вайсковай павіннасці. Але Віленскі сейм 1547 г., улічваючы ўзмацненне гарадскога саслоўя, у тым ліку рамеснікаў, прыняў рашэнне аб выкананні вайсковага абавязку і гэтым саслоўем.

Цэхі былі новай для таго часу формай арганізацыі вытворчасці і саслоўнай кансалідацыі гараджан. Рост тавараабмену, расшырэнне і паглыбленне эканамічных і культурных сувязей былі школай, у якой выкоўваўся, у выніку аб'ектыўнай заканамернасці, новы тып гандляра і стваральніка матэрыяльных каштоўнасцей. Выклікане да жыцця ўзмацненнем горада Магдэбургскае права ў сваю чаргу садзейнічала

---

[1] АЗР, т .III, № 4, стар. 3.

паглыбленню і універсалізацыі прынцыпаў гарадскога жыцця [1].

Працэс узмацнення гарадоў, складванне гарадскога саслоўя, фарміраванне цэхавай вытворчасці, узмацненне гандлёвых сувязей вялі да складання ўнутранага рынку, садзейнічалі фарміраванню мовы і, галоўнае,— з'яўленню ў украінцаў і беларусаў адчування сваёй нацыянальнай прыналежнасці.

Гэтыя ж з'явы грамадскага жыцця прыводзілі да яшчэ большай дыферэнцыяцыі насельніцтва па маёмаснаму прызнаку і да абвастрэння класавай барацьбы.

Прынцыпы гарадскога жыцця на камунальных пачатках вялі да ўкаранення парадкаў, якія не супадалі з жаданнямі духоўных улад. Царква разумела, што аўтанамізацыя і камунізацыя гарадоў ушчамляе яе правы і прэтэнзіі да іх. На Захадзе, напрыклад, каталіцкае духавенства ацэньвала камуну італьянскіх і французскіх гарадоў як «новую агідную з'яву», таму што яна азначала ўстанаўленне ў гарадах новых парадкаў, не «асвечаных» царквой, увядзенне ў іх юрысдыкцыі, якая не залежыць ад каталіцкай царквы, адмаўленне гараджан ад выканання абавязацельстваў перад сеньёрамі, а гэта прыводзіла наогул да вызвалення горада ад улады сеньёраў.

У XV—XVI стст. у беларускіх землях панавала феадальная форма землеўладання. Асноўная частка зямлі належала дзяржаве, а таксама свецкім і духоўным феадалам, якія з кожным годам карысталіся ўсё большымі правамі і прывілеямі. Прывілей караля Казіміра ад 1447 г., Літоўскі статут і іншыя дзяржаўныя акты былі тымі юрыдычнымі дакументамі, што завяршалі заняволенне сялянства. У сістэме прыгнечання вялікую ролю адыграла царква, якая прадстаўляла магутны феадальны інстытут, што валодаў амаль трэцяй часткай зямлі ў дзяржаве. Карыстаючыся эканамічнай магутнасцю, удзельнічаючы ў справе кіравання краінай, царква ажыццяўляла поўную рэгламентацыю духоўнага жыцця ў грамадстве і разглядала кожнае адхіленне ад царкоўных прынцыпаў у бок лібералізацыі і секулярызацыі жыцця як спробу падарваць і дыскрэдытаваць асновы грамадства і найвышэйшых аўтарытэтаў.

---

[1] Гл.: З. Ю. Копысский. Из истории общественно-политической жизни городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Труды Института истории АН БССР, вып. 3. Минск, 1958, стар. 15—46.

Войска і царква складалі апору свецкай улады, з'яўляючыся сродкам не толькі абароны дзяржавы, але і ажыццяўлення палітыкі захопу чужых земляў і прыгнечання свайго народа.

У беларускіх землях становішча народа ўскладнялася тым, што існавала раздзяленне людзей па рэлігійна-канфесіянальнаму прызнаку. Пачынаючы з канца XIV ст. ажыццяўляецца палітыка каталізацыі насельніцтва як адлюстраванне спроб устанаўлення тут феадальна-каталіцкіх парадкаў, якія падтрымлівалі Рым і Польшча. З сярэдзіны XVI ст. гэтыя спробы становяцца асабліва настойлівымі. Умацаванне каталіцтва ў Вялікім княстве Літоўскім — гэта старонка гісторыі, дзе можна прачытаць аб шматлікіх актах праяўлення рэлігійнай нецярпімасці і прынявольвання, якія выклікалі пратэст народа.

Праваслаўная царква, якая ажыццяўляла вышэйшую санкцыю духоўнага жыцця ў грамадстве, сама знаходзілася ў крызісным «нестроении», што адлюстроўвала заняпад дысцыпліны ў асяроддзі духавенства і незадаволенасць народных мас практыкай царквы, «сумненне ў веры», якое было шырока распаўсюджанай з'явай. Царква ў саюзе са свецкай уладай прымала рашучыя меры да таго, каб прыпыніць разброд і хістанні ў асяроддзі веруючых. У канцы 30-х гадоў XVI ст. быў прыняты рад афіцыяльных актаў, якія ставілі за мэту нанясенне ўдару па ўсіх спробах рацыяналістычнага тлумачэння некаторых пытанняў рэлігіі.

Новыя плыні ў сферы народнага мыслення вельмі часта прымалі форму рэлігійна-ерэтычнага руху. Гуманістычны рух ва ўсходнеславянскіх землях знаходзіўся ў цеснай сувязі з антыфеадальнымі і антыклерыкальнымі ерасямі [1].

Некаторыя з'явы культурнага жыцця народаў, напрыклад з'яўленне кнігадрукавання, трэба ацэньваць і разумець толькі ў сувязі з распаўсюджаннем ерэтычных вучэнняў [2]. Разглядаючы дзейнасць Ф. Скарыны і з'яўленне першадрукаваных беларускіх кніг, мы лічым магчымым паставіць гэтыя з'явы ў

---

[1] М. П. Алексеев. Явления гуманизма в литературе и публицистике Древней Руси (XVI—XVII вв.). Зб. «Исследования по славянскому литературоведению и фольклористике». М., 1960, стар. 175—207; Д. Лихачев. Культура русского народа X—XVII вв. М.—Л., 1961, стар. 80—81.

[2] М. Н. Тихомиров. Начало книгопечатания в России. Зб. «У истоков русского книгопечатания». М., 1959, стар. 20—21.

залежнасць ад той ідэалагічнай і культурнай глебы, якая была «апрацавана» народна-ерэтычнай думкай Беларусі і Украіны адпаведнага перыяду.

Разгром татара-манголаў, перамога славянскіх сіл на Грунвальдскім полі, узмацненне сувязей з Захадам і балканскім поўднем у эпоху так званага другога паўднёваславянскага ўплыву стварылі ўмовы для пранікнення ва ўсходнеславянскія, у тым ліку беларускія і ўкраінскія, землі новых помнікаў пісьменнасці.

У гісторыі Беларусі быў пэўны перыяд, звязаны з распаўсюджаннем пратэстанцка-гусіцкіх ідэй. Але яны не сталі тут масавай ідэалогіяй. Месцам, дзе гэтыя ідэі набылі папулярнасць, былі галоўным чынам Віцебск і полацкая епархія.

Пропаведзь Іераніма Пражскага, які ў сакавіку 1413 г. наведаў Віцебск і Пскоў, аказала сваё ўздзеянне. Гэта пропаведзь на пачатковай стадыі была выяўленнем пратэсту супраць злоўжыванняў рымскага духавенства.

Іеранім да гэтага на працягу двух гадоў працаваў выкладчыкам Кракаўскага універсітэта і разгарнуў у Польшчы сваю асветніцкую дзейнасць. У Віцебск і Пскоў ён прыехаў з мэтай устанаўлення зносін з праваслаўным усходнім светам. Магчыма, у яго быў і намер распаўсюдзіць тут вучэнне свайго духоўнага айца — Яна Гуса. Магчыма нават, што Іераніму неабходны былі сувязі з мясцовымі ерэтычнымі групоўкамі.

Як сведчыць данясенне каталіка Іаана Роха Канстанцкаму сабору [1], Іеранім прыбыў у складзе світы князя Вітаўта ў Віцебск, населены «рускімі, або схізматыкамі, якія прытрымліваюцца грэчаскай секты». З данясення даведваемся, што «Іеранім, у час... прыбыцця, пакінуўшы і занядбаўшы працэсію... манашаствуючых брацій і хрысціян (каталікаў), пайшоў да працэсіі... рускіх, схізматычных і няверных людзей. І там, у прысутнасці да чатырох або пяці тысяч чалавек абодвух полаў, схіліўшы калені, ён стаў пакланяцца скажоным мошчам і абразам... няверных, схізматыкаў і рускіх, яўна і публічна, звяртаючыся да секты тых няверных схізматыкаў і адварочваючыся ад веравызнання верных хрысціян».

У данясенні нічога не гаворыцца аб тым, колькі часу Іеранім быў у Віцебску. Вядома толькі, што яго знаходжанне было надзвычай актыўным.

---

[1] Витебская старина, т. 1, стар. 27—28; стар. 627—629, заўвага 10.

Прыхільнік Яна Гуса, адкрыты праціўнік рымска-каталіцкай царквы, Іеранім у Віцебску не абмежаваўся адмаўленнем абрадаў віцебскіх католікаў. Ён імкнуўся пашырыць свой уплыў не толькі на народ, але і на князя і яго асяроддзе. «Той жа Іеранім,— даносіў Іаан Рох, — наколькі мог, намагаўся, працаваў і стараўся, каб азначанага гасудара князя [Вітаўта], з усім яго хрысціянскім народам, адвярнуць ад хрысціянскай [каталіцкай] веры і схіліць заставацца ў сказанай секце рускіх і няверных народаў».

Мы не ведаем, якую перавагу праваслаўя над каталіцтвам адзначаў Іеранім у сваёй пропаведзі, але ён аддаваў перавагу праваслаўю над каталіцтвам.

«Потым гэты Іеранім у прысутнасці прападобнага айца, г. епіскапа віленскага... у ганьбу хрысціянскай веры сказаў станоўча, што гэтыя схізматыкі і рускія ёсць добрыя хрысціяне, і ён застаўся са сваімі заблуджэннямі, адабраючы тых рускіх і іх скажоную веру»,— чытаем далей у данясенні Роха Канстанцкаму сабору.

Мусіць, Іеранім заняў такую добразычлівую пазіцыю адносна «рускай веры» не столькі па кантрасту яе з «верай» каталіцкай, колькі зыходзячы з дасведчанасці аб шырокай распаўсюджанасці ідэі верацярпімасці ў землях Вялікага княства Літоўскага.

Цытуемы дакумент напісан быў, несумненна, тэндэнцыйна, але і за згушчанымі фарбамі праступае характар дзейнасці Іераніма, яе антыкаталіцкая накіраванасць. Жаданне ўстанавіць сувязь паміж чэшскім гусіцтвам і ўсходнімі праваслаўнымі народамі, імкненне распаўсюдзіць гусіцкую пропаведзь у Беларусі і Расіі выліваліся ў канкрэтныя формы. Іеранім, па сведчанню таго ж Роха, «каб больш... спадабацца вышэйсказаным няверным народам і паказаць ім, што ён ідзе за іх сектай і скажонай верай і прыпадобніцца да іх у звычаях, таксама як і ў веры, па абраду тых няверных адпусціў сабе і насіў доўгую бараду і валасы, зусім адмовіўшыся ад адзення і тансуры клірыка».

Пры чытанні данясення выразна высвятляецца адна акалічнасць: у вандраванні Іераніма ва ўсходнеславянскія землі за ім няспынна сачылі каталіцкія ўлады. Нават у Пскове, у рускім праваслаўным храме, аказалася «некалькі верных хрысціян», безумоўна, шпіёнаў, якія з задавальненнем пацвярджалі паказанні Роха.

Вядома, што ў 1415 г., як адзначае Густынскі летапіс, «Іоана Гуса геретика препревше з писма огнем сожгоша, а по нем его ученика Еронима»[1]. Канстанцкі сабор, спаліўшы Гуса і яго паплечніка, толькі павялічыў народны гнеў супраць каталіцкай царквы, якую масы лічылі адным з галоўных феадалаў. Але, забіўшы кіраўнікоў руху, сабор не змог патушыць агню, які пачаў распаўсюджвацца ў розных краінах[2]. Цікава, што князь Вітаўт, ажыццяўляючы ідэю прымірэння праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, значнае месца адводзіў вучэнню Гуса. Вядома аб яго спробе наладзіць сувязь з Гусам. Ён паслаў на Канстанцкі сабор свайго мітрапаліта з некалькімі епіскапамі, але яны спазніліся: Гуса ўжо спалілі. Перагаворы аб аб'яднанні цэркваў Вітаўт палічыў немагчымымі, таму што элемент кампрамісу — прычашчэнне «под обоими видами» — быў адхілены[3].

Вядома, што многія маладыя людзі з Вялікага княства Літоўскага лічылі калыскай сваёй адукацыі Прагу, а атрады князя Карыбута ўмясцілі ў сябе і падраздзяленні, якія складаліся з галічан і беларусаў[4]. Знаходжанне ўкраінцаў і беларусаў у Чэхіі ў эпоху распаўсюджання там гусіцтва не магло не пакінуць адзнак у іх свядомасці[5]. Гусіцкая ідэалогія на «літоўскай» глебе была адным з фактараў, якія падрыхтавалі распаўсюджанне пратэстантызму і радыкальнага рэфармацыйнага руху. Найбольш радыкальныя погляды былі ў той часткі гусітаў, што звалася табарытамі. Іх праграма больш за ўсё прыцягвала плебейскую частку насельніцтва гарадоў Польшчы і Вялікага княства Літоўскага[6]. Гусіцтва адыграла пэўную ролю ў распаўсюджанні асветніцтва і ідэй рацыяналізму і ў стварэнні на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага ўмоў для лібералізацыі і секулярызацыі народнага мыслення. На гэтай глебе і ў гэтых умовах сфарміраваўся пэўны комплекс ідэй перадгуманізму на Украіне і ў Беларусі, якія ў сваю

---

[1] ПСРЛ, т. II, стар 353.

[2] Гл.: Z. J. Kopysski, V. V. Čepko. Ohlas husitství na Bilé Rusi. «Mezinárodní ohlas husitství». Praha, 1958, стар. 103—110.

[3] Ruch husycki w Polsce. Wrocław, 1953, № 47, 49, 54, 56, 58, 73.

[4] И. Н. Голенищев-Кутузов. Гуманизм у восточных славян (Украина и Белоруссия). Доклад на V Международном съезде славистов. М., 1963, стар. 9; Ruch husycki..., № 73.

[5] Ruch husycki..., № 51.

[6] С. А. Подокшин. Радикально-реформационное движение в Белоруссии и Литве (вторая половина XVI в.). Канд. дисс. Минск, 1964, стар. 82.

чаргу былі пакладзены ў аснову гуманістычнага крэда, а таксама радыкальна-рэфармацыйных настрояў XVI ст.

У Беларусі існавала яшчэ і рацыяналістычная ерась «жыдоўствуючых». Мяркуючы па даных, якія ёсць у некаторых гістарычных дакументах, напрыклад у «Хранографе» першай рускай рэдакцыі, гэта ерась паявілася ў Вялікім княстве Літоўскім і адтуль пранікла на Русь. Гэты момант у гістарычнай літаратуры звычайна слаба асвятляецца. Між тым у раздзеле «Хранографа», які носіць назву «О новгородских еретиках откуда явишася и в кое время», гаворыцца, што вучэнне «жыдоўствуючых» у Ноўгарад прынеслі ў 1471 г. яўрэй Схарыя з Кіева, а таксама «инии жидове» з Літвы. «Хронограф» нават называе іх па імёнах: Маісей, Шмой, Іосіф, Ханушч [1]. Гэтыя людзі «спакусілі» ў Ноўгарадзе многіх свяшчэннікаў, дзякаў, пратапопаў, «простых людзей» і нават людзей, «велику имея власть». У гэтым горадзе чужынцы з «Літвы» «многих научиша жидовству... и толико возмутиша християнский род, яко ни древнии еретицы тако пиюще и объядающеся и праздников господьских не почитающе, в великий пост и во вся святыя посты и в пяток мясо ядуще и блудом оскверняющеся и святую литоргию совершающе... на самого бога, иже в Троицы славимаго, хулу изнесоша, и на святую пречистую богородицу, и на предтечю Ивана, и на святыя апостолы, и на вся святыя сотвориша брань в Новеграде».

«Хранограф» зноў адзначае, што ерэтыкі «многих научиша жидовствовати». Ніжэй у «Хранографе» ідзе пералік іх «ерэтычных захапленняў»: «Звездозаконию... прилежаху и многим баснотворением и астрологию и чародейству и всякому чернокнижеству, и сего ради мнози к ним уклонишася... мерзкими своими усты хулы излияша на единороднего сына божия и на пречистую богоматерь и на вся святыя».

У «Хранографе» ёсць звесткі аб тым, што тое ж адбылося не толькі ў Ноўгарадзе і Пскове: «многие еретицы в Новгороде и на Москве явишася».

Можна лёгка зрабіць вывад аб тым, што і руская глеба была падрыхтавана да ўспрыняцця ерасі, якая прыйшла з Літоўскага княства. Сацыяльнай базай распаўсюджання гэтай ерасі ў Беларусі і Літве былі духавенства, гараджане, купцы і частка сялянства.

---

[1] Изборник славянских и русских сочинений и статей, внесенных в хронографы русской редакции. Собр. и изд. Андрей Попов. М., 1869, стар. 172.

У «Хранографе» выразна праследжваецца пераемнасць ерасі «жыдоўствуючых» на Русі ад «Літвы» ў самім апісанні пакарання ерэтыкоў: «лицом к конским задам посаждаху их яко да зрят на запад».

У ідэалогіі ерэтыкоў можна разгледзець залежнасць ад ранніх ерасей, у тым ліку і ад месаліянства, якое стала адной з асноў балгарскага багамільства. Як і садукеі і месаліяне, «жыдоўствуючыя» вучылі «по звездам смотрити и строити рожение и житие человеческое, а писание божественное презирающе».

Ворагі праваслаўя, якія ведалі аб шырокім распаўсюджанні ерасі «жыдоўствуючых» у Вялікім княстве Літоўскім, часта супастаўлялі праваслаўную царкву з сінагогай; гэта ж робіць і Рох у данясенні аб Іераніме. Сігізмунд I, брат Аляксандра, пацвярджаючы забарону Казіміра будаваць новыя праваслаўныя храмы і рамантаваць старыя, называў праваслаўную царкву сінагогай [1]. У каралеўскай грамаце, адрасаванай Літоўскай радзе 10 ліпеня 1539 г. [2], яўна адчуваецца, што іудзейства блытаюць з пропаведдзю «жыдоўствуючых», а гэта, безумоўна, далёка не адно і тое ж. У гэтых фактах мы можам бачыць не так жаданне ворагаў праваслаўя «абразіць» рускіх веруючых супастаўленнем іх веры з іудаізмам, як ускоснае прызнанне таго, што ў Вялікім княстве Літоўскім погляды «жыдоўствуючых» былі даволі папулярнымі. Тым больш, што сведчанняў аб пераходзе беларусаў, украінцаў або рускіх у чыстае іудзейства не захавалася.

Эпоха перадгуманізму ў Вялікім княстве Літоўскім прайшла, як вядома, пад знакам незадаволенасці мас узмоцненым феадальным прыгнётам і практыкай царквы. Антыфеадальныя і антыклерыкальныя настроі ўкраінскага і беларускага народаў былі глебай для ўзнікнення рэфармацыйнай ідэалогіі. З аднаго боку, узрастаўшая эксплуатацыя сялянства феадаламі, з другога — вялікае разыходжанне паміж практыкай царквы і яе вучэннем вялі да незадаволенасці мас.

Само геаграфічнае палажэнне Вялікага княства Літоўскага садзейнічала развіццю яго ўсебаковых сувязей з Польшчай, Прусіяй, Лівоніяй і іншымі краінамі Захаду, дзе рэфармацыйны рух у развітых формах узнік некалькі раней. Пранікшы

---

[1] Витебская старина, т. V, стар. XXXIV.
[2] АЗР, II, стар. 350, № 194.

ў Полацк, Віцебск і іншыя беларускія гарады, Рэфармацыя знаходзіла тут спрыяльную глебу, падрыхтаваную шматлікімі мясцовымі ерэтычнымі выступленнямі.

Пранікненне пратэстанцкага вучэння ў беларускія гарады, напрыклад у Віцебск і Полацк, адбылося вельмі хутка. Нават у сярэдзіне XVI ст. у абодвух гарадах быў чутны водгалас гэтага вучэння. У 1552 г. у Віцебску можна было ўбачыць прапаведуючых праваслаўных старцаў — манахаў, якія выступалі з іканаборчай прапагандай. Выгнаныя з Віцебска, яны адышлі ў аддаленыя раёны Вялікага княства Літоўскага: адзін з іх, Арцемій, знайшоў прытулак у слуцкага і капыскага князя Георгія, другі, Фама, зрабіўся рэфармацкім свяшчэннікам, які прапаведаваў у Полацку [1], дзе ідэі Рэфармацыі былі ўжо шырока распаўсюджаны не толькі сярод простых гараджан, але і шляхты [2].

Ужо ў першай палавіне XVI ст. у беларускіх гарадах распаўсюджваецца кальвінізм, які пазней аказаў пэўны ўплыў на стварэнне беларуска-літоўскай Рэфармацыі, яе ўмеранага крыла. З'явіўшыся далёка на Захадзе, кальвінізм праз гістарычна кароткі тэрмін, пераадолеўшы граніцы многіх дзяржаў, праявіўся ў Беларусі. Гэты факт лішні раз паказвае, як насычана была новымі ідэямі беларуская глеба і як добра былі падрыхтаваны пэўныя колы насельніцтва да ўспрыняцця гэтых ідэй. Гэты ж самы факт з'яўляецца паказчыкам таго, што нешта падобнае да ідэй кальвінізму ўжо было ў княстве, месцы шматлікіх ерэтычных і пратэстанцкіх плыней.

Самы ранні ў Літве пратэстанцка-кальвінісцкі «збор», пабудаваны, відаць, Міколам Дарагастайскім, гарадскім ваяводам, быў у Полацку і існаваў да 1660 г.[3] У XVI ст. «зборы» былі ў наступных беларускіх пунктах: Быхаў, Дарэўня, Глыбокае, Галаўчына, Копысь, Кавальшчына, Койданава, Лебедзева, Лукомля, Орша, Рагачоў, Шклоў, Заслаў, Семяновічы, Шацк, Нялевічы, Сакольня і інш.

«Літоўскія» кальвіністы мелі сваю арганізацыю і іерархію. Галоўныя духоўныя асобы зваліся сеньёрамі, ім былі падпарадкаваны пастары. Рэзідэнцыя сеньёраў знаходзілася ў мястэчку Койданава. Тэрыторыя, на якую распаўсюджваліся

---

[1] Витебская старина, т. I, стар. 600 і заўвага 170; Занков. Старец Артемий, писатель XV в. ЖМНП, ноябрь 1887 г.

[2] Витебская старина, т. V, стар. XLVII.

[3] Там жа, стар. XLVIII—XLIX.

паўнамоцтвы кальвініcцкай іерархіі, была падзелена на дыстрыкты, або акругі. У руках сеньёра засяроджвалася духоўная ўлада ў межах дыстрыкта. У яго абавязак уваходзіла падбіраць «міністраў» (або пастараў), сачыць за выкананнем імі сваіх функцый, за іх бытам і маральнасцю,назіраць за дзейнасцю «збораў». Памочнік сеньёра называўся консеньёрам.

У Вялікім княстве Літоўскім налічвалася шэсць дыстрыктаў, адпаведна столькі ж сеньёраў. На сінодах старшынстваваў віленскі сеньёр [1].

Як вядома, Жан Кальвін прапаведаваў узнаўленне раннехрысціянскай абшчыны. Практыка ўзаемаадносін царквы і свецкай улады, духоўнай і свецкай дактрын у сапраўднасці была такой, што кальвінізм закранаў не толькі справы царкоўныя. Ён быў звязаны з сацыяльным рухам эпохі і закранаў палітычныя прынцыпы. У працэсе барацьбы Кальвіну міжволі прыходзілася пераходзіць на бок народа, выступаючы супраць манархіі, таму што, падымаючы руку на царкву, ён тое ж самае рабіў і ў адносінах да свецкай улады, неаддзельнай ад царквы. Ён праводзіў тэорыю супраціўлення тыранічнай уладзе, якую лічыў грэшнай, таму што яна парушала «божы прынцып», вучэнне аб «адобраным» богам дагаворы, які абумовіў узаемаадносіны паміж народам і каралём. Прапаведуючы прынцыпы «таннай», першаапостальскай царквы, Кальвін імкнуўся ажыццявіць рэспубліканскія формы царкоўнай іерархіі, царкоўнага ўладкавання і пераносіў гэтыя формы на свецкае палітычнае жыццё.

У суседняй з княствам Польшчы кальвінізм адыграў нязначную ролю. Яму папярэднічала тут лютэранства, прынятае нямецкай часткай польскіх гарадоў, а таксама вучэнне чэшскіх братоў. Польская шляхта, якая была ў варожых адносінах з духавенствам, імкнулася на сеймах ажыццявіць палітычныя рэформы ў дзяржаве. У кальвінізме шляхту больш за ўсё прыцягвала рэспубліканска-арыстакратычная арганізацыя руху.

Пачатак сувязі Кальвіна з польскай шляхтай і арыстакратыяй адносіцца да канца 40—пачатку 50-х гадоў XVI ст., яшчэ ў першы перыяд праўлення Сігізмунда II. У 1554 г. кальвініст Ян Ласкі прапанаваў правесці афіцыяльную рэформу царквы ў Польшчы, узаконіўшы «гельветычнае веравызнанне» — так звалі кальвінізм у Царстве Польскім. Кальвінізм пад уплывам

---

[1] Витебская старина, т. V, стар. L.

вучэння Соцына ў другой палавіне XVI ст. ператварыўся ў антытрынітарызм.

Ужо ў 60-я гады каталіцкая рэакцыя перамагла, і кальвінізм быў падсечан пад корань[1]. Слабасць яго была ў нетрываласці сувязей з народнай масай, у яго «вярхушачнай» арыентацыі.

Лацінскае духавенства і ідэя каталіцызму ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім у сярэдзіне XVI ст. знаходзіліся ў стане крызісу. Барацьба з праваслаўнымі і ажыццяўленне ідэі уніі ўскладнялася распаўсюджаннем у гэтых краінах пратэстанцкага руху. Каталіцкая царква прымушана была быць больш гнуткай і дастасоўвацца да склаўшыхся абставін. Ёй прыйшлося звярнуцца да выпрабаванай зброі — ордэна езуітаў, гэтай вельмі рашучай, згуртаванай і дысцыплінаванай арганізацыі.

Перад Люблінскай уніяй езуіты былі выкліканы ў літоўскія землі, дзе пачалася працяглая эпапея іх барацьбы з пратэстантамі і праваслаўнымі.

У гісторыі грамадскай думкі Беларусі ёсць старонка, звязаная з распаўсюджаннем і лютэранства. З Вялікага княства Літоўскага лютэранскія ідэі пранікалі далей на Усход[2].

Вучэнне Марціна Лютэра, калі лічыць зыходнай датай апублікаванне Лютэрам у Вітэнбергу славутых 95 тэзісаў у кастрычніку 1517 г., распаўсюдзілася ў многіх еўрапейскіх краінах з выключнай хуткасцю, надоўга пакінуўшы тут свой адбітак. Гэта хваля дайшла і да Беларусі, закрануўшы пэўную частку гараджан, якія адстайвалі права свабоднай вытворчасці і гандлю, і некаторых свецкіх феадалаў, якія імкнуліся замацаваць свае пазіцыі і захапіць зямельныя багацці царквы. Удзельнічалі ў гэтым руху і некаторыя колы плебейскай часткі гарадоў, якія выступалі супраць узмацнення эксплуатацыі, за ўстанаўленне сацыяльнай роўнасці.

Людзям здавалася вельмі пераканаўчым новае тлумачэнне хрысціянства, прапанаванае Лютэрам, не падобнае на афіцыяльнае. Ён вучыў, што «выратаванне» чалавека знаходзіцца ў залежнасці не ад так званых царкоўных «таінстваў», абрадаў і кантрыбуцый у карысць царквы, а ад «унутранай» веры,

---

[1] Гл.: Н. Кареев. Очерк истории реформационного движения и католической реакции в Польше. М., 1886; Н. Любович. История реформации в Польше. Кальвинисты и антитринитарии. Варшава, 1883.

[2] ПДП, Х. СПб, 1886, стар. VI.

уселенай чалавеку самім богам. У Лютэра гэта палажэнне было сфармулявана як прынцып «апраўдання верай».

У гэтым сваім сцвярджэнні ён абапіраўся на раннехрысціянскія і першаапостальскія запаветы, якія сталі асновай для патрабавання «таннай» царквы. Прынцып «таннай» царквы ва ўмовах барацьбы з феадалізмам і яго інстытутамі быў прагрэсіўны і зразумелы і шырокім масам працоўнага, залежнага ад царквы насельніцтва, і буржуазным элементам, якія яшчэ толькі патрабавалі сабе месца пад сонцам.

Да лютэраўскага прынцыпа «апраўдання верай» прымыкаў і тэзіс, які абвяшчаў: крыніцай хрысціянскай ісціны з'яўляецца не «паданне», гэта значыць не рашэнні царкоўных сабораў і папскія пасланні або павучанні «айцоў царквы», а евангеллі і першаапостальскія запаветы. Такім чынам, вялікі рэфарматар адмаўляў царкве ў той ролі, на якую яна прэтэндавала, — ролі пасрэдніка паміж богам і людзьмі. Духавенства разумела, што развянчанне царквы як «божаскага» інстытута, «сцягванне» з яе арэолу святасці прывяло б яе да пазбаўлення багацця і ўплыву ў народзе.

Ідэі лютэранства, якія дайшлі да беларускага народа, супадалі з тымі настроямі, што бытавалі ў Вялікім княстве Літоўскім.

Агульнасць некаторых прынцыпаў, на якіх было заснавана грамадскае жыццё розных дзяржаў, прыводзіла да аналагічных форм мыслення і пратэсту супраць усіх відаў сацыяльнага прыгнёту.

Аб папулярнасці лютэранства ў Вялікім княстве Літоўскім можна меркаваць па твору Парфенія Уродзівага, рускага пісьменніка XVI ст., твору, вядомаму пад назвай «Пасланне да невядомага супраць Лютэраў». Рускі палеміст Парфеній са сваім творам, які прадстаўляе адказ невядомаму апаненту ў «Літву», выступіў у перыяд 1525—1560 гг., калі «лютеранские плевелы еще только что объявились руским», але, відаць, пусцілі ўжо свае корані на беларускай зямлі.

Поспех пратэстантызму ў Вялікім княстве Літоўскім быў падрыхтаван, відаць, распаўсюджаннем тут вучэння Гуса. Яшчэ Вітаўт, які хацеў пад уплывам гусіцтва ўвесці ў сваёй дзяржаве адзіную царкву без дзялення на праваслаўную і каталіцкую і ўстанавіў аўтаномную метраполію для паўднёва-заходняй Русі, шмат у чым садзейнічаў папулярызацыі ідэі верацярпімасці і аб'яднання некалькіх раёнаў Еўропы (Сіле-

зія, Літва, Польшча, Багемія), дзе жыве славянскае насельніцтва, у адзіны дзяржаўны арганізм з уніфікаваным рэлігійным вучэннем.

Пратэстантызм магутным патокам накіраваўся ў Вялікае княства Літоўскае, Валынь, Галіцыю, несучы з сабой новыя прадстаўленні аб адносінах чалавека да рэлігіі, аслабляючы вузы, якія прывязвалі чалавека да царквы. Польшча, Курляндыя, Усходняя Прусія, Германія былі тым плацдармам, адкуль лютэранства наступала на ўсход дзякуючы расшырэнню гандлёвых сувязей, перасяленню пратэстантаў (рамеснікаў, мастакоў, купцоў, вучоных) з Еўропы ў «Літву», у яе сталіцу Вільню і іншыя гарады. У 1521 г. лютэранін Ф. Лісманіні вылучыўся тут сваёй майстэрскай і настойлівай прапагандай вучэння Лютэра; каталіцкі ксёндз А. Кульва ў сваім прыходзе, з царкоўнай кафедры, звяртаўся да веруючых з пропаведдзю лютэранства і нават арганізаваў для парафіян пратэстанцкую школу на 50 чалавек. Вядомым прамоўцам быў Р. Вінклер і інш.

Вядома таксама, што ў 1545 г. прынц прускі Альбрэхт накіраваў у Вялікае княства Літоўскае сваіх пратэстанцкіх місіянераў, узброеных лютэранскай літаратурай. Альбрэхт устанавіў у Кенігсбергскім універсітэце некалькі стыпендый для выхадцаў з лютэран «літоўскага» паходжання.

У першай палавіне XVI ст., у 1544 г., у Вільні пасяліўся наследнік прастола Сігізмунд Аўгуст. Чалавек з вялікімі сувязямі, які не хаваў сваіх адкрыта пратэстанцкіх ідэй і меў паплечнікаў і паслядоўнікаў, ён быў звязан з Лютэрам і Кальвінам. Вядома, што, зрабіўшыся каралём, ён меў намер правесці царкоўную рэформу, але ўмяшанне Ватыкана перашкодзіла яму.

У «Пасланні да невядомага супраць Лютэраў» Парфеній Уродзівы палемізуе па пытаннях дагматычных. «Пасланне» апісвае «віну» Лютэра: яму падыходзіць «божественные уставы разоряти и божественных его [Ісуса] ученик и апостол проповедь разсецати, и священных отец уставы превращати, и... божественное писание неистинно исповедати» [1].

Аўтар «Паслання», дагматычны праваслаўны начотчык, абапіраючыся на аўтарытэт свяшчэннага пісання і не прымаючы пад увагу патрабаванняў гістарычнага жыцця, аспрэчвае

---

[1] ПДП, LX. Тут і далей цытуецца па гэтай крыніцы.

Лютэра і ў запале палемічнай адкрытасці не шкадуе слоў супраць «літоўскіх казнадзеяў» — лютэран, параўноўваючы іх са свіннямі, называючы «псами неверными, ...своим лаянием и злобою внутреннего человека поядающими и растерзающими». Ён папракае свайго апанента: «Ты несть христианин, понеже христово учение развращаеши, а святых апостол и святых отец учение отметаеши». Гэта ж абвінавачанне прад'яўляе ён і ўсім «літоўскім» лютэранам: «все уставы святых отец развратисте и отвергосте».

З «Паслання» становіцца вядома, што лютэране Вялікага княства Літоўскага ставяць пад сумненне ісціннасць і праўдападобнасць цудаў Хрыста, прытрымліваюцца «дзесяцеразаконня» кніг Маісеевых, «адрачонага» самімі апосталамі, і будуюць сваё жыццё не па прапісах свяшчэннага пісання, а «по своим ласкосердством и лакомством», а па прадстаўленнях Парфенія «не подобает истинным христианом евангельское учение претекати, а во второзаконие полагатися».

Разважанні невядомага аўтара аб «веры», аб «малітве», аб «службе божай», яго тлумачэнні крыжа, тайнай вячэры таксама выклікаюць пярэчанні Парфенія.

«Літоўскія» лютэране не прызнавалі адказнасці людзей за «першародны грэх», а значыць, і таго «памілавання», якое ішло ад Хрыста, што прыняў на сябе «грэх свету».

Лютэране крытыкавалі хрысціянска-дагматычную пастаноўку пытання аб «самаўладстве чалавека», падкрэсліваючы, што калі Хрыстос і вызваліў чалавека ад грахоў, то ўсё роўна чалавек знаходзіцца ў страшнай залежнасці ад «грахоў», абумоўленых самім жыццём. Жыццё так несправядліва ўладкавана, што «ни един себя ничим избавить не может своими ученьми и делы благими».

Крытыкавалі лютэране і няроўнасць людзей у свеце. Згодна з апосталам Паўлам, «несть разнствия у бога варвар и скиф, раб и свободь, мужеский пол и женский, вси едино есть о Христе точию делы благими». Але ў жыцці, якое поўна сацыяльнай няроўнасці, а ў гэтым вінавата і царква, — усё наадварот: грамадства загразла ў супярэчнасцях, а добрыя справы не ўзнагароджваюцца. Між тым рэлігійная «вера, аще дел не имать, мертва есть о себе».

Парфеній папракаў аўтара пісьма: «отбегаеши отеческого предания». У гэтым Парфеній быў правы: лютэране «Літвы», як і пратэстанты Еўропы, не прызнавалі права «айцоў царквы»

тлумачыць і распаўсюджваць «святое слова», таму што гэтыя тлумачальнікі былі ўжо занадта залежныя ад царкоўнай і свецкай палітыкі. У такой пастаноўцы пытання пратэстантамі царква бачыла сур'ёзную пагрозу свайму аўтарытэту.

Адмаўляючы прыналежнасць Хрыста да божаскай троіцы, лічачы, што ён нарадзіўся ад смертнай жанчыны, лютэране ўносілі выразна рацыяналістычны элемент у тлумачэнне найбольш складаных догматаў хрысціянства. Стыхійна матэрыялістычны сэнс гэтага тлумачэння відавочны. Корані яго ў старажытных сумненнях монафізітаў і Арыгена ў траістай прыродзе бажаства.

У «Пасланні» адлюстравана і дыскусія аб цане за «адпушчэнне грахоў». Калі «бог отец для [за]слуг сына своего приим человека в милость свою и грехи отпущает даром», дык чаму ж царква, узнікае пытанне, нажываецца на чужых грахах, беручы плату за споведзь і адпушчэнне? Пытанне такое ж старажытнае, як і сам інстытут хрысціянскай царквы. Не выпадкова Парфеній папракае свайго апанента «з Літвы»: «писал еси по ереси Ариевой».

Сумненне пратэстантаў у справядлівасці такой пастаноўкі пытання трапляла ў самы асяродак супярэчнасцей паміж царквой і пратэстантамі, якія змагаліся за «танную» царкву, і ў гэтым, як у фокусе, сканцэнтраваліся ўсе патрабаванні Рэфармацыі, якія яна прад'яўляла да царквы.

Як вядома, лютэране не верылі ва ўваскрэсенне з мёртвых. «Літоўскі» аўтар, мяркуючы па рэпліках Парфенія, закранаў і гэты пункт спрэчкі. Рацыяналістычныя схільнасці апанента несумненныя, таму што ён не прызнаваў не толькі магчымасці ўваскрэсення, але і само ўяўленне аб так званым страшным судзе. Калі Парфеній у палеміцы забываецца і скарыстоўвае поўны лексікон лаянкавых слоў, то яго апанент вядзе крытыку больш асцярожна, тонка, не прыбягаючы да абразы, а цытуючы такія месцы свяшчэннага пісання, адзін успамін аб якіх выклікае выбух гневу ў Парфенія. Узрушвае Парфенія, напрыклад, і папрок апанента ў «іконным пакланенні» і ўпамінанне аб тым, што лютэранства базіруецца на вучэнні самога Хрыста, а не яго тлумачальнікаў і захавальнікаў ключоў ад «храма хрыстова». Традыцыя кіравацца ў грамадскім жыцці не апостальскімі паданнямі і патрыстычнымі павучаннямі, а раннехрысціянскімі запаведзямі закранала самую сутнасць царкоўнай практыкі і ў перспектыве вяла да

поўнага перагляду яе і рабілася лозунгам усіх ерэтычных рухаў як у эпоху першых стагоддзяў афіцыяльнага хрысціянства, так і ў Сярэднія вякі. Уласна кажучы, гэта ж традыцыя ў пэўнай ступені працягвалася і ў эпоху Рэфармацыі.

Калі аўтар «з Літвы» папракае царкоўнікаў у гультайстве, невуцтве і невыкананні свайго абавязку перад народам, Парфеній абараняе «ўсіх», але ганьбуе «некаторых»: «А еже убо что видиши от слабых и ленивых не вся заповеданная исполняющих, сия ни закону написуй, но онех небрежением».

Папрок апанента ў тым, што хрысціянская царква нецярпімая ў нацыянальным пытанні, Парфеній адводзіць указаннем, што «христианская соборная апостольская церкви едина есть». Упамінанне аб «лацінскай веры», якое гучыць у пісьме апанента, відаць, у прымірыцельным кантэксце, выклікае гнеў у Парфенія. Ён адказвае: «о том глаголати не хощу, понеже яко латына прелесть [ложная идея], тако и вы тьма».

Аўтар пісьма, лютэранін, асуджаючы імкненне да нажывы і срэбралюбства тых, каго абараняў Парфеній, пісаў «о духовном куповании богатства», гэта значыць аб неабходнасці самаўдасканалення і выпраўлення нораваў, а таксама аб шкоднасці доўгага посту і ўстрымання. Праваслаўны дагматык Парфеній у «моцных» выразах крытыкуе і гэта палажэнне «чараўніка». Вядома, што ерэтыкі Сярэдніх вякоў, а пазней пратэстанты таксама адстайвалі аскетызм. Гэты аскетызм, які выконваў грамадскую функцыю проціпастаўлення жыццёвай практыкі народных мас практыцы жыцця царкоўнікаў, быў умераны, без прызнання неабходнасці «ўтаймавання плоці».

Карэспандэнт «з Літвы» пісаў аб малітве, што «[он] святых на помощь не призывал и литоргеи не слушал». У гэтых словах можна разгледзець адчуванне высокай ступені ўнутранай свабоды чалавека, яго ўзросшую самасвядомасць. Папярэджваем, што «ўнутраны чалавек» Сярэдніх вякоў і «ўнутраны чалавек» эпохі Рэфармацыі мелі значныя адрозненні, паміж гэтымі паняццямі была ідэалогія і практыка Адраджэння.

У пісьме, адрасаваным Парфенію, відаць, выразна адлюстроўваліся іканаборчыя матывы. Рускі карэспандэнт у сваім адказе назваў «шаленствам» тое, што той «пісал... о иконном поклонении»: «Христову... закону равна Аполонову идолу судил еси, богородичину икону равну диеву судил еси, и прочих святых, иже убо идолопоклонение образное скверно и мерзко». І ён робіць вывад: «Ни... дцкам [дошкам] покла-

няемся, но образом написанным христовым и богородичным и всем святым». А яго апанент «з Літвы» лічыў, што наогул «не подобает кроме бога святых на помощь призывати», не гаворачы ўжо аб пакланенні неадушаўлёным прадметам, «паваленым дошкам» — іконам. У гэтых словах можна ўгледзець прадвесце таго напрамку ў ідэалагічным жыцці «Літвы», што адмаўляў неабходнасць абразоў і атрымаў назву «нонадарантызму».

У нас складаецца пэўнае ўражанне. У «Пасланні» ясна паўстаюць абедзве асобы: і карэспандэнт «з Літвы», і сам рускі палеміст. Няцяжка заўважыць, што абодва валодаюць шырокай эрудыцыяй, абодва выхаваны на «кніжным чытанні», абодва майстры ў «спрэчках». Але, як бачым, адзін з іх прыняў новае рэфармацыйнае крэда, другі ж выкарыстоўвае сваю эрудыцыю і красамоўства на адстайванне старых дагматычных ісцін.

* * *

Значны ўплыў на грамадскае жыццё Беларусі канца XV— пачатку XVI ст. мела дзейнасць брацтваў, якія ўзнікалі вакол манастыроў і цэркваў. Гэтыя арганізацыі, што захоўвалі сувязі з цэхамі і гандлярамі, ажыццяўлялі філантрапічна-рэлігійныя функцыі з праваслаўнай арыентацыяй, прадстаўляючы першасную форму народна-патрыятычнай кансалідацыі беларускага і ўкраінскага насельніцтва. У другой палавіне XVI ст. брацтвы ўзмацнілі сваю дзейнасць, пашырылі ўплыў на насельніцтва і ўзначалілі культурна-асветніцкую справу ў краіне. Яны сталі ініцыятарамі развіцця кнігадрукавання і стварэння школ, унёсшы значны ўклад ва ўздым культурнага ўзроўню народа, у выхаванне маладога пакалення і пашырэнне кніжных ведаў.

Гаворачы аб узроўні асветы ў Беларусі гэтай эпохі, трэба адзначыць, што, адыграўшыя вялікую ролю, праваслаўныя «покутныя» школы, якія існавалі пры манастырах і цэрквах са старажытных часоў, у канцы XVI ст. былі рэарганізаваны і сталі значнай сілай у справе асветы. Пры гэтым трэба ўлічваць, што адначасова з імі існавалі і так званыя «лацінскія» школы, дзе таксама, як і ў праваслаўных, значную ўвагу ўдзялялі вывучэнню «рускай» мовы, гэта значыць мовы беларускай і ўкраінскай пісьменнасці. Існуючая ў навуковай літаратуры ацэнка значэння адных і другіх патрабуе пэўнай карэкціроў-

кі, таму што без яе немагчыма скласці правільнае ўяўленне аб узроўні і асаблівасцях асвечанасці ў Вялікім княстве Літоўскім.

Станоўчы сэнс дзейнасці праваслаўных школ для беларускага народа цяжка пераацаніць. Але ў мэтах дасягнення поўнай аб'ектыўнасці трэба ўлічваць і негатыўныя бакі дзейнасці гэтых ачагоў асветы, якія былі непазбежны пры аднабаковай іх арыентацыі. Праваслаўна-артадаксальныя па свайму характару царкоўныя і манастырскія школы выхоўвалі сваіх навучэнцаў у духу нецярпімасці і поўнага адмаўлення заходняй культуры, якую яны лічылі варожай усяму «рускаму». Сляпое пакланенне іх перад усім праваслаўным нават у яго крайнасцях вяло да дагматызму і апраўдання многіх недарэчнасцей царкоўнай практыкі таго часу. Ігнараванне народнай мовы, быццам «непрыгоднай» для культурнай асветы беларусаў, рускіх і ўкраінцаў, прыводзіла да кананізацыі царкоўнаславянскай мовы і пашырала разыходжанне паміж мовай гутарковай і пісьмовай. Усё напісанае лацінскай мовай у гэту эпоху недаацэньвалася, а між тым агульнавядома, што большасць гуманістычных твораў эпохі Адраджэння і Рэфармацыі была створана іменна на латыні.

Адначасова ў гістарычнай літаратуры звычайна недаацэньваецца значэнне для беларускага народа школ, якія існавалі пры каталіцкіх манастырах і касцёлах. З гэтых школ выходзілі не толькі фанатыкі-манахі, як мы часам сабе ўяўляем, але і прагрэсіўныя дзеячы асветы. Нягледзячы на пэўную абмежаванасць, у гэтых школах выкладалі высокі для свайго часу комплекс ведаў. Прадузятая, аднабаковая ацэнка, прызнанне прыярытэту праваслаўнай адукацыі і змяншэнне значэння «лацінства» вядуць да неразумення абставін, у якіх складваліся перадумовы беларускага гуманізму, у тым ліку ўмоў зараджэння ўласна беларускай літаратуры.

Беларуская літаратура гэтага перыяду адыгрывала пэўную ролю ў складванні перадумоў гуманістычнага светапогляду і садзейнічала абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, адлюстроўваючы працэсы, якія развіваліся ў грамадскім жыцці краіны. У сувязі з гэтым трэба адзначыць, што праваслаўная царква данай эпохі ў значнай ступені садзейнічала распаўсюджанню кніжных ведаў у народзе, таму ёй прыходзілася спаборнічаць з каталіцкай стыхіяй і змагацца за розум людзей. Калі б яна ўхілілася ад удзелу ў гэтым працэсе,

барацьба была б вельмі хутка выразана не ў яе карысць. Царква выступала ініцыятарам стварэння літаратуры, якая ставіла за мэту дапамагаць праваслаўнаму духавенству ў выхаванні ў чытачоў маральных уяўленняў і ўмацаванні ў іх рэлігійнай веры. Аб'ектыўна яна садзейнічала выпрацоўцы навыкаў да кніжнага чытання, тым самым узмацняючы свой уплыў на веруючых. Удзел царквы ў справах асветы меў і адмоўны бок: духавенства культывавала ў чытачоў ідэалістычныя, кансерватыўныя ўяўленні аб жыцці, прыродзе і чалавеку.

Добра вядомым і распаўсюджаным сярод беларускіх чытачоў быў жанр «жыцій», прадстаўлены перакладнымі і арыгінальнымі агіяграфічнымі творамі. Сам факт стварэння жанру «жыцій» на нацыянальнай глебе з'яўляецца вельмі знамянальным: ён сведчыць аб узрастанні самасвядомасці ў беларусаў, аб узросшым аўтарытэце нацыянальнай царквы сярод суседніх народаў, а таксама аб уздыме культуры беларускага народа. «Жыціе Аляксея, чалавека божага», «Сказанне аб Барысе і Глебе», «Сказанне аб віленскіх пакутніках» і іншыя жыціі прапаведавалі ідэю подзвігу ў барацьбе за праваслаўе (яно ў тую эпоху ва ўмовах узрастаючых прэтэнзій заходніх дзяржаў да беларускіх земляў было нацыянальнай рэлігіяй беларусаў), ідэю аскетызму і прастаты жыццёвых норм. Апошняе супадала з пропаведдзю «жыдоўствуючых», якія выступалі з крытыкай раскошнага жыцця кліру і свецкіх уладароў. Магчыма, што ў Беларусі перапісчыкам «Жыція Аляксея, чалавека божага» быў хто-небудзь з «жыдоўствуючых», які ўмела выкарыстоўваў рэкамендаваную і апрабаваную праваслаўнай царквой кнігу ў мэтах сваёй «ерэтычнай» прапаганды.

Як вынік узросшых культурных сувязей беларусаў са знешнім светам было зараджэнне жанру так званых «хаджэнняў». Да іх ліку адносіцца «Хаджэнне Ігнацыя Смалняніна» ў Царград і Іерусалім. Чытанне твораў, падобных да гэтых, садзейнічала ўсведамленню беларускім чытачом гістарычнага месца, якое займаў беларускі народ, а таксама пашырэнню культурнага і гістарычнага кругагляду.

Грамадскае жыццё ў Беларусі XV—першай палавіны XVI ст. адлюстравалася і ў творах, якія адносяцца да жанру «летапісаў» і ў якіх мы знаходзім мясцовы матэрыял, што ілюструе найбольш істотныя факты гістарычнага жыцця беларускага народа. Па летапісах мы можам скласці ўяўленне аб ідэалагічнай і класавай барацьбе ў краіне, аб узроўні

развіцця грамадства, культуры і міжнароднага становішча народа. Такія летапісы, як Супрасльскі спіс Беларускага летапісу (1519), спіс Красінскіх, Румянцаўскі, Пазнанскі і іншыя спісы Беларускага II летапісу, «Хроніка Быхаўца»,— ілюструюць ідэі патрыятызму і нацыянальнай самасвядомасці ў перыяд складвання беларускай народнасці.

Дыскусія дзеячоў праваслаўя з прапагандыстамі каталіцызму, выкліканая ўзмацненнем спроб феадальна-каталіцкай агрэсіі ў Беларусі, прывяла да зараджэння жанру палемічнай літаратуры. Недзе каля 1478 г. напісан «Выклад аб праваслаўнай, сапраўднай нашай веры» — акруговае пасланне кіеўскага мітрапаліта Спірыдона; 1511 г. датуецца палемічны дакумент, уключаны духоўнымі дзеячамі Супрасльскага манастыра ў ліку 26 артыкулаў у спецыяльны зборнік. Гэты дакумент таксама мае выразны антыкаталіцкі характар, а яго аўтар праяўляе глыбокую асвядомленасць у грэчаскай патрыстычнай літаратуры.

Канфесіянальна-палемічную афарбоўку мае перапіска Івана III са сваёй дачкой Аленай, якая жыла ў Вялікім княстве Літоўскім і была жонкай караля Аляксандра, а таксама пісьмы самога Аляксандра, датуемыя да 1505 г. Гэта перапіска таксама пралівае святло на ўзаемаадносіны праваслаўя і каталіцтва на тэрыторыі «Літвы».

Карціна рэлігійных узаемаадносін у Царстве Польскім і ў Вялікім княстве Літоўскім вельмі добра ўвасоблена ў «Тлумачальніку заблуджэнняў рускай веры», напісаным на лацінскай мове кракаўскім канонікам-католікам Іванам Сакранам. У гэтым палемічным творы ахарактарызаваны не толькі багаслоўскія разыходжанні паміж католікамі і праваслаўнымі, але і рад пытанняў палітычных.

Ацэньваючы ролю беларускай літаратуры XV—першай палавіны XVI ст. у зараджэнні гуманістычнай ідэалогіі, не трэба ўпадаць у крайнасць і перавялічваць яе заслугі, таму што літаратурныя ўзоры ў той час яшчэ моцна залежаць ад сярэдневяковай багаслоўскай традыцыі і па сутнасці з'яўляюцца працягам літаратурнай традыцыі Кіеўскай Русі. У іх ледзьве намечана дыферэнцыяцыя па нацыянальнаму прызнаку.

Уласна беларускіх помнікаў літаратуры ад XV ст. засталося вельмі мала. Тлумачыцца гэты факт гістарычнымі ўмовамі і ў першую чаргу рознымі нашэсцямі іншаземцаў на беларускія землі. З помнікаў, якія захаваліся, толькі некаторыя,

напрыклад «Хаджэнне Ігнація Смалняніна» і асобныя летапісы, створаны на нацыянальнай беларускай глебе і маюць свецкі характар. Большая ж частка звязана непасрэдна з традыцыяй, а іх аўтары яшчэ самі скаваны ланцугамі сярэдневяковай ідэалогіі і меркаваннямі аб неабходнасці дастасоўваць свае творы да патрабаванняў духоўнай цэнзуры, якая залічвала да разраду «адрачоных» усе кнігі, у якіх былі думкі, што не адпавядалі ўмовам канона. Гэтыя помнікі не маглі яшчэ ў поўнай меры быць ідэалагічнай зброяй у барацьбе супраць феадалізму і клерыкалізму, таму што еўрапейскі свет ужо ведаў гуманізм, новае, рэнесанснае крэда. У беларускіх помніках XV—першай палавіны XVI ст. адчуваецца толькі слабы водгалас новых павеваў, калі не лічыць некаторых літаратурных з'яў, якія абмінулі духоўную цэнзуру, але аб змесце іх мы можам меркаваць толькі па чужой перадачы (напрыклад, па прыведзенаму намі рускаму помніку «Пасланне да невядомага супраць Лютэраў»).

Але нават з пазіцый гэткай надзвычай строгай ацэнкі ролі беларускай літаратуры гэтага перыяду ў складванні ідэалагічных асноў гуманізму можна гаварыць, што яна ў пэўнай ступені адлюстроўвае тыя працэсы, што адбываліся ў грамадскім жыцці народа. Летапісы, багаслоўскія і апакрыфічныя творы, агіяграфіі, перакладныя раманы і аповесці свецкага і рэлігійнага зместу, астралагічныя і варажбітныя кнігі, лячэбнікі, палемічныя і аратарскія творы змяшчалі элементы, якія сведчылі аб узрослай культуры і народнай самасвядомасці. Гэта літаратура ў большай або меншай ступені пачынала трактаваць або ўскосна адлюстроўваць новыя ідэі, якія бытавалі ў грамадстве. Тут можна заўважыць прызнанне неабходнасці ўдасканальвання як грамадства, так і самога чалавека, носьбіта асабістых і грамадскіх ідэалаў. У свеце гэтай неабходнасці ажыццяўлялася пастаноўка праблемы аскетызму і ўстрымання. Энгельс ідэалагічную функцыю аскетызму вызначаў наступнымі словамі: «...аскетычная строгасць нораваў, ...патрабаванне адмаўлення ад усіх уцех і радасцей жыцця, з аднаго боку, азначае вылучэнне супраць пануючых класаў прынцыпа спартанскай роўнасці, а з другога — з'яўляецца неабходнай пераходнай ступенню, без якой ніжэйшы пласт грамадства ніколі не можа прыйсці ў рух» [1]. Агіяграфічная

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 7, стар. 377—378.

літаратура, якая малявала ўзоры аскетычнага жыцця, выступала з асуджэннем спосабу жыцця свецкіх і духоўных феадалаў.

Пропаведзь падзвіжніцтва і пакутніцтва на рэлігійнай глебе, якая змяшчаецца ў агіяграфічнай беларускай літаратуры, пераклікалася з аналагічнай пропаведдзю на глебе барацьбы за «агульную», «народную» справу, «народную веру». Гэта пропаведзь, якая была звяном у ланцугу ідэалагічнай падрыхтоўкі народа, гучала як апраўданне неабходных і непазбежных ахвяр у барацьбе за перадавыя ідэалы свайго часу і ў барацьбе супраць замахаў знешніх ворагаў. Яна была блізкая патрыятычнай ідэі свайго веку.

Беларуская літаратура XV—першай палавіны XVI ст. уключае ў сябе ідэю «самаўладства» так званага «ўнутранага» чалавека. Выяўленая яшчэ ў зародкавым стане, гэта ідэя ў перспектыве свайго развіцця вяла да сцвярджэння прынцыпа свабоднага мыслення, да ўсведамлення чалавекам сваёй каштоўнасці як асобы, вызваленай ад рэлігійных путаў. У гэтай ідэі быў, з аднаго боку, водгалас абшчыннага вечавага дэмакратызму, ва ўмовах якога продкі беларусаў жылі ў папярэднія стагоддзі, з другога — «зерне» будучага крэда, якім кіраваліся пазней удзельнікі радыкальных рэфармацыйных рухаў другой палавіны XVI ст.

Некаторыя апакрыфічныя творы веку змяшчаюць у сябе элемент рацыяналістычнага прадстаўлення аб шматлікіх кананічных палажэннях рэлігіі. Яны ўнушалі новыя думкі аб матэрыяльнай сутнасці Хрыста, абвяргалі пакланенне абразам, пераглядалі адносіны, якія склаліся паміж чалавекам і царквой, чалавекам і ўладай. Гэтыя думкі ў радзе выпадкаў вялі да новага погляду на рэлігію як на «асабістую дабрачыннасць» і «асабістую справу» «самаўладнага» чалавека. Ад такой пастаноўкі пытання да секулярызацыі, «абміршчэння» мыслення наогул і да антыклерыкальных настрояў быў адзін крок.

Некаторыя беларускія літаратурныя ўзоры, а таксама фальклорныя творы ўтрымліваюць ідэю верацярпімасці. Узросшая з неабходнасці суіснавання, гэта ідэя вяла да апраўдання мірнага суіснавання ў канфесіянальнай сферы. Тэзіс «бог адзіны, а вера розная» апраўдваўся неабходнасцю пошукаў месца пад сонцам для ўсіх «моў» і перарастаў у арганічнае адмаўленне міжрэлігійнай рознасці. З ідэі вера-

цярпімасці вырастаў прынцып павагі да іншых народаў. «Усе роўныя перад богам, усе дзеці яго» — гэтыя словы, якія гучалі як евангельская запаведзь, прыводзілі да апраўдання прыязнасці аднаго народа да другога і дапамагалі фармуляваць новыя нормы грамадскага быцця.

Некаторыя помнікі беларускай літаратуры XV—XVI стст. уключаюць у сябе падспудную ідэю адмаўлення прынцыпа непраціўлення злу. Афіцыяльнае вучэнне не прызнавала магчымасці выкарыстання насілля і супраціўлення ў барацьбе, абвяргала якое б там ні было актыўнае супрацьдзеянне злу, прыгнёту і несправядлівасці, лічачы, што толькі мірнай прапаведдзю і хрысціянскім павучаннем можна перарабіць свет зла і перавыхаваць людзей, падрыхтаваўшы іх да царства будучага. Гэтым яна свядома абяззбройвала масы перад неабходнасцю барацьбы за свае правы.

Народныя масы, вымушаныя самім жыццём уступаць на шлях барацьбы за свае матэрыяльныя і духоўныя правы, за народнасць, мову, веру, супраць замахаў з боку іншаземцаў, каталіцкага свету, а ў радзе выпадкаў з боку ўласных феадалаў, не маглі поўнасцю прыняць прынцып непраціўлення злу. Народ бачыў, што змены, якіх ён чакае, немагчымы без разбурэння асноў існуючага грамадскага ладу, без барацьбы супраць прыгнятальнікаў, барацьбы, якая суправаджалася кровапраліццем і насіллем. Самой практыкай свайго жыцця народ абвяргаў тое, аб чым яму гаварыла царква. Літаратура і фальклор у пэўнай ступені адлюстроўвалі гэта адмаўленне. У летапісах ёсць шмат указанняў на факты актыўнага ўмяшання мас ва ўпарадкаванне свайго лёсу.

Распаўсюджанне ў беларускіх землях XV—XVI стст. астралагічных твораў, варажбітных кніг, лячэбнікаў адлюстроўвала «ўсеагульную патрэбу» народа ў ведах аб акаляючым свеце. Выяўленнем гэтай патрэбы была цяга да асветы. Беларускія школы пры брацтвах, якія пачалі існаваць яшчэ ў канцы XV ст., былі канкрэтным адказам на імкненне народа да ведаў, таму яны былі неабходны чалавеку на шляху яго самаўдасканалення, выконвалі істотную ролю ў працэсе складвання матэрыялістычнага светапогляду.

Калі ўсе тэндэнцыі, якія адлюстроўваліся ў грамадскім жыцці Беларусі і ў помніках беларускай пісьменнасці XV — першай палавіны XVI ст., звесці да агульных прынцыпаў, то атрымаем такую карціну. Грамадскае жыццё і літаратура на-

кіроўваліся ў рэчышча антыфеадальнай і антыклерыкальнай барацьбы, развіваліся па шляху секулярызацыі і рацыяналізацыі мыслення. Карціна, якую мы прадставілі толькі ў самых агульных рысах, была гістарычным фонам асветніцкай дзейнасці Францыска Скарыны. Іменна са Скарыны, заснавальніка беларускага гуманізму, пачынаецца гэты вялікі рух, што ўзрос на нацыянальнай глебе, узбагачанай ідэямі, якія прыйшлі з Захаду.

Разгледжаны перыяд выключна багаты ў сэнсе разнастайнасці форм грамадскай свядомасці. Вывучэнне гэтага перыяду падказвае вывад, які можна звесці да таго, што беларускі народ у гэтыя стагоддзі ішоў па цэнтральных магістралях грамадскага развіцця ўсходнеславянскага свету.





Скарына ў друкарні. З карціны мастака П. Сергіевіча



С. А. ПАДОКШЫН

# Гусізм і грамадскі рух Беларусі і Літвы XV—XVII стст.



У 1415 г. 6 ліпеня на плошчы Канстанца па загаду папы рымскага і пры агульным лікаванні каталіцкіх прэлатаў, якія сабраліся на царкоўны сабор, быў спален на кастры прафесар Пражскага універсітэта Ян Гус.

Смерць Гуса ўзрушыла чэшскі народ. Яна з'явілася штуршком да магутнага нацыянальна-вызваленчага і антыфеадальнага руху, што разгарнуўся на тэрыторыі Чэхіі ў першай палавіне XV ст. Гэты рух, які ўвайшоў у гісторыю пад назвай гусіцкага, у сваю чаргу ўскалыхнуў усю Еўропу. Ён паклаў пачатак еўрапейскай Рэфармацыі, падрыхтаваў Вялікую сялянскую вайну ў Германіі, аказаў вялікі ўплыў на грамадскае жыццё еўрапейскіх народаў, у тым ліку беларускага і літоўскага.

Даўняя дружба звязвае беларусаў і літоўцаў з братнім чэшскім народам. На працягу многіх стагоддзяў іх аб'ядноўвалі эканамічныя, палітычныя і культурныя сувязі, сумеснае выступленне супраць нямецкай агрэсіі, агульнасць нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Беларускія купцы былі частымі

гасцямі ў чэшскіх гарадах, а чэшскія — у беларускіх, у прыватнасці ў старажытным і слаўным горадзе Полацку — на радзіме Францыска (Георгія) Скарыны. Старэйшы ў Еўропе Пражскі універсітэт, заснаваны ў 1348 г., гасцінна расчыніў свае аўдыторыі для беларусаў і літоўцаў. У 1397 г. тут была створана асобая калегія для студэнтаў з Вялікага княства Літоўскага [1]. У вялікай бітве пры Грунвальдзе (1410), якая перапыніла шлях нямецкай агрэсіі, плячо ў плячо з беларусамі, літоўцамі, рускімі, украінцамі, палякамі змагаўся чэшскі атрад на чале з Янам Жыжкай.

Весткі аб выступленні Яна Гуса супраць каталіцкай царквы і нямецкага засілля ў абарону нацыянальных правоў чэшскага народа хутка данесліся да берагоў Нёмана і Заходняй Дзвіны. У Беларусі, дзе ў гэты час адбываўся працэс утварэння беларускай народнасці, узмацнялася барацьба супраць пануючай царквы, шырыўся нацыянальны і антыфеадальны рух — ідэі вялікага чэха знайшлі вельмі спрыяльную глебу.

Гус разумеў, што поспех яго справы ў многім будзе залежаць ад таго, наколькі яго падтрымаюць еўрапейскія народы ў барацьбе супраць каталіцкай агрэсіі і нямецкіх феадалаў. Іменна з гэтай місіяй Гус паслаў на Усход Іераніма Пражскага. Наведаўшы Венгрыю, Польшчу, Літву, Іеранім накіраваўся ў Беларусь. У красавіку 1413 г. ён у складзе світы вялікага князя Вітаўта прыехаў у Віцебск. Сустракаць яго выйшаў вялікі натоўп віцебскіх гараджан. Віленскі каталіцкі епіскап паспрабаваў настроіць Іераніма Пражскага супраць беларусаў, называючы іх «схізматыкамі». Аднак Пражскі падтрымаў беларускіх гараджан, называючы іх «добрымі хрысціянамі» [2]. Ён звярнуўся да іх з прамовай і заклікаў падтрымаць барацьбу чэшскага народа. Іеранім прабыў у Віцебску два месяцы і на працягу гэтага часу энергічна прапагандаваў гусіцкае вучэнне сярод віцебскіх гараджан.

Ідэі гусізму пранiклі ў шырокія пласты беларускага і літоўскага насельніцтва. Князь Вітаўт не выпадкова суправаджаў Іераніма Пражскага ў яго паездцы па Літве і Беларусі. Гэтым ён дэманстратыўна даваў зразумець, што падтрымлівае гусіцкі рух. Пры двары вялікага князя таксама было многа

---

[1] Z. J. Kopysski, V. V. Čepko. Ohlas husitství na Bílé Rusi. «Mezinarodni ohlas husitství». Praha, 1958, стар. 105.

[2] Ruch husycki w Polsce. Wroclaw, 1953, № 18, стар. 26—28.

прыхільнікаў гусізму з ліку беларускай і літоўскай шляхты. Калі ў Чэхіі пачалася нацыянальна-вызваленчая вайна, на дапамогу братам-чэхам у 1423 г. з Вялікага княства Літоўскага прыйшло 5-тысячнае беларуска-літоўскае апалчэнне на чале з Сігізмундам Карыбутам. Яго атрад складаўся не толькі з шляхты, але і з беларускіх і літоўскіх сялян і гараджан [1].

Польскі кароль і вялікі князь, а таксама многія польскія, беларускія, украінскія і літоўскія феадалы спачатку спачувальна адносіліся да нацыянальна-вызваленчага руху чэшскага народа. Аднак, убачыўшы, што гэты рух пачынае набываць усё больш выражаны антыфеадальны характар, яны перасталі яго падтрымліваць. Феадалы Польшчы і Вялікага княства Літоўскага заключылі антыгусіцкую канфедэрацыю і звярнуліся «да ўсіх і да кожнага паасобку, да якога б саслоўя ён ні належаў, хто накіраваўся ў Чэхію разам з Сігізмундам Карыбутам», вярнуцца на радзіму [2].

У 20—30-я гады XV ст. уплыў гусіцкіх ідэй у беларуска-літоўскім і польскім грамадстве настолькі ўзмацніўся, што ўрад вымушан быў выдаць некалькі пастаноў, накіраваных супраць прыхільнікаў гусізму ў Беларусі, Літве і Польшчы [3]. Аднак ні рэпрэсіі, ні праследаванні не маглі забараніць беларускаму і літоўскаму народам праяўляць вялікія сімпатыі да чэшскіх гараджан і сялян. Польскі каталіцкі епіскап Збігнеў Алясніцкі ў 1432 г. адзначаў, што нацыянальна-вызваленчы рух чэшскага народа падтрымліваюць у Беларусі і Літве [4]. У 1436 г. для барацьбы з прыхільнікамі гусізму ў Вялікім княстве Літоўскім была ўведзена інквізіцыя.

Пад уплывам гусіцкіх ідэй у Беларусі, Літве і Польшчы ў XV — пачатку XVI ст. узмацняецца барацьба шляхты і гараджан супраць царкоўнай юрысдыкцыі і духоўнага землеўладання. Яна дала штуршок рэфармацыйнаму руху ў гэтых краінах. У польскія, беларускія і літоўскія гарады пачынаюць пранікаць ідэі табарытаў, якія падтрымліваюцца гарадскімі

---

[1] Ruch husycki w Polsce, № 36, 47, 49, 54, 56, 58, 73.
[2] Там жа, № 73, стар. 94.
[3] Там жа, № 76, стар. 99—100; Документы, объясняющие историю Западно-Русского края и его отношение к России и Польше. СПб, 1865, стар. XLVI.
[4] Ruch husycki w Polsce, № 125, стар. 157—158.

нізамі [1]. Польскі кальвініст С. Сарніцкі пазней адзначаў, што радыкальна-рэфармацыйныя ідэі раней за ўсё праніклі ў Польшчу і Вялікае княства Літоўскае з Чэхіі [2].

Гусіцкія ідэі аказалі вялікі ўплыў на дзейнасць і погляды выдатнага беларускага мысліцеля-гуманіста Францыска Скарыны. Гістарычная заслуга Скарыны не толькі ў тым, што ён быў беларускім першадрукаром. Скарына з'яўляўся непасрэдным папярэднікам беларуска-літоўскага рэфармацыйнага руху. Ён падрыхтаваў глебу для яго ўзнікнення і шырокага распаўсюджання ў Беларусі і Літве. У гэтай справе вялікую ролю адыграла перакладзеная Скарынай на беларускую мову «Біблія». Пры перакладзе і выданні «Бібліі» ён абапіраўся перш за ўсё на вопыт смелага чэшскага рэфарматара, які ў свой час таксама працаваў над перакладам «Бібліі» на чэшскую мову. Не выпадкова таксама і тое, што для гэтай мэты беларускі першадрукар выбраў Прагу. З часоў Гуса Прага з'ўлялася цэнтрам нацыянальна-вызваленчай і антыфеадальнай думкі, еўрапейскай Мекай, у якую ішлі на паклон філосафы-вальнадумцы і рэвалюцыйныя дзеячы таго часу. Дастаткова ўспомніць, што ўслед за Скарынаю ў Прагу прыйшоў будучы правадыр і ідэолаг Вялікай сялянскай вайны ў Германіі Томас Мюнцэр. Вядома, што з славянскіх народаў беларускі другім, пасля чэшскага, атрымаў «Біблію» на роднай мове [3].

У эпоху, аб якой ідзе гутарка, пераклад «Бібліі» з лацінскай і стараславянскай на родную мову прадстаўляў сабою прагрэсіўную з'яву, якая, па вызначэнню К. Маркса, сведчыла аб абуджэнні народа [4]. Ян Гус, Францыск Скарына, Марцін Лютэр і іншыя рэфарматары зрабілі вялікі гістарычны подзвіг, пераклаўшы «Біблію» на мовы сваіх народаў. Калі раней чытаць «Біблію» маглі толькі тыя, хто ведаў старажытныя мовы, г. зн. духавенства і адукаваныя феадалы, то пасля перакладу «Бібліі» на родную мову доступ да яе атрымалі ўсе пісьменныя людзі. Пісьменнаму гараджаніну і селяніну ўжо не трэба было прасіць свяшчэнніка, каб той дапамог прачытаць адпаведнае месца з «Бібліі». А гэта ў сваю чаргу давала

[1] E. Maleczyńska. Ze studiów nad ideologią drobnego mieszczaństwa w Polsce XY i początków XYI w. «Przegląd historyczny», 1957, XLVIII, стар. 436—459.

[2] Literatura ariańska w Polsce. Warszawa, 1959, стар. VII.

[3] Z. J. Kopysski, V. V. Čepko. Ohlas husitství..., стар. 106—108.

[4] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 29, стар. 18.

яму магчымасць самастойна падумаць над біблейскімі тэкстамі і крытычна ацаніць іх.

Еўрапейскія рэфарматары, хацелі яны таго ці не, пераклаўшы «Біблію» на народную мову, ператварылі яе ў магутную сацыяльную зброю. У «Бібліі», якая дзякуючы склаўшымся гістарычным умовам карысталася ў эпоху Сярэдневякоўя вялікай папулярнасцю, паўстаўшыя гараджане і сяляне знаходзілі ідэйнае апраўданне сваёй барацьбе. На свяшчэннае пісанне спасылаліся ідэйныя нашчадкі Гуса — табарыты, якія ў барацьбе з каталіцкай царквою і феадаламі заклікалі чэшскі народ «скрывавіць свае рукі крывёю паганцаў». У гнеўных пропаведзях старазапаветнага прарока Ісайі бачыў Томас Мюнцэр заклік да прымусовай перабудовы існуючага грамадства. Евангельскімі прынцыпамі апраўдваў беларускі радыкальна-рэфармацыйны дзеяч другой палавіны XVI ст. Якуб з Калінаўкі свае патрабаванне ліквідацыі прыгоннага права ў Беларусі і Літве.

Такім чынам, становіцца зразумелай і тая вялікая роля, якую адыграла для Беларусі і Літвы XVI—XVII стст. дзейнасць Скарыны па перакладу «Бібліі», і станоўчы ўплыў на яго гусіцкага вучэння.

Памяць аб Скарыне як носьбіту гусіцкіх традыцый трывала ўмацавалася ў свядомасці наступных пакаленняў. «Гусіцкім ерэтыком» называў Скарыну адзін з ідэолагаў феадальнай рэакцыі першай палавіны XVII ст. уніяцкі архімандрыт Анастасій Сялява [1]. У светапоглядзе Скарыны мы знаходзім водгукі не толькі ўмераных, але і рэвалюцыйных ідэй гусізму. Яго думка — «ровная свобода всем, общее имение всех», якую ён выказаў у прадмове да «Другазаконня», носіць яўны адбітак ідэалогіі чэшскіх табарытаў.

На працягу XV—XVI стст. крыніцай, адкуль у Беларусь і Літву пранікалі гусіцкія ідэі, з'яўляўся Кракаўскі універсітэт. Гусіцкае вучэнне карысталася вялікай папулярнасцю сярод яго прафесараў і студэнтаў. У Кракаўскім універсітэце навучаліся вядомыя гуманісты і рэфарматары Беларусі і Літвы Францыск Скарына, Сымон Будны, Лаўрэнцій Крышкоўскі, Кіпрыян Базілік, Пётр з Ганёндза (Ганезій), Сымон Жак і інш. Вядома, што універсітэцкая атмасфера, прасякнутая ідэямі гусізму, не магла не аказаць на іх уздзеянне. Калі не

[1] АЮЗР. Киев, 1914, т. VIII, ч. I, стар. 717.

ў Полацку, то, відаць, у Кракаўскім універсітэце Скарына сутыкнуўся з гусізмам. Магчыма, іменна тут у яго нарадзілася думка аб перакладзе і выданні «Бібліі» на роднай мове. Бліжэйшым вучнем прафесара Кракаўскага універсітэта Якуба з Ілжы, перакананага прыхільніка гусіцкага вучэння, быў Сымон Жак, пазней вядомы рэфармацыйны дзеяч Беларусі і Літвы [1].

Гусіцкія ідэі аказалі значны ўплыў на фарміраванне ідэалогіі беларуска-літоўскага рэфармацыйнага руху. Рэфармацыя, якая ахапіла ў другой палавіне XVI ст. Беларусь і Літву, была рэлігійна аформленым сацыяльна-палітычным рухам, накіраваным супраць пануючай царквы, а ў сваім радыкальным праяўленні і супраць існуючага феадальнага ладу. У ёй прынялі ўдзел гараджане, шляхта, магнаты, прадстаўнікі тагачаснай інтэлігенцыі і ў вельмі нязначнай ступені сяляне. Аналіз дакументальнага матэрыялу эпохі сведчыць аб тым, што беларуска-літоўскі рэфармацыйны рух сфарміраваўся на айчыннай эканамічнай, сацыяльна-палітычнай і ідэйнай аснове. Побач з тым факты сведчаць, што гэты рух у Беларусі і Літве не быў нацыянальна-абмежаванай з'явай, а ён цесна звязан з рэфармацыйнымі і гуманістычнымі традыцыямі Расіі, Польшчы, Германіі, Італіі, Чэхіі.

У першай палавіне XVI ст. у суседняй з Беларуссю і Літвой Вялікай Польшчы аселі выгнаныя з роднай краіны патомкі табарытаў — чэшскія браты. Гэта былі галоўным чынам рамеснікі і сяляне. Трэба адзначыць, што з іх асяроддзя выйшаў вялікі чэшскі педагог Ян Амос Каменскі, які доўгі час жыў па суседству з Беларуссю і Літвой у вялікапольскім горадзе Лешне. Чэшскія браты не прытрымліваліся рэвалюцыйных метадаў барацьбы, аднак яны захавалі шматлікія дэмакратычныя традыцыі і пэўны антыфеадальны настрой. Польскія, беларускія і літоўскія рэфарматары ўстанавілі цесныя кантакты з чэшскімі братамі. Яны часта наведвалі адзін аднаго, абменьваліся думкамі. У 1555 г. у г. Казмінку (Калішскае ваяводства) паміж чэшскімі братамі і іх польскімі аднадумцамі была заключана унія. З асобай сімпатыяй адносіліся да чэшскіх братоў дэмакратычныя пласты польскай і беларуска-

---

[1] K. Lepszy i A. Kamińska. Geneza i program społeczny radykalnego nurtu braci polskich. «Odrodzenie i Reformacja w Polsce». Warszawa, 1956, t. I, стар. 49.

літоўскай рэфармацыі, між тым прадстаўнікі шляхты глядзелі на іх з недавер'ем. Справа ў тым, што на сумесных сінодах (напрыклад, у 1560 г. у Познані) чэшскія браты паставілі пытанне аб змяншэнні феадальных павіннасцей сялян і патрабавалі, каб царкоўныя дзесяціны не ішлі на карысць шляхце, а выкарыстоўваліся на патрэбы школ, друкарняў, на дапамогу бедным [1].

Між тым у беларуска-літоўскім рэфармацыйным руху ўзмацняецца дэмакратычны напрамак. Яго ідэолагі праяўляюць большую цікавасць да становішча народных нізоў і, у прыватнасці, да існуючага феадальнага грамадства і дзяржавы. Умеранае вучэнне чэшскіх братоў ужо не задавальняла ідэйных запатрабаванняў дэмакратычных дзеячоў беларуска-літоўскай рэфармацыі, і яны звяртаюцца да больш радыкальных нашчадкаў гусіцкіх традыцый — мараўскіх анабаптыстаў.

Хто яны, гэтыя мараўскія анабаптысты, за якімі ў другой палавіне XVI ст. пільна сачылі многія грамадскія дзеячы і мысліцелі Беларусі і Літвы? Маравія была той вобласцю, дзе на працягу XV—XVI стст. знаходзілі прытулак праследуемыя феадальнымі ўладамі ўдзельнікі народных паўстанняў і вальнадумцы. Пачатак мараўскім абшчынам паклалі табарыты. Пасля паражэння сялянскага паўстання 1524—1525 гг. у Германіі ў паўднёва-ўсходняй частцы Маравіі знайшлі прытулак многія нямецкія сяляне і гараджане. У 1535 г. сюды прыйшлі ўцалелыя пасля разгрому Мюнстэрскай камуны паўстанцы. К сярэдзіне XVI ст. на поўдні Маравіі існавала ўжо многа анабаптысцкіх абшчын, якія ўвогуле налічвалі 20 тысяч чалавек [2].

Асноўную масу мараўскіх анабаптыстаў складалі рамеснікі і сяляне. Іх абшчыны былі арганізаваны на прымітыўных камуністычных пачатках: тут не існавала прыватнай уласнасці, усе абавязаны былі працаваць і валодаць якім-небудзь рамяством, даходы ішлі ў агульную касу. Паколькі ў мараўскіх абшчынах былі сканцэнтраваны рэвалюцыйна настроеныя гараджане і сяляне, яны, відавочна, ненавідзелі існуючы феа-

---

[1] Н. Любович. История Реформации в Польше (Кальвинисты и антитринитарии). Варшава, 1883, стар. 151—154.

[2] S. Kot. Ideologia polityczna i społeczna braci polskich zwanych arianami. Warszawa, 1932, star. 8.



ПОЧИНАЕТЬСЯ АКАФІСТЪ
ПРЕСЛАДКОМУ ІМЕНИ
ГД҃А НАШЕГО ІС҃А ХР҃А ГЛАГОЛЕ
МЫ ПОВСІА ДНИ :~

РАДОСТИ

Стихъ а҃ :~



Почитаімъ славную памятъ твою всегдꙋ похвалныи Іоанне Гд҃нь предтече, болеи всехъ пророковъ, о ниже сло весы хр҃та проповедавша, ты бо показавыи его перстом гл҃а, се агнецъ божии возимляи грехъ миру, того моли подати нам велию свою милость :~

Стихъ вторы :~

Иже зачатиемъ своимъ отца удивилъ сочетъ матерни створителя своего пере[illegible] и копрышеніемъ его яко всесветии его царя радость спокоянниемъ показа[illegible] тейже достоинъ былъ іси, отсветлие [illegible] ходимого светлость примати, и сподобися посвящена бытии, сегоради приносимъ по[illegible] радостная честныи Іоанне предтече :~

Стихъ трети :~

Старонкі з «Малой падарожнай кніжыцы»

дальны лад. Пацярпеўшы паражэнне ў паўстаннях, яны не адмовіліся ад сваіх перакананняў, а толькі змянілі метады барацьбы. Іх супраціўленне феадалізму праяўлялася не ў адкрытых выступленнях, а ў форме адмаўлення існуючых грамадскіх і дзяржаўных інстытутаў. Яны не прызнавалі свецкую ўладу, маёмасную і саслоўную няроўнасць, сацыяльны прыгнёт, рашуча выступалі супраць прыгонніцтва, адмаўлялі пануючую царкву, асуджалі феадальныя войны. Кожны, хто ўступаў у абшчыну мараўскіх братоў, павінен быў прыняць паўторнае хрышчэнне. Адсюль і назва анабаптысты, г. зн. перахрышчэнцы.

Пад уплывам сацыяльных ідэй мараўскіх анабаптыстаў складваўся светапогляд ідэолага беларуска-літоўскай радыкальнай рэфармацыі Пятра з Ганёндза (нарадз. паміж 1525—1530 гг., памёр у 1573 г.). Радзімай яго было мястэчка Ганёндз на Падляшшы, якое да 1569 г. уваходзіла ў склад Вялі-







Старонкі з «Апостала» выдання Ф. Скарыны

кага княства Літоўскага. Нацыянальная прыналежнасць Пятра дакладна не вядома, ён быў або беларусам, або літоўцам. Скончыўшы Кракаўскі універсітэт, Пётр на сродкі багатых апекуноў едзе за мяжу для заканчэння адукацыі. Ён жыў у Італіі, дзе ў Падуанскім універсітэце чытаў лекцыі па сафістыцы. Пазнаёміўшыся з вучэннем Мігеля Сервета, ён стаў гарачым прыхільнікам рацыяналістычных і дэмакратычных ідэй вялікага іспанца. Затым пабываў у Швейцарыі. У 1555 г. Пётр наведаў Маравію. Тут ён блізка сышоўся з мясцовымі анабаптыстамі і пазнаёміўся з іх жыццём і вучэннем.

Салідарны з іх поглядамі, Пётр з Ганёндза апаясаўся драўляным мячом. Вярнуўшыся на радзіму, ён пасяліўся ў Венграве (на Падляшшы), якое належала Анне Кішцы, удаве віцебскага ваяводы. У 1556 г. на з'ездзе польскіх, беларускіх і літоўскіх пратэстантаў у Сецыміне (Малая Польшча) Пётр выступіў з выкладаннем асноўных палажэнняў вучэння

мараўскіх братоў. З яго вуснаў захопленая аўдыторыя пачула радыкальна-рэфармацыйны заклік прывесці жыццё сучаснага яму грамадства ў адпаведнасць са спосабам жыцця першахрысціянскіх абшчын [1]. «Ураўнаванне дваранства з сялянамі, патрыцыяў і прывілеяваных гараджан з плебеямі, адмена паншчыны, аброкаў, падаткаў, прывілеяў і знішчэнне прынамсі найбольш відавочных маёмасных адрозненняў — вось тыя патрабаванні, якія выстаўляліся з большай або меншай пэўнасцю як неабходныя вывады з вучэння ранняга хрысціянства» [2], — пісаў Ф. Энгельс, раскрываючы сацыяльную сутнасць падобнага роду лозунгаў. Слухачы Пятра з Ганёндза, сярод якіх было многа шляхціцаў, добра зразумелі, што хаваецца за яго рэлігійнымі алегорыямі. Яны жыва ўявілі сабе грохат табарыцкіх павозак і зарава палаючых феадальных замкаў. Таму не дзіўна, што большасць прысутных рашуча асудзілі яго ідэі. І ўсё ж у душы некаторых Пётр пасеяў зерні сумнення. Хутка яны далі добрыя ўсходы.

У Беларусі і Літве ў Пятра знайшлося многа паслядоўнікаў. Сярод іх нясвіжскі вальнадумец Лаўрэнцій Крышкоўскі, асветнік і гуманіст, люты вораг прыгонніцтва. Ён прапагандаваў сацыяльныя ідэі мараўскіх братоў у Нясвіжы і яго ваколіцах [3]. Наколькі глыбока сацыяльныя ўяўленні анабаптызму праніклі ў беларускае грамадства, сведчыць той факт, што Сымон Будны ў сваім «Катэхізісе» адвёў значнае месца палеміцы з анабаптыстамі [4].

У сярэдзіне 60-х гадоў XVI ст. Пётр з Ганёндза выдаў працу «Аб першахрысціянскай царкве», якая, на жаль, не захавалася. Гэта праца напісана пад уплывам сацыяльных ідэй мараўскага анабаптызму і накіравана супраць феадальнага грамадства і дзяржавы. Змест яе ў агульных рысах перадае Будны ў сваім творы «Аб свецкай уладзе». Пётр з Ганёндза,

---

[1] Н. Любович. История Реформации в Польше, стар. 218—220; S. Kot. Ideologia..., стар. 16; J. Łukaszewicz. Dzieje kościołów wyznania helwieckiego w Litwie. Poznań, 1843, t. II, стар. 108; S. Lubieniecius. Historia Reformationis Polonice. Freistadii, 1685, стар. 111—115.

[2] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 7, стар. 362—363.

[3] Z. Kormanowa. Bracia polscy 1560—1570. «Rozpr. Histor. TNW». Warszawa, 1929, t. YII, z. 3, стар. 82—83; J. Łukaszewicz. Dzieje kościołów, t. II, стар. 54.

[4] Катихисис то ест наука стародавная христианьская от своего писма для простых людей языка руского в пытаниах и отказех собрана. Несвиж, 1562, стар. 54, 58 адв.

пісаў ён, даказваў, што «сапраўднаму хрысціяніну» «нельга займаць дзяржаўныя пасады, ён не можа быць каралём, князем, гетманам, ваяводам, старастам, сотнікам, салдатам... Ён не павінен мець маёнтак і несці вайсковую службу...»[1]. Гэтыя сацыяльна-палітычныя патрабаванні не толькі па свайму зместу, але і па фармулёўцы вельмі нагадваюць табарыцкія артыкулы. Кніга Пятра з Ганёндза паклала ў Беларусі і Літве пачатак шырокай антыфеадальнай прапагандзе, з якой выступілі радыкальна настроеныя рэфармацыйныя дзеячы.

Услед за Пятром беларускія радыкальныя рэфарматары Якуб з Калінаўкі і Павел з Візны ў 1568 г. на сінодзе ў Іўі (каля Маладзечна) рашуча асудзілі прыгонніцтва і ўсю існаваўшую сістэму феадальнай эксплуатацыі ў Беларусі і Літве. Вось што гаварыў на сінодзе Якуб: «Не можа і не павінна быць сярод сапраўдных хрысціян розніцы паміж яўрэем і грэкам, паміж рабом і свабодным — усе людзі павінны быць роўнымі». «Нельга назваць справядлівым тое грамадства, дзе людзі валодаюць прыгоннымі сялянамі, а брат пануе над братам». «На зямлі не павінна быць паноў, у нас ёсць толькі адзін пан — Ісус Хрыстос». Павел з Візны з абурэннем заяўляў: «Я так разумею і так веру, што вернаму нельга мець прыгонных сялян, а тым больш нявольнікаў і нявольніц. Гэта язычаства — панаваць над сваім братам, смактаць яго кроў. Паколькі свяшчэннае пісанне яскрава сведчыць, што бог з адной крыві зрабіў род чалавечы, то ўсе мы роўныя, а калі мы з адной крыві, значыць, усе мы браты, а калі мы браты, то як жа можа брат над братам панаваць?»[2]. Такія ж ідэі прапаведавалі ў XV ст. табарыты: «Не будзе на зямлі ні каралёў, ні ўладароў, ні падданых, знікнуць усе падаткі і налогі, ніхто нікога не будзе прымушаць да чаго-небудзь, паколькі ўсе аднолькава будуць братамі і сёстрамі». «Не трэба выбіраць на зямлі ніякага караля, таму што будзе царстваваць сам Ісус Хрыстос»[3].

Нягледзячы на тое, што беларускіх і літоўскіх рэфарматараў амаль паўтара стагоддзя аддзяляюць ад чэшскіх табарытаў, агульнасць іх ідэйных поглядаў не выклікае сумнення, як і не выклікае сумнення ўплыў табарыцкай ідэалогіі на белару-

---

[1] S. Budny. O urzędzie miecza używającem. Warszawa, 1932, стар. 20.
[2] Там жа, стар. 184—186, 208, 210—211.
[3] Ю. М. Сапрыкин. Крестьянские движения в Западной Европе в XIV—XVI вв. М., 1960, стар. 32.

ка-літоўскі радыкальна-рэфармацыйны рух. Нас не павінна бянтэжыць рэлігійная форма тых сацыяльных патрабаванняў, якія выстаўлялі існуючаму феадальнаму ладу чэшскія табарыты і беларускія радыкальна-рэфармацыйныя дзеячы. Такой была эпоха. Народныя масы Сярэдневякоўя, выхаваныя на рэлігійнай глебе, іменна ў такім выглядзе як нельга лепш засвойвалі сацыяльныя тэорыі. Каб мець поспех, усякая ідэя ў той час павінна была асвячацца аўтарытэтам бібліі.

Вучэнне мараўскіх анабаптыстаў у многім садзейнічала складванню сацыяльных поглядаў Марціна Чэховіца (1532—1613), вучня і паслядоўніка Пятра з Ганёндза, правадыра плебейска-сялянскага крыла беларуска-літоўскай і польскай радыкальнай рэфармацыі. Нарадзіўся ён у Збоншыне (каля Познані) у сям'і рамесніка. На сродкі багатых апекуноў быў накіраван вучыцца за мяжу. У 1559 г. па запрашэнню Мікалая Радзівіла Чорнага, канцлера Вялікага княства Літоўскага, Чэховіц прыязджае ў Вільню і займае пасаду настаўніка пратэстанцкай школы. У чэрвені 1561 г. па даручэнню свайго патрона ён наведаў Швейцарыю. Па дарозе дадому Чэховіц затрымаўся ў Маравіі, дзе наведаў адну з абшчын мараўскіх братоў. Вярнуўшыся ў Вільню, пачаў распаўсюджваць сацыяльныя ідэі анабаптызму сярод гараджан. У 1565 г. па загаду гарадскога магістрата ён вымушан быў пакінуць сталіцу Вялікага княства Літоўскага [1].

Пасяліўшыся ў Любліне, Чэховіц у 1575 г. выдаў свой твор «Хрысціянскія гутаркі». Хоць аўтар зыходзіць з канкрэтнай сацыяльна-палітычнай абстаноўкі Польшчы, Беларусі і Літвы другой палавіны XVI ст., у гэтай кнізе яскрава чуваць пульсуючае біццё радыкальных гусіцкіх ідэй. Твор Чэховіца накіраван быў не толькі супраць асноўных устояў існуючага грамадства і дзяржавы, але і супраць эксплуатацыі наогул, не толькі супраць феадальнай уласнасці, але і супраць прыватнай уласнасці наогул, не толькі супраць сацыяльных перагародак феадалізму, але і супраць усякай грамадскай няроўнасці. Ён выступіў з тэорыяй грамадскай перабудовы, якая яшчэ ў XV ст. была прапанавана табарытамі, а пазней падхоплена і развіта правадыром паўстаўшых нямецкіх сялян і бед-

---

[1] Н. Любович. Люблинские вольнодумцы XVI в. Варшава, 1902, стар. 9; J. Płokarz. Jan Niemojewski. «Reformacja w Polsce», 1922, № 2, стар. 76.

ных гараджан Томасам Мюнцэрам. І табарыты, і Мюнцэр вучылі, што «стары свет антыхрыста», пад якім яны разумелі існуючы феадальны лад, павінен быць разбуран і на яго месцы створана «царства Хрыстова» — грамадства ўсеагульнай роўнасці і справядлівасці. Гэта вучэнне з'явілася рэлігійна-фантастычным адлюстраваннем будучага ў свядомасці сярэдневяковых плебеяў і, у ацэнцы Энгельса, прадстаўляла сабою першапачатковую форму праяўлення утапічнага камунізма [1].

Як і яго папярэднікі, Марцін Чэховіц у сваім творы гаворыць аб існаванні двух светаў. Да першага — «свету антыхрыста» — ён адносіць існуючы феадальны лад разам з пануючай царквой. Да другога — «свету верных», або «сапраўдных хрысціян», — усіх прыгнечаных. Паміж двума светамі ідзе пастаянная барацьба. Непазбежным яе вынікам з'явіцца крушэнне «свету антыхрыста» і перамога «верных», пасля чаго ўстановіцца «царства божае», у якім не будзе ні паноў, ні падданых, ні начальнікаў, ні падначаленых [2].

Нягледзячы на тое, што ў чэшскіх табарытаў і беларускіх і літоўскіх радыкальных рэфарматараў было многа агульнага, у радзе пытанняў іх погляды разыходзіліся. Калі табарыты прапаведавалі прымусовае звяржэнне старога свету, то Чэховіц адмаўляў узброеную барацьбу.

У другой палавіне XVI ст. пытанне аб адносінах да існуючага феадальнага грамадства і дзяржавы ажыўлена абмяркоўвалася ў радыкальна-рэфармацыйных колах Беларусі і Літвы. У 1568 г. віленскі гараджанін Лукаш Мундзіус прапанаваў стварыць інтэрнацыянальную камуністычную абшчыну на аснове сацыяльных прынцыпаў мараўскіх братоў. У 1569 г. такая абшчына была заснавана ў Ракаве (Сандамірскае ваяводства). З Беларусі і Літвы сюды прыехала група гараджан, прапаведнікаў і шляхціцаў на чале з Якубам з Калінаўкі і Лукашом Мундзіусам [3]. Ва ўмовах таго часу гэта была вельмі дзёрзкая спроба. Не дзіўна, што праз некалькі год абшчына распалася. Высакародная дзейнасць ракаўскіх летуценнікаў не вытрымала сутыкнення з феадальнай рэчаіснасцю і пацярпела крах, як пазней гэта здарылася з сацыяльным эксперыментам іх англійскага паслядоўніка Роберта Оўэна.

---

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 19, стар. 191.
[2] M. Czechowic. Rozmowy chrystyańskie, 1575, стар. 176—182.
[3] S. Budny. O urzędzie miecza używającem, стар. 180.

Гусіцкія традыцыі прасочваюцца ў творчасці віднага прадстаўніка беларускай культуры другой палавіны XVI ст. гуманіста і рэфарматара Сымона Буднага (1530—1593). Ужо ў першай працы — «Катэхізісе» (яна была напісана сумесна з Лаўрэнціем Крышкоўскім і Мацвеем Кавячынскім і надрукавана ў 1562 г. у Нясвіжы) Будны, як у свой час і Гус, выступае выразнікам нацыянальнай беларускай культуры, сцвярджаючы яе галоўны атрыбут — мову народа. На старонках «Катэхізіса» ён рэзка крытыкаваў пануючую царкву і хрысціянскае вучэнне. Як і Гус, ён асуджаў маральнае разлажэнне і прадажнасць духавенства, выступаў супраць царкоўнага землеўладання, супраць ператварэння духавенства ў асобае прывілеяванае саслоўе. Таксама як і чэшскі рэфарматар, Будны патрабаваў змякчэння феадальнай эксплуатацыі. Ён паказваў дэспатызм шляхты, называючы паноў і іх упраўляючых «акрутнікамі, мучыцелямі, ліхвярамі, лупежнікамі». Калі «Катэхізіс» прачытаў сучаснік Буднага — маскоўскі вальнадумец Арцемій, ён адразу заўважыў у поглядах беларускага мысліцеля ўплыў гусіцкіх ідэй. Абвінавачваючы Буднага ў тым, што ён «многие ереси преже бывших еретик обновиша в себе», Арцемій называе ў ліку іншых вучэнне «Гусиана некоего» [1]. Пры перакладзе «Бібліі» Будны, як і Скарына, таксама выкарыстаў вопыт Яна Гуса.

Беларускі вальнадумец Стэфан Зізаній (канец XVI ст.) таксама адчуваў уплыў гусіцкіх ідэй. Абставіны, у якіх даводзілася яму дзейнічаць, напаміналі эпоху чэшскага нацыянальна-вызваленчага руху. Узначаліўшы антыуніяцкую барацьбу беларускага насельніцтва горада Вільні, якая з'яўлялася па сутнасці барацьбой нацыянальна-вызваленчай, Стэфан Зізаній выступіў з рэзкай крытыкай каталіцызму, папства, духоўных і свецкіх феадалаў. У творы «Казанне святога Кірыла» ён таксама, як і Гус, называў папу антыхрыстам. Зізаній блізка падышоў да думкі аб тым, што няма неабходнасці ў існаванні афіцыяльнай царквы. Ён патрабаваў рэлігійнай верацярпімасці ў Беларусі. У сваіх гарачых пропаведзях перад віленскімі гараджанамі Зізаній, як калісьці табарыцкія прапаведнікі, маляваў грозную карціну гібелі існуючага свету насілля і несправядлівасці. Ён заклікаў беларускі народ да актыўнай барацьбы супраць каталіцкай агрэсіі і прымусовай

---

[1] Послания старца Артемия, РИБ, т. IV. СПб, 1878, сл. 1312.

унізацыі, за свабоду і нацыянальную незалежнасць. Падобна бедным табарыцкім свяшчэннікам, Стэфан Зізаній прапаведаваў узбуджаным гараджанам хуткае прышэсце на зямлю Хрыста і ўстанаўленне «тысячагадовага царства» роўнасці і справядлівасці [1]. Ні рэлігійны характар яго пропаведзей, ні фантастычныя біблейскія вобразы, да якіх ён звяртаўся, не маглі схаваць ад слухачоў сапраўдны змест тых ідэй, якія ён імкнуўся данесці да іх. Людзі таго часу вельмі добра ўлоўлівалі сацыяльны падтэкст, які хаваўся за біблейскімі прытчамі і рэлігійнымі фантасмагорыямі.

Такім чынам, гусіцкія ідэі на працягу некалькіх стагоддзяў аказвалі спрыяльны ўплыў на грамадскі рух і ідэйнае жыццё Беларусі і Літвы. У нацыянальна-вызваленчай барацьбе беларускага народа і ў яго культурным развіцці, у дзейнасці Скарыны і ў светапоглядзе Буднага, у антыфеадальных і наіўна-камуністычных поглядах беларускіх і літоўскіх радыкальных рэфарматараў і ў пропаведзях Стэфана Зізанія — усюды мы бачым або непасрэдны і прамы ўплыў вучэння Яна Гуса, або апасродкаваны, трансфармаваны ў поглядах яго ідэйных нашчадкаў.

---

[1] Қазанье святого Кирилла Патриарха Иерусалимского о антихристе и знаках его с расширением науки против ересей розных. Вильно, 1596, стар. 32—34, 63—64.






Ф. Скарына. Мастак Я. Кругер



З. Ю. КАПЫСКІ

# Полацк часоў Ф. Скарыны



ворчы подзвіг выдатнага беларускага гуманіста Францыска (Георгія) Скарыны, здзейснены 450 гадоў таму назад у чэшскай сталіцы, сваімі каранямі ўваходзіць у родную глебу. У сценах бацькоўскага дома ў родным Полацку зарадзілася ў юным Францыску іскра прызвання, якая вызначыла ўвесь яго жыццёвы шлях.

У гады дзяцінства і юнацтва Скарыны, што выпалі на апошняе дзесяцігоддзе XV — пачатак XVI ст., Беларусь пачынала новую старонку сваёй гісторыі. Разгром разбойніцкага гнязда «псоў-рыцараў» — Тэўтонскага ордэна, што сеяў смерць і разбурэнні на польскіх, літоўскіх і беларускіх землях, дазволіў гэтым народам свабодней уздыхнуць. Скінуўшы татарскае ярмо, ажыў рускі народ. Пазбаўленне ад векавога чужаземнага прыгнёту ўжо само па сабе было важнай вяхой, якая адкрыла шлях к далейшаму прагрэсу краіны.

Вялікае княства Літоўскае, у складзе якога знаходзілася і Беларусь, у другой палавіне XV ст. дасягнула прыкметнай палітычнай кансалідацыі. Вярхоўная ўлада рабіла спробы ўсталяваць у краіне парадак і закон, суняць феадальнае сама-

вольства. Умацаванню яе пазіцый унутры краіны ў немалой ступені садзейнічала і эканамічнае развіццё гарадоў: рост рамеснай вытворчасці і гандлёвай дзейнасці. У сувязі з гэтым хутка расла і ўзнімалася роля купецтва ў эканамічным развіцці краіны. Між іншым, у Полацку купецтву здаўна належала адна з вядучых ролей.

Калі меркаваць па дайшоўшых да нас вельмі скупых звестках, беларускае купецтва, пашыраючы свае пазіцыі на ўнутраным рынку, у другой палавіне XV ст. імкнулася замацаваць за сабой права пасрэдніцтва ў гандлёвых здзелках, што рабіліся чужаземнымі купцамі на рынках беларускіх гарадоў. Вельмі пераканальна сведчыць аб гэтым скарга Пскова ў 1465 г. У ёй паведамлялася вялікаму князю літоўскаму: «По твоей державе по городом воеводы и мещане нашим псковичом купцом с немцы торговати не дают». Далей Пскоў прасіў, каб яго купцам у гарадах Вялікага княства Літоўскага «не бранили торговати с немцы и со всяким гостем...» [1] Полацкае купецтва дамагалася права весці на роўных умовах гандаль з купцамі Рыгі і Смаленска. Адмаўленне Рыгі дазволіць палачанам правоз «вадою і зямлёю» тавараў, мінаючы Рыгу, у гарады і порты Прыбалтыкі прывяло да таго, што Полацк таксама паклаў забарону на правоз рыжанамі тавараў у Віцебск, Смаленск і Маскву. Прынцып гэты быў замацаван у прывілеі Полацку 4 кастрычніка 1498 г.[2] Прывілей 1505 г. Смаленску таксама зыходзіў з прынцыпа роўнасці, у ім рабілася агаворка, што «естли бы Полочане брали на Смолнянех мыто от соли и от воску, и его милость также смолняном велел брати на Полочанех от соли и от воску; а естли бы Полочане на Смолнянех не брали ино и Смолняном на Полочанох не брати» [3].

Гандлёвая дзейнасць беларускіх гарадоў к канцу XV ст. пачала даваць казне значныя сумы. Так, за кошт карчомнага падатку і пошлінных збораў з 15 беларускіх гарадоў вялікі князь літоўскі Казімір у 1486—1490 гг. зрабіў 563 выдачы грашовых субсідый «князем, паном и двораном, и земяном» на

---

[1] ЦДАСА, ф. 389. Метрыка літоўская, спр. 4, л. 109.

[2] Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов, т. I. Минск, 1959, стар. 265; Русско-ливонские акты. СПб, 1868, стар. 380—381.

[3] М. К. Любавский. Очерки Литовско-Русского государства. М., 1910, стар. 347.

велізарную для таго часу суму 3859 коп грошаў [1]. Беларускія гарады сталі важным рынкам збыту і набыцця тавараў для купецтва Вялікага княства Маскоўскага. Не выпадкова маскоўскія паслы ў час перагавораў дамагаліся адмены новых таможных пошлін, якія былі ўведзены ў 80—90-я гады XV ст. у радзе гарадоў Беларусі. У 1488 г. яны заклапочана адзначалі, напрыклад, што «в Гомье наперед таго имали по два гроша с воза, да по четыре пенязи, и нынче князь Семен... прибавил в Гомье тритцатое. А в Колодичах не бывало ничего, а нынче емлют по грошу с воза... А во Менску наперед того имали по пять грошей с возу, а нынче князь Дмитрий Путятин прибавил тритцатое. А ис Полоцка хто едет на Свир, да на Молодечну к Вилне и они емлют в Вилне тритцатое Смоленское, да другое тритцатое Менское, а наперед того не бывало» [2].

Нярэдка ў гэтых перагаворах фігураваў Полацк, таму што ў гандлі з ім асабліва былі зацікаўлены рускія купцы, а таксама ўлічвалася тое, што гэты горад меў шырокія сувязі з найважнейшым тады портам на Балтыцы—Рыгай. У адной са скаргаў на «крыўды і шкоды», зробленыя ў Полацку ў 1492 г. двум купцам з Вялікіх Лук, вінаватымі называюцца палачане Пракоф'еў і Лукіян Скарына [3]. Відаць, імкненне забяспечыць за сабой пасрэдніцкую ролю (на гэтай глебе звычайна і ўзнікалі канфлікты паміж мясцовымі і чужаземнымі купцамі) адстайвала полацкае купецтва вельмі рашуча.

Такога роду факты яшчэ не з'яўляюцца сведчаннем пагаршэння, так сказаць, эканамічнай кан'юнктуры. Хутчэй, наадварот, у іх трэба бачыць адзнаку таго, што чужаземныя купцы і перш за ўсё польскія, рускія, а таксама купцы з Рыгі ўсё больш і больш пранікалі на рынкі беларускіх гарадоў. Захаваліся звесткі аб росце іх гандлёвай дзейнасці. Пошліна, што была сабрана з прывазных тавараў, напрыклад, у Брэсце, склала ў 1500—1501 гг. 400 коп, у 1507—1508 гг.— 1012, а ў 1519 г.—1300 коп. У Мінску пошлінны збор з 1500 па 1508 г. узрос з 300 да 450 коп у год, у Навагрудку — з 50 да 100 коп і г. д. [4] Але трэба адзначыць, што па-ранейшаму сярод гара-

---

[1] РИБ, т. XXVII, 1910, стар. 182—212, 228—242, 245—285, 286—297, 302—325.
[2] Сборник имп. Русского исторического общества, т. 35. СПб, 1882, стар 10—11.
[3] Там жа, стар. 67.
[4] ЦДАСА, ф. 389, спр. 8, лл. 104, 106—107, 126.

доў Беларусі сваім гандлем вылучаўся Полацк. Аб гэтым яскрава сведчаць тыя ж крыніцы гандлёвай дзейнасці гэтага горада. Напрыклад, у 1506—1507 гг. Навагрудак і Гродна атрымалі па 100 коп пошлін кожны, Мінск — 300 коп, Брэст — 400, а Полацк — 1519 коп. Пошліны ад воску і солі ў 1507—1508 гг. у Гродна склалі 177 коп, у Брэсце — 1531 капу, а ў Полацку — 3936 коп, або 20 працэнтаў усёй сумы, якая паступіла ў казну ад збораў з гандлю гэтымі таварамі ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім. Гэтыя пошліны збіраліся яшчэ ў Луцку, Кіеве, Смаленску, Коўна і Уладзіміры на Валыні [1]. Такім чынам, Полацк быў адным з важнейшых цэнтраў іншаземнага гандлю ў Беларусі і ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім.

У канцы XV і пачатку XVI ст. побач са сталіцай дзяржавы — Вільняй — Полацку належала вядучая роля ва ўнутраным гандлі краіны. Толькі гэтым перш за ўсё можна растлумачыць той факт, што гораду ў адпаведнасці з прывілеем ад 4 кастрычніка 1498 г. было дадзена права бяспошліннага гандлю праз усё Вялікае княства Літоўскае [2].

Гандаль быў спрадвеку галоўнай крыніцай магутнасці Полацка. Прывілей гораду 1498 г. як бы сведчыць, што ў XV ст. гандлем тут займаліся ўсе гарадскія жыхары. Аб гэтым, відаць, гаворыцца і ў грамаце, выдадзенай Полацку. У ёй запісана: «Будут теж волни вси полоцкие мещане от мыта через все Великое князство Литовское» [3]. Такім чынам, грамата, напэўна, мела на ўвазе не толькі купецтва горада, але ўлічвала гандлёвы характар іншых заняткаў гараджан. Да іх ліку адносіліся, бясспрэчна, розныя галіны рамеснай вытворчасці.

На жаль, звестак аб рамястве і рамесніках Полацка канца XV — пачатку XVI ст. захавалася вельмі мала. У даравальнай грамаце 1498 г. аб рамястве ў горадзе нічога не гаворыцца. У прывілеі 1500 г. духавенству і баярам забаранялася мець у Полацку пад сваёй прыватнай уладай (юрысдыкцыяй) пекараў, півавараў, цесляроў і іншых рамеснікаў [4]. Прывілей 1503 г. ужо прама называе ў горадзе прафесіі ювеліра, рымара, сёдзельніка, каваля, сырамятніка, шаўца, ганчара, цесляра, півавара, а таксама скамароха і людзей іншых прафесій [5]. Праз

[1] ЦДАСА, ф. 389, спр. 8, лл. 119, 123, 129.
[2] Белоруссия в эпоху феодализма, т. I, стар. 265.
[3] Там жа.
[4] ЦДАЛГ БССР, ф. 796, воп. 1, спр. 8763, л. 31.
[5] ЦДАСА, ф. 389, спр. 5, л. 129.

сем гадоў дараваная грамата пералічвала 17 прафесій, сярод іх мяснікоў, кушняроў, краўцоў, слесараў, ювеліраў, шаўцоў, рымароў, сёдзельнікаў, кавалёў, сырамятнікаў, кажамякаў, ганчароў, піўвараў, цесляроў, муляроў, стырнавых (драгалей або драгараў), сталяроў і іншых рамеснікаў [1]. Нарэшце, інвентарнае апісанне Полацка, складзенае ў 1552 г. («Полацкая рэвізія»), называе каля 30 прафесій [2]. Сярод іх рад вузкіх спецыяльнасцей: хамутнік, сырамятнік, свечнік, калітнік, мечнік, мылавар, скрыннік і інш. Узніклі, відаць, і першыя карпарацыі рамеснікаў горада, якія былі вядомы ў гэты час пад назвай соцень і брацтваў у Гродна і Віцебску [3]. Існавалі яны таксама і ў Полацку. Аб гэтым сведчыць упамінанне ў Полацкай рэвізіі 1552 г. «гридни братской», старасты дайлідскага [4].

Зусім нязначныя звесткі аб колькасці жыхароў Полацка. Для вывучэння гэтага перыяду адзінай крыніцай з'яўляецца тая самая Полацкая рэвізія 1552 г. Калі падсумаваць усе ўпамінанні ў гэтай рэвізіі аб жыхарах горада, то акажацца, што Полацк тады налічваў 2276 глаў сем'яў мяшчан, баяр і шляхты, або (калі лічыць па шэсць чалавек у сям'і) больш 13 тысяч жыхароў [5]. Але далёка не ўсе гараджане пералічаны ў гэтай рэвізіі. Напрыклад, тут называецца Крыўцоў пасад. Аб ім далей паведамляецца як аб заселенай гарадской тэрыторыі. Толькі на ўчастках, што належалі ў гэтым пасадзе шляхціцу Васілю Карцену, пражывала 30 мяшчан. У пайменным жа пераліку мяшчан, зробленым у рэвізіі па пасадах, Крыўцоў пасад не паказан. На чацвёртай старонцы рэвізіі адзначана, што адну з 203 гародней (участак крапаснай сцяны) будавалі рамеснікі Полацка, «которые под присудом замковым», а сёмую вежу ўзводзілі «мещане вси Полоцкие, яко майдебургского, так и замкового права» [6]. Іншых звестак пра мяшчан і рамеснікаў, што знаходзіліся пад юрысдыкцыяй замка, рэвізія

---

[1] ЦДАЛГ БССР, ф. 796, воп. 1, спр. 8763, л. 47.

[2] Полоцкая ревизия 1552 г., изд. И. И. Лаппо. М., 1905, стар. 1—137.

[3] АВАК, т. XVII, стар. 64, 77; Акты Литовской метрики, т. I. Варшава, 1896, стар. 67; А. П. Сапунов. Витебская старина, т. I. 1883, дак. № 24; Историко-юридические материалы, т. 7. Витебск, 1878, стар. 340.

[4] Полоцкая ревизия 1552 г., стар. 8, 15.

[5] Падлік зроблен намі з улікам усіх звестак, якія ёсць у Полацкай рэвізіі аб жыхарах горада як у фамільным пераліку, так і асобных упамінаннях. Пры гэтым выключаны прозвішчы, якія паўтараюцца.

[6] Полоцкая ревизия 1552 г., стар. 2, 4, 8.

не прыводзіць. Наколькі вялікія ў рэвізіі прабелы ў дэмаграфічных апісаннях Полацка, можна заключыць яшчэ і з наступных даных. Пералічваючы павіннасці гараджан і іх грашовыя выплаты, рэвізія паведамляе, што мяснікі плацілі войту горада (галава гарадскога самакіравання) 20 коп і столькі ж уносілі ў касу горада — усяго 40 коп [1]. Агульнапрыняты пабор з мяснікоў у гарадах Беларусі, як гэта відаць з інвентароў Брэста, Кобрына, Дзівіна за 1566 г., Магілёва за 1604 г., складаў 15 грошаў, або 1/4 капы з кожнага ў год. Такім чынам, у Полацку толькі мяснікоў было 160 чалавек. Хлебнікі, гаворыцца ў рэвізіі, павінны былі ўносіць у гарадскую касу сем коп (420 грошаў) [2]. Звычайна з хлебнікаў у гарадах Беларусі спаганялася 7—8 грошаў. З гэтага можна зрабіць вывад, што ў Полацку рамеснікаў названай прафесіі налічвалася 50—60 чалавек.

Між іншым, у самой рэвізіі назван толькі адзін мяснік і няма ніводнага хлебніка. Нават самая важная частка жыхароў горада — купецтва не значыцца ў рэвізіі. Купцом назван толькі адзін жыхар, гандлярамі — пяць чалавек, крамнікамі — тры і таргоўчыкамі — два чалавекі, а ўсяго насельніцтва, што займалася гандлем, паводле рэвізіі, налічвалася адзінаццаць чалавек (падлік наш. — *З. К.*). Зусім відавочна, што, назваўшы нейкую частку гараджан, якія ўваходзілі ў абшчыну, падпарадкаваную магістрацкай юрысдыкцыі, Полацкая рэвізія 1552 г. зафіксавала палавіну, а хутчэй не больш 1/3 часткі ўсёй колькасці насельніцтва горада. К моманту рэвізіі Полацк павінен быў налічваць, як нам здаецца, не менш 40—50 тысяч жыхароў (колькасць звычайная для буйных гарадоў Еўропы таго часу). Полацк меў яшчэ прадмесце, якое было населена таксама гандлёва-рамесным людам, на што намякае Полацкая рэвізія [3].

Больш пэўна ў Полацкай рэвізіі гаворыцца аб гарадской вярхушцы, у якой пералічана 155 глаў сем'яў шляхты Полацка і названа 331 прозвішча жыхароў пасадаў, што валодалі гарадскімі ўчасткамі. З іх 106 былі яшчэ і ўладальнікамі сёл і цэлых маёнткаў, з якіх гэтыя служылыя мяшчане-баяры неслі вайсковую службу. 185 мяшчан збіралі зямельны пабор

---

[1] Полоцкая ревизия 1552 г., стар. 29—30.
[2] Там жа, стар. 30.
[3] Там жа, стар. 78, 85.

(«позем») з іншых мяшчан, якія жылі на іх гарадскіх участках. Гадоў за 25—30 да рэвізіі ў Полацку гэта група жыхароў была больш шматлікай. Згодна з «Попісам войска» Вялікага княства Літоўскага 1528 г., мяшчан-баяр у горадзе было 384 сям'і [1]. Такое значнае скарачэнне землеўладальніцкага насельніцтва можна растлумачыць асаблівасцямі жыцця горада, якія адводзілі галоўную ролю купцу і рамесніку. Сярод іх дробнапамесны рыцар усё больш яўна рабіўся «трэцім лішнім», што нагадвала добра знаёмую карціну па сацыяльна-эканамічнай эвалюцыі гарадоў больш позняга Сярэдневякоўя Чэхіі, Германіі, Францыі. У Полацку захаваліся, відаць, тыя з баяр, што сумелі спалучыць свае рыцарскія абавязкі з гандлем, чыя рука ўмела аднолькава цвёрда трымаць меч і бязмен. На рубяжы XV і XVI стст. гэта яшчэ ўдавалася многім баярам. У той час наогул уплыў феадалаў Полацкай зямлі на жыццё і развіццё Полацка быў вельмі адчувальным. Так адбывалася перш за ўсё таму, што сам Полацк пастаянна і глыбока аказваў уплыў на жыццё вялікай тэрыторыі Сярэдняга Падзвіння, што з даўніх часоў складала Полацкае княства. Многа вякоў таму назад Полацк стаў цэнтрам гэтага княства і быў на роўных правах з Ноўгарадам і Кіевам, з'яўляючыся як бы адным з трох важнейшых гарадоў Старажытнарускай дзяржавы. Многавяковая барацьба з «псамі-рыцарамі», унутраныя міжусобіцы падарвалі сілы Полацкага княства. Але і аслабленае, яно стала часткай Вялікага княства Літоўскага як асобная тэрыторыя — Полацкая зямля, старадаўнасць якой досыць асцярожна прыстасоўваў да сваёй дзяржавы вялікі князь літоўскі. Многа пазней, у пачатку XVII ст., а дакладней, у 1620 г., імператарскі пасол Пётр Пятрэй апублікаваў сваю «Гісторыю аб Вялікім княстве Маскоўскім». І ў ёй, быццам успаміны сведкі, прагучалі словы: «Княства Полацкае, якое ляжыць каля літоўскай граніцы,— цудоўная і ўрадлівая краіна». Далей пасол пералічае гарады княства — Ушачу, Дзісну, Друю, Дрысу [2]. І бадай што сам гэты факт можа служыць свайго роду доказам, што за сто гадоў да Пятрэя Полацкае княства было палітычнай рэальнасцю, аб чым сведчаць і дараваныя граматы, выданыя Полацкай зямлі ў 1498—1511 гг. вялікім князем літоўскім. З іх чэр-

---

[1] АВАК, т. XXIV, стар. 55.

[2] Чтения в Обществе истории и древностей российских при Московском университете, кн. 4, ч. IV, 1865, стар. 49.

палі доказы ў карысць непахіснасці старажытнага ўкладу жыцця Полацкай зямлі і Полацка М. К. Любаўскі, І. В. Якубоўскі, А. С. Грушэўскі і ў савецкай гістарыяграфіі У. І. Пічэта [1]. Захаванне старадаўнасці было праяўленнем уплыву феадалаў на ўвесь лад жыцця Полацка і Полацкай зямлі. Але тыя ж самыя граматы сведчаць супраць вываду, што старадаўнасць была ледзь не адзіным галоўным фактарам сацыяльна-палітычнай рэчаіснасці Полацка і Полацкай зямлі. Заўважым, між іншым, што іменна вялікі князь літоўскі Аляксандр, у дараваных граматах якога гарадам і землям Беларусі найбольш часта можна прачытаць фразу «бо мы старины не рухаем, а новин не уводим», бесцырымонна зняважыў старадаўнасць, калі падарыў у 1499 г. князю Міхаілу Юр'евічу Заслаўскаму за заслугі перад бацькам Аляксандра «горад Мстиславль, а горад Мглин со всеми дворы Мстиславскими и Мглинскими» — у спадчыннае ўладанне, нават не ўпамянуўшы ў даравай грамаце аб пераемніках і наследніках мсціслаўскага князя Івана Юр'евіча і іх правах «по старине» [2].

Такім жа парушэннем старадаўнасці з'яўлялася прадпісанне вялікага князя літоўскага, каб усе цяглыя Віцебскай воласці плацілі пяці царквам горада Віцебска дзесяціну, гэта значыць дзесяты грош на царкву, па 10 яек з службы, па дзесятку ільну на св. Міхаіла [3]. Дзесяціна як сталы від пабору была шырока вядома ў Польшчы, у Заходняй Еўропе. Увядзенне гэтага пабору на беларускіх землях было самым відавочным парушэннем старадаўнасці, што засталося па-за ўвагай гісторыкаў.

Падкрэсліваючы жывучасць старадаўнасці, асобныя даследчыкі не заўважылі, што сапраўдную аснову развіцця ўсіх падзей у жыцці Полацка ўтварала не старадаўнасць, а накапленне новых з'яў, выспяванне выкліканых імі новых сацыяльных сіл.

---

[1] М. К. Любавский. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892; И. В. Якубовский. Земские привилеи Великого княжества Литовского. ЖМНП. СПб, 1903, красавік—чэрвень; А. С. Грушевский. Города Великого княжества Литовского в XIV—XVI вв. Киев, 1918; У. І. Пічэта. Полацкая зямля ў пачатку XVI сталецця. 400-леццe беларускага друку. Мінск, 1926.
[2] ЦДАСА, ф. 389, спр. 5, л. 113.
[3] ЦДАЛГ БССР, ф. 796, воп. 1, спр. 8763, л. 78.

Асобныя даследчыкі, адзначыўшы непахіснасць старадаўнасці, не заўважылі, што яна была толькі ўступкай вялікага князя феадалам Полацкай зямлі, формай палітычнай згоды паміж імі, каб паслабіць у ніжэйшых пластах, асабліва сярод баярства, імкненне да суседняй Рускай дзяржавы. Вялікі князь літоўскі паміж аддзяленнем і частковай аўтаноміяй (іменна частковай) Полацкай зямлі зусім слушна выбраў апошняе. Але, згаджаючыся на захаванне мясцовага права, ён прысвоіў сабе два галоўных прынцыпы, на якіх заснавана феадальнае заканадаўства: вярхоўнае права раздачы і пазбаўлення зямельных дараванняў землеўладальнікаў, права апеляцыі на рашэнні мясцовых судоў. Абыходзячы гэтыя акалічнасці, прыхільнікі тэорыі непахіснасці старадаўнасці аднабакова, прадузята асвятлілі яе лёс у гісторыі Полацкай зямлі. Трэба таксама ўлічваць і тое, што ўвядзенне агульнадзяржаўнага кодэкса — Статута 1529 г., абавязковага, як відаць з яго прэамбулы, на ўсёй тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, аўтаматычна адмяняла мясцовае права. Гэта зусім не выключала таго, што мясцовае права, у тым ліку і іншыя яго нормы, што склаліся ў Полацкай зямлі, працягвала жыць у самім Статуце 1529 г., як гэта, між іншым, спрабаваў абгрунтаваць даследчык гісторыі беларускага права і заканадаўства Я. Юхо [1].

Відаць, памыляюцца тыя даследчыкі, якія лічаць старадаўнасць і яе непахіснасць галоўным момантам у гістарычным лёсе Полацка і Полацкай зямлі, асабліва калі яны маюць на ўвазе падзеі 80— 90-х гадоў XV—першай чвэрці XVI ст. Заўважым, што прывілей на Магдэбургскае права 1498 г. быў не адзіным сур'ёзным парушэннем старадаўнасці. Падатковыя ўстанаўленні, пошлінны збор, раздачы зямельных дараванняў вялікім князем у Полацкай зямлі, рэгуляванне вярхоўнай уладай права набываць мяшчанам і баярам зямлю — усё гэта былі парушэнні старадаўнасці, якія сцвярджалі вярхоўную ўладу вялікага князя літоўскага над Полацкам і Полацкай зямлёй. Праўда, іншы раз старадаўнасць навязвалася ў інтарэсах улады самога вялікага князя літоўскага. Сведчаннем гэтага можа служыць, напрыклад, зварот Сігізмунда I у 1544 г. да сенатараў у сувязі з парушэннем старадаўнасці архіепіскапам полацкім і віцебскім Сімяонам. Вялікі князь

[1] «Полымя», 1966, № 11.

літоўскі паведамляў сенатарам, што «которая церковь светого Николы в Ризе есть, в тое церкви частокроть попы вмирають для поветрия, которое там пацеть, а завжды в замку нашого Полоцка владыки первшыи полоцкии священников там давали, обмовивши се з шляхтою и з мешаны и обравши на то годного доброго члка с крылоса светое Софии, перед всею землею прывоживали их к присязе, абы тыи попы будучи там, нам Гдру и панству нашому во всем спрыяли и што колвек там слышачи ведомость давали» [1]. Гэту старадаўнасць парушыў Сімяон. Свяшчэннікаў, што былі накіраваны ў Рыгу замест памёршых, ён перастаў, як і раней, прыводзіць да прысягі. Сімяон пасылаў «попов простых людей», гэта значыць тых, хто не меў якасцей, патрэбных вялікаму князю літоўскаму. Усё гэта ён рабіў, «беручы от того великие подарки» [2]. Парушэнне старадаўнасці ў гэтым выпадку наносіла шкоду самому князю, таму ён звяртаўся да сенатараў з патрабаваннем дабіцца яе аднаўлення. Разам з тым, уступаючы просьбам Полацка і «ўсёй зямлі» аб аднаўленні старадаўнасці, вялікі князь у Грамаце 1511 г. не адмяняе ні права вышэйшай апеляцыі да яго, ні права вярхоўнага распарадчыка зямельных даравання, не аднаўляе права прыватнай юрысдыкцыі духавенства ў Полацку. Вельмі характэрным з'яўляецца апошняе, бо зроблена яно яўна ў інтарэсах мяшчан. У іх жа інтарэсах на падставе граматы Полацкай зямлі за 1511 г. землеўладальнікам было забаронена насаджаць у фальварках гандлёвых і рамесных людзей. Граматай прадпісвалася, што ў маёнтках павінны быць толькі сельскія людзі, хлебаробы, «которые там хлеб пашут» [3]. Усё гэта гаворыць, што адносіны да старадаўнасці ў саміх жыхароў Полацка і Полацкай зямлі не былі аднолькавымі. Феадалаў старадаўнасць задавальняла поўнасцю, гараджан — купецтва і рамесную масу вабілі не ўсе яе бакі. Вярхоўная ж улада лавіравала, улічваючы абставіны і ўласныя інтарэсы.

Ужо ў 80-х гадах XV ст. выявілася рэзкая розніца ў поглядах на палітычны лад гарадскога жыцця, а ў сувязі з гэтым і на старадаўнасць баяр і мяшчанства, дакладней кажучы, гандлёва-рамеснага насельніцтва Полацка. Мяшчане горада

---

[1] ЦДАЛГ БССР, ф. 796, воп. 1, спр. 8763, л. 76.
[2] Там жа.
[3] Там жа, л. 53.

ў 1486 г. пайшлі на адкрыты канфлікт з баярамі, у які ўмяшаўся нават вялікі князь. У сваёй грамаце ён пісаў: «Приказуем абы бояре и мещане и дворане городские и все посполь-ство во згоде межи собою жили, а дела бы наши гдрские вси згодою посполу справляли по давному... а без бояр мещаном и двораном городским и черни соймов ненадобе чинить»[1]. Вялікаму князю літоўскаму трэба было заручыцца падтрымкай полацкіх феадалаў. І гэта тым больш было неабходна ва ўмовах, калі ля самых граніц Літоўскай дзяржавы на вачах вырастала грознай для яе сілай Руская дзяржава. Яе апорнымі базамі ў непасрэднай блізкасці ад Полацка ў апошняй трэці XV ст. сталі Вялікі Ноўгарад і Цвер, з якімі Полацк быў спакон веку цесна звязан гандлёвымі і крэдытнымі адносінамі. Агульныя клопаты аб захаванні сваіх уладанняў, а таксама ўлады над сваімі падданымі аб'ядноўвалі князёў і паноў Полацкай зямлі з вялікім князем літоўскім. У той жа час самі падданыя адказвалі на растучы ўціск уцёкамі за мяжу. Так, у 1492 г. вялікі князь Казімір накіраваў пасольства ў Пскоў і разам з ім грамату, у якой пералічаліся «крывды Полочаном». Сутнасць гэтых крыўд заключалася ў тым, што «многии нашы люди з земли нашее Полоцкое и бояр наших многии люди збегли и зашли у вашу во Псковскую землю. И вы их зася к нам не хочете выдати»[2]. На такой глебе магло ўзнікнуць пагадненне мясцовых феадалаў з вярхоўнай уладай, да чаго імкнуўся вялікі князь літоўскі.

У спробе абаперціся на феадалаў Полацкай зямлі, ператварыць іх у апору супраць вялікага князя маскоўскага князь літоўскі праяўляе сябе ахоўнікам дарагой полацкім феадалам старадаўнасці, якая аддавала ў іх рукі ўладу над Полацкам і тым самым частку даходаў горада. Але, як відаць з Граматы 1486 г., мяшчане і «чорныя» людзі Полацка не хацелі жыць і ўсе справы горада рабіць «по давному», бо для іх старадаўнасць стала цяжарам. І чым больш значнымі былі ў горадзе эканамічныя пазіцыі гандлёвай і рамеснай масы, тым больш відавочнай рабілася неабходнасць даць гэтым пластам гарадскога насельніцтва права на самакіраванне, права самастойнай, незалежнай ад феадалаў арганізацыі свайго жыцця і дзейнасці. Старажытнае купецтва Полацка калісьці мірна

[1] ЦДАСА, ф. 389. Метрыка літоўская, спр. 4, л. 140.
[2] Там жа, спр. 5, л. 141.

дзяліла ўладу з феадаламі, паколькі яно сумяшчала ў сабе яшчэ і рысы землеўладальніка-феадала. Але ў XV ст. адбываўся і іншы працэс — утварэнне гандлёвага і рамеснага люду з сялянства, якое перасялілася або было пераселена ў горад. У 1499 г. баяры Полацкай зямлі скардзіліся на войта і мяшчан Полацка, што «хлопье их не вольная и рабы и иные люди в пенезех будучи, втекают до войта и до мещан и они их им не выдают а хотят их правом немецким судить» [1]. У Грамаце вялікага князя за 1500 г. ідзе гутарка аб прыгонных людзях, якія прадавалі свае землі мяшчанам, пасля чаго звычайна яны перасяляліся ў горад. Таму, магчыма, у гэтай жа грамаце гаворыцца аб людзях, якія ў нядаўнім мінулым «позаседали за наместника нашего полоцкого и за владыку и за бояр и за игуменов и попов» [2], гэта значыць асталяваліся ў Полацку. Праз дзесяць гадоў вялікі князь спрабаваў абмежаваць перасяленне феадаламі сваіх падданых у Полацк [3]. Але разам з тым, каб прыцягнуць у горад новых жыхароў з ліку вольных людзей, вялікакняжацкая ўлада вызваляла такіх пасяленцаў на некалькі гадоў ад усіх падаткаў і павіннасцей. Так, ільготу на дзесяць гадоў атрымалі ў 1525 г. вольныя людзі, што зноў пасяліліся ў Полацку [4]. Але колькасць гараджан папаўнялася і сялянствам, якое ўцякала ў горад ад прыгоннай няволі. Аб гэтым прама сведчыць рад княжацкіх грамат. Адна з іх, што была выдана ў 1500 г. князем полацкаму баярыну Васко Сянкевічу, паведамляла, што з радавога сяла Сянкевіча Свіла ў Полацкім павеце «люди проч розышлись, не хотят ему служить». Грамата дазваляла баярыну адшукаць уцекачоў і патрабавала, каб ніхто не перашкаджаў іх вяртанню назад [5]. У 1530 г. феадалам Полацкай зямлі была выдана грамата на права пошукаў отчычаў, што ўцякалі ў Полацк [6]. Другая палавіна XV—пачатак XVI ст. былі, відаць, перыядам інтэнсіўнага фарміравання побач са старой купецкай арыстакратыяй у Полацку (гэта датычыць і іншых гарадоў Беларусі) гандлёва-рамеснага пласта насельніцтва з сялянства. Гэта катэгорыя людзей не была звязана з старадаўнасцю, а ў баярыну яна

[1] АЗР, т. I, стар. 199—200.
[2] ЦДАЛГ БССР, ф. 796, воп. 1, спр. 8763, л. 31.
[3] Там жа, л. 46.
[4] ЦДАСА, ф. 389, спр. 14, лл. 267—268.
[5] ЦДАСА, ф. 389, спр. 5, л. 17.
[6] ЦДАСА, ф. 389, спр. 17, лл. 90, 137.

перш за ўсё бачыла феадала, ад улады якога шукала ратунку за гарадскімі сценамі.

Полацк быў буйным портам на Заходняй Дзвіне. Сюды патрабаваліся рабочыя рукі, якія забяспечвалі б пагрузку і разгрузку суднаў, абслугоўванне ў плаванні, волак іх супраць цячэння. Гэтыя і рад іншых заняткаў сталі пастаяннымі ў дзейнасці падзёншчыкаў, з якіх сфарміравалася прыкметная група плебейскага насельніцтва Полацка. «Патрэба гарадоў у падзённай працы,— пісаў Маркс,—стварыла плебс» [1]. У эканамічна развітым горадзе, якім з'яўляўся Полацк, гэта катэгорыя насельніцтва складала, напэўна, немалую частку «чэрні». Яна ўжо ў 1486 г. адмоўна адносілася да старадаўнасці, каб пазбавіцца ад уплыву феадалаў на жыццё горада. Поўнасцю ліквідаваць гэты ўплыў мяшчанам і «чорным» людзям не ўдалося, бо існавалі прычыны, якія яны не маглі пераадолець. Чым больш Полацк эканамічна аддаляўся ад сельскага ладу жыцця, тым больш ён меў патрэбу ў сыравіне, якую вырабляла сельская гаспадарка Полацкай зямлі. У грузапатоку, які ішоў па Дзвіне ўверх і асабліва ўніз да Рыгі, пераважалі такія тавары, як футра, шкуры, дошкі, смала, лён, збожжа, мёд, воск і інш., якія дастаўляліся на прыстань Полацка з вёсак і маёнткаў Падзвіння. Рамесная вытворчасць горада цалкам залежала ад паставак сельскагаспадарчай сыравіны. Прадукты харчавання на рынках горада прадаваў селянін, баярын або слуга, фактар, арандатар буйнога землеўладальніка. Гарадскі рынак з яго гандлем прывазнымі таварамі, рамеснымі вырабамі полацкіх майстроў быў немагчымы без пакупніка з сельскай акругі. Але былі яшчэ і больш важныя абставіны, якія рабілі Полацк непасрэдна залежным ад феадалаў Полацкай зямлі. Яны заключаліся ў тым, што Полацк з'яўляўся вельмі важнай крэпасцю, якая прыкрывала сталіцу Вялікага княства Літоўскага. Вялікакняжацкі трон у Вільні заставаўся недаступным з усходу да таго часу, пакуль непрыступнай была крэпасць Полацка. Сядзець на троне вялікі князь літоўскі мог і ў сталіцы, але трываласць яго трона залежала ад моцы полацкай цытадэлі. Таму ён прымаў усе неабходныя захады, каб трымаць полацкую крэпасць у стане баявой гатоўнасці. Але спакон вякоў склалася так, што збудаванне крэпасці, рамонт вежаў, вала, сцен, мастоў з'яўлялася абавязкам

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 3, стар. 51.

не толькі жыхароў горада, але і навакольных валасцей. Па сутнасці полацкую цытадэль будавала і ўтрымлівала Полацкая зямля. У самой крэпасці жыло нямала феадалаў. Абавязкам баяр было ў выпадку ваенных дзеянняў з'яўляцца ў крэпасць. Такім чынам, полацкая крэпасць стала важным фактарам у адносінах паміж мясцовымі феадаламі і вялікім князем літоўскім. Каб забяспечыць баяздольнасць полацкай крэпасці, што цалкам залежала ад князёў, паноў, баяр Полацкай зямлі, вялікі князь пазбягаў канфліктаў з імі і ў выпадку неабходнасці быў гатоў выступіць у ролі заступніка патрэбнай ім старадаўнасці. У такіх складаных умовах фарміравалася эканамічнае і палітычнае жыццё Полацка. У 80—90-х гадах XV і пачатку XVI ст. яно развівалася ў напрамку ўсё большага абвастрэння супярэчнасцей паміж гандлёва-рамеснымі пластамі і плебсам, з аднаго боку, і феадаламі — з другога. Вярхоўная ўлада спрабавала заняць прамежкавую пазіцыю. Адгэтуль яе палавінчатыя граматы 1486—1530 гг., у якіх і аказана падтрымка феадалам, і разам з тым зроблены вельмі сур'ёзныя палітычныя ўступкі гараджанам. Сацыяльныя кантрасты, характэрныя для эканамічна развітага феадальнага горада, найбольш выразна аформіліся іменна ў гэты перыяд. Гараджане Полацка ў гэты час рашуча выступалі як прадстаўнікі новых норм гарадскога жыцця. У сваёй барацьбе яны дамагліся першых адчувальных вынікаў, стаўшы самастойнай саслоўнай групай. Такім чынам яны дабіліся грамадскага прызнання. Абапіраючыся на прывілей Магдэбургскага права ад 4 кастрычніка 1498 г., полацкія гараджане стварылі свой орган улады — магістрат. У першыя гады XVI ст. яны дамагліся пашырэння яго юрысдыкцыі на ўсё гандлёва-рамеснае насельніцтва Полацка [1]. Граматай вялікага князя ад 30 снежня 1503 г. самым рашучым чынам аказваецца падтрымка самакіраванню мяшчанскага насельніцтва Полацка. Вялікі князь літоўскі не толькі пацвярджае прывілей на Магдэбургскае права, выдадзены гораду ў 1498 г., але і загадвае ўсіх тых, хто імкнуўся яго парушыць і пайсці пад прыватную ўладу (юрысдыкцыю) паноў, князёў, баяр, духавенства, перадаваць бурмістрам і радцам, а яны павінны «моцно таковых имать и в нятстве держать до тых часов, пока мы их о том навчим, што мають с таковыми чинити, а мы маем на таковых

[1] Полоцк. Исторический очерк. Минск, 1962, стар. 42.

вины великие брати»[1]. Хоць пазней у прывілеі 1511 г. вялікі князь дазволіў феадалам мець сваіх юрысдычан у Полацку, але і гэты пункт, што ахоўваў абшчыну ад намераў феадалаў, не быў адменен. Усё гэта непазбежна прыводзіла да абвастрэння адносін паміж гараджанамі і феадаламі.

У канцы XV — пачатку XVI ст. каталіцкая агрэсія, а таксама існаваўшая сістэма прывілеяў католікам, якая наносіла шкоду праваслаўным, усё больш ускладняла становішча ў Полацку. У 1498 г. у Полацку быў пабудаван бернардынскі касцёл. У 1505 г. полацкія бернардыны атрымалі, паводле асобай граматы вялікага князя, права судзіць і караць ад яго імя адступнікаў каталіцкай веры. Усім чынам мясцовай адміністрацыі загадвалася аказваць дапамогу інквізітарам у пошуках і пакаранні тых, каго палічаць вінаватымі бернардыны. Інквізіцыя паспяшалася стварыць у Полацку сваё судзілішча не выпадкова. Відаць, і сюды, на берагі Заходняй Дзвіны, прасачылася вольналюбівае слова гуманістаў і рэфарматараў, што голасна гучала ў Еўропе.

Полацк канца XV — пачатку XVI ст. нёс у сваім жыцці ўсе рысы гістарычнага павароту да невядомых раней норм і з'яў, якія ўжо выразна праявіліся там, дзе ўзышла зара Адраджэння, што нарадзіла тытанаў мыслі і духу. Гэта зара асвятліла будучы шлях вялікага гуманіста — Францыска Скарыны, стаць на які яго схілілі кантрасты роднага «слаўнага града» Полацка.

---

[1] ЦДАСА, ф. 389, спр. 5, л. 129.



ЦАРЬСТВЪ :~ РДІ :~

Царь Саломон ставит храм г҃ду богу в Ерусалиме :



ТРЕТИИ КНИГИ ЦАРЬСТВЪ ПОЧИНАЮТЬ
СЯ • ЗУПОЛНЕ ВЫЛОЖЕНЫ НА РУСЬ
КИИ ЯЗЫКЪ • ДОКТОРОМЪ ФРАНЪЦИ
СКОМЪ СКОРИНИНЫМЪ СЫНОМЪ СПОЛОЦЬКА :~

Тытульны ліст з трэцяй кнігі «Царстваў»
выдання Ф. Скарыны



М. А. АЛЕКСЮТОВІЧ

# Светапогляд Ф. Скарыны



Светапогляд Скарыны — адно з найбольш складаных пытанняў у вывучэнні яго спадчыны. У гэтым ёсць свая аб'ектыўная логіка: як вядома, да нас дайшлі толькі яго прадмовы і пасляслоўі да біблейскіх кніг, па якіх і прыходзіцца меркаваць аб яго філасофскіх і сацыялагічных поглядах. А гэта абмяжоўвае нашы ўяўленні аб беларускім гуманісце, робіць іх не заўсёды акрэсленымі, часам гіпатэтычнымі.

Асабліва важна было б ведаць аб яго прыродазнаўча-навуковых поглядах. Але гісторыя распарадзілася так, што мы ведаем толькі тое, што ён дзейсна займаўся медыцынай і батанікай — сам па сабе факт вельмі станоўчы ва ўмовах таго часу.

Няма сумнення, Скарына падзяляў рэлігійны погляд на свет і чалавечае грамадства, разглядаў біблію як крыніцу ведаў і мудрасці чалавека. У вырашэнні асноўнага пытання філасофіі — аб адносінах мыслення да быцця, якое ў яго час назло царкве прыняло больш вострую форму: ці створан свет богам або ён існуе вечна? — у вырашэнні гэтага пытання ён заставаўся ў палоне рэлігійнага вучэння. Як аб гэтым свед-

чыць яго «Сказание во первые книги Моисеовы рекомые бытья», ён згаджаўся з біблейскай легендай аб тым, што «господь бог словом своим с ни з чего сотворил вся видимыя и невидемая».

Але такую пазіцыю ў XV—XVI стст. займала большасць гуманістаў з прычыны непаслядоўнасці, дваістасці характару іх ідэалогіі. Так, Петрарка і Бакачыо лічылі сябе добрымі католікамі і вернымі сынамі царквы, нягледзячы на тое, што самі ж крытыкавалі «разбэшчаны папскі двор», высмейвалі лад жыцця духавенства і манахаў. Нямецкі вучоны Мікалай Кузанскі, які вучыў аб бясконцасці Сусвету і кругавароце Зямлі, знаходзіўся ў той жа час пад уплывам рэлігійнай ідэалогіі, быў кардыналам і багасловам, містыкам і неаплатонікам. У рэлігійных забабонах каснеў італьянскі гуманіст Дж. Кардана, які апублікаваў спосаб рашэння кубічных ураўненняў. Прафесарам тэалогіі быў Томас Мюнцэр, рэлігійная філасофія якога набліжалася да атэізму. Нарэшце, сам Капернік, які абвергнуў сваім геліяцэнтрычным вучэннем усю сістэму сярэдневяковага светапогляду на Сусвет, быў каталіцкім ксяндзом. Усе гэтыя людзі выключнага розуму і характару ў той ці іншай ступені падзялялі рэлігійныя забабоны сваёй эпохі, нягледзячы на тое, што сваім жа вучэннем разбуралі гэтыя забабоны, уносячы гэтым самым новае ва ўсе сферы разумовай дзейнасці.

Скарына, выхаваны на перадавых, гуманістычных традыцыях, можа быць таксама аднесен да ліку выдатных дзеячоў XVI ст. Спалучаючы ў сабе вялікія здольнасці і разнастайную адукацыю з разуменнем практычных задач свайго часу, ён паклаў пачатак кнігадрукаванню ва ўсходнеславянскіх землях, якое з часам стала магутным фактарам пашырэння асветы і барацьбы супраць царкоўна-рэлігійнай ідэалогіі. Пры гэтым ён імкнуўся пераадолець царкоўнаславянскі кансерватызм і выдаваць кнігі на «рускай» мове, або, як ён сам часта паўтараў, на мове «людей простых посполитых». Ён удзельнічаў таксама ў заснаванні старэйшага ў свеце Пражскага батанічнага саду, яго ведалі як доктара медыцыны ў Вільні, Кенігсбергу, Празе. Сваёй дзейнасцю ён у многім прадвызначыў асноўныя шляхі развіцця прагрэсіўнай беларускай культуры, заклаў асновы рацыяналістычных і асветніцкіх ідэй, адыграў важную ролю ва ўмацаванні культурных сувязей паміж славянскімі народамі. Чэшскі вучоны А. В. Фляроўскі, напрыклад,

адзначаў, што дзейнасць Скарыны «ёсць выключнай важнасці момант у гісторыі руска-чэшскіх узаемаадносін...» [1]

Сучаснікі і нашчадкі вельмі высока ацанілі яго эпахальную дзейнасць. У Падуанскім універсітэце, напрыклад, ёсць «пакой сарака», які заснаваны ў гонар славутых дзеячоў у галіне навукі і культуры, што скончылі гэты універсітэт або выкладалі ў ім. У цэнтры на кафедры знаходзіцца бюст Галілея, а справа ад яго на сцяне партрэт Скарыны. Галілей і Скарына — як сімвалы эпохі Адраджэння!

Адной з характэрных рыс светапогляду Скарыны было імкненне да эмансіпацыі ад заплеснеўшых царкоўна-феадальных традыцый, да абгрунтавання прынцыпаў развіцця свабоднай чалавечай асобы. Для яго, гуманіста, вузкай была афіцыяльная царкоўная мараль з яе пропаведдзю самаадрачэння і пакорлівасці. Пры ўсёй сваёй непаслядоўнасці і давер'і аўтарытэту бібліі Скарына выяўляе значнае вальнадумства. Яго погляды прасякнуты верай у сілу чалавечага розуму.

Схіляючыся да рацыяналістычнага прынцыпа незалежнасці і самастойнасці мыслення, Скарына быў блізкі да таго, што крытэрыем ісціны ў працэсе пазнання з'яўляецца розум і што таму ўсякае палажэнне, у тым ліку і біблейскае, павінна быць асэнсавана, узважана на вагах розуму, а не прымацца на веру. У прадмове да «Прытчаў Саламонавых» ён гаворыць, што, чытаючы іх, неабходна падыходзіць «ко познанию мудрости и наказания и ко зрозумению слова смыслена». Тую ж думку ён праводзіць і ў сваіх прадмовах да кніг «Прамудрасць» і «Ісус, сын Сірахаў», падкрэсліваючы, што ўказаныя кнігі прыводзяць нас да пазнання мудрасці і да добрых звычаяў «шляхам розуму». У сваю чаргу ў працэсе пазнання чалавечы розум павінен абапірацца на законы логікі, якая, паводле яго выразу, «учить з доводом розознати правду и кривду», гэта значыць вучыць правільна думаць, разважаць.

Гэтыя рацыяналістычныя думкі выступаюць у Скарыны ў багаслоўскай абалонцы. Ён не можа яшчэ адмовіцца ад рэлігійных поглядаў, вырвацца з учэпістых абдымкаў «усемагутнай тэалогіі». Але, нягледзячы на ваганні, непазбежныя ў той час, ён цягнецца да святла ведаў, імкнецца асэнсаваць

[1] А. В. Флоровский. Чешская библия в истории русской культуры и письменности (Ф. Скорина и продолжатели его дела). «Sborník Filologický», sv. XII, v Praze, 1940—1946, стар. 208.

з'явы прыроды, пранікнуць у сутнасць самога чалавека, растлумачыць адносіны паміж чалавекам і прыродай. Яго веды ў галіне медыцыны і batanікі, якім ён надаваў вялікае значэнне, трэба разглядаць не як пустое жаданне кабінетнага вучонага, а як імкненне чалавека, што паставіў сабе задачу спасцігнуць ісціну, звяртаючыся непасрэдна да прыродазнаўчых навук, да эксперымента, да самой прыроды. Відаць, тут адбіўся ўплыў такіх аўтарытэтаў медыцыны, як Гален і Авіцэна, якія сцвярджалі, што адзінай крыніцай ведаў з'яўляецца вопыт. Тут да месца заўважыць, што царква ў эпоху жыцця Скарыны глядзела на медыкаў з пачуццём непрыязнасці, а народ лічыў іх атэістамі.

Праяўленнем вальнадумства Скарыны было выданне ім, наперакор агульнапрынятай царкоўнай традыцыі, кніг свяшчэннага пісання на даступнай сваму народу мове з мэтай пашырэння асветы. Тут ён прытрымліваўся лепшых традыцый італьянскага Адраджэння (Дантэ, Джота). Скарына не толькі ўжываў родную мову ў кнігадрукаванні, але і звяртаўся да паказу чалавека ў «Бібліі» (дарэчы, ён змясціў у кнізе «Быццё» свой партрэт, і гэта павінна было разглядацца як богазневажанне), напаўняў глыбока чалавечным зместам традыцыйныя рэлігійныя сюжэты. Гэтым самым ён імкнуўся перадаць вывучэнне і тлумачэнне пісання свецкім вучоным і па сутнасці манаполію на адукацыю з рук пануючых класаў, духавенства, набліжаючы кнігу да радавога чытача.

Скарына быў адным з першых дзеячоў беларускай культуры, які выкарыстаў моўны матэрыял народа і ўвёў у літаратуру асноўныя элементы беларускай мовы. Выступаючы ў абарону роднай мовы, ён падкрэсліваў: «Не многим учителем бывати, но более умети язык свой справовати».

Зварот да нацыянальных моў, і тым больш пераклад на народную мову бібліі, у эпоху Скарыны разглядаліся царквой як ерэтычная дзёрзкасць. Адна толькі думка «возводить в книжныя речи от общих народных речей» лічылася «лукавым умышлением людей грубых смыслом», як адзначае рускі кніжнік сярэдзіны XVI ст. Зіновій; на яго думку, «приличнее книжными речами исправлять общенародныя речи, а не книжныя народными обезчещивать» [1]. Каталіцкая царква не менш ра-

[1] И. Первольф. Славяне, их взаимоотношения и связи, т. II. Варшава, 1888, стар. 601.

шуча выступала супраць мовы простага народа і не дапускала перакладу біблії на народныя мовы. «Тайны рэлігіі,— пісаў адзін з пап,— не павінны быць даступныя ўсякаму, але тым толькі, якія могуць іх разумець так, каб вера не пацярпела ад гэтага. Розумам простым трэба, як дзецям, адно толькі малако, а больш цвёрдую ежу трэба пакінуць толькі людзям, якія могуць ёю карыстацца» [1].

Само кнігадрукаванне царква абʼявіла справай дʼябла і імкнулася яго знішчыць. «Мы патрабуем,— звяртаўся папа Клімент VII да германскага імператара Карла V у 1527 г.,— каб народы вечна заставаліся пакорлівымі ўладзе свяшчэннікаў і цароў. Неабходны кастры... Перш за ўсё трэба знішчыць вучоных. Трэба пакласці канец кнігадрукаванню» [2].

Затое віталі кнігадрукаванне перадавыя розумы чалавецтва. Напрыклад, Франсуа Рабле і Ульрых фон Гутэн, які так гаварыў аб сваім стагоддзі: «О век! о літаратура! Прыемна жыць і непрыемна было б яшчэ адпачываць» [3].

Паколькі Скарына імкнуўся пазнаёміць міран з самой бібліяй, а не з яе тлумачэннямі і па-мірскому вольна абыходзіўся з ёй, то гэта дазваляе думаць, што ён адчуваў на сабе ўплыў «ерасі гарадоў», накіраванай галоўным чынам супраць папоў, супраць іх багацця і палітычных прывілеяў. У яго няма нічога падобнага на адданасць «слову божаму» рэлігійнага фанатыка. Ён не захапляўся свяшчэннымі кнігамі, не адчуваў перад імі поўнага павагі трапятання. Той факт, што пры перакладзе сваіх біблейскіх кніг ён карыстаўся не адной, а некалькімі крыніцамі, сведчыць аб яго незалежнай пазіцыі ў адносінах да царквы як праваслаўнай, так і каталіцкай. У выніку яго пераклад біблії не супадаў ні з адным з тых тэкстаў, якімі ён карыстаўся.

Скарына не прытрымліваўся літары, апускаў цэлыя раздзелы, рабіў іх перастаноўку па свайму меркаванню, уносіў свае ўстаўкі. Ён таксама зусім пагрэбаваў тым парадкам, у якім ідуць кнігі старога і новага заветаў. Увесь парадак размяшчэння Скарынаю біблейскіх кніг не адпавядае «кананічнаму» раду ні каталіцкай, ні праваслаўнай біблії. Відавочна, ён кіраваўся меркаваннямі асабістага характару, гэта зна-

---

[1] И. Вороницын. История атеизма, вып. I. М., 1927, стар. 28.
[2] История папства и инквизиции. М., 1959, стар. 54.
[3] Э. Рэклю. Человек и земля, т. IV. СПб, 1907, стар. 308.

чыць меў свой уласны, незалежны ад багаслоўскай артадоксіі погляд на біблію.

З перакладзеных ім на «рускую» мову біблейскіх кніг ён надрукаваў па свайму меркаванню перш за ўсё тыя кнігі, якія ва ўмовах таго часу маглі быць выкарыстаны ў адукацыйных, выхаваўчых і палітычных мэтах. Вядома, што біблія адкрываецца Пяцікніжжам Маісея («Быццё», «Ісход» і г. д.). У Скарыны ж першай выдадзенай кнігай быў «Псалтыр». З прадмовы да «Псалтыра» відаць, што Скарына разглядаў яго як асноўны вучэбны дапаможнік. «Детям малым,— пісаў ён,— початок всякое доброе науки... еже добре чести и мовити учить». Затым Скарына выдаў кнігі, якія з'яўляюцца нечым накшталт багаслоўска-філасофскіх трактатаў («Іова», «Еклесіяст»), павучальных зборнікаў выказванняў біблейскіх мудрацоў («Прытчы Саламонавы», «Ісус, сын Сірахаў»), аповесцей і раманаў («Руф», «Эсфір», «Юдзіф»), кнігі, у якіх знайшлі адлюстраванне некаторыя факты і падзеі са старажытнаяўрэйскай гісторыі («Царстваў», «Суддзяў»), замацаваны законы і абрады яўрэйскага народа («Другазаконне», «Левіт») і г. д. Некаторыя з пералічаных кніг увогуле займалі асобае месца ў старазаветнай літаратуры, напрыклад «Прытчы» і «Ісус, сын Сірахаў». Яны не ўваходзілі ні ў старажытнаяўрэйскі канон, ні ў славянскі парамейнік. У старажытнарускай літаратуры на іх глядзелі не як на набажэнскія кнігі, а як на літаратурныя помнікі мінулага.

На самай справе, у кнігах «Царстваў» побач з фантастычным і легендарным ёсць некаторыя рэальныя гістарычныя падзеі, звязаныя з дзейнасцю Давіда, Саламона і іх пераемнікаў. Дзве кнігі «Паралiпаменона» — гэта ўвогуле летапісы, хронікі. «Руф» і «Эсфір» не маюць ні гістарычнага, ні рэлігійнага значэння. Гэта проста літаратурныя творы таго часу. Цяпер нават багасловы прызнаюць, што «Эсфір» — гэта ўрывак з персідскага летапісу часоў Ксеркса. Асабліва цікавая ў гэтых адносінах «Песня песняў» — усходняя любоўная паэма з вялікай колькасцю алегорый, параўнанняў. Некаторыя месцы гэтай кнігі з'яўляюцца рэалістычнымі замалёўкамі і гучаць асабліва задзірліва ў адносінах да рэлігійнай царкоўнай маралі. У кнізе «Ісус, сын Сірахаў», як і ў «Прытчах», ёсць мноства народных прымавак: «За правду воюй яко за душу свою, и даже до смерти бийся правды ради»; «Да не полюбится тебе кривда несправедливых»; «Царь немудрый погубит люди своя,

грады же размножатся разумом мудрых»; «Царь днесь и завтра умрть»; «Над сребралюбца нет горшего на свете» і г. д.[1] І адносіны Скарыны да гэтай кнігі надзвычай паказальныя: «Сия же книга сама нас добрых обычаев и дел научаеть, более нежели иные многые книгы».

Але асаблівую цікавасць, з нашага пункту гледжання, маюць кнігі «Іова» і «Еклесіяст». У кнізе «Іова» праводзіцца думка: ці справядліва робіць бог, абрушыўшы на чалавека розныя пакуты? З гэтай біблейскай кнігі вынікае, як само сабой зразумелае, што бог — злосны. А, як заўважыў яшчэ Эўрыпід, «калі багі злосныя, значыць, яны не багі». У кнізе «Еклесіяст» адчуваецца матыў, варожы ўсёй біблейскай ідэалогіі; сцвярджаецца, што «няма ў чалавека ніякіх пераваг перад жывёлай, таму што лёс сыноў чалавечых і лёс жывёл — лёс адзін; як тыя паміраюць, так паміраюць і гэтыя, і адно дыханне ва ўсіх, і няма ў чалавека пераваг перад жывёлай, таму што ўсё — марнасць! Усё ідзе ў адно месца; усё ўзнікла з праху і ўсё вернецца ў прах. Хто ведае: ці дух сыноў чалавечых узыходзіць, ці дух жывёл адыходзіць уніз, у зямлю?»

Узнікае слушнае пытанне: чаму Скарына аддаў перавагу гэтым біблейскім кнігам, а не, напрыклад, так званым прарочым кнігам? Відаць, у гэтым і ёсць ключ да разгадкі яго светапогляду.

Біблія — гэта зборнік самых разнастайных фантастычных твораў, казак і паданняў, створаных у розны час рознымі пісьменнікамі. Яна падвяргалася апрацоўцы шматлікіх складальнікаў і перапісчыкаў у пэўных палітычных мэтах. Галоўнае ў ёй — гэта апраўданне прыватнай уласнасці і эксплуататарскага ладу. Эксплуататарская мараль складае асноўны змест біблііі. Зразумела, Скарына быў далёкі ад таго, каб зразумець класавыя і гнасеалагічныя корані бібліі. Аднак важна ўжо тое, што ў яго выявіўся рацыяналістычны падыход да некаторых біблейскіх кніг, за якімі ён не прызнаваў звышнатуральнага паходжання, лічачы, што яны «людскими пильностями пописаны были», гэта значыць узніклі гістарычна, былі створаны ў старажытнасці рознымі людзьмі. Іх складальнікі, на думку Скарыны, гэта ўмудроныя жыццёвым вопытам філосафы і летапісцы, якія пісалі «о мудрости, о науце, добрых обычаях... яко ся имамы справовати и жити на сем свете».

[1] Гл.: С. И. Василенок. Фольклор и литература Белоруссии эпохи феодализма (XIV—XVIII вв.). М., 1961, стар. 108.

Старонкі з «Прытчаў Саламонавых» выдання Ф. Скарыны

Скарына неаднаразова ў сваіх прадмовах да біблейскіх кніг звяртаў увагу на тое, хто іменна з'яўляўся іх складальнікам. Так, ён гаварыў, што «Прытчы», «Еклесіяст» і «Песня песняў» былі напісаны «к нашему научению» царом Саламонам. «На повеление царево» была напісана кніга «Эсфір». Пра кнігі «Царстваў», «Юдзіф», «Ездры», «Данііла прарока» Скарына гаворыць, што яны былі напісаны «наипервей летописцами», якія жылі ў той час. Нават такая кніга, як «Прамудрасць божая», была, на думку Скарыны, складзена простым смертным чалавекам: яе «написал естъ Филон философ... во времена Птоломея Филопатера, царя Египетскаго».

Такім чынам, Скарына па сутнасці зрываў арэол святасці з біблейскіх кніг. Яго недвухсэнсоўная заява аб тым, што многія з біблейскіх кніг былі напісаны летапісцамі і філосафамі, часам проста па загаду правіцеляў, цароў, натуральна, не маг-



Первый судъ, еже суди Саломонъ царь
двѣ жонѣ блудъници о двоихъ детехъ :



Очинаются книги, еже
словуть притчи Сало-
мона царя Израилева,
сына Давыдова, онже
был царемъ во Ерусал-
име. З полнѣ выложены на
рускый язык доктором
Францискомъ Скориною с Полоцка :-

Царя Саломона :-

Бысть злобоще ея тысящу серебреник. Христос
Рецелѣтъ :- Виница моя предомною есть
тысяща твоихъ покойныхъ и двѣсте тыхъ онижѐ
стерегуть овощевъ ея. Глас Хри
стовъ :- Еже живеши во
градахъ, Приятели
ждуть тебе. Дай
мнѣ слышати
Гласъ твой
:-

Глас
церкви
къ Христу

Побѣгни
любый
мой
и уподобишися серне и младому еленю
на горахъ доброюнныхъ речей :-

Старонкі з «Прытчаў Саламонавых» выдання Ф. Скарыны

ла быць адобрана царквою, бо знаходзілася ў прамой супярэчнасці з яе вучэннем. Царква лічыла, што ўсе кнігі старога і новага заветаў у свой час былі «ўнушаны богам» і называюцца таму «кананічнымі», гэта значыць стваракочымі канон, збор або каталог кніг, «унушаных богам».

Скарынінская «Біблія» — гэта не звычайнае царкоўнае выданне. З прадмоў Скарыны да асобных яе кніг відаць, што яго менш за ўсё цікавіла веравызнаўчае пытанне. Ён падыходзіў да выдання біблії, як ужо адзначалася, з пункту гледжання адукацыйнага і маральнага зместу. У яго няма ні апраўдання царкоўнай іерархіі, ні асаблівай блізкасці да бога; Скарына не ставіў сабе за мэту выхаваць у народа пачуцці крывадушнасці, падхалімства перад знаццю, сляпое падпарадкаванне ўладам і царкве. Наадварот, праз усе яго прадмовы да біблейскіх кніг праходзіць ідэя асветы народа.

Асноўны дэвіз яго — ўсё для навукі і дабра простых («паспалітых») людзей.

Цікавасць да біблейскіх кніг у яго праяўляецца там і тады, дзе і калі ідзе гутарка, на яго думку, аб гістарычных і геаграфічных звестках, аб «житейской мудрости» і «совершенных» норавах людзей. У многіх прадмовах і пасляслоўях Скарына паўтараў, што прысвячае кнігі бібліі «людям посполитым руского языка к доброму научению», «к учению и ко обличению, исправлению и ко наказанию правды», «людям простым посполитым к пожитку и ко размножению добрых обычаев».

Разглядаючы біблію як энцыклапедыю чалавечых ведаў, у якой пішацца «о науце всех людей посполитых», Скарына далей рэкамендаваў яе ў якасці дапаможніка па вывучэнню не толькі «семи свободных наук», але таксама гісторыі, геаграфіі і г. д. «Паки же во кратце сведати хощеши много тысещей лет Летописец, чти книги Паралипоменона,— гаворыць ён,— аще ли же кохание имаши ведати о военных, а о богатырских делех, чти книги Судей, или книги Махавеев. Более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи». У іншых месцах ён выдзяляе асобна ўрачэбную справу, навуку аб добрых звычаях і справах (этыку), філасофію, звязваючы апошнюю з імем Арыстоцеля, і, нарэшце, навуку аб праве: ён імкнуўся вывесці чытача з вузкага кола рэлігійнага светапогляду і даць яму некаторыя навуковыя звесткі.

Такім чынам, Скарына выступаў з шырокай для свайго часу праграмай адукацыі, спрабуючы самую біблію падпарадкаваць справе асветы народа. На гэтай падставе некаторыя аўтары работ аб Скарыне лічаць яго асветнікам, не робячы пры гэтым ніякіх агаворак. Ці так гэта?

Так, элементы асветніцтва выступаюць зусім акрэслена ў светапоглядзе Скарыны. З пэўнымі агаворкамі можна нават сцвярджаць, што Скарына быў нашым першым своеасаблівым асветнікам, калі разумець гэты тэрмін не ў шырокім, а ў вузкім сэнсе слова. Той крытэрый, які ўжываў У. І. Ленін у сваім артыкуле «Ад якой спадчыны мы адмаўляемся» ў адносінах да рускіх асветнікаў 60-х гадоў XIX ст., зразумела, не можа быць ужыты да поглядаў Скарыны. Ён не быў ды і не мог быць у той час ворагам толькі што ўзнікаўшага прыгоннага права, не з'яўляўся ворагам феадальна-манархічнага ладу з усімі яго параджэннямі ў эканамічнай, сацыяльнай

і юрыдычнай галінах, заставаўся ў палоне рэлігійных уяўленняў, ідэалізаваў біблію, не выступаў з пэўнай праграмай у абарону інтарэсаў і правоў працоўнага чалавека. Погляды Скарыны мелі рэлігійную абалонку, з якой павінны быць вылушчаны «рацыянальныя» зярняты. Аднак Скарына выступаў з патрабаваннем распаўсюджвання сярод «простых людзей» адукацыі, імкнуўся пераадолець адставанне ў развіцці роднай культуры і далучыць сваю краіну да агульнаеўрапейскай цывілізацыі. А гэта і былі тыя элементы асветніцтва, якія выраслі пастунова, задоўга да таго, як склаліся асноўныя рысы «рускага асветніцтва». Увогуле кажучы, тэрмін «асветніцтва» для кожнай гістарычнай эпохі мае свой канкрэтны змест. Калі К. Маркс называў Эпікура радыкальнейшым старажытнагрэчаскім асветнікам, то ён, безумоўна, укладваў у гэта паняцце іншы змест, чым У. І. Ленін у паняцце «рускія асветнікі».

Адукацыйныя мэты Скарына ставіў не толькі пры выданні бібліі. Характар выдадзенай ім «Малой падарожнай кніжыцы» — гэтага кароткага малітоўніка для падарожных людзей — паказвае, што і тут ён клапаціцца таксама аб пашырэнні некаторых навуковых звестак. Зыходзячы з гэтага, ён перапрацаваў кнігу і па зместу і па форме, асабліва пятую частку, так званае «Паследаванне», дзе змясціў каляндар. Свецкі напрамак календара адрознівае яго ад звычайных царкоўных календароў таго перыяду, якія з'яўляліся свайго роду ўказальнікамі рэлігійных свят і дат «святых». Каляндар Скарыны дае некаторыя астранамічныя звесткі, запазычаныя ім, як відаць, з чэшскага і польскага календароў. Вось прыклады. «Месец септеврит зовемы вресень. Имать дни 30, день в начале его имат годин 12, а дроб 54, нощ 11 дроб 6». 14 верасня «Солнце входит во знамя небесное вага, и быва равен день с нощию». 26 верасня «нощ имать годин 13, а день 11». 13 снежня «надолжейшая нощ, годин 17 дроб 10». 10 сакавіка «того дни солнце входит во знамя небесное овен и быва равен день с нощию». 12 чэрвеня «быва день надолши, годин 17 отселе начнет нощ прибыват» і г. д. У канцы кнігі «Паследаванне» Скарына падкрэслівае практычнае значэнне календара: «Святци краткие, имеющи в собе разделены времена на нашу землю, колико которые дни в году,— піша ён,— или нощи держать часов и дробных, и яко година прибудеть которому дню или нощи — все написано ест... к тому есть

ли(ч)бы которого году была гибель месецева или затмение солнцево, то при поскали (пасхаліі.—*М. А.*) знайдешь, того году месец, день и годину неомылно написану тое гибели месецевы, или затмения солнцева».

Відавочна, пры выданні гэтай кнігі Скарына клапаціўся не аб малітвах і рэлігійных святах, а аб тым, каб паведаміць сваім чытачам астранамічныя звесткі.

Адна з асабліва выразных рыс прадмоў Скарыны — патрыятызм. Ён спецыяльна выкарыстаў змест некаторых біблейскіх кніг («Юдзіф», «Эсфір» і інш.), каб падкрэсліць ідэю любві да радзімы, да свайго народа. Сваю дзейнасць ён тлумачыў патрыятычнымі матывамі («наиболее с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил») і заклікаў сваіх суайчыннікаў не замыкацца ў вузкіх рамках асабістых інтарэсаў, а заўсёды памятаць аб сваім грамадзянскім абавязку перад радзімай. Абавязак кожнага чалавека — працаваць на карысць свайго народа, не шкадаваць «всякого тружания и скарбов... для отчины своея», бескарысліва служыць ёй, абараняць ад ворагаў і, калі патрэбна, аддаць і само жыццё за яе. «Не толико бо сами собе народихомся на свет,— пісаў ён у прадмове да кнігі «Эсфір»,— но более ко службе божией и посполитого доброго». Іменна гэта «посполитое доброе» і вызначыла характар дзейнасці Скарыны на карысць «братии... Руси».

Важна падкрэсліць, што для выхавання пачуцця патрыятызму, любві да сваёй радзімы Скарына звяртаецца не толькі да біблейскіх прыкладаў, але і да довадаў ад жыцця. Шырока вядома яго выказванне: «Понеже от прирожения звери ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по воздуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чуюць виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих; тако ж и люди, и где зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».

Як вядома, у перыяд Сярэдніх вякоў усе апазіцыйна настроеныя ў адносінах да феадалізму і царквы выступалі пад лозунгам звароту да першапачатковага хрысціянства. Гэта ў пэўнай меры характэрна і для Скарыны. Адлюстроўваючы інтарэсы перадавых пластоў феадальнага грамадства (сярэдняй і ніжняй часткі гараджан), ён звяртаўся да бібліі, каб проціпаставіць феадалізаванаму хрысціянству сваёй эпохі сціплае хрысціянства першых стагоддзяў, якое нічога не ведала, па-

водле характарыстыкі Ф. Энгельса, аб шматскладанай, штучнай «феадальнай іерархіі» [1]. Ён выступаў з асуджэннем самавольства, хабарніцтва і бясчынства адміністрацыі, чыноўнікаў, патрабаваў ліквідацыі злоўжыванняў і арганізацыі суда на «справядлівых» пачатках. У сваёй прадмове да «Другазаконня» ён сцвярджаў, што вышэйшым прынцыпам сацыяльнай справядлівасці з'яўляецца раннехрысціянская формула: «Ровная свобода всем, общее имение всех». Для абгрунтавання прынцыпа роўнасці ўсіх людзей перад законам ён звярнуўся да ідэі натуральнага права. У той жа прадмове ён пісаў, што існуюць законы двуякага роду: «прироженные» і «писанные». «Прироженный» закон «написан естъ в серци единого кажного человека», і, згодна з ім, усе людзі ад прыроды роўныя і не павінны імкнуцца да таго, каб рабіць зло іншым. «Не рабі другім таго, што не хочаш, каб іншыя рабілі табе», — гэта патрабаванне выстаўлялася не толькі сярэдневяковымі ерэтыкамі, але і некаторымі матэрыялістамі XVII ст., напрыклад Гобсам. Але «прироженный» закон мае і свой адваротны бок: людзі бываюць розныя і часта ўчыняюць зло і несправядлівасць іншым. Таму народы стварылі дзяржавы і законы «писанные». Патрабаванне, якое выстаўляе Скарына да «писанных» законаў, зводзіцца да таго, што яны павінны адпавядаць «справядлівасці», духу часу і асаблівасцям жыцця данага народа, задавальняць патрэбы ўсяго «посполитого доброго».

Гэта патрабаванне «справядлівасці» мае на сабе адбітак абмежаванасці, уласцівай перадавым мысліцелям таго часу. Яно не было адлюстраваннем свядомых прадстаўленняў «рэальнай грамадскай групы» і выстаўлялася не як канструктыўная праграма, а як прынцып пасіўнай роўнасці ўсіх людзей перад богам. Фармальнае прызнанне агульнасці маёмасці і роўнасці ўсіх людзей фактычна ігнаравала маёмасную розніцу паміж багатымі і беднымі, што цалкам адпавядала духу раннехрысціянскіх ідэй. Але, як вядома, у XVI—XVII стст. пад лозунгам звароту да першапачатковага хрысціянства і аднаўлення чыстага «слова божага» выступалі толькі апазіцыйна і рэвалюцыйна настроеныя элементы ў адносінах да феадальнага ладу і перш за ўсё ў адносінах да асвячаючай царквы. Усякі варожы царкве рух выступаў у рэлігійным

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 7, стар. 349.

убранні, знешне нагадваючы як бы аднаўленне ранняга хрысціянства, яго выратаванне ад наступіўшага выраджэння, але пры гэтым усякі раз за гэтай, як адзначаў Ф. Энгельс, рэлігійнай экзальтацыяй хаваліся выразныя матэрыяльныя інтарэсы [1].

Скарына разважае абстрактна, прытрымліваючыся пункту гледжання «вечных ісцін», «вечных маральных правіл», прыводзячы свае думкі ў адпаведнасць з біблейскімі палажэннямі. І хоць у яго ёсць выказванні аб залежнасці «писанных» законаў ад умоў, месца і часу, аднак у цэлым ён разглядае права як прадукт некаторых пастаянных уласцівасцей людзей. У сваіх разважаннях ён зыходзіць з ідэальнага ўяўлення аб адзінай і нязменнай «прыродзе» чалавека. Ён ігнаруе класавую прыроду феадальнага суда, дзяржаўна-прававых устаноў, разглядае дзяржаву як нейкую надкласавую сілу, якая стаіць над грамадствам і заклікана клапаціцца аб шчасці ўсіх пластоў насельніцтва; ён лічыць, што асноўным прынцыпам існуючых у дзяржаве законаў з'яўляецца: сумленна жыць і не рабіць зла іншым.

Ф. Энгельс указвае: «...маштабам, якім вымяраецца, што́ адносіцца да натуральнага права і што́ да яго не адносіцца, з'яўляецца абстрактнейшы выраз самога права — *справядлівасць*». І далей тлумачыць: «А гэта справядлівасць заўсёды ўяўляе сабой толькі ідэалагізаванае, узнесенае ў нябёсы выражэнне існуючых эканамічных адносін або з іх кансерватыўнага або з іх рэвалюцыйнага боку» [2].

Часцей за ўсё натуральнае права як ідэальнае, справядлівае права процістаўлялася дзейнічаўшаму ў данай дзяржаве праву як «несправядліваму» і «неразумнаму». Так, у XVII—XVIII стст. ідэя натуральнага права з'яўлялася ідэалагічнай зброяй буржуазіі, накіраванай супраць феадальнага ладу. Прадстаўнікамі натуральнаправавых поглядаў у XVII ст. у Англіі былі Дж. Мільтан, Дж. Лок; у Галандыі — Гуга Гроцый, Б. Спіноза; у Францыі ў XVIII ст.— Ж.-Ж. Русо, К. А. Гельвецый, П. А. Гольбах. Натуральнаправавыя ідэі выкарыстоўваліся таксама і ў рэакцыйных мэтах для апраўдання абсалютнай манархіі, прыгонніцтва, феадальных устаноў як устаноў, заснаваных на «боскім праве» (Ф. Аквінскі і інш.).

Але і ў першым, і ў другім выпадку вучэнне аб натураль-

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 7, стар. 359—361.
[2] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 18, стар. 273.

ным праве было прыстасавана для апраўдання грамадскага ладу, заснаванага на прыватнай уласнасці, для абароны дзяржаўнай улады. Прадстаўнікі ж так званага «сярэдневяковага ерэтычнага камунізма» з гэтага вучэння зрабілі супрацьлеглыя вывады. Яно служыла ім для таго, каб абгрунтаваць адмаўленне свецкіх і духоўных улад, а таксама прыватнай уласнасці — асновы прыватнаправавых інстытутаў. Яны заяўлялі, што па натуральнаму праву ўсе людзі нараджаюцца роўнымі і свабоднымі і не павінны імкнуцца да заняволення іншых.

У вучэнні ерэтыкоў пераважалі рэлігійна-этычныя ідэі, бо крыніцамі «сярэдневяковага камунізма», апрача натуральнага права, былі ранняе хрысціянства і вучэнне гностыкаў і містыкаў.

У Скарыны мы таксама сустракаем думкі, якія напамінаюць, хоць бы аддалена, прыблізна, некаторыя выказванні сярэдневяковых ерэтыкоў. У яго разважаннях аб «прироженных» і «писанных» законах выяўляецца імкненне абгрунтаваць прынцып роўнасці ўсіх людзей перад законам. Зыходзячы з таго, што людзі ад прыроды роўныя і свабодныя, ён указваў на неабходнасць стварэння ў дзяржаве такіх законаў, якія адпавядалі б інтарэсам літаральна ўсіх падданых. І характэрна, што аб гэтым ён гаворыць у прадмове да біблейскай кнігі «Другазаконне», кнігі, якая асвятляе маёмасную і прававую няроўнасць, падзел грамадства на паноў і рабоў. Дарэчы, у адносінах да рабоў біблейскі бог Іегова рэкамендуе прымяняць самыя жорсткія меры прымушэння, не спыняючыся нават перад забойствамі. І вось замест таго, каб каменціраваць змест гэтай старазаветнай кнігі, Скарына ў сваёй прадмове да яе выкладае некаторыя свае погляды на грамадскі лад, якія ён пры гэтым патрабуе падмацаваць містычнай па свайму зместу раннехрысціянскай ідэяй аб «роўнай свабодзе» і «агульнасці маёмасцей», узятай ім з «Дзяянняў апостальскіх».

Згодна Станоўчая праграма наогул была заўсёды слабай рысай усіх апазіцыйных вучэнняў Сярэдневякоўя, бо тэарэтычнай асновай яе з'яўляліся туманныя і блытаныя афарызмы «прарокаў», «апосталаў» і «евангелістаў». І хоць у біблейска-евангельскія формулы ўкладваўся зямны, часам нават рэвалюцыйны змест, аднак у канчатковым выніку ўсё зводзілася да «хіліастычных летуценняў ранняга хрысціянства». Вобраз Ісуса

Хрыста выступаў як вобраз збавіцеля ад прыгнёту і пакут якому прыпісвалася стварэнне «тысячагадовага царства божага на зямлі», заснаванага на агульнасці маёмасці, свабодзе, брацтве і ўсеагульнай роўнасці.

Ніхто, аднак, з сярэдневяковых ерэтыкоў не ўяўляў сабе, чым жа ў сапраўднасці з'яўляецца ўсеагульная роўнасць. У хрысціянстве заўсёды мірна спалучаліся неакрэсленае, расплыўчатае патрабаванне роўнасці з прызнаннем прыватнай уласнасці і падзелу грамадства на паноў і рабоў, нянавісць да багацця і глухія заклікі да барацьбы з пропаведдзю пакорлівасці, міласэрнасці і непраціўлення злу насіллем. Хрысціянства толькі абяцала працоўным масам пазбаўленне ад пакут, але ніколі не выступала за ажыццяўленне сацыяльнай перабудовы свету. Яго патрабаванні не былі патрабаваннямі сапраўднага шчасця народа, а толькі яго летуценнага шчасця — на небе, у «вечным жыцці» пасля смерці. Нягледзячы на фармальнае прызнанне роўнасці (пры якой фактычна ігнараваліся маёмасныя адрозненні паміж багатымі і беднымі), Скарына на сутнасці застаецца абаронцам прыватнай уласнасці і эксплуататарскага ладу. Ён прызнае падзел грамадства на рабоў і паноў і заклікае першых «да часу терпети и на бога вскладати», бо, маўляў, згодна з вучэннем «апосталаў», «богатые, обидящие убогих, примут отмщение».

Грамадскія погляды Скарыны вельмі супярэчлівыя. З аднаго боку, ён адкрыта выказвае свае сімпатыі да ніжэйшых пластоў грамадства, якія знаходзіліся ў поўным бяспраўі і занявоненні, выкарыстоўвае, як ерэтыкі, біблейскія і евангельскія тэксты для крытыкі феадальнага ладу, выступае за роўнасць усіх людзей перад законам; але, з другога боку, ён стаіць за захаванне існуючага, некалькі падцыраванага, падсалоджанага феадальнага ладу, прапаведуе пасіўнасць, пакорлівасць, неўмяшанне ў ход падзей, лічачы, што ўсякае зло і несправядлівасць будуць пакараны самім богам. Спасылаючыся на «пасланні апостала Паўла», ён гаворыць, што гэтыя пасланні «велят князем и властителем повиноватися». «Родители же дабы литали и навчали чада своя, потому ж и слузи абы верни были господе своей и господа не обидели слуг своих».

Скарына быў далёкі ад думкі гвалтоўнага знішчэння існуючага ладу, карэннага змянення становішча працоўных мас і шукаў сродкаў для «излечения социальных недугов» у біб-

ліі, хрысціянскай літаратуры. У поўнай адпаведнасці з сацыяльна-філантрапічнымі матывамі ранняга хрысціянства ён ставіў задачу маральнага ўдасканальвання людзей і марыў аб тым, каб па магчымасці згладзіць супярэчнасці паміж багатымі і беднымі, кіруючымі і кіруемымі. Ён быў шчыра пераканаsuccessfully ў тым, што людзі ад прыроды добрыя і могуць выправіць свае дрэнныя ўчынкі, свае заганы і недахопы, бачачы перад сабой прыклады добрых учынкаў.

Такім чынам, грамадскія парадкі змешваюцца Скарынай з маральнымі нормамі: «прироженные» законы выступаюць у яго як маральныя законы. Але як гуманіст Скарына цэнтральнае месца адводзіць чалавеку з яго зямнымі, рэальнымі запатрабаваннямі: «Понеже,— гаворыць ён,— в розмаитых речах люди на свете покладают мысли и кохания своя: едины в царствах и в пановании, друзии, в богатестве и в скарбох, инии в мудрости и в науце, а инии в здравии, в красоте и в крепости телесной, неции же во множестве имения и статку, а неции в роскошном ядении и питии, и в любодеянии, инии же в детех, в приятелех, во слугах и во иных различных многых речах. А тако единый каждый человек имат некоторую речь пред собою, в нейже ся наболей кохает и о ней мыслит».

Пройдзе прыкладна трыста пяцьдзесят гадоў і гераіня рамана М. Г. Чарнышэўскага «Што рабіць?» Вера Паўлаўна заявіць у сваёй майстэрні нешта падобнае сваім швачкам: «Вы ж ведаеце, што ў розных людзей розныя схільнасці, не ва ўсіх жа толькі да грошай: у іншых — да ўбораў ці карт... А ў мяне звычка вось да таго, чым заняцца я з вамі спрабую, і я на свае схільнасці не тое, што трачу, а нават і зусім не трачу ніякіх грошай, толькі што рада ёю займацца і без даходу ад яе сабе» [1].

У М. Г. Чарнышэўскага на першым плане — быць карысным грамадству, клапаціцца аб жыцці «маленькіх» людзей, а ажыццяўленне гэтага магчыма было са знішчэннем існуючых феадальна-прыгонніцкіх парадкаў у Расіі. У Скарыны на першы план выступаюць клопаты аб «мудрости и науце», таму ён з такім натхненнем гаворыць аб тых «малостниках науки и мудрости», якія лічылі за лепшае «оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою, нежели во тленных великих

---

[1] Н. Г. Чернышевский. Что делать? М., 1966, стар. 195.

царскых сокровищах». Гэта пункт гледжання зараджаючагася ў тых умовах буржуазнага асветніцтва, які падзялялі гуманісты.

Скарына ўвасобіў у сабе дваісты характар гуманістаў: у ім парасткі новага, рацыяналістычнага мыслення злучаюцца яшчэ з рэлігійна-схаластычным светапоглядам, вопытнае даследаванне прыроды з павагай аўтарытэту біблii. У яго толькі робіцца спроба вызваліць думку ад сляпой веры і гэтым самым стварыць глебу для навукі. Скарына яшчэ няўпэўнена, у межах разглядаемай ім біблii, абараняў правы розуму, не пераходзячы ў адкрытае наступленне супраць догматаў царквы.

Нягледзячы на гэта, Скарына адыграў станоўчую ролю ў развіцці філасофскай і сацыялагічнай думкі Беларусі. Яго творчасць, характэрнымі рысамі якой былі прапаганда ведаў на роднай мове «сярод людзей простых паспалітых», імкненне стаць на навуковую аснову ў тлумачэнні з'яў прыроды і аваладанні яе сіламі, самасцвярджэнне чалавечай асобы, падрыхтоўвала глебу для больш рацыяналістычных і дэмакратычных вучэнняў, якія ў розных формах праявіліся тут з другой палавіны XVI ст.





В. К. ЗАЙЦАЎ

# Ф. Скарына і еўрапейская Рэфармацыя



ывучаючы жыццё і дзейнасць беларускага першадрукара, асветніка-гуманіста, вучонага і патрыёта Францыска Скарыны на шырокім фоне еўрапейскай культуры, нельга не адзначыць дзіўнае супадзенне як праяву пэўнай гістарычнай, нават тыпалагічнай заканамернасці: у 1516 г., гэта значыць за год да выхаду ў свет першай друкаванай скарынінскай кнігі, Эразм Ратэрдамскі выдаў выпраўленае выданне грэчаскага тэксту кніг новага завету і свой новы пераклад гэтых кніг на лацінскую мову. Эразм ставіў за мэту вызваліць тэкст свяшчэннага пісання ад набытых за стагоддзі памылак і вярнуць яму яго першапачатковы выгляд. У сваёй працы ён пацвердзіў, што ў кананізаванай каталіцкай царквой лацінскай «Вульгаце» ёсць значныя адрозненні ад арыгінальных тэкстаў. Эразм Ратэрдамскі далучаў да выданняў каментарыі, парафразы, выкрываючы такім чынам памылкі і супярэчнасці ў існаваўшых да яго перакладах свяшчэнных кніг, узаконеных каталіцкай тэалогіяй. Гэта вялікая філалагічная работа была падрыхтоўкай для рацыяналістычнай крытыкі біблії.

У гэты ж самы час, незалежна ад Эразма, Скарына, знаходзячыся недзе ў Еўропе, займаецца той жа работай, ідучы далей свайго сучасніка. Беларускі першадрукар, даючы каментарыі да свяшчэннага пісання, у сваіх прадмовах, пасляслоўях і маргіналіях ужо непасрэдна ўмешваўся ў сэнс гэтага пісання, займаўся крытыкай пісання з пункту погляду рацыяналістычнай навукі. Ён, свядома ці падсвядома, садзейнічаў умацаванню канфесіянальнай цярпімасці і прынцыпа самастойнасці ў пытаннях веры, лічачы, што гэта прыватная справа кожнага чалавека і інтымны акт веруючага, які не дапускае ўмяшання царквы ў гэты акт. Перакладаючы біблію на зразумелую пісьменнаму беларусу мову, Скарына арыентаваў чытача на самастойнае азнаямленне з першакрыніцамі хрысціянскай веры. Гэтым ён адкрываў шлях Рэфармацыі ў Беларусі. Новая тэалогія, якую распрацоўваў Скарына, вызваленая ад язычаскіх напластаванняў рытуальнай абраднасці, «знешняга хрысціянства», падмацаваная сродкамі тагачаснай філалагічнай крытыкі, прыводзіла непасрэдна да адмаўлення ад кананічнай дагматыкі, да новага дэізму. Зразумела, усе гэтыя намаганні ў сваёй сукупнасці садзейнічалі зламанню духоўнай дыктатуры царквы. Узаконіўшы друкаваную кнігу ў беларускім перакладзе з дапамогай «амаль боскага інструмента» (так называў друкарскі станок Эразм), Скарына працягваў традыцыю выдатных кнігадрукароў веку — Альда Мануцыя, Бадзія, Фробэна, стаў на чале асветніцкага кірунку і антыклерыкальных тэндэнцый веку ў беларускім грамадстве, якое далучылася да прагрэсіўных рухаў эпохі.

Францыск Скарына ва ўсіх адносінах быў чалавекам сваёй эпохі. Светапогляд яго быў рэлігійны, як і ў большасці тагачасных мысліцеляў, у якіх антыклерыкальная накіраванасць мыслення лёгка сумяшчалася з рэлігійнасцю светаразумення. Большасць з іх заставаліся рэлігійнымі, хоць бясспрэчнай з'яўляецца думка аб тым, што галоўнае ў ідэалогіі гуманізму — праблема вызвалення ад путаў рэлігійнага светапогляду «асобы, якая ўсвядоміла сябе». Гуманістам удалося стварыць «сваё царства ў мастацтве, у палітыцы, у выхаванні, у рэлігіі — сапраўднае царства чалавека» [1].

---

[1] G. Saitta. Il pensiero italiano nell'Umanesimo e nel Rinascimento, v. I. Bologna, 1949, стар. 464.

Іх можна лічыць хутчэй пантэістамі, у пэўным сэнсе атэістамі, скептыкамі, паклоннікамі «прыроды». «Храм прыроды» быў іх храмам і лабараторыяй. Не выпадкова некаторыя сцвярджалі, напрыклад, што Эразм — скептык, які прымушае чытача схіліцца да асобага роду скептыцызму, да ўмеранага сумнення.

Савецкая навука разглядае Адраджэнне і «яго найбольш яркую кветку» — гуманізм як перыяд, што характарызуе рэвалюцыйнасць з адметна выяўленым антыцаркоўным, а ў некаторых выпадках і антырэлігійным характарам. Але апошняе сцвярджэнне патрабуе пэўнай агаворкі. У даным выпадку, відаць, мае рацыю С. Маркіш, які ў сваім артыкуле «Эразм з Ратэрдама» [1], спасылаючыся на кнігу галандскага вучонага Іагана Хёйзінгі (J. Huizinga. Herbst des Mittelalters. Studien über Lebens — und Geistesformen des 14 und 15 Jahrhunderts in Frankreich und in den Niederlanden. München, 1928), гаворыць аб тым, што празмерная перанасычанасць рэлігійным пачуццём у Сярэднія вякі завяршалася ў канцы эпохі заняпадам: храмы пусцеюць, на святах, у далёкіх паломніцтвах, у пышных працэсіях людзі п'янствуюць і распусцічаюць, у царкву ідуць, каб пакрасавацца ўбраннем і паглядзець на прыгожых жанчын. У гэтай «зморанасці веку» адна з прычын заняпаду рэлігійнасці. Другая прычына — у жаданні наблізіць ідэал да жыцця, сарваць з ідэалу флёр абстрактнай святасці і надаць яму відавочны, жыццёвы, канкрэтна-пачуццёвы выгляд. «Рэлігія набліжаецца да быту, да звычайных дэталей паўсядзённасці, чалавек становіцца занадта бесцырымонны з богам і вераю. Але за ўсім гэтым іменна наіўная фамільярнасць з богам, а не бязбожнасць; вера сярэдневяковага чалавека непахісна, яна для яго — тое, што само сабою разумеецца»,— адзначае ў сваім артыкуле С. Маркіш.

У гэтым разуменні рэлігійнасці Адраджэння схавана і разуменне новага, рэнесанснага багаслоўя, якое непасрэдна звярталася да біблії і твораў «айцоў царквы» ў адпаведнасці з патрабаваннямі гуманістычнай філалагічнай крытыкі. Пракламаваны Эразмам тэзіс «сучаснага благачэсця» меў на ўвазе «благачэсце свецкае», якое вынікала з непасрэднага звароту да раннехрысціянскіх запаведзяў, якія былі створаны самім

---

[1] «Вопросы литературы», 1966, № 11, стар. 143.

Ісусам. А гэта прыводзіла да адмаўлення аўтарытэту царквы, таму што Хрыста і царкву пачалі лічыць катэгорыямі несумяшчальнымі. Зварот непасрэдна да Хрыста дэманстраваў узросшую самасвядомасць таго чалавека, для якога рэлігія стала інтымнай справай, «унутранай верай». Няцяжка зрабіць вывад, што Скарына набліжаўся іменна да разумення рэлігіі як да споведзі «самаўладнага чалавека». У яго ўяўленні рэлігія — гэта асабістая схільнасць, а не вышэйшая амбіцыя веруючага хрысціяніна[1]. Прыхільнік «сучаснай набожнасці», Скарына стаяў бліжэй да Эразма, чым да ідэолагаў пратэстантызму. Не выпадкова Скарына, калі верыць Е. Капітару[2], разышоўся з Лютэрам пасля першага ж іх асабістага знаёмства. Відаць, яны адчулі адзін да аднаго ўзаемную непрыхільнасць. Эмансіпіраваная думка беларускага гуманіста магла і не ўмясціцца ў вузкія рамкі пратэстанцка-лютэранскай канцэпцыі. Дэвіз Лютэра «credo ut intelligam» («веру, каб разумець») не супадаў са скарынінскім крэда «intelligo ut credam» («разумею, каб верыць»), як не супадаў пункт погляду Лютэра з пунктам погляду Мюнцэра, з аднаго боку, і Эразма — з другога. Суадносіны Эразм — Лютэр добра сфармулявалі багасловы Кёльна: «Эразм знёс яйцо, якое выседзеў Лютэр». Пазней Эразм адмовіўся «ад куранят такой пароды». Магчыма, што калі б Скарына дажыў да канца XVI ст., ён таксама адмовіўся б ад «куранят», якіх выседзелі яго нашчадкі.

Светапогляд гуманістаў меў кампрамісны характар, таму што жылі яны ў пераходны перыяд, на мяжы феадалізму і капіталізму, калі грамадскія ідэалы буржуазіі яшчэ толькі фарміраваліся, а сама буржуазія занадта добра памятала свайго продка — феадальны клас. Усе дзеячы гэтай эпохі знаходзіліся на значнай дыстанцыі ад народнага руху. Такое глыбокае разыходжанне паміж гуманістамі і народнай апазіцыяй можна растлумачыць іх недавер'ем да неадукаваных нізоў і надзеяй на рэфармісцкі шлях развіцця, навязаны зверху. Найбольш выразна кампрамісны характар іх светапогляду выявіўся ў перыяды максімальнага напалу сацыяльных пачуццяў у грамадстве, гэта значыць у той час, калі гі-

---

[1] Гл.: James K. Mc. Conica. English Humanists and Reformation Politics under Henry VIII and Edward VI. Oxford, 1965, стар. 20—22.

[2] Гл.: П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. СПб, 1888, стар. XIII—XIV.

сторыя патрабавала, каб гуманісты занялі найбольш прынцыповую пазіцыю. У даным выпадку паказальна, што, напрыклад, Эразм Ратэрдамскі, які не прызнаваў закліка Лютэра «біць, душыць, калоць» удзельнікаў сялянскага пратэстанцкага руху «як шалёных сабак», згаджаўся з тымі, хто патрабаваў кампрамісу і пасрэдніцтва ў вырашэнні супярэчнасцей паміж сялянамі і феадаламі. Магчыма, што і Скарына меў аналагічную арыентацыю ў грамадскіх пытаннях. Ён быў далёкі і ад артадаксальнага праваслаўя, і ад пратэстанцкага руху, таму што, відаць, добра бачыў фанатызм праваднроў і некаторых паслядоўнікаў пратэстантызму, хоць, безумоўна, не прызнаваць неабходнасць рэформ у грамадстве, якія маглі б узмацніць хрысціянства на базе асвячонасці, Скарына не мог. Нягледзячы на розніцу ў светапоглядах, у Скарыны і Эразма было шмат агульнага: калі Эразма лічылі «кіраўніком еўрапейскай рэспублікі вучоных», то Францыска можна назваць «кіраўніком рэспублікі вучоных» усходніх славян першай палавіны XVI ст. Абодва маглі ў аднолькавай ступені падзяляць сцвярджэнне, сфармуляванае Эразмам у 1533 г.: «Сутнасць нашай рэлігіі — мір і згода». Ва ўмовах рэлігійнага распаду, які гаспадарыў у Еўропе, гэта сцвярджэнне было шмат у чым апраўдана.

Скарына, як і многія іншыя асветнікі яго эпохі, наіўна лічыў, што калі людзі правільна зразумеюць сэнс і дух свяшчэннага пісання, хрысціянства лёгка адродзіцца ў сваёй першабытнай чысціні і славе першаапостальскіх часоў. Чалавеку дастаткова толькі ўзброіцца ясным розумам і адукацыяй. Але мы нідзе не знойдзем у Скарыны выказванняў супраць феадалізму, рэлігіі, супраць царквы. Як Эразм і Томас Мор, ён стаяў за выпраўленне нораваў царквы і свецкага грамадства, але супраць грамадскага расколу. Мір і адзінства ў грамадстве былі для яго вельмі істотным стымулам для росквіту народа. Ён быў упэўнены, што калі будуць больш «добрымі» багатыя, начальнікі, духавенства і іншыя ўладу маючыя,— прагрэс грамадскага жыцця будзе непазбежны. «Мир на земли и в человецех благоволение» Скарына разумеў як усеагульную згоду сярод людзей, як мір паміж усімі сацыяльнымі групамі ў грамадстве, дзе «агнец-бедны» будзе хадзіць без страху побач з «львом-багатым». Гэта пропаведзь сацыяльнай згоды была не новая. Яна гучала яшчэ з вуснаў Францыска Асізскага, які абвясціў чалавекалюбства і «сілу

дабра» асноўнай сілай будучых грамадскіх пераўтварэнняў. Новае збудаванне, што ўзнікне на прынцыпе паступовай перабудовы грамадскіх нораваў, будзе мець феадальную аснову, на думку Скарыны. Гэта перабудова павінна быць праведзена ў інтарэсах простага чалавека з нізоў, каб забяспечыць і яму месца ў жыцці.

Нягледзячы на утапічнасць і ідэалістычнасць, такія погляды адлюстроўвалі перадавую для свайго часу думку, у многім супадаючы на славянскай глебе з рэлігійна-сацыяльнай праграмай «чэшскіх братоў» і сацыяльнай канцэпцыяй дзеяча XV ст. П. Хяльчыцкага. Яго погляды, мусіць, зрабілі пэўны ўплыў на фарміраванне светапогляду Скарыны. Ідэя класавай роўнасці ва ўмовах феадалізму хістала асновы існуючага ладу, хоць самі ідэолагі і носьбіты гэтай ідэі не імкнуліся да звяржэння феадалізму. Феадальныя класы ў аднолькавай меры не былі зацікаўлены ў распаўсюджванні як ідэі класавай барацьбы, так і ідэі класавай роўнасці. Класавая барацьба магла б у перспектыве змяніць суадносіны класаў у грамадстве, а класавая роўнасць таксама патрабавала б змянення сацыяльнага статус-кво, і каб дасягнуць яго, спатрэбіліся б пэўныя ўступкі нізам з боку феадальных класаў. У любым выпадку ідэйныя новаўвядзенні пагражалі феадалізму і яго інстытутам. Таму гаварыць аб антыфеадальных тэндэнцыях Скарыны можна з пэўнымі агаворкамі.

Аднолькавае права кожнага на жыццё было прычынай таго, што Скарына лічыў кожнага «паспалітага» чалавека істотай, якая надзелена разумнай асновай і здольна да дзейнасці ў такой жа меры, як і вяльможа, у выпадку, калі яны атрымалі аднолькавую адукацыю. Ён не прымаў штучна ўкаранёнай прадузятасці наконт таго, што людзі ад нараджэння падзяляюцца на «ўбогіх розумам» і «выдатных» і што быццам сам бог правёў паміж імі размежавальную лінію зыходзячы з іх сацыяльнага і матэрыяльнага становішча.

Узор дзяржаўнасці Скарына бачыў у антычнасці. Ён верыў у ідэал антычнай дэмакратыі, што прызнавала «міласэрнага», «справядлівага», «адукаванага» і «дабрадзейнага» правіцеля, якому не ўласцівы недахопы феадальных уладароў. У гэтым сэнсе ідэальным правіцелем дзяржавы яму здаваўся Саламон, аб чым сведчыць прадмова Скарыны да «Прытчаў Саламонавых». Саламон, па яго словах, «не просил... собе дней многых, ни богатества, ни же душ врагов».

Цар ізраільскі вялікі, на думку Скарыны, тым, што ён «жадал... собе мудрости к научению судов», таму што навукі, веды, законнасць вышэй «тленных великих царских сокровищ», а «без мудрости и без добрых обычаев не ест мощно почстиве жити людем посполитым на земле».

Палітычная думка Скарыны, пераемніка антычна-дэмакратычнага ідэалу, не магла суіснаваць з уяўленнем аб тыраніі ў любым яе праяўленні. У яго разважаннях пра вайну, мір, дзяржаўную палітыку, пра аблічча манарха чутны рэмінісцэнцыі некаторых думак, што выказвалі яго сучаснікі-гуманісты. Трэба ўлічыць, што ў 1514 г. быў апублікаваны трактат Макіявелі «Князь» («De princeps»), а ў 1516 г. еўрапейскай грамадскасці стала вядома пра выхад у свет «Утопіі» Томаса Мора і «Хрысціянскага гасудара» Эразма з Ратэрдама. Безумоўна, Скарына не мог прымаць макіявеліеўскую канцэпцыю дзяржаўнай улады, але ён, напэўна, быў блізкі ў гэтым пытанні да Эразма, які звяртаўся да Карла V з парадай кіраваць у адпаведнасці з народнай воляй, быць не самавольным уладаром імперыі, а слугой сваіх падданых, выкарыстоўваючы любоў народа, а не страх у якасці асноўнага стымулу да патрыятызму, таму што страх перад пакараннем не з'яўляецца стрымліваючай асновай і не памяншае злачыннасці ў грамадстве.

У поглядах на навуку Скарыну можна лічыць заснавальнікам новых адносін да яе сярод беларускага насельніцтва. Навука, якая мае разумную аснову; майстэрства, якое адлюстроўвае шматграннасць жыцця; чалавечы індывідуалізм, што вядзе да парушэння склаўшайся феадальнай іерархіі; мараль, якая па-свецку растлумачвае пытанне суадносін духоўнага і цялеснага,— усе гэтыя погляды, якія Скарына наследаваў ад гуманістаў Еўропы, адлюстроўвалі ў той жа час і радыкальны паварот грамадскай думкі ў Беларусі XVI ст. У гэты час адбывалася трансфармацыя самога паняцця «розум». Розум з катэгорыі «божага дару» і органа пазнання «божай сутнасці» ператварыўся ў сродак пазнання прыроды і самога чалавека. Прыкметнай з'явай быў зварот ад хрысціянскай трактоўкі розуму да разумення «язычаскага», уласцівага мысліцелям старажытнасці. Адбывалася павольная, але няўхільная эвалюцыя ад сузіральнасці да практыкі актыўных адносін да прыроды і ўмяшання ў жыццёвыя працэсы. Адсюль і скарынінскі погляд на чалавечы подзвіг: гэты подзвіг павінен

адбывацца не толькі ў душах і розумах людзей, але і ў сферы свецкіх, чалавечых адносін.

У «міру», а не ў «пустыні» павінен рабіць добрае чалавек, які шукае «горнега града».

Скарына не быў пратэстантам-рэфарматарам. Але ён сваёй дзейнасцю садзейнічаў развіццю рэфармацыйнага руху ў Вялікім княстве Літоўскім. Рэфармацыя тут не магла б развівацца без распаўсюджання кнігадрукавання і асветы, гэта значыць без тых умоў, што ўзнікалі пад уздзеяннем традыцыі, якая была закладзена Скарынай.

У сувязі з гэтым нельга згадзіцца з думкай некаторых вучоных[1], якія лічаць, што ерасі — адмоўная з'ява ў сферы складвання гуманістычнага светапогляду. Тым больш нельга лічыць пратэстантызм «рэцыдывам сярэдневякоўя»; гэта можна аднесці да Контррэфармацыі, не больш. Рэфармацыйны пратэстантызм, які ўзнік у XVI ст., хутка распаўсюдзіўся ў Еўропе іменна з той прычыны, што ўжо існаваў сталы фундамент у выглядзе культуры Адраджэння. Пратэстантызм проста выкарыстаў у сваіх мэтах гуманістычную педагогіку і філалогію, цудоўна распрацаваныя дзеячамі еўрапейскага гуманізму. Пратэстантызм можна разглядаць як новую з'яву ў грамадскім жыцці Еўропы, што ўзнікла як свайго роду працяг Адраджэння, як прыстасаванне ідэй Адраджэння да сферы палітычнага і культурнага жыцця. У перспектыве гісторыі ўзнікла задача зверджэння аўтарытэту аднаго з самых магутных феадальных інстытутаў — царквы, з прычыны гэтага ўзнікла і новая асаблівасць у грамадскай практыцы: усе плыні палітычнага, культурнага і ідэалагічнага жыцця прымалі рэлігійную абалонку і мелі характар рэлігійных ерасей, хоць рэлігійнае ў іх было ўсё ж такі фактарам другарадным. Гуманізм у тэорыі і практыцы пратэстантызму, безумоўна, шмат страціў ад сваёй першапачатковай чысціні, але другі быў працягам першага.

У эпоху, калі рабіліся большымі гарады, «углыб і ўшыркі» развівалася гарадская культура, калі гараджане заявілі аб сабе як аб гістарычнай грамадскай сіле, а феадальная арыстакратыя павінна была падпасці пад уплыў гэтай сілы і «абур-

---

[1] Напрыклад, В. Н. Лазарава ў кн.: Происхождение итальянского Возрождения, в трех томах, т. I. М., 1956, стар. 32 і І. М. Галянішчава-Кутузава ў кн.: Итальянское Возрождение и славянские литературы XV—XVI вв. М., 1963, стар. 325.

жуажваца»,— складвалася і праслойка інтэлігенцыі ў асяроддзі гарадскога саслоўя, праслойка, эмансіпіраваная ад царквы. Юрысты, архітэктары, настаўнікі, урачы, элаквенты — імя ім легіён — не былі прыкаваны да «карабля царквы» і ім непатрэбна была яе ахова. З утварэннем гэтай дастаткова моцнай праслойкі можна звязаць з'яўленне якасна новай, гуманістычнай культуры. Далейшае грамадскае развіццё было замаруджана тым, што феадалізм і царкоўны інстытут не проста працягвалі існаваць, але і былі дастаткова магутнымі, каб затармазіць працэс лібералізацыі і секулярызацыі асобы, каб утаймаваць індывідуум, які паспеў адчуць характво свабоды, чалавека, што зрабіў замах на самыя высокія аўтарытэты ў дзяржаве. Рэфармацыя была паўторнай спробай вызвалення. Контррэфармацыя ж паказала, што Сярэдневякоўе яшчэ не зусім здало свае пазіцыі, што яго рэцыдывы магчымы і ў наступныя стагоддзі.

З асяроддзя беларускіх гараджан выдзялялася група купецтва, для якога не існавала паняцця межаў, а канфесіянальныя і нацыянальныя адрозненні не мелі істотнага значэння. Там, дзе справа датычылася даходаў,— аўтарытэт золата пераважаў над аўтарытэтам веры. Беларускі купец са сваімі таварамі ў пошуках рынкаў збыту пранікаў у Расію, на Украіну, хадзіў у Польшчу, у «немцы», у Рыгу. Практычныя мэты купецтва садзейнічалі развіццю не толькі прыродазнаўчых навук, але і новага светапогляду, новай ідэалогіі, што ўваходзілі ў супярэчнасць з феадальнымі нормамі грамадскага быцця. Яшчэ Ф. Энгельс пісаў, што фундамент феадальных замкаў быў падарваны грашыма [1]. Узніклі бескампрамісныя супярэчнасці паміж сістэмай натуральнай гаспадаркі і новай эканамічнай практыкай: гандлем, сістэмай крэдыту, ліхвярскімі адносінамі. Сутыкненне паміж аўтарытэтам грошай і феадальнымі прывілеямі вылівалася ў працяглую і ўпартую барацьбу, якая рухала і абуджала грамадскае развіццё.

Але хаця феадалізму прыходзілася здаваць адну пазіцыю за другой, хаця куранты гісторыі адбілі яго час,— ён быў яшчэ здольны супрацьстаяць новым павевам у ідэалогіі і эканоміцы. Рэфармацыя і была такой працяглай і ўпартай спробай устанаўлення новай сістэмы чалавечых адносін у

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 21, стар. 408.

сферы эканомікі і сферы ідэалогіі. Гуманізм Адраджэння, які ўзнік з папярэдняга перыяду грамадскага развіцця, быў першасным этапам наступлення, у якім прымалі ўдзел адукаваныя людзі Еўропы. На іх штандарах былі напісаны лозунгі дабра, братэрства, чалавечнасці, на жаль, абстрактныя і не праверaныя жыццёвай практыкай, таму што сувязі з народам у дзеячоў Адраджэння не было.

Рэфармацыя была другім этапам, калі ідэі гуманізму зблізіліся з лозунгамі і інтарэсамі народа. Пад разгорнутыя штандары гуманізму ўсталі ўсе, хто лічыў, што грамадству патрэбна радыкальнае абнаўленне. Але, як і ў многіх масавых выступленнях, калі ўзнікала неабходнасць ператварэння лозунгаў у практыку жыцця,— у Рэфармацыі ўзніклі супярэчнасці, якія прывялі да аслаблення антыфеадальнага фронту. Гэта садзейнічала набліжэнню эпохі Контррэфармацыі.

Але і сама Рэфармацыя была неаднародная на працягу свайго развіцця. Прагрэсіўнай яна была галоўным чынам на пачатковым сваім этапе. Вядома, што адрозненне ў пратэстантызме Эразма Ратэрдамскага і Марціна Лютэра было прычынай таго, што Эразм не прызнаваў практыкі лютэран. Яшчэ К. Маркс у 1844 г. пісаў, што «... *Лютэр* перамог рабства па *набожнасці*», паставіўшы замест яго «рабства па *перакананню*». Ён «разбіў веру ў аўтарытэт, аднавіўшы аўтарытэт веры». Лютэранства ў працэсе свайго развіцця паступова эвалюцыяніравала ў напрамку занявольвання чалавечага духу. Ідэалы пратэстантаў у практыцы Рэфармацыі набывалі выразныя рысы фанатызму і дагматызму. Лютэр «вызваліў чалавека ад знешняй рэлігійнасці, зрабіўшы рэлігійнасць унутраным светам чалавека». Таму Вялікая сялянская вайна ў Германіі, што спачатку была спробай вызвалення ад ланцугоў царквы і свецкай феадальнай улады, «разбілася аб тэалогію» [1]. Нягледзячы на дзесяцігоддзі гуманістычнай прапаведзі, на масавыя праяўленні антыфеадальнай і антыклерыкальнай пратэстанцкай думкі ў сялянска-плебейскай апазіцыі, мысленне людзей моцна было прывязана да Сярэдневякоўя.

І тым не менш лічыць Рэфармацыю «рэцыдывам сярэдневякоўя» няма ніякіх падстаў — гэта была спроба прагрэсіўнага грамадскага развіцця, па сваёй сутнасці глыбока супярэчлівая. Нават калі б не было арганізаванай акцыі ўду-

---

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 1, стар. 422—423.

шэння рэфармацыйнага руху і Контррэфармацыі, яна вырадзілася б і распалася б пад цяжарам уласных унутраных супярэчнасцей. Улічваючы ўсе «за» і «супраць», Маркс сцвярджаў, што *«рэвалюцыйнае* мінулае Германіі... гэта — *рэфармацыя.* Як тады рэвалюцыя пачалася ў мозгу *манаха,* так зараз яна пачынаецца ў мозгу *філосафа...»* «Калі пратэстантызм не даў правільнага рашэння задачы, дык усё ж ён правільна паставіў яе» [1]. Маркс рэзка крытыкаваў тых, хто не згаджаўся з энгельсаўскім вызначэннем Рэфармацыі як «маці рэвалюцыі» [2]. Тэарэтыкі каталіцызму ў эпоху рэвалюцыйнага антыбуржуазнага руху пралетарыяту, імкнучыся скампраметаваць рэвалюцыю, кампраметавалі і яе «маці» — Рэфармацыю. Тое ж самае было і ў адносінах да Адраджэння, якое лічылі працягам Сярэдніх вякоў.

Ідэі гуманізму атрымалі распаўсюджанне ў Вялікім княстве Літоўскім не на хвалі Адраджэння, а ў перыяд Рэфармацыі. Таму разглядаць дзейнасць Скарыны патрэбна, на наш погляд, улічваючы сацыяльны характар рэлігійнага пратэсту беларускага народа. Скарына-гуманіст садзейнічаў афармленню рэфармацыйнага крэда беларускіх пратэстантаў, не прымыкаючы непасрэдна да Рэфармацыі.

Па свайму светапогляду Скарына быў вышэй вузка праваслаўных і каталіцкіх рэлігійна-філасофскіх поглядаў, ён не быў прапаведнікам праваслаўя ў «Літве», як сцвярджалі некаторыя даследчыкі (напрыклад, Віктараў [3]); няма ніякіх падстаў лічыць яго і прапагандыстам пратэстанцкага вучэння, як сцвярджаў Галавацкі [4]. Нават калі б пацвердзілася версія Е. Капітара аб сувязі Скарыны і Лютэра, усё роўна аргументы наконт пратэстантызму Скарыны надзвычай непераканальныя.

Разглядаючы дзейнасць Скарыны, міжволі здзіўляешся універсальнасці яго інтарэсаў і запатрабаванняў. Гэты універсалізм не выпадковы, калі мы ўспомнім, што беларускі асветнік з'яўляўся чалавекам той эпохі, якая стварала ўсебакова адукаваных людзей з самымі універсальнымі інтарэсамі. Людзям Адраджэння было ўласціва «жывое ўсведамленне глыбокай узаемасувязі розных бакоў жыццёвага

---

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 1, стар. 422—423.
[2] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 29, стар. 18.
[3] Беседы в Обществе любителей российской словесности, 1867, 1, стар. 17.
[4] Науковый сборник. Львів, 1865, стар. 225—257.

працэсу, тое адзінства погляду на свет, калі думка не можа абмежавацца адным аспектам рэчаіснасці, адным яе бокам, але імкнецца даць карціну ўсяго грамадства, разрастаючыся ў свайго роду энцыклапедыю жыцця» [1]. Калі ўсё, што напісаў Скарына ў выглядзе прадмоў і пасляслоўяў да асобных выданняў, сабраць у адзінае цэлае, дык можна атрымаць яскравае прадстаўленне аб яго поглядах і ў першую чаргу аб яго імкненні да шырыні ахопу жыцця, да выяўлення і адлюстравання ўсяго вопыту эпохі, праломленага ў індывідуальнай форме, уласцівай творчасці аўтара. Як сапраўдны гуманіст Скарына не абмяжоўваўся толькі светам асабістых пачуццяў і перажыванняў. Для яго характэрны цікавасць і пільная ўвага да навакольнага свету, да таго, што старажытныя людзі звалі «макракосмам». «Макракосм» быў аб'ектам дапытлівай думкі многіх еўрапейскіх мысліцеляў: Парацэльса, Каперніка, Галілея, Кеплера. Прага зведаць «mundus externum» (знешні свет) характарызавала Мікалая Кузанскага і Джардана Бруна. Гэта ж няўтольная прага ведаў апаноўвала Скарыну, які вывучаў медыцыну, права, а таксама навукі «о прирожении древ и былин, зверей, птиц, гадов и рыб».

Гаварыць аб магчымасцях Скарыны ажыццявіць яго асветніцкія ідэі ў Вялікім княстве Літоўскім можна толькі з пэўнай агаворкай, улічваючы пераходны характар эпохі, калі развівалася яго дзейнасць. У самога Скарыны ўжо адбылася пэўная эвалюцыя ў светапоглядзе, ён успрыняў новае жыццёвае крэда. Але беларускае грамадства, як, дарэчы, і грамадства ў многіх краінах Еўропы, жыло яшчэ сярэдневяковымі ўяўленнямі. Да вялікай часткі феадальнага класа, якая знаходзілася ў правінцыі, аддаленай ад скрыжаванняў гандлёвых і культурных шляхоў, новыя ідэі або не дайшлі, або дайшлі нясмелым рэхам. Сяляне, падуладныя феадалам, у значнай большасці заставаліся цёмнай і забітай масай, таксама далёкай ад новай ідэалогіі. Няясныя, слаба ўсвядомленыя тэндэнцыі прабіваліся на паверхню іх жыцця. Патрэбны былі дзесяцігоддзі працы, каб «узбаламуціць ваду ў купелі». На гэта і разлічваў Скарына. А эпоха разлічвала на яго самога, патрабуючы многа ад таго, каму многа дадзена. Вядома, што

[1] Л. Е. Пинский. Предисловие к кн.: Эразм Роттердамский. Похвала глупости. М., 1960, стар. 113.

ў эпоху ўсталяваных манархічных форм праўлення нішто так не рэвалюцыянізуе масы, як асвета, што вядзе ў сваю чаргу да новых ступеней сацыяльнага прагрэсу. У эпоху Скарыны асвета многімі ў Еўропе разглядалася як важная зброя ў барацьбе супраць феадалізму. Жніво было далёка ад пасеву, але гэты пасеў быў неабходны, нягледзячы на тое, што ўсходы будуць толькі праз шмат дзесяткаў год. Сейбіту ведаў патрэбна было цярпенне, вялікі запас аптымізму і цвёрдая ўпэўненасць у непазбежнасці ўсходаў, якія выраступь, можа, толькі пасля смерці самога сейбіта.

Асветніцкая дзейнасць Скарыны не абмяжоўвалася адным класам, як сцвярджалі некаторыя даследчыкі, і ў прыватнасці М. Піятуховіч, які пісаў: «Выдаючы свае кніжкі на сродкі... прадстаўнікоў гандлёвай буржуазіі, Скарына і сам характар сваіх выданняў дастасоўваў да патрабаванняў капіталу... Партатыўнасць выданняў адпавядала вандроўнай форме жыцця гандляроў; зручнасць і значны кошт іх паказвае, што яны, відаць, былі разлічаны на збыт сярод заможных прадстаўнікоў гарадскога насельніцтва»[1]. З такімі меркаваннямі нельга згадзіцца, таму што ў прадмовах да кніг сам Скарына выразна акрэсліў мэту сваёй дзейнасці: у інтарэсах «люду паспалітага». Параўнальна высокая цана скарынінскіх кніжак, абумоўленая цяжкасцямі і навізной кнігадрукавання, а таксама дэфіцытам паперы, была, безумоўна, сур'ёзнай перашкодай на шляху папулярызацыі кніг, але кнігі ўсё ж распаўсюджваліся ў розных пластах насельніцтва. Цяжка ўявіць, каб у простага селяніна была магчымасць набыць «Апостал» або «Малую падарожную кніжыцу», але чалавек сярэдняга дастатку, спачуваючы ідэям сваёй эпохі, схільны да «мудрствавання» і «маралізацыі», безумоўна, меў магчымасць далучыцца да асветніцтва веку і да радоў «хрысталюбцаў», як тады называлі людзей, якія любілі чытанне. «Саборнае пасланне» 1509 г. адзначала, напрыклад, што кнігу «Правілы божаскія» мелі ў сябе дома некаторыя простыя свецкія людзі[2]. (Гэта можна лічыць найвялікшым дасягненнем свайго часу. Традыцыі вялікага першадрукара працягва-

---

[1] М. Піатуховіч. Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасць. 400-лецце беларускага друку. Мінск, 1926, стар. 177.

[2] Гл. у кн.: П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык, стар. 14.

ліся ў пасляскарынінскі перыяд, калі кнігі пранікдлі ў многія пласты насельніцтва Вялікага княства Літоўскага).

Погляды якога ж грамадскага класа адлюстроўваў Скарына? На гэта пытанне цяжка адказаць з-за недахопу канкрэтных фактаў. Таму адказ на яго трэба шукаць зыходзячы з гістарычных суадносін грамадскіх класаў у Беларусі XVI ст. і з прыналежнасці самога Скарыны да пэўнай сацыяльнай групы. Ён паходзіў з небагатай купецкай гарадской сям'і. Нельга лічыць, што Скарына шляхецкага паходжання, як гэта робіць Янчук [1], на той падставе, што быццам беларускі першадрукар меў герб. Хутчэй за ўсё гэта быў не герб, а кніжны знак, экслібрыс, падобны на знак у нюрнбергскай хроніцы Шэдэля [2]. Скарына ў гэты малюнак унёс нязначныя змены: сонца і месяц у Шэдэля кожнае паасобку, у Скарыны яны аб'яднаны. Магчыма, гэта адлюстроўвае схільнасці Скарыны да свецкіх навук, у тым ліку да астраноміі, магчыма, уладар экслібрыса хацеў у наіўна сімвалічнай форме паказаць сваю неразлучнасць з айчынай. Можна толькі рабіць здагадкі.

У свой час І. Шляпкін апублікаваў даныя аб тым, што ў актах Падуанскага універсітэта Скарына лічыўся «бедным юнаком», які прасіў правесці ўрачысты цырыманіял, звязаны з правядзеннем экзамену на ступень доктара, за кошт універсітэта [3]. У італьянца Копі можна знайсці звесткі аб тым, што выдаткі на такі цырыманіял былі даволі значныя, таму што «ўвесь апарат царквы, дзе праводзілася цырымонія, пышнасць яе ўдзельнікаў, багатыя падарункі, што павінны былі падносіцца прысутным галоўным саноўнікам, а таксама выдаткі на банкет і забавы, якімі адзначаўся дзень (урачыстасці),— усё гэта клалася на плечы лаўрэата» [4]. Зразумела, што Францыску, сыну небагатага полацкага купца, наўрад ці эканамічна лёгка было вучыцца і вытрымаць такі дарагі цырыманіял.

Беларускае купецтва таго часу ўжо мела ўнутры свайго саслоўя пэўны маёмасны падзел. Але ў цэлым яно было саслоўем перспектыўным, таму што вымушана было ўступіць

---

[1] Нарысы па гісторыі беларускага пісьменства. Мінск, 1922, стар. 8.
[2] Гл.: М. Піатуховіч. Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасць, стар. 159.
[3] Там жа.
[4] Coppi. Le universitá italiene nel medio evo. Firenze, 1886, стар. 201.

у барацьбу з феадальным ладам, спрабуючы адабраць у царквы пераважнае права на асвету і тым самым забяспечыць умовы для свайго далейшага развіцця. У гэтым сэнсе дзейнасць Скарыны набліжалася да імкненняў данай групы грамадства, дастаткова адукаванай для свайго часу. Інтарэсы справы прымушалі негацыянта быць пісьменным і мець пэўную адукацыю. Гэта было першаступеннай умовай для чалавека, які пастаянна павінен быў падтрымліваць гандлёвыя сувязі з суайчыннікамі і чужаземцамі. Ва ўсіх рэнесансных трактатах аб свабодным гандлі існаваў пункт аб адукаванасці самога гандляра.

Але сярэдняя частка гараджан, купецкае саслоўе ў той час усё ж не былі сілай, якая была б здольна на радыкальныя змены жыцця грамадства. Арыентуючыся на клас, да якога ён належаў, Скарына мог бачыць рэальныя суадносіны грамадскіх сіл. У Вялікім княстве Літоўскім немагчыма была іншая пастаноўка пытання, акрамя мірнага паляпшэння жыцця і ўдасканалення людзей, таму што для іншых поглядаў не было рэальнай асновы. Прапаганда больш радыкальнай праграмы ў першай палавіне XVI ст. непазбежна прывяла б да неапраўданых страт і ахвяр і, галоўнае, не прынесла б істотных вынікаў беларускім народным масам. Зараз, праз чатыры з палавінай стагоддзі, мы маем магчымасць растлумачыць погляды Скарыны. Іх «недасканаласць» не можа засланіць гістарычнага подзвігу гэтага гуманіста, асветніка, першадрукара.

Вельмі часта ў навуковай літаратуры, якая ўваходзіць у «скарыніяну», узнікае дыскусія аб рэлігійнай прыналежнасці Францыска Скарыны. З яго імем, як ужо адзначалася, справядліва звязваецца не толькі з'яўленне ва ўсходніх славян першай друкаванай кнігі на кніжнай мове беларускай народнасці, але і новы этап развіцця гуманістычнага і рацыяналістычнага светапогляду ў беларусаў, этап, які адзначыў шляхі далейшага руху перадавой беларускай літаратуры ў другой палавіне XVI ст. Таму пытанне аб рэлігійнай прыналежнасці Скарыны нельга лічыць пустым, бо ў XVI ст. канфесіянальныя перакананні таго ці іншага культурнага дзеяча вельмі часта вызначалі яго культурны і палітычны склад, а таксама ў большасці выпадкаў вычэрпвалі яго светапогляд.

Цяжка гаварыць упэўнена аб тым, да праваслаўя ці да каталіцызму фармальна належаў вялікі беларускі першадрукар.

Дакладна вядома толькі адно: Скарына быў верным і перакананым сынам свайго народа, які ў першай палавіне XVI ст., у гады, калі жыў і працаваў Скарына, у абсалютнай большасці быў праваслаўны. Схільнасці першадрукара асабліва выразна выступаюць у выданай ім у Вільні «Малой падарожнай кніжыцы». Тут, у «Каноне Ісусу», Скарына ўказвае: «Исуса родила еси дево богомати, того умоли спасти вся *православные* (курсіў тут і далей мой.— *В. З.*) иноки и мирския». Калі б выданне было прызначана для католікаў, Скарына ніколі б не пісаў аб выратаванні ўсіх праваслаўных.

У «Шэстаднеўцы» ён піша, што каляндар ім састаўлены «по обычаю всех *восточных* церквии», а праваслаўе, на думку аўтара, прызвана «*православныя* цари утвердити».

Арыентацыя на праваслаўнага чытача відаць і ў іншых словах «Шэстаднеўца», дзе гаворыцца: «помяни господи плененных от иноплеменник братию нашу, еже суть у *православной* вере».

Уся гэта цытацыя даецца выключна дзеля таго, каб пацвердзіць некаторыя вывады, выкарыстоўваючы напісанае самім Скарынай. А з прыведзеных тэкстаў становіцца ясна, што мэтай сваёй дзейнасці Скарына лічыў служэнне праваслаўнай «рускай» «браціі нашай», гэта значыць беларусам, украінцам і рускім.

Можна сцвярджаць, што Скарына па свайму першаснаму хрышчэнню, выхаванню ў сям'і і пачатковай адукацыі, атрыманай у Полацку, быў праваслаўны. Можна таксама меркаваць, што прага да ведаў прывяла яго да неабходнасці другаснага хрышчэння па каталіцкаму абраду і прыняцця імя Францыск. Відаць, у Кракаве ён не меў бы магчымасці вучыцца, калі б быў праваслаўным, таму што ў Кракаўскім універсітэце, які знаходзіўся пад апекай рымскай курыі, не дазвалялі наведваць заняткі асобам іншай веры, а асабліва так званым схізматыкам, праваслаўным, якіх тут прыроўнівалі да язычнікаў. Таму «рускаму», ды яшчэ схізматыку, які меў жаданне быць кандыдатам універсітэцкага курса ў Кракаве, нельга было нічога зрабіць, акрамя таго, што, утаіўшы сваё імя, прыняць ад заходніх католікаў імя Францыск, адзначаў Петрушэвіч[1]. Знаходзячыся ў Празе, Скарына друкаваў кнігі,

---

[1] «Слово», 1875, ч. 130, 25 лістапада, стар. 2.

не ўказваючы на іх праваслаўнае прызначэнне. Пазней у Вільні, калі можна было менш баяцца каталіцкіх улад, ён адкрыта заяўляў аб тым, што кнігі яго прызначаюцца для праваслаўных людзей «рускай мовы». Скарына мог часова ахвяраваць сваёй прыналежнасцю да праваслаўя або каталіцызму дзеля выканання галоўнай жыццёвай мэты, а гэта былі задачы асветы і ўмацавання нацыянальнай самасвядомасці ў «рускім» народзе. «Парыж варты абедні». У даным выпадку можна лёгка згадзіцца з думкай А. Ясінскага, які пісаў: «Ёсць падставы думаць, што Скарына быў дрэнным каталікам: калі б ён быў добрым каталікам, дык не ўзяўся б за пераклад бібліі і асабліва на сваю родную мову» [1].

Але звязваць скарынінскі подзвіг толькі з канфесіянальнай арыентацыяй, значыць, разумець яго аднабакова. Можна лічыць, што ў агульнай прынцыповай ацэнцы значэння дзейнасці Скарыны пытанне аб яго рэлігійнай прыналежнасці наогул не адыгрывае выдатнай ролі. У даным выпадку, мусіць, трэба далучыцца да думкі А. Фލароўскага, які прыйшоў да вываду, што Скарына «быў чалавекам сваёй эпохі, прадстаўніком шырокіх культурных сімпатый і сучаснага яму светапогляду. Ён быў гуманістам, і ў гэтай шырыні яго духу трэба шукаць тлумачэнне яго вялікай культурнай справы» [2].

Скарына, надрукаваўшы першую кнігу ў 1517 г., на 12 гадоў раней за Лютэра і на 46 год раней за Фёдарава, з'явіўся заснавальнікам новага кірунку: у практычным літаратурным ужытку ён выкарыстаў замест царкоўнаславянскай мовы мову беларускай пісьменнасці пачатку XVI ст., мову, што ў аднолькавай ступені была зразумелай і беларусам, і ўкраінцам, і рускім. Друкарская дзейнасць Скарыны мела вялікае значэнне і для суседняй з Беларуссю Украіны. Як сведчыць П. Папоў [3], кніжкі Скарыны мелі шырокае распаўсюджанне на Украіне, прывучвалі насельніцтва да друку і падрыхтавалі ўжо недалёкі росквіт уласнага ўкраінскага кнігадрукавання. Вялікае значэнне подзвігу Скарыны надаваў П. Уладзіміраў, які лічыў, што «лёс кніг і перакладаў Скарыны цікавы ў тым сэнсе, што паказвае іх непасрэдныя адносіны да інтарэсаў права-

[1] А. Ясінскі. З культурнай гісторыі Чэхіі пачатку XVI сталецця. 400-лецце беларускага друку, стар. 41.

[2] Co daly naše země Europě a lidstvu, II vyd. Praha, 1940, стар. 140.

[3] Гл.: «Бібліологичні вісти». Київ, 1924, стар. 23.

слаўных як у паўднёва-заходняй Расіі, так і ў паўночна-ўсходняй»[1].

Вывучаючы ўсю сукупнасць фактаў, якія сведчаць аб распаўсюджанасці выданняў Скарыны і іх значэнні для развіцця культуры ва ўсходніх славян, мы пераконваемся ў тым, што выдавецкая і асветніцкая дзейнасць беларускага першадрукара не была абмежавана толькі тэрыторыяй Беларусі, яна мела вялікае значэнне і для Маскоўскай дзяржавы, і для Украіны.

Значэнне подзвігу Скарыны трэба разглядаць, зыходзячы з пазіцый усіх усходніх славян, а 1517 г. можна лічыць годам пачатку кнігадрукавання ўсіх усходнеславянскіх народаў.

* * *

У магчымасцях чалавека многае. Бываюць такія моманты ў гісторыі, калі думкі адукаванага «вар'ята», акружанага морам цемры і цемрашальства, перамагаюць, нягледзячы на супраціўленне «трымальнікаў прастолаў», нягледзячы на «дэманічную сілу» невуцтва князёў цемры.

Скарына не быў адзінокі ў сваёй айчыне. Ён абапіраўся на пэўныя грамадскія сілы, якія выходзілі на гістарычную арэну. У гісторыі грамадскай думкі Беларусі ён застаецца ўзорам універсальна таленавітага вучонага, барацьбіта і чалавекалюбца, адным з тых, на каго арыентаваўся грамадскі прагрэс у Еўропе і ва ўсходнеславянскіх краінах.

Таму яго і трэба разглядаць сярод найбольш выдатных дзеячоў еўрапейскай культуры і грамадскай думкі свайго часу.

---

[1] П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык, стар. 244.





Я. Л. НЕМІРОЎСКІ

# Іван Фёдараў і Пётр Цімафееў Мсціславец у Беларусі



ліпені 1568 г. у Заблудаве — невялікім мястэчку на захадзе Беларусі — запрацаваў станок славянскай друкарні. Існавала гэта друкарня нядоўга — без малога два гады. Але роля яе ў гісторыі беларускага кнігадрукавання выключна вялікая.

Заблудаўская друкарня дорага нам і таму, што заснавана яна была выдатнымі маскоўскімі першадрукарамі — Іванам Фёдаравым і Пятром Цімафеевым Мсціслаўцам. У той далёкі час яна з'яўлялася прыкладам дружалюбных сувязей двух братніх народаў — сувязей, якія сталі выключна жыватворнымі ў нашы дні.

Жыццёваму подзвігу Івана Фёдарава прысвечана нямала манаграфічных даследаванняў. Падрабязна вывучаны абставіны ўзнікнення кнігадрукавання ў Маскве [1]. Досыць шырока

---

[1] А. С. Зернова. Начало книгопечатания в Москве и на Украине. М., 1947; Г. И. Коляда. Иван Федоров первопечатник (Московский период его деятельности). Автореферат докторской диссертации. М., 1961; Е. Л. Немировский. Возникновение книгопечатания в Москве. Иван Федоров. М., 1964.

даследаван украінскі перыяд дзейнасці першадрукара[1]. Але дзейнасць Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца на беларускіх землях, на вялікі жаль, да гэтага часу глыбока і ўсебакова не вывучана і не даследавана. Акрамя невялікіх па памеру раздзелаў у агульных працах і нядрэнных па свайму зместу папулярных юбілейных артыкулаў, тут пакуль што нічога больш грунтоўнага няма[2].

Аб Заблудаўскай друкарні, што ўпершыню ўпамінаецца яшчэ ў 1813 г. К. Ф. Калайдовічам на старонках часопіса «Вестник Европы» (ч. 71, № 18), мы амаль нічога не ведаем. Кнігі, якія выйшлі там, падрабязна не апісаны, і да гэтага часу невядома колькасць іх экземпляраў, што дайшлі да нашых дзён. Прадмовы і пасляслоўі Івана Фёдарава неаднаразова выдаваліся, і выключэнне зноў-такі складае заблудаўскі «Псалтыр» 1570 г.

Некаторыя з гэтых «белых плям» і заклікан ліквідаваць прапануемы ўвазе чытачоў артыкул.

У хуткім часе пасля выдання «Часоўніка» 1565 г. маскоўскім першадрукарам прыйшлося пакінуць родную зямлю. Як расказваў пасля сам Іван Фёдараў, у Маскве знайшліся людзі, якія імкнуліся «благое в зло превратити». Людзі гэтыя на першадрукароў «зависти ради ереси умышляли». Пытанне аб спыненні дзейнасці друкарні Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца застаецца далёка яшчэ не ясным. Сам першадрукар гаворыць аб сваіх праследавацелях глуха. Сучасныя даследчыкі прытрымліваюцца па гэтаму пытанню розных пунктаў гледжання.

Так ці інакш, але ў перыяд паміж 29 кастрычніка 1565 г., калі было закончана другое выданне маскоўскага «Часоўніка», і 8 ліпеня 1568 г., калі пачалося друкаванне заблудаўскага «Учыцельнага евангелля», Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец пакінулі Маскву і перабраліся ў Беларусь.

Спрэчнае пытанне і аб тым, куды канкрэтна накіравалі свае крокі першадрукары, трапіўшы на беларускую зямлю. «Егда же оттуду (г. зн. з Масквы) семо преидохом...— расказваў пазней Іван Фёдараў, — въсприяша нас любезно бла-

---

[1] Я. Запаско. Першодрукар Іван Федоров. Нарис. Львів, 1964; Я. Ісаєвич. Першодрукар Іван Федоров на Україні. Київ, 1964.

[2] 400-леццe беларускага друку. Мінск, 1926, стар. 243—246; А. Ф. Коршунаў. Іван Фёдараў і беларускае кнігадрукаванне. «Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук», 1964, № 4, стар. 79—85.

гочестивый государь Жикгимонт Август кроль польский и великий князь литовский... с всеми паны рады своея» [1]. З гэтых слоў даследчыкі звычайна робяць вывад, што першадрукарам быў зроблен урачысты прыём каралём Сігізмундам Аўгустам, на якім прысутнічалі відныя прадстаўнікі феадальнай знаці. Рознагалоссі пачынаюцца тады, калі заходзіць гутарка аб месцы гэтай сустрэчы.

Нам наогул здаецца сумніцельным прыём вальным або не вальным сеймам на чале з самім каралём першадрукароў — людзей нязнатнага паходжання, рамеснікаў, якія, безумоўна, не маглі стаць буйной картай у палітычнай гульні паміж Масквой і Літвой. Прыведзеную вышэй фразу з пасляслоўя «Апостала» 1574 г. мы схільны ўспрымаць фігуральна. Нездарма з'явілася гэта фраза ў заблудаўскіх выданнях не адразу пасля мяркуемай падзеі, а праз восем год, калі ні Сігізмунда Аўгуста, ні Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча — стваральніка Заблудаўскай друкарні ўжо не было ў жывых.

Першадрукары Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец накіраваліся ў беларускія землі, спадзеючыся знайсці тут прымяненне сваім ведам і майстэрству. І, безумоўна, яны не чакалі, што іх тут сустрэнуць сардэчнымі абдымкамі. Не выключана, што на першых кроках ім даводзілася выконваць любую работу, каб здабыць сродкі на пражыццё. У кнігах Ковенскага магістрата захаваўся дакумент, які сведчыць, што 5 красавіка 1568 г. нейкі Ян Янавіч Выдра наняў Івана Масквіціна «до своего двора пивницу (калодзеж) копать» [2]. Праз год мы сустракаем тое ж імя ў прадмове Г. А. Хадкевіча да «Учыцельнага евангелля»: гетман расказвае, як ён знайшоў дасведчаных людзей («изообретох собе в том деле друкарьском людей наученых Ивана Федоровича Москвитина да Петра Тимофеевича Мстиславца») и загадаў ім зрабіць друкарню («варстат друкарьский»).

Не выключана, што ў гэтым дакуменце гутарка ідзе аб іншым Іване Масквіціне. Аднак нельга не адзначыць, што Ян Выдра не з'яўляўся звычайным мешчанінам, ён насіў тытул «харужага ковенскага», быў знаёмы і вёў гандлёвыя аперацыі з шмат якімі знатнымі людзьмі, і ў тым ліку з Янам Ераніма-

---

[1] У истоков русского книгопечатания. М., 1959, стар. 237—245.

[2] Отдел рукописей библиотеки Вильнюсского государственного университета. Актовая книга Ковенского магистрата 1564—1569 гг., л. 210.

вічам Хадкевічам, гетманам і старастам Жмудскім, пляменнікам Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча. У 1566 г. Ян Хадкевіч набыў «замок ковеньский з местом и волостью». Тады ж кароль Сігізмунд Аўгуст дазволіў Хадкевічу «адкупіць» у Яна Выдры вялікія зямельныя надзелы, за што гетман заплаціў ковенскаму харужаму 3000 коп грошаў [1].

Можна меркаваць, што іменна праз Яна Хадкевіча і адбылося знаёмства першадрукароў з Грыгорыем Хадкевічам. У апошняга былі неабходныя падставы, каб набыць славянскую друкарню, якая выпускала набажэнскія кнігі для праваслаўнай царквы.

У той час у Вялікім княстве Літоўскім ішла жорсткая палітычная барацьба вакол пытання аб уніі — аб'яднанні Літвы з Польшчай. Буйныя магнаты, да ліку якіх належалі і Хадкевічы, былі праціўнікамі уніі. Спрабуючы ўтрымаць у сваіх руках усю паўнату дзяржаўнай улады, яны вялі барацьбу на два франты — супраць каланізатарскіх імкненняў польскіх паноў і супраць уласнай шляхты. Дробнапамесныя беларускія і ўкраінскія землеўладальнікі, церпячы прыгнёт буйных феадалаў і ў палітычнай, і ў эканамічнай сферах, падтрымлівалі ідэю уніі. Шляхтазаваны польскі дзяржаўны лад здаваўся ім вельмі прывабным [2].

Немалая роля ў складанай палітычнай гульні, якую вялі магнаты і шляхта, была адведзена царкве. У гэтых умовах буйным феадалам зручна было падтрымліваць праваслаўе ў процівагу польскаму каталіцтву. Нельга, безумоўна, спрашчаць гэта пытанне і ўсю справу зводзіць да палітычных матываў. Каланізатарскім імкненням польскіх паноў, якія ўжо тады былі дастаткова відавочнымі, беларускія і літоўскія магнаты шчыра процівастаўлялі багатыя культурныя традыцыі сваіх народаў. Зварот да мінулага быў заканамерным.

Пры дварах магнатаў узнікаюць своеасаблівыя культурныя цэнтры, якія, натуральна, не маглі не мець багаслоўска-царкоўнага адцення. Такія цэнтры складваюцца ў маёнтках князёў Астрожскіх, Слуцкіх і Хадкевічаў.

Заблудаўскі замак з навакольнымі вёскамі ў 1525 г. быў падараван каралём Сігізмундам Старым Аляксандру Хадкевічу, а пасля смерці апошняга (1549) перайшоў у спадчыну яго сы-

---

[1] ЦДАСА, ф. 389, № 48, лл. 87, 88.
[2] В. И. Пичета. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961.

ну Грыгорыю. Пры ім гэта невялікае мястэчка над ракой Меляцінай, за 18 вёрст ад Беластока, пачынае паступова адбудоўвацца. Актам ад 7 чэрвеня 1563 г. Г. А. Хадкевіч заснаваў тут праваслаўную царкву Успенне багародзіцы і святога Міколы, паставіўшы ў ёй папа і дзяка, якім ахвяраваў тры ўлукі (мера плошчы — прыблізна 16,5 га) зямлі [1]. Тым жа актам ён заснаваў пры царкве бальніцу «для убогих людей как греческого, так и римского закона».

Думкі аб набыцці друкарні прыходзілі Хадкевічу даўно. Яшчэ ў 1561 г. ён накіраваў у Маскву кіеўскага манаха Іакіма-Ісаію Камянчаніна «с листом да и с почтенными дарами, со златом и бисером и предражайшими камками ко благовернейшему христианскому государю князю Ивану Васильевичу всея Руси». Камянчаніну было даручана здабыць з царскага кнігасховішча спіс бібліі, каб затым, як гаварылася ў дадзенай манаху падарожнай, «в нашем государстве христианском русском Великом княжестве Литовском выдати тиснением печатным нашему народу христианскому русскому литовскому, да и русскому московскому, да и повсюду всем православным христианам, иже в Болгарех, и в Сербех, в Мыльтянех и Волосех» [2].

Місія Камянчаніна поспехам не ўвянчалася. Яго абвінавацілі ў ерасі і пасадзілі ў манастырскі астрог у Растове.

Лёгка зразумець, што, даведаўшыся аб прыбыцці ў Вялікае княства Літоўскае маскоўскіх друкароў, Г. А. Хадкевіч неадкладна наладзіў з імі сувязі. Гетман запрасіў Івана Фёдарава і Пятра Цімафеева Мсціслаўца ў Заблудаў. Ён, як затым расказваў першадрукар у пасляслоўі да львоўскага «Апостала» 1574 г., «прия нас любезно к своей благоутешней любви, и упокоеваше нас немало время, и всякими потребами телесными удовляше нас».

Пачалася падрыхтоўка да адкрыцця друкарні. Друкарскія матэрыялы — шрыфт, гравіраваныя дошкі заставак, канцовак і буквіц, а таксама нескладаны інструмент друкары прывезлі з Масквы. Не было, відаць, друкарскага стана, які пад кіраўніцтвам майстроў зрабілі заблудаўскія цесляры.

---

[1] M. R. Witanowski. Zabłudów. Slownik geograficzny Królestwa Polskiego, t. XIV. Warszawa, 1895, стар. 190—192.

[2] Д. И. Абрамович. К литературной деятельности мниха Камянчанина Исаии. Памятники древней письменности и искусства, № 181. СПб, 1913.

Паўстала пытанне аб тым, на якой мове друкаваць кнігі— на славянскай, што ўжывалася ў царкоўным набажэнстве, або на народнай, беларускай. Г. А. Хадкевич быў схільны выдаваць кнігі на беларускай мове, і ў гэтым нельга не бачыць уплыву традыцый Скарыны. У прадмове да «Учыцельнага евангелля» Хадкевіч пісаў, што ён «помыслил же был... сию книгу выразумения ради простых людей преложити на простую молву». Як тут не шукаць паралелей са скарынінскім «людем посполитым к доброму научению»?!

Хадкевіч у гэтай справе меў «попечение великое», але прыняць канчатковае рашэнне самастойна не адважыўся. На савет былі заклікані «люди мудрые в том писме, ученые».

Хто былі гэтыя людзі, мы не ведаем. Найбольш пэўна можна меркаваць, што ў кансультацыях прынялі ўдзел князь Андрэй Курбскі, чалавек вялікай культуры, вучань Максіма Грэка, і старац Арцемій, у мінулым ігумен Троіца-Сергіева манастыра, які жыў у той час пры двары князя Юрыя Слуцкага.

Для артадаксальных маскоўскіх кніжнікаў імя і справы Скарыны мелі зусім іншую афарбоўку. Вялікі беларускі асветнік з'яўляўся для іх папярэднікам ненавіснага лютэранства. А. Курбскі гаварыў, што кнігі Скарыны «преведены... с препорченых книг жидовских». На яго думку, «Библии Люторов перевод согласующ по всему Скориным Библиям» [1].

Пераклад на народную мову здаваўся маскоўскім кніжнікам падазроным яшчэ і таму, што на гэтай мове друкаваў вядомы рэфарматар Сымон Будны, які ў вачах Арцемія і Курбскага з'яўляўся найбольш злосным ерэтыкам. Прыкладна ў тыя гады, калі вырашалася пытанне аб Заблудаўскай друкарні, Арцемій вёў з Сымонам Будным ажыўленую палеміку. Свой вядомы «Катэхізіс», надрукаваны ў 1562 г. у Нясвіжы, Будны адаслаў на водгук Арцемію, які выказаў з гэтага выпадку наступныя свае меркаванні: «А потом пишешь до нас, пытаючи, што ся нам видит по той книжки, которую ново друковали есте в Несвижу, се же «Катихисис» нарицаете по-грецку, выкладаете же по-руску: «то есть, наука стародавняя християнская» [2].

---

[1] РИБ, т. XXXI. СПб, 1914, сл. 401.

[2] Памятники полемической литературы в Западной Руси, кн. I. СПб, 1878, сл. 1289 (РИБ, т. IV).

Сымон Будны рэзка крытыкаваў маскоўскія пераклады набажэнскіх кніг. Пазней, у прадмове да польскага новага завету, выдадзенага ў Лоску ў 1574 г., разглядаючы якасць маскоўскіх першадрукаваных выданняў, ён гаварыў: «Многие недавние и небольшие ошибки они-то друкари, как сами мне сообщили, по старым книгам исправили, но старые маркионовские, гомозианские и других еретиков искажения не по московскому собранию книг править и мало для этого голов Ивана Федорова и Петра Тимофеева Мстиславца» [1]. Гэта выказванне, на якое зусім нядаўна звярнуў увагу Г. Я. Галенчанка, мае для нас надзвычай каштоўнае ўказанне на асабістую сустрэчу Сымона Буднага і першадрукароў. Сустрэча адбылася якраз у той час, калі вырашалася пытанне, быць ці не быць Заблудаўскай друкарні.

Адказваючы на крытыку Буднага, маскоўскія кніжнікі ў сваю чаргу лаялі «новыя» пераклады, проціпастаўляючы ім годнасць «старых». А. Курбскі, даючы парады «кніжнікам», якім «тщание будет учитися царьствия ради небеснаго новым и ветхим сокровищем», рэкамендаваў ім зыходзіць са «старых нарочитых, или паче Максима Философа переводов» [2].

Парада гэта змяшчаецца ў пасланні Курбскага да нейкага старца Васьяна. Магчыма, што ўскосна парада гэта была адрасавана Г. А. Хадкевічу. Так ці інакш, але Хадкевіч у сваёй прадмове да «Учыцельнага евангелля» 1569 г. гаворыць аб тым, што «людзі мудрыя» не рэкамендавалі яму перакладаць кнігу на «простую мову».

«Прекладанием з давных пословиц на новые,— сказалі саветчыкі,— помылка чинится немалая, якоже и ныне обретается в книгах новаго переводу».

Паслухаўшыся гэтай парады, Г. А. Хадкевіч вырашыў надрукаваць «Учыцельнае евангелле» па старых рукапісах, «яко з давна писаную».

Друкаванне першынца Заблудаўскай друкарні пачалося 8 ліпеня 1568 г. і было закончана 17 сакавіка 1569 г. Зборнікі тлумачэнняў розных евангельскіх тэкстаў бытавалі на Русі даўно. К. Ф. Калайдовіч у свой час адзначаў [3], што ў бібліятэ-

---

[1] Книга. Исследования и материалы. Сб. 10. М., 1965, стар. 156.

[2] РИБ, т. XXXI, сл. 403.

[3] К. Калайдович. Библиографическое известие о Евангелии учительном, напечатанном в Заблудовье 1569 г. первыми московскими типографщиками. «Северный архив», 1823, № 4, стар. 324.

цы Ф. А. Талстога захоўваліся спісы 1343 і 1407 гг., шмат у чым аналагічныя заблудаўскаму евангеллю. Рад учыцельных евангелляў XV — пачатку XVI ст. ёсць у зборы Троіца-Сергіевай лаўры [1].

У склад «Учыцельнага евангелля» ўваходзілі як перакладныя «Словы», так і творы айчынных аўтараў («Слово на вознесение господне» пісьменніка XII ст. Кірылы Тураўскага).

З вонкавага боку першае выданне Заблудаўскай друкарні неаднаразова было апісана бібліёграфамі. Аднак у апісаннях гэтых ёсць супярэчнасці. Заблудаўскае выданне часта блыталі (і блытаюць цяпер) з больш познімі выданнямі, вельмі падобнымі на першае. Таму даследчыкі і дапускаюць памылкі. І. П. Каратаеў, напрыклад, указвае, што з 353-га ліста кнігі ў цэнтры ніжняга поля першых пяці лістоў кожнага сшытка пастаўлена сігнатура. І. С. Свянціцкі апісвае экземпляр, у якім сігнатура пачынаецца з 313-га ліста. На самай справе ў заблудаўскім «Учыцельным евангеллі» сігнатуры зусім няма. Адзначым таксама, што да гэтага часу не ўлічана і падрабязна не апісана арнаментыка кнігі. Таму мы і вымушаны даць дэталёвае апісанне «Учыцельнага евангелля» 1569 г.

Кніга надрукавана «ў аркуш». Кожны сшытак складаецца з чатырох сфальцаваных напалам аркушаў. Сшытак, такім чынам, змяшчае восем лістоў, або 16 старонак. Нумарацыі сшыткаў — сігнатуры нідзе няма. Агульная колькасць сшыткаў — 51. Першыя чатыры лісты першага сшытка пранумараваны рымскімі лічбамі: I, II, III, IIII, наступныя чатыры аркушы не маюць пагінацыі. Рэгулярная пагінацыя пачынаецца з другога сшытка і прадоўжана да канца кнігі. Усяго пранумаравана 399 лістоў. Апошні ліст 51-га сшытка, відаць, быў пустым, паколькі ў вядомых нам экземплярах кнігі ён адсутнічае. Калі ўлічваць гэты ліст, а таксама лісты першага сшытка, якія не ўваходзяць у агульную нумарацыю, то ў кнізе будзе налічвацца 408 лістоў.

У пагінацыі кнігі досыць часта сустракаюцца памылкі. Так, на лісце 169 надрукавана лічба «рое», г. зн. 175, на лісце 235—225, на 236—336, на 317—309, на 339—349, на 356—346. Памылкі гэтыя былі заўважаны яшчэ ў друкарні. Іван

[1] Отдел рукописей Государственной библиотеки им. В. И. Ленина, ф. 304, № 101—105. Сярод іх шырока вядомае «Учыцельнае евангелле» 1524 г. Ісаака Сабакі.

Фёдараў і Пётр Мсціславец надрукавалі правільную пагінацыю на асобных кавалках паперы і старанна заклеілі імі памылковыя лічбы. Такія наклейкі можна сустрэць амаль ва ўсіх вядомых экземплярах кнігі.

Мастацкае афармленне кнігі складалася з адной вялікай, на ўсю старонку суцэльнай гравюры, з трох заставак, шасці канцовак, дзвюх буквіц і 78 малых ініцыялаў-ламбардаў.

Гравюра ў кнізе змешчана на адвароце тытульнага ліста. На ёй рысунак герба Г. А. Хадкевіча, заключанага ў прамавугольную рамку, якая ў сваю чаргу размешчана паміж калонамі паўцыркульнай аркі.

Усе тры застаўкі надрукаваны з дошак, якія раней выкарыстоўваліся ў маскоўскім «Апостале» 1564 г. Асноўным матывам малой застаўкі, змешчанай на тытульным лісце і на лісце 282 «Учыцельнага евангелля», служыць акантавы павой, які разыходзіцца ў бакі ад гарбузападобнай вазы. Гэта застаўка шэсць разоў сустракаецца на старонках маскоўскага «Апостала».

Вялікая застаўка адкрывае тэкст самой кнігі. Яна змешчана на першым нумараваным аркушы пасля тытула, прадмовы і зместу, надрукаваных на лістах без рэгулярнай пагінацыі. Сюжэтам застаўкі служыць раслінны арнамент з цэнтральнай галінкай, акружанай ліставым вянком. Выгібы лісця і галінак плаўныя, краі лісця закругленыя. Гэта застаўка таксама сустракаецца ў маскоўскім «Апостале». Там яна адціснута двойчы.

З маскоўскіх дошак надрукаваны і канцоўкі. Вядома, што ў рукапіснай практыцы Масквы канцоўкі сустракаліся вельмі рэдка. Іван Фёдараў паспрабаваў паставіць канцоўку на адным (толькі на адным!) аркушы «Апостала» 1564 г., але гэта не спадабалася ў Маскве, і друкар выняў дошку з набору. Адбіткі канцоўкі захаваліся толькі ў чатырох з вядомых у цяперашні час больш сарака экземпляраў кнігі [1]. У беларускіх і ўкраінскіх рукапісных кнігах, наадварот, ужыванне канцовак было агульнапрынятым. Таму і ў Заблудаве, а пазней у Львове Іван Фёдараў шырока выкарыстоўвае канцоўкі. Адна з канцовак, якой так не пашанцавала ў Маскве, у заблудаўскім «Учыцельным евангеллі» сустракаецца чатыры разы

[1] Е. Л. Немировский. Возникновение книгопечатания в Москве. Иван Федоров, стар. 304.

(на лістах 122 адв., 222, 275 і 334 адв.). Дзвюма другімі канцоўкамі з'яўляюцца адбіткі з дошак, якімі ў Маскве былі надрукаваны застаўкі «Часоўніка» 1565 г.

Колькасць вядомых экземпляраў «Учыцельнага евангелля» 1569 г. можа быць падлічана толькі прыблізна. Справа ў тым, што кніга гэта ў наступныя дзесяцігоддзі карысталася вялікай папулярнасцю і неаднаразова капіравалася. Копіі былі блізкімі да арыгінала, іх блыталі нават такія вопытныя бібліёграфы, як І. П. Каратаеў і І. С. Свянціцкі. Няма нічога дзіўнага, што ў шмат якіх бібліятэках «Учыцельнымі евангеллямі» 1569 г. лічаць больш позній выданні. Амаль да апошняга часу лічыўся выданнем Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца экземпляр у бібліятэцы Ленінградскага універсітэта. На самай справе гэты экземпляр кнігі з'яўляецца выданнем віленскай друкарні Мамонічаў, якое было выпушчана ў свет каля 1595 г. Памылкова прыпісваюцца Івану Фёдараву і Пятру Мсціслаўцу таксама два экземпляры бібліятэкі Тартускага універсітэта (III. 1941. 11412 і III. 1941. 11413), якія былі надрукаваны ў Вільні — першы каля 1580 і другі каля 1595 гг. Памылкова атрыбутыруюцца і экземпляр Цэнтральнага дзяржаўнага архіва старажытных актаў (ф. 1250, № 840), экземпляр Дзяржаўнага музея ўкраінскага мастацтва ў Львове (№ 553), экземпляр Музея гісторыі рэлігіі і атэізму ў Ленінградзе (Н 416) і інш.

Сярод экземпляраў «Учыцельнага евангелля», якія бясспрэчна адносяцца да 1569 г., назавём тры экземпляры Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна (№ 1646, 1647 і 1648), шэсць экземпляраў Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве (Царск. 17; Чартк. 323; Шчап. 8; Хлуд. 18; Менш. 275 і 547), два экземпляры Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.1.19[а] і 1.1.19[б]), два экземпляры Бібліятэкі Акадэміі навук СССР (39.2.5 і 7.7.1, у апошнім з іх лісты 1—352 адносяцца да выдання 1569, а лісты 353—398 каля 1595 г.), экземпляры Навуковай бібліятэкі Львоўскага універсітэта (III. 14225), Дзяржаўнай бібліятэкі БССР, Дзяржаўнай публічнай гістарычнай бібліятэкі (№ 358481), Дзяржаўнай навуковай бібліятэкі ў Львове (Ст. 54007), Бібліятэкі Вільнюскага універсітэта, Музея ўкраінскага мастацтва ў Львове (№ 552).

Такім чынам, можна весці гутарку аб 16 экземплярах «Учыцельнага евангелля» 1569 г., якія захаваліся да нашых

дзён. Ёсць звесткі аб тым, што выданні гэтай кнігі знаходзяцца ў некаторых прыватных калекцыях [1], а таксама за рубяжом [2].

У дайшоўшых да нас экземплярах «Учыцельнага евангелля» 1569 г. ёсць вялікая колькасць укладных і ўладальніцкіх запісаў. Асабліва цікавыя тыя з іх, якія сведчаць, што неўзабаве пасля надрукавання большая частка тыражу трапіла ў Маскоўскую дзяржаву. Гэта сведчыць аб тым, што, нягледзячы на вайну Масквы з Літвой, культурныя сувязі паміж рускімі і беларускімі землямі працягваліся.

У адным з экземпляраў маецца запіс аб укладзе, які зрабіў поп Іван у 1586 г. «в дом Пречистыя богородицы... Нового Девича монастыря во граде Казани». Другі экземпляр 1580 г. быў пакладзен вядомымі прамыслоўцамі Сямёнам Анікеевічам і Максімам Якаўлевічам Строганавымі «в дом святей живоначальней Троицы на Сылву». Тут дарэчы прыпомніць, што пры падзеле маёмасці Строганавых у 1578 г. у іх бібліятэцы было выяўлена 27 «Евангелей печатных толковых воскресных в десть» [3]. Гэта маглі быць толькі экземпляры выдання 1569 г., бо да гэтага «Учыцельнае (або «талковае») евангелле» ні ў адной з славянскіх краін не выдавалася.

Сямёну і Максіму Строганавым пры падзеле дасталося 18 «Учыцельных евангелляў». Адно з іх і было ахвяравана імі праз два гады ў закамскі манастыр, што стаяў на рацэ Сылве.

У свой час у экземпляры «Учыцельнага евангелля», які належаў Віленскай публічнай бібліятэцы (дзе ён знаходзіцца зараз, невядома), меўся запіс аб укладзе, зробленым 11 снежня 1575 г. удавой Г. А. Хадкевіча Кацярынай Іванаўнай Вішнявецкай «по небожьчику славьной памети его милости пану мальжоньку своемь пану виленьскому гетьману навышьшом Великаго князства Литовьского, старосте Городеньском и Могилевском его милости пану Григорю Александровичу Ходкевича».

---

[1] В. И. Малышев. Москвичи — собиратели письменной и печатной старины. «Труды отдела древнерусской литературы Института русской литературы Академии наук СССР», т. XXI. М.—Л., 1965, стар. 384, 387.

[2] T. S. G. Simmons. Early printed cyrillic books in Marsh's library. Dublin, «The Irish book», 1963, spring.

[3] Н. Г. Богданова. Книжные богатства Строгановых в 1578 г. Sertum bibliologicum в честь А. И. Малеина. Пг., 1922, стар. 281, 283.

Разам з «Учыцельным евангеллем», як аб тым гаварылася ў запісу, удава паклала «во храм Благовещения пресвятыя Богородицы в именю нашем Супрасльском на монастырь» яшчэ дзве кнігі — «Апостал» і «Псалтыр» з тым жа подпісам.

«Псалтыр», аб якім тут ідзе гутарка, з'яўляецца заблудаўскім выданнем 1570 г. Пра заблудаўскі «Апостал» нічога вядома не было. Тым не менш А. І. Мілавідаў, апублікаваўшы запіс і каменцірую чы яго, выказаў наступнае меркаванне пра «Псалтыр» і «Апостал»: «Мажліва, што і гэтыя дзве кнігі, калі яны абедзве былі друкаваныя, выйшлі з той жа заблудаўскай паноў Хадкевічаў друкарні» [1]. Гэта асцярожная заўвага дала падставу некаторым аўтарам весці размову пра заблудаўскі «Апостал» [2].

Цяпер мы маем усе падставы сцвярджаць, што такога выдання не было. Справа ў тым, што «Апостал», які паклала ўдава Г. А. Хадкевіча ў Супрасльскі манастыр, знайшоўся і знаходзіцца зараз у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы ў Кіеве. Гэта — выданне 1574 г., надрукаванае Іванам Фёдаравым у Львове.

Другое заблудаўскае выданне — «Псалтыр з Часаслоўцам», што быў надрукаван у 1570 г., выдаваў ужо адзін Іван Фёдараў. Друг і саратнік першадрукара Пётр Цімафееў Мсціславец перабраўся ў Вільню і тут на сродкі багатых купцоў Мамонічаў заснаваў новую друкарню.

«Псалтыр з Часаслоўцам» упершыню ўпамянуў у 1836 г. Д. І. Зубрыцкі [3]. Навуковае вывучэнне гэтай кнігі стала мажлівым толькі з 1844 г., калі экземпляр яе быў набыт на Ніжагародскім кірмашы М. П. Пагодзіным [4]. Разам з усім «старасховішчам» Пагодзіна экземпляр гэты ў ліпені 1852 г. паступіў у Пецярбургскую публічную бібліятэку. На працягу доўгага часу ён лічыўся унікальным [5].

---

[1] А. И. Миловидов. Описание славяно-русских старопечатных книг Виленской публичной библиотеки. Вильна, 1908, стар. 14—15.

[2] А. И. Некрасов. Книгопечатание в России в XVI и XVII вв. Книга в России, т. I. М., 1924, стар. 90.

[3] D. Zubrzycki. Historiczne badania o drukarniach rusko-słowianskich w Galicyi. Lwów, 1836. Гл. таксама: «О славяно-русских типографиях в Галиции и Лодомирии». «Журнал Министерства народного просвещения», кн. 9, 1838, стар. 564.

[4] «Москвитянин», ч. V, № 9, 1844, стар. 255—256.

[5] Отчет Публичной библиотеки за 1852 г. СПб, 1853, стар. 54; тое ж за 1856 г. СПб, 1857, стар. 28.

Аднак ужо ў 1864 г. новы, больш поўны экземпляр «Псалтыра» быў знойдзен у заходнеўкраінскім сяле Тыраве Валошскай, які затым паступіў у царкоўны музей Львова[1].

Гэтыя два экземпляры да апошняга часу даступны даследчыкам. Першы з іх знаходзіцца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.34), другі ў Дзяржаўным музеі ўкраінскага мастацтва ў Львове (Q332). Нядаўна быў знойдзен фрагмент выдання, у якім змешчан адзін толькі «Часасловец». Ён знаходзіцца ў Навуковай бібліятэцы Саратаўскага дзяржаўнага універсітэта імя М. Г. Чарнышэўскага.

Як ленінградскі, так і львоўскі экземпляры не поўныя. У першым захавалася 276 лістоў, у другім — 326. У поўным жа экземпляры павінна быць хутчэй за ўсё 330 лістоў.

Кніга надрукавана «ў чацвёрку». Нумарацыя сшыткаў (сігнатура) адсутнічае. На першых 18 лістах кнігі рэгулярнай пагінацыі таксама няма (аркушы 9—12 перамечаны значкамі ⌒,⌒ ⌒ і г. д. у нарастаючым парадку). Паметкі ёсць і на лістах 17 і 18. Пачынаючы з 19 па ліку ліста кнігі, ідзе рэгулярная пагінацыя: ад 1 да 240, а ўжо з 259 ліста яна ідзе з трэцяга ліку (калі першым лікам пачынаць непранумараваныя аркушы) ад 1 да 69 (у львоўскім экземпляры). Канец кнігі згублен. Трэба меркаваць, што ў ім пагінацыя трэцяга ліку заканчвалася лічбай 72.

Кніга адкрываецца гравіраваным гербам Хадкевіча. Тут жа пачынаецца прадмова Івана Фёдарава, якая працягваецца на адвароце і на ліцавым баку другога ненумараванага ліста, што захаваўся ў ленінградскім экземпляры. У прадмове паведамляецца, дзе друкавалася кніга, а таксама ўказваецца, калі пачалася і калі закончылася над ёй работа. У прыватнасці, аўтар у прадмове піша, што «...начася друковати в ыменью его милости отчизном в месте Заблудовью лета по рожестве Христове 1569-го месяца септяврия 26, а совершена бысть книга сия року 70-го месяца марта 23». У кнізе называецца і імя друкара — Іван Фёдаравіч Масквіцін.

Трэці ненумараваны ліст пачынаецца прадмовай Г. А. Хадкевіча, якая займае тры наступных лісты. Усе гэтыя тры лісты захаваліся толькі ў львоўскім экземпляры, ды і то ў няпоўным

[1] И. Свенцицкий. Каталог книг церковнославянской печати. Жовква, 1908, стар. 18—19.

КО ГАЛАТОМЪ

ПОСЛАНИЕ СВЕТОГО ПАВЛА

апостола сказание доктором францискомъ
скориною сполоцька · богу почьти, и лю
демъ посполитым к наоуце, починается



Радующеса галатии прежде, што пра
вду приняли были благовествова
ние божие и веру Ісъ Хсу · по
томже пришедши иже апостоли
ѿ юудеи разсверепеваху и, и поведаху яко
потреба есть сохранити верующим ѡбрезати
ся, и все ѡбычаи закона хранити · слы
шавже сиа апостолъ пишет к нимъ эписто
лу сию, внейже вельми смеле карает и,
иже тако скоро преложилиса воиное бла
говествование · проклинала лжеапостолы
ѿ нихже прельщеваху галатане · И пове

ПОСЛАНИЕ

Доконьчано есть первое, и второе пос
лание ко коринфомъ · светославно
го, и верховнаго апостола хрестова
и избранного сосуда бо
жиа павла · было
жены, и выти
снены
працею
доктора
франьциска
скорины сполоцька
богу вотройци единому
и пречистой матери его
марии кославе со
всеми святыми
вовеки веком
аминь

Старонкі з «Апостала» выдання Ф. Скарыны

выглядзе. Хадкевіч гаворыць аб шырокім распаўсюджанні кнігадрукавання «в здешнем паньстве его милости государя нашего отчизном, як в коруне польской, так и в Великом князъстве Литовском... тщанием и попечением многих людей промышлено есть создавши варстаты друкарския». Словы гэтыя справядлівыя, калі гаварыць аб Польшчы. Што ж датычыць Вялікага княства Літоўскага, то пасля спынення дзейнасці друкарні Скарыны тут функцыяніравалі толькі кароткі час друкарні ў Брэсце і Нясвіжы.

Далей Хадкевіч адзначае, што ён «желанием вожделех» друкаваць кнігі «в нашем языку словеньском, для лености и нерадивости писцов, русским писанием». Дзеля гэтага ён «учинил... варстат друкарьский». Затым ідзе гаворка аб выданні «Псалтыра» і работах, што папярэднічалі друкаванню. Рукапіс, які меўся ў распараджэнні друкароў, параўналі «з иными Псалтырми», адрэдагавалі, выправілі, «где в чом помылка была».

Выключную цікавасць мае тэкст прадмовы на пятым ненумараваным лісце, ад якога, на вялікі жаль, захаваліся толькі невялікія фрагменты. Абрыўкі фраз даюць магчымасць зразумець, што тут, як і ў прадмове да «Учыцельнага евангелля», Хадкевіч даваў тлумачэнне, чаму ён адступіў ад запаветаў Скарыны і не друкаваў «Псалтыра» на жывой гутарковай мове. Аўтар прадмовы выказвае таксама думку, што пры перакладзе з адной мовы на другую непазбежны памылкі, што гэтым «ереси умножаются». «Того избави нас боже!» — усклікае ён.

Заканчвае Хадкевіч прадмову абяцаннем і ў далейшым не шкадаваць сродкаў на друкаванне славянскіх кніг. «Я также и вперед працы и накладу моего жаловати не буду,— запэўнівае аўтар,— и другыя книги... друкавати дам». Абяцанне гэта, як убачыць чытач, не было выканана.

Услед за прадмовай Хадкевіча на дзесяці ненумараваных лістах змешчана «Предисловие в книгу сию, глаголемую Псалтирь», а далей на двух лістах — «Чин, како подобает пети Псалтырь». Адварот апошняга (18-га ненумараванага) ліста «Чина» служыць франтыспісам, на якім змешчан гравіраваны малюнак легендарнага аўтара кнігі цара Давіда.

Лісты 1—240 першага ліку займае «Псалтыр», а 1—60— «Часасловец». Далей ідуць пасхалія і разнастайныя ўказальнікі. На гэтых апошніх лістах кнігі Іван Фёдараў упершыню ў рускім кнігадрукаванні дае выдатныя ўзоры таблічнага набору.

Мастацкае ўпрыгожанне кнігі складаюць дзве на ўсю старонку суцэльныя гравюры, 30 заставак, надрукаваных з пяці дошак, тры канцоўкі — з дзвюх дошак, вялікая колькасць ініцыялаў — з 21 дошкі. Акрамя таго, над тэкставымі палосамі размешчаны прыгожыя арнаментальныя рамкі, што служаць абрамленнем калонтытулаў. Апошнія паказваюць нумары так званых кафізм — раздзелаў «Псалтыра».

Усе дошкі, з якіх надрукаваны ілюстрацыі і арнаментыка кнігі, зроблены Іванам Фёдаравым спецыяльна для гэтага выдання. Выключэнне складаюць толькі канцоўкі, якія раней у якасці заставак сустракаліся ў маскоўскім «Часоўніку» 1565 г.

З мастацкага боку найбольшую цікавасць выклікае франтыспіс з малюнкам цара Давіда. Вытокі вобраза галоўнага героя гравюры і акаляючых яго атрыбутаў — архітэктурнага

інтэр'ера, рэчаў нядаўна былі ўказаны А. А. Сідаравым [1]. Яны сведчаць аб высокай адукаванасці Івана Фёдарава. Гэты друкар выдатна ведаў сучасную яму заходнееўрапейскую кнігу.

Здзіўляюць сваёй дэкаратыўнасцю шматлікія буквіцы, якія добра гарманіруюць з рысункам шрыфту. Іван Фёдараў выкарыстоўвае тут у самых розных варыяцыях матыў акантавага павою, што быў вельмі папулярным у рускай рукапіснай і друкаванай кнізе XVI ст. Канструктуючы буквіцу амегу (лл. 66, 132 адв., 232 другога ліку), друкар выкарыстоўвае арнаментальны сюжэт літары А з «Вялікага прапіснога алфавіту» нямецка-нідэрландскага гравёра XV ст. Ізраеля ван Мекенема.

Нельга не адзначыць, што ксілаграфічная копія літары V алфавіта ван Мекенема паслужыла ў якасці ініцыяла С у «Акафісце гробу господню» з «Малой падарожнай кніжыцы» Францыска Скарыны [2]. З другога боку, тая ж літара лягла ў аснову адной з заставак рукапіснага маскоўскага «Апостала» 40-х гадоў XVI ст., затым амаль даслоўна скапіраванай у «Апостале» 1564 г. Івана Фёдарава і Пятра Цімафеева Мсціслаўца.

Дошкі заблудаўскага арнаменту рабіліся Іванам Фёдаравым у адпаведнасці з пэўным фарматам, які ў далейшым ім не выкарыстоўваўся. Таму не дзіўна, што і заблудаўская арнаментыка ім ужывалася вельмі абмежавана. Але дошкі першадрукаром былі перавезены ў Львоў. Яны добра захаваліся і ў далейшым часта выкарыстоўваліся ў львоўскіх выданнях аж да сярэдзіны XVIII ст.

«Псалтыр з Часаслоўцам» 1570 г. быў апошнім заблудаўскім выданнем. Неўзабаве пасля выхаду кнігі ў свет Заблудаўская друкарня спыніла сваю дзейнасць.

Чаму так здарылася? Па словах Івана Фёдарава, асноўнай прычынай была старасць Хадкевіча. Першадрукар гаварыў: «...егда же приити ему в глубоку старость и начасте главе его болезнию одержиме бывати, повеле нам работания сего престати и художьство рук наших нивочтоже положити».

---

[1] А. А. Сидоров. Древнерусская книжная гравюра. М., 1951, стар. 93.

[2] Адбітак ініцыяла захаваўся толькі ў двух экземплярах у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы (1.5.8а і 1.5.8б). Параўн. Н. П. Киселев. Происхождение московского старопечатного орнамента. Книга. Исследования и материалы, сб. XI, стар. 192.

Хадкевіч не прагнаў першадрукара. Ён прапанаваў яму застацца ў Заблудаве і займацца «земледеланием». Вось тады Іван Фёдараў і сказаў свае выдатныя словы: «Не удобно ми бе ралом ни же семен сеянием время живота своего съкращати, но имам убо въместо рала художьство наручных дел съсуды, въместо же житных семен духовныя семена по вселенней разсевати».

Першадрукар сабраў інструменты, шрыфты, а таксама ўсе свае пажыткі і накіраваўся ў Львоў, дзе неўзабаве заснаваў першую на ўкраінскай зямлі друкарню.

Расказ Івана Фёдарава аб абставінах спынення дзейнасці Заблудаўскай друкарні нельга ўспрымаць у літаральным сэнсе. Тут асноўныя сілы, што рухалі падзеі, былі часткова ўтоены ад Івана Фёдарава, а часткова іх проста нельга было назваць у друку.

Услед за У. І. Пічэтам[1] мы ставім ад'езд Івана Фёдарава на Украіну ў сувязь з Люблінскай уніяй 1569 г. У адпаведнасці з гэтым актам, падпісаным 1 ліпеня 1569 г., Вялікае княства Літоўскае і польскія землі зліваліся ў адну дзяржаву — Рэч Паспалітую. Унія, якая была заключана наперакор жаданню беларуска-літоўскіх магнатаў пад націскам Польшчы, з аднаго боку, і літоўскай шляхты — з другога, паклала канец самастойнаму існаванню Вялікага княства Літоўскага. Літоўскія магнаты пачалі засядаць у польскім сенаце. Падтрымка праваслаўя і яго супрацьстаўленне каталіцтву страцілі палітычны сэнс. Пачаўся працэс апалячвання, і арыстакратыя, асабліва ў другім і трэцім пакаленнях, не стала праціўіцца яму.

Нельга празмерна перабольшваць асветніцкіх тэндэнцый у дзейнасці Г. А. Хадкевіча. Гетман падтрымліваў кнігадрукаванне да таго часу, пакуль гэта яму было выгадна як у палітычных, так і, магчыма, у эканамічных адносінах, тым больш што выданні Заблудаўскай друкарні прадаваліся ў Маскоўскую Русь.

Сапраўдным героем гэтага перыяду гісторыі беларускага кнігадрукавання быў Іван Фёдараў. Ён развіў і памножыў лепшыя традыцыі беларускага першадрукара Скарыны. Ён унёс у беларускую кніжную справу свежы струмень, узбагаціў яе вопытам маскоўскіх кніжнікаў. З гэтага часу кнігадру-

---

[1] В. И. Пичета. Белоруссия и Литва XV—XVI вв., стар. 702.

карская дзейнасць на беларускіх землях ужо не спынялася [1]. Эстафету падхапілі Пётр Мсціславец, Васіль Гарабурда, Мамонічы, Спірыдон Собаль, майстры Віленскай, Куцеінскай, Магілёўскай і Супрасльскай друкарняў.

---

[1] Г. Я. Голенченко. История белорусского книгопечатания XVI—XVIII веков. Диссертация на соискание ученой степени кандидата исторических наук. М., 1965; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Zeszyt 5. Wielkie księstwo Litewskie. Wrocław — Kraków, 1959.





М. І. ПРАШКОВІЧ

# Культурна-асветніцкая роля друкарні Мамонічаў



гісторыі старажытнага беларускага кнігадрукавання пачэснае месца належыць друкарні Мамонічаў. Ужо адзін той факт, што яна існавала каля пяцідзесяці год, гаворыць пра многае. Кніжная прадукцыя гэтай друкарні ў розныя перыяды насіла розны характар, яна далёка не раўнацэнная па сваёй значнасці і ў пэўнай ступені нагадвала люстра, у якім адбіваліся ўсе змены грамадска-палітычнага жыцця Беларусі апошняй чвэрці XVI — першай чвэрці XVII ст.

Друкарня Мамонічаў — прадукт пэўнай эпохі, яе ўзнікненне звязана з тымі працэсамі ў жыцці краіны, якія адбываліся ў другой палавіне XVI ст. Грамадска-палітычнае жыццё Беларусі ў гэты час значна адрозніваецца ад часоў, калі працякала дзейнасць Францыска Скарыны.

Скарыну можна назваць прадстаўніком ранняй Рэфармацыі ў Беларусі. Ён, тыповы дзеяч эпохі Адраджэння, у той жа час быў некалькі нетыповым для Беларусі пачатку XVI ст., дзе грамадства яшчэ ў цэлым не ўзнялося да разумення задач

эпохі, да ўспрыняцця філасофскіх і рэлігійных ідэй, якія ішлі з Еўропы.

За сорак-пяцьдзесят год пасля таго, як спынілася выдавецкая дзейнасць Скарыны, становішча ў краіне карэнным чынам змянілася. К гэтаму часу на землях Беларусі атрымліваюць шырокае распаўсюджанне ідэі Рэфармацыі то ў форме пратэстанцтва, то яго разнавіднасцей — кальвінізму і антытрынітарызму.

Дзеячы Рэфармацыі для папулярызацыі сваіх ідэй выкарыстоўвалі найбольш рацыянальны сродак — друкаванне кніг. Тыповымі прадстаўнікамі такіх дзеячоў у нас на Беларусі з'яўляюцца С. Будны і В. Цяпінскі, друкарні якіх функцыяніравалі ў 60—70-х гадах.

Для барацьбы з рэфармацыйным рухам у 40-х гадах XVI ст. у Польшчы са згоды караля з'явіліся езуіты. Крыху пазней езуіты пранiклі і на землі Вялікага княства Літоўскага, дзе, як вядома, амаль усё беларускае і ўкраінскае насельніцтва было ў той час праваслаўным па веравызнанню. І іменна ўлічваючы інтарэсы гэтага насельніцтва, некаторыя праваслаўныя дзеячы пачынаюць задумвацца над тым, якім чынам спыніць, з аднаго боку, распаўсюджванне рэфармацыйных ідэй, а з другога, як знайсці эфектыўны сродак для барацьбы з езуітамі. Вопыт дзейнасці іх ідэйных праціўнікаў падказваў адзіны верагодны шлях — распачаць шырокае друкаванне кніг праваслаўнага прызначэння. Толькі такім чынам яны спадзяваліся паралізаваць дзейнасць як рэфармацыйных ідэй, так і найбольш цёмных, рэакцыйных сіл, носьбітамі якіх былі «лаўцы чалавечых душ» — езуіты. Ідэя выпуску кніг для праваслаўнага набажэнства стала вельмі надзённай, і адкрыццё друкарні залежала толькі ад таго, хто стане ініцыятарам, возьме гэту справу ў свае рукі. Такімі ініцыятарамі сталі багатыя віленскія купцы, браты Лукаш і Кузьма Мамонічы.

Узнікненне друкарні Мамонічаў цесна звязана з Заблудаўскай друкарняй, дзейнасць якой прыпадае на канец 60 — пачатак 70-х гадоў XVI ст. Гэта друкарня была арганізавана ў маёнтку буйнога беларускага магната Грыгорыя Хадкевіча, паслядоўнага прыхільніка поўнай незалежнасці Вялікага княства Літоўскага ад польскай кароны. Хадкевіч запрасіў да сябе ў Заблудаў Мсціслаўца і Фёдарава, забяспечыў іх матэрыяльна. Так з дапамогай Хадкевіча была арганізавана ў Заблудаве друкарня. Праўда, дзейнасць Мсціслаўца і Фёдарава

была ў Заблудаве вельмі непрацяглай, удвух яны выдалі толькі адну кніжку («Евангелле», 1569). Пасля гэтага шляхі іх разышліся назаўсёды. Фёдараў ужо адзін выдаў у Заблудаве «Псалтыр з Часаслоўцам» і пасля гэтага накіраваўся ў Львоў, Мсціславец яшчэ раней апынуўся ў Вільні.

Па якіх прычынах Мсціславец пакінуў Заблудаў, дакладна невядома, бо ніякіх дакументаў пра гэта не захавалася. Прычын, відаць, было некалькі: па-першае, Хадкевіч у гэты час быў стары і хворы, спадзявацца на працяглае існаванне друкарні не прыходзілася; па-другое, самому Мсціслаўцу хацелася ў Вільню, культурны і палітычны цэнтр дзяржавы. Хутчэй за ўсё, імкнучыся наладзіць выданне праваслаўных набажэнскіх кніг, Мамонічы самі запрасілі Мсціслаўца для арганізацыі друкарні і вядзення друкарскай справы. Не выключана магчымасць, што Мсціславец яшчэ да паездкі ў Маскву мог бываць у Вільні і пазнаёміцца з Мамонічамі.

Пра ўзровень адукацыі братоў Мамонічаў дакументаў таксама не захавалася. Трэба думаць, што іх грамадскае становішча і род заняткаў вымагалі высокай для таго часу адукаванасці. Наогул жа культурны ўзровень віленскіх мяшчан у другой палавіне XVI ст. значна павысіўся, што было выклікана патрэбамі часу. Сама Вільня па колькасці насельніцтва, тавараабароту, нарэшце, па развіццю культуры стаяла на першым месцы сярод гарадоў княства. У ёй, сталіцы, сутыкаліся і ўзаемадзейнічалі паміж сабою самыя разнастайныя ідэі Рэфармацыі і Контррэфармацыі. Адсюль становіцца зразумелым імкненне насельніцтва Вільні да кнігі. Каб задаволіць гэта імкненне, патрэбна была друкарня з магутнай матэрыяльнай базай, якая змагла б пастаўляць чытачам адпаведную прадукцыю. І Мамонічы — у гэтым іх заслуга — улавілі задачы часу, вырашылі адкрыць друкарню, якая выпускала б кнігі для праваслаўнага насельніцтва краю.

Пра род Мамонічаў вядома, што ён паходзіў з Магілёўшчыны і належаў да так званага трэцяга саслоўя. Купцом быў бацька Лукаша і Кузьмы Іван, купцамі былі і яны самі, прычым вельмі багатымі, з шырокімі сувязямі. Акрамя таго, абодва браты, асабліва Лукаш, мелі вялікія зямельныя надзелы і па некалькі маёнткаў. Напрыклад, у Лукаша быў багаты маёнтак у прыгарадзе Вільні — Павільні. Мамонічы, добра вядомыя людзі ў горадзе, займалі ў пэўныя перыяды нават адказныя дзяржаўныя пасады. Так, Лукаш у 1585 або ў 1586 г.

быў скарбным Вялікага княства Літоўскага, атрымаў нават шляхецкае званне (гл. яго герб на «Псалтыры» 1593 г.). Нейкі час ён быў таксама старастам дзісенскім (гл. загаловак верша Лявона Мамоніча ў «Псалтыры»). Кузьма Мамоніч, бацька Лявона, займаў пасаду бургамістра Вільні. Мамонічы знаходзіліся ў цесных сваяцкіх сувязях з братамі Зарэцкімі, якія таксама мелі пэўныя адносіны да друкарні, прадукцыя якой была значнай і вызначалася разнастайнасцю па зместу, рэлігійнаму кірунку і нават мове.

Мамонічы падыходзілі да друкарскай справы перш за ўсё як прадпрыемцы, якія добра разумелі задачы часу і імкнуліся на друкаванні і распаўсюджванні кніг нажыць капітал, што ў пэўнай ступені ім і ўдавалася рабіць. Аднак мы павінны ўлічваць не толькі іх матэрыяльную зацікаўленасць, але і тое, што ў Мамонічаў былі і больш высакародныя задачы. Друкаванне кніг у той час на землях княства было досыць рызыкоўнай справай, і ўладальнікі друкарні не маглі гарантаваць сябе ад розных непрыемнасцей. А гэта пацвярджае, што ў Мамонічаў былі і іншыя мэты — абарона праваслаўя як ад наступлення на яго «справа», так і «злева».

Як ставіліся Мамонічы да нацыянальнага руху, народнай беларускай мовы, сказаць цяжка. У. Пічэта, напрыклад, сцвярджае, што яны адносіліся адмоўна да нацыянальнага руху і да ўжывання народнай мовы ў кнігах свяшчэннага пісання [1]. Думаецца, што такое сцвярджэнне завельмі катэгарычнае. Безумоўна, па развіццю нацыянальнай свядомасці іх нельга ставіць услед за Скарынай і Цяпінскім. Калі першыя былі гарачымі прапагандыстамі роднай мовы, свядома перакладалі на яе творы свяшчэннага пісання, то Мамонічы на гэта глядзелі інакш. У іх на першым плане была матэрыяльная зацікаўленасць. І калі, напрыклад, такія кнігі свяшчэннага пісання, як «Псалтыр», «Часаслоў», «Апостал», розныя евангеллі, знаходзілі добры збыт на традыцыйнай старaславянскай мове, то Мамонічаў не турбавала пытанне іх перакладу на тагачасную беларускую мову. Але, з другога боку, ва ўсіх прадмовах да кніг, якія выйшлі з друкарні Мамонічаў, мы не знойдзем ні слова варожасці або нават непрыхільнасці да жывой народнай мовы. Наадварот, у многіх набажэнскіх кнігах, надрукаваных,

---

[1] Гл. У. Пічэта. Беларускае адраджэнне XVI ст. 400-лецце беларускага друку. Мінск, 1926, стар. 146.

згодна з існаваўшай традыцыяй, на стараславянскай мове, прадмовы пададзены на тагачаснай беларускай мове. Больш таго, пачынаючы з 1586 г. Мамонічы сістэматычна выдаюць кнігі на беларускай мове. У пытаннях мовы друкарня Мамонічаў прадоўжыла слаўныя традыцыі Скарыны і Цяпінскага, праўда, у некалькі іншым плане. Скарына і Цяпінскі самі рабілі пераклад, а ў прадмовах абгрунтоўвалі свае погляды на народную мову. Мамонічы ж выпускалі кнігі на беларускай мове, якія былі падрыхтаваны іншымі людзьмі.

Мамонічаў менш хвалявалі пытанні развіцця народнай мовы, чым Скарыну або Цяпінскага. Як прадстаўнікі свята-троіцкага праваслаўнага брацтва, яны падзялялі памылковыя погляды братчыкаў на выключную ролю стараславянскай мовы ў жыцці ўсходніх славян. У тыя часы праваслаўным патрэбна была, як ніколі дагэтуль, шырокая арганізацыя друкарскай справы. І Мамонічы арганізавалі гэту справу, паставілі яе на цвёрды грунт. Важна падкрэсліць, што Мамонічы ўспрынялі многія перадавыя ідэі Захаду, праўда, толькі ў той ступені, у якой яны не ішлі ў сутыкненне з іх праваслаўнымі поглядамі. «Беларуска-ўкраінскае шляхецтва высунула рад гуманістаў, якія разыходзіліся паміж сабою ў шмат якіх пытаннях у галіне рэлігійнай думкі, але ў той самы час увасаблялі сабою той нацыянальна-культурны ўздым, які быў сярод беларуска-ўкраінскіх землеўладальнікаў у другой палове XVI — пачатку XVII стагоддзя». Іменна «кансерватыўны гарадскі гуманістычны кірунак выяўлялі... браты Мамонічы» [1]. Таму яны непрыхільна ставіліся да рэфармацыйнага руху. З другога боку, яны, людзі сваёй эпохі, глядзелі на рэчаіснасць не вачыма артадаксальных праваслаўных царкоўнікаў, а ў многім разумелі задачы дня. І, мабыць, не будзе перабольшаннем адзначыць, што дзейнасць Мамонічаў нават тады, калі яны выдавалі чыста царкоўныя кнігі, у аснове сваёй насіла не царкоўна-рэлігійны, а нацыянальна-культурны характар.

Відаць, увесь комплекс тагачасных абставін — узняцце праваслаўя (а гэта азначала барацьбу і супраць Рэфармацыі і супраць каталіцызму), інтарэсы камерцыі і жаданне распаўсюдзіць пісьменнасць сярод свайго народа — прымусіў Мамонічаў задумацца над тым, як арганізаваць друкарню. А арга-

[1] У. Пічэта. Беларускае адраджэнне XVI ст. 400-лецце беларускага друку, стар. 147.

нізаваць яе было вельмі цяжка з-за адсутнасці вопытных майстроў. Якраз у гэты час Мсціславец і Фёдараў распачалі друкарскую дзейнасць у Заблудаве.

Нам не зусім зразумелы ўзаемаадносіны Мсціслаўца і Фёдарава. Вядома, што ў Маскве кіруючая роля належала Фёдараву, у Заблудаве, відаць, было тое ж самае. А калі так, то адным з матываў пераходу Мсціслаўца да Мамонічаў магло быць яго жаданне стаць на чале друкарні. Нам таксама невядомы ўмовы пагаднення паміж Мсціслаўцам і Мамонічамі. Існуе агульнапрынятая думка, што друкарня працавала пад кіраўніцтвам Кузьмы Мамоніча; што ж датычыцца тэхнічнага боку справы, то ён быў поўнасцю пад кантролем Мсціслаўца.

Вядома, што Мсціславец не асабліва ахвотна ішоў на згоду з Мамонічамі. Прычыны гэтага таксама не ўстаноўлены. Або ўмовы, якія паставілі браты Мамонічы, былі не зусім яму прымальнымі, пэўным чынам абмяжоўвалі яго свабоду, або Мсціславец мог з неахвотай пайсці на гэту згоду па прычыне старасці і слабага здароўя, разумеючы, што ўвесь цяжар работы па арганізацыі друкарні будзе ўскладзен на яго плечы. Вядома, што, акрамя друкарні, Мсціславец прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі паперні ў Павільні. З дакументаў відаць, што паперня была гатова яшчэ раней, чым поўнасцю закончылася падрыхтоўка друкарні.

У віленскай друкарні Мамонічаў спачатку быў выкарыстан шрыфт, які прывёз Мсціславец з Заблудава. Магчыма, ён прывёз і частку друкарскага абсталявання. Шрыфту ж аказалася вельмі мала, значную частку яго прыйшлося даразаць. На гэта пайшло шмат часу і энергіі, а таму друкарня пачала дзейнічаць толькі ў 1574 г. Спачатку ўсёй работай кіраваў П. Мсціславец. Адначасова ён навучаў друкарскай справе Кузьму Мамоніча, бо праз некаторы час Кузьма становіцца ўжо вопытным друкаром.

Усю чарнавую работу ў друкарні выконвала чэлядзь Мамонічаў. Мамонічы самі, і ў першую чаргу Лукаш, выступалі фінансістамі, прадпрыемцамі. Кузьма ж быў арганізатарам, а таксама кіраўніком друкарні. Акрамя Мамонічаў, пэўны ўдзел у фінансаванні друкарні прымалі таксама браты Зарэцкія, а магчыма, і некаторыя іншыя багатыя жыхары Вільні. Так, у прадмове да «Чацвёраевангелля», якое выйшла 30 сакавіка 1575 г., Мсціславец адзначае, што ён змог выдаць гэту кнігу «умышлением и промышлением его милости пана скарбного

старосты Упицкого, Ивана Семеновича Зарецкого и брата его пана Зенона, бурмистра места Виленского».

У 1576 г. пачаўся судовы працэс П. Мсціслаўца з К. Мамонічам за друкарню. Чым скончылася гэта справа, таксама невядома. Захавалася пастанова суда, але ці была яна выканана абодвума бакамі, яшчэ не высветлена. У далейшым частка матэрыялу з друкарні Мамонічаў апынулася ў Астрожскай друкарні. Судовы працэс Мсціслаўца з Мамонічамі — апошнія дакументальныя звесткі пра яго, пасля гэтага сляды Мсціслаўца наогул губляюцца ў гісторыі. Відаць, неўзабаве ён памёр.

Пасля разрыву з Мсціслаўцам Мамонічы не адразу змаглі наладзіць друкарню. Па іх запрашэнню некаторы час у Вільні працаваў вучань Фёдарава Грынь Івановіч, які адліў для друкарні Мамонічаў два шрыфты. Друкарня аднавіла сваю работу толькі ў 1582—1583 гг.

У 1576 г. Мамонічы пры дапамозе Яна Зарэцкага атрымалі ад караля прывілей на друкаванне кніг, у 1586 г. гэты прывілей быў пацверджаны. Згодна з прывілеем, толькі яны мелі права друкаваць кнігі кірыліцай для праваслаўнага люду Вялікага княства Літоўскага. Той факт, што Мамонічы настойліва імкнуліся атрымаць ад караля прывілей, сведчыць пра іх жаданне паставіць кнігадрукаванне на цвёрды грунт. Акрамя таго, яны імкнуліся стаць гаспадарамі становішча, не дапускаць на кніжны рынак Вялікага княства Літоўскага кнігі з іншых друкарняў.

У першы перыяд сваёй дзейнасці Мамонічы разам з Мсціслаўцам выдалі некалькі кніг чыста рэлігійнага характару для праваслаўных. А гэта значыць, што ў той час інтарэсы праваслаўнай царквы стаялі ў іх на першым плане. Праўда, некаторыя з гэтых набажэнскіх кніг маглі выкарыстоўвацца і для навучання дзяцей пісьменнасці. Прыкладам падобнай кнігі з'яўляецца «Псалтыр» 1576 г. Выданнем «Псалтыра» Мамонічы непасрэдна працягвалі традыцыі Скарыны ў друкаванні кніг, прызначаных для навучання пісьменнасці. Варта падкрэсліць, што ў тыя часы выданне кніг нават царкоўна-рэлігійнага прызначэння павышала культурны ўзровень насельніцтва, расшырала яго кругагляд.

У перыяд знаходжання Мсціслаўца ў друкарні Мамонічаў былі выпушчаны кнігі, найбольш дасканалыя з боку афармлення. Яны змяшчаюць арыгінальныя гравюры і надрукаваны прыгожым шрыфтам. З боку афармлення кнігі друкарні Мамо-

нічаў 1574—1576 гг. зроблены пад яўным уплывам Скарыны. Уплыў гэты адчуваецца ў дакладнасці і прыгажосці літар. Застаўкі ў кнігах, выдадзеных Мамонічамі і Мсціслаўцам, таксама вельмі нагадваюць застаўкі з кніг Скарыны. Нарэшце, іх прадмовы многімі сваімі думкамі пераклікаюцца з прадмовамі Скарыны. Так, і там і тут выражана любоў аўтараў да кнігі, імкненне пашыраць асвету сярод народа.

Другі перыяд дзейнасці друкарні Мамонічаў ахоплівае прыкладна апошнія дваццаць год XVI ст. і першыя гады XVII ст. Ён з'яўляецца найбольш плённым за ўсе часы існавання друкарні. Карыстаючыся каралеўскім прывілеем, Мамонічы пачынаюць усё шырэй разгортваць сваю дзейнасць. У пачатку 80-х гадоў друкарняй Мамонічаў зацікавіўся каралеўскі двор, яна нават час ад часу выконвала некаторыя афіцыяльныя заказы або выпускала кнігі для уніяцкай царквы, хоць браты Мамонічы да самай смерці заставаліся праваслаўнымі.

Першае, дакладна вядомае пасля перапынку выданне друкарні Мамонічаў адносіцца да 24 чэрвеня 1583 г. Гэта быў «Служэбнік» — кніга для праваслаўнага набажэнства. У пасляслоўі да «Служэбніка» гаворыцца, што надрукаваны ён быў «за прывілеем і воляю і ласкаю яго каралеўскай міласці». Шрыфт гэтай кнігі вельмі падобны на шрыфт тых кніг, якія былі выдадзены яшчэ з удзелам Мсціслаўца. Арнамент «Служэбніка» з'яўляецца копіяй «Служэбнікаў» 1517 і 1547 гг., што выйшлі ў Венецыі. Мамонічы зрабілі гэта спецыяльна, каб знайсці больш шырокі збыт сваёй прадукцыі сярод праваслаўных сербаў і балгар.

Варта таксама адзначыць, што пасля перапынку Мамонічы пачалі выпускаць кнігі на значна горшай паперы; гэта тлумачыцца больш цяжкім іх матэрыяльным становішчам. Горшым стала і знешняе афармленне кнігі — у тыя гады ў друкарні Мамонічаў не было добрых гравёраў.

Мае сваю цікавую гісторыю выпуск так званага «Зборніка» (1585). Кніга была прызначана не для царкоўных патрэб, а для чытання, у яе ўвайшлі павучанні патрыярха Генадзія Ерусалімскага, Іаана Дамаскіна і Іаана Златавуста. Кніга выйшла без каралеўскага дазволу. Мамонічы, каб пазбегнуць каралеўскай няміласці, прысвяцілі кнігу багатаму і ўплывоваму магнату Астапу Валовічу. З прадмовы «Зборніка» відаць, што той грэчаскі рукапіс, з якога рабіўся пераклад на стараславянскую мову, належаў Максіму Грэку і што перакладчык быў з ім

добра знаёмы. Такім чалавекам мог аказацца князь Курбскі. Гэты зборнік надрукаван двума шрыфтамі: буйным — загалоўкі і дробным — тэкст. Магчыма, гэтыя шрыфты былі адліты Грынем Івановічам. Выданне «Зборніка» сведчыць, што Мамонічы працягвалі развіваць традыцыі Скарыны ў справе пашырэння асветы, для чаго перайшлі да выпуску кніг, ужо непасрэдна не звязаных з набажэнствам.

У 1586 г. друкарня Мамонічаў выпусціла чатыры кнігі: «Псалтыр» (10 лютага), «Граматыку» (8 кастрычніка), «Дыялектыку» і «Трыбунал» (без дакладных дат). «Псалтыр» у многім паўтарае заблудаўскае выданне псалтыра, але значна ўступае яму з боку мастацка-тэхнічнага афармлення. Па свайму афармленню «Псалтыр» 1586 г. разлічан у першую чаргу на маскоўскага чытача, дзе кнігадрукаванне было распаўсюджана менш. Мамонічы мноства кніг, прызначаных для праваслаўнага набажэнства, збывалі ў Маскве.

Асобае месца займалі «Граматыка» і «Дыялектыка». У прадмове да «Граматыкі» сказана: «А за прозбою жителей столицы великого княжества литовского града Вильни сия кграматыка... выдана». Кнігі былі прызначаны для навучання дзяцей у школе. Вядома, што яшчэ ў 1584 г. у Вільні была адкрыта школа, для якой і спатрэбіліся тэрмінова гэтыя падручнікі.

Гэта першая граматыка не з'яўляецца арыгінальнай, яна перакладзена з грэчаскай мовы. Матэрыял у ёй падаецца ў вельмі ўскладненай форме, многія разважанні носяць самы агульны характар. Больш канкрэтна ў граматыцы разглядаюцца такія катэгорыі, як назоўнік і дзеяслоў. Напрыклад, у ёй даецца азначэнне пяці склонаў назоўніка, гаворыцца пра часы дзеяслова і прыводзяцца прыклады. Калі ж у стараславянскай мове няма адпаведных часоў і нельга прывесці прыклады, то граматыка адзначае, што гэтыя формы «языку неприятне». Назвы параграфаў у граматыцы пададзены на лацінскай мове. З гэтага можна зрабіць вывад, што настаўнікі, а магчыма, і вучні ведалі ў некаторай ступені лацінскую мову.

Год і месяц выдання «Дыялектыкі» не ўказаны. Толькі па шрыфту, які з'яўляецца аднолькавым са шрыфтам «Граматыкі», даследчыкі прыйшлі да вываду, што гэтыя кнігі былі надрукаваны аднačасова.

Як відаць, у справе асветы свайго народа Мамонічы творча развілі традыцыі Ф. Скарыны. Калі Скарына выпускаў кнігі

«Бібліі» для асветы «паспалітага люду», з якіх толькі адзін «Псалтыр» мог непасрэдна быць выкарыстан як падручнік, то Мамонічы пачалі ўжо выдаваць кнігі чыста педагагічнага характару.

У 1586 г. друкарня Мамонічаў выпусціла першую афіцыяльную кнігу — «Трыбунал абаваталям Вялікага княства Літоўскага». Пад загалоўкам кнігі два гербы — польскі арол і герб Вялікага княства Літоўскага — пагоня як сімвал аб'яднання дзвюх дзяржаў.

Важнай падзеяй у жыцці друкарні Мамонічаў было выданне ў 1588 г. «Статута Вялікага княства Літоўскага». Гэта так званая трэцяя рэдакцыя «Статута» была апрацавана Львом Сапегам.

Як вядома, Мамонічы яшчэ раней устанавілі прыязныя адносіны з Сапегам, які захаваў шырокую верацярпімасць і быў карысны Мамонічам. Апякунства заможнага магната станоўча ўплывала на работу друкарні. Нават пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. дзякуючы падтрымцы Сапегі друкарня магла выпускаць кнігі для праваслаўнага набажэнства.

Законы і звычаі, якімі жыло насельніцтва Беларусі, Украіны і Літвы, адрозніваліся ад польскіх. Яны не былі ліквідаваны і пасля Люблінскай уніі. Вялікае княства Літоўскае працягвала жыць згодна са сваімі спрадвечнымі звычаямі. «Статут» у заканадаўчай форме пацвердзіў іх. У «Статуце» падрабязна гаворыцца аб правах і вольнасцях шляхецкіх, судзе, праве спадчыннасці, правах і абавязках простых людзей, становішчы слуг, гандлі, шляхах зносін і г. д. Наогул усе пытанні грамадскага жыцця знайшлі адлюстраванне ў гэтым дакуменце.

У пачатку «Статута» змешчаны два прывілеі — на беларускай і лацінскай мовах, у якіх адзначаецца, што яго складалі некалькі год віднейшыя вучоныя і юрысты і што ён не пярэчыць Люблінскай уніі. «У прысвячэнні каралю... Сапега выказвае свае перадавыя погляды..., ён абараняе індывідуальную свабоду чалавека» [1]. Сваім жа вастрыём «Статут» 1588 г. быў накіраван супраць Люблінскай уніі 1569 г. Выхад яго з друкарні Мамонічаў дае падставу меркаваць, што яны, як і іх апякун Сапега, былі праціўнікамі палітычнага аб'яднання з

[1] А. С. Зернова. Типография Мамоничей в Вильне (XVII век). Книга. Исследования и материалы. Сб. I. М., 1959, стар. 190.

Польшчай, прыхільнікамі аднаўлення поўнай самастойнасці Вялікага княства Літоўскага.

«Статут» быў надрукаван тым жа шрыфтам, што і «Трыбунал». У пачатку яго змешчаны партрэт польскага караля, пагоня і герб Сапегі. Большасць даследчыкаў слушна сцвярджаюць, што пад адной і той жа датай «Статут» друкаваўся яшчэ два разы. Выданне «Статута» ў 1588 г. з'яўляецца адной з найбольш важных падзей у жыцці друкарні Мамонічаў. «Статут» адыграў выключна вялікую ролю як юрыдычны дакумент не толькі ў жыцці беларусаў, але і ў жыцці іншых славянскіх і літоўскага народаў.

Дзевяностыя гады — таксама перыяд вельмі інтэнсіўнай работы друкарні. У гэты час Мамонічы перавыдаюць кнігі як рэлігійнага зместу, так і юрыдычнага характару. Разам з тым выходзілі творы, якія закраналі самыя надзённыя пытанні часу. Праўда, каб асабліва не прыцягваць да сябе ўвагі, Мамонічы прыкладна каля палавіны кніг выпускалі без указання месца выдання. Напрыклад, падобным чынам у гэты час выйшлі тры псалтыры, некалькі апосталаў, евангелляў, часасловаў і г. д. У выданні «Апостала» 1592 г. змешчаны герб навагрудскага ваяводы Фёдара Скуміна і верш Андрэя Рымшы. Празаічнае прысвячэнне Скуміну ў кнізе напісана Лукашом Мамонічам, які ў гэты час ужо меў шляхецкае званне.

У 1593 г. Мамонічы здабылі яшчэ адзін прывілей, які сваім вастрыём быў накіраван супраць маскоўскіх друкароў. Прывілей забараняў іншаземцам увозіць і распаўсюджваць кнігі «кірылаўскага» пісьма на тэрыторыі княства. І сапраўды, у гэты час інтэнсіўна развіваецца кнігадрукаванне ў Маскве. Мамонічы глядзелі на маскоўскіх друкароў як на сваіх канкурэнтаў. У пачатку 90-х гадоў у іх друкарні, як правіла, выдаюцца тыя кнігі праваслаўнага набажэнства, якія не друкуюцца ў Маскве, і наадварот. З гэтага відаць, што хоць Мамонічы імкнуліся рознымі спосабамі перашкодзіць увозу набажэнскіх кніг з іншых краін, самі яны былі зусім не супраць рабіць адваротнае. У Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе знаходзіцца сем экземпляраў «Учыцельнага евангелля» 1595 г. На ўсіх экземплярах зроблены надпісы па-руску, што гаворыць пра іх бытаванне сярод рускага чытача.

Своеасаблівы характар мела дзейнасць друкарні Мамонічаў у другой палавіне 90-х гадоў. Агульнавядома, што і Лукаш

і Кузьма да самай смерці (1606) заставаліся праваслаўнымі. Разам з тым пасля ўвядзення Брэсцкай уніі іх дзейнасць на карысць праваслаўя пэўным чынам была абмежавана. Больш таго, застаючыся праваслаўнымі, яны вымушаны былі час ад часу выпускаць кнігі для уніятаў. Так, яшчэ ў 1595 г. у іх друкарні была надрукавана «Унія», прысвечаная Скуміну. У 1597 г. Мамонічы выдалі яшчэ два творы для уніятаў: пераклад на беларускую мову кнігі П. Скаргі «Брэсцкі сінод і яго абарона» і «Справедливое описанье поступку и справы сынодовое и оборона згоды и едность съвершенное». Другая кніга выйшла ананімна. У прадмове аўтар яе толькі зазначае, што раней ён быў праваслаўны, а пасля прыняў унію. Каля 1600 г. выйшла таксама кніга уніяцкага кірунку «Адказ на Апокрысіс і Водпіс».

Друкаваць жа кнігі праваслаўнага набажэнства пасля 1596 г. стала значна цяжэй. Напрыклад, у другой палавіне 90-х гадоў не зафіксавана дакладна ніводнай праваслаўнай кнігі друкарні Мамонічаў. Праўда, А. Зёрнава на аснове вывучэння шрыфтаў прыходзіць да думкі, што ў гэты час Мамонічы выдалі дзве праваслаўныя кнігі — «Служэбнік» і «Часаслоў». У 1600 г. выйшла двойчы ў друкарні Мамонічаў «Евангелле напрастольнае». Абодва выданні вельмі блізкія да выдання Мсціслаўца 1575 г. Мяркуючы па подпісах на вядомых экземплярах евангелляў, абодва яны шырока бытавалі на землях Украіны. Тыя «Часасловы» і «Буквары», якія выйшлі з друкарні Мамонічаў у 90-я гады, прадаўжалі сабою выпуск кніг, прызначаных для педагагічных мэт. Сістэматычнае выданне Мамонічамі такіх кніг паказвае, што яны клапаціліся аб пашырэнні асветы ў Беларусі, разумелі, якое значэнне мае адукацыя ў жыцці чалавека.

Прыкладна ў 1591 г. друкарня Мамонічаў набыла польскі шрыфт. З гэтага часу зрэдку яна пачынае выпускаць кнігі і на польскай мове. Першымі такімі кнігамі былі «Uniwersal poborowy» (прыкладна 1591 г.) і «Cathemivion (прыкладна 1593 г.).

З 1593 г. друкарскай справай пачынае займацца сын Кузьмы Мамоніча Лявон. Друкарня з удзелам траіх Мамонічаў працуе да 1606 г., калі памёр Лукаш Мамоніч, які быў апорай друкарні, укладваў у друкарню ўсё, што меў, абараняючы думкі і інтарэсы таго грамадскага класа, да якога належаў. Пасля смерці Лукаша і Кузьмы, якія памёрлі ў адзін год, поўным гаспадаром друкарні становіцца Лявон Мамоніч.

Звестак пра самога Лявона Мамоніча захавалася значна менш, чым пра Лукаша і Кузьму. Першы раз яго імя ўпамінаецца ў «Псалтыры» 1593 г., дзе змешчаны яго прадмова і эпіграма ў гонар Лукаша Мамоніча.

З прадмоў Лявона Мамоніча відаць, што ён быў чалавекам адукаваным, але дзе навучаўся, засталося невядомым. Можна меркаваць, што ён скончыў брацкую школу пры царкве св. Тройцы ў Вільні, магчыма, мог вучыцца дзе-небудзь у вышэйшай школе, а ў 1613 г. нават быў членам троіцкага брацтва.

Ужо ў кнізе «Малітвы паўсядзённыя», якая выйшла ў 1601 г., няма пераліку вялікарускіх святых, г. зн., што кніга была прызначана для уніятаў. У 1604 г. друкарня Мамонічаў выдае твор «Апалогія Фларэнційскага сабора», у 1608 — «Гармонию албо согласие веры». Пачынаючы са «Служэбніка», замест подпісу «З друкарни дому Мамоничев» усюды сустракаецца подпіс «В Вильни. У Леона Мамонича тыпографа его королевской милости». Прыкладна з гэтага часу Лявон Мамоніч становіцца уніятам і блізка сходзіцца з Львом Сапегам, які ў гэты час быў канцлерам Вялікага княства Літоўскага.

Апошнія выданні кірылаўскага шрыфту друкарні — гэта «Служэбнік» (1617), «Часаслоў» (1617, двойчы), «Трэбнік» (1618, двойчы) і некаторыя іншыя. Некалькі разоў перавыдаваліся ў друкарні Мамонічаў «Статут» (1614 і 1619 гг.) і «Трыбунал» (1616, 1619 і 1623 гг.). Прынята лічыць, што гэтыя выданні выйшлі ў перакладзе на польскую мову. А. Зёрнава, прааналізаваўшы мову гэтых выданняў, прыйшла да іншага вываду: «Уласна кажучы, ні Статут, ні Трыбунал не перакладзены на польскую мову, а толькі беларускія словы надрукаваны гатычным шрыфтам» [1]. Большасць жа кніг з друкарні Лявона Мамоніча ўбачыла свет на польскай мове. Зразумела, значэнне іх для гісторыі беларускай культуры адносна невялікае. Найбольшае значэнне мела друкарня Мамонічаў у другі перыяд сваёй дзейнасці, калі выходзілі кнігі самага разнастайнага зместу і прызначэння.

Друкарня Мамонічаў мела вялікае культурнае значэнне не толькі для беларусаў, але і для ўкраінцаў і рускіх. У канцы XVI — пачатку XVII ст. паміж Вялікім княствам Літоўскім і Масквою развіваліся і пашыраліся з абодвух бакоў культурныя сувязі. У Маскве, дзе кнігадрукаванне было развіта менш,

---

[1] А. С. Зернова. Типография Мамоничей в Вильне (XVII век), стар. 219.

кніга знаходзіла багаты рынак збыту. Кнігі з друкарні Мамонічаў шырока разыходзіліся ва ўсе бакі славянскага свету. Сістэматычна сярод іншых тавараў Лукаша Мамоніча, якія адпраўляліся ў Маскву, была і чыстая папера, якая там знаходзіла шырокі збыт.

Пра тое, што Лукаш Мамоніч меў з Масквой пастаянныя гандлёвыя сувязі, успамінае ў сваіх допісах і Філон Кміта-Чарнабыльскі. У прыватнасці, з яго запісак вядома, што нехта Аляксей, які знаходзіўся на службе ў Лукаша Мамоніча, ездзіў па яго гандлёвых справах у Маскву. Быў ён там у канцы лютага 1574 г. і ў Аляксандраўскай слабадзе пад Масквой, а гэта адбылося якраз у той час, калі там наладжвалася друкарня. Адсюль можна дапусціць, што Мамонічы праз пасрэдніцтва Аляксея адыгралі пэўную ролю ў наладжванні друкарні, магчыма, нават пастаўлялі туды друкарскае абсталяванне. Відаць, Аляксей і ездзіў туды па гэтай прычыне.

Неабходна агаварыцца, што ў часы існавання друкарні Мамонічаў кнігі «літоўскага друку» яшчэ не выклікалі ў Маскве такога недавер'я, як пазней. Яны знаходзілі ў Маскве самы шырокі збыт і ў цэрквах, і ў манастырах, і ў дамах багатых пісьменных гараджан.

Мелі пэўнае пашырэнне і аказалі пэўны ўплыў кнігі з друкарні Мамонічаў і на развіццё балгарскай культуры; яны там былі шырока вядомымі. Напрыклад, у Плоўдзіўскай бібліятэцы ёсць «Чацвёраевангелле» 1574 г. і «Псалтыр» 1576 г. На абедзвюх кнігах захавалася мноства подпісаў, якія сведчаць, што кнігі прайшлі доўгі шлях. Сустракаюцца кнігі з друкарні Мамонічаў у Румыніі і Малдавіі, добра былі яны вядомы на землях Украіны.

Бясспрэчна, асабліва вялікае значэнне адыгралі кнігі друкарні Мамонічаў на землях Беларусі; іх добра ведалі ў манастырах, цэрквах, брацкіх школах, яны шырока бывалі ў дамах багатых гараджан.

Кнігі свае Мамонічы прадавалі па больш таннай цане, чым уладальнікі іншых друкарняў. Гэта адкрывала ім дарогу да адносна небагатых пакупнікоў і тым самым пашырала кола чытачоў. Тыраж кніг Мамонічаў дакладна невядомы. Відаць, ён быў значна большы, чым у іншых друкарнях, бо Мамонічы імкнуліся перш за ўсё выпускаць іх для продажу.

Якія прычыны выклікалі ўпадак друкарні Мамонічаў, дакладна не ўстаноўлена. Хутчэй за ўсё ў канцы XVI — пачатку

XVII ст. у Вільні і іншых гарадах узніклі іншыя друкарні, якія канкурыравалі з ёю. Апошнія выданні Лявона Мамоніча датуюцца 1623 г. Само імя Лявона Мамоніча ў дакументах упамінаецца апошні раз у 1626 г. З актаў жа відаць, што ў 1635 г. яго ўжо не было сярод жывых.

За доўгі перыяд свайго існавання друкарня Мамонічаў выпусціла каля сотні кніг. Зразумела, па свайму характару яны разнастайныя. Найбольш значнымі з іх былі «Статут» і іншыя кнігі, выдадзеныя на беларускай мове. У некаторых з іх знайшлі адлюстраванне многія перадавыя ідэі эпохі. Друкарня Мамонічаў мела вялікае грамадскае і культурнае значэнне ў жыцці Беларусі апошняй чвэрці XVI — першай чвэрці XVII ст.

Мамонічы ўслед за Скарынай, Цяпінскім, Мсціслаўцам і іншымі беларускімі друкарамі сеялі «разумнае, добрае, вечнае» сярод свайго народа. Услед за Скарынай яны выпускалі кнігі, прызначаныя для навучання, садзейнічалі распаўсюджанню пісьменнасці сярод суайчыннікаў. У цэлым друкарня Мамонічаў адыграла вялікую ролю ў справе пашырэння асветы, пісьменнасці і культуры не толькі ў асяроддзі беларускага насельніцтва, але і іншых суседніх усходніх і паўднёваславянскіх народаў, а самі Мамонічы сваёй дзейнасцю заслужылі павагу і прызнанне нашчадкаў.





Васіль Цяпінскі. Гіпс, 1927. Скульптар З. Азгур



Г. Я. ГАЛЕНЧАНКА

# Васіль Цяпінскі — паслядоўнік скарынінскай справы



ворчасць выдатных прадстаўнікоў пачатковага этапа беларускага кірылаўскага кнігадрукавання — Скарыны, Буднага, Цяпінскага — мае шмат агульнага, нягледзячы на яўнае адрозненне іх сацыяльна-палітычных і рэлігійных поглядаў. Дзейнасць гэтых кнігавыдаўцоў выразна адзначана блізкімі рысамі гуманістычнага светапогляду, звязана імкненнем паставіць новае кніжнае мастацтва на службу асвеце беларускага народа, выкарыстаць яго ў барацьбе за развіццё пісьменнасці, за ўмацаванне ў Беларусі універсальнай сістэмы еўрапейскай свецкай адукацыі.

Варта ўвагі і тое, што для ўсіх беларускіх кнігавыдаўцоў характэрна вялікая эрудыцыя (у тым ліку мовазнаўчая), шырокія сувязі з рознымі славянскімі народамі на глебе разнастайных узаемных культурных, палітычных і — канкрэтна — кнігавыдавецкіх інтарэсаў.

Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага звязвала асабістае знаёмства і ў нейкай меры кнігавыдавецкая справа, аднак пытанне аб супрацоўніцтве гэтых кніжнікаў пакуль што застаецца не даследаваным і чакае свайго вывучэння.

Відавочна, адсутнасцю дастатковых крыніц аб кнігавыдавецкай дзейнасці Цяпінскага тлумачыцца тая акалічнасць, што да гэтага часу выдатнаму дзеячу беларускай культуры другой палавіны XVI ст. даследчыкамі ўдзялялася вельмі мала ўвагі, у сувязі з чым аб яго творчай спадчыне напісана ўсяго некалькі артыкулаў [1].

Біяграфічныя звесткі аб беларускім шляхціцу, ураджэнцу Полацкай зямлі, Васілю Мікалаевічу Амельяновічу-Цяпінскім небагатыя, іх чэрпаюць даследчыкі пераважна з актаў Літоўскай метрыкі. Год нараджэння яго дакладна невядомы. Я. Ф. Карскі, напрыклад, звязвае нараджэнне Цяпінскага з 40-і гадамі XVI ст. Тагачасны партрэт яго, знойдзены беларускім бібліёграфам Р. Зямкевічам у 1915 г. у бібліятэцы К. Святаполк-Завадскага ў Крошыне, відаць, загінуў разам з брэсцкай бібліяй 1563 г., у якую ён быў укладзен.

Па некаторых даных, Цяпінскі прымаў удзел у Лівонскай вайне 1558—1583 гг. У вопісу коннай роты, зробленым у Чашніках 1 чэрвеня 1567 г. аршанскім старастам Ф. С. Кмітам, упамянут «товарыш (малодшы афіцэр) [2] Василей Тяпин на шесть кони. На нем панцер, шишак, шабля, гаркабуз (пішчаль), кончер (палаш), секирка, под ним дрыкгант (жарабец) сив».

Дробныя спадчынныя ўладанні Цяпінскага знаходзіліся ў розных паветах Вялікага княства Літоўскага. У дакументах яго паперамення называюць зямянінам паветаў Віленскага, Мінскага, Лідскага. Сам ён звычайна адносіў сябе да зямян ваяводства Полацкага.

Родавы невялікі маёнтак В. Цяпінскага Цяпіна быў размешчан у 18 вярстах ад Лепеля. Валодаў Цяпінскі землямі і па лініі жонкі Соф'і Данілаўны Жыжэмскай, якой належаў маёнтак «Свіраны» (Віленскі павет), і на залогавым праве распараджаўся памесцем «Вярсоцкае» (Лідскі павет). Захаваліся сляды зямельных працэсаў, якія вёў у 60-х гадах В. Цяпінскі з родзічамі жонкі Скіпорамі і з панам Юрыем Осцікам.

---

[1] Гл. М. В. Довнар-Запольский. В. Н. Тяпинский, переводчик евангелия на белорусское наречие. «Известия ОРЯС», т. IV, 1899, стар. 1031—1064; О. Левицький. Про Василия Тяпинського, що переклав в XVI ст. евангелие на просту мову. Критична розвідка. «Записки Українського навукового товариства в Київі», кн. XII, 1913, стар. 5—21; Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III. Пг., 1921; А. І. Жураўскі. Тыпы і асаблівасці глос у «Евангеллі» В. Цяпінскага. Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР, вып. VII. Мінск, 1960, стар. 213—226 і інш.

[2] Тлумачэнні ў дужках належаць аўтару артыкула.

З скупых біяграфічных звестак аб Васілю Цяпінскім можна адзначыць яшчэ, што ў 1579 г. апошні памяняў памесце «Вярсоцкае» на памесце «Полскаўскае» зямяніна Лідскага павета Мікалая Янавіча Брацішэўскага [1] ды што ў 1585 г. кіеўскі мітрапаліт Анісіфар Дзевачка атрымаў позву па скарзе В. Цяпінскага на «заграбленне» ў яго селяніна каня і некаторых рэчаў.

Але гаспадарчая дзейнасць не была адзіным заняткам В. Цяпінскага. Яго не пакідала думка аб стварэнні сваёй друкарні. Хоць ён добра разумеў, што арганізацыя друкарні пры такой «оубогой маетности» — справа нялёгкая, яна патрабуе пастаяннай увагі, а галоўнае — вялікіх грашовых сродкаў.

Не выключана магчымасць, што думка аб стварэнні друкарні ўзнікла ў Цяпінскага пад уплывам Сымона Буднага. Некалькі сведчанняў, якія пацвярджаюць іх блізкія адносіны, ёсць у творах С. Буднага «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры» (1576) і «Аб уладзе мяча» (1583). У першым Будны ўпамінае аб сінодзе 1574 г., які праходзіў у доме «брата мілага Васіля Цяпінскага». С. Будны выклаў сваё крэда па пытаннях рэлігіі, а «грамада» прысутных адобрыла яго выступленне і прапанавала выдаць у друку.

На сінодзе ў Лоску (1578) В. Цяпінскі выступіў у ролі актыўнага антытрынітарыя, які стаяў на пазіцыях С. Буднага па пытаннях зямельнай уласнасці, удзелу ў войнах і г. д. «Адазваўся адзін шляхціц,— пісаў С. Будны,— а затым і іншыя, што ўрад мяча не супярэчыць евангельскай навуцы, таксама як трыманне маёнткаў, удзел у войнах, «прававанне» і г. д. Спрачаліся з ім польскія браты (М. Чэховіц і А. Вітрэлін), ды ўжо вечар быў, супакоіліся. Назаўтра пры сваём раз'ехаліся».

Не выклікае сумнення той факт, што В. Цяпінскі карыстаўся творамі С. Буднага пры перакладзе «Евангелля» на беларускую мову. Шрыфты друкарні В. Цяпінскага нагадваюць шрыфты Нясвіжскай друкарні, і разам яны складаюць тую групу друкарскага матэрыялу, якая сваімі графічнымі рысамі ўзыходзіць да выданняў Скарыны ў Празе і Вільні. Архімандрыт Леанід (Кавелін) сцвярджаў, што іменна Цяпінскі з'яўляўся ўладальнікам Нясвіжскай друкарні, якая каля 1565 г. пераехала ў яго памесце «Цяпіна». Гэта дало яму падставу назваць друкарню В. Цяпінскага «вандроўнай», «перасовач-

[1] ЦДАСА, ф. 389, кн. 261, 1562—1566 гг., л. 161; кн. 47, 1565—1567 гг., л. 76; кн. 272, 1576—1579 гг., л. 106.

най» [1]. І ўсё ж грунтоўных падстаў няма для такога сцвярджэння. У прадмове да «Евангелля» Цяпінскі пісаў, што ён прайшоў цяжкія і далёкія дарогі пры арганізацыі кнігадрукавання, «праве всё до того зачинаючи знову».

Сведчаннем кніжна-выдавецкай дзейнасці Васіля Цяпінскага з'яўляецца яго «Евангелле», экземпляр якога ў сучасны момант захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў складзе рукапіснага зборніка Пагодзіна, які налічвае 332 лісты (фарматам in folio).

Другі экземпляр «Евангелля» ў свой час належаў бібліятэцы Антоніева-Сійскага манастыра Архангельскай губерні, але так і застаўся не апісаным, больш таго, зараз не ўстаноўлена яго апошняе месцазнаходжанне.

Вядомы экземпляр «Евангелля» далёка не поўны. Мы не маем ніякіх доказаў таго, што яно было калі-небудзь закончана. Па ўласнаму сцвярджэнню В. Цяпінскага, ім надрукаваны толькі евангеллі «светого Матфея, и светого Марка, и початок Лоуки». Але ж вядомы экземпляр «Евангелля» В. Цяпінскага не мае і гэтага. «Евангелле» «писанья светого Матфея» надрукавана поўнасцю (лл. 2—43), «писанья светого Марка» даведзена да главы 14 (вершы 6—7), «Евангелле» «светого Лоуки» зусім адсутнічае.

Невядомы таксама ні месца выдання, ні год яго выхаду ў свет. Самы ранні запіс рукапіснага зборніка адносіцца да 1580 г., л. 239: «Сия книга священноинока Іевстафия архидияькона. Списана бысть в монастыри Соупрасльском от нарожения сына божия афп года». Астатнія запісы пазнейшага часу, на лл. 5—8: «а отписал Книгу детем своим Ондрею и Фектасию Елизарьевичем своею рукою лета зпод» (1666); на л. 12: «сия книга глаголемая Ондрея Елизарьевича Жураковского лета зро года, февраля в Ѳ день» (1662); на лл. 24—28 подпіс Елізарыя Журакоўскага.

Рукапіс напісаны рознымі почыркамі і складае ў цэлым палемічны зборнік самага рознага зместу (л. 264: «реестр речи преднейшых и порядрейшых, кторые в сей книзе замыкаются», л. 234: «о ротмистрах и жолнерах люторских»). Пасля «Катэ-

[1] Гл.: Архимандрит Леонид. Описание славяно-русских книг, т. І. И. Каратаева, 1883. «Журнал Министерства народного просвещения», 1884, № 5, стар. 43—44.

хізіса» на лл. 267—270 б (бібліятэчная нумарацыя) ідзе тэкст рукапіснай прадмовы да «Евангелля», а затым друкаваны тэкст выдання (лл. 1—63, л. 62 адсутнічае).

Вадзяныя знакі ёсць на лл. 3, 20, 22, 24, 38, 42, 44, 46, 55, 60, на лл. 269, 270 прадмовы да «Евангелля». Філігрань «герб эліты» нагадвае вадзяны знак № 130 (але без кароны) па ўказальніку І. Камяніна, О. Вітвіцкай [1].

«Евангелле» надрукавана ў два слупкі (злева царкоўнаславянскі тэкст, справа «заходнерускі»). На думку Я. Ф. Карскага, беларуская рэдакцыя «Евангелля» з'яўляецца перакладам польскага выдання «Бібліі» С. Буднага 1572 г. (Нясвіж—Узда?) [2].

У аснову «Евангелля» з аднолькавай верагоднасцю мог быць пакладзен пераклад з нясвіжскага выдання новага завету 1570 г. (як відаць, невядомага Я. Ф. Карскаму). Такім чынам, «Евангелле» В. Цяпінскага не магло быць апублікавана раней ва ўсякім разе 1570 г.

На палях «Евангелля» знаходзяцца шматлікія спасылкі на «евангелие масковское недавно друкованое» (лл. 17 б, 20 б, 26 а, 33 б, 35 а і інш.). На маскоўскае евангелле спасылаецца таксама С. Будны ў новым завеце (Лоск, 1574 г.).

Сучаснаму кнігазнаўству вядомы тры «Евангеллі» Маскоўскай «ананімнай» друкарні, якія выйшлі ў 1553—1554, 1558—1559, 1562—1564 гг. [3] В. Цяпінскі хутчэй за ўсё меў на ўвазе апошняе «нядаўна друкаванае» «Евангелле». Зыходзячы з гэтых меркаванняў, можна было б датаваць «Евангелле» В. Цяпінскага пачаткам 70-х гадоў XVI ст. [4]

Рукапісная прадмова В. Цяпінскага да «Евангелля» застаецца адзінай крыніцай для характарыстыкі яго сацыяльна-палітычных, культурных поглядаў і для высвятлення гісторыі яго друкарні. У пачатку прадмовы В. Цяпінскі скардзіцца на велізарныя цяжкасці, якія давялося пераадолець, каб самому арганізаваць уласнае друкаванне «Евангелля». «З оубогое

---

[1] І. Камянін, О. Вітвіцька. Водяні знаки на папері українських документів (1566—1651). Київ, 1953.

[2] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, стар. 37.

[3] Гл.: Е. Л. Немировский. Возникновение книгопечатания в Москве. Иван Федоров. М., 1964, стар. 263.

[4] Архімандрыт Леанід меркаваў, што «Евангелле» надрукавана ў 60—70-х гадах XVI ст., М. В. Доўнар-Запольскі — каля 1580 г., А. Я. Віктараў — у 60—80-х гадах XVI ст., да 1580 г. і г. д.

своее маетности народоу моему оуслугую, на которой теж при ней и на именечкоу, хотя ж то было невеликое, вжо дле накладоу, а злаща книг старих давних на розных и не близских месца(х) доставаючи, — над то еще в миноулые лета тяжкие дороги дле дроуку и потреб тому належачих подыймаючи, а праве все до того зачинаючи зновоу, — ач вельмим столь ведь же пред се и должачисе, ибы мы теж ижем то не влох, не немець, або не доктор, и ни який постановеный межи попы».

Адзначаючы варожыя адносіны праваслаўнага духавенства да яго асветніцкіх пачынанняў і нават да перакладу «слова божего» на «езык руский», В. Цяпінскі паведамляе, што «некоторые вместо помочи або дяки (падзякі) и зазростью платити хотели».

Сур'ёзныя цяжкасці паўсталі перад выдаўцом у сувязі з неабходнасцю рыхтаваць два паралельных тэксты «Евангелля»: «Вжо бо а еще, хотя ж то не без большое троудности пришло ижь двема езыкы за раз, и словенским и при нем тут жо роуским, а то наболший словенским, а злаща слово от слова... в той оубогой моей дроукарни от мене им выдруковано».

Ва ўцалелай частцы «Евангелля» В. Цяпінскага налічваецца 210 глос, якія можна падзяліць на чатыры групы: перакладныя, этымалагічныя, тэксталагічныя і спасылачныя. Глосы В. Цяпінскага ў адрозненне ад аднаслоўных у сваёй большасці глос Скарыны прадстаўляюць цэлыя сказы і нават невялікія «артыкулы». Падрабязнае вывучэнне глос «Евангелля», распачатае беларускім даследчыкам А. Жураўскім, паказвае, што ў асобе В. Цяпінскага беларуская культура другой палавіны XVI ст. мела выдатнага дзеяча «шырокага філалагічнага і агульнаадукацыйнага дыяпазону» [1].

Далёкі ад рэлігійнага дагматызму В. Цяпінскі звяртаўся з заклікам да свецкіх і духоўных «паноў», у якіх бачыў асноўную сацыяльную сілу асветніцтва, накіраваць свае намаганні не на жыццёвыя задавальненні, «не на марнотрацства, не на строй и што такого, але дле наоук наданых». Пачуццё нацыянальнай гордасці за свой народ чуецца ў словах В. Цяпінскага, калі ён гаворыць аб выдатным гістарычным мінулым «отчизны нашое», усіх славянскіх народаў «яко многокрот посторонние оучоные народы их мудрость моусели похвалять

---

[1] А. І. Жураўскі. Тыпы і асаблівасці глос у «Евангеллі» В. Цяпінскага. Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР, вып. VII, стар. 226.

и овшем се от них оучить». Ад Скарыны праз Буднага да Цяпінскага праходзіць гэта непахісная ўпэўненасць у яго «довстипности, зацности, оумеетности», ідэі адзінства і дружбы паміж усімі народамі.

У прадмове да «Евангелля» В. Цяпінскі гаворыць яшчэ аб адным выданні — «Катэхізісе»: «До чого, абы первей сами и их детки смыслы свои не яко готовали, острили и в вере прицвичали, тым часом тот катехисис, а который сами зданем своим, яко довнимаю за речь исте потребную, естли не зараз, вжды з своим часом, оузнають, им вперед подаю». Але паколькі гэты «Катэхізіс» бібліёграфамі пакуль што не адзначан, то і ўсе гіпотэзы адносна яго складу (мяркуюць, што гэта некалькі відазмененае выданне «Катэхізіса» 1562 г. С. Буднага [1]) застаюцца, вядома, вельмі ўмоўнымі.

У друкарскіх адносінах «Евангелле» В. Цяпінскага выглядае параўнальна бедна. Кінавары нідзе не відаць, гравюр няма, прыменена кірылаўская нумарацыя лістоў. У выданні сустракаецца наборны арнамент. На тытульным лісце «Евангелля» некалькі разоў паўторан узор са сплеценых лісцяў і галінак, які нагадвае ўпрыгожанні нясвіжскага «Катэхізіса» 1562 г. (лл. 1 нн., 3, 4, 5, 106, 210 і інш.). Старонкі раздзелены на два слупкі тэксту. Лініі надрукаваны няроўна. Відаць, што пры гэтым выкарыстан складаны лінейны матэрыял.

«Евангелле» Цяпінскага вызначаецца сваім радковым шрыфтам. Ён менш нясвіжскага кірылаўскага радковага шрыфту на 0,7 мм (у маштабе 10 радкоў — на 30 мм), менш пражскага радковага шрыфту Скарыны на 0,5—0,6 мм (10 радкоў—на 23 мм), вышэй віленскага радковага шрыфту («Дзяяняў апостальскіх») на 0,3—0,4 мм. Радковы шрыфт «Евангелля» В. Цяпінскага кампактны, прамежкі паміж ачкамі суседніх літар нязначныя. Вялікія ініцыялы «Евангелля» (3 літары на лл. 2, 43) адрозніваюцца ад усіх ініцыялаў у выданнях Скарыны па памерах і па стылю афармлення: белы фон з раслінным узорам. Дробныя ініцыялы ў «Евангеллі» падобны да ініцыялаў віленскага «Апостала», але адрозніваюцца па памерах і па стылю (у дэталях). І ў Цяпінскага, і ў Скарыны захаваны чорны фон, рамка ў белай аблямоўцы і белая літара.

---

[1] Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Zeszyt 5: Wielkie księstwo Litewskie. Opracowali A. Kawecka-Gryczowa, K. Korotajowa, W. Krajewski. Wrocław — Kraków, 1959, стар. 68.

Пры ўсім гэтым самай цікавай агульнай рысай выданняў Скарыны, Буднага, Цяпінскага застаецца падабенства шрыфтоў, якое патрабуе цэласнага тыпаметрычнага аналізу для высвятлення існуючай паміж імі розніцы. Такая дакладнасць тлумачыцца высокім майстэрствам капіравання шрыфтоў у беларускім кнігадрукаванні ў другой палавіне XVI ст.

Відавочнае стылізаванне кірылаўскіх выданняў Буднага, Цяпінскага пад выданні Скарыны выразна сведчыць аб высокім аўтарытэце кніжак апошняга ў колах беларускай грамадскасці.

У заключэнне адзначым, што апошнія гады дзейнасці друкарні Васіля Цяпінскага, а таксама канчатковы лёс яе шрыфтоў, арнаменту і іншага кнігавыдавецкага абсталявання застаецца невядомым. З нешматлікіх пісьмовых крыніц высвятляецца толькі тое, што ў студзені 1604 г. полацкім гарадскім судом разбіралася справа паміж яго сынамі Табіяшам і Абрамам, якія судзіліся за раздзел «Цяпіна» — «садибы старое небощыка отца іх». Адносна ж друкарскай маёмасці ніякіх упамінанняў няма.

Але калі сучасны стан крыніцазнаўства ў галіне гісторыі беларускага кнігадрукавання яшчэ не дазваляе колькі-небудзь поўна ахарактарызаваць месца Васіля Цяпінскага сярод выдатных беларускіх кніжнікаў ранняй пары, то, трэба спадзявацца, пазнейшыя даследчыкі запоўняць існуючы прабел і ўсебакова асветляць заслугі Цяпінскага перад кніжнай культурай беларускага народа.





А. С. МЫЛЬНІКАЎ

# Ф. Скарына і чэшскае кнігадрукаванне

У творчасці вялікага беларускага першадрукара своеасабліва і разам з тым здзіўляюча цэласна спалучаюцца элементы славянскіх культур ва ўзаемасувязі паміж сабою і адначасова з агульнаеўрапейскай культурай эпохі Адраджэння. Заснавальнік беларускага кнігадрукавання Францыск (Георгій) Скарына пачаў сваю выдавецкую дзейнасць у сталіцы Чэхіі Празе, затым працягваў яе ў Вільні. Такім чынам, ён з'яўляецца піянерам друкавання кніг кірыліцай не толькі ў чэшскіх землях, але і заснавальнікам яго на тэрыторыі нашай краіны. Чалавек высокай культуры і вялікай адукаванасці, вывучанік Кракаўскага і Падуанскага універсітэтаў, ён, як адзначыў А. А. Сідараў, «ва ўсёй сваёй дзейнасці не забываў, што яна — для яго роднага народа» [1]. Скарынінская «Біблія», што была надрукавана ў далёкай Празе, атрымала шырокае распаўсюджанне

[1] А. А. Сидоров. Узловые проблемы и нерешенные вопросы истории русского книгопечатания. Книга. Исследования и материалы, т. IX. М., 1964, стар. 23.

ў славянскім асяроддзі, пранікаючы, у прыватнасці, і ў межы Рускай дзяржавы.

Асобныя яе часткі перапісваліся і ў складзе рукапісных зборнікаў станавіліся вядомымі досыць шырокаму колу чытачоў. З гэтага пункту гледжання з'яўляецца цікавым зборнік XVII ст. з Наўгародска-Сафійскай бібліятэкі, якая захоўваецца зараз у Аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына [1]. Па даных Д. І. Абрамовіча, у зборніку на лістах 109—169 прыведзена кніга «Іова» па тэксту Ф. Г. Скарыны [2]. На самай жа справе ў зборніку змяшчаецца не адзін, а два запісы кніг вялікага беларускага кнігадрукара — «Книга святога Иова... зуплне выложена доктором Франциском Скориною с Полоцка» і «Третии книги царств... зуплне выложена на русский язык доктором Франциском Скорининым сыном с Полоцка» [3]. Справа, аднак, заключаецца ў тым, і гэта, магчыма, з'явілася крыніцай памылкі Д. І. Абрамовіча, што лісты ў зборніку з тэкстамі абодвух спісаў пераблытаны, прычым кніга «Царстваў» уключаецца ў тэкст кнігі «Іова». Параўнанне тэкстаў скарынінскіх выданняў з старажытнарускімі іх спісамі паказвае нязначнае розначытанне, якое датычыцца пераважна граматычных форм, — акалічнасць немалаважная ў плане гісторыка-лінгвістычным. Разам з тым сустракаюцца і некаторыя пропускі супраць друкаваных тэкстаў Скарыны. Так, адсутнічае пачатак трэцяй кнігі «Царстваў», замест чаго ў зборніку ідзе выраз: «Он же был в Силоме в той час теж прииде весник». Аб ступені папулярнасці на Русі перакладаў Скарыны сведчыць і той факт, што адна з яго кніг стала адной з крыніц стварэння «Артаксерксава дзейства» — першай рускай п'есы, пастаўленай у 70-х гадах XVII ст. на сцэне Маскоўскага тэатра Аляксея Міхайлавіча. Падкрэсліваючы гэту акалічнасць, І. М. Кудраўцаў пісаў: «Вялікі параўнальна лік экземпляраў «Бібліі» Скарыны ў рускіх зборах даказвае, што яна разышлася па Русі ў дастаткова вялікай колькасці, трапляючы туды і як дарэнне ду-

---

[1] Дзяржаўная публічная бібліятэка. Аддзел рукапісаў. Соф. 1473, лл. 109—169. Карыстаючыся выпадкам, выказваю падзяку Н. Н. Розаву, які звярнуў маю ўвагу на гэты зборнік.

[2] Д. И. Абрамович. Софийская библиотека, вып. I. СПб, 1905, стар. 313.

[3] Соф. 1473, л. 109—110.

хоўным і грамадзянскім асобам, і як свайго роду тавар, і нават у якасці трафея»[1].

Таму для гісторыі не толькі беларускай, але і рускай і агульнаславянскай кнігі вывучэнне гісторыі ўзнікнення і ўвасаблення задумы Ф. Скарыны выдаць у Празе біблейскія кнігі ў перакладзе на родную мову мае сапраўды выключнае значэнне. Бадай упершыню ў канцы XVIII ст. было пастаўлена пытанне аб узаемасувязях Скарыны з чэшскай культурай Й. Даброўскім, а пазней неаднаразова разглядалася ў працах П. У. Уладзімірава, А. Н. Ясінскага, Я. Л. Неміроўскага і іншых даследчыкаў і атрымала своеасаблівае абагульненне ў працы А. А. Сідарава[2].

Такая вялікая ўвага даследчыкаў да пытання ўзаемасувязі Скарыны з чэшскай культурай мнагазначная і невыпадковая. Пачатковы, пражскі перыяд друкарскай дзейнасці—не пабочны эпізод у біяграфіі Скарыны, а свайго роду заканамерны этап у гісторыі кнігадрукавання ў славянскіх народаў, у тым ліку ў Чэхіі. І таму неабходна, не абмяжоўваючыся гісторыяй стварэння галоўнай працы Скарыны «Бібліі», уявіць сабе не толькі тыя абставіны, тую атмасферу культурнага жыцця чэшскіх земляў пачатку XVI ст., як гэта ў свой час спрабаваў зрабіць А. Н. Ясінскі[3], але і агульны стан і вядучыя тэндэнцыі чэшскага кнігадрукавання, якія застаў Скарына, прыбыўшы каля 1517 г. у Прагу, і на фоне якіх разгарнулася тут яго кіпучая дзейнасць.

## 1

К моманту прыезду Скарыны ў Прагу Чэшскае каралеўства прадстаўляла сабой адну з найбольш развітых у эканамічных і культурных адносінах дзяржаву тагачаснай Еўропы. Найважнейшымі вынікамі гусіцкага рэвалюцыйнага руху сярэдзіны XV ст., нягледзячы на яго ваеннае паражэнне, быў бурны рост чэшскіх гарадоў, якія ўпарта адстайвалі свае правы ад феадальнай знаці, што імкнулася ўмацаваць падарваныя ў папя-

---

[1] Артаксерксово действо. Первая пьеса русского театра XVII в. Подготовка текста, статья и комментарии И. М. Кудрявцева. М.—Л., 1937, стар. 35—36.

[2] А. А. Сидоров. Узловые проблемы и нерешенные вопросы истории русского книгопечатания, стар. 22—26.

[3] А. Ясінскі. З культурнай гісторыі Чэхіі. 400-лецце беларускага друку. Мінск, 1926, стар. 39—58.

рэднія дзесяцігоддзі палітычныя пазіцыі, а таксама павышэнне грамадскай ролі нацыянальнага крыла мяшчанска-бюргерскіх колаў, развіццё рамяства і гандлю.

У другой палавіне XVст. намецілася павышэнне міжнароднага аўтарытэту Чэшскага каралеўства, чаму ў немалой ступені садзейнічала гібкая, хоць і кампрамісная, пабудаваная на пошуках раўнавагі паміж дзвюма сапернічаўшымі рэлігійна-палітычнымі групоўкамі чашнікаў — памяркоўнага крыла гусіцкага руху — і католікаў, палітыка «гусіцкага караля» Іржы з Падэбрад. Займаючы каралеўскі трон з 1458 па 1471 г., гэты здзіўляючы чалавек, які адмовіўся перадаць званне ў спадчыну сыну, быў ініцыятарам высунутага ім у 1462—1464 гг. праекта пакта вечнага міру паміж еўрапейскімі краінамі. Пасля яго смерці, калі каралеўскі трон у Чэхіі занялі прадстаўнікі польскай дынастыі Ягелонаў Уладзіслаў (1471—1516) і яго сын Людовік (1516—1526), назіраецца некаторае аслабленне Чэшскай дзяржавы. У пачатку XVI ст. адбываецца новае абвастрэнне класавых і рэлігійна-палітычных супярэчнасцей і наступленне каралеўскай улады і феадалаў на правы гарадоў.

У гэтай складанай і супярэчлівай абстаноўцы ў апошнія дзесяцігоддзі XV — пачатку XVI ст. назіраецца бурны росквіт чэшскай, у аснове сваёй гарадской, мяшчанска-бюргерскай культуры, якая грунтавалася на нацыянальных традыцыях і была звязана з далейшым удасканаленнем літаратурнай мовы. Прыкметнае ўздзеянне ў гэтыя дзесяцігоддзі набываюць ідэі гуманізму, якія дасягнулі найвышэйшага росквіту ў чэшскай культуры ў другой палавіне XVI — пачатку XVII ст. Адным з буйнейшых прадстаўнікоў ранняга чэшскага гуманізму быў магістр Віктарын Карнелій з Ушэгрд, дзейнасць якога адзначана імкненнем творча выкарыстаць ідэі еўрапейскага гуманізму ў інтарэсах развіцця чэшскай нацыянальнай культуры і мовы.

Буйныя сацыяльна-эканамічныя і культурныя зрухі абумовілі ранняе ўзнікненне ў Чэхіі на рубяжы 60—70-х гадоў XV ст. кнігадрукавання, пачаткам якога лічыцца выпушчаная ў свет каля 1468 г. першая не толькі ў Чэхіі, але і ў іншых славянскіх краінах друкаваная кніга «Траянская хроніка». Гэты твор быў перакладзен яшчэ ў XIV ст. на чэшскую мову і знайшоў шырокае распаўсюджанне ў чэшскай пісьменнасці.

Чэшскае кнігадрукаванне, што ўзнікла ў Плзне, у наступ-

ныя гады пачынае развівацца ў Празе, атрымлівае распаўсюджанне ў правінцыі. Яго дынаміка, а галоўнае змест дастаткова ярка адлюстравалі асноўныя рысы і асаблівасці культуры свайго часу. Паказальна, што з 51 чэшскай інкунабулы, аб якіх цяпер ёсць звесткі, менш палавіны абслугоўвалі патрэбы царквы. Астатнія выданні — гэта кнігі, якія з поўнай падставай можна аднесці да катэгорыі свецкіх,— афіцыяльныя і юрыдычныя публікацыі, календары, палемічныя трактаты і, нарэшце, творы мастацкай літаратуры, пераважна арыгінальнай або перакладзенай на чэшскую мову. Другой адметнай рысай чэшскага кнігадрукавання з'яўлялася безумоўнае панаванне ў ім нацыянальнай чэшскай мовы. Так, з 51 інкунабулы на чэшскай мове было выдадзена 34 кнігі, тады як па-латыні надрукавана 16, а на нямецкай мове толькі адна кніга. Гэтыя рысы, якія выяўляюцца ўжо пры азнаямленні з рэпертуарам інкунабул — пераважна свецкі характар па зместу і пераважна нацыянальны па мове, што выгадна адрозніваюць чэшскае першадрукаванне ад адпаведнага этапа ў большасці іншых краін,— адлюстроўвалі тое рэальнае становішча ў культурным развіцці Чэхіі, аб якім вышэй ужо ішла размова. Такія ж рысы атрымалі свой працяг і ў развіцці кнігадрукавання ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі. Хоць пад уплывам неспрыяльных абставін унутрыпалітычнага развіцця ў першай чвэрці XVI ст. і вызначыўся некаторы спад, кнігадрукаванне досыць трывала ўтрымалася ў Празе, а таксама нарадзіла новыя формы друкаванай прадукцыі. Да іх у першую чаргу трэба аднесці ўзнікненне «Лятучых лісткоў», лістовак, якія былі свайго роду папярэднікамі газет, што з'явіліся ў Чэхіі (хоць і на нямецкай мове) у сярэдзіне XVII ст.

Чэшскае кнігадрукаванне досыць рана ўстанавіла сувязі з радам еўрапейскіх культурных цэнтраў, сярод якіх вызначаліся Венецыя і Нюрнберг. У прыватнасці, у Венецыі ў 1506 г. па заказу чашнікаў была надрукавана «Біблія», а ў Нюрнбергу ў 1518 г. сатырычная кніга «Правы Франты», у якой адлюстроўвалася сацыяльная крытыка чэшскага грамадства з пазіцыі шырокіх сялянскіх мас і гарадскога плебсу. Магчыма, такія кнігі на чэшскай мове друкаваліся таму, што выданне іх у межах Чэхіі было цяжкім па цэнзурных або рэлігійна-палітычных меркаваннях. Ва ўсякім выпадку «Правы Франты» захаваліся толькі ў адным экземпляры, які ў цяперашні час знаходзіцца ў Бібліятэцы Акадэміі навук СССР у Ленінградзе.

Акрамя таго, асобныя друкары, ураджэнцы або выхадцы з Чэхіі, аказалі істотны ўплыў на развіццё еўрапейскага кнігадрукавання. Калі не разглядаць да гэтага часу шмат у чым няяснай дзейнасці пражаніна Пракопа Вальдфогеля ў Авіньёне, дзе ён быццам бы ў 1444—1446 гг. навучаў майстэрству кнігадрукавання, то зусім бясспрэчна можна назваць, напрыклад, друкара першай італьянскай друкарні ў Субіяка Арнольда Панарца з Прагі, ураджэнца Хэба І. Сенсеншмідта, які распачаў у 1470 г. кнігадрукаванне ў Нюрнбергу, і, нарэшце, мараваніна Валянціна Фернандзеца, паклаўшага ў 1495 г. у Лісабоне пачатак партугальскаму кнігадрукаванню [1].

У Чэхіі ў канцы XV — пачатку XVI ст. няўхільна ўдасканальваецца паліграфічнае майстэрства. «Траянская хроніка» і блізкія да яе інкунабулы надрукаваны разнавіднасцю гатычнага шрыфту, так званай «чэшскай бастардай», характэрнай і для чэшскай рукапіснай кнігі. Нягледзячы на асобныя спробы друкаваць ратондай, у чым, бясспрэчна, праявіўся ўплыў італьянскай выдавецкай практыкі, «чэшская бастарда» захавала сваё досыць доўгае панаванне ў друкарскай справе. Выціснута «чэшская бастарда» была другой разнавіднасцю готыкі—«швабахам». Працэс выцяснення бастарды з выдавецкай справы пачаўся на рубяжы XV—XVI стст. і завяршыўся ў першай чвэрці XVI ст. Апошнім друкаром, ужываўшым «чэшскую бастарду» да 1532 г., быў пражскі майстар П. Севярын.

Калі першыя чэшскія інкунабулы друкаваліся толькі адной чорнай фарбай, то ўжо «Статуты архіепіскапа Арношта» 1476 г. і пражскі «Служэбнік» 1479 г. былі надрукаваны дзвюма фарбамі — чорнай і чырвонай, праўда, тэхнічна яшчэ зусім недасканала, і двума пракатамі. Пры гэтым ініцыялы доўгі час, да XVI ст., часцей за ўсё дадрукоўваліся асобна або ўпісваліся ад рукі, дзеля чаго ў кнізе пакідалася чыстае месца, якое памячалася звычайна рэпразентантамі. Найбольш старой не толькі ў чэшскай, але і ў сусветнай практыцы кнігадрукавання лічыцца рэпразентанта, якая была выяўлена некалькі год назад вядомым чэхаславацкім кнігазнаўцам Э. Урбанкавай у першым выданні «Траянскай хронікі» [2]. У гэтым жа пер-

---

[1] A. Ederer. Z činnosti našich průkopníků knihtisku za hranicemi vlasti v. 15. st. Sborník pro dějiny přirodních věd a techniky, t. 3. Praha, 1957, стар. 196—197.

[2] E. Urbánková. K počátkům českého knihtisku. «Věstník král. česke společnosti nank. Tř. filosof.-histor.-filologická», Roč. 1952. Praha, 1953, стар. 19.

шынцы славянскага кнігадрукавання заўважана спроба друкавання ініцыяла ў фарбе тэксту. Досыць рана сустракаецца і калафон, пачаткі якога можна знайсці ў той жа «Траянскай хроніцы». Упершыню ў «Статутах» 1476 г., а затым у «Служэбніку» 1479 г. і ў выданнях нямецкага друкара І. Алаклава, што працаваў у 1484 г. у паўднёвачэшскім горадзе Вімперку, мы знаходзім ужо старанна складзеныя калафоны, у якіх даюцца назва кнігі, дата, месца і час яе надрукавання, а іншы раз і імя аўтара або друкара. Своеасаблівы калафон «Служэбніка», складзенага ў вершаванай форме з указаннем часу заканчэння работы над кнігай і просьбай да чытачоў маліцца за друкара. Не меншую цікавасць мае і калафон пражскай «Біблії» 1488 г., выпушчанай друкарняй Яна Севярына — Яна Кампа. У ім у якасці выдаўцоў названы пражскія мяшчане, даюцца звесткі аб родзе іх заняткаў, нават указваюцца адрасы. Калафон гэты цікавы не толькі тым, што ў ім наглядна паказана сацыяльнае становішча заказчыкаў, але і тым, што ў яго тэксце праяўляецца зараджэнне падзелу функцый выдаўца і друкара.

Тытульны ліст у Чэхіі ўпершыню з'яўляецца ў чэшскіх кнігах пражскага друкара Бенеды ў 1493 г., а некалькі раней на іншамоўных кнігах нямецкага друкара К. Штахела, які меў за плячыма вопыт работы ў венецыянскіх друкарнях і з 1482 г. працаваў у мараўскім горадзе Брно. Між іншым, мы спецыяльна не спыняемся на кнігадрукаванні ў Маравіі, паколькі ў той перыяд яна ў адміністрацыйным плане, будучы маркграфствам, займала некалькі асаблівае становішча. Адзначым толькі, што з-за слабасці там пазіцый чэшскіх мяшчанска-бюргерскіх колаў горада і ўплыву каталіцкай царквы ўласна чэшскае кнігадрукаванне атрымала запозненае развіццё. На працягу XV ст. у Маравіі не было выдана ніводнай кнігі на чэшскай мове, а ў пачатку наступнага стагоддзя кнігадрукаванне развівалася з перапынкамі.

Пасля Бенеды практыку друкавання тытульнага ліста з 1497 г. асвоіла друкарня Севярына — Кампа. Удасканаленне друкавання тытульнага ліста звязана з імем выдатнага чэшскага друкара пачатку XVI ст. Мікулаша Конача, які з'яўляўся разам з тым перакладчыкам сваіх выданняў, гуманістам і быў звязан з дзейнасцю антыкаталіцкай секты чашнікаў. Выпускаючы ў 1514 г. на чэшскай мове «Жыцейскія і маральныя павучанні» В. Бурлейга, Конач зрабіў у кнізе тытульны

ліст, набраны шрыфтамі дзвюх форм, дзе былі ўжыты чорная і чырвоная фарбы. Ліст быў абрамлены шырокай, гравіраванай на дрэве рамкай [1].

Не менш важнай рысай ранняга чэшскага кнігадрукавання было імкненне друкароў да мастацкага афармлення сваіх выданняў. Пачатак гэтаму быў пакладзен віньеткай, на якой былі намаляваны два шчыты на галінцы, магчыма, са скрытай датыроўкай, у калафоне «Новага завету» 1475 г. Спробы ж ужывання ілюстрацыі адносяцца да канца 80-х гадоў XV ст. Прыкладам можа быць кутнагорская «Біблія» 1489 г. і пражскі «Пасіанал» 1498 г. У пачатку XVI ст. кніжная ілюстрацыя, якая шырэй пачала ўжывацца чэшскімі друкарамі, пачынае адчуваць усё большае ўздзеянне Рэнесанса, у чым вялікая заслуга належала М. Коначу. У выдадзенай ім у 1510 г. у перакладзе з лацінскай мовы «Чэшскай хронікі» Энея Сільвія (папы рымскага Пія II), папулярнай сярод еўрапейскіх гуманістаў, змешчана 39 гравюр, на якіх намаляваны чэшскія князі, каралі і асобныя сцэны з чэшскай гісторыі [2]. Характэрна ўжо само імкненне друкароў не проста ўпрыгожваць кнігі, але ствараць ілюстрацыі, якія па свайму зместу ў даным выпадку звязаны з тэкстам, з мастацкім каменціраваннем гісторыі чэшскага народа.

Чэшская кніжная ілюстрацыя гэтых дзесяцігоддзяў, што выконвалася ў тэхніцы гравюры на дрэве, яшчэ шмат у чым была недасканалай, на ёй адчуваўся ўплыў суседняга, нямецкага кнігадрукавання. Але яна ўжо дае знаць аб сабе, самастойнасць кампазіцый як бы прадвяшчала будучы яе росквіт, што быў звязан з дзейнасцю выдатных пражскіх друкароў другой палавіны XVI ст. І. Мелантрыха і Даніэля Адама з Велеславіна, якія ўзнялі чэшскую паліграфію на ўзровень сусветнай кніжнай культуры свайго часу.

## 2

На фоне культурнага жыцця Прагі першай чвэрці XVI ст. разгарнулася энергічная, шмат у чым загадкавая дзейнасць Ф. Скарыны.

---

[1] F. Horák. Česká kniha v minulosti a její výsdoba. Praha, 1948, стар. 72.

[2] E. Pacovský. Vývoj českého umění ilustačního od počátku do sončasnosti. Československá vlastivěda, t. 7. Praha, 1933, стар. 525.

Найбольш раннім выданнем Скарыны ў Празе з'яўляецца, як відаць, «Псалтыр» 1517 г. З 23 выпускаў яго «Бібліі», якія выйшлі тут з 1517 па 1519 г., толькі пяць не маюць дакладнай даты выдання.

Даследчыкі, што вывучалі пражскі перыяд дзейнасці беларускага першадрукара, неаднаразова адзначалі высокі тэхнічны ўзровень яго выданняў, дэмакратычнасць іх афармлення і ўжыванне шрыфту, рысунак якога нідзе больш не сустракаўся.

Прычыны, якія прымусілі Скарыну ажыццявіць выданне «Бібліі» ў перакладзе на родную мову іменна ў Празе, даўно ўжо прыцягнулі да сябе ўвагу вучоных. Яшчэ Й. Даброўскі ўказваў як на адну з найважнейшых прычын на наяўнасць у Чэхіі даўніх і трывалых традыцый перакладу бібліі на славянскую, у даным выпадку на чэшскую мову. Калі не закранаць дзейнасці на тэрыторыі сучаснай Чэхаславакіі Кірыла і Мефодзія па перакладу біблейскіх кніг на стараславянскую мову, то першыя спробы перакладу тэксту свяшчэннага пісання на чэшскую мову адносяцца да першай палавіны XIV ст. Яны датычылі перш за ўсё ўсяго евангелля, псалтыра і ўрыўкаў некаторых іншых кніг. Але ўжо напярэдадні гусіцкага рэвалюцыйнага руху і асабліва ў гады яго ў Чэхіі з'яўляюцца больш поўныя пераклады бібліі на чэшскую мову. Паводле даных Яна Марэла, сярод старачэшскіх біблейскіх рукапісаў налічваецца 25 поўных перакладаў, 27 старога завету, 35 новага завету, 22 псалтыры, 17 евангелляў і некаторых іншых урыўкаў [1]. Са з'яўленнем у Чэхіі кнігадрукавання біблейскія кнігі ўваходзяць у лік твораў, якія распаўсюджваліся з дапамогай друкарскага станка. Абвостраная ідэйна-палітычная барацьба паміж чашнікамі і каталікамі прыводзіць да выдання поўнага тэксту бібліі або асобных кніг яе ў перакладзе на чэшскую мову як для каталікаў, так і асабліва для патрэб пратэстантаў. Другой пасля «Траянскай хронікі» кнігай, выдадзенай у Чэхіі, быў новы завет, які з'явіўся ў 1475 г., як мяркуюць, для патрэб чашнікаў. Неўзабаве было ажыццёўлена выданне твораў новага завету і асобных біблейскіх кніг, у прыватнасці «Псалтыра». Першы «Псалтыр» на чэшскай мове быў надрукаван у Празе ў 1487 г. Праз год па заказу групы

[1] J. Merell. Bible v českých zemych od nejstarcí dob do soncasnocti. Praha, 1956, стар. 15.

пражскіх мяшчан-чашнікаў было ажыццёўлена, хутчэй за ўсё ў друкарні Севярына — Кампа, першае поўнае выданне біблії на чэшскай мове, што з'явілася таксама і першай яе публікацыяй на славянскіх мовах. У 1489 г. біблія зноў выходзіць у свет у Кутнай Гары, якая з'яўлялася апорай чэшскіх католікаў. У пачатку XVI ст. была выдадзена зноў такі па заказу чашнікаў, гэта значыць у антыкаталіцкіх мэтах, венецыянская «Біблія» 1506 г. Гэта выданне і паслужыла ледзь не асноўнай крыніцай у час працы Скарыны над беларускім перакладам біблії. Такім чынам, трывалыя традыцыі біблейскіх перакладаў у Чэхіі паслужылі сапраўды галоўнай прычынай, якая прымусіла Скарыну пачаць сваю дзейнасць у Празе. Аднак, прызнаючы пераканальным такі вывад, мы тым не менш лічым неабходным паставіць іншае пытанне: чаму іменна ў Празе, а скажам, не ў Венецыі, дзе была надрукавана «Біблія» 1506 г. і дзе меўся ўжо вопыт выдання кніг кірыліцай? Тым больш, што сам Скарына, які здаваў экзамены ў Падуанскім універсітэце, быў неяк звязан з Італіяй. Наадварот, у Празе ніколі да Скарыны ды добрых некалькі стагоддзяў пасля яго такі вопыт адсутнічаў. Пытанне гэта складанае, і адказаць на яго з поўнай акрэсленасцю цяжка. Верагодна, аднак, што, акрамя адзначаных вышэй меркаванняў, Скарыну магла прыцягваць культурная блізкасць Чэхіі, магчымасць у Празе мець тое асяроддзе, якое, натуральна, адсутнічала ў неславянскай Італіі і якое яму спрыяла плённа займацца перакладчыцкай і выдавецкай працай.

У сувязі з гэтым паўстае рад вельмі істотных праблем. Па-першае, як адзначыў яшчэ П. У. Уладзіміраў і ўдакладніў А. А. Сідараў, Ф. Скарына не з'яўляўся друкаром, а прадстаўляў сабой тып выдаўца, вучонага, перакладчыка, шырока адукаванага грамадскага дзеяча [1].

Падставай да такога вываду служаць, у прыватнасці, неаднаразовыя ўпамінанні самім Скарынай аб тым, што ён свой пераклад біблії «загадаў ціснуць рускімі словамі». Але хто выканаўца гэтых яго загадаў? Разумна было б шукаць адказ на пастаўленае пытанне ў вывучэнні акружэння Скарыны ў Пра-

---

[1] П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. СПб, 1888, стар. 64; А. А. Сидоров. Узловые проблемы и нерешенные вопросы истории русского книгопечатания. Книга. Исследования и материалы, т. IX, 1964, стар. 24.

зе. Але, на жаль, такія іменна звесткі ў нас адсутнічаюць. Як падкрэсліваў А. Фламоўскі, кнігі самога Скарыны «не змяшчаюць у сабе ніякіх указанняў на сувязі Скарыны з пражскім кніжным або грамадскім асяроддзем» [1].

І ўсё ж друкар, а магчыма, і некалькі іх павінны былі ажыццяўляць выданне біблейскіх кніг у Празе, якія былі падрыхтаваны Скарынай да друку. Дзеля гэтага трэба было мець друкарню. Асобныя біёграфы Скарыны не толькі не сумняваюцца ў існаванні яе ў Празе, а нават без пэўных доказаў лічаць уладальнікам такой друкарні самога Скарыну [2]. Аднак з-за недастатковасці фактаў можна дапусціць толькі вылучэнне некаторых гіпотэз. Можна, напрыклад, меркаваць, што Скарына адкрыў нешта накшталт уласнай друкарні, сапраўды наняў друкароў, якія былі заняты толькі выкананнем скарынінскай задумы, хоць і ў гэтым выпадку невядома, ці былі гэтыя друкары мясцовымі або землякамі, разам з ім прыбыўшымі ў Прагу. З другога боку, больш важкім здаецца меркаванне, што «Біблія» друкавалася ў адной з існаваўшых друкарняў у Празе. У падобным дапушчэнні няма нічога немагчымага, асабліва калі мець на ўвазе, што іменна ў гэтыя гады ў Празе кнігі друкаваліся не толькі гатычнымі і лацінскімі літарамі, але і ўсходнім шрыфтам. Напрыклад, у 1518 г. у Празе на стараяўрэйскай мове было надрукавана «Пяцікніжжа Маісея», прычым выданне вызначалася высокім узроўнем паліграфічнага майстэрства.

Тым не менш бясспрэчна, што невядомая друкарня, якая друкавала пераклады Ф. Скарыны, павінна была мець кірыліцкі шрыфт і адрознівацца метадам друку. Літары былі, несумненна, зроблены па рысунку, заказанаму або выкананаму самім Скарынай, паколькі аналагічныя контуры кірыліцкіх літар у папярэднікаў Скарыны не сустракаюцца. Аднак выданні Скарыны характэрны не толькі шрыфтам, але і метадам друку.

Надзвычайную цікавасць прадстаўляюць таксама пытанні мастацка-паліграфічнага афармлення пражскіх выданняў Скарыны, яно з'явілася ў свой час аб'ектам даследавання

---

[1] А. В. Флоровский. Чешская библия в истории русской культуры и письменности. Sborník filologický. Vyd. III. tř. Česke Akademie Věd a umění. Sv. 12. Praha, 1940—1946, стар. 191.

[2] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Минск, 1962, стар. 24.

М. Шчакаціхіна і не страціла значэння да сучаснага моманту [1]. Справа не толькі ў тым, што Скарына першым ужыў у кірыліцкіх кнігах ілюстрацыі (хоць ужо сам па сабе гэты факт ставіць яго ў лік перадавых выдаўцоў свайго часу), але перш за ўсё ў тым, што гравюры ў Скарыны з'яўляюцца не толькі і нават не столькі элементам упрыгожання, колькі сродкам зрабіць больш зразумелым, больш дзейсным змест. Гэта імкненне адчуваецца літаральна паўсюдна, а не толькі ў частцы ілюстрацый. Напрыклад, даследчыкамі даўно ўжо адзначана і зноў падкрэслена Е. І. Кацпржак [2], што Скарына, які звычайна ўжываў аднакаляровую чорную фарбу, у адным выпадку толькі шырока выкарыстаў і чырвоную фарбу — пры наборы «Песні песняў», гэтай, па выразу А. А. Сідарава, «самай загадкавай, самай зямной і поўнай любоўнасці кнігі бібліі» [3].

Мастацка-паліграфічнае афармленне кніг Скарыны цалкам самабытнае. Зразумела, першадрукар, відаць, скарыстоўваў накоплены да яго вопыт кнігадрукавання. У асобных скарынінскіх ілюстрацыях можна бачыць уплыў нямецкай ксілаграфіі, хоць у цэлым у іх знаходзіць адлюстраванне тагачасная практыка чэшскага кнігадрукавання. Але ілюстрацыі Скарыны, многія элементы ўпрыгожання кнігі і сам шрыфт нідзе не сустракаліся ў іншай выдавецкай практыцы, дзякуючы чаму скарынінскія выданні вызначаліся сваёй арыгінальнасцю. Яркая індывідуальнасць іх, якая даходзіла ў іншых выпадках да выключнай смеласці (змяшчэнне ў бібліі партрэта перакладчыка-выдаўца), падкрэсліваецца яшчэ і тым, што на гравюрах нязменна паўтараўся герб Францыска Скарыны — сонца і месяц.

Аналіз даступных матэрыялаў пражскага перыяду дзейнасці Скарыны дае магчымасць зрабіць рад назіранняў над далейшым лёсам яго пачынання. У літаратуры даўно ўжо адзначалася, што пражская «Біблія» ахоплівае толькі частку біблейскага тэксту, што такая яе кніга, як «Апостал», выдадзена Скарынай ужо ў Вільні ў 1525 г. і што, нарэшце, захаваліся рукапісныя пераклады асобных, нявыдадзеных ча-

---

[1] М. Шчакаціхін. Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Ф. Скарыны. 400-лецце беларускага друку, стар. 39—58.
[2] Е. И. Кацпржак. История письменности и книги. М., 1955, стар. 145.
[3] Книга. Исследования и материалы, т. IX, стар. 26.



Книги третий

беша скамения великаго, десяти или осми локтей были. И сверху камение великое ровное меры тесаное было, такъже и древа кедрова. Полата пакъ большая была е округла, имея три ряды от камения тесаного а единый рядъ от древа тесаного Кедрова. Такъ яко крилосъ иже е во храме Господнем. И въ сенехъ двора

ВЗОРЪ ДВОУ СТОЛПОВЪ ИЖЕ ПРЕДЪ ХРАМОМЪ



Книги е Моисеовы

прикрита быти скриня. Донележе вложиши в ней сведения еже дамъ тобе. Яз отоле буду приказовати и глаголати к тобе свыше очищения тоесть отсреди ни двух Херувимов, еже будуть надъ скринею Сведения. Вся елико заповем тобою сыномъ Израилевымъ. Зделаешъ и Столъ з древа Сетимъ

ВЗОРЪ СТОЛА НАНЕЖЕ БЕ ХЛЕБЪ ПОВЫШЕНЫЙ

Ілюстраваныя старонкі з «Бібліі» выдання Ф. Скарыны

стак бібліі, якія прыпісваюцца яму. Гэтыя абставіны дастаткова падрабязна і ў абагульненым выглядзе выкладзены ў цытаванай вышэй працы А. В. Флароўскага, што была апублікавана ў Празе на рускай мове. Аднак да сказанага неабходна дадаць адно вельмі істотнае меркаванне.

Ва ўступе да «Бібліі» Ф. Скарына, як адзначаў П. У. Уладзіміраў, пісаў: «Ащелиже кохание имаши ведати о военных а о богатырских делах, чти книги судей, или книги Махавеев. Более и справедливее в них знаидеш, нежели во Александрии, или во Трои. Пакли же вократце сведати хощети много тысящей лет Летописец, чти книги Паралипоменона» [1]. Я. С. Лур'е тлумачыць гэтыя словы Ф. Скарыны як адлюстраванне нама-

[1] П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык, стар. 116.

ганняў рускіх і заходнеславянскіх царкоўнікаў знішчыць уплыў сатырычнай і апавядальнай свецкай літаратуры [1].

Аднак такі вывад з'яўляецца недастаткова абгрунтаваным, накшталт таго, як не былі абгрунтаваны ў свой час спробы звязаць дзейнасць Скарыны з постгусіцкім асяроддзем. Няма ніякіх фактычных звестак для падобных вывадаў. Наадварот, Скарына перш за ўсё з'яўляўся асветнікам, хоць і заставаўся яшчэ ў рамках рэлігійнага светапогляду сваёй эпохі і свайго асяроддзя. Ён рабіў спробы даць практычнае, карыснае тлумачэнне біблейскім кнігам. Ён прызначае іх не толькі «для выратавання», але і для навучання «седм наук вызволеных» — граматыцы, рыторыцы, логіцы, арыфметыцы і г. д. Нават на тытульным лісце да выдадзеных у Празе біблейскіх кніг Скарына напісаў наступныя цікавыя радкі: «Бивлия руска выложена доктором Франциском Скориною из славного града Полоцька, богу ко чти и людем посполитым к доброму научению». Ужо сам па сабе факт перакладу і выдання біблii на старабеларускай мове, як адзначаў А. Ясінскі [2], не быў для той эпохі звычайнай з'явай, а з пункту погляду каталіцкай царквы нагул межаваў з ерассю. Даць у рукі народа біблейскія кнігі на роднай, зразумелай усім пісьменным людзям мове — такой задумы царкоўнікі баяліся горш агню.

Прыведзеныя вышэй словы Скарыны трэба разглядаць у свеце яго агульных адносін да практычнага карыстання біблейскімі кнігамі. Але важна адзначыць і іншы іх аспект, які да гэтага часу не прыцягваў да сябе належнай увагі даследчыкаў. Справа ў тым, што кнігі «Макавееў» і «Параліпаменон», якія Скарына раіў чытаць замест аповесцей аб Аляксандру Македонскім і аб узяцці Троі, ім не былі выдадзены. Відаць, хутчэй за ўсё ён іх проста не паспеў выдаць, інакш спасылка на іх была б недарэчнай. А паколькі Скарына спасылаўся на гэтыя кнігі, можна дапусціць, што пераклады іх ён зрабіў. А. В. Флароўскі справядліва адзначаў, што «Фр. Скарына ажыццявіў у свой час пераклад вялікага кола старога завету, перад тым як паспеў і змог выдаць у друкаваным выглядзе» [3].

---

[1] Я. С. Лурье. О судьбах переводной беллетристики в России и у западных славян в XV—XVI вв. Славянские литературы. Доклады советской делегации. V Международный съезд славистов. М., 1963, стар. 84—86.

[2] 400-лецце беларускага друку, стар. 41.

[3] А. В. Флоровский. Чешская библия в истории русской культуры и письменности, стар. 222.

Сярод гэтых перакладаў, напамінаў А. Флароўскі, знаходзіўся і рукапіс перакладу «Параліпаменона», што быў знойдзен у Львове яшчэ Я. Галавацкім.

Такім чынам, нейкая прычына нечакана спыніла паспяхова пачатую літаратурна-выдавецкую справу Скарыны. Але якая? Акрамя абставін выключна асабістага характару, прыводзіліся і паведамленні аб магчымым праследаванні Скарыны з боку католікаў [1]. Е. І. Кацпржак, якая падзяляла падобныя меркаванні, у новым выданні сваёй кнігі асцярожна заўважае: «Па якой прычыне Скарына спыніў выданне, невядома» [2]. Можна меркаваць, што прычынай спынення друкарскай дзейнасці Скарыны ў Празе з'явілася эпідэмія 1520 г., якая прымусіла яго тэрмінова выехаць адтуль [3].

Пражскі перыяд жыцця і творчасці Ф. Скарыны важны не толькі з пункту погляду яго біяграфіі, але і як эпізод гісторыі славянскага кнігадрукавання ў цэлым. Гэта тэма яшчэ доўгі час будзе прыцягваць увагу і выклікаць цікавасць з боку даследчыкаў, паколькі многія пытанні яшчэ не вырашаны, шмат якія звесткі яшчэ будуць, несумненна, знойдзены і з'явяцца крыніцай навуковага даследавання. І хоць наперадзе яшчэ шмат пошукаў і цяжкасцей, безумоўным застаецца адно: вялікі беларускі першадрукар, самаахвярна працуючы на карысць культуры роднага народа, збудаваў выдатны помнік, які сведчыць аб разнастайных шляхах культурных зносін паміж славянскімі народамі ў эпоху Адраджэння.

---

1 Е. И. Кацпржак. История письменности и книги, стар. 146; А. В. Флоровский. Чешская библия в истории русской культуры и письменности, стар. 187.
2 Е. И. Кацпржак. История книги. М., 1964, стар. 191.
3 400-лецце беларускага друку, стар. 47.



13. Зак. 986



Ф. Скарына. Мастак С. Герус



А. А. ВОЛК, А. І. РАКОВІЧ

# Беларускае кнігадрукаванне за гады савецкай улады



еларуская кнігавыдавецкая справа савецкага часу не з'яўляецца нечым ізаляваным з пункту погляду грамадскай значнасці і ролі ў развіцці грамадства. Яна — дастойная наследніца і прадаўжальніца таго прагрэсіўнага, што раней было зроблена ў гэтай галіне. І мы па праву ганарымся слаўным подзвігам беларускага кнігадрукара Францыска (Георгія) Скарыны, вялікага дзеяча славянскага народа. У наш час, калі кнігавыданне набыло сапраўды ўсенародны характар і стала клопатам дзяржавы і Камуністычнай партыі, асабліва глыбока раскрылася веліч спраў Скарыны. Вялікая спадчына, пакінутая выдатным асветнікам, трывала ўвайшла ў арсенал асноўных сродкаў барацьбы за пабудову камуністычнага грамадства. Аднак трэба адзначыць, што за 400 год пасля выдання першай беларускай кнігі амаль нічога не было зроблена па далейшаму развіццю беларускага кнігадрукавання. Сапраўды вялікага размаху атрымала кнігавыдавецкая справа ў рэспубліцы за гады савецкай улады.

Гісторыя развіцця кнігавыдавецтва Савецкай Беларусі — гэта яркі прыклад практычнага ажыццяўлення ленінскай

нацыянальнай палітыкі, сведчанне культурнага і духоўнага росту беларускага народа за гады савецкай улады. Поспехі, якіх дасягнуў беларускі народ у справе развіцця нацыянальнага друку, сталі магчымымі дзякуючы той велізарнай працы, якую правяла Камуністычная партыя Беларусі пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта КПСС.

Сацыялізм не толькі ў прынцыпе змяніў эканамічную і палітычную аснову кнігавыдавецкай справы і зрабіў кнігу ўсенародным здабыткам. У працэсе рэвалюцыйных пераўтварэнняў працоўныя былі вызвалены ад усіх і ўсякіх форм класавага прыгнечання і эксплуатацыі; народ стаў гаспадаром свайго лёсу. Гэтым самым вырашылася праблема даступнасці працоўным масам усіх скарбніц культуры, у тым ліку і кніжнага багацця. Дзякуючы савецкай уладзе ўпершыню ў сусветнай практыцы выдавецтвы атрымалі магчымасць выпускаць кнігі для працоўных — непасрэдных тварцоў гісторыі. Сацыялістычная рэвалюцыя стварыла перадумовы, на аснове якіх увесь народ ператварыўся ў «чытаючую публіку».

У перыяд Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, у грозныя гады грамадзянскай вайны, у аднаўленчы перыяд, у гады перадваенных і пасляваенных пяцігодак — на кожным этапе сацыялістычнага і камуністычнага будаўніцтва кнігавыдавецкая справа была прадметам пастаянных клопатаў нашай партыі.

У гісторыі развіцця савецкага кнігадрукавання ў Беларусі выдзяляецца рад перыядаў, якія адпавядаюць асноўным этапам сацыялістычнага і камуністычнага будаўніцтва. Адным з важнейшых быў перыяд Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, калі адбываўся працэс станаўлення савецкай кнігадрукарскай справы.

Нацыяналізацыя друкарняў буржуазных газет, іх пераход у рукі народнай улады дазволілі стварыць неабходныя ўмовы для выпуску партыйных выданняў. Адразу ж была створана шырокая сетка бальшавіцкай перыёдыкі.

Больш складанай была задача забеспячэння насельніцтва кнігамі, якія правільна б тлумачылі сутнасць бурных падзей, як мага паўней раскрывалі перспектывы рэвалюцыйнай перабудовы грамадства, абагульнялі рэвалюцыйны вопыт мас, іх паўсядзённую практычную работу па ўмацаванню савецкага ладу. Такія кнігі маглі даць толькі новыя, рэвалюцыйныя выдавецтвы. Велізарнае значэнне ў першыя гады савецкай ула-

ды мела кнігавыдавецкая справа ў сувязі са стварэннем і развіццём новай школы, якой неабходны былі падручнікі, мастацкая і педагагічная літаратура.

Першыя партыйныя і савецкія выдавецкія цэнтры на тэрыторыі Беларусі ўзніклі ў канцы 1917 — пачатку 1918 г. Найбольш значным з іх было кнігавыдавецтва «Звязда», створанае незадоўга да Кастрычніцкай рэвалюцыі пры Мінскім камітэце РСДРП(б). У снежні 1917 г. пры Народным камісарыяце асветы СНК Аблвыканкомзаха быў адкрыт выдавецкі пададдзел. У лютым 1918 г. у Петраградзе пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцей РСФСР пачаў працаваць выдавецкі аддзел Белнацкома [1]. У гэты ж час у губернскіх (Гомель, Віцебск, Магілёў) і нават у некаторых павятовых гарадах пры мясцовых органах савецкай улады ўзнікаюць выдавецкія аддзелы.

Тэрыторыя Беларусі на працягу чатырох год была арэнай жорсткай барацьбы рэвалюцыйных працоўных мас супраць нямецкіх і польскіх захопнікаў, белагвардзейцаў, буржуазных нацыяналістаў і іншых контррэвалюцыйных сіл. Усё гэта адмоўна адбівалася на шырокім культурным будаўніцтве. Гэту працу не раз даводзілася пачынаць нанава ва ўмовах напружанага прыфрантавога становішча і эканамічнай разрухі.

Знаходзячыся ў эвакуацыі, абласны камітэт РКП(б) Паўночна-Заходняй вобласці і фронту ў 1918 г. арганізаваў шырокае выданне літаратуры. Выдавецтва «Звязда», выдавецкі аддзел Наркамасветы Аблвыканкомзаха, а таксама іншыя ўстановы наладзілі выпуск кніг, брашур, лістовак, газет, адозваў, прысвечаных асноўнай задачы — мабілізацыі працоўных на адпор ворагу. Толькі за чатыры месяцы (верасень — снежань) 1918 г., акрамя пяці газет, якія выдаваліся абласным камітэтам на рускай, яўрэйскай, нямецкай мовах і агульны тыраж якіх склаў 2150 тысяч экземпляраў, было надрукавана 145 тысяч экземпляраў брашур [2].

Упершыню на тэрыторыі Беларусі быў ажыццёўлен выпуск прац У. І. Леніна. Гэта былі галоўным чынам артыкулы і выступленні правадыра рэвалюцыі, прысвечаныя гістарычным падзеям тых дзён. Толькі ў 1917 г. былі выдадзены «Урокі

---

[1] ЦДАКР БССР, ф. 4, воп. 1, спр. 96, л. 162.

[2] Пратакол І з'езда Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. Мінск, 1934, стар. 23—24.

рэвалюцыі», «Зямельнае пытанне», «Як ашукалі народ сацыялісты-рэвалюцыянеры і што даў народу новы ўрад бальшавікоў», «Палітычныя партыі ў Расіі і задачы пралетарыяту», «Руская рэвалюцыя і грамадзянская вайна» і інш. Акрамя прац У. І. Леніна, была выпушчана серыя брашур пад агульнай назвай «Бібліятэка пралетарыя». У гэтай серыі былі надрукаваны пастановы Паўночна-Заходняга абласнога камітэта партыі і Саўнаркома Аблвыканкомзаха, а таксама асобныя творы Максіма Горкага — «Чалкаш», Джаваньёлі — «Спартак» і інш.

Жыло і змагалася бальшавіцкае друкаванае слова і на акупіраванай тэрыторыі. У Мінску на сродкі, атрыманыя ад абласнога камітэта і ЦК РКП(б), была абсталявана падпольная друкарня, у якой друкаваліся лістоўкі, адозвы і брашуры.

У 1918 г. шырокую дзейнасць разгарнуў выдавецкі аддзел Белнацкома са сваімі пададдзеламі ў Петраградзе, Віцебску і Смаленску. Кіраваў аддзелам вядомы беларускі пісьменнік Д. Ф. Жылуновіч (Цішка Гартны). У той час гэта была адзіная выдавецкая ўстанова, якая арганізавала выпуск літаратуры на беларускай мове. Тэматыка ўсіх выданняў Белнацкома вызначалася часам, неабходнасцю расказаць працоўным аб сутнасці рэвалюцыйных пераўтварэнняў. Паколькі не было арыгінальных твораў, на беларускую мову перакладаліся найбольш актуальныя працы з рускай мовы. Для гэтага пры выдавецкім аддзеле была створана калегія перакладчыкаў. Такім шляхам было выдадзена дзесяць кніжак тыражом ад трох да дваццаці тысяч экземпляраў кожная. Некаторыя з іх перавыдаваліся.

Акрамя кніг, перакладзеных з рускай мовы, выдаваліся газета «Дзянніца», часопісы «Чырвоны шлях», «Беларуская крыніца». Быў выпушчан таксама зборнік «Зажынкі», у які ўвайшлі творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Канстанцыі Буйлы, Цішкі Гартнага і іншых беларускіх пісьменнікаў. Выйшлі асобныя працы Я. Ф. Карскага і інш.

У выданнях Белнацкома шырока расказвалася пра задачы савецкай улады, многа месца ўдзялялася пытанням нацыянальнай палітыкі маладой Савецкай рэспублікі, прапагандаваліся ідэі інтэрнацыянальнага аб'яднання ўсіх народаў многанацыянальнай Расіі, вялася рашучая барацьба супраць сацыял-шавіністычных ідэй.

Новы перыяд у развіцці кнігавыдавецкай справы Беларусі пачаўся пасля ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (1 студзеня 1919 г.). Пад кіраўніцтвам ЦК Камуністычнай партыі Беларусі, ЦК КП(б) Літвы і Беларусі (Літбел) на тэрыторыі рэспублікі была праведзена вялікая работа па нацыяналізацыі і аб'яднанню дробных друкарняў, па наладжванню папяровай вытворчасці. ЦК КП(б)Б у першую чаргу аказваў падтрымку тым арганізацыям, якія займаліся выданнем літаратуры на беларускай мове.

Бальшавікі Беларусі ажыццявілі рад мерапрыемстваў па наладжванню выдавецкай справы на месцах. Так, Літбел у маі — чэрвені 1919 г. арганізуе ў Мінску, Барысаве, Гомелі, Віцебску і іншых гарадах рэспублікі друкаванне брашур і пракламацый, агульны тыраж якіх склаў каля паўмільёна экземпляраў.

Выключна вялікую работу па выданню і распаўсюджванню палітычнай літаратуры сярод мясцовага насельніцтва і чырвонаармейцаў Заходняга фронту праводзілі Віцебскае і Гомельскае аддзяленні Дзяржвыдавецтва РСФСР. Так, Гомельскае аддзяленне толькі ў 1919 г. выдала 43 назвы кніг і брашур агульным тыражом 647 тысяч экземпляраў [1].

Важнае месца ў выданні і забеспячэнні літаратурай армій Заходняга фронту і мясцовага насельніцтва займаў створаны ў кастрычніку 1919 г. літаратурна-выдавецкі аддзел палітупраўлення Рэўваенсавета Заходняга фронту. Каб уявіць маштабы яго дзейнасці, дастаткова сказаць, што да красавіка 1921 г. ім было выпушчана 35 мільёнаў экземпляраў рознай літаратуры — ад лістовак, плакатаў, адозваў да буйных тэарэтычных прац і вялікіх твораў мастацкай літаратуры [2].

Такім чынам, нягледзячы на тое, што Беларусь на працягу амаль чатырох год грамадзянскай вайны была арэнай ваенных дзеянняў, выданне і распаўсюджанне савецкай кнігі дасягнула тут вялікіх памераў.

---

[1] Известия Гомельского губернского комитета РКП(б), № 2, жнівень, 1920, стар. 24.

[2] Отчет о деятельности отдела военной литературы при РВС и Высшего военно-редакционного Совета с 1 января 1921 г. по 31 декабря 1922 г. М., 1923, стар. 10.

Пасля грамадзянскай вайны ў рэспубліцы разгортваецца шырокае культурнае будаўніцтва. Праводзіцца вялікая работа па ліквідацыі непісьменнасці, развіццю народнай асветы, стварэнню масавых кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі. Адкрываюцца першыя навуковыя і вышэйшыя навучальныя ўстановы, выдатных поспехаў дасягаюць беларуская савецкая літаратура і мастацтва. Ва ўсёй гэтай велізарнай рабоце роля кнігі значна ўзрастае.

Неацэнную дапамогу Беларусі ў наладжванні выдавецкай справы аказалі Цэнтральны Камітэт РКП(б), Урад РСФСР. Па ўказанню ЦК РКП(б) у лістападзе — снежні 1920 г. была праведзена вялікая работа па арганізацыі Дзяржаўнага выдавецтва рэспублікі. Пачаткам работы яго трэба лічыць 1 снежня 1920 г.[1]

У студзені 1921 г. Прэзідыум ЦВК БССР прыняў пастанову «Аб стварэнні Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі і цэнтралізацыі друкарскай справы»[2]. Пры выдавецтве быў адкрыт аддзел перыядычнага друку, у які ўваходзілі прадстаўнікі ўсіх газет, што выдаваліся на тэрыторыі рэспублікі.

Ужо сам факт стварэння Дзяржаўнага выдавецтва ў рэспубліцы меў выключна важнае значэнне: яно было заклікана садзейнічаць умацаванню савецкага сацыялістычнага ладу, развіццю навукі і тэхнікі, літаратуры і культуры, нацыянальнай па форме, сацыялістычнай па зместу.

На працягу 1921 г. была праведзена значная работа па стварэнню паліграфічнай базы. Нацыяналізаваныя дробныя прыватныя друкарні былі аб'яднаны спачатку ў шэсць, а затым у тры дзяржаўныя друкарні ў Мінску. Пяць друкарняў было створана ў паветах Мінскай губерні[3]. Падобныя мерапрыемствы былі праведзены ў Гомельскай і Віцебскай губернях. Дзякуючы гэтаму ўжо к канцу 1921 г. не толькі пашырылася сетка рэспубліканскай перыёдыкі, але і значна павялічыўся выпуск кніг. Тыраж усіх выданняў Дзяржвыдавецтва БССР к гэтаму часу склаў каля двух мільёнаў экземпляраў.

Па свайму характару гэта былі ў асноўным брашуры, плакаты, лістоўкі. Тэматыка выданняў адлюстроўвала ўсе асноўныя пытанні, якія вырашалі партыя і ўрад рэспублікі ў гэты

---

[1] ЦДАКР БССР, ф. 238, воп. 1, спр. 12, л. 2.
[2] Известия ЦИК ССРБ, 28 студзеня 1921 г.
[3] Савецкая Беларусь. Мінск, 1921, стар. 43.

перыяд. Адначасова недахоп матэрыяльных сродкаў, адсутнасць вопыту, кадраў, слабасць паліграфічнай базы былі значнай перашкодай у справе развіцця беларускага кнігадрукавання. А недахоп кніг у сваю чаргу станавіўся перашкодай на шляху развіцця школьнай адукацыі, правядзення культурна-асветніцкай работы.

У вырашэнні ўсіх складаных пытанняў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва вялікую дапамогу беларускаму народу аказваў верны інтэрнацыянальнаму абавязку вялікі рускі народ. Так, у 1921 г. СНК РСФСР, нягледзячы на цяжкое эканамічнае становішча, выдзеліў Беларусі для друкавання на роднай мове кніг 20 мільёнаў рублёў золатам. На гэтыя грошы быў створан беларускі аддзел Дзяржвыдавецтва РСФСР у Берліне, кіраўніком якога стаў Цішка Гартны. За дзевяць месяцаў аддзел выпусціў дзесяць кніг агульным тыражом 138,5 тысяч экземпляраў [1]. Гэта былі галоўным чынам падручнікі.

Ва ўмовах новай эканамічнай палітыкі з мэтай прыцягнення дадатковых сродкаў у кнігавыдавецтва і павелічэння выпуску кніжнай прадукцыі ЦК КП(б)Б у 1922 г. праводзіць вялікую работу па перабудове і пашырэнню выдавецкай справы. У красавіку 1922 г. ствараецца кааператыўнае выдавецтва «Адраджэнне», перайменаванае рашэннем ЦК КП(б)Б у канцы таго ж года ў выдавецтва «Савецкая Беларусь». У маі на кааператыўных пачатках адкрываецца партыйнае выдавецтва «Уперад».

У снежні 1922 г. Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі было аб'яднана з Упраўленнем паліграфічнай прамысловасці СНК БССР і Контрагенцтвам ЦВК па выданню і распаўсюджанню перыядычнага друку ў адзіны Дзяржаўны трэст выдавецкай справы і паліграфічнай прамысловасці Беларусі («Белтрэстдрук») [2].

У гэты ж час для паляпшэння палітычнага кіраўніцтва перыядычным друкам і выдавецтвамі пры АПО ЦК КП(б)Б быў створан пададдзел друку, адначасова арганізуецца Галоўнае ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў (Галоўліт). Выдавецкія і паліграфічныя прадпрыемствы пераводзяцца на гаспадарчы разлік. Усе гэтыя мерапрыемствы

---

[1] «Полымя», 1923, № 2, стар. 32.
[2] ЦДАКР СССР, ф. 395, воп. 3, спр. 41, л. 9.

аказалі вялікі ўплыў на развіццё выдавецкай справы рэспублікі, на павышэнне ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню друкаванай прадукцыі, садзейнічалі значнаму павелічэнню выпуску кніг, асабліва на беларускай мове.

У далейшым задачы ўзмацнення ідэалагічнай работы сярод шырокіх працоўных мас, развіццё школы, навукі, літаратуры паставілі на першы план патрабаванні спецыялізацыі выдавецтваў. ЦК КП(б)Б вызначаў характар літаратуры і тэматыку выданняў «Белтрэстдруку», «Савецкай Беларусі» і выдавецтва «Уперад». Гэта становча адбілася на выніках работы. За 1922—1923 гг. выдавецтвы рэспублікі выпусцілі 361 кнігу тыражом звыш аднаго мільёна экземпляраў.

Важнейшым дакументам, які вызначаў задачы партыйных арганізацый у галіне выдавецкай справы на завяршальным этапе аднаўленчага перыяду, з'яўлялася пастанова ЦК РКП(б) ад 22 лютага 1924 г. «Аб узмацненні партыйнага кіраўніцтва друкам і работай выдавецтваў» [1]. У гэтай пастанове ЦК РКП(б) прапанаваў мясцовым партыйным камітэтам узмацніць кіраўніцтва выдавецтвамі, забяспечыць у першую чаргу выпуск ленінскіх прац, масавай літаратуры і падручнікаў, кніг для вёскі на мовах усіх народаў СССР.

ЦК КП(б)Б, дэталёва вывучыўшы работу беларускіх выдавецтваў, у чэрвені 1924 г. прыняў пастанову аб аб'яднанні выдавецтваў «Савецкая Беларусь» і «Белтрэстдрук» у адзіную дзяржаўную арганізацыю — Беларускае дзяржаўнае выдавецтва [2]. Белдзяржвыдавецтва, такім чынам, стала буйным выдавецкім цэнтрам, які аб'ядноўваў выдавецкую, паліграфічную і камерцыйную дзейнасць у рэспубліцы.

Перабудова выдавецкай справы ў Беларусі поўнасцю сябе апраўдала. Толькі за першы год работы выпуск кніг у параўнанні з папярэднім годам павялічыўся па аб'ёму амаль у два разы, а па тыражу — у пяць разоў. У цэлым выпуск кніжнай прадукцыі БССР к канцу аднаўленчага перыяду дасягнуў значных памераў. У 1925 г. было выдадзена 362 кнігі тыражом больш двух мільёнаў экземпляраў. Калі ў першыя гады аднаўленчага перыяду сярэдні аб'ём кнігі складаў тры аркушы, то к 1926 г. ён дасягае больш сямі аркушаў. На змену брашу-

---

[1] О партийной и советской печати. М., 1954, стар. 298—299.

[2] Партархіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, ф. 4, воп. 7, спр. 17, л. 19.

ры, лістоўцы прыходзіць кніга. Значна паляпшаецца яе афармленне. Павялічваецца выпуск манаграфій, падручнікаў, буйных мастацкіх твораў.

Вялікім дасягненнем з'явілася тое, што ў 1924 г. упершыню выйшаў на беларускай мове «Маніфест Камуністычнай партыі» К. Маркса і Ф. Энгельса. У 1925 г. быў пакладзен пачатак публікацыі на беларускай мове бессмяротных твораў вялікага У. І. Леніна. Гэтаму садзейнічалі як мерапрыемствы ЦК КП(б)Б (стварэнне Ленінскай камісіі), так і дапамога Урада СССР (асігнаванні на падзешаўленне масавых выданняў). У серыі «Ленінская бібліятэка» масавымі тыражамі выходзяць працы У. І. Леніна «Аб кааперацыі», «Аб рэлігіі», «Дзіцячая хвароба «левізны» ў камунізме».

Пэўныя поспехі былі дасягнуты ў выданні прац па марксісцка-ленінскай філасофіі, а таксама гісторыка-партыйнай літаратуры. У 1924 г. былі выпушчаны працы У. І. Пічэты «Гісторыя Беларусі», С. Я. Вальфсона «Дыялектычны матэрыялізм». На працягу 1922—1925 гг. выйшлі «Гісторыка-археалагічны зборнік» і два тамы дакументаў па гісторыі Беларусі XV—XVIII стст. пад агульнай назвай «Беларускі архіў» і шмат іншых.

Выдатнай падзеяй у рабоце беларускіх выдавецтваў быў выпуск падручнікаў для школ і вышэйшых навучальных устаноў. Былі выдадзены падручнікі па граматыцы беларускай мовы, па гісторыі БССР, гісторыі беларускай літаратуры, геаграфіі, алгебры, фізіцы, геаметрыі, біялогіі, грамадазнаўству і інш. Гэта стварыла магчымасць часткова задаволіць вялікія патрэбы ў вучэбнай літаратуры.

Самым значным поспехам беларускага савецкага кнігавыдавецтва быў выпуск твораў беларускай мастацкай літаратуры. На працягу 1922—1923 гг. былі выпушчаны зборнікі вершаў Я. Купалы «Спадчына», Я. Коласа «Водгулле», З. Бядулі «Пад родным небам», паэма М. Чарота «Босыя на вогнішчы» і рад іншых.

Такім чынам, выдавецтвы Беларусі дзякуючы пастаяннаму кіраўніцтву ЦК КП(б)Б паспяхова пераадольвалі матэрыяльна-тэхнічныя цяжкасці і здолелі арганізаваць выпуск кніг па ўсіх асноўных галінах ведаў. Калі ў пачатку аднаўленчага перыяду з'яўляліся толькі асобныя беларускія савецкія кнігі, то к 1925 г. іх выпуск набыў масавы характар. Кніга стала магутнай крыніцай ведаў для шырокіх працоўных мас.

Усё гэта стварыла надзейную аснову для далейшага развіцця самай перадавой у свеце савецкай выдавецкай сістэмы, якая стала магутным рычагом сацыялістычнага і камуністычнага будаўніцтва.

Дзейнасць выдавецтваў рэспублікі ў гады сацыялістычных пераўтварэнняў з'явілася сведчаннем таго бясспрэчнага факта, што толькі ў свеце сацыялізма выдавецкія ўстановы па сваёй будове, па сваіх мэтах і задачах, па злітнасці сваіх інтарэсаў з карэннымі інтарэсамі працоўных, па жыццяздольнасці і прадукцыйнасці маглі выконваць задачы шырокага і ўсебаковага палітычнага і культурнага выхавання мас.

Перыяд будаўніцтва сацыялізма стаў сапраўды перыядам нябачнага росквіту культуры беларускага народа. Паспяховае развіццё школьнай, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі, навукі і літаратуры, стварэнне шырокай сеткі бібліятэк і культурна-асветніцкіх устаноў — усё гэта ў значнай ступені было абумоўлена развіццём выдавецкай справы.

Развіццё кнігавыдавецтва Беларусі ў гады сацыялістычнага будаўніцтва (1926—1937) вызначалася асноўнымі задачамі, што паўставалі перад краінай,— індустрыялізацыяй, калектывізацыяй сельскай гаспадаркі, ажыццяўленнем культурнай рэвалюцыі, умацаваннем баяздольнасці краіны.

ЦК КП(б)Б, кіруючыся ў сваёй дзейнасці рашэннямі і ўказаннямі ЦК ВКП(б), ажыццявіў рад мерапрыемстваў, накіраваных на значнае пашырэнне выдавецкай справы рэспублікі. Клопаты Камуністычнай партыі аб развіцці друку праявіліся ў першую чаргу ў арганізацыі ў снежні 1926 г. Камітэта па справах друку і паліграфічнай прамысловасці пры СНК БССР. На Камітэт ускладаліся абавязкі дзяржаўнага рэгулявання гаспадарчай дзейнасці выдавецтваў і кантролю за работай паліграфічных прадпрыемстваў.

Цэнтральны Камітэт КП(б)Б рэгулярна разглядаў выдавецкія планы. Улічваючы новыя задачы гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, ЦК і ўрад рэспублікі ўсямерна ўдасканальвалі выдавецкую справу. Пастановай ад 16 мая 1927 г. асноўнымі выдавецтвамі былі прызнаны Белдзяржвыдавецтва, выдавецтва Інбелкульта і РВА СЦПСБ [1]. У красавіку таго ж года ЦВК БССР зацвердзіў новае «Палажэнне аб Дзяржаўным выдавецтве БССР», у якім вызначаліся яго зада-

[1] Партархіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, ф. 4, воп. 7, спр. 144, л. 64.

чы: выпуск рознага роду твораў друку, у тым ліку вучэбных дапаможнікаў на роднай мове, а таксама шырокае развіццё кнігагандлю. Былі прыняты неабходныя меры па ўмацаванню выдавецтваў кадрамі, матэрыяльнаму іх забеспячэнню. Гэтыя мерапрыемствы далі станоўчыя вынікі. Так, павелічэнне выпуску кніжнай прадукцыі на беларускай мове толькі ў Белдзяржвыдавецтве склала ў 1928 г. у параўнанні з 1925 г. па назвах 205,5 працэнта, аб'ёму —147,8, тыражу — 184,1 працэнта. Выпуск беларускіх кніг у рэспубліцы к 1928 г. павялічыўся па тыражу ў параўнанні з 1913 г. больш чым у 56 разоў [1].

Яшчэ большых поспехаў дасягнулі выдавецтвы Беларусі ў гады першай пяцігодкі. XII з'езд КП(б)Б, які адбыўся 5—14 лютага 1929 г., намеціў шырокую праграму выпуску кніг, патрабуючы «ў галіне выдавецкай справы павялічыць за пяцігоддзе выпуск друкаванай прадукцыі з 14,1 да 50 мільёнаў аркушаў-адбіткаў, у тым ліку падручнікаў для школ першай і другой ступені з 9,8 да 34,5 мільёна аркушаў, адначасова палепшыўшы якасць выданняў і знізіўшы кошт выдавецкай прадукцыі» [2].

Для выканання пастаўленых задач патрабавалася далейшая канцэнтрацыя выдавецтваў. Былі прыняты дзейсныя меры па ўмацаванню паліграфічнай базы. Друкарні папоўніліся значнай колькасцю новага айчыннага і замежнага абсталявання. У 1930 г. у Мінску пачалося будаўніцтва буйнога паліграфічнага прадпрыемства — Дома друку.

Клопаты Камуністычнай партыі Беларусі аб развіцці друку на ўсіх мовах нацыянальных меншасцей праявіліся таксама ў адкрыцці ў 1929 г. Беларускага аддзялення Цэнтрвыда народаў СССР [3], якое за два гады сваёй работы выпусціла 287 назваў кніг агульным тыражом больш аднаго мільёна экземпляраў на яўрэйскай, польскай, латышскай і літоўскай мовах [4].

У сувязі з тым, што задачы авалодання тэхнікай і распаўсюджанне тэхнічных ведаў набылі першаступеннае значэнне, у 1931 г. у самастойнае выдавецтва быў выдзелен са складу Белдзяржвыдавецтва сектар навукова-тэхнічнай літаратуры.

---

[1] Партархіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, ф. 4, воп. 3, спр. 38, л. 897.

[2] Стэнаграфічная справаздача XII з'езда КП(б)Б. Мінск, 1929, стар. 529.

[3] ЦДАКР СССР, ф. 4033, воп. 1, спр. 87, л. 135.

[4] Там жа, спр. 32, лл. 1—3.

На базе аддзела ваеннай літаратуры ў 1932 г. было створана Выдавецтва ваеннай літаратуры, а летам 1933 г. пачало сваю работу Партыйнае выдавецтва ЦК КП(б)Б.

Такім чынам, к канцу першай пяцігодкі была створана сістэма спецыялізаваных выдавецкіх устаноў.

Клопаты партыі і Савецкага ўрада аб развіцці выдавецкай справы, велізарны размах сацыялістычнага будаўніцтва і звязаны з ім рост падрыхтоўкі кадраў для прамысловасці і сельскай гаспадаркі, ажыццяўленне ўсеагульнага абавязковага навучання, а таксама рост матэрыяльнага дабрабыту працоўных, іх культурнага і палітычнага ўзроўню суправаджаліся значным павелічэннем выдання кніг па ўсіх галінах ведаў. Аб гіганцкім росце выпуску кніг у рэспубліцы гавораць наступныя даныя. Калі ў 1925 г. было выдадзена 362 кнігі тыражом 2 183 тысячы экземпляраў, то ў 1932 г.— 1 520 назваў тыражом 9 733 тысячы экземпляраў. Адпаведна па гадах з 14 033 да 57 300 тысяч узрасла колькасць аркушаў-адбіткаў.

Асаблівая ўвага ў гэтыя і наступныя гады ўдзялялася публікацыі прац У. І. Леніна ў перакладах на беларускую мову. З 1928 г. пачалася падрыхтоўка дванаццацітомнага Збору твораў правадыра. Акрамя таго, у свет былі выпушчаны масавымі тыражамі працы «Дзяржава і рэвалюцыя», «Што рабіць?», «Чарговыя задачы Савецкай улады», «Задачы пралетарыяту ў нашай рэвалюцыі», «Задачы саюзаў моладзі» і інш.

У 1932 г. ЦК КП(б)Б прыняў рад мер па ўмацаванню Партвыдавецтва, Ленінскай камісіі, Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б, Акадэміі навук БССР кваліфікаванымі кадрамі і забяспечыў гэтыя ўстановы неабходнымі сродкамі. Усё гэта дазволіла ўжо ў 1934 г. выдаць 45 ленінскіх прац тыражом больш 500 тысяч экземпляраў. А ўсяго за гады сацыялістычнага будаўніцтва да Вялікай Айчыннай вайны было выдадзена 225 кніг У. І. Леніна агульным тыражом 2 029 тысяч экземпляраў. Былі перакладзены і выпушчаны на беларускай мове ўсе асноўныя ленінскія працы. Асобнымі выданнямі выйшлі многія працы К. Маркса і Ф. Энгельса. Упершыню на беларускай мове выйшлі «Выбраныя творы» К. Маркса ў двух тамах. Такім чынам, беларускі народ атрымаў магчымасць авалодаць вышэйшым дасягненнем сусветнай культуры — марксізмам-ленінізмам.

Поспехі ў будаўніцтве сацыялізма абумовілі той факт, што кніга значна наблізілася да жыцця, актыўна ўключылася ў стварэнне новага грамадства, новых форм працы. Шырокага размаху дасягнуў выпуск тэхнічнай літаратуры, значнае месца ў выдавецкіх планах занялі пераклады замежнай спецыяльнай і мастацкай літаратуры, што дало працоўным БССР магчымасць пазнаёміцца з дасягненнямі сусветнай тэхнічнай думкі, з лепшымі ўзорамі мастацкай літаратуры.

У гэты час небывалага росквіту дасягнула беларуская мастацкая літаратура. Калі за гады першай пяцігодкі было выдадзена 35,5 мільёна экземпляраў кніг, то за гады другой пяцігодкі іх тыраж склаў 56,3 мільёна экземпляраў [1]. Калі, напрыклад, у 1929 г. на кожную тысячу жыхароў было выпушчана 715 кніг, то ў 1938 г. — 2 762 кнігі [2]. Гадавы тыраж рэспубліканскіх газет і часопісаў у 1938 г. перавысіў 15 мільёнаў экземпляраў. Акрамя таго, у рэспубліцы выдавалася 199 абласных, раённых, палітаддзельскіх і іншых газет з гадавым тыражом 175 мільёнаў экземпляраў. Рэзка павялічылася выданне кніг на беларускай мове. Так, калі ў 1928 г. на беларускай мове выйшла каля двух мільёнаў экземпляраў кніг, то ў 1938 г. іх тыраж склаў 12 мільёнаў экземпляраў. Адначасова разавы тыраж газет па гадах раўняўся 144 і 789 тысячам экземпляраў. Адно толькі Дзяржаўнае выдавецтва выдала ў 1937—1939 гг. на беларускай мове творы класікаў марксізма-ленінізма тыражом 1 668 тысяч экземпляраў. Тыраж твораў класікаў мастацкай літаратуры на беларускай мове склаў за гэтыя гады 1 234 тысячы экземпляраў.

Дзейнасць Камуністычнай партыі па кіраўніцтву выдавецкай справай у гады сацыялістычнага будаўніцтва была накіравана на тое, каб максімальна задаволіць усё ўзрастаючыя духоўныя запатрабаванні народа, усіх катэгорый чытачоў. Шырокага развіцця дасягнула ў гэты час навука. Адкрыццё Акадэміі навук БССР (1929), а таксама рада вышэйшых навучальных устаноў абумовіла стварэнне і выпуск у свет арыгінальнай навуковай літаратуры па ўсіх галінах ведаў. Гуманітарныя навукі папоўніліся працамі Б. Быкоўскага «Нарыс філасофіі дыялектычнага матэрыялізму», С. Вальфсона «Асновы дыялектычнага матэрыялізму ў працах Маркса—

---

[1] Культурное строительство БССР. Минск, 1940, стар. 48.
[2] Там жа, стар. 8.

Энгельса—Леніна», А. Дудкова «Сталыпінская рэформа ў Віцебскай губерні» і «Аб развіцці капіталізму ў Беларусі ў другой палавіне 19 ст. і пачатку 20 ст.». Таксама былі апублікаваны даследаванні М. Нікольскага, У. Пічэты, А. Ясінскага, В. Дружыца, Т. Сцяпанава, Г. Забелы, К. Кернажыцкага і інш. Выходзіць у свет цэлы рад прац па прыродазнаўчых навуках. У перадваенныя гады былі апублікаваны кнігі А. С. Палянскага «Састаў флоры Беларусі», В. Ф. Купрэвіча «Фізіялогія хворай расліны», М. Б. Кроля «Неўрапаталагічныя сіндромы» і інш. Сталі вядомымі па апублікаваных вучэбных дапаможніках і навуковых працах у галіне неарганічнай, калоіднай хіміі і хіміі высокапалімераў імёны Г. І. Беркенгейма, К. Н. Каралькова, І. М. Іванова, Г. Ф. Далецкага, а ў галіне арганічнай хіміі — імя М. А. Прыляжаева.

Выйшла значная колькасць кніг, у якіх абагульнены вынікі даследаванняў беларускіх вучоных у галіне фізікі, матэматыкі і г. д. Публікацыя вынікаў навуковых даследаванняў садзейнічала таму, што важнейшыя адкрыцці вучоных Беларусі рабіліся здабыткам шырокай навуковай грамадскасці не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой.

У гады даваенных пяцігодак значныя поспехі былі дасягнуты ў падрыхтоўцы і выданні падручнікаў для школ. Намаганні выдавецтваў былі накіраваны на тое, каб поўнасцю забяспечыць школы вучэбнай кнігай.

Асаблівую ўвагу ўдзяляла Камуністычная партыя развіццю мастацкай літаратуры. Цэнтральны камітэт КП(б)Б, пастаянна аказваў дапамогу ў дзейнасці пісьменніцкіх арганізацый «Маладняка», «Узвышша», «Полымя», БелАППа і інш., а з 1934 г. Саюза пісьменнікаў БССР, садзейнічаў росту творчых сіл беларускай літаратуры, павышэнню ідэйна-мастацкага майстэрства пісьменнікаў, з'яўленню твораў, якія занялі дастойнае месца ў многанацыянальнай савецкай літаратуры.

У перадваенныя гады былі выдадзены зборы твораў, а таксама выбраныя творы Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы і іншых пісьменнікаў. Акрамя таго, выйшаў цэлы рад асобных твораў і зборнікаў, сярод іх «Адшчапенец» і «Дрыгва» Я. Коласа, «Над ракою Арэсай» Я. Купалы, «Бацькаўшчына» і «Трэцяе пакаленне» К. Чорнага, «Праз гады» і «Спалох на загонах» П. Галавача, «Язэп Крушынскі» З. Бядулі, «Тэорыя Каленбрун» і «Будучыня» Э. Самуйлёнка, «Канец дружбы»,

«Мядзведзічы», «Партызаны» К. Крапівы, «Андрэй Лятун» М. Лынькова, «Вясна радзімы» П. Броўкі, «Мужнасць» П. Глебкі, «У зялёнай дуброве» А. Куляшова і многія іншыя. У тыя ж гады з'яўляюцца ў перыядычным друку творы П. Панчанкі, А. Стаховіча, І. Грамовіча, У. Краўчанкі, К. Кірэенкі, А. Бялевіча, Р. Сабаленкі, А. Астрэйкі, М. Калачынскага, Р. Няхая, С. Грахоўскага і інш. Многія з іх у гэтыя гады выдалі свае творы асобнымі выданнямі. Новы атрад маладых пісьменнікаў значна ўзбагаціў сваімі творамі беларускую літаратуру. Пасля ўз'яднання беларускага народа ў адзінай сям'і ў беларускую літаратуру прыйшоў новы атрад таленавітых пісьменнікаў — М. Танк, П. Пестрак, М. Машара, М. Засім, В. Таўлай, Н. Тарас, творчасць якіх пачалася на цярністых шляхах барацьбы за волю і шчасце народа. Выданне іх твораў папоўніла кніжныя багацці Беларусі.

У гады перадваенных пяцігодак шырокага развіцця дасягнула перакладчыцкая справа. З кожным годам павялічвалася колькасць перакладных выданняў. Так, калі ў 1925 г. была выдадзена толькі адна перакладная кніга мастацкай літаратуры, у 1928 г.—74, то ў 1930 г.— ужо 210. На беларускай мове выходзяць творы класікаў рускай і сусветнай літаратуры, кнігі рускіх савецкіх пісьменнікаў, а таксама пісьменнікаў брацкіх саюзных рэспублік.

Выпускаецца таксама многа літаратуры для дзяцей і юнацтва і папулярнай літаратуры па ўсіх галінах ведаў.

З перамогай сацыялізма ў Беларусі адбыліся карэнныя змены і ў эканоміцы, і ў класавай структуры грамадства. Быў ліквідаван апошні эксплуататарскі клас — кулацтва. Вырасла новая, адданая справе сацыялізма інтэлігенцыя.

Перыяд сацыялістычных пераўтварэнняў стаў перыядам небывалага росквіту культуры беларускага народа. Паспяховае развіццё агульнасярэдняй, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі, навукі і літаратуры, стварэнне шырокай сеткі бібліятэк і культурна-асветніцкіх установ — усё гэта ў значнай ступені было абумоўлена пастаноўкай выдавецкай справы. Партыя і ўрад, штодзённа клапоцячыся аб стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы сацыялізма, з году ў год удасканальвалі выдавецкую сістэму. Кнігі, часопісы, газеты неслі працоўным горада і вёскі веды ў самых розных галінах навукі і культуры. У 1940 г. выдавецтвы рэспублікі выпусцілі 772 назвы кніг агульным тыражом 10 370 тысяч экземпляраў.

Мірная стваральная праца беларускага народа была перарвана 22 чэрвеня 1941 г. вераломным нападам нямецка-фашысцкіх захопнікаў на нашу краіну. Савецкая Беларусь з першых дзён прыняла на сябе ўдар гітлераўскіх полчышчаў. Разам з усімі народамі ўзняўся на вызваленчую барацьбу і народ Беларусі.

У гады фашысцкай акупацыі народная гаспадарка рэспублікі панесла вялікія страты. Нямецкія варвары паўсюдна знішчалі школы, інстытуты і культурныя ўстановы. У цяжкім становішчы аказаліся і савецкія выдавецтвы. Яны павінны былі перабудаваць сваю работу на ваенны лад. Задача заключалася ў тым, каб пры рэзка скарочаных матэрыяльных рэсурсах, пры значна меншай колькасці работнікаў хутка і добра абслугоўваць кнігай, брашурай, лістоўкай, плакатам патрэбы фронту і тылу.

Не спынялася ў гады Вялікай Айчыннай вайны і дзейнасць Дзяржаўнага выдавецтва БССР. У кастрычніку 1942 г. ЦК КП(б)Б прыняў пастанову аб аднаўленні работы гэтага выдавецтва [1]. Яно было перайменавана ў выдавецтва ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь» з месцазнаходжаннем у Маскве [2].

Для работы ў выдавецтве былі накіраваны беларускія пісьменнікі К. Крапіва — у якасці галоўнага рэдактара, П. Глебка — у якасці рэдактара мастацкай літаратуры і І. Гурскі — у якасці рэдактара палітычнай літаратуры.

Ужо ў 1943 г. выдавецтва выпусціла серыю брашур аб героях Савецкага Саюза — беларусах Ціхане Бумажкове, Міхаіле Сільніцкім, Льве Даватару і інш., 9 нумароў «Блакнота агітатара-партызана», а таксама 3 нумары часопіса «Партызанская дубінка». Масавымі тыражамі быў выдадзен рад твораў мастацкай літаратуры беларускіх пісьменнікаў.

У гады вайны кнігі і брашуры выходзілі і на акупіраванай тэрыторыі. З вялікай цікавасцю чыталі партызаны і насельніцтва выпушчаны друкарняй слуцкай падпольнай газеты «Народны мсцівец» зборнік вершаў А. Астрэйкі «Слуцкі пояс». У зборнік увайшлі вершы, напісаныя беларускім паэтам у тыле ворага.

---

[1] Партархіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, ф. 4, воп. 1, спр. 1237, л. 58.

[2] У 1943 г. было прынята рашэнне аб перайменаванні выдавецтва «Савецкая Беларусь» у Дзяржвыдавецтва БССР.

У складаных умовах былі выдадзены таксама зборнікі вершаў і песень паэтаў-партызан В. Сабліна «Мсціўцы», Л. Амбаха «Партызанская зорка», Я. Мрамарава «Бессмяротны савецкі народ», А. Міхайлава «Паэзія вайны», В. Кулікова «Ім тут не быць», «Зборнік песень і частушак аб Вялікай Айчыннай вайне», зборнікі вершаў А. Сядова, М. Шляхценкі, П. Русава, Д. Пракапчука і інш. [1]

У 1944 г. пасля вызвалення Беларусі Дзяржаўнае выдавецтва БССР вярнулася ў Мінск.

У пачатку 1944 г. былі прыняты меры па аднаўленню паліграфічнай базы БССР. У вырашэнні гэтай складанай задачы вялікую дапамогу Беларусі аказалі братнія рэспублікі. У разбураныя гарады няспынным патокам паступала паліграфічнае абсталяванне з Масквы, Свярдлоўска, Іашкар-Алы, Кірава, Волагды, Новасібірска, Фрунзе, Казані. Народы братніх рэспублік, адданыя інтэрнацыянальнаму абавязку, аказвалі ўсебаковую дапамогу разбуранай нямецка-фашысцкімі захопнікамі, але не скаронай гераічнай Беларусі.

Вострая патрэба ў літаратуры, якая адчувалася ў рэспубліцы пасля вызвалення беларускай зямлі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, паставіла перад Дзяржаўным выдавецтвам БССР вялікія адказныя задачы па павелічэнню выпуску кніжнай і іншай друкаванай прадукцыі. Адсутнасць літаратуры стварала цяжкасці ў правядзенні масава-палітычнай работы.

З мэтай паляпшэння выдавецкай справы ў снежні 1945 г. па рашэнню СНК БССР Дзяржаўнае выдавецтва вылучаецца з сістэмы Упраўлення па справах паліграфіі і выдавецтваў пры СНК БССР з прамым падпарадкаваннем Саўнаркому рэспублікі [2]. На выдавецтва было ўскладзена выданне палітычнай, мастацкай, сельскагаспадарчай літаратуры, падручнікаў для школ Беларусі, а таксама прапаганда і распаўсюджванне кніжнай і часопіснай прадукцыі.

Нягледзячы на вялікія цяжкасці ў рабоце — адсутнасць кваліфікаваных кадраў, абмежаванасць паліграфічнай базы, калектыў Дзяржвыдавецтва БССР прыкладаў намаганні да павелічэння колькасці выпускаемай кніжнай прадукцыі. Калі ў 1943 г. яно выпусціла 23 назвы кніг і брашур тыражом 493 тысячы экземпляраў, а ў 1944 г.— 41 назву тыражом

---

[1] «Беларусь», 1964, № 5, стар. 27.
[2] ЦДАКР БССР, ф. 238, воп. 3, спр. 3, л. 2.

1139 тысяч экземпляраў, то ўжо ў 1945 г. выйшла ў свет 169 назваў тыражом 3853 тысячы экземпляраў [1].

У кнігах, выдадзеных Дзяржаўным выдавецтвам БССР у гады Вялікай Айчыннай вайны, адлюстраваны гераічныя подзвігі савецкіх людзей і самаадданая барацьба беларускага народа за сваё вызваленне.

Асноўная ўвага выдавецтва была накіравана на выпуск грамадска-палітычнай літаратуры. Важнае значэнне ў справе павышэння ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню камуністаў і інтэлігенцыі, камуністычнага выхавання працоўных мела выданне твораў К. Маркса, Ф. Энгельса і У. І. Леніна на беларускай мове. У 1945 г. выдавецтва выпусціла асобныя працы У. І. Леніна. Былі выдадзены творы «Што рабіць?», «Імперыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізму», «Памяці Герцэна», «Задачы саюзаў моладзі», «Дзве тактыкі сацыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі». У гэты час у дапамогу калгаснаму актыву, спецыялістам сельскай гаспадаркі і калгаснікам была выдадзена літаратура па агранамічнаму і заатэхнічнаму мінімуму, аграправілы, брашуры аб вопыце работы перадавых гаспадарак і асобных калгаснікаў.

Пасля пераможнаснага заканчэння Вялікай Айчыннай вайны перад Камуністычнай партыяй паўстала задача мабілізацыі ўсіх сіл працоўных на аднаўленне і далейшае развіццё гаспадаркі, заканчэнне будаўніцтва сацыялізма і паступовы пераход да камунізма. Вялікія і адказныя задачы былі пастаўлены і перад выдавецкімі ўстановамі. Перш за ўсё неабходна было аднавіць поўнасцю разбураныя паліграфічныя прадпрыемствы, амаль нанава стварыць разрабаваныя і знішчаныя фашысцкімі акупантамі кніжныя фонды бібліятэк, забяспечыць школы падручнікамі.

Каб уявіць сабе складанасць выканання пастаўленых задач, неабходна падкрэсліць, што ў гады вайны і часовай акупацыі фашысцкія варвары нанеслі паліграфічнай прамысловасці вялікі ўрон, які складаў больш 185 мільёнаў рублёў [2]. Часткова ўцалелі толькі рэспубліканская друкарня выдавецтва «Звязда» ў Мінску і некалькі абласных і гарадскіх друкарняў.

---

[1] Тут і далей лічбы аб колькасці выпушчанай кніжнай прадукцыі прыводзяцца па даных Кніжнай палаты БССР.

[2] Партархіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, ф. 4, воп. 47, спр. 84, лл. 63—73.

Камуністычная партыя і Савецкі ўрад правялі вялікую работу па аднаўленню і далейшаму ўздыму выдавецкай дзейнасці. Цэнтральны Камітэт ВКП(б) прымае рад пастаноў аб рабоце кніжных выдавецтваў: «Аб паліграфічным афармленні кніг» (ліпень 1945 г.), «Аб рабоце ОГІЗа РСФСР» (кастрычнік 1946 г.), «Аб забеспячэнні школ падручнікамі» (снежань 1946 г.), «Аб выданнях Дзяржлітвыдавецтва» (люты 1948 г.), «Аб недахопах і мерах паляпшэння выдання палітычных плакатаў» (лістапад 1948 г.) і іншыя, якія адыгрывалі вялікую ролю ў далейшым развіцці кнігавыдавецкай справы.

Выдавецкая справа разглядалася ў рашэннях ЦК партыі як дзейсны сродак камуністычнага выхавання мас і арганізацыі іх на хутчэйшае аднаўленне і далейшае развіццё народнай гаспадаркі краіны.

Вялікай і важнай падзеяй у культурным жыцці беларускага народа з'явілася рашэнне ЦК Кампартыі Беларусі ад 24 кастрычніка 1946 г. «Аб выданні поўнага збору твораў У. І. Леніна на беларускай мове з IV рускага выдання». Значную ролю ў ажыццяўленні перакладу на беларускую мову твораў і падрыхтоўцы да выдання твораў У. І. Леніна адыграў створаны ў пачатку 1947 г. па рашэнню ЦК ВКП(б) Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б — філіял Інстытута марксізма-ленінізма пры ЦК ВКП(б).

Побач з падрыхтоўкай да выдання твораў У. І. Леніна выдавецтва выпускала ў свет асобныя творы класікаў марксізма-ленінізма на беларускай мове. Чытачы атрымалі выбраныя творы К. Маркса і Ф. Энгельса ў двух тамах. Упершыню ў рэспубліцы Дзяржвыдавецтва БССР ажыццявіла выданне на беларускай мове бессмяротнай працы К. Маркса «Капітал». Былі таксама выдадзены праца К. Маркса і Ф. Энгельса «Маніфест Камуністычнай партыі», зборнік артыкулаў «Аб рэлігіі», творы Ф. Энгельса «Анты-Дзюрынг», «Дыялектыка прыроды» і інш.

Дапамогу Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б у выданні твораў класікаў марксізма-ленінізма аказвалі работнікі культуры і літаратурная грамадскасць рэспублікі. Перакладалі гэтыя творы на беларускую мову пісьменнікі і мовазнаўцы К. Крапіва, П. Глебка, І. Гурскі, М. Жыркевіч і інш. Цесная сувязь з навуковымі і літаратурнымі сіламі рэспублікі дапамагала інстытуту зрабіць гэту вялікую і складаную работу.

Вялікае прамысловае будаўніцтва ў гады першай пасляваеннай пяцігодкі патрабавала значнага паляпшэння і павелічэння выпуску ў рэспубліцы навукова-тэхнічнай літаратуры. Нягледзячы на пэўныя цяжкасці, к 1950 г. выпуск навукова-тэхнічнай літаратуры дасягнуў вялікіх памераў.

Значную работу прарабілі выдавецтвы па выпуску літаратуры, якая абагульняе перадавы вопыт і прагрэсіўныя метады працы ў прамысловасці Беларусі: Дзяржвыдавецтва БССР выпускала «Бібліятэчку стаханаўца», якая мела вялікі попыт, паколькі аўтарамі брашур былі наватары вытворчасці — фабрык і заводаў Беларусі.

Надаючы выключна вялікае значэнне развіццю навукі, прапагандзе дасягненняў навукі і тэхнікі, ЦК КП(б)Б у маі 1946 г. прымае рашэнне аб выпуску навуковых выданняў вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі, а ў красавіку 1947 г. — аб аднаўленні работы Выдавецтва Акадэміі навук БССР.

Для працаўнікоў вёскі выдавецтвы Беларусі штогод выпускалі серыю брашур, якія прапагандавалі перадавы вопыт і дасягненні навукі ў сельскай гаспадарцы, а ў 1950 г. была выдадзена масавым тыражом спецыяльная «Бібліятэчка калгасніка». Усяго за 1946—1950 гг. у рэспубліцы выйшла з друку 360 назваў сельскагаспадарчай літаратуры тыражом 3 524 тысячы экземпляраў.

У гады першай пасляваеннай пяцігодкі рэзка ўзрос попыт на мастацкую літаратуру. Для задавальнення самых надзённых патрэб чытачоў неабходна было ў кароткі тэрмін перавыдаць лепшыя творы класікаў айчыннай і зарубежнай літаратуры, а таксама творы сучасных пісьменнікаў. Перад Дзяржаўным выдавецтвам БССР стаяла таксама задача выдаць лепшыя творы беларускай літаратуры, напісаныя да Айчыннай вайны, у тым ліку беларускую класічную літаратуру, і пазнаёміць шырокія колы чытачоў з творамі ваеннага часу.

На кніжныя паліцы магазінаў і ў бібліятэкі ў гэты час паступілі кнігі Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, К. Чорнага, Э. Самуйлёнка, П. Броўкі, М. Танка, К. Крапівы, А. Куляшова, М. Лынькова, М. Клімковіча, П. Панчанкі, І. Гурскага, А. Бялевіча, М. Лужаніна, А. Астрэйкі і інш.

Многа зрабіла Дзяржаўнае выдавецтва БССР па падрыхтоўцы да выдання «Кастрычніцкай серыі» мастацкай літаратуры, якая прысвячалася 30-годдзю Вялікай Кастрычніцкай са-

цыялістычнай рэвалюцыі. Сюды ўвайшло ўсё самае лепшае з таго, што стварылі беларускія пісьменнікі за гады савецкай улады.

У гэты ж перыяд выйшла ў свет многа кніг для дзяцей і юнацтва. Побач з арыгінальнымі выходзілі перакладныя кнігі. Над перакладамі кніг для дзяцей з рускай і іншых моў народаў СССР працавалі вядучыя беларускія пісьменнікі і паэты К. Крапіва, Я. Маўр, П. Глебка, М. Лужанін, Я. Брыль, І. Грамовіч, В. Вольскі, А. Вялюгін, М. Аўрамчык, Т. Хадкевіч і інш. У 1948 г. Дзяржвыдавецтва БССР выпусціла вядомую кнігу беларускіх дзяцей, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны — «Ніколі не забудзем». Сярод твораў, прысвечаных партызанскай тэме, гэта калектыўная кніжка заняла пачэснае месца.

Кіруючыся рашэннямі ЦК КПСС аб уздыме сельскай гаспадаркі, выдавецтвы рэспублікі перабудавалі сваю работу і больш умела і аператыўна ў 1951—1958 гг. выпускалі літаратуру для работнікаў сельскай гаспадаркі.

У 1954 г. Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла з друку «Бібліятэчку старшыні калгаса», у якую ўвайшлі 24 назвы брашур па розных пытаннях сельскай гаспадаркі. Каштоўным было выданне кніг старшыні калгаса «Рассвет» Магілёўскай вобласці К. Арлоўскага «На высокай пасадзе» і «Такім можа стаць кожны калгас».

З году ў год паляпшала сваю работу Выдавецтва Акадэміі навук БССР. Добрую ацэнку грамадскасці атрымалі выпушчаныя ім кнігі «Гісторыя БССР» у двух тамах, «Гісторыя Мінска», «Беларускае мастацтва», «Горадабудаўніцтва Беларусі», «Эканамічная геаграфія БССР», «Будова хларафілу і метады яго колькаснага вызначэння», «Пытанні марфалогіі і перыферычнай нервовай сістэмы», «Глебы Беларускай ССР», «Люмінесцэнцыя складаных малекул», «Оптыка анізатропных асяроддзяў», «Геахімічныя працэсы міграцыі і канцэнтрацыі элементаў у біясферы» і інш. Гэтыя і многія іншыя кнігі, выпушчаныя Выдавецтвам АН БССР, мелі вялікі попыт у чытачоў.

Да найбольш значных прац, якія выпусціла гэта выдавецтва, трэба таксама аднесці «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы», «Граматыку беларускай мовы» ў двух тамах і «Гісторыю беларускай савецкай літаратуры» ў двух тамах.

Выдавецтвы Беларусі ў гэты перыяд, як і ў гады першай

пасляваеннай пяцігодкі, асноўную ўвагу ўдзялялі аднаўленню фонду беларускай савецкай мастацкай літаратуры. Былі выдадзены лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў.

Чытачы атрымалі зборы твораў народнага паэта Беларусі Я. Коласа ў сямі тамах, выбраныя творы Э. Самуйлёнка ў двух тамах, аднатомнікі твораў К. Чорнага, М. Лынькова, М. Танка, І. Шамякіна, П. Броўкі, А. Куляшова, Я. Брыля і многіх іншых празаікаў і паэтаў.

У 1953 г. Дзяржаўнае выдавецтва БССР завяршыла выданне збору твораў З. Бядулі ў чатырох тамах і пачало рыхтаваць да выпуску збор твораў К. Чорнага ў шасці тамах. Убачылі свет новыя творы беларускіх пісьменнікаў: раман І. Шамякіна «У добры час», М. Паслядовіча «Святло над Ліпскам», І. Мележа «Мінскі напрамак» і інш.

Сур'ёзным экзаменам для беларускай нацыянальнай культуры з'явілася Дэкада мастацтва і літаратуры Беларусі, якая адбылася ў Маскве ў лютым 1955 г. Яна паказала, што беларуская савецкая літаратура за пасляваенныя гады дасягнула немалых поспехаў. Каля ста назваў кніг прывезлі ў Маскву беларускія пісьменнікі.

У дзень адкрыцця дэкады, вітаючы сваіх беларускіх сяброў, С. Маршак сказаў, што «беларускі народ можна па праву назваць спяваючым народам. З даўняй пары спадабалася нам глыбокая і своеасаблівая паэзія Беларусі, што адлюстравала яе прыроду, яе гісторыю, працу і быт магутнага, працаздольнага народа, які ніколі не паддаваўся прыгнечанню» [1].

Асаблівую ўвагу выдавецтвы рэспублікі аддавалі выданню арыгінальнай літаратуры. Выпуск твораў беларускіх пісьменнікаў узрастаў штогод. Так, калі ў 1957 г. выйшла з друку 84 назвы кніг, то ў 1958 г.— 108 [2].

У 1957 г. былі выдадзены новыя раманы беларускіх пісьменнікаў: П. Броўкі «Калі зліваюцца рэкі», У. Карпава «За годам год», А. Чарнышэвіча «Світанне», І. Шамякіна «Крыніцы» і інш. Важнай падзеяй для беларускай літаратуры было выданне ў 1958 г. рамана-эпапеі М. Лынькова «Векапомныя дні» ў чатырох тамах — аб гераічнай барацьбе беларускага народа супраць фашысцкіх захопнікаў.

У 1957 г. Дзяржаўнае выдавецтва БССР пачало выпускаць «Бібліятэчку беларускага нарыса і апавядання».

---

[1] «Літаратура і мастацтва», 11 лютага 1955 г.
[2] ЦДАКР БССР, ф. 1126, воп. І, спр. 125, лл. 163—174.

Вялікую ўвагу аддавала Дзяржаўнае выдавецтва БССР выданню на рускай і беларускай мовах твораў класікаў рускай літаратуры і твораў пісьменнікаў братніх рэспублік. Выдавецтва пазнаёміла беларускага чытача з лепшымі творамі рускіх класікаў на беларускай мове. Былі выдадзены «Выбраныя апавяданні» А. Чэхава, «Байкі» І. Крылова, «Выбраныя вершы» М. Лермантава, «Выбраныя апавяданні» І. Тургенева, «Уваскрэсенне» Л. Талстога, «Гора ад розуму» А. Грыбаедава, «Яўгеній Анегін» А. Пушкіна і інш.

Беларускія паэты прарабілі вялікую работу па перакладу на беларускую мову твораў паэтаў братніх народаў. Гэта стварыла магчымасць выдаць у 1951 г. «Анталогію ўкраінскай савецкай паэзіі», «Кабзара» Т. Шаўчэнкі, «Выбраныя творы» М. Рыльскага і іншыя кнігі.

На працягу 1953 г. на беларускай мове выйшлі творы М. Горкага, М. Салтыкова-Шчадрына, А. Фадзеева, А. Твардоўскага, М. Нікіціна, М. Ібрагімава, А. Малышкі і інш.

З кожным годам пашыраліся і ўмацоўваліся сувязі паміж братнімі літаратурамі. Яскравым сведчаннем гэтага з'яўлялася выданне лепшых твораў пісьменнікаў на нацыянальных мовах у рэспубліках. Акрамя таго, сістэматычна наладжваліся і праводзіліся ў саюзных рэспубліках дэкады, тыдні і дні братніх літаратур. Так, у чэрвені 1957 г. у рэспубліцы адбылася Дэкада ўкраінскай літаратуры. Рыхтуючыся да дэкады, Дзяржаўнае выдавецтва БССР выдала ў перакладзе на беларускую мову кнігі ўкраінскіх пісьменнікаў Л. Украінкі, І. Няходы, М. Нагнібеды, зборнік вершаў паэтаў Украіны.

Хутка ўзрастала і развівалася ў рэспубліцы музычная культура. Кампазітары Беларусі многа папрацавалі над узбагачэннем і развіццём нашага музычнага мастацтва. Пашырэнне музычнай культуры сярод шырокіх мас працоўных патрабавала і павелічэння музычнай літаратуры.

У 1951 г. Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла толькі 10 назваў нотна-музычнай літаратуры тыражом 8 тысяч экземпляраў, у 1955 г.— 28 назваў, а ў 1957 г.— 62 назвы тыражом каля 200 тысяч экземпляраў. Сярод выйшаўшых музычных твораў былі інструментальныя і вакальныя музычна-педагагічныя, а таксама значная колькасць апрацовак народных беларускіх песень. Былі выдадзены творы беларускіх кампазітараў Я. Цікоцкага, А. Багатырова, М. Чуркіна, М. Аладава, А. Падкавырава, Д. Лукаса і інш. Гэта выдавец-

тва выпусціла таксама цікавае выданне запісаў беларускага песеннага фальклору народнага артыста СССР Р. Шырмы.

Яшчэ большых поспехаў дасягнула беларускае кнігадрукаванне ў гады сямігодкі (1959—1965). Асноўнай задачай гэтага перыяду з'яўлялася стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма, развіццё і ўдасканаленне сацыялістычных вытворчых адносін, выхаванне савецкіх людзей у духу камунізма.

Уся работа выдавецтваў была накіравана на аказанне ўсямернай дапамогі партыі ў выкананні дырэктыў XXI і XXII з'ездаў КПСС.

Усе важнейшыя рашэнні Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, якія прыняты на з'ездах і пленумах, пастановы Савецкага ўрада аператыўна выдаваліся на беларускай мове выдавецтвамі рэспублікі.

З вялікай цікавасцю сустрэлі чытачы кнігі па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху ў Беларусі, выпушчаныя беларускімі выдавецтвамі. Выйшлі з друку працы П. Ліпілы «КПБ — арганізатар і кіраўнік партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны», І. Краўчанкі і А. Залескага «Беларускі народ у гады Вялікай Айчыннай вайны», В. Лабанка «Партызаны Віцебшчыны ў баях за радзіму» і інш. Гэтыя кнігі атрымалі станоўчыя водгукі грамадскасці і адыгралі важную ролю ў распрацоўцы гісторыі беларускага народа.

Напярэдадні XXV з'езда Кампартыі Беларусі выйшла ў свет першая частка двухтомнага выдання «Нарысы гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі (1883—1920 гг.)», у якой дадзена навуковае тлумачэнне асноўных пытанняў гісторыі КПБ — аднаго з баявых атрадаў КПСС.

Кіруючыся рашэннямі XXII з'езда КПСС і пастановамі ЦК КПБ, выдавецтвы рэспублікі правялі вялікую работу па стварэнню літаратуры, якая прапагандавала гістарычныя рашэнні з'езда, аказвала практычную дапамогу працоўным рэспублікі ў пабудове камуністычнага грамадства, актыўна займаліся пытаннямі далейшага паляпшэння сваёй працы.

Дзяржвыдавецтва БССР выдала ў 1962 г. серыю брашур пад рубрыкай «Гутаркі аб новай Праграме КПСС» (11 назваў), дзе ў папулярнай форме асвятляліся важнейшыя праблемы камуністычнага будаўніцтва ў СССР. Была таксама выдадзена серыя брашур «Гутаркі аб новым Статуце КПСС»

(5 назваў). Аўтарамі брашур выступілі вучоныя, партыйныя работнікі і журналісты.

Выдавецтвы працягвалі выпускаць кнігі аб жыцці і справах выдатных дзеячоў Камуністычнай партыі і бліжэйшых саратнікаў У. І. Леніна. Выйшлі з друку кнігі А. Хацкевіча «Салдат вялікіх баёў. Жыццё і дзейнасць Ф. Э. Дзяржынскага» і Р. Булацкага «Ленінскай гвардыі салдат» (нарыс аб жыцці і дзейнасці П. М. Лепяшынскага). Беларускае дзяржаўнае выдавецтва пачало выпускаць серыю брашур на маральна-этычныя тэмы. Гэта публіцыстычныя нарысы, у якіх прапагандуюцца прынцыпы маральнага кодэксу будаўніка камунізма.

Выпуск грамадска-палітычнай і сацыяльна-эканамічнай літаратуры павялічваўся ў Беларусі з кожным годам. Так, калі ў 1959 г. выйшла ў свет 241 назва тыражом 2 309 тысяч экземпляраў, то ў 1965 г. чытачы атрымалі 313 назваў тыражом 2 508 тысяч экземпляраў.

Пасля заснавання спецыялізаванага выдавецтва сельскагаспадарчай літаратуры «Сельгасвыдавецтва БССР» шырэй пачала выдавацца сельскагаспадарчая літаратура. Гэта выдавецтва было створана на базе рэдакцыі сельскагаспадарчай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР і выдавецтваў Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР і Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1962 г. яно выпусціла рад кніг і брашур па прапагандзе матэрыялаў XXII з'езда партыі і Пленумаў ЦК КПСС, абагульненню і ўкараненню ў вытворчасць навукі і перадавога вопыту. Пад рубрыкай «Рашэнні XXII з'езда КПСС у дзеянні» выйшла ў свет 8 назваў брашур. Добрым пачынаннем выдавецтва быў выпуск серыі брашур «Бібліятэчка перадавога вопыту».

Выконваючы рашэнні партыі, выдавецтвы стваралі літаратуру па пытаннях тэхнічнага прагрэсу, механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці, развіцця хіміі. У дапамогу машынабудаўнікам Дзяржвыдавецтва БССР выпускала «Бібліятэчку рабочага-машынабудаўніка», працягваючы выдаваць «Бібліятэчку наватара», «Бібліятэчку слесара» і «Бібліятэчку электраманцёра».

З ростам эканомікі і культуры рэспублікі павялічылася выданне манаграфій беларускіх вучоных, прысвечаных розным галінам народнай гаспадаркі. Вырасла выданне даведачнай літаратуры па пытаннях тэхнікі, кіраванню прамысло-

васцю і сельскай гаспадаркай. Усё гэта сведчыць аб велізарным росце культурнага і духоўнага ўзроўню беларускага народа.

У красавіку 1959 г. ЦК КПБ прымае рашэнні аб выданні поўнага збору твораў Я. Купалы і Я. Коласа. Выданне твораў Купалы было даручана Выдавецтву Акадэміі навук, а твораў Коласа — Дзяржаўнаму выдавецтву БССР.

Аб гераізме савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны, аб цяжкіх выпрабаваннях расказваюць выдадзеныя ў 1962 г. раманы У. Карпава «Нямігі крывавыя берагі», А. Кулакоўскага «Сустрэчы на ростанях», І. Навуменкі «Сасна пры дарозе», кніга І. Новікава «Руіны страляюць ва ўпор» і партызанскія запіскі Д. Цябута «Скрозь агонь».

Высокую ацэнку атрымаў новы раман І. Мележа «Людзі на балоце», прысвечаны жыццю працоўных Палесся перыяду 20-х гадоў. Гэты раман быў адзначан рэспубліканскай літаратурнай прэміяй імя Я. Коласа.

Знамянальным у рабоце Дзяржаўнага выдавецтва было завяршэнне ў 1964 г. выпуску збору твораў Я. Коласа ў дванаццаці тамах. Гэта выданне з'яўляецца найбольш поўным з усіх папярэдніх.

У 1963 г. выйшлі збор твораў К. Крапівы ў чатырох тамах, двухтомнік выбраных твораў А. Куляшова, новыя раманы І. Шамякіна «Сэрца на далоні», М. Лобана «На парозе будучыні», А. Чарнышэвіча «Засценак Малінаўка», зборнікі вершаў М. Танка «Глыток вады», П. Панчанкі «Чатыры кантыненты», А. Вялюгіна «Адрас любві» і інш.

У 1965—1966 гг. выдавецтва «Беларусь» выпусціла чатырохтомны збор твораў народнага паэта БССР лаўрэата Ленінскай прэміі П. Броўкі, а таксама збор твораў І. Шамякіна ў пяці тамах. Чытачы пазнаёміліся з выбранымі творамі У. Дубоўкі ў двух тамах, з новымі кнігамі Я. Брыля, А. Астрэйкі, В. Быкава, І. Пташнікава, С. Грахоўскага і інш.

Пастаянна ўдзялялася ўвага выданню ў рэспубліцы мастацкіх твораў літаратур братніх народаў СССР і сацыялістычных краін у перакладзе на беларускую мову. Толькі за 1962—1964 гг. у Беларусі было выдадзена ў перакладзе на беларускую мову 33 кнігі пісьменнікаў народаў СССР і 16 кніг пісьменнікаў замежных краін.

Выраслі кадры перакладчыкаў, асабліва з ліку моладзі. У сучасны момант кнігі на беларускую мову перакладаюцца

непасрэдна з англійскай, нямецкай, польскай, румынскай і іншых замежных моў.

Разам з усёй беларускай савецкай літаратурай асабліва хуткімі тэмпамі развівалася літаратура для дзяцей. У гэтай галіне працягвалі працаваць нашы старэйшыя дзіцячыя пісьменнікі Я. Маўр і А. Якімовіч. Цікавыя байкі і вершы для маленькіх чытачоў напісалі паэты М. Танк, В. Вітка, Э. Агняцвет. Для дзяцей пачалі пісаць творы беларускія пісьменнікі, якія раней не звярталіся да дзіцячай тэматыкі.

Побач з шырока вядомымі творамі Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, Я. Маўра, М. Лынькова, А. Якімовіча, У. Дубоўкі і іншых беларускіх пісьменнікаў заслужанай любоўю ў юных чытачоў карыстаюцца кнігі паэтаў і празаікаў сярэдняга пакалення: Я. Брыля, А. Астрэйкі, А. Васілевіч, П. Кавалёва, С. Грахоўскага, А. Чарнышэвіча, В. Віткі, Э. Агняцвет, М. Калачынскага.

Дзіцячую і юнацкую літаратуру выпускаюць у рэспубліцы два выдавецтвы — «Беларусь» і «Народная асвета». У 1965 г. яны выдалі 81 назву кніг грамадска-палітычнай і мастацкай літаратуры тыражом 2 441 тысяча экземпляраў, у тым ліку для дзяцей дашкольнага ўзросту — 22 назвы.

Штогод павялічваецца выданне школьных падручнікаў, тыраж якіх у 1965 г. склаў 32 працэнты агульнага тыражу ўсёй кніжнай прадукцыі рэспублікі.

Вялікая ўвага аддавалася выданню вучэбна-метадычнай літаратуры. Настаўнікі школ атрымалі шмат цікавых метадычных дапаможнікаў.

Пытанні паляпшэння якасці мастацкага афармлення і паліграфічнага выканання кніжнай і выяўленчай прадукцыі ўвесь час былі ў цэнтры ўвагі і пастаянна вырашаліся партыйнымі і савецкімі органамі, Міністэрствам культуры БССР, а пасля Дзяржаўным камітэтам Савета Міністраў БССР па друку, кіраўнікамі выдавецтваў і паліграфічных прадпрыемстваў.

Зараз у рэспубліцы ёсць вялікі атрад таленавітых мастакоў-графікаў, якія ўнеслі вялікі ўклад у справу паляпшэння мастацкага афармлення друкаванай прадукцыі. Многія кнігі выдавецтваў рэспублікі ўдастоены высокіх узнагарод на ўсесаюзных конкурсах і ВДНГ СССР. Лепшыя выданні неаднаразова экспанаваліся за мяжой на міжнародных кніжных выстаўках.

Беларусь упершыню была адзначана на Усесаюзным конкурсе ў Маскве ў 1959 г. У 1962 г. дыпломы атрымалі чатыры кнігі. Гэта сведчыць аб павышэнні культуры выдавецкай справы, аб росце магутнасці паліграфічнай базы.

З 190 дыпломаў, прысуджаных на Усесаюзным конкурсе 1965 г., найбольшую колькасць атрымалі кнігі выдавецтваў «Мастацкая літаратура» (Масква) — 21 назва, «Вага» (Вільнюс) — 16, «Ліесма» (Рыга) — 15, «Беларусь» (Мінск) — 13, «Дзіцячая літаратура» (Масква) — 8 і інш.

Паліграфічная прамысловасць Беларусі за гады савецкай улады дасягнула вялікага развіцця і ператварылася ў буйную, механізаваную галіну прамысловасці. Калі да Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускія кнігі даводзілася друкаваць за межамі Беларусі, то цяпер адзін толькі Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа ў Мінску выпускае ў суткі да 200 тысяч экземпляраў кніг. Пабудаваны новыя друкарні ў Віцебску, Гродна, Магілёве, Брэсце, вядзецца рэканструкцыя друкарні выдавецтва «Звязда».

Паліграфічныя прадпрыемствы рэспублікі папоўніліся значнай колькасцю новага абсталявання. Узрос парк афсетных машын. У друкарні выдавецтва «Звязда» асвоен глыбокі друк. На Паліграфічным камбінаце імя Я. Коласа створаны чатыры паточна-механізаваныя лініі ў пераплётна-брашуровачных цэхах, завершана механізацыя вытворчасці многааб'ёмнай кнігі.

Паліграфічныя прадпрыемствы рэспублікі забяспечаны цяпер вопытнымі кадрамі, якія добра ведаюць сваю справу. З кожным годам павялічваецца колькасць інжынераў — тэхнолагаў, механікаў, эканамістаў, якія закончылі паліграфічныя інстытуты. Зараз у рэспубліцы працуе больш 400 інжынераў і тэхнікаў са спецыяльнай адукацыяй. Яны няспынна змагаюцца за ўкараненне ў паліграфічную вытворчасць новай тэхнікі і тэхналогіі.

У Беларусі ў цяперашні час створана магутная матэрыяльна-тэхнічная база выдавецкай справы, якая можа выпускаць кнігі, газеты, часопісы і іншую друкаваную прадукцыю аб'ёмам, які неабходны для задавальнення ўсё ўзрастаючых патрэб насельніцтва рэспублікі.

Вялікая работа па прапагандзе і распаўсюджанню літаратуры праводзіцца кнігагандлюючымі арганізацыямі рэспублікі. Да гэтай важнай справы прыцягнута вялікая армія гра-

мадскіх распаўсюджвальнікаў літаратуры; актыўны ўдзел у прапагандзе і распаўсюджанні кнігі прымае камсамол.

З кожным годам узрастае кнігагандлюючая сетка. На прадпрыемствах і ва ўстановах, у навучальных установах адкрыты і паспяхова працуюць народныя кніжныя магазіны і кіёскі. У гарадах і раёнах Беларусі ўжо ёсць нямала добрых кніжных магазінаў, дзе працуюць вопытныя, падрыхтаваныя людзі, якія ведаюць і любяць кнігу.

Важную ролю ў развіцці выдавецкай справы адыгралі рашэнні чэрвеньскага (1963) Пленума ЦК КПСС, які разгледзеў пытанне аб чарговых задачах ідэалагічнай работы партыі.

У мэтах карэннага паляпшэння выдавецкай справы Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 10 жніўня 1963 г. быў утворан саюзна-рэспубліканскі Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў СССР па друку. Гэта стварыла ўмовы для прывядзенння дзяржаўнага кіраўніцтва выдавецтвамі, паліграфіяй і кніжным гандлем, а таксама выдавецкай сістэмы ў поўную адпаведнасць з сучаснымі ўмовамі эканамічнага, сацыяльна-палітычнага і культурнага развіцця краіны, з гістарычнымі задачамі пабудовы камунізма.

У Беларусі ў 1963 г. таксама быў створан Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку. У верасні гэтага ж года ЦК КПБ і Савет Міністраў БССР прынялі пастанову «Аб упарадкаванні выдавецкай справы ў рэспубліцы і павышэнні ролі выдавецтваў у гаспадарчым і культурным будаўніцтве».

У мэтах ліквідацыі паралелізму і ведамаснасці ў выданні літаратуры гэтай пастановай была рэарганізавана сетка рэспубліканскіх выдавецтваў і ўстаноўлена падначаленасць Дзяржкамітэту Савета Міністраў БССР па друку. Зараз у рэспубліцы дзейнічаюць выдавецтвы «Беларусь», «Навука і тэхніка», БелСЭ, «Народная асвета», «Вышэйшая школа», «Звязда», «Ураджай», Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна і газетна-часопіснае выдавецтва «Полымя».

Упарадкаванне сеткі выдавецтваў, удакладненне іх профілю, устанаўленне адзінага кіраўніцтва выдавецкім працэсам— важнейшыя ўмовы ўздыму выдавецкай справы на ўзровень патрабаванняў, якія вынікаюць з Праграмы КПСС.

Ужо ў 1963 г. у склад рэдакцыйнага савета, мастацкага савета па афармленню кніг і мастацкага савета па выяўленчай прадукцыі выдавецтва «Беларусь» было прыцягнута каля 90 чалавек. Гэта — вучоныя розных галін ведаў,

партыйныя, савецкія і камсамольскія работнікі, пісьменнікі, мастакі, журналісты, наватары прамысловасці, настаўнікі, паліграфісты, работнікі бібліятэк і кнігагандлюючых арганізацый. Ствараліся рэдакцыйныя, мастацкія саветы рэдакцый на грамадскіх пачатках і пры іншых выдавецтвах рэспублікі.

Характэрнай рысай савецкай кнігавыдавецкай справы з'яўляецца актыўны ўдзел у напісанні кніг рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі. У шматлікіх кнігах і брашурах расказваецца аб перадавым вытворчым вопыце, аб дасягненнях навукі і тэхнікі.

Выраслі кадры рэдактарскага складу, тэхнічных і мастацкіх рэдактараў. З кожным годам узбагачаецца іх вопыт работы. Усё гэта дало магчымасць павысіць узровень выпускаемай літаратуры.

Добрымі вынікамі завяршылі сямігодку выдавецтвы Беларусі. Значна ўзрос выпуск кніжнай і іншай друкаванай прадукцыі, павялічваюцца тыражы кніг.

Выпуск літаратуры за сямігодку па назвах павялічыўся на 47, а па тыражу — на 35 працэнтаў. У апошнім годзе сямігодкі (1965) было выдадзена літаратуры па назвах амаль у 3 разы больш, чым у 1940 г., а па тыражу — у 2,3 раза. Калі ў 1940 г. у Беларусі ў разліку на душу насельніцтва было выдадзена 1,1 кнігі, то ў 1965 — каля 3 кніг.

Поспехі, дасягнутыя ў кнігавыдавецкай справе ў Беларусі за гады савецкай улады, вялікія. Аб гэтым яскрава сведчаць лічбы, прыведзеныя ў табліцы.

Творы беларускіх пісьменнікаў ужо даўно перасягнулі межы сваёй рэспублікі і выйшлі да ўсесаюзнага чытача. 3 013 разоў тыражом 58 651 тысяча экземпляраў выходзілі ў Савецкім Саюзе творы беларускіх пісьменнікаў за 1918—1965 гг.

Беларуская кніга карыстаецца вялікай павагай і за межамі нашай краіны. У 65 краін свету адпраўляе аддзел «Кніга — экспарт» літаратуру выдавецтваў рэспублікі.

Асабліва радуюць перспектывы развіцця выдавецкай справы ў краіне. Як вядома, за бягучую пяцігодку ў СССР тыраж кніг узрасце прыкладна на 25 працэнтаў, часопісаў — больш чым у 1,5 раза, газет — на 40 працэнтаў [1].

Далейшае развіццё атрымае выдавецкая справа і ў Беларусі. Выдавецтвы сумесна з творчымі саюзамі і навуковымі

[1] Материалы XXIII съезда. Политиздат, 1966, стар. 263.

*Табліца*

**Выданне кніг у Беларускай ССР за 1918—1965 гг.***

| Гады | Колькасць назваў | Тыраж (тыс. экз.) | Друкаваныя аркушы-адбіткі (тыс.) | Сярэдні тыраж адной кнігі (тыс. экз.) | Сярэдні аб'ём адной кнігі (друк. аркушы) |
|---|---|---|---|---|---|
| 1913 | 232 | 212 | ... | 0,9 | ... |
| 1918 | 13 | ...** | ... | ... | ... |
| 1919 | 8 | ... | ... | ... | ... |
| 1920 | 25 | ... | ... | ... | ... |
| 1921 | 196 | 1526 | 4534 | 7,8 | 3,0 |
| 1922 | 147 | 602 | 3380 | 4,1 | 5,6 |
| 1923 | 184 | 461 | 2560 | 2,5 | 5,6 |
| 1924 | 330 | 1182 | 5711 | 3,6 | 4,8 |
| 1925 | 362 | 2183 | 14033 | 6,0 | 6,4 |
| 1926 | 453 | 1846 | 13047 | 4,1 | 7,1 |
| 1927 | 652 | 1785 | 13071 | 2,7 | 7,3 |
| 1928 | 693 | 2246 | 16393 | 3,2 | 7,3 |
| 1929 | 771 | 4346 | 20473 | 5,6 | 4,7 |
| 1930 | 1323 | 8458 | 40215 | 6,4 | 4,8 |
| 1931 | 1474 | 10716 | 56553 | 7,3 | 5,3 |
| 1932 | 1520 | 9754 | 57300 | 6,4 | 5,9 |
| 1933 | 1264 | 10253 | 55942 | 8,1 | 5,5 |
| 1934 | 1213 | 9728 | 55336 | 8,0 | 5,7 |
| 1935 | 1009 | 8437 | 50408 | 8,4 | 6,0 |
| 1936 | 938 | 9097 | 51022 | 9,7 | 5,6 |
| 1937 | 639 | 8833 | 58079 | 13,8 | 6,6 |
| 1938 | 801 | 14674 | 82066 | 18,3 | 5,6 |
| 1939 | 775 | 11276 | 68875 | 14,5 | 6,1 |
| 1940 | 772 | 10370 | 63042 | 13,4 | 6,1 |
| 1941 | 306 | 3614 | 28262 | 11,8 | 7,8 |
| 1942 | — | — | — | — | — |
| 1943 | 23 | 493 | 749 | 21,4 | 1,5 |
| 1944 | 41 | 1139 | 7097 | 27,8 | 6,2 |
| 1945 | 169 | 3853 | 23569 | 22,8 | 6,1 |
| 1946 | 259 | 7472 | 55110 | 28,8 | 7,4 |
| 1947 | 267 | 6508 | 60039 | 24,4 | 9,2 |
| 1948 | 509 | 8047 | 74355 | 15,8 | 9,2 |
| 1949 | 455 | 8474 | 84979 | 18,6 | 10,0 |
| 1950 | 616 | 12559 | 109819 | 20,4 | 8,7 |
| 1951 | 648 | 10807 | 110332 | 16,7 | 10,2 |
| 1952 | 682 | 14417 | 126770 | 21,1 | 8,8 |
| 1953 | 605 | 14600 | 133307 | 24,1 | 9,1 |
| 1954 | 733 | 15914 | 153370 | 21,7 | 9,6 |
| 1955 | 670 | 12952 | 133403 | 19,3 | 10,3 |

* Па даных Кніжнай палаты БССР.
** Шматкроп'е азначае, што звестак няма.

| Гады | Колькасць назваў | Тыраж (тыс. экз.) | Друкаваныя аркушы-адбіткі (тыс.) | Сярэдні тыраж аднокі кнігі (тыс. экз.) | Сярэдні аб'ём адной кнігі (друк. аркушы) |
|---|---|---|---|---|---|
| 1956 | 742 | 13736 | 160358 | 18,5 | 11,7 |
| 1957 | 928 | 16300 | 165705 | 17,6 | 10,2 |
| 1958 | 1191 | 14512 | 160492 | 12,2 | 11,1 |
| 1959 | 1317 | 17101 | 175628 | 13,0 | 10,3 |
| 1960 | 1602 | 14231 | 147454 | 8,9 | 10,4 |
| 1961 | 1638 | 18966 | 185756 | 11,6 | 9,8 |
| 1962 | 1612 | 17073 | 177131 | 10,6 | 10,4 |
| 1963 | 1616 | 15084 | 157713 | 9,3 | 10,5 |
| 1964 | 1946 | 16838 | 170863 | 8,6 | 10,2 |
| 1965 | 1931 | 23016 | 210004 | 11,9 | 9,1 |
| 1918—1965 | 36168 | 415479 | 3544305 | 11,7 | 9,6 |

ўстановамі склалі перспектыўныя планы выпуску збораў твораў беларускіх пісьменнікаў і лепшых твораў нашай класікі, музычнай літаратуры і выяўленчай прадукцыі. У бліжэйшыя гады будуць выдадзены зборы твораў народных паэтаў БССР Я. Купалы і Я. Коласа, вядомых празаікаў К. Чорнага, М. Лынькова, П. Пестрака, І. Мележа, Я. Брыля, А. Кулакоўскага і інш.

Вялікае значэнне надаецца выданню класічных твораў беларускай літаратуры, якія вывучаюцца ў школах і вышэйшых навучальных установах. Запланавана выданне «Бібліятэкі беларускай паэзіі», «Бібліятэкі беларускай драматургіі», «Бібліятэкі беларускай прозы», серыі кніг «Беларускі раман» у перакладзе на рускую мову. Усё гэта мнагатомныя выданні, якія будуць выпускацца на працягу рада год.

Створаная ў рэспубліцы Галоўная рэдакцыя Беларускай Савецкай Энцыклапедыі зараз разгортвае работу па падрыхтоўцы і выпуску ў свет гэтага выдання. Усяго будзе выдадзена 12 тамоў, якія ўключаць 45 тысяч артыкулаў. Першае выданне БелСЭ з'явіцца важнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі, абагульніць дасягненні навукі і культуры беларускага народа.

Савецкі народ, народы сацыялістычных краін, усё прагрэсіўнае чалавецтва адзначылі 50-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Работнікі выдавецтваў і палі-

графічных прадпрыемстваў Беларусі дастойна сустрэлі вялікае свята — 50-годдзе роднай дзяржавы. К гэтай слаўнай даце выйшлі з друку такія выданні, як «Анталогія беларускага апавядання» ў двух тамах, «Анталогія дзіцячай беларускай літаратуры» ў двух тамах, зборнік вершаў беларускіх паэтаў «Мы славім Леніна, мы славім партыю», зборнік беларускіх песень «Радзіма мая дарагая» і інш.

Зараз, як ніколі, актуальна гучаць словы Максіма Багдановіча, які прадбачыў сусветнае значэнне беларускай літаратуры: «Не толькі нашаму народу, але і сусветнай культуры нясе яна свой дар» [1].

Росквіт кнігавыдавецкай справы ў рэспубліцы з'явіўся вынікам перамогі ленінскай нацыянальнай палітыкі, вялікіх культурных пераўтварэнняў, развіцця творчай думкі беларускага народа ва ўсіх галінах культуры, навукі і тэхнікі за гады савецкай улады.

---

[1] М. Багдановіч. Творы, т. 2. Мінск, 1928, стар. 35.






Шаржыраваны партрэт Сымона Буднага



Я. І. ПАРЭЦКІ

# Развіццё Сымонам Будным асветніцкіх ідэй Ф. Скарыны

Выдатны беларускі мысліцель XVI ст. Сымон Будны працягваў і развіваў асветніцкія пачынанні Францыска (Георгія) Скарыны. Ён цалкам падзяляў мары вялікага палачаніна аб адукаваным дзяржаўным дзеячы, які як «милосник науки и мудрости, иже более избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою, нежели во тленных великих царскых сокровищах» [1]. Як і Скарына, Будны імкнуўся выкарыстаць найбольш распаўсюджаную кнігу — біблію як сродак да пашырэння кругагляду суайчыннікаў. У прадмове да кнігі «Быццё» Скарына прапанаваў вывучаць граматыку, астраномію, рыторыку, логіку, музыку, арыфметыку, геаметрыю — «седм наук вызволеных». Будны аб гэтым жа гаварыў у сваім «Катэхізісе». Скарына тлумачыў словы з свяшчэннага пісання, выкарыстоўваючы супастаўленні стараяўрэйскай, грэчаскай, лацінскай, беларускай моў: «... еврейскым языком *Маслотг*, по-греческыи *Параболе*, по-латине *Провербиа*,

[1] Узята з прадмовы Ф. Скарыны да кнігі «Ісус, сын Сірахаў».

а по-рускыи *Притчи Саломоновы...* еврейскым языком *Коелеф*, по-греческыи *Екклесиаст*, по-латине *Концонатор*, а по-рускыи *Соборник... Сира сирим*, по-латине *Кантикум Кантыкорум*, еже по-рускыи, исказуется Песнь песням» (з прадмовы Скарыны да кнігі «Еклесіяст»).

Скарына даваў тлумачэнне грэчаскіх, славянскіх і іншых слоў. Напрыклад: *Панаретос*, еже исказуется всех добрых нравов сокровище (з прадмовы Скарыны да кнігі «Ісус, сын Сірахаў»); *Соборник*, понеже не ко единому человеку в ней пишеть, но ко всему собору людей (з прадмовы Скарыны да кнігі «Еклесіяст»). У галіне філалагічных назіранняў Скарына з'яўляўся ўзорам для Буднага, які выкарыстаў скарынінскія павучанні ў сваёй крытыцы рэлігійных догматаў.

Амаль за паўстагоддзя, што аддзяляла выдавецкую дзейнасць першадрукара Скарыны ад з'яўлення кніг Сымона Буднага, у Беларусі адбыліся вялікія змены. Тое, аб чым марыў Скарына — справядлівыя пачаткі ў кіраванні дзяржавай, распаўсюджанне асветы на роднай мове, высокая мараль службовай асобы,— усё цяжэй было ажыццявіць. Узмацняўся феадальны прыгнёт, акаталічванне магнатаў суправаджалася забыццём роднай мовы, зневажаліся любоў да радзімы і законнасць. Ва ўмовах хутка ўзрастаючай рэакцыі Будны зразумеў, які пагібельны ўплыў на прагрэс аказвалі рэлігійны фанатызм езуітаў і забабоны невукаў. Калі для Скарыны свяшчэннае пісанне заставалася важнейшым сродкам адукацыі, то для Буднага першачарговай задачай з'яўлялася крытыка заветаў. Друкаваныя выданні ў руках Буднага ператвараліся ў сродак барацьбы за перагляд ролі рэлігіі ў жыцці грамадства.

Сымон Будны на працягу больш чым дваццаці год шматграннай выдавецкай і палемічнай дзейнасці, пачынаючы з надрукавання ў 1562 г. «Катэхізіса», выкарыстоўваў розныя прыёмы крытыкі рэлігіі. У першай частцы «Катэхізіса» ён імкнуўся выкрыць культы і духавенства. «Каментарыі да новага завету» (1574) прысвечаны тэксталагічным і гісторыка-філалагічным пытанням, а творы «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры» (1576) і «Аб уладзе мяча» (1583) — сацыялагічным пошукам. Крытыка рэлігіі Будным прадстаўляла сабою значны ўклад у навуку: у сваіх даследаваннях ён адкідваў метафізічны метад, г. зн. абмяжоўваўся вывучэннем фактаў, не ўдаючыся ў тэорыі і аспрэчваючы тыя з іх, якія высоўваліся на падставе недастатковага фактычнага матэрыялу.

«Гэта самы наглядны прызнак метафізікі, з якой пачынала ўсякая навука,— пісаў У. І. Ленін:—пакуль не ўмелі ўзяцца за вывучэнне фактаў, заўсёды складалі a priori агульныя тэорыі, што заўсёды заставаліся бясплённымі» [1]. Такіх тэорый у XVI ст. было шмат. Крыніцай іх з'яўляліся міфы і выдумкі свяшчэннага пісання. Будны не толькі апярэдзіў сваіх сучаснікаў рэалізмам тлумачэння біблейскіх паданняў, але пераўзышоў вялікіх папярэднікаў Эразма Ратэрдамскага і Іаана Рэйхліна ў абвяржэнні догмаў каталіцызму. Езуіты абвінавачвалі Буднага ў іудаізанцтве і серветыянцтве, імкнуліся выставіць яго як кіраўніка новай секты, паслядоўнікаў якой называлі «буднеітамі», але ў сапраўднасці Будны не стварыў новай ерасі, а рэзка асуджаў рэлігійны фанатызм і ізуверства, дабіваючыся перагляду ўсякага дагматызму.

Буднага называлі іудаізантам, або «жыдоўствуючым», паколькі ён крытыкаваў асноўныя палажэнні новага завету. Аднак яго адмаўленне траістасці бога не азначала прызнання адзінага старазаветнага, а стаяла на мяжы пантэізму і атэізму. Пытанне аб прыналежнасці Буднага да прыхільнікаў Мігеля Сервета з'яўляецца больш складаным. Асноўнай перашкодай на шляху правільнай ацэнкі прац Сервета і Буднага з'яўляецца тлумачэнне іх пачынанняў як першых нясмелых крокаў рацыяналізму ў рэлігіі. У сапраўднасці ж іх заслуга заключаецца ў выкарыстанні навуковых метадаў даследавання крыніц веры. Ні Сервет, ні Будны не абапіраліся на чысты розум як на адзіную крыніцу пазнання, а выкарыстоўвалі навуковыя факты: Сервет — філалогію і прыродазнаўства, а Будны — філалогію і гісторыю. Заслугай Сервета, якая замоўчваецца аж да цяперашняга часу большасцю буржуазных даследчыкаў, было тое, што ў адрозненне ад дзеячоў навукі свайго часу ён не прымірыўся з дэспатызмам ілжэвучэнняў царкоўнікаў і выступіў адначасова супраць догмаў рэлігіі і скажонага тлумачэння прыроды з'яў. Толькі праз 65 год пасля выдання трактата «Аднаўленне хрысціянства», у якім Сервет апісаў кровазварот, Уільям Гарвей апублікаваў працу «Анатамічнае даследаванне рухаў сэрца і крыві ў жывёл» (1628) і стаў ахвярай езуітаў за зроблены ім пераварот у тлумачэнні жыццядзейнасці чалавечага арганізма. У свой час рэакцыя не разгледзела ў творы Сервета замаху на аўтарытэт схала-

---

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 1, стар. 128.

етычных вучэнняў аб будове цела чалавека і праследавала аўтара толькі за антытрынітарства. Будны ж выкарыстаў прыродазнаўчанавуковыя ідэі іспанскага ўрача для канчатковага абвяржэння спрадвечнасці Хрыста і бессмяротнасці душы. Сам Сервет не змог адказацца ад хрыстацэнтрызму і містыцызму.

Вялікі іспанскі мысліцель, паставіўшы на мэце асвятліць «каштоўнасць» дзеянняў людзей, якія знішчалі адзін аднаго ў рэлігійных войнах у імя «спасення душы», лічыў неабходным вывучаць «прыроду чалавека», адшукаць у самім чалавеку прычыны, якія выклікалі такія дзеянні. Не знаходзячы лагічных асноў у багаслоўі, ён звярнуўся да анатоміі; пачаў з даследавання значэння слоў, змешчаных у свяшчэнным пісанні, і закончыў прыродазнаўчымі вывадамі. Так, даследуючы мнагазначнасць стараяўрэйскага слова *руах* 'дыханне, паветра, дух', ён звяртаўся да чытача: «Для таго, каб ты, чытач, змог атрымаць поўнасцю вучэнне аб боскім духу, я дадам філасофскае разважанне, якое ты лёгка зразумееш, калі ведаеш анатомію» [1]. Сервет не толькі апісаў малы круг кровазвароту, але і звярнуў увагу на вялікі круг, працэс жыўлення мозгу і нервовай сістэмы, а таксама даследаваў пачатак самастойнага жыцця новanароджанага і адначасова адкінуў рэлігійнае таінства нараджэння Хрыста: «Утварэнне чалавека ў матцы вучыць таму, што жыццёвы дух ідзе ад сэрца к печані, таму што артэрыя, злучаная з венай, перадаецца праз пупок плода і падобным жа чынам у далейшым артэрыя і вена заўсёды звязаны ў нас...» [2]

Паклаўшы ў аснову жыццёвых працэсаў змяшэнне крыві з паветрам і растлумачыўшы жыццё плода адзіным кругам кровазвароту з маці, Сервет высветліў матэрыяльную аснову «жыццёвага духу».

Аж да XX ст. сярод перакладчыкаў твора Сервета «Аднаўленне хрысціянства» працягваюцца спрэчкі адносна разумення ўжытых ім слоў spiritus і anima. Але ўжо ў XVI ст. Сымон Будны разгадаў задуму Сервета, даказваючы, што spiritus — 'святы дух' пазбаўлен боскасці, дух — гэта ўласцівасць матэрыі, якая ў пэўных умовах зараджае жыццё, а anima — 'ду-

---

[1] **M. Servet.** Restitutio christianismi. Basel, 1553, стар. 170. Цыт. па кн.: Autour de Michel Servet et Sebastian Castellion. Haarlem, 1953, стар. 65.

[2] Там жа.

ша' — гэта рух крыві ў арганізме; спыненне гэтага руху і ёсць немінучая смерць. Ён пісаў: «Душа ёсць не што іншае, а толькі або жыццё чалавека, або цела яго...» [1]

Да такога вываду Будны прыйшоў у адным з найбольш яскравых сваіх твораў «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры», выдадзеным у беларускім мястэчку Лоск у 1576 г. У прадмове ён адзначаў, што на сходзе літоўскіх [2] братоў у Васіля Цяпінскага прысутныя, азнаёміўшыся са зместам рукапісу, выказвалі аднадушнае адабрэнне і патрабавалі яго выдання. Будны падкрэсліваў, што праца прысвечана крытыцы поглядаў Сервета і яго паслядоўніка ў Беларусі Пятра з Ганёндза (Ганезія).

Паслядоўна даказваючы ілжывасць міфаў аб Хрысце, Будны ў гэтым творы зрабіў філалагічны аналіз тых месц свяшчэннага пісання, якія Сервет выкарыстаў як доказ спрадвечнасці Хрыста. Будны, наадварот, сцвярджаў, што зачацце дзевы Марыі адбылося прыродным шляхам без фізічнага ўздзеяння святога духа: «Святы дух, вядома, зрабіў гэта зачацце, але не з сябе і не з чаго-небудзь іншага, а так, як зачаты былі ўсе людзі».

Палемізуючы з серветыянамі, Будны паказваў іх непаслядоўнасць, лічачы, што сцвярджэнне прыхільнікаў Сервета аб спрадвечнасці Хрыста мала чым адрозніваецца ад догмаў католікаў, паколькі і тыя і іншыя прыпісваюць Хрысту звышнатуральнае існаванне. У сувязі з гэтым Будны высмейваў паслядоўніка Сервета Пятра з Ганёндза. Напрыклад, ён пярэчыў Пятру, які сцвярджаў, што «Хрыстос пайшоў у неба да бога». «Не пайшоў у неба, а памёр», — удакладніў Будны. Ён падкрэсліваў, што нельга даслоўна ўспрымаць вершы пісання, а лічыў, што многія выразы трэба разумець «пер тропум», г. зн. як моўны стылістычны прыём.

Будны рабіў разбор значэння словазлучэнняў. Яшчэ ў «Катэхізісе» ён разгледзеў выраз «верыць камусьці», «верыць у кагосьці» і «верыць кагосьці». Апошні варыянт трэба разумець як зварот лацінскай мовы «вінавальны з інфінітывам». У кнізе «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры» ён вярнуўся да гэтых выразаў і заключыў, што толькі «верыць» з

---

[1] Тут і далей усе выказванні Буднага цытуюцца па яго кнізе «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры» (O przedniejszych wiary chrystiańskiej artykulech. Łosk, 1576).

[2] Прыхільнікаў С. Буднага ў XVI ст. называлі «літоўскімі братамі».

вінавальным склонам трэба разумець як «верыць, што хтосьці існуе». Аб богу, Маісею і Хрысце гаворыцца, што вераць у іх, г. зн. спадзяюцца на іх, а не вераць, што яны існуюць.

Накіраванасць доказаў Буднага ў рэлігійных спрэчках цесна звязана з яго гуманістычнымі поглядамі. Гэта ярка праяўляецца ва ўважлівых адносінах да народнай мовы насельніцтва Беларусі, а побач з гэтым у глыбокім разуменні класічных крыніц літаратуры і культуры старога свету і Сярэдневякоўя. Не выпадкова мова «Катэхізіса», сакавітая, насычаная народнымі выразамі, іроніяй і гумарам, стала вялікай з'явай у гісторыі беларускай культуры.

Тонкая назіральнасць Буднага ў галіне граматыкі і гістарычнага развіцця моў давала яму магчымасць глыбока асвятляць і разглядаць цьмяныя па зместу месцы біблейскіх тэкстаў. Шырока распаўсюджанае перакананне багасловаў у у тым, што мова дадзена чалавеку богам, Будны развенчваў, падкрэсліваючы, што і старажытныя мовы былі звычайным сродкам зносін, якім карысталіся «рытору, паэты, гісторыкі». Ён лічыў яўрэйскую мову больш старажытнай за іншыя мовы, але абапіраўся пры гэтым не на існуючае меркаванне аб стараяўрэйскім арыгінале біблії, а на марфалагічныя і сінтаксічныя рысы гэтай мовы. «Трэба ведаць, што яўрэйская мова як больш старажытная за іншыя валодае асобнымі прыёмамі або ўласцівасцямі спражэння і скланення, вельмі адрознымі ад іншых моў»,— пісаў Будны.

Сцвярджэнні «спрадвечнікаў» аб тым, што ў свяшчэнным пісанні ёсць указанні на шматаблічча бога, Будны абвяргаў шляхам разбору сінтаксісу стараяўрэйскай мовы. Спрэчнае ў тэалогіі пытанне аб тым, ці скінуў Іегова асабіста серу і агонь з неба, або яшчэ якоесьці бажаство прыняло ў гэтым удзел, ён звёў да разгляду парадку слоў у сказе: «Іегова скінуў серу і агонь з неба ад Іеговы». Ён падкрэсліў, што ў стараяўрэйскай мове часта назіраецца з'ява, якую назваў «antecedens pro relativo», г. зн. «папярэдняе замест адноснага». Іменна паўторнае ўжыванне слова *Іегова* ў гэтым сказе не можа быць вытлумачана як двухаблічнасць бажаства, а толькі прадстаўляе сабою выпадак асобага сінтаксічнага прыёму. Для падмацавання гэтага доказу, не абмяжоўваючыся гэтым прыкладам, Будны супаставіў польскі склад са стараяўрэйскім.

Прадстаўляе цікавасць разважанне Буднага аб ужыванні множнага ліку для выражэння паважальнасці (pluralis majes-

tatis). Ён з іроніяй гаварыў: «Калі бог павінен быць дваістым або траістым... то слова «элохім» (множны лік — «богі») свяшчэннае пісанне павінна было аднесці да залатога цельца... паколькі там ёсць не «элоха» (адзіночны лік), а «элохэ» (множны лік, які выкарыстоўваецца ў спалучэннях), г. зн. цялец быў не богам, а багамі».

Будны праводзіць трапныя назіранні, супастаўляючы ўжыванне будучага часу і загаднага ладу ў грэчаскай і стараяўрэйскай мовах. Разбіраючы слова *наасе* (стараяўрэйскае «зробім»), ён пісаў: «...Хоць мне вядома, што як яўрэі, так і грэкі вымушаны карыстацца будучым часам замест загаднага ладу ў першай асобе множнага ліку, з-за таго, што ў гэтых мовах наогул няма першай асобы загаднага ладу, то ўсё ж такі не заўсёды трэба бачыць ва ўжыванні будучага часу замену загаднага. Перакладчык павінен глядзець, дзе трэба перадаваць тэкст пры дапамозе будучага часу, а дзе загаднага ладу». Для пацвярджэння Будны прывёў прыклады на стараяўрэйскай мове, у якіх большасць перакладчыкаў разумее слова *наасе* як 'давайце рабіць', у той час як трэба было перадаць яго як 'будзем рабіць'. З выказвання Буднага відаць, што ў сказ «усё тое, што гаварыў Іегова Маісею *наасе»* ўкладзен сэнс 'будзем выконваць', а не 'давайце рабіць'. У першым выпадку размова ідзе аб дзейнасці законаў старога завету на вечныя часы, у другім — толькі аб закліку выканаць аднаразовы загад. Такім чынам, Будны паказаў, што змест вершаў старога завету не больш дакладны, чым новага, і залежыць галоўным чынам ад моўнай падрыхтоўкі тлумачальнікаў і іх добрасумленнасці.

У адным з доказаў супраць боскасці Хрыста Будны адзначыў, што «ў грэчаскіх і лацінскіх пісьменнікаў, а асабліва ў стараяўрэйскіх быў распаўсюджан прыём упрыгожваць пытаннямі выказванні, якія яны хацелі б падкрэсліць». Добрае адчуванне мовы і назіральнасць дазволілі Буднаму вылучыць найбольш істотную рысу рытарычных пытанняў — узмацненне пераканаўчасці мовы.

Для абвяржэння біблейскіх міфаў вельмі многа ўвагі ўдзяліў Будны ўдакладненню значэння асобных слоў грэчаскай і стараяўрэйскай моў. Найбольш важным з'яўляецца пытанне аб значэннях слоў *улада* і *сіла*. Нельга блытаць, на думку Буднага, паняцце сілы і ўлады ў адносінах да Хрыста. У той час як Пётр з Ганёндза прыпісваў Хрысту

фізічную і боскую сілу, Будны ў гэта паняцце ўкладваў іншы сэнс, — а іменна паняцце ўлады настаўніка.

Будны раскрыў таксама значэнне стараяўрэйскага слова *дор*. Ён сцвярджаў, што слова *дор* азначае не толькі пакаленне, але і век, эпоху. Такім чынам, ён перанёс цэнтр цяжару ў вывучэнні радаслоўнай Хрыста з біблейскіх пакаленняў на пэўную гістарычную эпоху, калі ўзніклі паданні аб Хрысце. Арыгінальна тлумачыць Будны і слова *першародны (бахор* — па-яўрэйску). У супрацьлегласць багасловам, якія разумеюць гэта слова як «народжаны раней за ўсіх», Будны заўважае ў ім і іншае значэнне. На думку Буднага, яўрэйскае слова *бахор* азначае «таго сына ў бацькі, які незалежна ад таго, нарадзіўся ён першым ці не, кіруе сваімі братамі».

У біблейскі выраз *руах мэрахефет* Будны ўкладваў прыродны сэнс — 'веяў вецер' у супрацьлегласць багасловам, якія тлумачылі гэты выраз, як 'рэяў дух святы'. Будны строга размяжоўваў духоўнае і матэрыяльнае. Прыхільнікі спрадвечнасці Хрыста лічылі Ісуса словам, духам (логасам), з дапамогай якога бог стварыў увесь свет, Будны ж тлумачыў, што Ісуса называлі словам таму, што ён выкладаў слова божае, а на самай жа справе слова можна ўспрымаць толькі як сродак зносін.

Сымон Будны лічыў, што няправільнае тлумачэнне слоў было выкарыстана тэолагамі для абагаўлення Хрыста. Так, у «Дзяяннях апосталаў» гутарка ідзе аб Ісусе-слузе. У лацінскіх перакладах бібліі замест слова *слуга* сказана *сын божы.* Звычайна грэчаскае слова *паіс* перакладчыкі тлумачаць па-рознаму: то як 'слуга', то як 'сын'. Аднак калі размова ідзе аб Ісусе, яны настайваюць на перакладзе 'сын'. У сапраўднасці ж лацінскае слова puer і грэчаскае *паіс,* якія можна часам перакладаць і як 'сын, хлопчык і слуга', перадае стараяўрэйскае *овед*, якое азначае 'батрак, раб'. Адсюль Будны робіць вывад, што Хрыстос быў толькі рабом, слугой, але ні ў якім разе не сынам бога.

Асаблівую цікавасць прадстаўляе пытанне аб граматычным артыклі пры слове *бог* у грэчаскім перакладзе бібліі. Будны падкрэсліваў, што артыклі ўжываюцца ў грэчаскай і германскіх мовах, аднак адсутнічаюць у лацінскай і славянскіх мовах. Факт адсутнасці артыкля перад словам *тэос* (бог) у адным з раздзелаў бібліі, што трывожыла перакладчыкаў, Будны тлумачыў як звычайную моўную з'яву, якая вынікала

з грэчаскай граматыкі. У залежнасці ад наяўнасці ці адсутнасці артыкля ў мове арыгінала ў славянскім перакладзе атрымліваецца розны змест. «І ў нас (у славянскай мове.— *Я. П.*), — пісаў Будны, — адно значэнне мае, калі мы гаворым: «Гэта наш бог, які нас стварыў», а другое: «Гэты з'яўляецца нашым богам». Значыць, неабходна адрозніваць называнне «кагосьці» або «чагосьці» богам ад сцвярджэння, што гэта «хтосьці» стварыў свет.

Назіранні Сымона Буднага над жывой гаворкай народа дапаўняюцца глыбокім вывучэннем ім літаратурных крыніц і існуючых у той час лексіконаў і слоўнікаў і крытычным іх асэнсаваннем.

Прыведзеныя прыклады тлумачэння слоў з розных моў сведчаць, што шляхам глыбокага філалагічнага аналізу Будны абвяргаў рэлігійныя догмы.

Вялікую навуковую цікавасць прадстаўляе далейшы лёс кнігі Сымона Буднага «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры».

Нямецкі вучоны І. Вагензейль (1633 — 1705), які ў час свайго падарожжа наведаў г. Сеута (Паўночная Афрыка), сустрэўся на таргах з мясцовымі яўрэямі і, па яго словах, схіліў іх да сябе расказамі аб быце і справах іх еўрапейскіх братоў. У знак удзячнасці за гэта адзін з мясцовых жыхароў падараваў яму рукапіс твора Ісаака бен Абраама з Трок (Літва) «Умацаванне веры». Вагензейль, пазнаёміўшыся з падарункам, настолькі захапіўся працай Ісаака, што пераклаў яе са стараяўрэйскай на лацінскую мову і выдаў у 1681 г.[1]

Толькі некалькі слоў, напісаных стараяўрэйскім шрыфтам, Вагензейль не мог расшыфраваць і пакінуў у тэксце на мове арыгінала. Гэтыя словы былі славянскай назвай твора Сымона Буднага, які Ісаак ведаў у арыгінале і прыводзіў у сваёй кнізе. Як відаць, Вагензейль не ведаў славянскай мовы, а адсутнасць абазначэння галосных у стараяўрэйскім тэксце зрабіла немагчымай перадачу па-латыні гэтых слоў хоць бы прыблізна. Гутарка ідзе аб названым творы Буднага «Абарона», які з'яўляецца другой назвай яго кнігі «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры». Праца Ісаака засталася незакончанай

---

[1] Гл.: J. Wagenseilius. Tela ignea Satanae... Altdorfi, 1681. Liber Munimen fidei autore R. Isaaco filio Abrahami ex MS Africano. У далейшым выказванні Ісаака цытуюцца па гэтай кнізе.

у рукапісу. Толькі яго вучань Іосіф Маліноўскі завяршыў работу над кнігай, але не выдаў яе.

У сваіх разважаннях, прысвечаных крытыцы хрысціянскай рэлігіі, Ісаак абвінавачваў тэолагаў у тым, што замест «божага закону» яны адстайвалі вучэнне, «якое скажалася, было прыдумана невукамі, што мала ведалі пісанне і сэнс таго, што ў ім перададзена». Ён спасылаўся на выказванні Лютэра, Кальвіна, Сервета, Паруты, Чэховіца, але асабліва вылучыў Сымона Буднага.

Галоўнай перавагай Буднага Ісаак лічыў крытычны аналіз свяшчэннага пісання. Аднак, захоплены ідэяй развянчання хрысціянства, ён не заўважыў, што разглядам формы і зместу біблейскіх паданняў Будны падрываў не толькі хрысціянскую дагматыку, але і расхістваў будову ўсёй біблії. Менавіта абапіраючыся на Буднага, Ісаак з упэўненасцю развенчваў міф аб Хрысце.

Ісаак звярнуў увагу на асобы філалагічны аналіз тэксту Будным. Услед за Будным ён разбіраў стараяўрэйскія словы, якія мелі значэнне 'дзяўчына' і 'жанчына', імкнучыся даказаць беспадстаўнасць біблейскіх выдумак аб зачацці Хрыста. Спасылаючыся на словы прарока «І так сам бог дае вам знак. Вось дзева зачне і народзіць сына і назаве яго іменем Імануіл», Ісаак пісаў: «Памыляюцца ў сваім меркаванні хрысціяне, паколькі слова *альма,* прыведзенае ў гэтым месцы, не азначае, як яны б хацелі, «дзева», *альма* ёсць тое ж, што і *наара* ... а іменна *наара* называюць і дзеву і жанчыну...»

Будны ў сваім аналізе ўзнімаўся да абагульненняў, якія выходзілі за межы прадмета даследавання багаслоўя. Ён вяртаў свяшчэннае пісанне з неба на зямлю і тым самым даваў штуршок да раскрыцця з'яў жыцця сучаснага грамадства. Ісаак жа быў прыхільнікам тэалогіі, ён не мог адарвацца ад зместу старога завету.

Будны імкнуўся даказаць, што са зместу біблії робяцца няправільныя вывады, якія шкодзяць людзям, узмацняюць уціск народа. Ісаак абмежаваўся выяўленнем стылістычных асаблівасцей і лагічнай узаемасувязі, якія перашкаджаюць правільна ўспрымаць тэкст свяшчэннага пісання.

Ісаак высока ацаніў веды Буднага ў галіне стараяўрэйскай мовы, ён неаднаразова спасылаўся на яго аўтарытэт пры разглядзе асаблівасцей стараяўрэйскага сінтаксісу, сэнсу слоў, марфалогіі. Адзначаючы, што стараяўрэйскі прыназоўнік *ал*

(на) трэба ў асобных выпадках успрымаць як *лефі* (дзякуючы, па), Ісаак пісаў: «У праўдзівасці нашага выкладання можна ўпэўніцца на аснове перакладу Сымона Буднага — навейшага хрысціянскага тлумачальніка».

Сур'ёзныя разыходжанні сярод тлумачальнікаў біблії ўзнікалі ў сувязі з перакладам стараяўрэйскага слова *шэул*. Многія хрысціянскія тэолагі надавалі гэтаму слову значэнне 'пекла, геена'. Ісаак сцвярджаў, што *шэул* азначае 'яма, магілка'. У сувязі з гэтым ён пісаў: «Навейшы хрысціянскі тлумачальнік пісання Сымон Будны нідзе ў сваіх творах не ўжываў *шэул* як «геена», але неаднаразова тлумачыў яго як «яма, магілка».

У кнізе Ісаака 24 разы ўпамінаецца імя Сымона Буднага як навейшага таленавітага тлумачальніка біблії, але Ісаак глыбока памыляўся ў ацэнцы вывадаў Буднага супраць каталіцкай царквы. Калі буйныя вучоныя, баючыся мяча інквізіцыі, абыходзілі найбольш небяспечныя месцы ў вывадах тлумачальнікаў свяшчэннага пісання, калі сучаснікі Ісаака, каталіцкія дзеячы, езуіты, такія, як Пётр Скарга, Станіслаў Гозій, фанатычна абаранялі асновы папскага самадзяржаўя, то сам Ісаак імкнуўся даказаць беспадстаўнасць хрысціянскага вучэння.

З 24 месц упамінання Буднага 22 разы Ісаак пацвярджаў думкі Буднага і, абапіраючыся на яго навуковы аўтарытэт, падмацоўваў свае доказы і вывады. Толькі два разы Ісаак папракнуў Буднага ў недакладнасці. Здавалася б, што іменна ў такіх выпадках разыходзіліся іх думкі або шляхі карэнным чынам адрозніваліся толькі тым, што Будны быў антытрынітарыем, а Ісаак бен Абраам—іудзейскім тэолагам. У сапраўднасці ж іх задачы і мэты былі несувымерныя. Будны раскрыў усе дужкі, у якія заключалі Эразм Ратэрдамскі і Сэбастыян Кастэліён свае недамоўкі; Будны накіраваў вастрыё сваёй палемікі ў сэрца каталіцкай царквы, абаронцы і апоры феадалізму. Ісаак верыў у прыход «сапраўднага» Месіі. Ісаака не кранalі класавыя буры, якія ўзварушылі еўрапейскія краіны ў XV ст. Аднак ці мог ён прадбачыць, што амаль праз сто год пасля яго смерці рукапіс яго кнігі, працы ўсяго яго жыцця, трапіць у рукі хрысціянскіх вучоных, якія будуць ёю захапляцца. Ці мог ён, нарэшце, прадбачыць, што праз два стагоддзі яго кніга, перавыдадзеная на іспанскай, нямецкай, французскай, лацінскай мовах, трапіць у рукі вялікага асветніка

дэіста, прадвесніка французскай буржуазнай рэвалюцыі Мары Аруэ дэ Вальтэра.

Гісторыя злосна пажартавала: аргументы, распрацаваныя для абвяржэння хрысціянскай рэлігіі на карысць іудзейскай, паслужылі доказамі беспадстаўнасці ўсякай рэлігіі. Вальтэр высока ацаніў працу Ісаака: «Ісаак вельмі метадычны і вельмі добры дыялектык,— пісаў ён. — Ніколі, магчыма, памылка не мела большай апоры». Вальтэр разгадаў Ісаака: «Праслаўлены равін Ісаак у сваім «Умацаванні веры»... разумее ўсе прароцтвы... у супрацьлегласць таму, як мы іх разумеем»[1].

Вальтэр не называў імя Буднага, але Сымон Будны нябачна стаіць за ўсімі довадамі Ісаака, на якія спасылаўся і якія развіваў Вальтэр у сваіх творах. Вальтэр добра ведаў працу П'ера Бейля, але і Бейль толькі адзін раз упамінае Буднага і то ў сувязі з рэфарматарскай дзейнасцю Радзівілаў. А між тым ні Вальтэр, ні Бейль, як і ў свой час Ісаак, не бачылі таго, што прымусіла Буднага выступіць супраць хрысціянскай царквы.

Не дзіўна, што Вальтэр, які, па словах Маркса, як «Лук'ян з Самасаты... аднолькава скептычна адносіўся да ўсіх відаў рэлігійных забабонаў»[2], захапіўся кнігай, якая так шырока стала вядомай у Еўропе ў канцы XVII — пачатку XVIII ст. з-за таго, што яна паслядоўна абвяргала хрысціянства.

У век Буднага крытыку свяшчэннага пісання трэба разумець інакш, чым у часы Вальтэра. Гаворачы аб прыёмах, якія выкарыстоўвалі ерэтыкі, каб выкласці свае ідэі, Маркс пісаў: «Ці Вальтэр у сваёй кнізе «Біблія, якая атрымала, нарэшце, тлумачэнне» не прапаведуе ў тэксце бязвер'е, а ў заўвагах абараняе рэлігію...»[3] Будны, наадварот, тэксты біблії дакладна перадаваў у сваіх перакладах, а ў заўвагах раскрываў неабгрунтаванасць і нелагічнасць вывадаў рэлігійнай дагматыкі. Чытачы вывучалі тэксты Вальтэра і ніхто не верыў у ачышчальную сілу яго заўваг. Вальтэр адводзіць многа месца апісанню і разгляду міфаў са старога і новага заветаў. Будны напісаў каментарыі да рада месц пісання. Прадстаўляюць цікавасць шматразовыя супадзенні, ледзь не тэкставыя, у іх разважаннях аб нявіннасці Марыі, аб радаслоўнай Хрыста, аб Іа-

---

[1] Voltaire. Oeuvres complètes, т. 38. Paris, 1819, стар. 234.
[2] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 22, стар. 469.
[3] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 1, стар. 178.

каве і яго сыне Іосіфе, аб грахоўнасці Адама і г. д. У часы Вальтэра ніякіх бачных зрухаў у метадзе даследавання біблії ў параўнанні з XVI ст. не назіралася. Вальтэр у гэтай галіне, можна сказаць, толькі папулярызаваў тое, што раскрыў Будны. Калі Ісаак услед за Будным высмейваў гісторыю аб тым, як бацька, даведаўшыся пра смерць сына, згодны быў сысці к яму ў ад, як тлумачыла Вульгата, замест «к яму ў магілку» (гісторыя аб Іакаве і Іосіфе), то Вальтэр услед за імі прыводзіў гэту ж байку, паўтараючы поўнасцю тлумачэнне Будным слоў *пекла* і *магілка*. Як Будны, так і Вальтэр хацелі такім чынам развянчаць міф аб пекле. Вальтэр праз дзвесце год дадаў да гэтага наступнае: «Так скажалі амаль усе старажытныя кнігі недарэчнымі адпаведнасцямі, так карысталіся двухсэнсіцай для падману людзей» [1]. Акрамя гэтага, Вальтэр мог толькі прывесці гісторыю аб персідскім князю, які, убачыўшы асла, што быў прывязан далёка ад пойла, нагою пхнуў пойла да яго і таму яго нага знаходзіцца ў небе, а цела ў пекле [2]. Вальтэру наогул было цяжка выйсці за межы кола пытанняў, накрэсленых Ісаакам. Услед за ім ён прывёў пярэчанні супраць дзвюх радаслоўных Ісуса Хрыста, боскасці Хрыста, супраць думкі, што ў Ісуса не было ні братоў, ні сясцёр, гісторыі з Лазарам, розных апавяданняў евангелістаў, наўмысных скажэнняў старажытных кананічных кніг. Ён заканчваў пералік словамі, з якіх відаць было, што ўсё, што датычылася справы, было вычарпана Ісаакам: «Найбольш разлютаваныя няверуючыя амаль нічога не дадалі да таго, што было ў гэтым «Умацаванні веры» равіна Ісаака...» [3]

Ці задумваўся Вальтэр, як Ісаак прыйшоў да ўсіх гэтых пытанняў? Як відаць, Вальтэр не падазраваў, што на радзіме Ісаака, ва ўмовах жорсткага прыгнечання сялянскіх мас, развіўся рэалістычны погляд перадавых мысліцеляў, які з'явіўся ўзорам рацыянальнага і лагічнага падыходу да пытанняў рэлігіі нават для тых, хто і не думаў аб барацьбе з ёю. Будны абвяргаў каталіцызм і рэфарматарскія веравучэнні, тлумачачы іх як скажэнне ісціны, абумоўленае вузка эгаістычнымі інтарэсамі вярхушкі духоўных феадалаў. Працэс скажэння і падробкі тэкстаў пісання залежаў, на думку Буднага, ад умоў

---

[1] Voltaire. Oeuvres complètes, т. 30, 1819, стар. 459.
[2] Там жа, стар. 461.
[3] Voltaire. Melanges litteraires. Paris, 1821, стар. 234.

жыцця і схільнасцей перапісчыкаў, тлумачальнікаў, прапаведнікаў, г. зн. звычайных смяротных, якія памыляліся або ішлі за гаспадарамі.

Так, Эразму Ратэрдамскаму і Сэбастыяну Кастэліёну перашкодзіла інквізіцыя сказаць усё, што яны думалі аб рэлігіі, для іншых перашкодай было невуцтва, рад вучоных прадаліся папе рымскаму, а найбольш самаадданыя барацьбіты за ісціну цярпелі ганенні і катаванні.

На думку С. Буднага, барацьба з рэлігійным дагматызмам заключалася ў свабодзе барацьбы думак, у бесперашкодным адстайванні адпаведных пунктаў погляду на пытанні рэальнага, зямнога жыцця людзей. Будны быў непахісным у патрабаванні расшырэння свабоды спрэчак, ён паслядоўна дабіваўся права для ўсіх без выключэння ўдзельнічаць у абмеркаванні быту і духоўных запатрабаванняў народа. У прадмове да кнігі «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры» ён пісаў: «Ці мала прарокаў у антыхрыста; не задавальняючыся вялікай колькасцю дамініканцаў, францысканцаў, бенідыктынаў, аўгустыян, кармелітаў, ерэмітаў, ён нядаўна спладзіў езуітаў, якіх разаслаў па ўсёй зямлі і нават у Новы свет. Яны не робяць нічога іншага, а толькі ўводзяць душы ў вялікі зман, прыкрываючыся ханжаскімі святошамі і язычаскай філасофіяй. Хоць многія людзі і цэлыя народы, убачыўшы забабоны і здрадніцтва антыхрыста, абверглі іх, але гэта нічога не дало, паколькі і яны самі прытрымліваюцца такіх жа прынцыпаў. Некаторыя з іх не толькі пяром, але таксама агнём і мячом па звычаю рымскага антыхрыста навязваюць свайго бога, як гэта рабіў Кальвін з Мігелем Серветам, а Тэадор Бэза, яго вучань, з Валянцінам Генцілісам».

Са слоў Буднага відаць, што ён выступаў супраць прымірэння з рэакцыйнымі рухамі свайго часу, у аднолькавай ступені ён ненавідзеў рымска-каталіцкую, кальвінісцкую і лютэранскую царкву; ён адносіўся да іх з пагардай за тое, што яны наступалі на жыццёвыя правы простага народа і жорстка распраўляліся з носьбітамі ідэй прагрэсу. Ён знеслаўляў царкоўных ашуканцаў, якія скажалі тэксты пісання на карысць саслоўным інтарэсам феадалаў. Ён папярэджваў перад спакушэннем сучасных крыжаносцаў манашаскіх ордэнаў, на чале якіх апынуліся рыцары Ігнацыя Лайёлы. Усе гэтыя фальшывыя прарокі ў расах агнём і мячом знішчалі тых, хто не падпарадкоўваўся іх уладзе, а астатніх прыгняталі. Усе яны

з'яўляліся абаронцамі загніваючага ладу, заснаванага на жорсткай эксплуатацыі.

Прадмова да кнігі Буднага «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры» пераклікаецца з «Пропаведзямі» Вальтэра, напісанымі ў 1767 г. Вальтэр гаварыў: «Пасля выгнання езуітаў вучні звар'яцелага Ігнацыя, гэтага вандроўнага рыцара дзевы, самі вандруючыя рыцары рымскага епіскапа, знікаюць, але вучні звар'яцелага, намнога больш небяспечнага Францыска з Асіжа займаюць частку Еўропы, дзеці Дамініка перамагаюць. Яшчэ ні ў Францыі, ні ў Іспаніі, Партугаліі або ў Неапалі не сказалі: грамадзяне, якія не прызнаюць епіскапа рымскага гаспадаром свету — хрысціяне, веруючыя не толькі ў евангелле, жывіце ў міры...» [1]

Вялікі гуманіст і першадрукар Ф. Скарына сваім перакладам кніг «Бібліі» на беларускую мову «людзям паспалітым к добраму навучанню» глыбока ўзрыхліў глебу, на якой прарасло вучэнне Сымона Буднага. Іменна ў Беларусі былі ўпершыню абнародаваны неабвержаныя довады розуму, якія падрывалі асновы догмаў хрысціянскай веры.

Аб значэнні аргументаў Буднага сведчыць той факт, што ў далейшым яны сталі незаменнымі ў настольных кнігах крытыкаў рэлігіі.

---

[1] Voltaire. Oeuvres complètes, т. 29, 1819, стар. 484—485.





Ф. Скарына Гіпс. Скульптар А. Глебаў



П. Н. БЕРКАЎ

# Ф. Скарына і пачатак усходнеславянскага вершаскладання



ярод мноства не пастаўленых зусім ці да канца не вырашаных пытанняў, звязаных з вывучэннем жыцця і асветніцкай дзейнасці Францыска (Георгія) Скарыны, пытанне аб яго вершах і іх ролі ў гісторыі ўсходнеславянскага вершаскладання займае адно з самых сціплых месц. Больш таго, для шырокай аўдыторыі пастаноўка такога пытання, відаць, будзе нечаканай, для спецыялістаў па гісторыі беларускай культуры і літаратуры, магчыма, нават неправамернай. На самай справе: колькасць вершаў Ф. Скарыны невялікая — іх усяго тры; да таго ж яны вельмі кароткія, традыцый яны, наколькі можна меркаваць па сучаснаму стану матэрыялаў, не стварылі, і, значыць, вершы або, дакладней, віршы Скарыны прадстаўляюць адасоблены факт у гісторыі беларускай і тым больш усходнеславянскай літаратуры. Усе гэтыя факты абумовілі недастатковую ўвагу да вершаў Скарыны з боку дарэвалюцыйных і савецкіх даследчыкаў, якія абмяжоўваліся беглымі заўвагамі аб іх і не лічылі патрэбным заняцца імі больш дэталёва. Безумоўна, у мастацкіх адносінах вершы Скарыны не

маюць каштоўнасці, але яны былі ўсё ж першым фактам беларускага і — гаворачы шырэй — усходнеславянскага вершаскладання, і ў гэтым іх гістарычнае значэнне. Праўда, усяго гэтага ніхто з гісторыкаў беларускай літаратуры не адмаўляе, але бяда заключаецца ў тым, што ўсе яны, за адным толькі выключэннем, аб якім будзе сказана ніжэй, толькі і гавораць аб гістарычным значэнні гэтых вершаў і не спрабуюць прааналізаваць іх і зразумець іх мастацкую прыроду. Спробу выправіць гэту памылковую пазіцыю і прадстаўляе даны артыкул.

## 1

Першыя заўвагі аб вершах Ф. Скарыны маюцца ў славутай манаграфіі П. У. Уладзімірава пра беларускага вучонага-асветніка. У самым пачатку кнігі, указваючы на недакладнасці, якія дапусціў гісторык польскай літаратуры Вішнеўскі пры перадачы кірылаўскіх тэкстаў Скарыны лацінскім шрыфтам, Уладзіміраў пісаў: «Тэксты надрукаваны з памылкамі. Прыводзім для прыкладу двухрадкоўе Скарыны (у канцы прадмовы да кнігі «Эсфір») у перадачы Вішнеўскага і па арыгіналу» [1]. Паколькі памылкі Вішнеўскага не маюць адносін да данага артыкула, няма патрэбы прыводзіць яго ў лацінскай перадачы. Абмяжуемся толькі перадрукам двухрадкоўя Скарыны:

Не копай под другом своим ямы, сам ввалишься в ню,
Не ставь, Амане, Мардохею шибенице, сам повиснешь на ней [2].

Ніякіх тлумачэнняў да прыведзенага тэксту Уладзіміраў тут не дае. У іншым месцы даследавання ён піша: «Да ліку выдатных дадаткаў у гісторыка-літаратурных адносінах належаць вершы Скарыны, нязначныя па свайму зместу, але выдатныя як вопыты вершаскладання, якое развілося ў XVII ст.

---

[1] П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. СПб, 1888, стар. XV.

[2] Тут і ніжэй вершы Скарыны перадаюцца ў адпаведнасці з прынятымі ў савецкім літаратуразнаўстве прынцыпамі ўзнаўлення старадаўніх тэкстаў.

у паўднёва-заходняй Расіі... У аглядзе літаратуры прадмета,— працягвае даследчык,— мы прывялі ўжо двухрадкоўе з кнігі «Эсфір». Тут змяшчаем чатырохрадкоўе з кнігі «Іова» і дзесяць запаведзяў у вершах у кнізе «Ісход»:

Богу в троици единому ко чти и ко славе,
Матери его Пречистой Марии к похвале,
Всем небесным силам и святым его к веселию,
Людем посполитым к доброму научению.

Веруй в бога единого,
А не бери надармо имени его,
Помни дни светые святити,
Отца и матку чтити,
Не забывай ни едина,
И не делай греху блудна,
Не вкради, что дружнего,
А не давай сведецтва лжива,
Не пожедай жены ближнего,
Ни имения или речи его [1].

Перадрукаваўшы гэтыя вершы, Уладзіміраў робіць да іх важную заўвагу: «Вершы гэтыя з'яўляюцца пераймавнем чэшскіх і польскіх вершаў. У выданнях пачатку XVI ст. такія вершы змяшчаліся на выхадных лістах кніжак» [2].

Аднак Уладзіміраў не прыводзіць ніякіх доказаў у пацвярджэнне сваёй думкі, хоць у тых выпадках, калі ў яго распараджэнні меліся матэрыялы, напрыклад пры разглядзе адносін перакладу Скарыны да чэшскай бібліі 1506 г., ён іх абавязкова змяшчае ў сваім даследаванні.

Аналізуючы бедныя заўвагі Уладзімірава аб вершах Скарыны, мы бачым, што вучоны-даследчык зусім абыходзіць пытанне іх вершаванай прыроды. Між іншым, сцвярджэнне Уладзімірава, што вершы Скарыны выдатныя як вопыты вершаскладання, якое развілося ў XVII ст. у паўднёва-заходняй Расіі, дае падставу меркаваць, што ён лічыў гэтыя вершы пачатку XVI ст. непасрэдным уступам да сілабічнага вершаскладання XVII ст.

Тое, што можна толькі лічыць меркаваннем Уладзімірава, зусім пэўна і недвухсэнсоўна выказаў акадэмік Я. Ф. Карскі, амаль даслоўна перадаўшы заўвагі свайго папярэдніка аб вер-

[1] П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык, стар. 127.
[2] Там жа.

шах Скарыны. Вось што чытаем у аўтара «Беларусаў»: «Самастойнасць Скарыны праяўляецца таксама ў тым, што для ажыўлення сваіх выданняў ён часам звяртаўся да вершаў сілабічнага характару. Гэты род творчасці з часам моцна развіўся ў Заходняй і Паўднёвай Расіі не без уплыву, вядома, чэшскіх і польскіх выданняў, дзе такія вершы змяшчаліся на выхадных лістах кніжак» [1]. Далей Карскі прыводзіць вершы з кнігі «Эсфір» (са спасылкай на Уладзімірава) і віршавую перадачу дзесяці запаведзяў.

Абапіраючыся на аўтарытэт Карскага, наступныя пакаленні літаратуразнаўцаў паўтаралі, як мы бачым, зусім не самастойныя яго разважанні, надаючы ім яшчэ большую катэгарычнасць. Няма неабходнасці прыводзіць усе гэтыя сцвярджэнні з чужых слоў, абмяжуемся толькі адным прыкладам. У добрай у цэлым «Хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры» А. Ф. Коршунаў у раздзеле «Вершаваная літаратура Беларусі XVI—XVII стст.» піша: «Першы, хто пазнаёміў тагачаснага беларускага чытача з гэтым відам літаратуры (паэзіяй.—*П. Б.*), быў Георгій Лукіч Скарына. Перакладаючы з чэшскай на беларускую мову кнігі «Бібліі», Скарына ў сваіх прадмовах даў першыя абразкі сілабічнага вершаскладання» [2]. Пасля гэтага Коршунаў прыводзіць урывак з пераказу дзесяці запаведзяў.

З фармулёвак гэтых трох даследчыкаў становіцца відавочным наступнае: тое, што можна было толькі лічыць меркаваннем Уладзімірава і пра што больш-менш асцярожна сказана ў Карскага («*віршы сілабічнага характару*», курсіў наш.—*П. Б.*), у Коршунава набыло поўную катэгарычнасць («першыя абразкі сілабічнага вершаскладання»).

Але ці правільныя ўсе гэтыя варыянты адной і той жа думкі?

Малады даследчык беларускай літаратуры М. І. Прашковіч, вывучаючы вершаскладанне Сімяона Полацкага і яго папярэднікаў, упершыню зрабіў спробу асцярожнага перагляду пытання аб вершах Скарыны. Але ён прыйшоў да вываду, які шмат у чым бянтэжыць: цяжка сказаць, што непасрэдна паслужыла Скарыне за ўзор для яго вершаў.

---

[1] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, вып. 2. Пг., 1921, стар. 27.
[2] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мінск, 1959. стар. 325.

Падстаў для перагляду пытання аб вершах Скарыны больш чым дастаткова. Ні Уладзіміраў, ні Карскі, ні тым больш наступныя гісторыкі старажытнай беларускай літаратуры не прывялі ніякіх доказаў таго, што вершы Скарыны былі створаны пад уплывам чэшскіх і польскіх вершаваных твораў. Відавочна, сцвярджэнне Прашковіча аб цяжкасці адшукання непасрэдных узораў для вершаў Скарыны адносіцца ў першую чаргу да нявыяўленых польскіх і чэшскіх віршаў. Мы не маем даных для таго, каб далучыцца да поглядаў Уладзімірава або, наадварот, падтрымаць Прашковіча. На нашу думку, пытанне аб узорах, на якія абапіраўся Скарына, павінна быць вырашана ў іншым плане. Але пра гэта дэталёвая размова пойдзе ніжэй. Цяпер неабходна спыніцца на пытанні, ці можна лічыць усе вершы Скарыны сілабічнымі, як піша А. Ф. Коршунаў, або яны толькі маюць сілабічны характар, як сцвярджаў Я. Ф. Карскі.

Каб даць адказ на гэта важнае пытанне, неабходна, па-першае, цвёрда дамовіцца, як разумець тэрмін сілабічнае вершаскладанне, і, па-другое, з пазіцый прынятага разумення гэтага тэрміна разгледзець усе вершы Скарыны.

Звычайна вызначэнні паняцця «сілабічнае вершаскладанне» будуюцца на матэрыялах росквіту віршавай паэзіі, гэта значыць на творах сілабікаў другой палавіны XVII — першай трэці XVIII ст. У такія вызначэнні ў якасці нібы абавязковых прыкмет сілабічнага вершаскладання ўводзяць няцотную колькасць складоў (9, 11, 13 і г. д.), цэзуру пасля сёмага ці пятага складу, жаночую парную рыфму. Але нават у вершах перыяду росквіту сілабікі сустракаецца многа адступленняў ад кананічных правіл, а ў больш ранні перыяд адступленні з'яўляліся «нормай». Усё ж у цэлым можна сцвярджаць, што асноўнымі прыкметамі сілабічнага вершаскладання ранняга перыяду з'яўляюцца наступныя: больш ці менш строга вытрыманая роўнаскладовасць кожных двух вершаваных радкоў, якія стаяць побач і аб'ядноўваюцца адной рыфмай; абавязковая наяўнасць рыфмы; неабавязковасць цэзуры. Роўнаскладовасць пры гэтым дапускаецца не толькі няцотная, але і цотная.

Калі з гэтага пункту погляду звярнуцца да вершаў Скарыны, то можна заўважыць, што ў кожным з трох вершаў беларускага асветніка ёсць свае асаблівасці.

Так, двухрадкоўе з кнігі «Эсфір» не мае ніякіх прыкмет рыфмы і роўнаскладовасці: у першым радку 15 складоў,

у другім — 19. Нават калі дапусціць, што перад намі не двух-, а чатырохрадкоўе:

Не копай под другом своим ямы,
    Сам ввалишься в ню;
Не ставь, Амане, Мардохею шибенице,
    Сам повиснешь на ней,—

то атрымліваюцца наступныя суадносіны складоў: 10 : 5; 13 : 6. Значыць, вершы з кнігі «Эсфір» ніякім чынам нельга прызнаць сілабічнымі ці хоць бы маючымі сілабічны характар.

Іншая справа — вершы з кнігі «Іова». У гэтым чатырохрадкоўі як быццам бы строга вытрымана роўнаскладовасць: у другім і чацвёртым радках па 14 складоў; у першым, калі слова *троици* чытаць па-славянску, гэта значыць *о* і *и* вымаўляць асобна, а не ў якасці дыфтонга, будзе 15 складоў; столькі ж у трэцім радку. Больш складаная справа з рыфмамі. Калі ў другім радку ў слове *похвале* рабіць націск на перадапошнім складзе, то некаторае падабенства рыфмы ў гэтым чатырохрадкоўі можна ўбачыць: *славе — похвале, веселию — научению.* Такія рыфмы сустракаюцца і ў С. Полацкага, і ў іншых сілабікаў. Значыць, данае чатырохрадкоўе з поўным правам можна назваць сілаба-танічным вершам.

Трэці верш Скарыны — пераказ дзесяці запаведзяў ужо не падпарадкоўваецца правілам ранняга сілабічнага вершаскладання. Паслядоўнасць складоў у ім наступная: 8 : 12; 9 : 7; 8 : 8; 7 : 9; 9 : 11. Адначасова можна заўважыць, што ў першым і пятым двухрадкоўях па 20 складоў у кожным, а ў другім, трэцім і чацвёртым — па 16 складоў. Такім чынам, аб роўнаскладовасці асобных радкоў размовы тут быць не можа. І ў той жа час імкненне да пэўнай ізахроннасці (раўнамернасці ў часе) двухрадкоўяў, несумненна, заўважаецца. Прыкладна тое ж наглядаецца ў гэтым вершы і ў галіне рыфмы і якраз у адпаведных двухрадкоўях: у першым і пятым рыфмы адпаведна *единого—его; ближнего—его*, у астатніх *святити—чтити; едина—блудна; дружнего—лжива* (па Уладзіміраву і Карскаму) або *лживего* (па Коршунаву) [1].

Аднак ці можна лічыць гэта рыфмамі, гэта значыць свядома пастаўленымі словамі, маючымі аднолькавыя ці падобныя

---

[1] У экземпляры кнігі «Ісход» у бібліятэцы Акадэміі навук СССР у Ленінградзе.

канчаткі? Ці не падказвае гэтыя рыфмы перакладчыку арыгінал? Нам здаецца, тут няма выпадковасці. Скарына, безумоўна, мог змяніць парадак слоў; больш таго, тэкст чацвёртай запаведзі ў іншых усходнеславянскіх перакладах мае іншы парадак слоў: «Чти отца и матерь свою». Значыць, тое, што маем у Скарыны («Отца и матку чтити»), не з'яўляецца прамым перакладам чацвёртай запаведзі, а прадстаўляе пераклад, падпарадкаваны патрабаванням двухрадкоўя з трэцяй і чацвёртай запаведзяў.

Помни дни светые святити,
Отца и матку чтити.

Такім чынам, можна сказаць, што вершы Скарыны з кнігі «Эсфір», безумоўна, несілабічныя, з кнігі «Іова» — сілабічныя (ранняга перыяду) і пераказ дзесяці запаведзяў — сілабічныя ў такой меры, наколькі дазваляў арыгінал. Інакш кажучы, на працягу 1517—1519 гг. Скарына ад несілабічных вершаў стаў пераходзіць да сілабічных.

Аднак гэтыя вывады, як нам здаецца, не вычэрпваюць сутнасці пытання і — нават больш таго — наўрад ці асвятляюць галоўнае ў вершаскладанні Скарыны. Нашы вывады, як можна заўважыць, не адказваюць на пытанне, пастаўленае Прашковічам,— што паслужыла Скарыне ўзорам пры стварэнні вершаў. Як ні цяжка, гаворачы словамі Прашковіча, адказаць на гэта пытанне, даць адказ усё ж можна. Так, па крайняй меры, уяўляецца мне. Але для гэтага неабходна зрабіць спробу знайсці ў самога Скарыны адказ на пытанне, што ён лічыць вершамі, а не вызначаць і аналізаваць яго вершы з пазіцый сучаснага вершазнаўства. Адказ мы знойдзем у прадмовах, якімі Скарына суправаджае пераклады асобных біблейскіх кніг і ўсёй «Бібліі» ў цэлым. З дапамогай гэтага адказу мы здолеем, як мне здаецца, убачыць у сапраўдным святле сутнасць і тэхніку вершаскладання Ф. Скарыны.

## 2

Шматлікія прадмовы Ф. Скарыны настолькі багатыя разнастайным ідэалагічным і фактычным зместам, што да іх часта звярталіся і цяпер звяртаюцца беларускія гісторыкі, філосафы, літаратуразнаўцы. Аднак спецыяльная вершазнаўчая

праблематыка, што адлюстравалася ў прадмовах, здаецца, ніколі не спыняла на сабе ўвагі даследчыкаў. Магчыма, прычынай гэтай няўвагі было тое, што вершазнаўчых выказванняў Скарыны ў гэтых прадмовах не так ужо многа; акрамя таго, яны раскіданы ў розных месцах і таму не трапляюць адразу на вочы. Іх трэба вышукваць сярод вялікага матэрыялу, супастаўляць адно з другім і, устанавіўшы іх унутраную сувязь, паспрабаваць вызначыць іх адносіны да ўласнага вершаскладання Скарыны.

Меркаванні Скарыны аб вершах цесна звязаны і прама вынікаюць з яго агульных поглядаў на «Біблію». У адпаведнасці з поглядамі ранніх асветнікаў, якія ўпершыню асмеліліся звярнуцца са сваёй, не царкоўнай, а свецкай трактоўкай свяшчэннага пісання да шырокіх дэмакратычных колаў чытачоў на іх роднай мове, Скарына ў самых першых радках прадмовы да «Псалтыра», першай з выпушчаных ім у перакладзе на беларускую мову біблейскіх кніг, піша: «Всяко писание богом водъхненое полезно ест ко учению и ко обличению и ко исправлению и ко наказанию правды» [1]. Указаўшы далей, што «светые писма уставлена суть... различными обычаи», Скарына ўслед за традыцыяй, якая ішла ад стараяўрэйскіх кадыфікатараў «Бібліі», вылучае ў апошняй «закон», «пророков» і «писма». У склад пісем Скарына ўключае «деяния светых отец», «притчи премудрых учителей», «песни и псалмы, от царя Давыда и от иных божиих певцев сложеные, яко есть Псалтырь». Высока ацэньваючы «закон», «пророков», «деяния и животы светых отец», а таксама «притчи и преповести премудрых учителев», Скарына, аднак, аддае перавагу «Псалтыру»: «Псалтырь же сама едина вси тые речи в собе замыкаеть, и всех тых учить и все проповедуеть,— суть бо в ней псалмы, якобы сокровище всих драгых скарбов...» [2]

Мы не будзем прыводзіць панегірык «Псалтыру», змешчаны Скарынаю ўслед за гэтай цытатай, а таксама скарынінскае ўказанне на асаблівасці друкарскага афармлення яго выдання. Спынімся толькі на перадапошняй фразе яго прадмовы: «Теже розделил есми вси псалмы на стихи, потому, яко ся в ыных языцех делить» [3].

---

[1] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, стар. 171.
[2] Там жа.
[3] Там жа, стар. 173.

Тут мы ўпершыню сустракаем сведчанне Скарыны аб тым, што ён пад словам «стихи» разумее вершы біблейскія. Гэту ж думку Скарына паўтарае і ў прадмове да «Бібліі».

Паслядоўна пералічыўшы ўсе «книги Моисеевы», аўтар прадмовы пераходзіць да кнігі «Іова»: «Затым книги светого Иова — зерцало долготерпения. Вси слова в нем полны суть розуму. Стихами и гаданием ест пишешь» [1]. Пасля кароткай характарыстыкі рада іншых біблейскіх кніг Скарына пераходзіць да «Псалтыра»: «За ними суть песни царя, Давыдовы книги, рекомыя по-гречески Псалтирион, а по-еврейски Тилим, еже имають в собе кафизм [2] двадесеть, псалмов полтораста, стишков или припелов две тысещи и шесть сот» [3]. У гэтай цытаце заслугоўвае ўвагі тое, як вызначае Скарына жанравую прыроду псалмоў: для яго гэта песні, што складаюцца з «стишков или припелов», гэта значыць з радкоў, якія маюць сваю песенную манеру. Магчыма, яму былі вядомы якія-небудзь напевы псалмоў,— якія, дакладна можна было б сказаць толькі пасля спецыяльных пошукаў,— але што Скарына цікавіўся гэтым пытаннем, выцякае з таго, што ў сваім перакладзе «Псалтыра» ён «розделил... вси псалмы на стихи, потому, *яко ся в ыных языцех делить»* [4] (курсіў наш.—*П. Б.*).

Пытанне аб вершах Скарына разглядае таксама і ў прадмове да кнігі «Іова». Па прынятаму парадку ён спачатку характарызуе змест перакладзенай кнігі, а затым форму выкладання: «Делится же сия книга,— пиша ён,— на главы, а главы ся делять на стихии, по тому ж яко и Псалътир ся делить. Почении от третиея главы даже до останочное, вся сия книга стихами розделена ест, — яко же, чтучи, поразумееш» [5].

Гэта «яко же, чтучи, поразумееш» вельмі паказальна: Скарына не толькі сам адчуваў своеасаблівасць паэтычнай мовы «Бібліі», але і быў упэўнен у тым, што ў працэсе чытання іншыя людзі зразумеюць біблейскае вершаскладанне.

---

[1] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, стар. 175.

[2] *Кафізм* — раздзел царкоўных чытанняў.

[3] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, стар. 175. Параўн.: «Мовил же ест царь Соломон притчей три тысещи. И сопсал своего складаниа стихов пять тысещей», там жа, стар. 181.

[4] Не выключана магчымасць, што Скарына, вывучаючы стараяўрэйскую мову, ад свайго яўрэйскага настаўніка пачуў і той распеў, якім чытаюцца ў яўрэяў псалмы.

[5] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, стар. 179.

Нарэшце, Ф. Скарына нібы падводзіць вынік сваім назіранням над паэтычнымі кнігамі «Бібліі»: «А пишется сия книга тым же обычаем, яко и Псалътыр, и Иов, и Исус Сирахов, понеже кождая глава делится на притчи, якобы не неякие стихи или розделения, яже чтучи поразумееш» [1].

Такім чынам, бачым, што Скарына добра ведаў, разумеў і адчуваў не толькі змест, але і форму біблейскіх кніг, у прыватнасці паэтычных. У прадмове да «Бібліі» ён з асаблівай падрабязнасцю гаворыць аб «філалагічнай» адукацыі, якую можна атрымаць па «Бібліі», у тым ліку і ў галіне «красамоўства», гэта значыць паэзіі: «Хощеши ли умети граматику или, по-рускы говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполной Бивлии, Псалтыру, чти ее. Пак ли ти ся любить разумети лоику — она же учить з доводом розознати правду и кривду,— чти книгу светого Иова, или послание светого апостола Павла. Аще ли же помыслиши умети риторику, еже ест красномовность, чти книги Саломоновы. А то суть три науки словесные. Восхощеш ли пак учитися музики, то ест певници, премножество стихов и песней светых по всей книзе сей знайдеши» [2].

Такім чынам, у разуменні Скарыны прыкметай паэтычнага стылю «Бібліі» з'яўляюцца вершы і песні. Гэта, відаць, не супрацьпастаўленне, а адрозненне па характару выканання: песні, якія таксама складаюцца з вершаў, спяваюцца; проста вершы — чытаюцца.

Нідзе не гаворачы пра асаблівасці біблейскіх вершаў, Ф. Скарына папярэджвае чытача, што пры ўважлівым чытанні ён здолее зразумець своеасаблівасць іх структуры: «чтучи, поразумеет».

Прынцыпы біблейскага вершаскладання, як вядома, не падобны да прынцыпаў версіфікацыі танічнай, сілабічнай і тоніка-сілабічнай сістэм. У вельмі разнастайных формах біблейскай паэзіі, якія, несумненна, мяняліся на працягу стагоддзяў, найбольш устойлівым з'яўляецца так званы parallelismus membrorum («паралелізм членаў»), гэта значыць асаблівае, нібы паралельнае развіццё ідэі ў паэтычнай «адзінцы» — вершы. Кожны біблейскі сціх звычайна складаецца з двух падзеленых цэзурай паўрадкоўяў, радзей — з трох частак. У першым выпадку паэтычная думка ці паэтычны вобраз, выражаныя ў пер-

[1] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, стар. 182.
[2] Там жа, стар. 173—174.

шым паўрадкоўі, атрымліваюць далейшае развіццё ў другім паўрадкоўі. Вось прыклад паралелізму членаў у двух сціхах з кнігі прарока Авакума, прыведзеных Скарынай у прадмове да «Бібліі»:

Бог от полудня приидеть
и светый от горы Фаран.
Прикрила ест небеса слава его,
и хвалы его полна ест земля [1].

У першым радку слову *бог* першага паўрадкоўя адпавядае (паралельна) слова *светый* другога, словам *от полудня* — словы *от горы Фаран,* дзеяслоў *приидеть* першага паўрадкоўя падразумяваецца ў другім. Адпаведным чынам паралельныя члены другога радка наступныя: *прикрила ест—полна ест, небеса — земля, слава его — хвалы его.* Нават з гэтага невялікага прыкладу можна бачыць, што паралелізм можа быць «пацвярджальны» або «тлумачальны»: *бог — светый, от полудня* (з поўдня) — *от горы Фаран* (знаходзіцца на поўдні Палесціны), *прикрила—полна, слава—хвалы,* але можа быць і «супраціўны»: *небеса — земля.* Між іншым, у даным выпадку «супрацьлегласць» можа разглядацца і як своеасаблівае аб'яднанне: *небеса* і *земля*, гэта значыць увесь сусвет.

Значна радзейшыя выпадкі паралелізму членаў, калі сціх складаецца з трох частак. У гэтым выпадку паралелізм абавязковы або для першай і другой, або для другой і трэцяй частак, а трэцяя (у першым выпадку) і першая (у другім) застаюцца ізаляванымі. Прывядзём два прыклады. Першы ўзят з той жа прадмовы Скарыны — з прарока Агея:

Се еще мало и порушу
небо и землю, и море и сушу,
и погну всеми народы,
и приидет чааный всем языком [2].

Ад пачатку сціха і канчаючы словам *сушу* ідзе першая трэць данага сціха; канчаючы словам *народы* — другая, астатняе — трэцяя. Словы *се еще мало* з першай трэці як акалічнасць часу (неўзабаве) у другой трэці не паўтараюцца, але падразумяваюцца: неўзабаве разбуру свет, неўзабаве сагну ўсе народы. Нармальны паралелізм праяўляецца ў дзеясловах

[1] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, стар. 176.
[2] Там жа.

*порушу — погну* і ў дапаўненнях. Апошняя трэць утварае самастойны, новы элемент паралелізму: неўзабаве здарыцца вось што, і тады прыйдзе чакаемы ўсімі народамі (або да ўсіх народаў).

Другі прыклад з псалма першага: «Блажен муж, иже не иде на совет нечестивых, и на пути грешных не ста и на седалищи губителей не седе». Аналізаваць яго не будзем, таму што ён, па-першае, прадстаўляе сабой варыянт ужо разгледжанага выпадку і, па-другое, не мае цікавасці, звязанай з задачамі данага артыкула.

Дык ці можам мы пасля таго, як пазнаёміліся з меркаваннямі Скарыны аб біблейскіх сціхах і ўспомнілі сутнасць прынцыпа паралелізму, зрабіць якія-небудзь вывады аб характары вершаў, уключаных перакладчыкам у «Біблію»?

Нам здаецца — можам.

На самай справе, тое двухрадкоўе ў кнізе «Эсфір», якое, як мы бачылі, не мае ніякіх прыкмет сілабічнага вершаскладання, выступае зусім у іншым плане, калі яго разглядаць у святле біблейскай паэтыкі паралелізму членаў.

У ім паралелізм вытрыман не толькі ў межах аднаго сціха: *не копай — ввалишься, под другом своим — сам, ямы — в ню; не ставь — повиснешь, Мардохею — сам, шибенице — на ней,* але і ў граніцах абодвух сціхоў: *не копай — не ставь, под другом своим — Мардохею, ямы — шибенице* і г. д.

Магчыма, нам трэба ў дадатак да сказанага аб паралелізме членаў у біблейскіх сціхах успомніць, што ў кожным паўрадкоўі маюцца два ці тры асноўных элементы: дзейнік, выказнік і часта дапаўненне ці акалічнасць. Гэта элементарная будова біблейскага сціха з паралелізмам членаў заўважаецца і ў віршах Скарыны з кнігі «Эсфір».

Такім чынам, у адносінах да гэтых сціхоў у нас няма сумнення, што яны пабудаваны па ўзору біблейскіх.

Але ці можна тое ж самае сцвярджаць аб іншых вершах Скарыны?

Нам здаецца, што і на гэта пытанне можна адказаць сцвярджальна.

Разгледзім прысвячэнне да кнігі «Іова»:

Богу в троици единому ко чти и ко славе,
Матери его пречистой Марии к похвале,
Всем небесным силам и святым его к веселию
Людем посполитым к доброму научению.

Перш чым звярнуцца да аналізу гэтага верша, успомнім, што ён з'яўляецца апрацоўкай празаічных радкоў з прадмовы да «Псалтыра». Панегірычна характарызаваўшы гэту кнігу, Скарына пісаў: «И видечи таковые пожиткы в так малой книзе, я, Францишек, Скорынин сын с Полоцька, в лекарских науках доктор, повелел есми Псалтырю тиснути рускыми словами а словенскым языком напред ко чти и к похвале к богу в троици единому, и пречистой его матери Марии, и всем небесным чином и светым божьим, а потом к пожитку посполитого доброго наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил» [1].

Пры супастаўленні гэтай празаічнай і, відаць, традыцыйнай [2] формулы з яе вершаванай апрацоўкай можна заўважыць, што ў апошняй Скарына пакінуў толькі два элементы — «адрасата» і «мэту». У празаічнай формуле гаварылася, што «Псалтыр» быў надрукаван «ко чти и к похвале» бога, багародзіцы, анёлаў і святых і «к пожитку» звычайных людзей. У вершы Скарына дыферэнцыраваў «адрасатаў» і ў адпаведнасці з іх іерархіяй (нізыходзячай) змяніў і «мэту»: богу «ко чти и ко славе», маці боскай — «к похвале», нябесным сілам і святым — «к веселию», людзям — «к научению».

У той жа час перад намі прыклад паралелізму членаў: у кожным сціху «адрасат» і «мэта», якія вар'іруюцца ў адпаведнасці з іх месцам у традыцыйнай рэлігійнай іерархіі.

Аднак, як мы бачылі, у гэтых прысвячальных вершах Скарына ўжо ўскладніў прынцыпы біблейскай паэтыкі паралелізму членаў элементамі ранняй сілабікі (прыблізныя роўнаскладовасць і рыфма). Тым не менш асноўным застаецца ўсё ж паралелізм членаў.

Звернемся, нарэшце, да апошняга верша Скарыны — пераказу дзесяці запаведзяў.

У той час калі ў будове віршаў з кнігі «Эсфір» Скарына быў зусім свабодны ў выбары слоў, а ў прысвячэнні да кнігі «Іова» зыходзіў калі нават не з традыцыйнай формулы, то з уласнага празаічнага тэксту, з якім мог рабіць розныя аперацыі, то пры пераказе дзесяці запаведзяў ён быў моцна звязан фактычным і да таго ж вельмі адказным «свяшчэнным» матэ-

---

[1] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, стар. 172.
[2] Гл. блізкую формулу ў «Предслови в притчи премудраго Саломона, царя Израилева».

рыялам. Натуральна таму ён вымушан быў у максімальнай ступені блізка трымацца біблейскага тэксту і ў мінімальнай ступені адыходзіць ад яго (як у запаведзі «Не хлусі»).

У вершаваным перакладзе дзесяці запаведзяў у Скарыны дзесяць сціхоў, але яны аб'яднаны ў пяць двухрадкоўяў, у кожным з якіх можна заўважыць імкненне аўтара стварыць пэўнае падабенства паралелізму членаў. Так, у першым двухрадкоўі мы бачым наступны паралелізм: *веруй — а не бери надармо, в бога единого — имени его.* У другім двухрадкоўі слова *помни* адносіцца да абодвух радкоў, а паралельныя словы *дни светые — отца и матку, святити — чтити.* У трэцім двухрадкоўі *не забывай — и не делай, ни едина — греху блудна* і г. д.[1]

У гэтым вершы Скарына, як было ўжо сказана вышэй, таксама, відаць, імкнуўся спалучыць прынцыпы біблейскай паэтыкі з элементамі сілабізму, якія пачынаў ужо зараджацца. Гэтым імкненнем абнавіць прынцып паралелізму членаў дасягненнямі сілабічнай паэтыкі, відаць, трэба тлумачыць з'явы ізахранізму ў першым-пятым і ў другім-трэцім-чацвёртым двухрадкоўях разглядаемага верша, а таксама наяўнасць у ім падабенства рыфмы. Але слоўная зададзенасць зместу запаведзяў надзвычай абмяжоўвала вершатворчыя магчымасці Скарыны. Можна нават здзіўляцца таму, як яму ўдалося ў дзесяці радках захаваць амаль усё тое, што даваў тэкст «Бібліі», і дадаць так мала свайго.

## 3

Нам невядома, якімі меркаваннямі былі выкліканы да жыцця тры вершы Скарыны; невядома таксама, чаму ён абмежаваўся толькі трыма вершамі. Перад намі толькі факт, і яго мы павінны правільна зразумець. Мы бачылі, што з часоў Уладзімірава і да нашых дзён з рознай ступенню пэўнасці ў гісторыі беларускай літаратуры сцвярджаецца, што вершы Скарыны — сілабічныя, напісаныя як перайманне чэшскіх і польскіх узораў. Аналіз фактычнага вершазнаўчага матэрыялу, які маецца ў прадмовах Скарыны, і суаднясенне з ім вершаў з «Бібліі» паказалі, што тут справа значна складаней, чым гэта здавалася Уладзіміраву і яго паслядоўнікам. Скарына, як мы бачылі,

[1] Параўн. празаічны пераказ Скарынай зместу XIX главы кнігі «Левіт».

зрабіў арыгінальную спробу адрадзіць прынцыпы біблейскага вершаскладання, прымяняючы іх на беларускай моўнай глебе. Ці быў ён задаволен сваёй першай спробай — вершамі ў кнізе «Эсфір»? З-за адсутнасці фактычнага матэрыялу мы можам выказваць толькі больш ці менш праўдападобныя меркаванні. Нам здаецца, што не быў або ва ўсякім выпадку быў не зусім задаволен. І менавіта таму, не адмовіўшыся ў далейшым ад прымянення прынцыпаў паралелізму членаў, Скарына зрабіў спробу спалучыць з біблейскай паэтыкай прыёмы сілабікі, якая толькі што зараджалася. І ў гэтым зноў-такі праявіліся яго самастойнасць, яго арыгінальныя пошукі.

Можна ўсё ж лічыць, што і гэтыя спробы не задаволілі Скарыну і таму ён спыніў далейшае друкаванне сваіх вершаў. Хоць, як вядома, у 1519 г. Скарына прыпыніў друкаванне перакладу «Бібліі», які так і застаўся незакончаным.

Як пры аналізе ўсякай гісторыка-літаратурнай з'явы, так і пры разглядзе вершаў і вершазнаўчых выказванняў Скарыны перад даследчыкам непазбежна паўстае пытанне, ці адыграла гэта з'ява якую-небудзь ролю ў гісторыі сваёй нацыянальнай літаратуры ці нават больш — у гісторыі ўсходнеславянскіх літаратур. Калі адыграла,— якую?

Аб тым, што «Біблія» Скарыны чыталася і вывучалася яго сучаснікамі і пазнейшымі пакаленнямі, матэрыялаў сабрана дастаткова. Але нас цікавіць больш спецыяльнае пытанне — аб ролі вершаў Скарыны і яго вершазнаўчых выказванняў. Нам здаецца, ёсць падставы сцвярджаць, што прадмовы Скарыны ў пазнейшыя часы чыталіся і з іх браліся асобныя тэрміналагічныя фармулёўкі. Так, тэрмін «славесныя навукі», што шырока прымяняўся ў XVIII ст. і абазначаў філалогію і паэзію разам узятымі, сустрэўся ўпершыню ва ўсходнеславянскай друкаванай літаратуры ў прадмове Скарыны да «всей Бивлии рускай». Пайшоў гэты тэрмін ад Скарыны ці ўзнік пазней незалежна ад беларускага асветніка, цяпер мы сказаць пэўна яшчэ не можам. Аднак калі нават і будзе даказана, што гэты тэрмін з'явіўся ў рускай літаратуры без прамой сувязі са Скарынай, то гэта не змяншае яго ролі як піянера ў стварэнні ўсходнеславянскай філалагічнай тэрміналогіі.

З большай ступенню пэўнасці мы можам сцвярджаць, што другі тэрмін, ужыты Скарынай у той жа прадмове,—«стишки», або «припелы» — быў заўважан адным з аўтараў славянскай

граматыкі канца XVI ст. і выкарыстан у раздзеле аб прасодыі славянскай.

Аднак аб вершах Скарыны як фактары развіцця беларускай і ўсходнеславянскай паэзіі звестак у літаратуры нам знайсці не ўдалося. Але тая акалічнасць, што ўсе наступныя беларускія вершатворцы, пачынаючы з Андрэя Рымшы, пісалі сілабічныя вершы, сведчыць, што філалагічнае чуццё вяло Скарыну па правільнаму шляху — ад біблейскай паэтыкі паралелізму членаў да сілабікі, якая толькі што ўзнікла і шырока распаўсюдзілася ў заходніх, а затым і ўсходніх славян.

Да асветніцтва Скарыны поўнасцю стасуюцца словы В. Р. Бялінскага аб ролі першых дзеячоў у гісторыі кожнай нацыянальнай культуры. Незалежна ад ступені таленавітасці яны выдатныя тым, што з'яўляюцца пачынальнікамі, пракладальнікамі новых шляхоў. Працалюбівы, шырока адукаваны, энергічны, здольны літаратар, не пазбаўлены нават некаторых паэтычных здольнасцей [1], Скарына, безумоўна, заслугоўвае не толькі павагі, але і ўдзячнасці як адзін з першых усходнеславянскіх і ў першую чаргу беларускіх асветнікаў. Пачаў ён сваю асветніцкую дзейнасць шырока, ярка і ўмела; ён ведаў, што адкрытая прапаганда свецкай навукі ў тагачаснай гістарычнай абстаноўцы, у тагачасных канкрэтных рэлігійных і царкоўных умовах асуджана на безумоўны правал і нават небяспечна для яго жыцця. Таму ён, абапіраючыся на аўтарытэт «Бібліі», знаёміць сваіх чытачоў з пачаткамі тагачаснай адукацыі — сямю свабоднымі мастацтвамі («седм наук вызволеных») і з іншымі навукамі, у тым ліку з «прыродазнаўчым правам» і іншымі відамі «правоў». Не лішнім будзе заўважыць, што выкладанне Скарынай прынцыпаў «прыродазнаўчага права» — самае ранняе ва ўсходнеславянскай друкаванай літаратуры.

У прадмовах да сваіх перакладаў Скарына часта называў сябе «ў лекарскіх навуках доктарам». Як гэта ні дзіўна, але адлюстравання прамой прафесіі беларускага асветніка ў яго прадмовах мы не знаходзім. Затое нам ясна, што для сваёй эпохі і нацыянальнага асяроддзя ён быў энцыклапедычна аду-

---

[1] Гл. яго панегірыкі «Псалтыру», «Прытчам Саламонавым» і інш. (Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, стар. 171—172. 181). Дарэчы заўважыць, у панегірыку «Прытчам Саламонавым» Скарына прадугадвае стылістыку Івана Вішанскага.

каваным чалавекам, адным з тых усебакова адароных дзеячоў, якіх дала свету эпоха Адраджэння.

Своеасаблівыя ўмовы эпохі Адраджэння ў Беларусі ў канцы XV — пачатку XVI ст. прывялі да таго, што дзейнасць Скарыны прыняла іменна такія асветніцкія формы, а не іншыя. Спробы Скарыны ў галіне беларускага вершаскладання не былі выпадковымі; яны былі гістарычна неабходны і гістарычна абумоўлены. Асабістыя індывідуальныя рысы Скарыны, яго выключная адаронасць, яго павага да «Бібліі», якая «яко река дивная мелка — по ней же агнець брести можеть, а глубока — слон убо пливати мусить»[1], надалі яго невялікай вершаванай спадчыне несумненную арыгінальнасць. І гэта забяспечвае яму законнае месца ў гісторыі беларускай і ўсходнеславянскай паэзіі.

---

[1] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, стар. 173.






Ф. Скарына. З гравюры мастака В. Саўчанкі



У. В. АНІЧЭНКА

# Скарынінскія традыцыі на Украіне



XVI ст., як і ў папярэднія перыяды, культурнае жыццё беларусаў развівалася ў цеснай сувязі з культурным жыццём украінцаў. Многія мясцовыя эканамічныя і палітычныя цэнтры Беларусі і Украіны з'яўляліся ў той час агульнымі ачагамі культуры беларускага і ўкраінскага народаў, што тлумачыцца этнічнай блізкасцю гэтых народаў і аднолькавым гістарычным лёсам у складзе Вялікага княства Літоўскага, а затым Рэчы Паспалітай. Знаходжанне Беларусі і большай часткі Украіны ў межах Вялікага княства Літоўскага суправаджалася сумесным імкненнем беларускага і ўкраінскага народаў да незалежнасці і пад'ёму сваёй нацыянальнай культуры. Беларусы і ўкраінцы выступалі, наколькі гэта было тады магчыма, у абарону спрадвечнай праваслаўнай веры. Імкненню да барацьбы прыхільнікаў праваслаўя супраць каталіцызму садзейнічала пашырэнне на беларускіх і ўкраінскіх землях гуманістычных ідэй, накіраваных на падрыў каталіцкай агрэсіі.

Вялікі ўплыў на развіццё культурных узаемасувязей Беларусі і Украіны ў часы існавання Вялікага княства Літоўскага

аказалі дзеячы беларускай культуры, якія жылі і працавалі на Украіне, а дзеячы ўкраінскай культуры — на Беларусі. Значныя дасягненні ў культурным жыцці беларускага і ўкраінскага народаў гэтай эпохі адбыліся дзякуючы асветніцкай і навукова-выдавецкай дзейнасці буйнейшых таленавітых гуманістаў, літаратурна-пісьмовая спадчына якіх мела велізарны поспех і шырока распаўсюджвалася далёка за межамі Беларусі і Украіны. Першым кнігадрукаром сярод усходніх славян быў беларускі вучоны-асветнік, грамадскі і культурны дзеяч першай палавіны XVI ст. Францыск (Георгій) Скарына.

Кнігадрукарская дзейнасць Скарыны, звязаная з Прагай, а затым з Вільняй, была вядома далёкім і блізкім ускраінам славянскага свету і паслужыла ўзорам для далейшага плённага развіцця пачатай ім справы сярод многіх народаў. І гэта не выпадкова, бо яго кнігі прызначаліся «людем посполитым к доброму научению», «своему прирожоному рускому языку къ науце всего доброго».

Гістарычнай перадумовай узнікнення перакладаў царкоўна-рэлігійнай літаратуры на блізкую і зразумелую народу так званую «простую» мову з'явіўся ўплыў рэфармацыйнага руху, які з Чэхіі праз Польшчу пранікаў у Вялікае княства Літоўскае, дзе і знаходзіў прыкметнае праяўленне. На гэту прычыну ўказваў у свой час К. Маркс. У лісце да Ф. Энгельса ад 5 сакавіка 1856 г. ён пісаў, што «рэфармацыя прынесла з сабой пераклад бібліі на ўсе гаворкі славянскіх народаў» [1]. Думаецца, аднак, што немалаважную ролю адыгрывала пры гэтым і другая вынікаючая адсюль прычына, агаворaная К. Марксам,— «прабуджэнне нацыянальнасцей» [2]. Калі лічыць гэту другую прычыну не менш важнай, чым першую, то становіцца зразумелым імкненне беларускага і ўкраінскага народаў у часы знаходжання іх у складзе Вялікага княства Літоўскага да нацыянальнай самасвядомасці, якой садзейнічала пашырэнне на Беларусі і Украіне перакладаў царкоўна-рэлігійнай літаратуры на народнай мове. Натуральна таму ў XV ст. на беларускіх і ўкраінскіх землях, куды ідэі Рэфармацыі, магчыма, яшчэ тады і не пранікалі, былі ўжо спробы выкарыстання мясцовых моўных элементаў у рэлігійнай літаратуры або перакладаў некаторых твораў гэтага тыпу на народную мову

---

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. XXIX, стар. 18.
[2] Там жа.

(«Чэцця» 1489 г., рэлігійна-бытавыя аповесці XV ст. «Пакуты Хрыста», «Аб трох каралях-валхвах», «Жыціе Аляксея, чалавека божага»; «Ізмарагд» XV ст.). У далейшым тэндэнцыя перакладаў царкоўна-рэлігійных крыніц на зразумелую простаму народу мову паступова, але няўхільна ўзрастала ў новых гістарычных умовах. Скарына і быў першым прадстаўніком XVI ст., які праклаў шлях народнай мове ў друкаваныя біблейскія кнігі.

Скарынінская літаратурна-пісьмовая спадчына, акрамя Беларусі, шырока распаўсюджвалася таксама на суседніх з ёй украінскіх землях. Усё гэта садзейнічала імкненню не толькі беларускага, але і ўкраінскага народа да пашырэння асветы на Беларусі і Украіне і ажыўлення палітычнай барацьбы паміж прыхільнікамі праваслаўя і ідэалогіяй каталіцкай царквы. Друкаваныя кнігі Скарыны карысталіся вялікім попытам на Украіне яшчэ і таму, што яны, як і на Беларусі, садзейнічалі развіццю царкоўна-рэлігійнай літаратуры на народнай мове. Наяўнасць вялікай колькасці іх у бібліятэках і архівах Украіны з'яўляецца пэўным пацвярджэннем гэтага факта.

Асабліва вялікае значэнне мелі кнігі Скарыны на Украіне як узор і матэрыял для ўзнікнення там рукапісных спісаў, нават з яго прадмовамі і пасляслоўямі. Першыя крокі ў гэтым напрамку зрабіў Васіль Жугаёў з Яраслаўля-Галіцкага, які на аснове скарынінскіх друкаваных кніг — кнігі «Іова», «Прытчаў Саламонавых», кнігі «Еклесіяст», кнігі «Песні песняў», кнігі «Прамудрасці Саламона», кнігі «Ісуса, сына Сірахава» ў 1568 г. стварыў аднайменныя рукапісныя спісы, куды ўключыў прадмовы і пасляслоўі Скарыны, замяніўшы пры гэтым яго імя сваім іменем.

Многія моўныя асаблівасці, у той або іншай меры характэрныя для эпохі Скарыны і яго біблейскіх кніг, ляглі ў аснову рукапісных спісаў Жугаёва. Некаторыя з гэтых асаблівасцей у беларускай і ўкраінскай мовах аказаліся ўстойлівымі і захаваліся да апошняга часу. Аб гэтым сведчаць такія рысы, уласцівыя беларускай і ўкраінскай мовам, як прыстаўныя галосныя і зычныя гукі: *иръжавѣеть — иржавѣеть* [1]; *вужъ — во-*

[1] Тут і ніжэй прыклады з кніг Скарыны падаюцца па старадрукаваных экземплярах, а са спісаў Жугаёва — па рукапісах, якія захоўваюцца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (F 1.4). Ва ўсіх выпадках на першым месцы падаюцца прыклады са скарынінскіх тэкстаў.

*ужь*; адлюстраванне пераходу рэдуцыраваных *ъ, ь* у галосныя *ы, и: криють — крыѫть; покриють — покрыѫть; прикриеть — покриеть; закриеть — закрыеть; не сокрии — не съкрїи; шие ваше — шїи ваши;* традыцыйнае чаргаванне заднеязычных *г, к, х* са свісцячымі *з, ц, с: в сеи книзе — в сеи книзѣ; во гресе — въ грѣсѣ; в наȣце — в наоуцѣ; на постѣльце — на постѣлцѣ; на торзехъ — на торзѣхь; в руце—въ рѫцѣ; в сапозехъ — в сапозехь; в бозе — въ бозѣ; по стежце — по стежцѣ; ѡ человѣце — ѡ члцѣ;* наяўнасць канчатка *-и* ў склонавых формах назоўнікаў жаночага роду адзіночнага ліку былых асноў на *-а: на рольи — на роли; на земли — на земли; в десници — въ десници*; пранікненне канчатка *-евъ* у склонавыя формы некаторых назоўнікаў мужчынскага роду множнага ліку роднага склону з асновай на *-о: товаришевъ — товарищевь; мучителевъ — моучителевь;* ужыванне галосных *ы, и* ў формах некаторых неасабовых займеннікаў: *тые вѣщи — тыи вещи; кимъ — кымь; тые речи — тыѧ рѣчи; вси речи — вси рѣчи;* пашырэнне дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу на *-чи: чтȣчи — чтоучи; поведаючи — повѣдаючи; оумеючи — оумѣѫчи; примовлѧючи — примовлѧѫчи; видечи — видѧчи; хотечи — хотѧчи; грозѣчи — грозѧчи; знаючи — знаѫчи; видечи — видѣчи.*

Акрамя адзначаных асноўных арфаграфічна-фанетычных і марфалагічных асаблівасцей, якія знайшлі сваё адлюстраванне ў рукапісных спісах Жугаёва пад уплывам друкаваных біблейскіх кніг Скарыны, наглядаецца таксама скарынінскі лексічны ўплыў на мову яго паслядоўніка. Характэрна, што Жугаёў уключаў у свае рукапісныя спісы перш за ўсё тыя словы з выданняў Скарыны, якія былі тады агульнаўжывальнымі не толькі на Беларусі, але і Украіне. Для ілюстрацыі прывядзём некалькі лексічных адпаведнасцей з аналізуемых крыніц, якія аказаліся ўстойлівымі ў беларускай і ўкраінскай мовах і захаваліся ў іх да апошняга часу: *ведати — вѣдати; вѣлми — велми; потребный — потрѣбный; свитанье — свитанїе; тѧжкий — тѧжкый; власный — властный; зрозумети — разумѣти; лепший — лѣпший; наигорший — наигоршїй; пametати — памѧтати; праца — праца; смачный — смачный; ȣтекати — оутѣкати; ȣчинити — оучинити; ораный — ѡраный; пребытокъ — прибытокъ; схилити — схылити; гукъ — гоукь; караный — караный; кохание — кохане; минулый—миноулый; моцнейший — моцнѣиший; помъста — помста; горший — гор-*

*ший; потреба — потрѣба; покой — покой; поразумети — поразумѣти.*

У друкаваных выданнях Скарыны адлюстраваліся некаторыя асаблівасці беларускай мовы, хоць царкоўнаславянскія моўныя элементы займаюць тут даволі прыкметнае месца. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што некаторыя з так званых беларусізмаў пад уплывам скарынінскіх выданняў пранік лі ў рукапісныя спісы Жугаёва. Так, па ўзору тэкстаў свайго папярэдніка Жугаёў часам пісаў *е* на месцы этымалагічнага *ѣ*: *терпение — тръпенїе; долготерпениѧ — длъготръпенїа; корениѧ — коренїа; телесные очи — телесныѧ очи; дние человеческые — днїе чл̃оческыи; нетлениѧ — нетленїа; терпениѧ — тръпенїа; болести — болести; наȣчениѧ — наоученїа; падениѧ — паденїа; надежу — надежоу; оумениѧ — оуменїа; человеческимъ — чл̃ческымь; веселиѧ — веселїа*[1].

Нягледзячы на тое што зычны гук *ц* у рукапісных спісах Жугаёва пераважна захоўваў сваю спрадвечную мяккасць, часам пад уплывам скарынінскіх тэкстаў Жугаёў ужываў цвёрдае *ц*: *репица — рѣпица; два... козѣлца — два... козелца; серъца — ср̃дца; палица* (у скарынінскім тэксце памылкова *лапица*) — *палица; ко любыдеицамъ — къ любодеицамь; пьѧница — пїаница.*

Праўда, Жугаёў нярэдка парушаў скарынінскія лексіка-граматычныя нормы, але не ў напрамку збліжэння з жывой народнай мовай, як да гэтага імкнуўся Скарына, а ў напрамку аднаўлення царкоўнаславянскай моўнай стыхіі.

Пражскія выданні паслужылі асновай для ўзнікнення Тарнопальскага рукапіснага спіса 1569 г. З гэтым рукапісам пазнаёміўся П. У. Уладзіміраў у бібліятэцы Красінскіх у Варшаве. Па яго словах, названы рукапіс змяшчае некаторыя кнігі старога і новага заветаў у такім парадку, у якім яны пададзены ў Скарыны. Праўда, імя Скарыны ў рукапісу не названа (яно заменена іменем перапісчыка Лукі), але там змешчана прыпіска, якая пераклікаецца з заканчэннем скарынінскіх пасляслоўяў, дзе Скарына называе сябе «ученымъ му-

[1] Важна мець на ўвазе, што ў некаторых выпадках замест *е*, якім Скарына замяняў этымалагічнае ѣ, Жугаёў пад уплывам украінскага вымаўлення пісаў *и*: *ежь — ижь; изъелъ — изьиль; осмотрети — ѡсмотрити; приехалъ — прїихаль; ехалъ — ихаль; ежьте — ижьте; свидетель — свидитель.*

жемъ изъ славного града Полоцка»: «Божою помощью, повеленїемъ же и пилностїю худаго человѣка на имѧ Луки въ неславнемъ градѣ Тернополѣ». Узнікненне Тарнапальскага спіса «Бібліі» на аснове скарынінскіх выданняў прызнаецца многімі даследчыкамі — М. Грушэўскім, М. Вазняком, У. Пічэтам, А. В. Фляроўскім.

Аб папулярнасці скарынінскіх выданняў на Украіне сведчыць таксама рукапісны спіс, напісаны «пісарчыкам» Дзмітрыем з Зянькова (Падолле) у 1575 г. На гэта ўказвае прыпіска, змешчаная ў канцы Маісеевых кніг, дзе гаворыцца: «Доконаны соуть пѧтыи книги Моvсеѡвы... божїею помощїю по Въплощенїи Слова Бжїа с прстои Двци Марїи лѣтъ тысѧща пѧтсотъ седмдесѧть пѧтого Мсца Ноемв. ѳї днѧ Дмитро изъ Ѕѣнкова писарчикъ». Названы рукапіс, напісаны паўуставам XVI ст., выявіў Я. Ф. Галавацкі ў Львоўскай бібліятэцы Свята-Ануфрыеўскага манастыра. У ім змешчаны наступныя скарынінскія кнігі старога завету: кніга «Быццё», кніга «Ісход», кніга «Левіт», кніга «Лічбы», «Другазаконне», кніга «Ісуса Навіна», кніга «Суддзяў», кніга «Руф» і кнігі «Царстваў». Акрамя таго, у рукапісу знаходзяцца нявыдадзеныя кнігі Скарыны — дзве кнігі «Параліпаменон», кніга «Ездры», кніга «Товія», першая няпоўная кніга «Макавеяў». Даследчыкі адзначаюць, што па прыёмах перакладу яны маюць шмат агульнага са скарынінскімі перакладнымі тэкстамі з чэшскай бібліі 1506 г.[1]

Рукапісны спіс «пісарчыка» Дзмітрыя тэкстуальна супадае з выдадзенымі скарынінскімі біблейскімі кнігамі, нават з яго прадмовамі і пасляслоўямі, але без захавання імя Скарыны. Параўнаем з гэтага пункту гледжання пачатак і канец прадмовы з кнігі «Ісход» па выданню Скарыны і рукапіснаму спісу 1575 г.

| *Выданне*: | *Рукапіс*: |
| --- | --- |
| Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцка во | Предисловїе въ книги исходъ Моисеѡвы. Сїи соуть вторыи кни- |

[1] А. В. Флоровский. Чешская библия в истории русской культуры и письменности. «Sborník filologický», III, sv. XII. Praha, 1940—1946, стар. 221. У навуковай літаратуры выказвалася меркаванне, што адзначаныя нявыдадзеныя Скарынай кнігі, «магчыма, адносяцца да страчаных частак скарынінскага перакладу поўнай бібліі» (П. П. Охрименко. К вопросу о влиянии Г. Скорины на украинскую книжность XVI века. Ученые записки Гомельского гос. пед. ин-та, вып. II. Минск, 1956, стар. 125.

книги Исходъ Моисеωвы: Сие суть вторыи книги Моисеωвы еже от евреи называютсѧ Гел'лесмот' тако ꙋбо и^х ꙗзыком' коим' починают'. Пишет' же в си^х книгахъ Моисеи... Кивот' пакъ Гречески, или с'кринѧ завета со двема Херувимы, еже стоꙗла во стаѧ с'ветых'. Таину живонач͠ал'ное троици отца, и сына и ст͠го духа в' сер'дци всѧко^г добро^г хре^стиана знаменала: Конѣць прѣд'словию лл. 1б, 4б).

ги Моисеωвы еже от евреи называютсѧ Геллесмоть, тако оубо ихъ ꙗзыкомъ своимъ починають, пишеть же в' сихъ книгахъ Моѵсеи... кивотъ пакъ греческыи, или скрынѧ завѣта съ двѣма хероувыми, еже стоала въ с͠таа стыхъ, таиному живоначалнои тр^оци ωц͠а и сн͠а и ст͠го дх͠а въ ср^дци всѧкого добраго хр^сͨанина знаменала. Конецъ предисловїю (л. 31б).

Рукапісны спіс «пісарчыка» Дзмітрыя ў моўных адносінах некалькі адрозніваецца ад друкаваных выданняў Скарыны. Скарына, як вядома, імкнуўся па магчымасці адлюстраваць у біблейскіх тэкстах найбольш характэрныя рысы беларускай мовы. «Пісарчык» Дзмітрый часцей захапляўся некаторымі царкоўнаславянскімі і нават старaславянскімі моўнымі асаблівасцямі, уласцівымі большасці тагачасных царкоўна-рэлігійных помнікаў Украіны.

Прадаўжэннем рукапісу «пісарчыка» Дзмітрыя з'яўляецца спіс, які ўзнік «в неславнѣмъ градѣ Маначинѣ» [1]. Мяркуюць, што і гэты рукапіс узыходзіць да скарынінскіх перакладаў.

Другім немалаважным аспектам скарынінскага ўплыву на староўкраінскую пісьменнасць з'яўляецца ажыццяўленне перакладаў на Украіне тэкстаў свяшчэннага пісання на народную мову. Да найбольш ранніх узораў староўкраінскіх помнікаў гэтага тыпу належыць «Перасопніцкае евангелле» (1556—1561). Стваральнікі гэтага твора — паповіч Міхаіл Васільевіч і архімандрыт Перасопніцкага манастыра Рыгор — па ўзору свайго папярэдніка Скарыны кіраваліся не толькі жаданнем перакласці на «простую» мову кананічныя тэксты свяшчэннага пісання, але і грамадскай карыснасцю свайго перакладу: «А иже есть прекладана таѧ свѧтаа еѵангелїа изь ѧзыка блъгарскаго на мовоу роускоую... длѧ лепшого вырозуменѧ люду хр͠стїанского посполитого». Пры параўнанні «Перасопніцкага

[1] Рукапіс захоўваецца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (Збор Пагодзіна, № 85).

евангелля» з біблейскімі кнігамі Скарыны наглядаецца моўнае і кампазіцыйнае падабенства паміж імі. Асабліва гэта датычыцца пасляслоўяў-прыпісак, змешчаных у «Перасопніцкім евангеллі»[1], і скарынінскіх пасляслоўяў і анатацый да кожнай главы яго выданняў. Для нагляднасці прывядзём некалькі такіх паралелей.

*Біблейскія кнігі Скарыны*

Доконана есть книга рекомаѧ Ꙋдифъ. С помощию бога Въ троици единого. и матери его пречистое Девици Марии. Людемъ посполитымъ Руского ꙗзыка к пожитку (л. 26).

Доконана есть сиѧ Третиѧ Книга Премудраго Саломона... еже Рускимъ ꙗзыкомъ исказуетсѧ Песнь пѣснѧмъ. напредъ ко ч'ти ...людемъ посполитымъ всемъ к' пожитъку (л. 11б).

Глава д҃ поведаеть о чистомъ рожении людей праведныхъ ѡ щастии справедливыхъ. ѡ старости еже е҇ст чес'тна но нѣдолговѣчна ѡ погибели нечестивыхъ, и о смрти людеи праведныхъ (Кніга прамудрасці Саламона, л. 6).

Глава кѳ. Како ꙗковъ идѧ пꙋтемъ приде ко кладезу, и обрете тꙋ три стада и рахиль с ними и познавшисѧ с рахилемъ приде к лаванови отцꙋ еѧ и служилъ за рахиль сед'мь лѣтъ, но дали ему за жену Лию потомъ и рахиль, Лиѧ породила четыре сыны (Кніга Быцця, л. 52).

*«Перасопніцкае евангелле»*

доконана книга... луки... богу ку читаню, а посполитымъ людемъ ку доброму вырозуменю презь писара михаила василиевича зъ санока (л. 335).

дописана есть пръшаа часть наоуки еvглїистои... рукою леногрешнаго раба влд҇це хрс҇ту именемъ михаила василиевича. протопопы саноцко҇г Бгоу в' троици славимомоу коу чти, и людоу посполитомоу к доброи науце (л. 123б).

Еvг҇листа пов'ѣдае҇т. иже оучителеве оу добромь оученїи але не въ зло҇м животѣ мають наслѣдовани быти. тыжь ꙗкь примовлѧеть хс оучителемь закона а повѣдаеть и҇х быти морьдыре. апостоловъ от себе посланыхь. Гла҇в к҃ третиꙗ (л. 97).

ꙗкь їѡань ис темницѣ посламь ко ї҇сви оученикы своѧ. ꙗ҇к тыжь хс пре҇д народы его выславлѧе҇т. ꙗкь тыжь прети҇т мѣстомь некающимсѧ. и велбить отца своего и ꙗкь иго хво есть легко. Глава пръваанадесѧть (л. 52).

[1] Урыўкі з «Перасопніцкага евангелля» пададзены па рукапісу, які захоўваецца ў кіеўскай бібліятэцы Акадэміі навук УССР (№ 1, 15512).

Стваральнікі «Перасопніцкага евангелля» захапляліся таксама палеаграфічным і выдавецкім вопытам Скарыны. Так, некаторыя загалоўныя літары ў «Перасопніцкім евангеллі» напісаны па ўзору скарынінскіх старадрукаў. На гэту асаблівасць звярнуў увагу яшчэ А. Грузінскі, які пісаў, што «рысункі літар *м, к, л, р,* якія ўмяшчаюцца цалкам у радку, можна бачыць у друкаваных выданнях Скарыны» [1]. Прыведзеныя паралелі з кніг Скарыны і «Перасопніцкага евангелля», а таксама падабенства некаторых загалоўных літар у гэтых тэкстах пацвярджаюць у нейкай меры погляд П. У. Уладзімірава, які лічыў, што «ў «Перасопніцкім рукапісу» заключаецца перапрацоўка скарынінскага перакладу» [2]. Магчыма, стваральнікі «Перасопніцкага евангелля», акрамя іншых крыніц (царкоўнаславянскіх тэкстаў, чэшскай біблііі 1506 г., польскага перакладу «Евангелля» Секлюцыяна 1551 г. і Шарфенберга 1556 г.), карысталіся таксама друкаванымі выданнямі Скарыны.

Скарынінскія кнігі з'явіліся ўзорам і для некаторых украінскіх выданняў XVI ст. Прыкладам гэтага можа служыць «Астрожская біблія» (1580—1581), у якой поруч з маскоўскім уплывам (адным са спісаў «Генадзьеўскай бібліі» 1499 г.) заўважаецца таксама ўплыў скарынінскіх перакладаў. У распараджэнні выдаўцоў «Астрожскай бібліі» было шмат біблій, у тым ліку і скарынінскія біблейскія тэксты. Такія яго кнігі, як «Плач Ераміі» і кніга «Юдзіф» (без упамінання імя Скарыны), поўнасцю ўключаны ў «Астрожскую біблію». Пры гэтым неабходна агаварыцца, што астрожскія выдаўцы ставілі сваёй мэтай выдаць кнігу на царкоўнаславянскай мове, а таму яны правілі скарынінскія тэксты з улікам аднаўлення кніжнацаркоўнаславянізмаў. У выніку гэтага многія простанародныя словы, адлюстраваныя ў пражскім выданні, заменены ў астрожскім адпаведнымі кніжнацаркоўнаславянскімі эквівалентамі: *бой — брань; великий — велий; воевникъ — вой; вельмі — зѣло; народъ — ѧзыкъ; поведати — речи, възвѣстити; казати — глаголати; николи — никогда; опѧть — паки; естъли — аще; толико — токмо; наиболеи — наипаче; тридцеть —*

[1] А. Грузинский. Палеографические и критические заметки о «Пересопницком евангелии». ЖМНП, ч. XXXVIII, № 4, СПб, 1912, стар. 334—335.

[2] П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. СПб, 1888, стар. 237.

*тридесѧть; сего длѧ — сего ради; того длѧ — того ради; чему — чего ради; первеи — прежде; матка — матерь.*

Некаторыя марфалагічныя з'явы скарынінскіх тэкстаў выдаўцамі «Астрожскай бібліі» былі парушаны. Напрыклад, у радзе выпадкаў перфектныя формы, якім аддаваў перавагу Скарына, замяняліся традыцыйнымі кніжнымі аарыстычнымі формамі. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прывесці некалькі паралелей з кнігі «Плач Ераміі» па выданню Скарыны і «Астрожскай бібліі».

| *«Біблія» Скарыны* | *«Астрожская біблія»* |
| --- | --- |
| ѡтоврели на тѧ 8ста своѧ вси врази твои, Гвиздали и с'крипели зубы своими и рекли сожрем' ю (л. 6б). | отверзоша на тѧ оуста своѧ вси враѕи твои. позвиздаша и поскрежетали з8бы своими, и рѣша, поглотимъ ю (л. 120б). |
| Вопило е͡ст сер'це иͯх к' г͡с͡ду на стенахъ д'щеры сионѧ (л. 7). | Възопи ср͡дце ихъ къ б͡г8 на стѣнах' дщери сїонѧ (л. 120б). |
| Выпустилъ есть в лѧдви мое стрелы тула своего; и быхъ в посмехъ всем' людем' моим' и в' песнь вес' день: и накормилъ мѧ гор'костѧми и напоилъ мѧ пелыномъ (л. 8). | Исп8сти въ лѧдвїѧ моа стрѣлы т8ла своего, и быхъ въ смѣхъ всѣͯм людемъ, пѣснь ихъ весь д͠нь, насыти мѧ горести, и напои мѧ желчи (л. 121). |

Адвачная сувязь «Астрожскай бібліі» з друкаванымі кнігамі Скарыны назіраецца таксама ў супадзенні некаторых загалоўных літар у абодвух выданнях. Аб гэтым неаднаразова гаварылася ў навуковай літаратуры. Упершыню звярнуў увагу на гэта В. С. Сопікаў, які адзначыў, што ў «Астрожскай бібліі» «загалоўныя літары вельмі падобны да літар, змешчаных у Апостале і ў Псалтыру Францыска Скарыны» [1].

Сувязь скарынінскіх перакладаў з некаторымі творамі стараўкраінскай літаратуры назіраецца і ў іншых аспектах. Пра-

---

[1] В. С. Сопиков. Опыт российской библиографии или полный словарь сочинений и переводов, напечатанных на славенском и российском языках от начала заведения типографий до 1813 года. СПб, 1813, стар. XV—XVI. Гл. таксама: Д. Р. Ровинский. Русские гравюры и их произведения с 1564 года до основания Академии художеств. М., 1870, стар. 62; П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык, стар. 207; В. В. Стасов. Собр. соч., т. 11. СПб, 1894, стар. 171.

даўжальнікі справы Скарыны на Украіне папулярызавалі і развівалі ў сваіх творах асобныя скарынінскія настаўленні, выкладзеныя ім у прадмове да ўсёй «Бібліі». Найбольш паслядоўным выразнікам скарынінскіх думак быў украінскі публіцыст-палеміст І. Вішанскі. Яго пяру належыць «Зачэпка мудрага лацінніка» (1600—1617), дзе ён пераклікаецца са Скарынай, калі гаворыць аб свецкім характары навучання і адпаведнасці царкоўна-рэлігійнай літаратуры так званым «свабодным навукам». Для таго каб навучыцца грамаце, Скарына рэкамендаваў чытаць «Псалтыр», каб зразумець логіку — кнігу «Іова» або «Пасланне апостала Паўла», рыторыку — кнігу «Прамудрасці Саламона», музыку — кнігу «Песні песняў», арыфметыку — «чацвёртыя кнігі Маісеевы», геаметрыю — кнігу «Ісуса Навіна», астраномію — пачатак кнігі «Ісуса Навіна», кнігі «Царстваў» і «Евангелле». Па сутнасці ў такім жа плане, як і Скарына, выказваўся І. Вішанскі, які клапаціўся аб прыхільніках праваслаўя, каб яны не страцілі сваёй веры, і прапанаваў пры вывучэнні граматыкі (грэчаскай або славянскай) чытаць «Часасловец», рыторыкі — «Псалтыр», філасофіі — «Актаіх» і «Васьмігласнік», «прѣдспѣнія»— евангельскія і апостальскія пропаведзі. Для нагляднасці параўнаем наступныя ўрыўкі з прадмовы да «Бібліі» Скарыны і «Зачэпкі мудрага лацінніка» Вішанскага.

Скарына:

Хощеши ли ȣмети Граматику Или порускы говорѧчи Грамоту еже доб'ре чести и мовити ȣчить, знаидеши в зпол'нои Бивлии ѱал'тыру ч'ти ее. Пакли ти сѧ любить разумети Лоику, она же ȣчить з доводом' розознати правду от кривды. Чти Книгу светого Іова, Или Послaниѧ светого Апостола Павла. Ащелиже помыслиши ȣмети Риторику, еже естъ Красномов'ность, Чти Книги Саломоновы. А то суть три наȣки Словесные Восхощеш' ли пакъ ȣчитисѧ Музыки тоесть Певници, Премножес'тво стиховъ и Песнеи светыхъ, по всеи книзе сеи знаидеши.

Либо ли ти е$^{ст}$ ȣмети Арит'метикȣ, еже вократ'це а неомыл' не считати ȣчить. Четвертыи книги Моисеевы часто ч'ти. Пакliже имаши предъ очима наȣку, Геометрию, еже поруски сказуетсѧ, Землемерение, Чти Книги Ісуса Наȣвина. Естъли Ас'трономии или звездочети, наидеш' на почат'ку книги сее

о сотворении сол'неца и месеца и звездъ, Наидешъ во Исусе Наꙋвине, ꙗко стоꙗло сол'неце на единомъ месте за целыи день. Знаидешъ во книгахъ Цар͠ствъ, Цар͠ствъ, Иже сол'неце воспѧть постꙋпило неколико ступ'невъ. Знаидешъ во светомъ Еꙋван'гелии о новосотвореноu звезде часу нарожениѧ нашего спасителѧ І͠са Хр͠ста, Более воисьтинн'ꙋ чꙋдитисѧ превеликои божиеи моци мусишь ниж'ли ꙋчитисѧ. А то сꙋть сед'мъ наꙋкъ вызволеныхъ (лл. 3—3б).

Вішанскі:

Залецаю вам, православнымъ, правовѣрную школу, и пораду даю, чого сѧ учити имѣютъ, чтобы дѣти ваши спасли и по васъ благочестіе задержали, и христіянство своей вѣры не стратили. В первыхъ ключъ, или грецкую, или словенскую граматику, да учатъ. По граматицѣ же вомѣсто лживое діалектиты (зъ бѣлого черное, а зъ черного бѣлое перетворяти учащее) тогда бо учатъ богомолебного и праведнословнаго часословца; вомѣсто хитрорѣчныхъ силогизмъ и велерѣчивое реторики, тогда учатъ богоугодно молебный псалтырь вомѣсто философіи, надворнѣе и по воздуху мысль разумную скитатися зиждущее, тогда учатъ плачивый и смиреномудривый охтаикъ по нашему, церковнаго благочестія догматы осмогласник; также конечное и богоугодное предспѣяніе въ разумѣ, дѣлное богословіе; тогда учатъ святую евангельскую и апостольскую проповѣдь, с толкованіемъ простымъ, а не хитрымъ, не слухи (рѣчь упремудривши токмо) чесати словомъ проповѣднымъ, але силу Духа святого влачати в слышащихъ сердца.

Рэалізацыя літаратурна-пісьмовай спадчыны Скарыны на Украіне праяўлялася і ў тэрміналагічным аспекце — у перайманні ўкраінскімі пісцамі пераноснага значэння некаторых скарынінскіх слоў. Вядома, што Скарына ў пасляслоўях да друкаваных выданняў карыстаўся стандартнымі выразамі накшталт «вытиснена книга», «велѣлъ тиснути книгу», «доконана книга» і г. д. Разам з тым у «Апостале» сустракаецца выраз, у якім гаворыцца, што пасланне апостала Паўла да галатаў «Богу во троици прещедъромy выложено и выбито доктороmъ Францискомъ Скориною изъ града Полоцка». У прыведзеным кантэксце слова «выбіта» заменена словам «надрукавана» для таго, каб падкрэсліць друкаваны, а не рукапісны выгляд кнігі. Такое пераноснае значэнне гэтага слова,

якое адносіцца да скарынінскай эпохі і яго выданняў, сустракаецца ва ўкраінскай дзелавой пісьменнасці XVI ст. Можна меркаваць, што ў «Вопісу царкоўнай маёмасці Кіева-Пячэрскага манастыра» 1554 г. выраз «бітая кніга» знайшоў сваё адлюстраванне пад уплывам скарынінскага «Апостала»: «Уставы два, а третея полуставъ битая».

Падагульняючы сказанае, можна канстатаваць, што кнігадрукарская і асветніцкая дзейнасць Скарыны, атрымаўшы агульнаславянскую вядомасць, мела вялікае значэнне для навукова-культурнага развіцця не толькі Беларусі, але і Украіны. Яго літаратурна-пісьмовае багацце з'явілася ўзорам і матэрыялам для ўзнікнення аналагічных рукапісных спісаў на Украіне. Скарынінскія выданні аказвалі таксама дабратворны ўплыў на развіццё ўкраінскага кнігадрукавання. Гэта становіцца відавочным пры тэкстуальным параўнанні пражскіх выданняў Скарыны з узнікшымі на іх аснове ўкраінскімі рукапіснымі і старадрукаванымі тэкстамі. Скарынінскі стыль выкладання, некаторыя тэрміналагічныя словы і загалоўныя літары яго друкаваных выданняў, а таксама важнейшыя настаўленні, выказаныя ім у прадмовах і пасляслоўях да біблейскіх тэкстаў, папулярызаваліся і развіваліся ў творах тагачаснай і пазнейшай украінскай літаратуры.

Смелая спроба Скарыны ўвесці народную мову ў біблейскія кнігі і зрабіць іх даступнымі простым людзям знайшла шырокі водгук і падтрымку не толькі на Беларусі, але і на Украіне. Разам з тым неабходна адзначыць, што не ва ўсіх украінскіх друкаваных выданнях і рукапісных спісах, узнікаўшых на аснове скарынінскіх кніг, адлюстраванне асаблівасцей народнай мовы было аднолькавым. Гэта залежала ад складаных культурных і палітычных умоў жыцця беларускага і ўкраінскага народаў на працягу доўгага часу.

Літаратурна-пісьмовая спадчына геніяльнага вучонага-асветніка Скарыны па разнастайнасці пытанняў, цікавасці і глыбіні думак, па майстэрству выкладу адыграла вялікую ролю ў далейшым развіцці не толькі ўкраінскай, але і ўсёй усходнеславянскай культуры. Аднак для правільнага разумення культурна-асветніцкага ўкладу Скарыны, у прыватнасці яго кнігадрукарскай дзейнасці, распачатай у чэшскай Празе і прадоўжанай у Вільні, неабходна напомніць, што ў эпоху Сярэдневякоўя царкоўна-рэлігійныя творы рабілі культурны пераварот у жыцці прыхільнікаў праваслаўя: такая літаратура

садзейнічала абуджэнню самасвядомасці. У сувязі з гэтым складваліся спрыяльныя ўмовы для далейшай паспяховай барацьбы простага народа супраць феадальнага рабства. І калі «ўсякая барацьба супраць феадалізму,— паводле слоў Ф. Энгельса,— павінна была тады прымаць рэлігійнае ўбранне» [1], то не прыходзіцца здзіўляцца таму, што Скарына яшчэ ў пачатку XVI ст. звярнуўся да перакладу царкоўна-рэлігійнай літаратуры на народную мову. Ужо тады абаронцы праваслаўнай веры паступова прывыкалі чытаць біблейскую літаратуру на зразумелай ім мове і чуць яе ў час рэлігійных набажэнстваў.

Здалёк гучалі блізкія ўсім патрыятычныя скарынінскія словы, выказаныя ім у прадмове да кнігі «Юдзіф», дзе найбольш ярка праявіліся яго любоў і павага да роднай зямлі: «Понеже от прирожениѧ Звери ходѧщие въ пустыни знають ꙗмы своѧ. Птици летающие по воздухꙋ ведають гнезда своѧ. Рибы плывающие по морю и в рекахъ чують виры своѧ. Пчелы и тымъ подобнаѧ боронѧть ꙋльевъ своихъ. Такожъ и люди и где з'родилисѧ и ꙋскор'млены суть по бозе к' тому месту великую ласку имають».

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Избр. произв. в двух томах, т. II. М., 1955, стар. 94.





А. І. ЖУРАЎСКІ

# Мова друкаваных выданняў Ф. Скарыны



Скарынінская эпоха ў гісторыі беларускай культуры вядома як перыяд значнага пашырэння грамадска-культурных функцый беларускай літаратурнай мовы і інтэнсіўнай выпрацоўкі яе арфаграфічных, граматычных і лексічных норм. Беларуская пісьмовая мова таго часу, стаўшы дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім, надзейна замацавала свае пазіцыі ў сферы дзелавога ўжытку. Яна выкарыстоўвалася таксама для задавальнення духоўных запатрабаванняў тагачаснага адукаванага грамадства, на ёй ствараліся арыгінальныя летапісы і іншыя мастацкія творы, на беларускую мову перакладаліся і папулярныя ў сярэднія вякі воінскія аповесці накшталт «Александрыі» і «Траянскай гісторыі». Узмацненне ролі беларускай літаратурнай мовы асабліва выразна выявілася ў выкарыстанні яе і для рэлігійных мэт, аб чым сведчаць пераклады такіх апакрыфічных і агіяграфічных твораў, як «Пакуты Хрыста», «Аповесць аб трох каралях-валхвах» і «Жыціе Аляксея, чалавека божага».

Пашырэнне грамадскіх і культурных функцый беларускай літаратурнай мовы таго часу суправаджалася няўхільным пра-

цэсам дэмакратызацыі яе шляхам свядомага або стыхійнага выцяснення з пісьмовай мовы архаічных старарускіх і царкоўнаславянскіх моўных рыс і замены іх адпаведнымі сродкамі жывой беларускай мовы. Адзначаны працэс найбольш актыўна ажыццяўляўся ў свецкай пісьменнасці, але неўзабаве ён распаўсюдзіўся і на рэлігійную літаратуру. Гэта перш за ўсё і складае адметную асаблівасць гісторыі беларускай літаратурнай мовы пачатковай эпохі яе самастойнага існавання і прынцыпова адрознівае яе ад тагачаснай літаратурна-пісьмовай мовы Маскоўскай Русі, дзе ў сувязі з так званым другім паўднёваславянскім уплывам дзейнічала тэндэнцыя адваротнага характару.

Істотнай асаблівасцю развіцця беларускай пісьменнасці было таксама і тое, што на беларускай глебе значнаму ўздзеянню з боку народнагутарковага субстрата падверглася і царкоўнаславянская мова, якая на працягу ўсяго старажытнага перыяду заставалася афіцыяльнай мовай праваслаўнай царквы. Насычэнне царкоўнаславянскіх тэкстаў граматычнымі і лексічнымі беларусізмамі ў канчатковым выніку прывяло да ўзнікнення асобнай, беларускай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы. Беларускі першадрукар і асветнік Францыск Скарына якраз і аказаўся адным з пачынальнікаў гэтага прагрэсіўнага для свайго часу моватворчага працэсу.

Выдавецка-перакладчыцкая дзейнасць Скарыны і мова яго выданняў ужо даўно звярнулі на сябе ўвагу даследчыкаў, аднак і да нашага часу сярод вучоных няма адзінства ў ацэнцы мовы яго кніг з боку яе структуры. Адсутнасць адзінства пры характарыстыцы мовы Скарыны тлумачыцца перш за ўсё пэўнай аднабаковасцю ў вывучэнні яго пісьмовай спадчыны. Па-першае, пры вывучэнні мовы Скарыны даследчыкі звяртаюцца звычайна да яго перакладных пражскіх выданняў, пакідаючы ў баку «царкоўнаславянскія» скарынінскія кнігі — «Псалтыр», «Апостал» і «Малую падарожную кніжыцу». Па-другое, літаратурная спадчына Скарыны прыцягвае да сябе ўвагу галоўным чынам з пункту погляду адлюстравання ў ёй рыс жывой беларускай мовы таго часу. Напластаванні ж іншых моўных стыхій, іх удзельная вага і стылістычная роля ў агульнай сістэме мовы Скарыны, як правіла, застаюцца ў баку. Па-трэцяе, вывучэнне мовы Скарыны звычайна праводзіцца без супастаўлення яе з моўнымі сродкамі беларускай літаратурнай мовы папярэдняга і наступнага перыядаў. Нарэшце, даклад-

наму вырашэнню пытання аб мове Скарыны перашкаджае і адсутнасць адзінай методыкі даследавання: гісторыкі і літаратуразнаўцы звычайна пры ацэнцы мовы Скарыны зыходзяць галоўным чынам з яе функцыянальнай ролі, тады як большасць мовазнаўцаў аддаюць перавагу аналізу суадносін структурных элементаў у сістэме мовы скарынінскіх выданняў.

Важнейшым даследаваннем мовы Скарыны да сучаснага моманту застаецца спецыяльны раздзел П. У. Уладзімірава ў яго манаграфіі аб Скарыне [1]. Скарынінскія выданні Уладзіміраў разглядаў як помнікі беларускай гутаркі пачатку XVI ст. Але рэцэнзенты Уладзімірава зусім слушна адзначалі, што характарыстыка мовы Скарыны ва Уладзімірава атрымалася невыразнай, і для чытача засталося няясным, ці ў выданнях Скарыны сапраўды трэба бачыць гутарковую мову адукаваных беларусаў таго часу або гэта быў штучны жаргон, утвораны з эклектычнага спалучэння беларускай, царкоўнаславянскай, польскай і чэшскай стыхій [2]. Уладзіміраў добрасумленна выбраў з выданняў Скарыны важнейшы беларускі моўны матэрыял, але ён менш за ўсё цікавіўся тым, якое месца займае гэты матэрыял у сістэме скарынінскай мовы. Некалькі пазней Уладзіміраў, відавочна, улічыўшы заўвагі сваіх рэцэнзентаў, больш стрымана выказаўся аб мове беларускага першадрукара: характарызуючы Скарыну як пачынальніка літаратурнай мовы паўднёва-заходняй Русі, даследчык адзначыў, аднак, што мова яго выданняў змешаная, неапрацаваная, але ў ёй адлюстроўваюцца элементы беларускай гаворкі [3].

Многія пазнейшыя даследчыкі свае назіранні над мовай Скарыны грунтавалі выключна або пераважна на матэрыяле Уладзімірава і імкнуліся далей развіць погляд на Скарыну як на пачынальніка беларускай літаратурнай мовы старажытнага перыяду. Заснавальніка беларускай літаратурнай мовы старажытнага перыяду ў асобе Скарыны схільны бачыць Ц. Лам-

---

[1] П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. СПб, 1888, стар. 247—317.

[2] A. Murko. Zur russischen Literaturgeschichte. «Archiv für slavische Philologie», zwölfer Band. Berlin, 1890, стар. 256—257; А. Будилович. Сочинения профессора П. В. Владимирова: А. Житие Алексея, человека божия, Б. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. Записки имп. Академии наук, т. 69, кн. 1. СПб, 1892, Приложения, стар. 34.

[3] Энциклопедический словарь. Издатели Ф. А. Брокгауз, И. А. Ефрон, т. XXX. СПб, 1900, стар. 228.

цёў [1]. Падобную ацэнку Скарыне даў і М. А. Алексютовіч, на думку якога Скарына быў першым дзеячом беларускай культуры, які выкарыстаў моўны матэрыял народа і ўвёў у літаратуру асноўныя рысы беларускай мовы [2]. Гіпербалізаваны характар гэтых меркаванняў абгрунтавана быў ускрыты Л. М. Шакуном, але і сам гэты даследчык у пэўнай меры аддае даніну сваім папярэднікам, сцвярджаючы, што з дзейнасцю Скарыны звязан працэс далейшага замацавання ў старажытнай беларускай пісьменнасці важнейшых фанетычных і граматычных асаблівасцей жывой беларускай гаворкі, яе лексікі і фразеалогіі, развіццё і ўдасканаленне сродкаў і прыёмаў літаратурнага выражэння за кошт кніжнаславянскіх стыляў і народнай мовы [3]. Беларускай вызначае мову Скарыны і С. Майхровіч, хоць ён і не лічыць Скарыну заснавальнікам беларускай літаратурнай мовы [4].

Аднак яшчэ задоўга да Уладзімірава польскі мовазнаўца С. Б. Ліндэ, азнаёміўшыся з урыўкамі са скарынінскіх выданняў, сцвярджаў, што ў перакладах Скарыны царкоўнаславянская мова значна перавышае беларускую [5]. Больш катэгарычна аб царкоўнаславянскай аснове выданняў Скарыны выказаўся буйнейшы гісторык рускай мовы канца мінулага стагоддзя А. І. Сабалеўскі [6]. Думку Сабалеўскага пазней цалкам падзяляў і Я. Воўк-Левановіч, які гаварыў, што ў Скарыны ў асноўным царкоўнаславянская мова з моцным элементам жывой беларускай мовы і са слядамі літаратурнага ўплыву чэшскай і польскай моў [7]. Французскі славіст А. Мартэль таксама лічыў, што Скарына ў сваёй дзейнасці не мог кіравацца свядомым імкненнем зрабіць зразумелай традыцыйную мову бібліі, па-

---

[1] Ц. Ломцаў. Скарына як пачынальнік беларускай літаратурнай мовы. «Беларусь», 1945, № 3.

[2] М. А. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мінск, 1958, стар. 66.

[3] Л. М. Шакун. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1963, стар. 126—127.

[4] С. Майхровіч. Георгій Скарына. Мінск, 1966, стар. 137—165.

[5] S. B. Linde. O statucie litewskim ruskim językiem i drukiem wydanym wiadomość. Warszawa, 1816, стар. 19.

[6] А. И. Соболевский. «Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык». Исследование П. В. Владимирова. ЖМНП, 1888, кастрычнік стар. 326—328.

[7] Я. Воўк-Левановіч. Мова выданняў Францішка Скарыны. 400-лецце беларускага друку. Мінск, 1926, стар. 263.

колькі сам Скарына рэкамендаваў сваім чытачам вывучаць граматыку па «Псалтыру», які выдадзены быў ім на царкоўнаславянскай мове [1]. Царкоўнаславянскую аснову скарынінскіх выданняў прызнае і буйнейшы сучасны скарыніст чэшскі даследчык А. В. Флароўскі [2].

Апрача таго, некаторыя даследчыкі вызначалі мову Скарыны як штучную, эклектычную сумесь элементаў царкоўнаславянскай, беларускай, польскай і чэшскай моў [3].

Няма ніякага сумнення, што адносна дакладнае ўяўленне аб мове выданняў Скарыны можна атрымаць толькі на аснове спецыяльнага аналізу ўсіх яго кніг. Акрамя таго, вывады па гэтаму пытанню могуць быць надзейнымі і пераканальнымі, калі яны будуць грунтавацца не на выбарачным матэрыяле, а на падставе вывучэння сукупнасці ўсіх моўных фактаў як сістэмы. Першаступеннае значэнне пры гэтым павінна мець квантытатыўная ацэнка фактычнага матэрыялу. Усё гэта, аднак, патрабуе спецыяльнага манаграфічнага вывучэння мовы Скарыны, таму ў сучасны момант можна толькі абмежавацца меркаваннямі агульнага характару.

Звычайна прынята лічыць, што «Псалтыр», «Апостал» і «Малую падарожную кніжыцу» Скарына выдаў на царкоўнаславянскай мове. Аднак вядома, што ў гэтых сваіх выданнях паасобныя незразумелыя царкоўнаславянскія словы Скарына забяспечыў тлумачэнннямі на палях адпаведнымі эквівалентамі тагачаснай беларускай літаратурнай мовы [4]. Пры аналізе царкоўнаславянскага тэксту скарынінскіх выданняў звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што многія царкоўнаславянскія словы, якія ў тагачаснай беларускай пісьмовай мове мелі свае адпаведнікі ад іншых кораняў, пакінуты Скарынай без

---

[1] A. Martel. La langue polonaise dans les pays ruthènes, Ukraine et Russie Blanche, 1569—1667. Lille, 1938, стар. 104—105.

[2] А. В. Флоровский. Чешская библия в истории русской культуры и письменности. «Sborník Filologický», sv. XII. Praha, 1940—1946, стар. 169.

[3] Я. Ф. Головацкий. Несколько слов о библии Скорины и о рукописной русской библии из XVI столетия. «Науковый сборник галицко-русской матицы», вып. IV. Львов, 1865, стар. 251; С. Булич. Церковнославянские элементы в современном литературном и народном русском языке, ч. I. СПб, 1893, стар. 400.

[4] Глосы скарынінскіх выданняў падрабязна разгледжаны М. Р. Суднікам у даследаванні «Гісторыя ўзнікнення і этапы развіцця беларускай лексікаграфіі старажытнай пары». Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР, вып. IV. Мінск, 1957, стар. 83—91.

тлумачэння, напрыклад назоўнікі *брение, десница, плесна, суета, чертогъ,* прыметнікі *нищий, суетный, тщетный,* дзеясловы *глаголати, гнушатисѧ, просвещати, смирити, ублажити, уповати,* прыслоўі *внегда, воспѧть, дондеже* і інш. Таму можна меркаваць, што падобныя лексічныя сродкі царкоўнаславянскай мовы Скарына адносіў да ліку зразумелых для чытача свайго часу і таму не лічыў неабходным суправаджаць іх тлумачэннямі. Такое дапушчэнне пацвярджаецца і некаторымі дадатковымі меркаваннямі. З пункту погляду свайго паходжання большую частку скарынінскіх глос складаюць словы, якія былі ўласцівы жывой беларускай мове часоў Скарыны: *бубенъ, горнецъ, долина, лось, осотъ, полудень, узгорокъ, усеница* і інш. Разам з тым у якасці тлумачальных слоў Скарына выкарыстоўваў і лексіку царкоўнаславянскага паходжання, напрыклад, *власеница, западъ, пропасть, страна, воставати, испытати, упредити.*

Такія адносіны Скарыны да выданага тэксту паказваюць, што ён адчуваў пэўную блізкасць паміж царкоўнаславянскай і беларускай пісьмовымі мовамі свайго часу. Гэта блізкасць паміж імі абумоўлена была двухбаковымі тэндэнцыямі. У беларускай пісьмовай мове часоў Скарыны граматычныя формы і лексічныя сродкі царкоўнаславянскай мовы складалі яшчэ састаўную частку, хоць іх тут было ўжо значна менш у параўнанні са старарускай мовай. З другога боку, царкоўнаславянская пісьмовая мова на Беларусі падвяргалася моцнаму ўздзеянню з боку народнай мовы і тым самым яна ў пэўнай меры збліжалася з беларускай пісьмовай мовай. Яркім узорам такіх царкоўнаславянскіх помнікаў, дзе ў значнай меры адлюстраваўся беларускі народнагутарковы субстрат, якраз і з'яўляюцца царкоўнаславянскія выданні Скарыны — «Псалтыр», «Апостал» і «Малая падарожная кніжыца». Важнейшыя моўныя асаблівасці гэтых выданняў вельмі рэльефна выяўляюцца пры параўнанні іх з адпаведнымі часткамі «Астрожскай бібліі» 1581 г., дзе знайшоў сваё адлюстраванне той тып царкоўнаславянскай мовы, што служыў эталонам для ўсёй усходнеславянскай кніжнасці таго часу [1].

---

[1] «Астрожская біблія», як вядома, грунтуецца на спісе, які быў прыслан з Масквы князю Канстанціну Астрожскаму царом Іванам Грозным. Гэты спіс вельмі блізкі да вядомай «Генадзьеўскай бібліі» 1499 г. і, такім чынам, адлюстроўвае царкоўнаславянскую мову эпохі, блізкай да скарынінскай.

З другога боку, параўнанне пералічаных выданняў Скарыны з яго перакладнымі біблейскімі кнігамі дае магчымасць выявіць асаблівасці мовы гэтых дзвюх груп скарынінскіх кніг.

Не ўсе адлюстраваныя ў тэкстах Скарыны мясцовыя беларускія рысы маюць аднолькавае значэнне для гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Некалькі выпадкаў акання, спарадычнае адлюстраванне пераходу *у* ў *ў*, пратэтычнае *в*, якое ў жывой мове ўзнікае для ліквідацыі знешняга гіятуса пасля прыназоўніка *у* перад пачатковым галосным наступнага слова, і прыстаўны гук *и* вельмі далёкія ад арфаграфічнай нормы і практычна не маюць значэння пры характарыстыцы моўнай сістэмы гэтых выданняў. Адзначаныя і падобныя рысы, як слушна заўважыў Я. Воўк-Левановіч, з'яўляюцца толькі сведчаннем таго, што для жывой беларускай мовы часоў Скарыны ўжо характэрны былі важнейшыя фанетычныя асаблівасці, уласцівыя і сучаснай беларускай мове.

Больш прыкметныя адрозненні ад тэксту «Астрожскай біблії» адзначаюцца ў галіне граматычнага ладу ўсіх скарынінскіх выданняў, аднак размяркоўваюцца яны тут неаднолькава. Іх значна менш у царкоўнаславянскіх тэкстах, затое асабліва многа ў перакладных біблейскіх кнігах.

Так, у сістэме назоўніка «Псалтыра» і «Апостала» выдзяляюцца формы роднага склону множнага ліку розных тыпаў асноў з канчаткам *-ей (безаконей, болезней, дщерей, кровей, людей, мужей, скорбей)*, якім у «Астрожскай біблії» адпавядаюць формы з канчаткам *-їй (безаконїй, болѣзнїй, дщерїй, кровїй, людїй, мужїй, скорбїй)*. Паслядоўна вылучаюцца таксама формы займеннікаў давальнага і меснага склонаў *тобѣ, собѣ* ў адпаведнасці з формамі *тебѣ, себѣ* «Астрожскай біблії». Скарына свабодна аддае перавагу поўным формам асабовых займеннікаў *мнѣ, менѣ, тобѣ, тебѣ, насъ, васъ,* тады як у адпаведных месцах «Астрожскай біблії» захоўваюцца старыя энклітычныя формы *ми, мѧ‘ ти, тѧ, ны, вы.*

У скарынінскіх выданнях прыметнікі і дзеепрыметнікі з асновай на мяккія і шыпячыя зычныя ў формах роднага склону часта ўжываюцца з канчаткам *-его* накшталт *ближнего, венчающего, вышнего, вразумившего, нищего, оклеветающего, помагающего.* Такіх форм зусім не ведае «Астрожская біблія». Яркую беларускую афарбоўку скарынінскім выданням надае канчатак *-ие* ў дзеепрыметніках назоўнага склону множнага ліку: *безаконствующие, веровавшие, живущие, идущие, изго-*

*нѧющие, любѧщие, служащие, стрегущие, стѹжающие, уповающие, хвалѧщие.* Гэты канчатак таксама не быў уласцівы царкоўнаславянскай мове.

Царкоўнаславянскія выданні Скарыны рэзка адрозніваюцца ад «Астрожскай біблії» паслядоўным выкарыстаннем мяккага канчатка *-ть* у формах 3-й асобы абодвух лікаў цяперашняга і будучага часу: *будеть, живеть, зрить, любить, навчить, осенить, пишеть, призоветь, стоить, хощеть, видѧть, прорекуть, оузрѧть.* У Скарыны, як і ў царкоўнаславянскай мове пазнейшага часу, формы загаднага ладу 2-й асобы множнага ліку выступаюць выключна з уніфікаваным канчаткам *-ите* незалежна ад характару асновы: *внидите, возмитесѧ, идите, имите, прїимите, принесите, пожените.* Новыя формы загаднага ладу на *-ите* зрэдку трапляюцца і ў «Астрожскай біблії», але асноўнай нормай тут яшчэ выступае стары канчатак *-ѣте,* як у формах *внидѣте, възмѣтесѧ, идѣте, имѣте, поженѣте, прїимѣте, принесѣте.* Для Скарыны характэрны таксама аглютынатыўныя формы загаднага ладу 2-й асобы множнага ліку без тэматычнага *-и-* перад фармантам *-те: видьте, избавте, исчезньте, оставте, очистьте, слыште, сѹдьте.*

У сістэме прошлага часу скарынінскіх выданняў назіраюцца частыя выпадкі ўжывання перфекта ў такіх кантэкставых умовах, дзе ў «Астрожскай біблії» захоўваюцца формы аорыста або імперфекта, напрыклад, у Скарыны *былъ* — у «Астрожскай біблії» *бѣ,* адпаведна *забылъ — забы, избавилъ — избави, кѹпилъ — кѹпи, обратилъ — обрати, основалъ — основа, позналъ — позна, поразилъ — порази, возложили — възложиша, послали — послаша, искали — искахѹ, просили — прошахѹ.* Многім аарыстычным формам «Астрожскай біблії» ў Скарыны часта адпавядаюць перфектныя ўтварэнні са звязкай адпаведнай асобы: *забы — забылъ естъ, слышахъ — слышалъ есмъ, солга — солгалъ есь, положи — положилъ еси, видѣша — видели сѹть, прїидоша — пришли суть.*

Сутнасць лексічнай апрацоўкі «Псалтыра» Скарына ахарактарызаваў у прадмове да гэтай кнігі, дзе ён гаворыць: «положилъ есми на боцехъ некоторыи слова длѧ людей простыхъ, не рушаючи самое ѱалътыри ни в чемъ же». Аднак параўнанне скарынінскіх «Псалтыра» і «Апостала» з адпаведнымі тэкстамі «Астрожскай біблії» паказвае, што паміж слоўнікавым саставам гэтых помнікаў існуе прыкметнае адрозненне. Скарынінскія выданні вылучаюцца тым, што многім незразумелым

царкоўнаславянскім словам «Астрожскай бібліі» тут адпавядаюць лексічныя сродкі тагачаснай беларускай літаратурнай мовы.

З пункту погляду свайго паходжання і структуры гэты скарынінскі лексічны матэрыял можна падзяліць на дзве групы. Першую з іх, найбольшую па колькасці, утвараюць словы, якія адрозніваюцца ад адпаведных царкоўнаславянскіх слоў сваімі каранямі: у Скарыны — *бокъ*, у «Астрожскай бібліі» — *страна*, адпаведна *бедный — нищий, ближний — искреиий, более — паче, видети — зрети, всегда — выну, годъ — лѣто, господаръ — владыка, дивитисѧ — чюдитисѧ, добрий — благий, евнухъ — каженикъ, естъли — аще, злый — лукавый, знаити — обрѣсти, идȣщий — грѧдȣщий, кожеделъ — усмарь, купити — стѧжати, крепость — держава, листъ — послание, миловати — щедрити, миловникъ — ревнитель, милость — щедрота, мнити — непщевати, мусити — подобати, мовца — риторъ, наведити — посѣтити, надармо — всȣе, надежа — оупованїе, народъ — ꙗзыкъ, негодно — нелѣпо, носило — одръ, околный — окрестный, обувь — плесница, олтарь — жертвеникъ, поведати — глаголати, погонити — пожеиути, подоптати — попрати, поле — село, полкъ — спира, правило — кормилце, пребывати — обитати, розмыслити — внимати, свитанїе — оутреница, скоро — абїе, слово — глаголъ, прозба — мольба, стогнание — стенанїе, столъ — трапеза, сынъ — отрокъ, темница — оузлище, хȣление — гажденїе, часъ — времѧ, чародейникъ — влъхвъ, чинити — творити, шиꙗ — выа, ꙗ — азъ* і г. д.

Да другой групы скарынінскіх неалагізмаў адносяцца словы, якія па сваіх каранях супадаюць з агульнаславянскай лексікай, але адрозніваюцца ад яе сваімі словаўтваральнымі сродкамі — суфіксамі ці прыстаўкамі — або характарызуюцца спецыфічным для беларускай мовы фанетычным афармленнем: *болесть — болѣзнь, великий — велий, вывести — извести, выбрати — избрати, далеко — далече, дщера — дщи, жедати — желати, жизнь — животъ, забити — оубити, злость — злоба, писмо — писанїе, правота — правда, приклонити — оуклонити, сирота — сиръ, тайно — отаи, тишинѧ — тишина, трежды — трищи, царство — царствїе* і інш.

Значная колькасць граматычных і лексічных беларусізмаў у «Псалтыры» і «Апостале» Скарыны істотна адрознівае гэтыя выданні з боку мовы ад традыцыйных царкоўнаславянскіх тэкстаў усходнеславянскай рэдакцыі. Тым не менш гэтыя кнігі

Скарыны нельга назваць перакладам на беларускую мову, бо царкоўнаславянская моўная аснова іх застаецца зусім відавочнай.

Мова царкоўнаславянскіх выданняў Скарыны яшчэ зусім не вывучалася да нашага часу, таму ў сучасны момант няма магчымасці дакладна вызначыць генезіс адзначаных вышэй беларусізмаў у гэтых помніках. З аднаго боку, зусім верагодна дапусціць, што многія граматычныя і лексічныя беларусізмы маглі ўжо існаваць у спісах, якімі карыстаўся Скарына пры выданні гэтых твораў. Старажытныя беларускія рукапісы, як гэта даўно заўважана даследчыкамі, наогул вылучаюцца імкненнем перапісчыкаў зрабіць зразумелым для чытача славянскі тэкст сваіх арыгіналаў шляхам замены славянскіх форм і слоў сваімі мясцовымі беларускімі [1]. Але няма таксама падстаў сумнявацца, што многія з адзначаных асаблівасцей скарынінскіх выданняў былі ўнесены ў тэкст самім Скарынай. У той жа час няма падстаў сцвярджаць, услед за А. Е. Віктаравым, што розначытанні «Псалтыра» Скарыны «ўзяты выдаўцом не з арыгінала, які быў у яго пад рукамі, а належаць яму самому» [2].

Усе важнейшыя граматычныя і лексічныя асаблівасці, якія характарызуюць «Псалтыр» і «Апостал» Скарыны, адзначаюцца таксама і ў яго перакладах біблейскіх кніг з той толькі розніцай, што тут яны праводзяцца больш шырока і паслядоўна. Акрамя таго, перакладзеныя Скарынай біблейскія кнігі характарызуюцца вялікай колькасцю такіх граматычных і лексічных асаблівасцей, якіх зусім няма ў царкоўнаславянскіх выданнях.

Пры характарыстыцы граматычных асаблівасцей біблейскіх выданняў Скарыны неабходна мець на ўвазе, што граматычны лад беларускай літаратурна-пісьмовай мовы таго часу ў асноўных сваіх рысах супадаў з кніжнаславянскай мовай. Таму пры выяўленні моўных асаблівасцей скарынінскіх перакладаў неабходна перш за ўсё звярнуць увагу на тыя звенні граматычнай сістэмы, якія адрознівалі тагачасную беларускую пісьмовую мову ад кніжнаславянскай, і прасачыць, якім моў-

---

[1] А. Соболевский. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. Исследование П. В. Владимирова. ЖМНП, ч. 259. СПб, 1888, стар. 325.

[2] А. Е. Викторов. Замечательное открытие в древнерусском книжном мире (Первая книга, напечатанная доктором Фр. Скориной). Беседы в Обществе любителей российской словесности, вып. I. М., 1867, стар. 15.

ным матэрыялам — беларускім ці царкоўнаславянскім — запаўняліся яны ў біблейскіх кнігах Скарыны.

З граматычных рыс беларускага паходжання, якія адлюстраваны ў перакладах Скарыны і адрозніваюць іх ад царкоўнаславянскай мовы, трэба адзначыць перш за ўсё шматлікія выпадкі выкарыстання канчатка *-у*/*-ю* ў родным склоне назоўнікаў мужчынскага роду. Формы са старым канчаткам *-а (ада, ветра, греха, закона, мрамора, разума*), відавочна, уступаюць месца новым утварэнням на *-у*/*-ю,* прычым гэты канчатак замацоўваецца нават за прадметнымі назоўнікамі і тапанімічнымі назвамі *(возу, дому, жезлу, листу, стогу, столу, храму, шатру, египту, дамаску).* Жывучасць гэтага канчатка пераканаўча ілюструюць выпадкі выкарыстання яго ў лексемах царкоўнаславянскага паходжання *(воплю, гладу, гласу, долгу, облаку, овощу, плену).*

У Скарыны па сутнасці ўпершыню ў якасці варыянтнай нормы назоўнікаў асноў на *-о* ў давальным склоне ўжываецца канчатак *-ови*/*-еви (богови, дневи, идолови, лекареви, львови, мирови, мужеви, цареви*), хоць старыя традыцыйныя формы на *-у*/*-ю* тут яшчэ пераважаюць *(богу, гласу, другу, коню, мужу, рабу, царю).*

Новай з'явай для скарынінскіх тэкстаў трэба лічыць вельмі шырокае выкарыстанне канчатка *-ове*/*-еве* ў назоўным склоне множнага ліку: *волотове, внукове, грехове, гробове, дарове, докторове, духове, зубове, коневе, кругове, львове, предкове, родове, светкове, столпове, стражеве, хрущеве, часове, цареве.*

Пануючай нормай з'яўляецца таксама і новы канчатак *-овъ,* які распаўсюдзіўся на назоўнікі асноў на *-о* з ранейшых асноў на *-и: боевъ, бойцевъ, враговъ, даровъ, животовъ, класовъ, мужевъ, нравовъ, пировъ, сосудовъ, ступневъ, часовъ.*

У сістэме прыметніка звяртаюць на сябе ўвагу перш за ўсё формы роднага склону адзіночнага ліку, дзе часта ўжываецца ўласцівы беларускай пісьменнасці канчатак *-ого*/*-его.* Гэты ж канчатак адзначаецца таксама і ў дзеепрыметніках і парадкавых лічэбніках: *белого, ближнего, вечного, горшего, грешного, двадцатого, доброго, драгого, житного, моцного, нищего, первого, пригожего, руского, смелого, царского, чистого.* Як у «Псалтыры» і «Апостале», канчатак *-ого*/*-его* асабліва лёгка спалучаецца з дзеепрыметнікамі цяперашняга часу незалежнага стану: *востающего, глаголющего, грѧдущего, дающего, прийдущего, седѧщего, стоѧщего, судѧщего.*

Прыкметную беларускую афарбоўку надаюць тэкстам Скарыны і вельмі пашыраныя формы прыметнікаў жаночага роду роднага склону з канчаткам *-ое/-ее: великое славы, далекое земли, доброе рады, женское льсти, силное обороны, чужее земли.* Такія формы цалкам адсутнічаюць у царкоўнаславянскіх выданнях Скарыны.

Затое прамым працягам норм «Псалтыра» і «Апостала» з'яўляецца мяккі канчатак *-ть* у формах дзеясловаў 3-й асобы цяперашняга і будучага часу адзіночнага і множнага ліку: *будеть, верить, говорить, даеть, ищеть, любить, мучить, ореть, пишеть, стоить, ходить, чинить; бывають, владеють, плачуть, пойдуть, рекуть.*

З царкоўнаславянскімі выданнямі Скарыны збліжаюцца яго біблейскія пераклады характарам ужывання форм загаднага ладу. Тут яны выступаюць пераважна без канцавога ненаціскнога канчатка *-и: верь, видь, дозволь, оставь, очисть, позычь, понизь, приедь, ставь.* Адпаведныя формы множнага ліку ўтвараюцца шляхам далучэння да форм адзіночнага ліку фарматыва *-те: будьте, видьте, гледте, кричте, оставте, повесте, слыште, ходте, чинте.*

Нарэшце, пераклады Скарыны прыкметна адрозніваюцца ад царкоўнаславянскай мовы наяўнасцю вялікай колькасці форм цяперашняга і будучага часу, а таксама загаднага ладу 1-й асобы множнага ліку з канчаткамі *-мо* і *-мы: бежимо, биймо, возмимо, воюймо, гледимо, идемо, знайдемо, наделаймо, подьмо, пошлимо, упоймо; будемы, верьмы, даемы, жадаймы, живемы, идемы, можемы, мусимы, наследуймы, поидемы, просимы, хвальмы.* Такіх утварэнняў яшчэ зусім не ведаюць царкоўнаславянскія выданні Скарыны.

Пералічанымі рысамі, вядома, не абмяжоўваецца колькасць беларускіх асаблівасцей, якія адзначаюцца ў тэкстах Скарыны. Колькасць іх можна павялічыць за кошт шматлікіх другарадных, менш пашыраных з'яў, якімі насычаны тэксты скарынінскіх перакладаў. Аднак і прыведзенага матэрыялу зусім дастаткова, каб пераканацца, што граматычны лад перакладаў Скарыны значна збліжаецца з нормамі тагачаснай беларускай пісьменнасці. Не ўсе з гэтых рыс непасрэдна суадносяцца з сістэмай моўных сродкаў жывой беларускай мовы. Некаторыя з іх сваімі вытокамі маюць іншыя славянскія мовы (напрыклад, канчатак назоўнікаў давальнага склону адзіночнага ліку *-ови/-еви,* канчатак назоўнікаў назоўнага

склону множнага ліку *-ове/-еве* або формы дзеясловаў на *-мы* цяперашняга часу і загаднага ладу). Гэта паказвае, што выпрацоўка граматычных норм скарынінскіх выданняў знаходзілася ў значнай меры ў агульным рэчышчы развіцця тагачаснай беларускай літаратурна-пісьмовай мовы, дзе рана пачалі атрымліваць пашырэнне граматычныя сродкі суседніх славянскіх моў.

Тым не менш трэба прызнаць, што ў агульнай сістэме моўных сродкаў скарынінскіх перакладаў царкоўнаславянскія рысы ўсё ж пераважаюць. Характэрна пры гэтым, што яны размяркоўваюцца тут неаднолькава па паасобных часцінах мовы. Іх, напрыклад, адносна мала ў сістэме назоўніка, што тлумачыцца параўнальна нязначным адрозненнем сістэмы назоўніка беларускай пісьмовай мовы ад царкоўнаславянскай. Затое такіх дыферэнцыруючых рыс значна больш у галіне дзеяслова.

З ліку найбольш характэрных царкоўнаславянскіх рыс у сістэме назоўніка скарынінскіх перакладаў варта адзначыць перш за ўсё захаванне свісцячых зычных у назоўным склоне множнага ліку ў формах з асновай на заднеязычныя: *бози, врази, греси, грешници, друзи, облаци, отроци, пророци, прузи, сапози, слузи.*

Пад царкоўнаславянскім уплывам аказаліся ў Скарыны таксама назоўнікі асноў на *-і* ў творным склоне адзіночнага ліку, дзе яны амаль выключна ўжываюцца з канчаткам *-ию: великостию, властию, злостию, лестию, печатию, пилностию, помощию, прудкостию, трудностию, чуйностию.*

З асаблівасцей у сістэме займенніка можна адзначыць выкарыстанне старажытных указальных форм у значэнні асабовых: *пошли по него и приведи и́; дати ю́ вамъ; стрелы предъ тобою суть, возми е́.* Прыналежныя займеннікі *мой, твой, свой* у родным склоне жаночага роду, як і ў царкоўнаславянскай мове, ужываюцца з канчаткам *-еѧ: души моеѧ, крови моеѧ, правды твоеѧ, скорби твоеѧ, младости своеѧ, ноги своеѧ.* У парадыгме гэтых жа займеннікаў вылучаюцца і формы вінавальнага склону множнага ліку, якія выступаюць у выглядзе *моѧ, твоѧ, своѧ: глаголы моѧ, слова моѧ, лѣта твоѧ, стопы твоѧ, души своѧ.*

Найбольш яркую рысу царкоўнаславянскага ўплыву ў галіне прыметніка складае ўжыванне канчатка *-аго* ў родным склоне адзіночнага ліку. Формы накшталт *безумнаго, ветхаго, греховнаго, дивнаго, криваго, ленинаго, мудраго, новаго, огнистаго, праведнаго, райскаго, ровнаго, скораго, смутнаго, славнаго*

адзначаюцца ва ўсіх перакладах Скарыны і надаюць ім своеасаблівы архаічны каларыт. Гэтаму канчатку асабліва аддаецца перавага ў прыметніках, утвораных ад этнонімаў і тапонімаў: *асирскаго, вавилонскаго, греческаго, еврейскаго, египетскаго, латинскаго, перскаго, халдейскаго, хананейскаго.*

Прыметнікі множнага ліку назоўнага і вінавальнага скланаў у аснове сваёй захоўваюць старажытную сістэму дыферэнцыраваных родавых канчаткаў: *долгыи часы, малыи кусы, старыи листы, добрые речи, сокритые сетки, чистые молитвы, великаѧ чудеса, добраѧ дела, краткаѧ лѣта.* Аднак гэта сістэма парушаецца шматлікімі выпадкамі уніфікаваных канчаткаў, што наогул было ўласціва беларускай мове часоў Скарыны. Прыметнікі і суадносныя з імі займеннікі з асновай на заднеязычныя ў большасці выпадкаў, як і ў царкоўнаславянскай мове, маюць свісцячыя зычныя ў формах назоўнага склону множнага ліку: *велиции, высоции, крепции, мнозии, неции.*

У сістэме дзеяслова скарынінскіх перакладаў назіраецца найбольшая колькасць рыс, паходжанне якіх можна звязваць з уздзеяннем царкоўнаславянскай мовы. Яркі царкоўнаславянскі каларыт атрымліваюць тэксты Скарыны дзякуючы шматлікім формам цяперашняга часу 2-й асобы адзіночнага ліку з канчаткам *-ши* тыпу *видиши, живеши, збереши, знаеши, имаши, ищеши, караеши, любиши, минеши, мучиши, оставиши, падеши, плачеши, плюнеши, поидеши, речеши, спиши, чиниши.* На правах прыкметнага архаізма выступае ў Скарыны і канчатак *-и* ў формах загаднага ладу з націскам на аснове накшталт *буди, востани, избави, остани, постави, стани, ѹслыши.* У складзе аналітычных форм загаднага ладу 3-й асобы абодвух лікаў у Скарыны выкарыстоўваецца выключна царкоўнаславянская мадальна-валявая часціца *да* ў спалучэнні з адпаведнымі формамі цяперашняга часу дзеяслова: *страхъ твой да не страшить мене; слуга разумный да будеть тобѣ милъ; да будеть сила наша законъ несправедливости.*

З царкоўнаславянскай пісьменнасцю пераклады Скарыны аб'ядноўваюцца спосабам выражэння прошлага часу дзеяслова. Скарына шырока ўжывае формы аорыста і імперфекта, якія выйшлі з ужытку ў жывой мове яшчэ ў стараруські перыяд і толькі ў некаторых жанрах старабеларускай пісьменнасці вельмі абмежавана, часта няправільна па форме і значэнню выкарыстоўваліся ў пэўных стылістычных умовах або пад уплывам старажытных арыгіналаў. У адрозненне ад гэтага

аорыст і імперфект у перакладах Скарыны складаюць яшчэ нармальную граматычную катэгорыю, што можна бачыць на прыкладах тыпу *азъ видехъ безумнаго; остахъ азъ единъ; погибоша вси боевници; поплывоша воды велии; царь не можаше спати; он же имеаше двѣ жене; дщери его ꙗдаху и пиꙗху вино; они же стоѧхꙋ напротивꙋ.* Неабходна, аднак, заўважыць, што ў цэлым Скарына выкарыстоўваў гэтыя формы прошлага часу значна радзей, чым яны адзначаюцца ў традыцыйных царкоўнаславянскіх тэкстах. Супастаўленне, напрыклад, яго выданняў з адпаведнымі месцамі «Астрожскай біблії» паказвае, што ў Скарыны часта ўжываецца перфект у такіх канструкцыях, дзе ў «Астрожскай біблії» прошлы час выражаецца аорыстам або імперфектам.

Характэрнай для Скарыны з'яўляецца частая замена форм аорыста 3-й асобы множнага ліку, якія заканчваюцца на *-ша,* структурна блізкімі да іх формамі імперфекта 3-й асобы адзіночнага ліку з канчаткам *-ше,* напрыклад: *давашесѧ вамъ плевы; гнашесѧ за ними египътѧне следомъ; источьници водъ горскихъ осладишесѧ имъ ко питию.* Подобныя выпадкі з'яўляюцца лепшым сведчаннем таго, што формы аорыста і імперфекта даўно ўжо не адчуваліся жывой з'явай і, будучы выключна прыналежнасцю кніжнай мовы, дапускалі лёгкае змяшэнне іх у пісьменнасці.

Складаны малюнак у мове Скарыны прадстаўляюць дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану. Тут яшчэ захоўваюцца кароткія формы дзеепрыметнікаў тыпу *видѧ, воюѧ, глаголѧ, идѧ, имеѧ, надеѧсѧ, наследуѧ, несѧ, плача, терпѧ,* напрыклад: *седелъ Еремиѧ плача и ридаѧ; не ꙋбежить чинѧ насилие грешникъ помсты.* Аднак у аналагічных сінтаксічных умовах больш часта выкарыстоўваюцца поўныя формы дзеепрыметнікаў накшталт *берѧи, боѧисѧ, видѧи, гледѧи, живѧи, носѧи, пиѧи, просѧи, спѧи, стоꙗи, терпѧи, ходѧи, хотѧи, хранѧи,* напрыклад: *плакалъ гледѧи на ерусалимъ; отрокъ носѧи оружие его; тои же и ꙋмре спѧи; ꙋчинил' еси намъ велми зле не хотѧи о мире.*

Тым не менш і гэты тып дзеепрыметнікаў у колькасных адносінах аказаўся падпарадкаваным новым утварэнням, якія ўзніклі ў пазнейшай царкоўнаславянскай мове пад уздзеяннем форм вінавальнага склону і афармляюцца пры дапамозе фарманта *-щ-*: *блищащий, висѧщий, владеющий, горѧщий, движущийсѧ, живущий, имеющий, лежащий, любѧщий, падающий, седѧщий, стоꙗ-*

*щий*, *ходѧщий*, *хотѧщий*. У сказе такія дзеепрыметнікі звычайна выступаюць у ролі азначэння, прычым часта яны знаходзяцца ў постпазіцыі ў адносінах да азначаемага слова і нярэдка да іх далучаюцца шляхам кіравання або прымыкання іншыя члены сказа, напрыклад: *видел' есми Авесалома висѧщего на дубе; паде страхъ его на всехъ людей, живущихъ на земли; звери ходѧщие въ пустыни знають ꙗмы своѧ*.

Царкоўнаславянская словаўтваральная мадэль была выкарыстана Скарынай пры ўтварэнні колькасных і парадкавых лічэбнікаў тыпу *дванадесеть*, *двадесеть*, *седмънадесеть*, *дванадесѧтый*, *тринадесѧтый*, *девѧтыйнадесеть*, *пѧтыйнадесеть*.

Суіснаванне розных моўных стыхій у перакладах Скарыны асабліва наглядна выяўляецца ў галіне слоўнікавага саставу. Трэба заўважыць, аднак, што слоўнікавы састаў скарынінскіх выданняў яшчэ зусім не вывучаўся. «Біблія Скарыны,— адзначаў даследчык царкоўнаславянскай мовы С. Буліч,— прадстаўляе сабою іншы (і даволі рэдкі) тып мовы — сумесь царкоўнаславянскай, польскай, беларускай і чэшскай, таму мы і пакінулі яе ў баку» [1]. Аднак нават пры павярхоўным азнаямленні з тэкстамі Скарыны становіцца відавочным, што ўдзельная вага лексічных элементаў адзначаных стыхій тут далёка не аднолькавая.

Пры характарыстыцы лексічнага саставу скарынінскіх выданняў з пункту погляду яго паходжання кідаецца ў вочы перш за ўсё вялікі па колькасці разрад агульнаславянскай лексікі. Словы гэтага разраду ўзыходзяць да агульнаславянскага лексічнага фонду, яны ў аснове сваёй захоўваюцца ў большасці сучасных славянскіх моў. Сюды адносяцца пераважна простыя, невытворныя словы, не ўскладненыя такімі словаўтваральнымі сродкамі, як прыстаўкі або суфіксы, якія складаюць спецыфіку словаўтварэння кожнай са славянскіх моў. Аднак у адносінах да слоўніка Скарыны агульнаславянская лексіка выступае як нейтральная, бо яна не можа даць уяўлення аб творчай манеры перакладчыка. Такая агульнаславянская лексіка з'яўляецца састаўной часткай слоўніка як царкоўнаславянскіх, так і беларускіх помнікаў. Патэнцыяльна яе мог ужываць кожны аўтар ці перакладчык, калі толькі яму прыходзілася мець справу са з'явамі, паняццямі і рэаліямі, што абазначаюцца такімі словамі.

---

[1] С. Булич. Церковнославянские элементы в современном литературном и народном русском языке, стар. 400.

Для характарыстыкі слоўніка Скарыны, як і наогул кожнага літаратурнага дзеяча старажытнай пары, асноўнае значэнне маюць такія разрады лексікі, якія па-рознаму могуць выкарыстоўвацца паасобнымі аўтарамі і дзякуючы гэтаму больш рэльефна абмалёўваюць творчую манеру кожнага з іх. Да ліку такіх разрадаў адносяцца лексічныя запазычанні з іншых моў, індывідуальныя новаўтварэнні пісьменніка, традыцыйная кніжная лексіка, якая не мае непасрэднай адпаведнасці ў жывой мове, і, нарэшце, народная гутарковая лексіка, калі яна ўпершыню ўводзіцца ў літаратурны ўжытак.

Сярод такіх перыферыйных напластаванняў у слоўніку Скарыны адно з важнейшых месц належыць беларускай лексіцы. Беларускімі ў скарынінскіх выданнях можна лічыць агульнаславянскія словы ў спецыфічна беларускім фанетычным афармленні, агульнаславянскія словы з уласцівым беларускай мове семантычным развіццём, лексічныя новаўтварэнні, якія ўзнікалі на базе агульнаславянскага лексічнага матэрыялу з выкарыстаннем распаўсюджаных у беларускай мове словаўтваральных сродкаў, а таксама раннія запазычанні з іншых моў, цалкам асіміляваныя беларускай мовай у фанетычных і семантычных адносінах. Такія словы адзначаюцца і ў іншых старажытных беларускіх помніках, большая частка іх захоўваецца і ў сучаснай беларускай мове.

Скарынінскія пераклады насычаны такімі лексічнымі беларусізмамі, як назоўнікі *баба, бокъ, боламутъ, ботъ, вежа, ветка, взоръ, волотъ, ворожбитъ, гай, годъ, господаръ, гукъ, гулнѧ, дочка, дубець, згода, злость, клопотъ, конникъ, краина, кривда, криница, кроплѧ, куделѧ, кутъ, матка, моць, надеꙗ, нива, одежа, оксамитъ, пастухъ, петухъ, поклепъ, помста, походка, початокъ, праца, пригода, прикладъ, подлога, промень, пыха, речь, ровнина, светло, светокъ, свеча, сетка, смутокъ, справа, стежка, страва, суседъ, ужитокъ, часъ, шибеница, ширинѧ, ꙗрмо* і г. д.

Колькасць беларускай лексікі ў тэкстах Скарыны значна павялічваецца за кошт шматлікіх дзеясловаў рознага паходжання, якія з'яўляюцца спецыфічнай прыналежнасцю слоўнікавага саставу беларускай мовы. У перакладах Скарыны звычайнымі выступаюць такія дзеясловы, як *ведати, виноватити, втекати, гинути, гледети, гримети, дбати, дозволити, досегати, жадати, забити, задрижати, засмутити, заховати, згубити, зрозумети, лаѧти, мовити, народитисѧ, нахилити, обецати, паме-*

*тати, отпочинути, пановати, пестовати, покинути, помстити, поткати, працовати, привитати, пытати, робити, уживати, упевнити, ховати* і інш.

Выразную беларускую афарбоўку тэкстам Скарыны надаюць і шматлікія прыметнікі накшталт *великий, голодный, горший, даремный, добрый, дорослый, доскональый, дробный, дужий, дурный, збройный, клопотный, лагодный, лепший, моцный, околичный, певный, пилный, приветливый, пригожий, смутный* і інш.

Удзельная вага лексічных беларусізмаў у скарынінскіх перакладах значна павялічваецца за кошт частага выкарыстання агульнаславянскай лексікі, ускладненай беларускімі словаўтваральнымі сродкамі, у прыватнасці прыстаўкамі. Як вядома, прыстаўка *вы-*, напрыклад, у дзеясловах выдзяляльнага значэння зусім рэдка ўжывалася ў стараславянскай мове, у ранніх стараславянскіх помніках яна адзначаецца толькі ў адзінкавых утварэннях, якія звычайна звязваюцца з уплывам перапісчыкаў заходнеславянскага паходжання. У тэкстах жа Скарыны гэта прыстаўка аказваецца вельмі прадуктыўнай, з ёй тут ужываюцца такія дзеясловы, як *выбавити, выбежати, выбити, выблевати, выбрати, вывезти, вывергнути, вывести, вывлечи, вывоевати, вывратити, выгладити, выгледати, выгнати, выгубити, выдати, выдолбити, выдрати, выехати, выженути, выжечи, вызвати, вызволити, выити, выкинути, выклевати, выкопати, выкоренити, выкрутити, выкупити, вылезти, вылетети, вылити, выложити, выломити, вылупити, вымлатити, вымолвити, вымыслити, вымыти, вынести, выпалити, выписати, выпити, выпленити, выплынути, выполнити, выпросити, выпустити, выпхнути, выпытати, выречи, выростi, высвободити, выскочити, выслати, выслухати, выстрелити, выступити, высушити, высыпати, выходити, выцедити* і інш.

Дзеяслоўная прыстаўка *раз-*(*рас-*) з'яўляецца сведчаннем царкоўнаславянскага паходжання слоў, у якіх яна ўжываецца [1]. Дзеясловы з гэтай прыстаўкай адзначаюцца і ў Скарыны, напрыклад: *разбити, разбогатети, развезати, развращати, разгневати, разграбити, раздражнити, разлучити, разрушити, разширити* і інш. Аднак у цэлым можна сцвярджаць, што для скарынінскага перакладу больш характэрны адпаведныя дзея-

---

[1] Из трудов А. А. Шахматова по современному русскому языку. М., 1952, стар. 250.

словы з суадноснай беларускай прыстаўкай *роз-* (*рос-*). Гэта прыстаўка адзначаецца ў наступных дзеясловах: *розбечисѧ*, *розбити*, *розбогатети*, *розболетисѧ*, *розважывати*, *розвезати*, *розвеличити*, *розвеселитисѧ*, *розвѧтисѧ*, *розводнитисѧ*, *розвращати*, *розвѧзывати*, *розганѧти*, *розгневити*, *розгоретисѧ*, *розграбити*, *роздати*, *розделити*, *роздирати*, *розженути*, *розжечи*, *розлететисѧ*, *розлитисѧ*, *розложити*, *розлучити*, *розмовлѧти*, *розмножати*, *розмочисѧ*, *розмыслити*, *рознемочисѧ*, *рознестисѧ*, *розобрати*, *розозлитисѧ*, *розознати*, *розогнати*, *розоитисѧ*, *розослати*, *розплодити*, *розплынутисѧ*, *розрезати*, *розрывати*, *розсветити*, *розсевати*, *розсекати*, *розславлѧти*, *розсудити*, *розсылати*, *розтолстети*, *розторгнути*, *розтучнети*, *розтѧгнути*, *розширити*, *росказати*, *роскидати*, *роскопати*, *роспалити*, *роспрашати* і інш.

Пры сучасным стане вывучанасці лексікі старажытнай беларускай мовы пакуль няма магчымасці катэгарычна сцвярджаць, якія словы ў тэкстах Скарыны можна залічыць да ўласных новаўтварэнняў перакладчыка. Можна адзначыць, напрыклад, што назоўнікі тыпу *глуповство, действо, дуровство, ленивство, скуповство* з'яўляюцца прыналежнасцю індывідуальнага стылю Скарыны, яны не фіксуюцца яшчэ помнікамі папярэдняга перыяду, зусім рэдка адзначаюцца і ў пазнейшай беларускай пісьменнасці. Несумненнымі скарынінскімі неалагізмамі можна лічыць таксама назоўнікі *книжница* 'бібліятэка', *певница* 'музыка' і *стороница* 'старонка'.

Нарэшце, слоўнік Скарыны характарызуецца вялікай колькасцю спецыфічна кніжных слоў, якія былі распаўсюджаны ў беларускай пісьменнасці старажытнага перыяду, але, відаць, зусім абмежавана выкарыстоўваліся ў жывой беларускай мове ў яе дыялектных адгалінаваннях. Тут перш за ўсё можна адзначыць вялікі па колькасці разрад абстрактных назоўнікаў, утвораных ад асноў якасных прыметнікаў пры дапамозе суфікса *-ость* тыпу *белость, близкость, вдатность, великость, высокость, глубокость, глупость, гнусность, гордость, горкость, грозность, далекость, долгость, достойность, зеленость, зрелость, краткость, мерзкость, мудрость, пилность, полность, приветливость, разумность, темность, тихость, тошность, тучность, узкость, чуйность, широкость* і інш.

З ліку важнейшых разрадаў запазычанай лексікі скарынінскіх перакладаў у першую чаргу неабходна адзначыць чэхізмы і паланізмы. Чэшскі лексічны струмень тут асабліва адчуваль-

ны. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што ніводзін іншы папярэдні або пазнейшы помнік старабеларускай пісьменнасці не адлюстроўвае ў такой меры лексіку чэшскага паходжання, як «Біблія» Ф. Скарыны. З ліку найбольш паказальных чэхізмаў можна адзначыць наступныя: *бегунъ* 'валацуга', *боевати* 'ваяваць', *вдолие* 'даліна', *вчерашекъ* 'учарашні дзень', *выразити* 'выбіць', *гудба* 'музыка', *дивокий* 'дзікі', *днешний* 'сённяшні', *жадостивый* 'прагны', *жаларь* 'турма', *заграда* 'сад', *зазлити* 'ставіць у віну', *залога* 'засада', *занепразнити* 'заняць', *запоменути* 'забыць', *змизати* 'знікнуць', *комонство* 'світа', *користь* 'здабыча', *лагвица* 'пляшка', *леторасть* 'парастак', *лебка* 'чэрап', *лихота* 'ліслівасць', *локтушие* 'хустка', *мета* 'цэль', *миловникъ* 'любіцель', *навыклый* 'прывычны', *наглый* 'нечаканы', *надра* 'грудзі', *нехати* 'пакінуць', *нутити* 'прымушаць', *ошеметникъ* 'ашуканец', *планый* 'дзікі', *поглавие* 'пол', *позоровати* 'сачыць', *похиба* 'сумненне', *пструсъ* 'страус', *радлица* 'лямеш', *рерюха* 'настурка', *рыбникъ* 'сажалка', *смыркъ* 'елка', *стребати* 'хлябтаць', *супъ* 'грыф', *шедины* 'сівізна' і інш.

Спіс слоў чэшскага паходжання, якія адзначаюцца ў перакладах Скарыны, можна значна павялічыць. Многія іншыя агульнаславянскія словы Скарына ўжывае ў характэрным для чэшскай мовы фанетыка-марфалагічным абліччы, напрыклад: *врабець* 'верабей', *грозенъ* 'гронка', *звонець* 'звон', *зачатокъ* 'пачатак', *злобивый* 'злосны', *кожка* 'шкурка', *котликъ* 'кацялок', *кридло* 'крыло', *мерица* 'мера', *мешець* 'мяшок', *поволити* 'дазволіць', *поражка* 'паражэнне' і г. д.

Неабходна, аднак, заўважыць, што большая частка такіх чэхізмаў не замацавалася ў беларускай пісьменнасці пазнейшага перыяду і, такім чынам, не выйшла са сферы індывідуальнага ўжывання іх Скарынай.

Разрад лексікі польскага паходжання ў Скарыны яшчэ параўнальна невялікі. Гэта знаходзіць сваё тлумачэнне ў тым, што дзейнасць беларускага першадрукара адносіцца да эпохі, калі паланізацыя беларускай пісьмовай мовы рабіла яшчэ толькі першыя крокі. Да паланізмаў адносяцца словы рознай лексіка-семантычнай характарыстыкі, напрыклад: назоўнікі *велебность, винница, живелъ, збродень, звыѧжство, напой, нерѧдъ, обжирца, опатреность, панна, плотно* 'палатно', *покармъ, посполство, похлебство, прудкость, родиць, рожа, цнота, чловекъ,* прыметнікі *зуполный, лекливый, неопатреный,*

*посполитый, прудкий, розмаитый, рочный, уставичный, цнотливый,* дзеясловы *гвиздати, миловати, поклѧкнути, росказати,* прыслоўі і службовыя словы *ачколве, водле, восполокъ, зле, зуполне, исте, лечъ, назбытъ, неомылне, подлугъ, посполите, прудце.*

Пералічаныя паланізмы прынцыпова адрозніваюцца ад чэхізмаў тым, што амаль усе яны працягвалі ўжывацца ў беларускай пісьменнасці пазнейшага часу, многія з іх адзначаюцца і ў папярэдніх помніках, у прыватнасці яны з'яўляюцца звычайнымі ўжо ў перакладных апакрыфічных творах канца XV ст. «Пакуты Хрыста» і «Аповесць аб трох каралях-валхвах».

Прымяняльна да скарынінскіх перакладаў паланізмамі можна лічыць таксама і невялікі пласт лексікі нямецкага паходжання, як *балька, барва, вага, дѧковати, желнеръ, канцлеръ, кухаръ, мары, мастеръ, муръ, мусити, панцеръ, рада, скарбъ, смакъ, спижа, танецъ, цетнаръ, фарба, флѧжка, флѧстръ, шахта, шкода* і інш.

Можна меркаваць, што адзначаныя германізмы не з'яўляюцца вынікам непасрэднага запазычання з нямецкай мовы. Многія з іх сустракаюцца і ў помніках папярэдняга перыяду, куды яны праніклі, верагодней за ўсё, праз польскую мову.

Пры разглядзе састаўных частак скарынінскага слоўніка прыходзіцца ўсё-такі канстатаваць, што царкоўнаславянская лексічная стыхія тут пераважае. У перакладах Скарыны вельмі пашыраны шматлікія царкоўнаславянізмы накшталт назоўнікаў *агнець, адъ, багреница, бдение, безаконие, бездна, безумие, безчестие, бесъ, благовествование, благодарение, благодать, бракъ, брань, брашно, брюхо, величие, венець, верзь, вещь, влагалище, воздухъ, возрастъ, вопль, востокъ, вретище, глаголъ, гордынѧ, господинъ, дева, десница, дремота, дщера, естество, жезлъ, жертва, жилище, зависть, заповедь, зерцало, злоба, зракъ, идолъ, истина, источникъ, казнь, клевета, лесть, месть, мзда, мститель, наперстникъ, недугъ, нищета, обетъ, обилие, овенъ, оружие, отрокъ, пастыръ, перстъ, печаль, пещера, пища, плоть, победа, похоть, пределъ, престолъ, работа, распѧтие, скорбь, снедь, сокровище, сонмище, стезѧ, стень, суета, терние, трапеза, требище, ужасъ, утроба, чадо, чело, щедрота, юноша, ꙗзва, ꙗзыкъ* 'народ', *ꙗрость* і інш.

Пласт лексікі царкоўнаславянскага паходжання ў перакладах Скарыны дапаўняецца значнай колькасцю царкоўнасла-

вянскіх дзеясловаў тыпу *бдети, благоволити, благославити, брести, величати, верзити, внiити, вопити, вопрошати, восхотети, глаголати, гласити, грѧсти, двигатисѧ, зрети, искусити, исторгнути, казнити, нарицатисѧ, обитати, обладати, обрести, осквернити, оскудети, отвергнути, пощадити, презирати, прельщати, работати, растерзати, роптати, узрети, уповати, царствовати, чести, ꙗсти* і інш. З ліку найбольш характэрных прыметнікаў можна адзначыць такія, як *алчный, безумный, блаженый, велий, ветхий, вещий, восточный, дерзкий, десный, жестокий, любезный, мерзкий, нагий, нищий, нощный, печалный, суетный, убогий.* Звычайнымі ў скарынінскіх тэкстах з'яўляюцца таксама і шматлікія царкоўнаславянскія прыслоўі тыпу *вкупе, внегда, воспѧть, вторицею, далече, днесь, дондеже, егда, елико, зело, камо, паки, присно, семо, токмо* і інш.

Вялікую колькасць іншых агульнаславянскіх па паходжанню слоў Скарына ўжывае ў царкоўнаславянскім фанетыка-марфалагічным афармленні, хоць амаль усе яны мелі свае адпаведнікі ў тагачаснай беларускай мове. Перавага царкоўнаславянскіх лексічных элементаў у тэкстах Скарыны асабліва наглядна выяўляецца ў суадносінах царкоўнаславянскай няпоўнагалоснай і беларускай поўнагалоснай лексікі. Пераважна ў няпоўнагалоснай форме Скарына ўжывае такія словы, як *блато, брада, бранити* 'забараняць', *брегъ, владети, власть, власъ, врагъ, вредити, вредъ, глава, гладъ, гласъ, градъ, длань, длато, драгий, древо, жребий, здравие, злато, класъ, крава, краткий, младый, млатъ, млеко, мразъ, мракъ, нравъ, облакъ, пламень, пленити, пленъ, прахъ, сладкий, средина, стражъ, страна, хладъ, храмъ, хранити, чрево* і інш. Некаторыя лексемы гэтага тыпу адзначаюцца паралельна і ў поўнагалоснай форме: *берегъ, беремѧ, боронити, борозда, борона, волочити, голова, голодный, молодець, оборона, похоронити, сторожъ.* Але такія формы займаюць зусім нязначнае месца на агульным фоне ўжывання лексікі гэтай катэгорыі. Пераважаючыя ў Скарыны царкоўнаславянскія няпоўнагалосныя формы не выконваюць якой-небудзь спецыяльнай стылістычнай або сэнсавай нагрузкі. Семантычная нейтральнасць гэтай лексікі пацвярджаецца прыкладамі выкарыстання яе ў звычайным, апавядальным стылі: *слины текли емȣ по браде; власы твое ꙗко стадо козъ; седмъ класовъ выросло с стебла единого; левою рукою взѧла колъ, а правою млатъ ковалский; не будете верити козлѧти во млеце матери его.*

Колькасна такія ж суадносіны назіраюцца і ў формах, якія ў беларускай і царкоўнаславянскай мовах маюць розныя рэфлексы агульнаславянскіх спалучэнняў *dj*, *tj*. Лексіка з наяўнасцю *жд* і *щ* тыпу *вражда, жажда, нужда, прежде, чуждый, мощи, нощъ, обещати, овощъ, пещера, пещъ, помощъ, рещи, свеща, тысеща* прыкметна пакрывае сабой свае нешматлікія адпаведнікі тыпу *надежа, одежа, ночъ, наречи.*

Скарына шырока выкарыстоўваў царкоўнаславянскія словаўтваральныя сродкі — прыстаўкі і суфіксы. Яркім прыкладам гэтага могуць служыць у першую чаргу шматлікія дзеясловы з царкоўнаславянскай прыстаўкай *воз-(вос-)* тыпу *возбедновати, возбоꙗтисѧ, возбранити, возбудити, возвати, возвеличити, возвеселити, возвести, возвестити, возводити, возвратити, возвысити, возглаголети, возгласити, возгодовати, возгоретисѧ, возгримети, воздати, воздвигнути, воздвизати, воздержати, воздохнути, воздремати, воздыхати, возвати, возирати, возлагати, возлегати, возложити, возлюбити, возненавидети, вознести, возникнути, возрадоватисѧ, возрасти, возрастити, возревновати, возрети, возтрубити, возшумети, возыйти, возыскати, воскладати, воскорбети, воскормити, воскреснути, воспалати, воспети, воспомѧнути, воспросити, воставати, восходити, восхвалити, восхотети* і інш.

Царкоўнаславянская словаўтваральная мадэль выкарыстоўвалася Скарынай таксама і пры ўтварэнні з дапамогай прыстаўкі *пре-* прыметнікаў абсалютнай найвышэйшай ступені тыпу *превеликий, превечный, превысокий, превышний, прегоркий, прегорѧчий, прегустый, предивный, презлый, прекрасный, премногий, премоцный, премудрый, пренавченый, преполный, преострый, пресилный, преславный, пресличный, претвердый, претучный, прехвалный, пречистый, пречудный, прешироккий, преꙗсный* і інш. Наяўнасць у гэтым пераліку ўтварэнняў тыпу *премоцный* і *пресличный* паказвае, што для Скарыны такая мадэль была прадуктыўнай і жывучай.

У галіне суфіксальнага словаўтварэння выключная роля царкоўнаславянскіх узораў наглядна выяўляецца пры аналізе ўтварэння аддзеяслоўных назоўнікаў на *-ние* або *-тие*. Тэксты Скарыны насычаны вялікай колькасцю дэвербальных назоўнікаў тыпу *воплощение, воскресение, воспоминание, глаголание, гонение, грешение, гризение, грожение, гучение, давание, двизание, делание, держание, деꙗние, дивование, добывание, допущение, досаждение, достоꙗние, дыхание, едение,*

*желание, житие, заклѧтие, запаление, запрещение, искупление, искушение, исцеление, карание, крещение, молвение, мышление, отомщение, пленение* і інш. Гэты тып назоўнікаў таксама паслужыў для Скарыны ўзорам для ўтварэння шматлікіх новых назоўнікаў ад уласнабеларускіх і запазычаных дзеясловаў тыпу *бадание, втекание, выхование, дотknение, жадание, забитие, загинутие, запоменутие, кохание, лаѧние, малевание, милование, надхнение, нарожение, недбание, отпочинутие, панование, погоршение, пожадание, полепшение, посполитование, пытание, споткание, шемрание* і інш.

Разгледжаны матэрыял паказвае, што ў сінтэзаванай мове Скарыны царкоўнаславянскія моўныя элементы сярод іншых састаўных частак займаюць вядучае месца. Важна пры гэтым падкрэсліць, што разнастайныя царкоўнаславянізмы выкарыстоўваюцца Скарынай аднолькава як у тэксце біблейскіх кніг, так і ў прадмовах, напісаных ім самастойна да кожнай з выдадзеных біблейскіх кніг.

Блізкасць моўнай сістэмы перакладаў Скарыны да традыцыйнай царкоўнаславянскай мовы выяўляецца з параўнання аднаго і таго ж тэксту па выданню Скарыны і па «Астрожскай біблії», якая, як ужо адзначалася, адлюстроўвае тыповую царкоўнаславянскую мову ўсходніх славян эпохі Скарыны (кніга «Юдзіф», гл. 10).

| *Пераклад Скарыны* | *«Астрожская біблія»* |
| --- | --- |
| И бысть егда преста вопиати к҆ г҃ду Їȣдиѳ҆ въстала ѿ места своего на нем҆ же лежаше ниць предъ г҃демъ. Й позвала Абру служебницу свою, и вшедши во храмину свою сволокла с себе власѧницу. И ризы теже вдовскиє сложила с҆ себе, И ȣмыла тело свое и помазаласѧ мастию Мирры избранное, и росчесала власы своє и возложила чепець на главу свою, И оболокласѧ в ризы ȣтешениѧ своего, и обуласѧ в боты ȣкрашенныє. И возложи обручь златыи на правую руку | Бы́сть же егда преста̀ въпи́ти къ г҃ȣ. въста̀ ѿ мѣста на не́м҆ же лежа̀ просте́рта къ г҃ȣ б҃ȣ възва́ же абрȣ свою, исходѧщи въ домъ свои и совлече с себе вре́тище и о҆де́ждȣ вдовства своего и оумы тѣло свое. и пома́за сѧ мастьми и миромъ бл҃говоннымъ, и распростре вла́сы главы свое́ѧ. и наста́ви ми́трȣ на главȣ свою. и облечесѧ одѣа́нїемъ бл҃гостынѧ свое́ѧ, и на но́ѕѣ свои плесници прїа и на рамницȣ швенȣ |

свою, И серѧзи драгыи во ꙋши своѧ, и перстени на персты своѧ. И всеми ꙋкрасама своими ꙋкрасила себе. И г͡сдь богъ придалъ красы еи, понеже все ꙋкрашение еꙗ не было естъ длѧ похоти телесное но длѧ речи доброе.

цвѣтїе$^{м}$ и оу серѧзи и перьстени и всѣми красотами свои́ми оукраси́сѧ е́й же и г̃ь даде красотꙋ· и ꙗко всѧ сїѧ сложенїѧ не ѡ$^{т}$ похо́ти блꙋ$^{д}$ства, но ѡ$^{т}$ преподо́бїѧ.

Пры характарыстыцы мовы выданняў Скарыны, вядома, было б недастаткова абмежавацца толькі ўказаннем, што ў Скарыны граматычныя і лексічныя элементы беларускай мовы змешаны з царкоўнаславянскімі. Ацэньваючы ўдзельную вагу гэтых элементаў і суадносіны паміж імі, неабходна па меры магчымасці адказаць на пытанне, якая ж усё-такі мова ў Скарыны — беларуская ці царкоўнаславянская.

Можна лічыць, што параўнальна дакладны адказ на гэта пытанне можа даць толькі франтальнае статыстычнае абследаванне ўсіх скарынінскіх тэкстаў. Пры гэтым, відавочна, зусім не абавязкова падлічваць колькаснае выражэнне ўсіх наяўных у кнігах Скарыны граматычных форм і лексічных сродкаў. Параўнальнае вывучэнне беларускай і царкоўнаславянскай моў паказвае, што ў большай колькасці рыс граматыкі і лексікі гэтыя мовы супадаюць паміж сабою. Зразумела, што такія агульныя рысы не могуць мець значэння пры выяўленні моўнай асновы скарынінскіх выданняў.

Для вырашэння гэтага пытання маюць значэнне толькі тыя рысы ў граматыцы і лексіцы, якімі старажытная беларуская літаратурная мова адрознівалася ад царкоўнаславянскай. З ліку такіх рыс у галіне фанетыкі можна адзначыць выкарыстанне фарманта *-щ-* або *-ч-* пры ўтварэнні дзеепрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага стану (*будущий, идущий, несущий* або *будучий, идучий, несучий*). У галіне граматыкі суадносіны царкоўнаславянскіх і беларускіх асаблівасцей надзвычай добра характарызуюць канчаткі *-аго* або *-ого* ў прыметніку (*живаго, новаго, стараго* або *живого, нового, старого*) і канчаткі *-ши* або *-шь* дзеясловаў цяперашняга часу (*будеши, идеши, несеши* або *будешь, идешь, несешь*). Найбольш паказальнай рысай словаўтварэння можна лічыць афармленне аддзеяслоўных назоўнікаў на *-ние, -тие* або *-нье, -тье* (*писание поколение, початие* або *писанье, поколенье, початье*). Нарэшце, суадносіны царкоўнаславянскай і беларускай лексічных

стыхій наглядна выяўляюць няпоўнагалосныя і поўнагалосныя формы (*глава, драгий, злато* або *голова, дорогий, золото*). Выдзяленне іменна гэтых рыс у якасці дыферэнцыятараў мае тую перавагу, што практычна імі ахопліваецца неабмежаваная колькасць слоў, і гэта дае магчымасць зрабіць найбольш аб'ектыўныя вывады.

З гэтага пункту погляду намі былі вывучаны тры кнігі з «Біблії» Скарыны — «Другая кніга Царстваў», «Юдзіф» і «Эсфір» (агульны аб'ём абследаванага матэрыялу складае 206 старонак тэксту). Вынікі гэтага вывучэння характарызуюцца наступнымі лічбамі:

Аддзеяслоўныя назоўнікі на *-ние, -тие* або *-нье, -тье*: «Другая кніга Царстваў» — 150 і 5 (97% і 3%); «Юдзіф» — 105 і 1 (99% і 1%); «Эсфір» — 71 і 00 (100% і 00%); усяго — 326 і 6 (98% і 2%).

Няпоўнагалосныя і поўнагалосныя формы: «Другая кніга Царстваў» — 495 і 25 (95% і 5%); «Юдзіф» — 356 і 28 (93% і 7 %); «Эсфір» — 243 і 5 (98% і 2%); усяго — 1094 і 58 (95% і 5%).

Дзеепрыметнікі на *-щ-* або *-ч*: «Другая кніга Царстваў» — 60 і 11 (84% і 16%); «Юдзіф» — 60 і 11 (84% і 16%); «Эсфір» — 45 і 3 (94% і 6%); усяго — 165 і 25 (87% і 13%).

Канчаткі *-ши* або *-шь*: «Другая кніга Царстваў» — 59 і 32 (65% і 35%); «Юдзіф» — 21 і 8 (72% і 28%); «Эсфір» — 16 і 7 (70% і 30%); усяго — 96 і 47 (67% і 33%).

Канчаткі *-аго* або *-ого*: «Другая кніга Царстваў» — 29 і 22 (57% і 43%); «Юдзіф» — 23 і 24 (49% і 51%); «Эсфір» — 18 і 25 (42% і 58%); усяго — 70 і 71 (50% і 50%).

З прыведзеных лічбаў відаць, што толькі па адной рысе — выкарыстанню канчаткаў прыметнікаў *-аго* і *-ого* — мову Скарыны можна было б назваць змешанай царкоўнаславянска-беларускай. Усе ж астатнія вывучаныя рысы з усёй відавочнасцю паказваюць царкоўнаславянскую моўную аснову скарынінскіх выданняў, прычым царкоўнаславянізмы з'яўляюцца пануючымі ў галіне лексікі і словаўтварэння, тады як у граматычным ладзе беларусізмы аказваюцца прадстаўленымі больш шырока.

Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што вывучаныя ў гэтых адносінах «Другая кніга Царстваў», «Юдзіф» і «Эсфір» сваім выразным свецка-гістарычным зместам прыкметна адрозніваюцца ад іншых біблейскіх кніг, і па гэтай прычыне ў адзначаных

кнігах можна было б чакаць меншай колькасці царкоўнаславянізмаў. Варта таксама памятаць і тое, што, як паказаў яшчэ П. У. Уладзіміраў, пры перакладзе «Бібліі» Скарына не меў пад рукамі царкоўнаславянскага тэксту кніг «Юдзіф» і «Эсфір», яны былі перакладзены з чэшскай бібліі, і тут, такім чынам, зноў-такі менш за ўсё можна было б спадзявацца бачыць царкоўнаславянізмы.

Аднак наяўныя ў перакладах Скарыны шматлікія граматычныя і лексічныя беларусізмы значна аддаляюць скарынінскую мову ад традыцыйнай царкоўнаславянскай мовы, якая была ва ўжытку ва ўсходніх славян таго часу. Гэтыя беларускія напластаванні даюць падставу адносіць скарынінскія пераклады да беларускай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы і лічыць іх найбольш яркімі ўзорамі яе.

На царкоўнаславянскую моўную аснову скарынінскіх перакладаў ужо даўно ўказвалі многія даследчыкі — С. Ліндэ, А. Сабалеўскі, А. Мурко, Я. Воўк-Левановіч, А. Мартэль, А. Фляроўскі і іншыя. Прызнанне гэтага факта, вядома, ні ў якой меры не зніжае лінгвістычнай вартасці скарынінскіх перакладаў і іх месца ў гісторыі беларускай культуры.

Заслуга Скарыны заключаецца ў тым, што ён у адпаведнасці з патрэбамі свайго часу стварыў асобы тып пісьмовай мовы, аналога якой зусім немагчыма знайсці ва ўсходніх славян таго часу. Выданнем адаптаванага тэксту «Псалтыра» і «Апостала» Скарына па сутнасці працягваў лінію сваіх папярэднікаў, шматлікіх безыменных кніжнікаў канца XV — пачатку XVI ст., якія кіраваліся свядомым імкненнем зрабіць зразумелым для чытачоў царкоўнаславянскі тэкст шляхам замены многіх царкоўнаславянскіх форм і слоў мясцовымі беларускімі. Гэтыя выданні Скарыны таксама належаць да беларускага варыянта царкоўнаславянскай мовы. Яны паказваюць, што беларускі варыянт царкоўнаславянскай мовы ствараўся намаганнямі адукаваных кніжнікаў з ясна акрэсленай мэтай зрабіць зразумелым і даступным царкоўнаславянскі тэкст.

Яшчэ далей пайшоў Скарына пры перакладзе біблейскага тэксту: захаваўшы царкоўнаславянскую аснову ў сваіх перакладах, ён насыціў іх беларускімі моўнымі сродкамі ў такой меры, што яго мова заняла самае крайняе становішча ў беларускай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы і фактычна аказалася прамежкавым звяном у працэсе пераходу ад царкоўнаславянскай мовы да беларускай у сферы рэлігійнага ўжытку.

Увядзенне Скарынай непасрэдна ў свяшчэннае пісанне граматычных форм і лексічных сродкаў жывой беларускай мовы мела рашаючае значэнне для далейшага лёсу рэлігійнай пісьменнасці на Беларусі. Скарына даў бліскучы ўзор уключэння сродкаў народнай мовы ў свяшчэннае пісанне і тым самым парваў многавяковую традыцыю выкарыстання для гэтых мэт канвенцыянальнай царкоўнаславянскай мовы з яе амярцвелымі формамі і лексікай. Намечаны Скарынай кірунак развіцця беларускай літаратурнай мовы ў рэлігійных жанрах знайшоў свой далейшы працяг у дзейнасці такіх паслядоўнікаў скарынінскіх традыцый, як С. Будны, В. Цяпінскі, С. Зізаній, Л. Карповіч, М. Сматрыцкі і многія іншыя ананімныя дзеячы другой палавіны XVI і пачатку XVII ст., якія ў сваіх рэлігійна-асветніцкіх мэтах ужо поўнасцю перайшлі на беларускую мову. Дзякуючы гэтаму беларуская літаратурная мова фактычна стала другой афіцыяльнай мовай пры абслугоўванні рэлігійных патрэб беларускага насельніцтва, не кажучы ўжо аб іншых сферах грамадскага і культурнага жыцця, дзе яна заставалася пануючай на працягу ўсяго старажытнага перыяду.





Л. М. ШАКУН

# Ф. Скарына і пытанні гісторыі беларускай літаратурнай мовы



омнікі старажытнай беларускай пісьменнасці, асабліва рукапісныя, у большасці не данеслі да нас імёнаў тых, хто іх ствараў. З-за адсутнасці ў пісьмовых помніках указанняў на аўтарства вядома зусім невялікае кола пісьменнікаў старажытнай пары. Імя ж Францыска (Георгія) Скарыны як аўтара і кнігавыдаўца надрукавана на старонках больш чым дваццаці кніг, і гэта акалічнасць выгадна вылучае скарынінскія выданні сярод іншых помнікаў, пераважна ананімных. Ствараецца рэдкая ў адносінах да старажытнасці магчымасць гаварыць пра ўдзел канкрэтнай асобы ў выпрацоўцы і ўдасканаленні сродкаў і прыёмаў літаратурнага выражэння, наогул у развіцці літаратурнай мовы на пэўным гістарычным этапе.

Хоць Скарына выдаваў біблейскія кнігі, дзейнасць яго, як неаднаразова падкрэслівалі даследчыкі, выходзіла за межы ўласна рэлігійнай літаратуры. Некаторыя з выдадзеных ім кніг з'яўляліся для свайго часу творамі не толькі рэлігійнымі, але ў некаторай ступені і літаратурна-мастацкімі (напрыклад, такія, як «Псалтыр», «Песня песняў», «Юдзіф», «Плач Ераміі»). Да біблейскіх кніг ён прыкладаў уласныя прадмовы і пасляслоўі, многія з якіх — сур'ёзныя навуковыя трактаты.

Зразумела, што моватворчасць Скарыны — выдатнага беларускага пісьменніка і першадрукара — працякала ў арганічнай сувязі з агульнымі працэсамі развіцця літаратурнай мовы на Беларусі ў старажытны перыяд.

К таму часу, калі распачынаў сваю выдавецкую дзейнасць Скарына, было ўжо створана нямала помнікаў, якія так ці інакш адлюстроўвалі жывую гаворку беларускага народа.

Найбольшую колькасць іх складалі дзелавыя запісы і творы юрыдычнай літаратуры, выключна шматлікія і разнастайныя па зместу і прызначэнню: граматы, акты, позвы, укладанні, падараванні, прывілеі, судовыя справы, дагаворы, уставы, статуты і г. д., якія выходзілі з канцылярыі вялікага князя літоўскага, ствараліся ўрадавымі чыноўнікамі ў мясцовых дзяржаўных установах, пісаліся сталічнымі і правінцыяльнымі пісарамі, а то і прыватнымі асобамі. Гэтыя помнікі звычайна складаліся па шаблону, на мове некалькі аднастайнай, стэрэатыпнай, не заўсёды дасканала апрацаванай. Але тут вельмі шырока выкарыстоўваліся лексіка і фразеалогія жывой народнай гаворкі, у даволі значнай меры — яе фанетычныя і граматычныя сродкі, хоць стваральнікі і перапісчыкі розных заканадаўчых актаў і дзелавых папер імкнуліся прытрымлівацца агульнапрынятых правіл пісьма і таму не адасаблялі рэзка мову сваіх твораў ад мовы іншых тагачасных помнікаў.

Уплыў жывой гаворкі на мову юрыдычных твораў і дакументаў з часам не паслабляўся. У практыцы дзелавой перапіскі і заканадаўства выпрацоўваліся адпаведныя формы і каноны пісьмовага выкарыстання сродкаў народнагутарковага паходжання, якія ўжо існавалі або ўзнікалі ў жывой гаворцы; побач з традыцыйнымі граматычна-правапіснымі нормамі і прыёмамі літаратурнага выражэння пашыраліся і замацоўваліся новыя моўныя з'явы. Няўхільна ўзрасталі грамадскія функцыі юрыдычна-дзелавой пісьменнасці і ўплыў яе мовы на мову розных жанраў старажытнай беларускай літаратуры.

Улічваючы такія акалічнасці, многія даследчыкі прыходзілі да вываду, што старабеларуская літаратурная мова (па дарэвалюцыйнай тэрміналогіі — «заходнеруская») як своеасаблівая моўная адзінка складвалася найперш у юрыдычна-дзелавой пісьменнасці. Сфармуляваны некаторымі вучонымі яшчэ ў першай палавіне XIX ст., гэты вывад затым развіваў у сваіх працах Я. Ф. Карскі. Ён адзначаў, што творы самых разнастайных жанраў старажытнай беларускай літаратуры, арыгі-

нальнай і перакладной, пісаліся па сутнасці на той жа мове, што і розныя юрыдычныя і дзелавыя помнікі. У савецкі час таксама неаднаразова падкрэслівалася даследчыкамі першаступеннае значэнне юрыдычна-дзелавой пісьменнасці ў фарміраванні старабеларускай літаратурнай мовы.

Жывая гаворка беларускага народа пранікала і ў іншыя традыцыйныя для ўсходнеславянскай пісьменнасці жанры, у прыватнасці ў летапісанне, арыгінальныя помнікі якога — так званыя «літоўскія» летапісы — пачалі ўзнікаць у Вялікім княстве Літоўскім, як мяркуюць даследчыкі, недзе ў другой палавіне — канцы XIV ст. ці ў першай палавіне XV ст.

Пранікненне жывой гаворкі ў летапісанне і іншыя мастацка-апавядальныя жанры свецкай, або, як яе некалі называлі, «неполезной», літаратуры, не гаворачы ўжо пра юрыдычна-дзелавыя помнікі,— з'ява ўвогуле натуральная. Яшчэ са старажытнарускай эпохі гэтыя жанры развіваліся пад непасрэдным уздзеяннем вуснанароднай славеснасці, што паслужыла асновай для ўзнікнення ў сістэме старажытнарускай літаратурнай мовы адпаведных стылістычных разнавіднасцей. Гэтыя разнавіднасці ў сучаснай навуковай літаратуры часта разглядаюцца як своеасаблівы тып старажытнарускай літаратурнай мовы—так званы народналітаратурны, ці свецкалітаратурны, фальклорна-мастацкі — поруч з другім яе тыпам — так званым кніжнаславянскім, або царкоўнакніжным, царкоўналітаратурным, славянізаваным, які развіваўся на аснове царкоўнаславянскай мовы.

Важна падкрэсліць, што ўздзеянне народнай гаворкі на асобныя літаратурныя жанры і творы ў перыяд фарміравання беларускай народнасці набывала намнога большыя памеры ў параўнанні з папярэдняй эпохай. Хоць у розных з іх яно было неаднолькавым, тэндэнцыя ў цэлым праяўлялася агульная.

Своеасаблівыя грамадска-палітычныя ўмовы жыцця беларускага народа ў складзе Вялікага княства Літоўскага, а затым Рэчы Паспалітай, пашырэнне ўзаемасувязей з іншымі народамі, асабліва з Польшчай, якая цесна судатыкалася з так званай «заходняй» культурай, прыводзілі да таго, што традыцыі старажытнарускай літаратуры на Беларусі, а таксама і на Украіне не маглі ўжо мець такой сілы, як, напрыклад, у Маскоўскай дзяржаве. Адзначаючы гэты факт, М. К. Гудзій пісаў: «Украіне і Беларусі выпала на долю такая зацятая і напружаная барацьба за адстайванне сваёй нацыянальнай сама-

стойнасці і сваёй рэлігійнай веры, што стала выражэннем нацыянальнай самасвядомасці, якой не ведала Вяліка Расія. І гэта акалічнасць прымушала літаратурных дзеячоў Украіны і Беларусі арыентавацца больш на жывую грамадска-палітычную сучаснасць, чым на гістарычныя традыцыі» [1].

Тыя працэсы, што збліжалі мову свецкай літаратуры на Беларусі з жывой гаворкай народа, не абмінулі і царкоўна-рэлігійную літаратуру.

Як вядома, мясцовыя (у прыватнасці, усходнеславянскія) моўныя рысы пранікалі, хоць і ў нязначнай колькасці, ужо ў самыя раннія помнікі канфесіянальнай літаратуры, якая ў межах славянскага праваслаўя пісалася выключна на царкоўнаславянскай мове. У выніку своеасаблівага выкарыстання на тых ці іншых славянскіх землях і ўзаемадзеяння з мясцовым моўным субстратам складваліся асобныя яе рэдакцыі — так званыя зводы. Увогуле ж уздзеянне жывой народнай гаворкі істотна не парушала сістэмы царкоўнаславянскай мовы, па паходжанню паўднёваславянскай (балгарскай).

Аднак на Беларусі, а таксама на Украіне справа не абмежавалася толькі ўплывам мясцовай гаворкі на царкоўна-рэлігійную літаратуру з яе традыцыйнай, «свяшчэннай» царкоўнаславянскай мовай. Асобныя творы канфесіянальнай літаратуры тут сталі наогул перакладацца на беларускую (або ўкраінскую) мову [2].

Якія б прычыны ні абумовілі гэту з'яву, яе нельга не разглядаць як зусім незвычайную для ўсходнеславянскай пісьменнасці, хоць і падрыхтаваную ўсім ходам развіцця літаратурнай мовы на Беларусі і Украіне.

---

[1] Н. К. Гудзий. Традиции литературы Киевской Руси в старинных украинской и белорусской литературах. Доклады советской делегации. V Международный съезд славистов. М., 1963, стар. 45. Гл. таксама: В. М. Истрин. Очерк истории древнерусской литературы домосковского периода (XI—XIII вв.). Пг., 1922, стар. 40.

[2] Пры разглядзе старажытнай рэлігійнай літаратуры на беларускай (або ўкраінскай) мове прыходзіцца гаварыць амаль выключна пра пераклады, таму што якія-небудзь арыгінальныя царкоўна-рэлігійныя творы на Беларусі і Украіне ў час знаходжання іх у складзе Вялікага княства Літоўскага аж да сярэдзіны XVI ст. не ўзнікалі, за выключэннем выдадзеных праваслаўнымі іерархамі асобных грамат і пасланняў (гл. пра гэта: Макарий. История русской церкви, т. IX. СПб, 1879, стар. 299—300; Е. Голубинский. История канонизации святых в русской церкви. М., 1903, стар. 221).

Перакладчыцкая дзейнасць Скарыны, такім чынам, не была выпадковай — ён нават меў сваіх папярэднікаў.

Зараз немагчыма сказаць дакладна, калі ўзніклі першыя пераклады царкоўна-рэлігійных твораў на беларускую мову. З тых перакладаў, якія дайшлі да нас, найбольш раннія датуюцца XV ст. Няма сумнення, што незразумелыя царкоўнаславянскія рэлігійныя творы пачалі перакладацца раней таго часу, ад якога захаваліся найстарэйшыя з вядомых нам перакладаў. Маглі, зразумела, перакладацца царкоўна-рэлігійныя творы не толькі з царкоўнаславянскай мовы, але і з іншых моў, напрыклад з лацінскай, польскай.

Спачатку перакладалася, напэўна, рэлігійна-бытавая літаратура — жыцції святых, розныя царкоўныя паданні, апокрыфы і г. д., дзе не так строга патрабавалася прытрымлівацца арыгінала і сам змест твора даваў магчымасць шырока звяртацца да бытавой гаворкі.

Крыху пазней пачынаюць перакладацца, што трэба асабліва адзначыць, творы свяшчэннага пісання, змест і форма якіх пільна аберагаліся царквой. Выключна важнай у гэтых адносінах з'явілася перакладчыцкая дзейнасць беларускага першадрукара Францыска (Георгія) Скарыны і яго паслядоўнікаў — Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Мялеція Сматрыцкага і іншых, якія ўпершыню давалі ў рукі чытача друкаваную кнігу, рабілі яе даступнай, масавай.

Скарына, імкнучыся зрабіць біблейскія кнігі зразумелымі народным масам — «людемъ посполитымъ русскаго языка», не адрываўся далёка ад традыцыйных сродкаў і форм літаратурнага выражэння і ў параўнанні са сваімі паслядоўнікамі ды і нават папярэднікамі даволі асцярожна ўводзіў у біблейскі тэкст народную гаворку. Некаторыя кнігі ён выдаваў «рускыми словами, а словенскым (г. зн. царкоўнаславянскім.— *Л. Ш.*) языкомъ». У іншых выдадзеных ім біблейскіх кнігах цэлыя фрагменты таксама надрукаваны на даволі паслядоўна вытрыманай царкоўнаславянскай мове. Увогуле архаічнай мовай, насычанай царкоўнаславянскімі формамі і словамі, напісаны яго ўласныя творы — прадмовы і пасляслоўі.

Таму заслугоўвае ўвагі выказаная І. М. Галянішчавым-Кутузавым думка, што Скарына «спрабаваў, — на жаль, вельмі рана — стварыць літаратурную мову на аснове царкоўнаславянскай, але з шырокім прыняццем народных элементаў, магчыма, не толькі для Літвы, але і для ўсіх земляў рускіх... Ён

хацеў выкарыстаць культурную спадчыну мінулага і ў той жа час быць зразумелым народу...»[1]

Аднак, як сведчаць факты, Скарына ў большасці адыходзіў ад канонаў царкоўнаславянскай пісьменнасці, своеасабліва сплаўляў славянізмы са сродкамі жывой беларускай гаворкі, часам звяртаўся да запазычанняў з суседніх моў і надаваў сваім выданням адпаведны моўны каларыт. У яго творчасці пашыраліся выяўленчыя магчымасці літаратурнай мовы за кошт смелага, некалькі незвычайнага спалучэння элементаў рознага паходжання — кніжнаславянскіх і народнагутарковых. Тым самым сціраліся рэзкія граніцы паміж моўна-стылістычнымі асаблівасцямі займальнай, так званай «неполезной», і «высокай» літаратуры.

Апошняе асабліва звяртае на сябе ўвагу на фоне некаторых спецыфічных з'яў тагачаснага літаратурнага жыцця ўсходніх славян, у прыватнасці тых працэсаў, якія былі звязаны з так званым другім паўднёваславянскім уплывам на літаратурна-моўную практыку асобных усходнеславянскіх народаў. Гэты ўплыў, як вядома, закрануў розныя галіны культуры ўсходніх славян, але найбольш датычыўся сфер «высокай» літаратуры, пераважна царкоўна-рэлігійнай, якраз той, з якою меў справу беларускі першадрукар.

Вынікам другога паўднёваславянскага ўплыву з'явілася, апрача ўсяго, узрастанне ролі царкоўнаславянскай мовы (па тэрміналогіі некаторых даследчыкаў — старажытнаславянскай) у развіцці сродкаў і форм літаратурнага выражэння, наогул больш шырокае і паслядоўнае ўжыванне яе ў адпаведных сферах.

Другі паўднёваславянскі ўплыў не ў аднолькавай меры адбіўся на пісьменнасці асобных усходнеславянскіх народаў. Выключна вялікае значэнне ён меў у развіцці літаратурнай мовы Маскоўскай Русі. Устаноўленых па ўзору царкоўнаславянскай кніжнасці норм і прыёмаў пісьма пачалі прытрымлівацца не толькі ў царкоўнай, рэлігійна-багаслоўскай, жыційнай літаратуры, але і ў свецкай: у мастацкіх творах, прыватнай перапісцы і г. д. Як адзначае В. У. Вінаградаў, «паварот да ўзбагачэння і ўдасканалення кніжна-рытарычнага славянізаванага тыпу літаратурнай мовы, выкліканы другім паўднё-

[1] И. Н. Голенищев-Кутузов. Гуманизм у восточных славян (Украина и Белоруссия). Доклады советской делегации. V Международный съезд славистов. М., 1963, стар. 21.

ваславянскім уплывам з канца XIV ст., з'яўляецца надзвычай важным этапам у гісторыі рускай літаратурнай мовы. Без правільнай ацэнкі яго становіцца незразумелай тая вялікая колькасць славянскіх элементаў, слоў і зваротаў, якая да гэтай пары існуе ў рускай літаратурнай мове» [1].

Хоць храналагічныя рамкі другога паўднёваславянскага ўплыву звычайна акрэсліваюцца XIV—XV стст., «выкліканы ім працэс развіцця старажытнаславянскай літаратурнай мовы на новай, усходнеславянскай глебе, — як слушна адзначае М. І. Талстой,— працягваўся і ў XVI і нават у XVII ст., захоўваючы ў прынцыпе амаль нязменным рад рэвалентных прыкмет...» [2]

І вось у гэты, кажучы словамі М. І. Талстога, «перыяд цэнтралізацыі» царкоўнаславянскай (па яго тэрміналогіі — старажытнаславянскай) мовы [3] пачынае перакладацца канфесіянальная літаратура на беларускую мову. Гэта азначала, што адначасова з узмацненнем уплываў царкоўнаславянскай мовы, з аднаго боку, намячаўся, з другога боку, яе «крызіс» на Беларусі, які выклікаў значныя зрухі ў агульнай сістэме сродкаў і прыёмаў літаратурнага выражэння.

Царкоўнаславянская мова і ў далейшым ужывалася на Беларусі, пераважна ў спецыяльнай літургічнай літаратуры, прызначанай для непасрэднага выкарыстання ў богаслужэнні. У асобныя перыяды яе аўтарытэт мог нават часова ўзрастаць (у прыватнасці, з канца XVI—пачатку XVII ст. у сувязі з разгортваннем нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускага народа, у якой царкоўнаславянская мова выступала ў якасці сімвала вернасці «свяшчэннай мінуўшчыне», увасабляла еднасць «грэка-славянскага» свету ў супрацьлегласць каталіцкаму Захаду з яго лацінскай і польскай мовамі). Аднак яна траціла сваё арганізуючае значэнне ў развіцці літаратурнай мовы на Беларусі і адасаблялася як замкнутая моўная

---

[1] В. В. Виноградов. Основные проблемы изучения образования и развития древнерусского литературного языка. IV Международный съезд славистов. Доклады. М., 1958, стар. 104.

[2] Н. И. Толстой. Взаимоотношение локальных типов древнеславянского литературного языка позднего периода (вторая половина XVI—XVII в.). Славянское языкознание. Доклады советской делегации. V Международный съезд славистов. М., 1963, стар. 236.

[3] Н. И. Толстой. К вопросу о древнеславянском языке как общем литературном языке южных и восточных славян. «Вопросы языкознания», 1961, № 1, стар. 66.

сістэма, хоць і магла служыць у некаторых выпадках для пісьменнікаў крыніцай выяўленчых сродкаў.

Такім чынам, тая сістэма функцыянальна-стылістычных разнавіднасцей, што склалася ў агульнарускі перыяд, паступова разбуралася, ці, лепш сказаць, перабудоўвалася на грунце далейшага развіцця традыцый так званага народналітаратурнага тыпу старажытнарускай літаратурнай мовы; у беларускай пісьменнасці выпрацоўваліся новыя функцыянальна-стылістычныя разнавіднасці і ўзаемаадносіны паміж імі. Пры гэтым адбывалася прыкметнае размежаванне царкоўнаславянскай мовы — «языка словенскаго» і літаратурнай старабеларускай, якая, таксама як і старая ўкраінская літаратурная мова, у помніках звычайна называлася «рускай», «простай» мовай. Спецыфіку той і другой яскрава ўсведамлялі сучаснікі: перакладалі з «языка словенскаго» на «рускую» («простую») мову і часам нават друкавалі гэтыя пераклады побач з царкоўнаславянскім арыгіналам (першай кнігай, у якой паралельна ў дзве калонкі быў надрукаван царкоўнаславянскі тэкст і яго беларускі пераклад, з'явілася «Евангелле», выдадзенае Васілём Цяпінскім каля 1580 г.).

Нельга, зразумела, дапусціць, што Скарына не арыентаваўся ў той моўнай сітуацыі, якая склалася на Беларусі к XVI ст. і якая не паўтаралася ў некаторых іншых славянскіх землях, у прыватнасці на Маскоўскай Русі. Наўрад ці мог ён па-сур'ёзнаму ставіць перад сабою задачу «мадэрнізаваць» за кошт жывой беларускай гаворкі ўстарэлую царкоўнаславянскую мову і такім шляхам выпрацаваць на аснове апошняй адзіную пісьмова-літаратурную мову для ўсіх усходніх славян, бо ў тагачасных умовах гэта не мела шансаў на поспех. Калі ў межах Вялікага княства Літоўскага ўжо былі падрыхтаваны адпаведныя прадпасылкі для такой «мадэрнізацыі» і наогул выкарыстання — больш ці менш паслядоўнага — народнай гаворкі ў сферах царкоўна-рэлігійных, то ў Маскоўскай дзяржаве строга вытрымлівалася непарушнасць царкоўнаславянскай мовы як сведчанне велічы і «чистоты риз» праваслаўя.

Не выпадкова, што царкоўна-рэлігійныя кнігі, надрукаваныя і перапісаныя ў Вялікім княстве Літоўскім, на Русі Маскоўскай лічыліся ерэтычнымі, поўнымі «и ереси и погрѣшенія и блуженія». У лік такіх трапілі не толькі творы Сымона Буднага — гэтага страшэннага «ерэтыка», «хрыстазабойцы» і «атэіста», як называлі яго царкоўнікі, але і «Біблія» Скары-

ны, таму што праваслаўныя артадоксы, гаворачы словамі даследчыка, «не маглі не абражацца дзіўным складам мовы Скарыны... і, натуральна, бачылі ў ёй няправае ўхіленне ад біблейскага спосабу выражэння, асвячонага даўнасцю гадоў, веліччу сваёй і важнасцю зместу» [1]. Захавалася некалькі загадаў маскоўскіх царкоўных і свецкіх улад, каб «никакихъ книгъ литовскія печати и письменныхъ литовскихъ не покупали» пад пагрозай вялікага духоўнага наказання і патрыяршага пракляцця, бо ў кнігах гэтых «сыскались многія ереси и супротивства древнимъ учительным Евангельямъ и инымъ святыхъ отецъ божественным книгамъ» [2]; вядомы факты спальвання «літоўскіх кніг» у Маскве і іншых гарадах і г. д. Магло быць, што сярод забароненых кніг спальваліся і кнігі «Францешкова друку».

Скарына спыніўся на паўшляху ў дэмакратызацыі мовы біблейскіх кніг. Мова яго выданняў у адносінах да іншых функцыянальна-стылістычных разнавіднасцей тагачаснай беларускай літаратурнай мовы займае некалькі адасобленае становішча, знаходзіцца дзесьці на перыферыі. Гэта як бы пераход ад «языка словенскаго» да мовы «рускай».

Што датычыцца такіх «пераходаў» — хай сабе ў творчасці Скарыны або іншага пісьменніка старажытнай пары, — то яны сведчаць аб магчымасці суіснавання ў сістэме тагачаснай беларускай літаратурнай мовы даволі адрозных па структуры і выяўленчых сродках функцыянальна-стылістычных разнавіднасцей, кожная з якіх магла развівацца на сваім участку літаратурнага руху і судакранацца з іншымі толькі некаторымі агульнымі рысамі. У гэтым — адна з істотных асаблівасцей старабеларускай літаратурнай мовы, як увогуле літаратурных моў данацыянальнай эпохі.

Паслядоўнікі Скарыны ўлічылі вопыт яго моватворчасці і пайшлі значна далей у напрамку «дэцаркоўнаславянізацыі» рэлігійнай літаратуры. Яны надалі перакладам царкоўна-рэлігійнай літаратуры прастату і выразнасць, жывасць і непасрэднасць, уласцівую лепшым узорам старажытнай беларускай літаратуры, і збліжалі царкоўна-рэлігійныя стылі з іншымі функ-

---

[1] И. Флеров. О православных церковных братствах, противоборствовавших унии в Юго-Западной России, в XVI, XVII и XVIII столетиях. СПб, 1857, стар. 139.

[2] З акружной граматы маскоўскага цара ад 1627 г. (гл. Собрание государственных грамот и договоров, ч. 3. М., 1822, стар. 298—299).

цыянальна-стылістычнымі разнавіднасцямі старабеларускай літаратурнай мовы.

І хоць нельга не пагадзіцца з выказваннем В. У. Вінаградава, што «толькі ў дачыненні да нацыянальнай літаратурнай мовы можа быць выстаўлен тэзіс аб арганізуючай і фарміруючай ролі асобных індывідуальнасцей» [1], усё ж цяжка пераацаніць заслугі Скарыны ў развіцці беларускай літаратурнай мовы. Маючы справу з выключна кансерватыўнай па зместу і форме літаратурай, ён не пабаяўся адысці ад застылых канонаў і ў сваёй моватворчасці адлюстраваць новыя павевы часу.

---

[1] В. В. Виноградов. Различия между закономерностями развития славянских литературных языков в донациональную и национальную эпохи. Доклады советской делегации. V Международный съезд славистов. М., 1963, стар. 28.





М. Г. БУЛАХАЎ

# Аб словаўтварэнні скарынінскіх выданняў

... болѣи избрал оставити в на8це и въ книгахъ вечную славу и паметь свою, нежели во тленныхъ великихъ царскыхъ сокровищахъ.



Гэтыя словы ўзяты з скарынінскага выдання адной старазаветнай біблейскай кнігі не выпадкова. Яны ў поўнай меры характарызуюць шматгранную дзейнасць самога Скарыны — яго самаадданае служэнне справе навукі і прагрэсу роднай краіны, яго палымяную прапаганду ідэй асветніцтва і гуманізму, яго нястомныя пошукі шляхоў духоўнага ўздыму простага чалавека і абуджэння ў ім грамадскай самасвядомасці. Больш выразна, чым яго іншыя сучаснікі, Скарына адчуваў пульс народнай душы, няўтольную прагу «посполитого люду» да ведаў і пазнання, да авалодання магутным сродкам развіцця культуры — граматай, пісьмом. Арганічная сувязь Скарыны са сваім народам найбольш выразна праявілася ў яго любві да роднага слова, у імкненні выкарыстаць простую, зразумелую ўсім родную мову ў якасці сродку літаратуры, навукі і грамадскага прагрэсу. Ідучы па гэтым шляху, Скарына кінуў смелы для таго часу выклік традыцыйна-кананічным прынцыпам царкоўна-культавай літаратуры, якая ўсё яшчэ баялася парушыць этыкет стараславяншчыны, і шырока адчыніў дзверы

для ўсебаковай дэмакратызацыі мовы і стылю літаратурных жанраў. Па вельмі архаічнай і стракатай тканіне старaславянскай мовы культавых твораў Скарына рассыпаў незлічоную колькасць дыяментаў жывога беларускага слова, і мы абавязаны сабраць гэтыя дыяменты, каб паказаць тую выдатную ролю, якую адыграў талент вялікага асветніка ў развіцці духоўнай культуры беларускага народа.

У гэтым артыкуле нам хочацца звярнуць увагу лінгвістаў на скарынінскія выданні як на важную крыніцу гістарычнага вывучэння словаўтваральных працэсаў і звязаных з імі з'яў семантычнага развіцця некаторых катэгорый лексікі.

Першая палавіна XVI ст. была для беларускай літаратурнай мовы перыядам значнага ўздыму, абумоўленага пашырэннем разнастайных відаў пісьменнасці і літаратуры, а таксама актывізацыяй грамадскага жыцця. Найбольш выразна гэтыя змены адбіліся на слоўнікавым саставе літаратурнай мовы, які інтэнсіўна стаў папаўняцца разнастайнымі неалагізмамі размоўна-бытавога і тэрміналагічнага характару. Зразумела, утварэнне новых лексічных адзінак — гэта не прамалінейны працэс, ён залежыць ад многіх фактараў і працякае вельмі няроўна. Складанасць гістарычнага развіцця словаўтваральнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы неабходна тлумачыць, па-першае, моцным уплывам на яе мясцовых гаворак, якім уласцівы часам супрацьлеглыя тэндэнцыі, па-другое, уздзеяннем на яе старарускіх і старaславянскіх пісьмовых традыцый, па-трэцяе, цеснымі кантактамі з украінскай і польскай мовамі. У вельмі значнай ступені складанасць і супярэчлівасць працэсу развіцця словаўтваральнай сістэмы беларускай мовы адлюстравалі скарынінскія выданні.

Перш за ўсё неабходна падкрэсліць, што звычайна Скарына выкарыстоўваў прадуктыўныя беларускія ці наогул усходнеславянскія мадэлі словаўтварэння, напаўняючы іх канкрэтным лексічным матэрыялам у залежнасці ад зместу і тэматыкі твора.

Спынімся спачатку на асаблівасцях выкарыстання мадэлей, па якіх утвараліся назвы асоб мужчынскага полу і назвы прадметаў.

У гістарычную эпоху шырокае распаўсюджанне атрымала праславянская мадэль назоўнікаў з суфіксам *-никъ (-икъ)*. Аб яе высокай прадуктыўнасці ў старажытнарускай мове сведчыць хоць бы тое, што ў «Матэрыялах» І. І. Сразнеўскага за-

рэгістравана каля 1000 назоўнікаў з гэтым суфіксам, якія складаюць некалькі самастойных тыпаў у залежнасці ад значэння (назвы асоб мужчынскага полу, прадметаў, жывёл і г. д.). Прыблізна ў такім жа напрамку развівалася гэта іменная мадэль у старажытнай беларускай мове. Тут суфікс *-никъ* (*-икъ*) служыў асноўным марфалагічным сродкам для ўтварэння назваў асоб мужчынскага полу ў залежнасці ад сацыяльнага становішча, займаемай пасады або роду заняткаў. Напрыклад, у скарынінскіх тэкстах: *служебникъ* (КБ, 38 адв., 39 адв., 44 адв.) [1] — у значэнні праслав. і старасл. 'рабъ'[2], *насилникъ* (там жа, 21 адв.); *наследникъ* (там жа, 28) — у значэнні і побач з *дзедзичъ* (апошняе адпавядае сучаснаму *нашчадак*). Іншыя пісьмовыя помнікі скарынінскай і пасляскарынінскай эпохі даюць масу аналагічных утварэнняў: *бобровникъ* (АВК, XVII, 36), *коморникъ* (АВК, VI, 99), *важникъ* (там жа, 270), *шапочникъ* (АВК, XX, 226), *закладникъ* (АВК, XXI, 129), *осочникъ* (АВАК, XVII, 224), *стольникъ* (АБЗС, 22, 214), *жалобникъ* (ЛС 1529 г., 86) і інш.

Побач з гэтым Скарына выкарыстоўваў іншыя марфалагічныя сродкі для ўтварэння назваў асоб мужчынскага полу па роду або характару дзейнасці, па сваяцкіх адносінах і г. д. Гэта, напрыклад, суфікс *-ичъ* (*-овичъ*), які паходзіць з праслав. *-*itje*: *братаничъ* (КБ, 25, 26 адв.), *дедичъ* (там жа, 28) — у значэнні старасл. 'наслѣдникъ'. Сюды ўключаецца і назоўнік *господичичь* (КБ, 44 адв.), які ў такой жа форме прадстаўлен у старaславянскіх тэкстах «Бібліі» (параўн. у астрожскім выданні: *то господичичъ мои* (КБ, гл. .кд҃.). Сустра-

---

[1] Пры пашпартызацыі прыкладаў тут і ў іншых артыкулах зборніка прыняты наступныя скарачэнні назваў скарынінскіх кніг: Ап — «Апостал», Дз — «Другазаконне», ДП — «Кніга Даніїла прарока», ДЦ — «Другая кніга Царстваў», ЕК—кніга «Еклесіяст», ІН—кніга «Ісуса Навіна», ІС—кніга «Ісус, сын Сірахаў», КБ—кніга «Быццё», КВ—кніга «Выхад», КЕ — кніга «Эсфір», КІ — кніга «Іова», КЛ — кніга «Левіт», КП — кніга «Прамудрасць», КР — кніга «Руф», КС — кніга «Суддзяў», КЮ — кніга «Юдзіф», КЛ — кніга «Лічбы», МПК — «Малая падарожная кніжыца», П—«Псалтыр», ПЕ—«Плач Ераміі», ПП—«Песня песняў», ПС—«Прытчы Саламонавы», ПЦ — «Першая кніга Царстваў», ТЦ — «Трэцяя кніга Царстваў», ЧЦ — «Чацвёртая кніга Царстваў». Іншыя скарачэнні ў гэтым артыкуле з'яўляюцца агульнапрынятымі ў беларускім мовазнаўстве, таму спіс іх не даецца.

[2] Цікава адзначыць, што ў астрожскім выданні «Бібліі» (1581), якое па мове стаіць вельмі блізка да старaславянскіх арыгіналаў, паслядоўна ўжываецца слова *рабъ*: *два раба, къ рабома своима, рече к рабꙋ.*

каюцца ў тэкстах выданняў Скарыны таксама назоўнікі *отчичъ, ойчичъ* (ІС, 38), *дядковичъ* (ЛК, 73 адв.), якія стаяць у адным радзе з іншымі вытворнымі ад асноў назоўнікаў, што абазначалі розныя ступені сваяцтва або грамадскага становішча. Параўн. у помніках дзелавой пісьменнасці: *сестричъ* (РИБ, XXVII, 39), *дѣверичъ* (АЗР, І, 185), *девериччичъ* (РИБ, XX, 29, XXVII, 718), *приймичъ* 'прымак' (АВАК, XVII, 29), *воеводич* (ИЮМ, XXII, 237), *судичъ* (СДГА, III), *шляхтичъ* (АЗР, II, 83), *старостичъ* (БА, II, 53), *войтовичъ* (АВАК, XVII, 435) і інш. Асабліва часта суфікс *-ичъ (-овичъ)* далучаўся да асноў назоўнікаў або прыметнікаў патранімічнага характару. Такія вытворныя словы замацоўваліся спачатку як імёны па бацьку, а затым на базе іх фарміраваліся назоўнікі ў функцыі прозвішчаў асоб мужчынскага полу. Параўн. наступныя характэрныя выпадкі: *Станко Володковичъ* (АЛМ, I, 8), *Андрей Саковичъ* (там жа, 63), *Иванъ Ходоровичъ* (там жа, 11), *Максимъ Водавозовичъ* (АВК, XXXIX, 501).

Аб значнай словаўтваральнай актыўнасці гэтага суфікса можа сведчыць тое, што ён свабодна далучаўся і да асноў уласных імён неславянскага паходжання: *Михаилъ Минтовтовичъ* (АЛМ, I, 8), *Александро Монгирдовичъ* (там жа, 50), *Петръ Монтигирдовичъ* (там жа, 10). У старажытнай беларускай мове такія ўтварэнні функцыяніравалі таксама як назвы некаторай сукупнасці людзей па іх прыналежнасці пэўнаму землеўладальніку: *люди Готковичи* (АЛМ, I, 11), *люди Лясевичи* (там жа, 12).

Нарэшце, трэба адзначыць, што з патранімічнымі імёнамі звязаны і шматлікія назвы на *-ичъ(-овичъ)* двароў, сёл, вёсак і іншых населеных пунктаў: *Тасеневичъ дворища* (АЛМ, I, 12), *Добровтричъ дворища* (там жа), *село Андроновичи* (ИЮМ, XXII, 247), *именье Видиничи* (там жа, 275), *маетность Юрьевичи* (там жа, 473).

Беларуская мова значна пашырыла ўжыванне назоўнікаў мужчынскага роду, утвораных пры дапамозе запазычанага яшчэ ў праславянскі перыяд суфікса *-арь(<*-arjь)*. Такія назоўнікі абазначалі асоб паводле віду іх заняткаў: *золотаръ, рымаръ, седларъ, ганъчаръ* (РИБ, XXVII, 837), *дегтяръ* (АВАК, XVII, 337), *бондаръ* (ДМАМЮ, I, 445), *столаръ* (там жа), *грабаръ* (РИБ, XXX, 558), *млынаръ* (РИБ, XXVII, 180), *мынъцаръ* (там жа, 825), *стрехаръ* (АВАК, XVII, 297), *арендаръ* (АВАК, XVIII, 32), *крамаръ* (РИБ, XXXIII, 893), *дру-*

*каръ* (АВАК, VIII, 6) і інш. Утварэнні гэтага дэрывацыйнага тыпу ўласцівы таксама скарынінскім выданням: *лекарь, апотекарь* (ІС, 61), *лъгарь* (там жа, 33), *корчмаръ* (там жа, 43 адв.), *кухарь* (ПЦ, 20), *шафарь* (КБ, 28, 80). Характэрна, што ў адпаведных месцах тэкстаў на стараславянскай мове звычайна прадстаўлены словы, якія адносяцца да іншых суфіксальных і прэфіксальных тыпаў, прычым не заўсёды супадае матэрыяльна і ўтвараючая аснова.

У катэгорыі назоўнікаў, якія абазначалі асоб мужчынскага полу, з праславянскага перыяду вядомы ўтварэнні з суфіксам дзеяча *-тель*($<$**-tel+je*$<$**-jo*). Галоўнай сферай іх выкарыстання былі царкоўна-культавыя жанры літаратуры, адкуль яны, бясспрэчна, пранікалі і ў іншыя віды пісьменнасці, а таксама ў размоўныя стылі. Скарына аддаў пэўную даніну гэтай даволі трывалай для ўсіх славян традыцыі і захаваў некаторую колькасць назоўнікаў на *-тель*, прычым часам яны ўжыты ў кантэкстах, якія не поўнасцю адпавядаюць па словаўтваральных прыметах кантэкстам іншых выданняў «Бібліі»: *сътворителю неба и земли* (КБ, 27 адв.), *азъ защититель твои* (там жа, 28). Параўн. у астрожскім выданні: *иже създа н҃бо и землю* (гл. .ді.), *азъ защищꙋ тѧ* (там жа). Іншы раз, наадварот, Скарына, імкнучыся да папулярнасці выкладання тэксту і звязанай з гэтым перабудовы фразы па сучасных яму нормах беларускай літаратурнай мовы, пазбягаў ужывання назоўнікаў на *-тель*. Так, напрыклад, у скарынінскай фразе *и нача Ноє мужъ орати и делати землю* (КБ, 21) адсутнічае назоўнік на *-тель* ад асновы *дѣла-*, а ў адпаведным месцы астрожскага выдання такі назоўнік ёсць, прычым ён выступае ў канструкцыі з назоўным прэдыкатыўным: *и начатъ Ноє ч҃лвкъ дѣлатель быти* (гл. .Ѳ.).

Сярод назоўнікаў мужчынскага роду, якія абазначалі асоб істот і прадметы, значнай словаўтваральнай актыўнасцю характарызаваліся назоўнікі з суфіксам *-ець* ($<$праслав. * *-ьсь*) тыпу *купець, творець, старець, агнець*. У сваіх выданнях Скарына шырока выкарыстоўвае гэту прадуктыўную мадэль для ўтварэння агульных асабовых і неасабовых назоўнікаў: *братанецъ* (КБ, 27 адв.), *молодецъ, стрелецъ* (там жа, 37 адв.), *первенецъ* 'першанароджаны' (там жа, 48), *самецъ* (там жа, 18, 57), *пришелецъ* (там жа, 37 адв., 38, 51). Цікава, што ў астрожскім выданні замест слова *самецъ* паслядоўна ўжыва-

ецца тэрмін *м8жескіи полъ,* а замест слова *пришелецъ* — *обиталникъ* (часам таксама ў адпаведных фразах выступае дзеяслоў *обитати*).

З ліку малапрадуктыўных і непрадуктыўных тыпаў, прадстаўленых у выданнях Скарыны адзінкавымі ўтварэннямі, трэба адзначыць іменныя тыпы з суфіксамі *-инъ, -ырь, -тай, -унъ, -ень, -яга, -ухъ, -ач: господинъ* (КБ, 32, 40, 50), *пастырь* (там жа, 13 адв., 52 адв.), *ратай* (там жа, 13 адв.), *кликунъ* (ПЦ, 181), *студень* 'холад' (КБ, 58), *роботяга* (ІС, 56; ПЦ, 148), *послухачъ* (Ал., 1525 г.), *пастухъ* (КБ, 47 адв.). Назоўнікі *пастырь* і *пастухъ* ужываліся як паралельна-сінанімічныя ўтварэнні не толькі ў тэкстах Скарыны, але і ў тэкстах, пісаных царкоўнаславянскай мовай. Параўн. у Скарыны: *Былъ же пакъ Авель пастырь овецъ, а Каинъ ратай земли* (КБ, 13 адв.); *и ту сваръ был есть межи пастыри герарскими и пастухи Ісааковыми* (там жа, 47 адв.); у астрожскім выданні «Бібліі»: *І бысть Авель пастырь овцам Каин же бѣ дѣлаѧ землю* (гл. .д҃.); *И прѧх8сѧ паст8си герарстѣи съ пастухы Ісааковыми* (гл. .к҃s.).

Нарэшце, коратка скажам аб непрадуктыўным у пісьмовы перыяд іменным тыпе на *-отъ(<*-to).* З ліку назоўнікаў мужчынскага роду сюды адносіцца адцягнены па значэнню назоўнік *животъ,* сінонімамі якога ў кніжных стылях былі словы *жизнь* і *житіе.* Заўважаецца, што Скарына аддаваў перавагу першаму з іх — слову *животъ,* якое звычайна выступае ў яго ў значэнні 'існаванне, перыяд існавання': *лѣта живота Ізмаилова* (КБ, 45 адв.); *всѧ дни живота твоего* (там жа, 12 адв.); *водхнул в лице его дыхание живота*[1] (там жа, 11); *длѧ соблюдениѧ 8бо животовъ ваших* (там жа, 83 адв.); *колико есть лѣтъ живота твоего* (там жа, 87); *И были с8т вси дни живота его сто четыредесѧтъ и седмъ лѣт* (там жа, 88); *И 8мре Іωсифъ выполнив лѣтъ сто и десетъ живота своего* (там жа, 93 адв.); *животъ нашъ в р8цѣ твоей есть* (там жа, 88); *и при животе сохранилъ людей многихъ* (там жа, 93); *живота збавити* (ЕК, 24 адв.). Паслядоўна ўжывае Скарына гэты назоўнік у фразеалагічным выразе *древо живота: дабы сохранен былъ путь дрѣва живота; возмет от древа живота и снеˢть* (КБ, 13)[2].

---

[1] Параўн. у астрожскім выданні «Бібліі»: *и вд8н8 въ лице его дыхание жизни.*

[2] Параўн. у астрожскім выданні «Бібліі»: *хранити п8ть древа жизни; възметъ от древа жизни и снѣсть.*

Назоўнік *животъ* мае ў Скарыны і другое значэнне — 'частка цела чалавека або жывёл', 'чэрава': *иже изыйдеть з живота твоего, того будѣши имети дедичемъ* (КБ, 28); *згнеталисѧ вкупе в животе еѧ детища* (там жа, 45 адв.); *тошнить ми сѧ в животе моемъ дщеръ делє хеттеовыхъ* (там жа, 51).

Зрэдку ў скарынінскіх тэкстах сустракаецца таксама назоўнік ніякага роду *житие* ў першым значэнні, уласцівым назоўніку *животъ*: *житиѧ Ноева* (КБ, 19 адв.); *житие свое* (там жа, 45 адв.). Часам жа Скарына перабудоўвае фразу такім чынам, што слова *житие* стараславянскіх тэкстаў замяняецца апісальным зваротам. Параўн. у астрожскім выданні: *Бысть же житїе Саррино лѣт .ркζ.* (гл. .кг.); у скарынінскім выданні: *Жива пакъ была Сарра сто и двадесеть и седмъ лѣтъ* (КБ, 39 адв.).

Прадуктыўны тып праславянскай мовы складалі назоўнікі жаночага роду, якія афармляліся з дапамогай суфікса *-ина* (*истина, глубина* і інш.). Гэты суфікс быў полісемантычным: у спалучэнні з аднымі асновамі ён выражаў абстрактныя паняцці, у спалучэнні з другімі — прадметы з канкрэтнымі значэннямі. У сваіх перакладах біблейскіх тэкстаў Скарына выкарыстоўвае назоўнікі на *-ина* не толькі агульнаславянскага паходжання, але і больш познія ўсходнеславянскія і заходнеславянскія: *дружина* 'вайсковая адзінка' (КБ, 27; ДП, 13; ПС, 29 адв.; ПП, 2); *десѧтина* 'адна дзесятая частка' (КБ, 27 адв., 52); *отчина* 'спадчынная зямля' (КБ, 87 адв.); *храмина* 'дом для жылля' (там жа, 31 адв., 33 адв., 62); *ровнина* (там жа, 26 адв.); *пошлина* (там жа, 88); *кривина* 'нечыстасардэчнасць' (там жа, 93); *мертвечина* (ІС, 56; КЛ, 3 адв.; ДЗ, 31; КІ, 40) і інш.

На некаторых утварэннях з суфіксам *-ина* трэба спыніцца больш падрабязна. Слова *долина,* утворанае, напэўна, яшчэ ў агульнаславянскі перыяд, у скарынінскіх тэкстах выступае на месцы слоў *долина, юдолїѧ, дѹбъ, дебрь,* якія ўжыты ў адпаведных канструкцыях стараславянскіх тэкстаў. Параўн. у Скарыны: *до места сихемска и даже до долины славное* (КБ, 24 адв.); у астрожскім выданні: *до места сихемска, къ дѹбѹ высокомѹ* (гл. .ві.). У Скарыны: *до долины лесное* (КБ, 26 адв.); у астрожскім выданні: *на дебрь лѵкїю* (гл. .ді.). У Скарыны: *в долине Маврине* (КБ, 26 адв.); у астрожскім выданні: *оу дѹба ма^м^врїѧ* (гл. .иі.) і г. д. Такая уніфікацыя можа быць

вытлумачана прынцыпам вольнага перакладу (не захоўваецца ні словаўтваральная, ні лексічная ідэнтычнасць) і імкненнем пазбегнуць дэталізацыі ў абазначэнні месц, дзе адбываліся падзеі.

Назоўнік *родина* ўжываецца Скарынай як сінонім назоўнікаў *родъ, наслѣдие, племѧ, домъ* ('сям'я, сваякі, кроўныя'), *wlast, pokolenije, ojczyzna, potomstwo, rod,* якія сустракаюцца ў адпаведных месцах тэкстаў на стараславянскай, чэшскай і польскай мовах [1]: *изыйди от земли своеѥ и от родины своеѥ и от дому отца своєго* (КБ, 24); у астрожскім выданні: *отрода своєго* (гл. .ві҃.); *поймеши жену сыну моему от родины моеѥ и от дому отца моего* (КБ, 43); *от племени моего* (гл. .кд҃.); *поимите оттолѣ отца своего и всю родину и приедьте ко мне* (КБ, 84); *едеть Іаковъ з родиною своею до египта* (там жа, 84 адв.); *приеде до египъта со всимъ племенемъ своимъ сыновъ его и вн8чета дщеры и всѧ родина вк8пе* (там жа, 85); *Изыйди от земли своеѧ, и от родины твоеѧ, и от дому отца твоего* (ІН, 2); *И сѣ всѧ родина възстали суть на рабу твою* (ДЦ, 91); гл. таксама КС, 37; ЕК, 6, 24 адв.; КЮ, 22 адв. і інш. Як вядома, у гэтых значэннях слова *родина* не ўласціва ні беларускай, ні рускай мове, але яно замацавалася гістарычна ў заходнеславянскіх (польскай, чэшскай, славацкай) і ўкраінскай мовах. Трэба думаць, што Скарына ўжываў яго пад уплывам або польскай, або чэшскай мовы. Менш верагодна дапушчэнне аб тым, што гэта слова было перанесена непасрэдна з беларускай пісьменнасці XVI ст. (дарэчы, тут яно было несістэмнай з'явай).

У словаўтваральны тып на *-ина* Скарына ўключыў індывідуальнае запазычанне з чэшскай мовы, дакладней, з чэшскага выдання «Біблії» — слова *мокрина* 'мокры луг': [коровы] *пасѧх8сѧ по мокринахъ* (КБ, 74); *пас8щесѧ по мокринахъ* (там жа, 74 адв.). Параўн. сучаснае чэшск. *mokřina,* 'mokré misto' (louka, pole...) [2].

Пад уплывам чэшскага тэксту Скарына ўжывае часам назоўнік *седина* ў асаблівым гукавым афармленні: *шедины моє* [3]

---

[1] Гл. спасылкі на гэтыя адпаведнікі ў кн.: П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. СПб, 1888, стар. 313.

[2] F. Trávniček. Slovník jazyka českého. Praha, 1952, стар. 945.

[3] Параўн. сучаснае чэшск. šedina 'сівыя валасы'; гл. F. Trávniček. Slovník jazyka českého, стар. 1491.

(КБ, 78 адв.); параўн. у другім месцы: *прежде час8 седину приводѧть мышлениѧ* (IC, 49 адв.).

Бясспрэчна, што тыповым для старабеларускай пісьменнасці было параўнальна позняе новаўтварэнне *животина* (Іова, 23 адв.), якое Скарына ўжывае як адпаведнік чэшскага *hówada* і рускага *четвероножныя.* Матэрыялы дзелавой беларускай дакументацыі паказваюць, што назоўнік *животина* быў агульнаўжывальным абазначэннем рагатай і наогул хатняй жывёлы ў XVI ст.

Усе прыведзеныя факты сведчаць, што Скарына, апрацоўваючы і перакладаючы біблейскія тэксты, шырока выкарыстоўваў прадуктыўную іменную мадэль з суфіксам *-ина,* прычым ён уключаў сюды і запазычанні з іншых славянскіх моў, а гэта яшчэ больш актывізавала ў старажытнай беларускай мове разглядаемы спосаб словаўтварэння. Жывы працэс папаўнення лексікі новатворамі на *-ина(-овина, -щина, -овщина)* можна праілюстраваць шматлікімі прыкладамі з пісьмовых помнікаў XV—XVII стст.: *данина* (ЛС 1529 г., 33, 40; АВК, XIII, 24; АЗР, III, 17), *купленина* (АЗР, III, 16; РИБ, XX, 162), *сырына* 'мокры, неапрацаваны ўчастак зямлі' (АВК, XXI, 79), *лохчина* (АВК, XIII, 301), *лощина, лашчына* (АВК, XIII, 301; ИЮМ, XVII, 219), *поточина* 'ручай' (ИЮМ, XXII, 452, 455, 459), *шатина* 'адзенне' (БА, II, 163; Псалт. XVI ст., 101 адв.; ЕК, I,192; Хрон. XVII ст., 179), *згребнина* 'зрэбная тканіна' (АВАК, XVII, 254, 345), *мъшарына, имшарина, омшарина* (АМГС, 50; ИЮМ, XXII, 289, 475; АВК, XIII, 301), *шматина* 'кавалак' (Варл., 154 адв.), *можъчалина, можд чалина* (БА, II, 67; ИЮМ, XXII, 453, 475), *мачавина* 'мокрае месца' (ИЮМ, XXII, 498), *пустовина* (АВАК, XI, 78), *пустошина* (АВК, I, 114; АВАК, XI, 79), *пустоттина* (ИЮМ, XXII, 254), *пустовщина* (РИБ, XX, 565; АЗР, II, 183), *рутовина* (ИЮМ, XXII, 496), *потоковина* (там жа, 480, 498), *болоцина* (АВК, XIII, 301), *ярина, ярына* (ЛС 1529 г., 47; АЗР, II, 103, 195), *скотина* (БА, II, 290), *кликовщина* (АЗР, III, 21), *дубащина* (АЗР, II, 367; РИБ, XXVII, 727), *потяглина* (БА, I, 110), *мѣсячина* (АЗР, II, 114, 195), *осмина* (АБЗС, 2; БА, II, 21), *спадчина* (БА, I, 3).

Мова скарынінскіх выданняў адлюстравала таксама тыповую для беларускай мовы з'яву памякчэння зычнага *н* у складзе суфікса *-ина* абстрактных назоўнікаў са значэннем прасторавага вымярэння: *должинѧ гуни* (КВ, 48 адв.); *триста локтеи будеть должинѧ ковчегу и пѧтьдесѧтъ локтеи ширинѧ*

*и тридесети локтеи вышинѧ его*[1] (КБ, 16 адв.); *пѧтьнадесѧти локтевъ на вышиню была есть вода над горами их же и прикрила* (там жа, 18); *в шириню* (КВ, 70); *глубиня* (ПС, 36; КП, 29 адв.). Параўн. у іншых беларускіх помніках XVI ст.: *въ ширъ и въ должиню* (АВАК, IX, 147); *теперь должиню пущено по шнуровъ чотырнадцати* (АВАК, VI, 177). Новы варыянт словаўтваральнай марфемы *-иня(-ыня)* мог развіцца ў беларускіх назоўніках разглядаемай лексічнай катэгорыі пад уплывам суфікса *-ыни(-ини), -ыня(-иня)* такіх слоў, як *свѧтыни(я), рабыни(я), пустыни(я), кънѧгыни(я), инокыни(я), боярыня, господарыня, господыня, своякиня,* а таксама слоў з суфіксам *-ня* тыпу *стайня, челядня, сукня, стопня, скрыня, пральня, пашня, лазня, пекарня, пудовня, городня, овчарня, кузня, постригальня, мыльня, друкарня,* якія адлюстроўваюць прадуктыўныя дэрывацыйныя працэсы, што адбываліся ў XV—XVII стст.

Менш характэрна для мовы скарынінскіх выданняў ужыванне назоўнікаў жаночага роду з суфіксам *-изна,* паходжанне якога ў славянскіх мовах недастаткова высветлена[2]: *вкоризна ест ȣ насъ* (КБ, 63); *днесь есмъ отнѧлъ ȣкоризну египетскую от васъ* (ІН, 12); *во главизне оȣ книжной писано естъ о мнѣ* (КЛ, 4); *длѧ высвобожениѧ отчизны* (КБ, 5); *человек естьли же умреть без сына, дщере его достанетсѧ отчизна* (ЛК, 58); *мужчизна* (ІС, 58 адв.). Два першыя словы *(укоризна, главизна)* з'яўляюцца, бясспрэчна, кніжнымі па паходжанню. Што ж датычыць слова *отчизна,* то яно ў скарынінскіх тэкстах адпавядае нормам беларускай літаратурнай мовы таго часу. Побач з назоўнікам *отчина* яго дублет *отчизна (ойчизна)* пачынаючы з XV ст. знаходзіўся ў шырокім ужытку на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага як афіцыяльны тэрмін для абазначэння спадчыннай па бацьку ўласнасці: *даемъ и дали есмо въ Луцкомъ повѣтѣ Сенно, село данное, со всимъ, што къ нему слушаеть здавна... сама отчизна у грани Хобовщина* (АЛМ, I, 7); *Нехай они намъ по тому служать, какъ изъ своее отчизны, доспѣхомъ* (там жа, 8); *третюю часть того именія отчизны моее Кольнятичъ* (там жа); *Коли бы хто об отчизну*

---

[1] Параўн. у астрожскім выданні «Бібліі» іншы словаўтваральны тып назоўнікаў ад тых жа асноў: *т҃. лакотъ въ долготȣ ковчегȣ, .н҃. въ широтȣ, .л҃. высотȣ емȣ* (гл. .s.).

[2] Z. Klemensiewicz, T. Lehr-Spławiński, S. Urbańczyk. Gramatyka historyczna języka polskiego. Warszawa, 1955, стар. 209.

*свою або о спадок, або о властность которую дедичную первым и другим позвом был позван...* (ЛС 1529 г., раздз. VI, 77); *есть мое набытое, а не отчизна* (АВК, XXII, 391).

З гэтага значэння ('спадчынная ўласнасць на землі') гістарычна развівалася больш шырокае значэнне слова *отчизна* — 'родная зямля, радзіма', якое больш ці менш выразна выступае ў наступных кантэкстах з помнікаў рознага зместу: *бачачи потребу речы посполитое, сами есте готови и охотни противко непрыятелеви отъчызъны его кролевъскей милости* (1559 г., РИБ, XXX, 273); *И вышолъ ѡттȣле и прїшол в отчїзну свою, а за німъ шлі ȣченики его* (ЕК, 50)[1]; *кождый шляхтичъ... на войну ехати маеть, не смотрети чергъ своихъ звыклыхъ, кгды жъ всимъ идеть (о) оборону милое отчизны и вольностей хрестианскихъ* (ДМАМЮ, I, 452); *мене оузришъ во отчизне твоей воюючого* (Алекс., М., 400); *ѡный мȣ$^{ж}$ з палацȣ вышол, та$^{к}$ сѧ радȣючи и веселѧчи, іакъ кгды хто з далекого и долгого выгна$^{н}$ѧ до отчизны своеи идеть* (Варл., 334—334 адв.).

У царкоўна-рэлігійнай літаратуры XV—XVII стст. слова *отчизна* ўжывалася пераносна, у значэнні 'царства нябеснае': *указуетъ имъ отчизну ихъ небесную* (РИБ, VII, 10); *в нб$^{с}$ной отчизнѣ* (ЕК, II, 90); *Кто з васъ, если есть в чȣжомъ краю, не квапи$^{т}$сѧ, абы моглъ ѧко нарыхлѣй до свое прійти отчизны: а вѣдаемо добре, же отчизна наша есть не иншаѧ только нбо* (ССЖ, 122).

Назоўнік *отчизна* быў не адзіным словам, утвораным з дапамогай суфікса *-изна*. Па гэтай мадэлі ў беларускай пісьмовай мове ўтвараліся таксама іншыя назоўнікі для абазначэння розных відаў спадчынных уладанняў, напрыклад: *материзна* (АЛМ, I, 20, 58, 71, 136, 164; АВК, XXI, 238; РИБ, XX, 286, 502; АМГС, 137), *дѣдизна* (АЛМ, I, 10; АЗР, II, 341; ЛС 1529 г., 57, 97, 107; Псалт. XVI ст., 48; ИЮМ, X, 293), *прадедизна* (БА, II, 153).

Асобныя семантычныя групы складалі назоўнікі на *-изна*, якія абазначалі адцягненыя якасці і паняцці, і назоўнікі з канкрэтным значэннем: *истизна* (АБЗС, 287; АЗР, III, 8; АМГС, 63; АВК, XXXIX, 143; ЛС 1588 г., 233; АВАК, XV, 93; АГЛТ, 455; ИЮМ, XXII, 246), *потребизна* (АЗР, I, 25, 40, 48; АЛМ, I, 30; РИБ, XXVII, 411), *даровизна* 'падараванае' (ДМАМЮ, I, 479; РИБ, XXX, 475; АБЗС, 212; ЛС 1588 г.,

---

[1] Параўн. царкоўнаславянскую частку евангелля: *во отечествие свое.*

223; АВК, XX, 86, XIII, 62; ИЮМ, IX, 214; АЗР, V, 71; АВК, III, 94), *роботизна* (АВАК, VIII, 141) і інш.

Яшчэ большае пашырэнне атрымалі ў старабеларускай пісьмовай мове разнастайныя назоўнікі, утвораныя з дапамогай ускладненых суфіксаў *-чизна, -щизна, -овщизна.* Яны абазначалі спадчынныя ўладанні, зямельныя ўчасткі, віды павіннасцей і падаткаў і г. д. Большая частка гэтых назоўнікаў з'яўляецца словаўтваральнымі дублетамі назоўнікаў на *-чина: отцовщизна* (ИЮМ, XXX, 29, 64, 122, XXXII, ч. 2, 99, 119, 213, IX, 305, 306), *дядковщизна* (АВАК, XVII, 103; АВК, XXII, 16, XXIV, 94), *стрыевщизна* (РИБ, XXXIII, 983), *пустовщизна* (ДМАМЮ, I, 130; АВК, XXIV, 238; АВАК, IX, 7, XIV, 17, 494, 499; РИБ, XXX, 589; АМГС, 31; АЗР, V, 40), *спорчизна* (АЗР, II, 197), *капчызна, капщизна* 'падатак ад продажу спіртных напіткаў' (СДГА, 15; АВАК, XIV, 439; АВК, XIII, 43), *серебщизна* (АЛМ, I, 15; ИЮМ, XXX, 9), *бобровщизна* (АВК, XIII, 239, 240), *бобыльщизна* (АВК, XXXVIII, 336), *панщизна* (АВК, III, 24; АВАК, XIV, 229) і інш.

Значная колькасць назоўнікаў, утвораных па гэтай мадэлі, замацавалася ў якасці назваў беларускіх населеных пунктаў: *Ленковчизна* (АВАК, IX, 167), *Жудейковщизна* (АВАК, XIV, 8), *Григоровщизна* (там жа, 23), *Сверавщизна* (ИЮМ, XXII, 481), *Гуторовщизна* (там жа, 259), *Костюковщизна* (там жа, 290), *Дзяковщизна* (там жа, 375).

Шырокае ўжыванне ў старабеларускай пісьменнасці (а магчыма, і ў жывых беларускіх гаворках пэўнай тэрыторыі) назоўнікаў, утвораных з дапамогай суфікса *-изна(-чизна, -щизна, -овщизна),* з'яўляецца вынікам уплыву старажытнапольскай мовы, а ў асобных выпадках і царкоўнаславянскай. Разам з тым трэба падкрэсліць, што не ўсе ўтварэнні гэтага тыпу, адлюстраваныя беларускімі пісьмовымі помнікамі, былі ўласцівы лексічнай сістэме польскай або царкоўнаславянскай мовы. Значная частка разгледжаных слоў, а таксама слоў, якія, бясспрэчна, ёсць у не даследаваных намі крыніцах, магла быць утворана ў самой беларускай мове ў адпаведнасці з прадуктыўнай мадэллю [1]. Толькі пры ўліку гэтых асаблівасцей словаўтваральнага працэсу беларускай літаратурнай мовы XV—XVII стст. можна правільна інтэрпрэтаваць факты выкарыстання Скарынай асобных назоўнікаў з суфіксам *-изна.*

[1] Гл. падрабязней у кн.: Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР, вып. VIII. Мінск, 1961, стар. 117—123.



Старонкі з «Малой падарожнай кніжыцы» Ф. Скарыны

Выданні Скарыны адлюстроўваюць, з аднаго боку, традыцыйнае кніжнае словаўжыванне, а з другога — магчымасці самой беларускай мовы ў папаўненні лексічнага складу новымі намінатыўнымі адзінкамі.

Сярод словаўтваральных тыпаў старабеларускай мовы адно з важнейшых па прадуктыўнасці месц займала мадэль назоўнікаў жаночага роду з агульнаславянскім суфіксам *-ица* (<*-і-*+**-ка*), які спалучаўся звычайна з іменнымі і дзеяслоўнымі асновамі. Вытворныя з гэтым суфіксам абазначалі асоб жаночага полу, самак жывёл, звяроў і птушак, расліны, прадметы і інш. Скарынінскія выданні даюць нам дастаткова поўны матэрыял на ўсе пералічаныя значэнні, прычым, як і ў разгледжаных вышэй выпадках, адны лексемы адлюстроўваюць кніжнаславянскую мову з яе традыцыйным словаўжываннем у пэўных кантэкстах, а другія — жывую беларускую мову ў яе ўзаемадзеянні з суседнімі славянскімі мовамі: *девица* (КБ, 41 адв., 62 адв.), *отроковица* (ПП, 2), *кормилица* (КБ, 44, 64 адв.), *блудница* (там жа, 64, 71), *вдовица* (КЮ, 13;

ПЕ, 11), *агница* (КБ, 38), *лвица* (там жа, 90 адв.), *ослица* (там жа, 60, 66 адв., 84 адв., 90 адв.), *велбȣдица* (там жа, 60), *птица* (там жа, 28 адв., 73 адв.), *горлица* (там жа, 28 адв.), *блошице, плошице* (КВ, 16), *сулица,* 'дзіда кап'ё' (ЛК, 54), *бойница* (ЧЦ, 238 адв.), *колесница* (КБ, 75 адв.), *ложница* 'адпачывальня' (там жа, 80 адв.), *ножнице* (МПК), *ȣмывалница* 'таз, міска' (ЧЦ, 239 адв.), *лествица* (КБ, 51), *маковице* (КВ, 71 адв.), *пшеница* (там жа, 54 адв., 76 адв.), *рукавица* (Царстваў, 113), *сочевица* (КБ, 46), *молитовница* (КВ, 70), *десница* 'правая рука' (КБ, 65; КВ, 29 адв.), *пословица* (КБ, 21 адв.), *зорѧница* (там жа, 60 адв.), *младица* (ПП, 8 адв.).

Патрабуюць дадатковых тлумачэнняў наступныя вытворныя з суфіксам *-ица.* Назоўнік *меншица* (КБ, 39 адв., 60 адв., 61, 65; КС, 2; ЕК, 6 адв.; ПП, 8 адв.) адпавядае слову *заложница* 'наложница' астрожскага выдання (гл. .к̃в.), назоўнік *самица* (КБ, 17 адв., 57) — слову (выразу) *женьскій полъ* (гл. .s̃.), назоўнік *мерица* (КБ, 31 адв.) — слову *спȣдъ* (гл. .н̃і.), назоўнік *темница* (Ап., 1525 г., 20; КБ, 71 адв., 72 адв.) — слову *оузилище* царкоўнаславянскага тэксту[1]. Аб тым, што назоўнік *темница* быў уласцівы лексічнай сістэме беларускай мовы (па крайняй меры да XVII ст., калі стала пашырацца запазычанае слова *турма, тюрма),* сведчаць іншыя пісьмовыя помнікі: *его збивши у везенью у Руденцу черезъ два дни и двѣ ночи держали, ледве се съ темницы и того везенья выгреблъ* (1589 г., АВАК, VI, 73); *и въ темницахъ затворяюще гладомъ уморишя* (1588 г., РИБ, VII, 855). Словаўтваральная сістэмнасць гэтага назоўніка ў складзе тыпу на *-ица* падтрымлівалася ў першую чаргу антанімічным да яго словам *светлица* ('светлы дом, светлае, прасторнае памяшканне жылога прызначэння'), якое здаўна вядома беларускай мове: *дня сегодънешнего у волторокъ купилъ есми светлицу на подклете* (1558 г., АВК, XXI, 315); *за светлицу далъ полторы копы грошей* (1562 г., АВК, XXII, 142); *съ тое свѣтлицы зъ боку свѣтличка, въ ней печь поливаный* (1594 г., АВАК, XIV, 499).

У разглядаемы словаўтваральны тып Скарына ўключыў назоўнік *лагвица (взѧлъ хлѣбъ и лагвицу воды* КБ, 37; *наполнила лагвицу* там жа, 37 адв.), якому ў астрожскім выданні адпавядае назоўнік *мѣхъ (и взѧ хлѣбы и мѣхъ воды*

---

[1] Гл. П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык, стар. 186.

гл. .ка.). Параўнальна-гістарычнае вывучэнне скарынінскіх тэкстаў і лексічных матэрыялаў розных славянскіх моў дазваляе сцвярджаць, што Скарына запазычыў гэта слова ў заходніх славян, у прыватнасці з чэшскай пісьмовай або вуснай крыніцы; параўн. сучаснае чэшск. *láhev* 'шкляная пасудзіна', 'пляшка', *lahvicka* памянш. да **lahvice* (<*láhev*) [1].

У самой чэшскай, а таксама ў іншых славянскіх мовах словы *lahev*, *lagev* [2], *lagiew* [3] з'яўляюцца даўнімі запазычаннямі з германскіх моў (у апошніх жа форма lāga< лац. lagēna< грэч. lagynos). Ад кораня *лаг-* у рускіх гаворках захаваліся ўтварэнні з іншымі суфіксамі [4], аб наяўнасці ж слоў з гэтым коранем у старабеларускай пісьмовай мове і сучасных беларускіх гаворках дакладных звестак няма.

Калі слова *лагвица* з большай ці меншай верагоднасцю можна лічыць чэхізмам, то слова *шибеница* трэба, напэўна, аднесці да ранніх паланізмаў, засвоеных старажытнай беларускай мовай. Відаць, Скарына карыстаўся ім як ужо звычайным для пісьменнасці першай палавіны XVI ст.: *Не став Амане Мардохею шибенице са*м *повиснеш на ней* (ЕК, 2 адв.); *обудвѹ повесили суть на шибеници* (там жа, 7); *Аманъ поставил шибеницу Мардохеови* (там жа, 10). Часта гэты назоўнік сустракаецца ў дзелавых афіцыяльных дакументах Вялікага княства Літоўскага (гл., напрыклад, ЛС 1529 г., 124; АЗР, II, 65; АМГС, 233; ИЮМ, XXII, 350 і інш.), але паралельна з ім ужывалася і слова *виселица* (гл. у адным з дакументаў за 1507 г.: *висѣлица*, АЗР, II, 34). Гэты паралелізм ужывання двух сінонімаў быў характэрны таксама для Скарыны: *возми всех кнѧзей людскихъ и повешай ихъ на виселницехъ противу солнецу* (ЛК, 53 адв.).

Прыведзеныя матэрыялы толькі часткова раскрываюць складанасць шляхоў развіцця іменных словаўтваральных тыпаў з суфіксам *-ица*. А між тым заўважаецца, што гэта вельмі прадуктыўная мадэль пастунова ўцягвала ў сферу свайго

---

[1] F. Trávníček. Slovník jazyka českého, стар. 813.

[2] Гл. V. Machek. Etymologický slovník jazyka českého a slovenského. Praha, 1957, стар. 256.

[3] Гл. A. Brückner. Słownik etymologiczny języka polskiego. Warszawa, 1957, стар. 305.

[4] У. Даль прыводзіць наступныя словы: *лаговка, лагушка* 'дуплянка, дупляк, стойка для молока', *лагуна, лагун, лагунка, лагунец, лагунок, лагунчик* 'бочка, боченок' (Толковый словарь живого великорусского языка, т. II. СПб —М., 1881, стар. 232).

дзеяння ўсё большую колькасць розных па значэнню ўтвараючых асноў, дзякуючы чаму расшыраліся магчымасці лексічнага папаўнення і разам з тым семантычнага ўзбагачэння дэрывацыйных тыпаў і падтыпаў. Зразумела, тэматычная абмежаванасць выдадзеных Скарынай кніг не дазваляла яму поўнасцю выкарыстаць багацці беларускай і інаславянскай лексікі. Гэты недахоп адразу выяўляецца, як толькі мы пачынаем даследаваць скарынінскія тэксты на шырокім фоне развіцця беларускай пісьменнасці і жывых мясцовых гаворак. Сапраўды, мы знаходзім у гэтых крыніцах многа фактаў, якія дапамагаюць высветліць структурныя і лексіка-семантычныя асаблівасці кожнага словаўтваральнага тыпу на *-ица.*

Пры больш поўным ахопе наяўных матэрыялаў высвятляецца, напрыклад, што падтып, які ўключае асабовыя назвы на *-ица,* нягледзячы на шырокія структурна-марфалагічныя магчымасці, слаба папаўняўся новатворамі. Гэты працэс замаруджваўся перш за ўсё прычынамі нелінгвістычнага характару (жанчына ў эпоху феадальна-прыгонніцкіх адносін не магла прымаць актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці, жаночыя прафесіі былі вельмі абмежаваны). Аб гэтым сведчыць сам склад агульных назваў жанчын: *владычица* (БА, І, 183), *королица* (СГЧА, I, 6), *царица* (Алекс., Л., 3 адв.), *невольница* (АВАК, XVII, 420), *челядница* (АМГС, 244), *служебница* (там жа, 119, 259), *работница* (АВК, XXII, 78; АМГС, 20), *коверница* (ЛС 1529 г., 114), *ключница* (РИБ, XX, 16), *шапочница* (АВК, XX, 295), *черница, белица* (ИЮМ, VIII, 416), *небожчица* (АЗР, II, 103; БА, II, 50; ИЮМ, XXII, 211), *сыновица* (РИБ, XXXIII, 1033), *сестреница* (СДГА, 180), *золвица* (РИБ, XX, 34), *молодица* (АВК, XXXIX, 299, 371, 389), *поплечница* (АМГС, 332), *танечница* (ЕК, III, 331 адв.), *ходотаица* (ССЖ, 307) і інш.

Больш адчувальны рост лексікі наглядаецца ў падтыпах, якія аб'ядноўвалі неасабовыя назоўнікі жаночага роду на *-ица.*

Пісьмовы перыяд развіцця славянскіх моў характарызуецца прыкметным пашырэннем словаўтваральных тыпаў назоўнікаў жаночага роду, якія афармляліся з дапамогай суфікса *-ка.* На аснове матэрыялаў скарынінскіх выданняў і іншых пісьмовых помнікаў можна аднавіць у асноўных рысах гісторыю гэтай мадэлі ў беларускай мове XVI—XVII стст. Аналіз паказвае, што сярод утварэнняў на *-ка* найбольш прадуктыў-

ны тып складалі асабовыя назоўнікі, якія абазначалі жанчын паводле іх грамадзянскага стану, сямейных адносін, паходжання (з пэўнай мясцовасці або населенага пункта, краіны, народнасці і г. д.), характару выконваемай работы, пасады мужа і па многіх іншых прыкметах: *невестка* (КБ, 24, 69 адв., 70 адв.; РИБ, XXVII, 300, XXXIII, 726, XX, 58; БА, II, 231), ***нѧнька*** (ЧЦ, 208), *хананеанъка* (КБ, 69 адв.), *цыганка* (БА, II, 221), *египтѧнка, египтенка* (КБ, 29, 36 адв., 45) [1], *матка* (АЗР, II, 120, 333; РИБ, XXVII, 419, 533, XXX, 100, XXXIII, 939), *отчичка* (БА, II, 17; РИБ, XX, 616, XXVII, 134), *дедичка* (БА, II, 244; АМГС, 401), *братанка* (АБЗС, 241; АМГС, 149; ИЮМ, XXII, 215); *жонка* (БА, II, 50; РИБ, XX, 187; Супр. л., 76), *тетка* (РИБ, XXVII, 181, 437, XX, 526, XXX, 24), *бабка* (РИБ, XX, 462; БА, II, 137; ИЮМ, IX, 373), *девка* (АБЗС, 211; РИБ, XX, 17, 627, XXXIII, 937), *дочка* (РИБ, XX, 595, XXVII, 57, 427), *внучка* [2] (АБЗС, 44; АВАК, XV, 240; Хрон. XVII ст., 122) і інш.

Асобна трэба адзначыць запазычанні з заходнеславянскіх моў: *малжонка* (АМГС, 95; Дыяр., 125), *мнишка* (РИБ, XX, 526), *цурка* (АБЗС, 44).

Падтып назоўнікаў, якія абазначаюць жывёл, птушак і іншых істот, параўнальна з разгледжанымі асабовымі назоўнікамі быў, напэўна, менш прадуктыўным, што выяўляецца пры аналізе характару ўтвараючых асноў (некаторыя з іх маглі далучаць таксама суфікс *-ица*): *бѣлка* (СДГА, 4; ДМАМЮ, I, 118; РИБ, XX, 71, XXVII, 465, 703, 741), *норка* (СДГА, 4), *лонщачка* (АБЗС, 264), *третячка* (там жа, 263), *четвертачка* (там жа, 265, 286), *яловка* (там жа, 263), *щайка* 'від паляўнічага сабакі' (ЛС 1629 г., 123), *утка* (ЛС 1529 г., 122; АВАК, XVII, 415; АМГС, 21, 316). Паралельна з назоўнікам *утка* ў беларускіх гаворках пэўнай тэрыторыі ўжываўся таксама назоўнік *качка,* засведчаны з пачатку XVI ст. пісьмовымі помнікамі (АЗР, II, 36; АВАК, VIII, 486).

Лексічна вельмі багатыя падтыпы складалі назоўнікі жаночага роду на *-ка,* якія абазначалі прадметы быту, прылады, прыстасаванні, пабудовы і дэталі да іх, віды харчу і г. д.: *шапка* (ДП, 11 адв.; АБЗС, 266; РИБ, XX, 280), *наметка* 'від

---

[1] У адпаведным месцы астрожскага выдання «Бібліі» ўжыта старая форма —*єгупт* ***ѧ*** *ныни* (гл. .sі.).

[2] Параўн. паралельны несуфіксальны назоўнік *внука* (АБЗС, 44).

жаночага галаўнога ўбору' (БА, II, 21; АМГС, 59, 68; АВК, XXXIX, 532), *тканка* (РИБ, XX, 344; АМГС, 42, 328), *камка* (РИБ, XXVII, 243; Супр. л., 81), *сорочка* (БА, II, 21; АБЗС, 266; АВК, XXII, 206), *лодка* (Алекс., Л., 1), *бочка* 'пасудзіна', 'мера зямлі' (АЛМ, I, 9, 14; ЛС 1529 г., 37; АЗР, III, 11), *клепка* (АБЗС, 46; ИЮМ, XXII, 484), *барылка* (ИЮМ, XII, 149), *липовка* 'пасудзіна, зробленая з ліпы' (АВАК, XIV, 201), *солянка* 'мера або пасудзіна для сыпучых рэчываў, зерня' (СДГА, 153; АВАК, XVII, 61, 240, 250).

Прыведзеныя ў двух папярэдніх падтыпах назоўнікі ўтвараліся пераважна ад іменных асноў. Побач з гэтым вылучаецца прадуктыўная група назоўнікаў на *-ка* (галоўным чынам з адцягненымі значэннямі), якія ўтвараліся ад беспрыставачных і прыставачных асноў дзеясловаў даўняга і больш позняга паходжання. Асабліва часта яны сустракаюцца ў дзелавых дакументах: *да́чка* (БА, II, 71, 215; РИБ, XXVII, 707), *дѣлка* (АБЗС, 213), *сварка* (там жа, 62), *явка* (БА, II, 85), *вязка: дровъ вязку* (ИЮМ, XXII, 22), *выбойка* (СДГА, 34), *вымовка* (БА, I, 56), *выдерка* (там жа, 43), *выимка* (РИБ, XX, 107), *высадка* (АМГС, 43), *довѣдка* (АБЗС, 62), *завивка* (АМГС, 373), *замятка* (БА, II, 57), *замѣшка* 'мяцеж' (АЗР, II, 22), *засадка* (АБЗС, 313), *заставка* (РИБ, XX, 578), *засылка* (КП, II, 239), *зачепка* (АЗР, II, 98, 108, 274; РИБ, XXVII, 848; КП, II, 37), *защепка* (СДГА, 118; БА, II, 232; АМГС, 42, 67), *обсылка* (БА, II, 58), *подачка* (РИБ, XX, 573) і інш.

Пісьмовыя помнікі, у тым ліку выданні Скарыны, вельмі шырока адлюстроўваюць актыўны працэс утварэння з дапамогай суфікса *-ка* ласкальна-памяншальных форм назоўнікаў жаночага роду: *ветъка* (КБ, 19), *пупышка* (там жа, 73), *кожка* (там жа, 49), *скурка* (ИЮМ, XII, 24, XXII, 10), *дежка* (АМГС, 43, 322), *дубровка* (РИБ, XXVII, 858), *волостка* (там жа, 30, 281, 781), *стежка* (АВАК, XIV, 351), *дорожка* (АМГС, 234), *полянка* (ИЮМ, XXII, 453), *поженка* (БА, II, 106), *сеножатка* (там жа, 107), *нивка* (АЗР, II, 388), *пашенка* (РИБ, XXVII, 32), *барылка* (ИЮМ, XII, 32), *халупка* (ИЮМ, XXXII, ч. 2, 59), *кошулька* (АМГС, 42), *рѣчка* (РИБ, XXVII, 606), *секерка* (АМГС, 149), *корчомка* (АВК, I, 312), *перинка* (АМГС, 373; АБЗС, 266), *лысинка* (АВАК, XVIII, 57), *шубка* (РИБ, XX, 416) і інш.

Некаторыя з такіх назоўнікаў з'яўляюцца паланізмамі ў беларускіх пісьмовых помніках: *кулька* (АМГС, 74), *гафтка*

(там жа, 152, 222), *кватерка* (ИЮМ, 18), *пунчошка*[1] (АБЗС, 230; АВК, II, 230), *фляжка, фляшка* (Апов. аб тр. кар., 88; ДМАМО, I, 443; ИЮМ, VII, 333).

На базе ласкальна-памяншальнага суфікса *-ка* ў старабеларускай мове ішоў працэс фарміравання складаных суфіксаў у гэтай жа функцыі (з living рознымі варыянтамі сэнсава-стылістычных адценняў), але ў пісьменнасці XVI—XVII стст. вынікі гэтага працэсу адлюстраваны недастаткова поўна: *дѣвочка* (РИБ, XX, 30, 450; КПС, II, 205), *телочка* (АБЗС, 263), *яловочка* (там жа, 285), *светлочка* (БА, II, 178; АБЗС, 220; СДГА, 35), *стежечка* (РИБ, XX, 20), *торбочка* (СДГА, 180), *улочка* (АМГС, 294; ИЮМ, XXII, 243), *форточка* (ДБМ, 338), *телушка* (АБЗС, 263, 285; АМГС, 263), *игрушка* (КП, II, 189).

Тэматыка скарынінскіх выданняў патрабавала шырокага выкарыстання назоўнікаў жаночага роду, якія абазначаюць адцягненыя субстантывіраваныя якасці і ўласцівасці. Часцей за ўсё ў скарынінскіх тэкстах сустракаюцца адыменныя назоўнікі на *-ость* традыцыйна-кніжнага характару: *смелость* (КБ, 84), *крепость* (там жа, 90), *достойность* (там жа, 90 адв.), *милость* (там жа, 61 адв., 73 адв.), *жалость* (там жа, 69 адв., 79, 83), *радость* (там жа, 88), *многость* (там жа, 76), *хитрость* (там жа, 50), *зрелость* (там жа, 73), *тучность* (там жа, 49 адв., 50 адв.), *сытость* (там жа, 74, 74 адв.), *либивость* 'нясытасць' (там жа, 74 адв.), *плодность* (там жа, 75), *белость* (там жа, 55 адв.), *старость* (там жа, 28 адв., 36 адв., 42 адв., 68, 82, 82 адв.), *ярость* (там жа, 50 адв., 90 адв.), *користь* (там жа, 90 адв., 91 адв.), *болесть* (там жа, 44 адв., 62 адв., 63 адв., 65) і інш.

Назоўнік *младость* звычайна выступае ў Скарыны як сінонім другога кніжнаславянскага слова — *юность* (КБ, 19 адв., 81, 86 адв.). Цікава яшчэ супаставіць наступныя пары: у Скарыны: *справедливость* (КБ, 32), у астрожскім выданні: *правда* (гл. .ӣ.); у Скарыны: *злость* (КБ, 16), у астрожскім выданні: *злоба* (гл. .з̃.); у Скарыны: *чуйность* (КБ, 19 адв.), у астрожскім выданні: *помышленіе* (гл. .и.); у Скарыны: *зеленость земли* (КБ, 34 адв.), у астрожскім выданні: *все прозѧбшее от землѧ* (гл. .Ѳ1.); у Скарыны: *во простости серца* (КП,

[1] У польскую мову назоўнік pończocha запазычан з чэшскай, а ў чэшскую — з нямецкай; гл.: A. Brückner. Słownik etymologiczny języka polskiego, стар. 686.

35 адв.), у астрожскім выданні: *чистымъ ср҃цемъ* (гл. .к҃.). Гэтыя і падобныя да іх «розначытанні» паказваюць, што скарынінскае словаўжыванне стаіць бліжэй да сістэмы жывой беларускай мовы першай палавіны XVI ст.

Малапрадуктыўныя і непрадуктыўныя тыпы складаюць адцягненыя назоўнікі жаночага роду, утвораныя:

а) Пры дапамозе суфікса *-ота: работа* (КБ, 80, 87 адв.), *дремота*[1] (там жа, 11 адв., 28 адв.), *красота* (там жа, 91), *слепота* (там жа, 34), *темнота* (там жа, 28 адв.), *нагота* (там жа, 21, 49), *срамота* (там жа, 21, 62 адв.), *нищета* (там жа, 76 адв.), *празнота* (КП, 21, 23). Назоўнікам *долгота, широта* (КБ, 26) у іншых скарынінскіх кантэкстах, як мы адзначалі вышэй, адпавядаюць назоўнікі *должиня, ширина* ў тыпова беларускім афармленні. Назоўнік *лихота* (ІС, 23), па назіраннях П. У. Уладзімірава, ужыт Скарынай на месцы назоўніка *злоба* адпаведнага кантэксту ў рускім рукапісу «Бібліі» 1499 г., праўда, і апошні *(злоба)* таксама сустракаецца ў скарынінскіх выданнях (гл. пункт «в»). У чэшскім выданні «Бібліі» 1506 г. назоўніку *лихота* адпавядае слова *zlost*. Скарынінскі выраз *в чистоте руку моихъ* (КБ, 35 адв.) адпавядае выразу *праведною рѹкою* астрожскага выдання «Бібліі» 1581 г., так што сэнсавая эквівалентнасць у гэтых паралельных тэкстах перадаецца рознымі часцінамі мовы — назоўнікам *чистота* і прыметнікам *праведный*.

б) Пры дапамозе суфікса *-знь;* тып гэты па сутнасці прадстаўлен у Скарыны адзінкавым словам — *боязнь* (КБ, 32, 36, 59, 59 адв.).

в) Пры дапамозе суфікса *-ба(-оба): татба* 'зладзейства', 'крадзеж' (КБ, 57 адв., 73 адв.), *прозба* (там жа, 34 адв., 54 адв.), *служба* (там жа, 53 адв., 55, 73), *свадба* 'вяселле' (там жа, 40 адв., 53 адв.), *злоба* (там жа, 93). Яшчэ ў дапісьмовы перыяд развіцця славянскіх моў па гэтай жа іменнай мадэлі было ўтворана слова *ѹтроба* (<**ǫtroba*), якое Скарына ўжывае як сінонім слова *животъ* у яго канкрэтным значэнні — 'частка цела чалавека' (КБ, 45 адв., 53 адв., 71). Назоўнік *гудба* 'музыка' (КБ, 57 адв.) кваліфікуецца звычайна як чэхізм у мове выданняў Скарыны, але трэба мець на ўвазе і тое, што беларускім народным гаворкам вядома ўжыванне дзея-

---

[1] У астрожскім выданіі «Бібліі» слову *дремота* скарынінскага тэксту ў адным выпадку адпавядае назоўнік *сонъ*, а ў другім выпадку — *оужасъ*.

слова *гудзець* у значэнні 'выконваць музычны твор', 'спяваць' (параўн. у народнай песні: *чаму ж мне ня пець, чаму ж не гудзець...*).

Завяршаючы беглы разгляд спосабаў утварэння назоўнікаў жаночага роду, неабходна адзначыць яшчэ назоўнік *челѧдь* (КБ, 24 адв., 47, 59 адв., 66, 88) з ужо непрадуктыўным у пісьмовы перыяд суфіксам *-ѧдь(-ядь)*. Скарына ўжывае гэты назоўнік звычайна як сінонім слоў *рабъ, слуга, падданы.*

Разгледзім коратка спосабы ўтварэння назоўнікаў ніякага роду. Як паказваюць матэрыялы, Скарына часцей выкарыстоўваў суфіксальныя мадэлі ўтварэння гэтых назоўнікаў. Сярод найбольш прадуктыўных тыпаў вылучаюцца зборныя і адцягненыя па значэнню назоўнікі на *-иє, -ьє: людиє* (КБ, 23, 49 адв., 63, 64 адв.), *былиє* (там жа, 20), *прутиє* (там жа, 56), *грозновиє* (там жа, 73), *тѣрниє* (там жа, 39), *камениє* (там жа, 51 адв., 58 адв., 59), *оружие* (там жа, 48 адв., 57 адв.), *ѹстиє* (там жа, 52 адв., 78), *ѡбилиє* (там жа, 49 адв.), *достоаниє* (там жа, 89). Параўн. прэфіксальна-суфіксальныя назоўнікі: *роспутиє* (там жа, 70 адв.), *поколѣниє* (там жа, 28 адв.), *подворьє* (там жа, 42 адв.). Сюды ж адносяцца: *щастьє* (там жа, 54 адв.), *житие,* 'жыццё', 'уладанне, зямля' (там жа, 45 адв.), *впитиє,* 'захмяленне' (там жа, 20), *ѹмытиє* (там жа, 22 адв., 25), *заклѧтиє* (там жа, 43), *початиє* (там жа, 42 адв.). Назоўнік *вышитиє* 'выйсце' (КБ, 25) з'яўляецца запазычаннем з польскай мовы, якое распаўсюджана было ў старабеларускай пісьменнасці ў розных фанетыка-марфалагічных варыянтах. Асобна ў гэтай групе слоў стаяць назоўнікі *господьствиє* (ЕК, 17 адв.), *пришествиє* (КБ, 30, 46) з суфіксам кніжнага паходжання *-ствиє,* якія ў беларускай літаратурнай мове не замацаваўся ў сувязі з абагульненнем такіх назоўнікаў па мадэлі на *-ство.*

Надзвычай прадуктыўны тып у выданнях Скарыны, як і наогул у старажытнай літаратурнай мове, складаюць назоўнікі ніякага роду, утвораныя пры дапамозе суфікса *-ниє (-ение, -аниє)* ад розных дзеяслоўных асноў. Амаль усе такія назоўнікі маюць адцягненае значэнне: *скажениє* (КБ, 20), *смешение* (там жа, 23), *ставлениє* (там жа, 21 адв.), *розделениє* (там жа), *рожениє* (там жа, 23 адв.), *нарожениє* (там жа), *мышлениє* (там жа, 23), *розлучениє* (там жа, 25), *стретениє* (там жа, 27 адв.), *видениє* (там жа, 28), *обрѣзованиє* (там жа, 30), *спаниє* (там жа, 35 адв.), *заслонениє* (там жа,

36 адв.), *потешениє* (там жа, 37), *оставлениє* (там жа), *сведениє* (там жа, 38), *глаголаниє* (там жа, 38), *повелениє* (там жа, 38 адв.), *куплени* (там жа, 39 адв.), *погребениє* (там жа), *плаканиє* (там жа), *держаниє* (там жа, 40 адв.), *отпочинениє* (там жа, 42), *стоаниє* (там жа), *розширениє* (там жа, 47 адв.), *благославениє* (там жа, 49 адв.), *позрениє* (там жа, 53), *смирениє* (там жа, 53 адв.), *оплаканиє* (там жа, 70), *отмщениє* (там жа, 63 адв.), *выкладаниє* (там жа, 72 адв.), *ȣтверженис* (там жа, 75), *скорблениє* (там жа, 77 адв.), *медлениє* (там жа, 79), *вчинениє* (там жа, 91 адв.), *жаданиє* (там жа), *спасениє* (там жа, 91), *чаюниє* (там жа, 90 адв.), *пированиє* (там жа, 81), *хожениє* (там жа, 87), *пребываниє* (там жа), *кормлениє* (там жа, 86 адв.), *прихожениє* (ДП, 3), *охлажениє* (КП, 15 адв.), *сипениє* (ЕК, 18 адв.). Апошні назоўнік, па назіраннях П. У. Уладзімірава, Скарына ўжывае ў адпаведнасці з словамі *въпль* (у рускім рукапісу 1499 г.), *rzwani drakuow* (чэшскага выдання 1506 г.), *krzyk* (польскага перакладу 1561 г.).

Некаторыя назоўнікі на *-єниє* выступаюць з канкрэтна-прадметным значэннем: *И свари ꙗковъ варениє* (КБ, 46); *варениє и сочевици* (там жа).

Большасць пералічаных назоўнікаў ніякага роду мае кніжны характар як па фанетыка-марфалагічнай будове суфікса, так і па ўтвараючай аснове і па значэнню. Але ёсць сярод іх і такія назоўнікі, якія маюць характэрныя ўсходнеславянскія і ўласнабеларускія рысы гукавога, структурнага або семантычнага парадку, напрыклад: *рожениє*, *нарожениє*, *жаданиє*, *хожениє*, *прихожениє*, *охлажениє*, *сипениє*, *выкладаниє (сновъ)* і інш.

У сувязі з разглядам гэтай словаўтваральнай мадэлі неабходна звярнуць увагу на тое, што ў старабеларускай пісьменнасці аддзеяслоўныя назоўнікі ніякага роду разгледжанай мадэлі ўжываліся ў некалькіх структурных варыянтах[1]: 1) у кніжна-старaславянскім на *-ниє-(-єниє, -аниє)*, галоўным чынам у царкоўна-рэлігійных творах; 2) у размоўна-ўсходнеславянскім на *-ньє (-єньє, -аньє)*; 3) у беларускім на *-нне*, якія ўтварыўся ў выніку асіміляцыі *j*, што калісьці знаходзіўся ў інтэрвакальным становішчы («зычны + ёр + *j* + галосны»);

[1] Параўн. царкоўнаславянскую частку гэтага помніка: *не оболчѣна во одеꙗние брачъное* (30 адв.).

4) у польскім і дыялектным беларускім на *-не* (без фанетычнага падаўжэння зычнага).

Скарына ў гэтым выпадку прытрымліваўся пераважна кніжных словаўтваральных норм, у той час як іншыя аўтары і пісцы шырэй адлюстроўвалі з'явы жывой літаратурнай і народнай мовы як усходніх славян у цэлым, так і беларускай у прыватнасці. Параўн. у Скарыны: *И рече к нимъ царь ꙗкоє еᶜᵀ поставы и одениѧ мужъ той, иже стретилсѧ с вами* (ЧЦ, 184 адв.); *Съ ꙗковымъ одениемъ пришолъ с таковымъ да идеть* (КВ, 39), у іншых помніках XVI—XVII стст.: *ꙋвиделъ тамъ чоловека необолочоного въ оденье свадебъное* (ЕТ, 30 адв.); *а Ижота убрала сє велми в коштовноє ѡдѣньє* (Апов. аб Трыст., 72); *во одѣнью бѣломъ* (Алекс., М., 405 адв.); *в одѣнью поповскомъ ходила* (там жа, 412); *в скꙋрѧномъ одѣнью ходѧчи* (там жа, 452); *а казалъ ю з одѣньѧ зволочи* (там жа, 452 адв.); *о ѡдѣньє печаловати не маемо* (ЕК, II, 15 адв.); *одѣнье свѣтлости нбᶜнои* (ДБМ, 13); *въ ѡдѣнье бѣлое кажи ѡболочи* (ССЖ, 96); *оболочоны во одѣнье старое* (Хрон. XVII ст., 165 адв.); *ростѧгни одѣнье твое* (там жа, 195).

Можна яшчэ параўнаць наступныя тыповыя прыклады: у Скарыны: *скоро без мешканиѧ имать ꙋбитъ быти* (ЕК, 9 адв.); *абы шолъ без мешканиѧ на пиръ съ царем* (там жа, 12); *что тамъ ꙋделаю по тому жъ и вы ꙋделайте без мешканиє* (КС, 17 адв.); *Кꙋпець не просто сѧ избавит замешканиѧ своего* (ІС, 43 адв.); *без замешканиѧ и нуды далей идеть* (ДЦ, 99); у дзелавых беларускіх помніках XVI—XVII стст.: *писалъ и жедалъ насъ, абыхмо того его посла безъ мѣшканья къ тобѣ отпустили* (АЗР, II, 19); *державцы наши маютъ тую серебщизну выбирати безъ всякого умѣшканья* (там жа, 18); *и вы бы безъ всякого вмѣшканья свою опасную грамоту... къ намъ прислали* (там жа, 46); *никоторое переказы и мешканья у дому его не чинила* (АВАК, XVII, 406); *и въ замѣшканью дороги мѣнилъ собѣ шкоды отъ нихъ* (АВАК, V, 14); *зачимъ се дей омешканье тыхъ справъ стало* (АВАК, VIII, 496).

У адрозненне ад Скарыны дзелавыя беларускія помнікі даволі шырока адлюстроўваюць жывую з'яву падаўжэння суфіксальнага зычнага ў назоўніках ніякага роду. Асабліва гэта датычыцца ўсходнебеларускіх дакументаў XVII—пачатку XVIII ст. Напрыклад, у XXII томе (выпуску) «Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў» ёсць такія характэрныя выпадкі: *з росказання пана войта* (1), *за писанне картокъ* (4), *за оправлянне*

*коня* (6), *до сушення збозжа* (7), *на окованне колясы* (9), *за выданне листовъ* (10), *за зберанне доли* (11), *за подкования коня* (17), *на потканне почты* (22), *на похования сына* (27), *ведлугъ постановення* (33) і інш.

Значна пашыран быў у дзелавой пісьменнасці, а таксама ў некаторых жанрах мастацкай і публіцыстычнай літаратуры спосаб утварэння назоўнікаў з дапамогай польскага (дыялектнага беларускага) варыянта суфікса *-не* (*-ене, -ане*); напр., у Літоўскім статуце 1529 г. (спіс Дзялынскага): *поведане* (31), *розмышлене* (там жа), *осочене* (32), *забране* (33), *дозволене* (37), *молчане* (38), *вызволене* (39), *плачене* (там жа), *кошене* (там жа), *падымоване* (40), *будоване* (там жа), *призволене* (42), *страчене* (43), *роспущене* (44), *приказане* (45), *захоеане* (49), *выкупане* (62), *держане* (110), *вживане* (112), *выправлене* (там жа); у іншых помніках: *будоване* (ДМАМЮ, I, 266), *от кошеня и спратаня сеножатей* (там жа, 329), *бляшковане* (там жа, 443), *за почекане тых пенезей* (ИЮМ, XXXII, ч. 2, 53), *фарбованя сукон* (там жа, 69), *замешане* (Алекс., Л., 73 адв.), *шȣкане* (ДБМ, 68), *прыарештоване* (АВК, I, 84), *зруиноване* (там жа, 361), *квитъ созънаня* (ИЮМ, XXII, 218), *прислухане* (там жа, 222), *розсыпане* (АМГС, 306), *актиковане* (Дыяр., 122). Мове скарынінскіх выданняў такія формы зусім не ўласцівы. Не замацаваліся яны і ў беларускай літаратурнай мове новага перыяду, хоць да гэтага часу падобнае вымаўленне мае месца ў радзе паўднёва-заходніх гаворак [1].

Выданні Скарыны даюць даволі багаты матэрыял па другой прадуктыўнай мадэлі назоўнікаў ніякага роду — з суфіксам *-ство,* які надаваў значэнне абстрактнасці або зборнасці. Утваральнымі асновамі гэтых назоўнікаў з'яўляюцца пераважна асновы іменныя і радзей дзеяслоўныя: *богатество* [2] (КБ, 28 адв.; IC, 19; КЕ, 9), *оубожьство* (IC, 30), *ленивство* (там жа), *царство* 'дзяржава', 'царстваванне' (КБ, 21 адв., 36, 37), *первенецъство* 'спадчыннае права першанароджанага' (там жа, 50), *посолство* (там жа, 59 адв.), *товариство; имеаше же Іосифъ в товаристве возы и конники, и былъ естъ и полкъ великъ* (там жа, 92 адв.), *подобенство* (IC, 75 адв.; КБ, 49 адв.),

---

[1] Гл. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы (карта № 64). Мінск, 1963.
[2] У астрожскім выданні «Бібліі» сінонімам слова *богатество* ў адпаведным кантэксце выступае назоўнік *имѣніе*.

*мастерство* (IC, 62 адв.; КП, 20, 21 адв.; КВ, 72; ПП, 1; ПЦ, 136), *величество* 'вялікая колькасць', 'велічыня', 'боская моц' (KI, 43 адв.; ПЦ, 33 адв.; ЕК, 21, 23 адв.; IC, 16, 29), *множество* (КВ, 29; IH, 16 адв.; КП, 30; КБ, 25 адв., 27, 48, 60, 66, 89), *послушество* (КБ, 59), *рожество* 'нараджэнне' (там жа, 73 адв.), *отечество* 'родная краіна' (ПЦ, 21 адв.; КБ, 22 адв.).

Для ўтварэння некаторых назоўнікаў ніякага роду Скарына карыстаўся ўскладненым суфіксам *-овство,* які першапачаткова меў месца ў словах з утвараючай асновай на *-ов,* а затым пашырыўся і на іншыя выпадкі (асабліва пры непажаданым збегу зычных на мяжы асновы і суфікса): *скуповъство* 'скупасць' (IC, 20), *глуповъство* 'неразумнасць', 'глупства' (КЕ, 4, 5). Падобныя ўтварэнні неаднаразова адзначаюцца ў беларускіх помніках як да Скарыны, так і пасля Скарыны, параўн.: *лотровство* (ИЮМ, VIII, 244, 426; КП, II, 195), *сыновство* (РИБ, VII, 714), *войтовство* (АБЗС, 132; АЗР, II, 76; АВАК, VI, 27; РИБ, XX, 539, XXVII, 145, 180; АВК, XXXIX, 140). Напэўна, да гэтага тыпу неабходна аднесці назоўнік *домовство* (СДГА, 177; АМГС, 123; ИЮМ, XXII, 285), які, магчыма, з'яўляецца запазычаннем. Параўн. сучаснае польск. *domostwo* 'дом з прыбудовамі да яго'.

Многае з таго, што сустракаецца ў скарынінскіх выданнях, было характэрна для старажытнай беларускай пісьмовай мовы наогул, а гэта азначае, што словаўтваральная мадэль на *-ство, -овство* была жывой, дзеючай, прадуктыўнай і, бясспрэчна, шырокаўжывальнай; прычым адны ўтварэнні з гэтымі суфіксамі адлюстроўваюць кніжныя стылі, а другія — мову адміністрацыйна-дзелавой, публіцыстычнай і мастацкай разнавіднасцей пісьмовых помнікаў. Розніца паміж імі выяўляецца пры супастаўленні характару ўтвараючых асноў і семантычных прыкмет, уласцівых словам адной і другой груп. Параўн. наступныя прыклады:

а) *существо* (СДГА, 110), *сходительство* (КП, II, 138), *дебелство* (РИБ, XIX, 160), *неистовство* (РИБ, VII, 765, 789), *равенство* (там жа, 686), *суровство* (там жа, 1648), *лакомство* (СДГА, 69; Кат. Будн., 5), *старѣйшинство* (РИБ, VII, 1374), *отщепенство* 'адыход ад афіцыяльнай рэлігіі' (ОСБ, 18; ЕК, II, 4; РИБ, XIX, 389), *разньство* (РИБ, VII, 767), *лукавство* (там жа, 933), *послушенство* (Дыяр., 126);

б) *господарство* (РИБ, XXVII, 456; АЗР, II, 52, 57; ЛС 1529 г., 63), *земство* (БА, I, III), *староство* (ИЮМ, XXII, 236),

*воеводство* (ЛС 1529 г., 48), *кликунство* 'пасада клікуна', 'выкананне абавязкаў на пасадзе клікуна' (АВК, XXXIX, 45), *сведецство* (ЛС 1529 г.; Дз., 80, 95; АЗР, II, 75), *опекунство* (ЛС 1529 г., 64), *нятство* 'арышт' (РИБ, XX, 555, XXVII, 448; АЗР, III, 15), *забойство* (АБЗС, 301; АМГС, 289), *розбойство* (КПс, II, 192), *участництво* (АВК, XXIV, 419), *детинство* (АВАК, XVII, 352; РИБ, VII, 196).

Для мовы скарынінскіх выданняў характэрны галоўным чынам утварэнні першага тыпу, але ў значнай меры адлюстраваны і тыя неалагізмы на *-ство, -овство,* якія ўзніклі на жывой моўнай аснове ў XV—XVI стст. Рэдка Скарына выкарыстоўваў і паланізмы гэтай словаўтваральнай мадэлі, хоць у іншых відах беларускіх пісьмовых помнікаў яны былі даволі пашыранай з'явай: *шляхетство* (ЛС 1529 г., 52; БА, II, 33; АВАК, VI, 173), *панство* (РИБ, XX, 557, 629; КПс, II, 39), *драпежство, драпезство* (АЗР, II, 99; РИБ, XX, 390), *кролевство* (ЛС 1529 г., 48; ИЮМ, XXII, 239; Дыяр., 100), *лупежство, лупество* (АЗР, II, 198; Кат. Будн., 185), *окрутенство* (КПс, II, 192, 200; АЗР, III, 2), *звитяжство, звитежство* (Алекс., Л., 3, 73, 74; КПс, II, 199), *зуфальство* (ИЮМ, XXII, 357), *охендожство, охандожство, охендоство* (АБЗС, 43, 45, 213; АВАК, XVIII, 44; КПс, II, 199; Хрон. XVII ст., 110 адв.), *посполитство* (Дыяр., 105) і інш. Большая частка гэтых запазычанняў не захавалася ў беларускай мове да нашага часу.

У скарынінскіх тэкстах меншую ўдзельную вагу, чым іншыя прадуктыўныя іменныя тыпы, займаюць назоўнікі ніякага роду, утвораныя пры дапамозе суфікса *-ище (-овище)* кніжнага паходжання. З ліку гэтых назоўнікаў адны з'яўляюцца традыцыйнымі, вельмі даўнімі па ўжыванню, а другія — больш познімі: *врѣтище: облечеся во врѣтище плача сына своего* (КБ, 69 адв.); *пристанище: на пристанищи лодей* (там жа, 90 адв); *становище* (ПЦ, 50); *требище* 'месца прынясення ахвяр' (ЛК, 50; КВ, 65; ДЗ, 27).

Больш прадуктыўным было ўтварэнне назоўнікаў гэтага тыпу ў дзелавой беларускай пісьменнасці XV—XVII стст., у чым можна пераканацца пры аналізе наступных прыкладаў: *дворище* (РИБ, XXVII, 107; АЛМ, I, 9; БА, II, 20), *речыще* (ЛС 1529 г., 97; АМГС, 16), *ставище* (АЛМ, I, 7; РИБ, XXVII, 7; ИЮМ, XXII, 470), *озерыще* (АМГС, 178), *лядище* (ИЮМ, XXII, 383, 460), *глинище* (там жа, 300), *ѣзовище* (АЗР, II, 168), *ключище* (там жа, 379), *млынище* (СДГА, 85; АЗР, II,

121), *прудище* (БА, II, 83), *могилище* (РИБ, XXVII, 738), *мостище* (БА, II, 252; ИЮМ, XXII, 465), *займище* (РИБ, XXVII, 712; ИЮМ, XXII, 462), *дорожище* (БА, I, 51, 53), *путищо* (АМГС, 234), *гаевище* (РИБ, XX, 38, XXVII, 738) і інш.

Для высвятлення таго, у якой меры Скарына карыстаўся традыцыйна-кніжнымі і жывымі для яго часу мадэлямі словаўтварэння, неабходна хоць бы ў агульных рысах ахарактарызаваць асаблівасці словаскладання (асноваскладання) у разрадзе назоўнікаў.

Усходнеславянскія мовы, у тым ліку і беларуская, развівалі галоўным чынам тыя спосабы асноваскладання, якія былі выпрацаваны яшчэ ў агульнаславянскі перыяд, але прадуктыўнасць іх залежала ад нацыянальных асаблівасцей лексічнага складу, фанетычнай сістэмы і граматычнага ладу кожнай з гэтых моў.

Вельмі старажытны тып у выданнях Скарыны і ў беларускай пісьменнасці наогул складаюць назоўнікі, утвораныя шляхам аб'яднання асновы назоўніка і дзеяслоўнай асновы, прычым апошняя аформлена або з дапамогай нулявога фарманта, або з дапамогай фарманта *-а,* або з дапамогай іншых вядомых суфіксаў-фармантаў.

Да першай падгрупы гэтых утварэнняў неабходна аднесці назоўнікі тыпу *летоpасль* (КБ, 73), *летоpасть*[1] (там жа), *Богухвалъ* (імя ўласнае) (АЗР, II, 121), *добродѣй* (РЛА, 381; АЗР, II, 93, 337; Дыяр., 123, 125), *злодѣй* (ЛС 1529 г., 89, 125; АБЗС, 235; РИБ, XX, 38, XXVII, 846), *боброгонъ* (ИЮМ, XXII, 457, 460), *боброедъ* (там жа, 494), *коловоротъ* (ДМАМЮ, I, 269), *бороноволокъ* (РИБ, XX, 22), *рыболовъ* (БА, I, 38; АВАК, XVII, 5; АЗР, II, 196; РИБ, XX, 164, XXVII, 392), *пивоваръ* (РИБ, XXVII, 816, 837; АМГС, 356), *шаповалъ* (СДГА, 35), *водоносъ* (КП, II, 31), *водатечь* (АМГС, 50) і інш.

Другую падгрупу гэтага тыпу складаюць назоўнікі, якія не развілі прадуктыўнасці ў беларускай мове; тут налічваюцца адзінкавыя ўтварэнні: *воевода* (КБ, 37 адв., 71 адв.); у іншых помніках сустракаецца яшчэ слова *кожемяка* (СДГА, 35; РИБ, XXVII, 13, 589).

У трэцяй падгрупе гэтага тыпу вылучаецца некалькі раз-

---

[1] У такім афармленні назоўнік *летоpасть* адпавядае чэшскаму letorost (старачэшск. таксама ratolest гл.: V. Machek. Etymologický slovník jazyka českého a slovenského, стар. 265).

навіднасцей складаных назоўнікаў у залежнасці ад характару суфіксацыі другой асновы, у прыватнасці:

а) другая аснова аформлена пры дапамозе суфікса *-ьца* або *-ець (-ецъ)*; у Скарыны: *млатобиец* (КБ, 14 адв.), *сновидець* (там жа, 68 адв.), *летописець*[1] (ПЦ, 108; ЕК, 7, 11 адв.), параўн. у іншых беларускіх помніках: *рукоемца* (ЛС 1529 г., 63; АМГС, 270), *гривострыжца* (АЗР, II, 89, III, 17), *мужобойца* (ЛС 1529 г., 86; АМГС, 269, 289), *злочинца* (АБЗС, 229; ЛС 1529 г., 36; АМГС, 44), *чудотворецъ* (КП, II, 180), *боголюбецъ* (Дыяр., 111), *человѣколюбецъ* (там жа, 106), *злотворецъ* (там жа, 112), *богомолецъ* (СДГА, 15; АБЗС, 14; Дыяр., 109), *конокормецъ* (РИБ, XXVII, 74; АЗР, II, 147), *звѣздочетецъ* (РИБ, VII, 890);

б) другая аснова аформлена пры дапамозе суфікса *-никъ*: *чародейникъ* (Ап. 1525 г., 39 адв.). Гэта слова Скарына ўжывае ў адпаведнасці са стараславянскім *волхвъ* і старачэшскім *čzarodiejnik*;

в) другая аснова аформлена пры дапамозе суфікса *-тель*: *добродетель* (КБ, 88), *идолохвалитель* (КП, 23); сюды ж можна аднесці назоўнік *вседержитель* (КБ, 88 адв., 91), у якасці першай асновы якога выступаў займеннік з субстантыўным значэннем. Усе словы гэтай разнавіднасці кніжна-традыцыйнага ўжывання, і Скарына ў даным выпадку не парушыў шматвяковай традыцыі выкарыстання гэтых лексем-кампазітаў, хоць у беларускай літаратурнай мове к таму часу ўжо намецілася тэндэнцыя да некаторых замен сярод слоў разгледжанай катэгорыі. Так, напрыклад, у царкоўна-палемічнай літаратуры XVI—XVII стст. замест старога назоўніка *идолохвалитель* звычайна ўжываецца назоўнік *балвохвальца*, які суадносіцца з польскім *bałwochwalca* як па форме, так і па значэнню (параўн. таксама *марнохвалца*): *м8жебо'ци и ба͡лвохва͡лци* (ККИ, 42 адв.); *насъ такими жъ ба͡лвофальцами... зовутъ* (Унія, 28—29); *балъвохвальцами крестили* (РИБ, XIX, 939); *наѣзъ єго не толко противъ хрⷭтїан але и против балвохвалцов и против всего свѣта розпостираетсѧ* (ДБМ, 231); *товарыство͡м бо͡лвохва͡лцовъ мазали* (ССЖ, 155); *з дїѧволскими балвохвалцами* (там жа, 345). Трэба думаць, што назоўнік

---

[1] Па назіраннях П. У. Уладзімірава, гэтаму назоўніку адпавядаюць: у рускім рукапісу «Бібліі» 1499 г.—выраз *книгы памѧтныѧ*, у чэшскай «Бібліі» 1506 г.— слова *kronyky*; гл.: П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык, стар. 307.

гэты быў утворан на базе дзеяслоўнага словазлучэння *хвалити балвановъ* шляхам перастаноўкі кампанентаў-асноў; параўн. у наступным кантэксце: *нехай завстыдаютъ ся вси. которе кланяютъ ся стоуканым. и которые хвалят ся ѡ болванех своих* (Псалт. XVI ст., 98).

Акрамя разгледжаных тыпаў складаных назоўнікаў, мове скарынінскіх выданняў уласцівы многія іншыя разнавіднасці імён-кампазітаў, якія часткова адлюстроўваюць кніжныя спосабы словаўтварэння, а часткова — спосабы, характэрныя для тагачаснай беларускай літаратурна-пісьмовай мовы наогул. Не маючы магчымасці зрабіць падрабязны аналіз гэтых структурных тыпаў складаных назоўнікаў, абмяжуемся агульным пералікам іх:

а) у складаным слове абедзве асновы назоўнікавыя: *домочадець* (КБ, 30 адв., 31), *милосердие*[1] (там жа, 34 адв., 36, 41 адв., 42, 50 адв., 59 адв., 88 адв.), *землемерие* (МПК), *землемерение* (КБ, 3); апошнія два назоўнікі з'яўляюцца сінонімамі-калькамі да слова грэчаскай мовы *геометрия* (там жа, 3);

б) у складаным назоўніку першая аснова прыметнікавая, другая — назоўнікавая: *долготерпение* (КБ, 4 адв.; КІ, 10), *сладкословие* (ІС, 12 адв.), *краснословие* (КЮ, 15 адв.), *добродеяние* (ІС, 21 адв.), *великоможность* (КІ, 13 адв.; ЕК, 6 адв.), *вѣлеможность* (ДЗ, 65), *велможа* (КБ, 92);

в) у складаным назоўніку першая аснова лічэбнікавая, другая — назоўнікавая або дзеяслоўная: *перворожение* (КБ, 46, 81), *первороженство* (там жа, 44 адв.);

г) у складаным назоўніку першая аснова займеннікавая, другая — назоўнікавая або дзеяслоўная: *всесозжение*[2] (Быт., 38 адв., 39);

д) у складаным назоўніку першая аснова *полу-*, другая — назоўнікавая: *полудень* (КБ, 24 адв., 25 адв., 80), *полунощь* (там жа, 51 адв.).

Асобна ад гэтых разнавіднасцей кампазітаў стаяць такія ўтварэнні, як *благославение* (КБ, 48, 49), *благославенство* (там жа, 48), *добровонность* (ПП, 3 адв.), *доброволенство* (ІС, 25).

---

[1] У адпаведных кантэкстах астрожскага выдання «Бібліі» гэтаму назоўніку звычайна адпавядаюць словы *милость, правда*.

[2] Гэтаму назоўніку ў астрожскім выданні «Бібліі» звычайна адпавядае слова *треба*.

Прыведзеныя вышэй матэрыялы даюць падставу сцвярджаць, што Скарына ў сваіх выданнях адлюстраваў тыповыя рысы словаўтваральнай сістэмы беларускай літаратурна-пісьмовай мовы першай палавіны XVI ст. Разам з тым ён выкарыстаў у неабходных выпадках традыцыйна-кніжныя сродкі стараславянскай, старажытнарускай, старажытнапольскай і старажытначэшскай моў, якія давалі магчымасць значна расшырыць межы сінаніміі і паспяхова вырашаць задачу агульнадаступнага тлумачэння і перакладу царкоўнаславянскіх тэкстаў. П. У. Уладзіміраў адзначаў, што мове скарынінскіх выданняў не хапае сістэмнасці, што ў яго кнігах многа іншаславянскіх элементаў. Але гэты «недахоп» уласцівы ўсёй тагачаснай беларускай пісьмовай мове, так што папрок гэты неабходна аднесці за кошт асаблівасцей гістарычных шляхоў развіцця беларускай пісьменнасці і пэўных жанраў літаратуры. Сабраныя намі факты (а яны могуць быць павялічаны ў многа разоў) паказалі, што ўсе словаўтваральныя сродкі і спосабы, якія выкарыстаў Скарына, складаюць адзіную стройную сістэму, у якой знаходзяць адпаведнае месца не толькі свае ўласныя, але і інаславянскія элементы. Калі б Скарына арыентаваўся толькі на ўнутраныя нацыянальныя рэсурсы (што наогул немагчыма), ён наўрад ці справіўся б з пастаўленай задачай. Зразумела, тагачасны ўзровень славянскай філалогіі быў яшчэ не такі высокі, каб можна было беспамылкова адрозніць надзвычай блізкія катэгорыі ў роднасных мовах. А між тым Скарына выразна адчуваў асаблівасці сістэмы беларускай мовы і валодаў ёю надзвычай дасканала.





А. М. БУЛЫКА

# Адлюстраванне фанетычных рыс беларускай мовы ў выданнях Ф. Скарыны



маль ва ўсіх даследаваннях па мове старажытных беларускіх помнікаў, як правіла, звяртаецца вялікая ўвага на адлюстраванне важнейшых фанетычных рыс беларускай мовы. Тое ж можна сказаць і аб працах, прысвечаных вывучэнню мовы Францыска (Георгія) Скарыны [1], дзе часам асвятляюцца нават адзінкавыя арфаграфічныя з'явы, якія ўспрымаюцца як памылкі і не маюць значэння нормы [2]. Аднак даследчыкі звычайна або зусім абыходзяць пытанне, якія суадносіны назіраюцца паміж арфаграфічнымі рысамі скарынінскіх кніг і асноўнымі правапіснымі нормамі беларускай літаратурнай

[1] Гл.: П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. СПб, 1888, стар. 259—277; Я. Воўк-Левановіч. Мова выданняў Францішка Скарыны (асобны адбітак са Скарынінскага зборніка). Мінск, 1927, стар. 12—18; Ц. Ломцеў. Скарына як пачынальнік беларускай літаратурнай мовы. «Беларусь», 1945, № 3; Л. М. Шакун. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1963, стар. 123—125.

[2] А. Мурко ў рэцэнзіі на даследаванне П. У. Уладзімірава лічыць большасць гэтых з'яў небеларускімі (A. Murko. Zur russischen Literaturgeschichte. «Archiv für slavische Philologie», Zwölfter Band. Berlin, 1890, стар. 256—257).

мовы таго часу, або выказваюць толькі самыя агульныя меркаванні. Між тым якраз выяўленне асноўных правапісных норм скарынінскіх выданняў дазваляе паказаць сапраўдную ролю беларускага першадрукара ў фарміраванні тагачаснага правапісу і наогул вызначыць месца арфаграфічных асаблівасцей яго кніг у арфаграфічнай сістэме беларускай пісьменнасці старажытнага перыяду.

Першае, чым звяртае на сябе ўвагу арфаграфічная сістэма скарынінскіх кніг, — гэта адпаведнасць іх правапісным асаблівасцям іншых старабеларускіх помнікаў пісьменнасці пачатку XVI ст. Амаль усе фанетычныя рысы жывой беларускай мовы, якія адлюстраваны ў скарынінскіх кнігах, у той ці іншай ступені атрымлівалі сваё выражэнне і ў беларускіх рукапісах папярэдняга перыяду. Адны з гэтых рыс, як і ў іншых помніках, адбіваюцца ў тэкстах Скарыны толькі спарадычна і выглядаюць як памылкі на фоне пануючых традыцыйных напісанняў. Іншыя пашыраны значна больш і часта маюць значэнне факультатыўных арфаграфічных норм. Яны трывала замацоўваюцца ў беларускай арфаграфіі пазнейшага часу. Таму можна гаварыць, што арфаграфія выданняў Скарыны прадстаўляе сабой пэўны і важны этап у агульным працэсе фарміравання старабеларускай арфаграфічнай сістэмы.

Для гісторыі беларускай літаратурнай мовы, безумоўна, найбольшае значэнне маюць напісанні другога тыпу. З ліку іх у выданнях Скарыны вылучаецца, напрыклад, такая рыса, як ужыванне літары *е* на месцы этымалагічнага *ѣ*, што з'яўляецца адлюстраваннем вынікаў канвергенцыі гукаў *ѣ* і *е* ў большасці гаворак на беларускай этнічнай тэрыторыі яшчэ ў старарускую эпоху. Гэта арфаграфічная рыса не з'яўляецца для Скарыны прынцыпова новай, паколькі яна была ўласціва беларускім помнікам папярэдняга перыяду, сярод якіх можна назваць перакладныя рэлігійна-апакрыфічныя і агіяграфічныя творы канца XV ст.: «Пакуты Хрыста», «Аповесць аб трох каралях-валхвах», «Жыціе Аляксея, чалавека божага», арыгінальныя беларускія летапісы кароткай рэдакцыі, шматлікія дзелавыя помнікі, а таксама напісаны прыкладна ў адзін час з выданнямі Скарыны «Зборнік № 262», які захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літоўскай ССР. Аднак ні ў адным з пералічаных помнікаў літара *е* на месцы *ѣ* не ўжываецца так шырока, як у Скарыны, ва ўсіх кнігах якога выпадкаў напісання *е* на месцы *ѣ* не менш, чым выпадкаў захавання *ѣ*.

У выніку гэтага ў скарынінскіх кнігах яскрава вырысоўваюцца дзве раўнапраўныя варыянтныя нормы, з якіх адна з'яўляецца працягам старарускіх правапісных традыцый, а другая грунтуецца на новым фанетычным прынцыпе, які паступова праяўляўся ў старабеларускай арфаграфіі дзякуючы арыентацыі кніжнікаў на жывое вымаўленне. Так, з аднаго боку, графема ѣ ужываецца як у словах з этымалагічным ѣ, так і на месцы этымалагічнага *е*: *болѣе, болѣсть, врановѣ, врьмѧ, вънѣ, заповѣдь, зѣло, конѣць, лѣто, месѣць, напрѣдъ, наслѣдие, пѣснь, плѣнъ, сѣ азъ, срѣбро, хлѣбъ, человѣкъ, грѣхъ* і г. д. З другога боку, лексемы гэтага тыпу часта ўжываюцца з літарай *е*: *более, болесть, вера, ветръ, вранове, времѧ, заповедь, зело, конець, лето, месець, напредъ, песнь, пленъ, сребро, тело, хлебъ, человекъ* і інш.

Захаванне ў бібліі напісанняў першага варыянта падтрымлівалася аналагічнымі напісаннямі ў царкоўнаславянскіх тэкстах, правапіс якіх, як вядома, грунтаваўся на этымалагічна-марфалагічным прынцыпе і якія выкарыстоўваў Скарына як адну з крыніц пры перакладзе біблейскіх кніг [1]. Параўнальна вялікая колькасць выпадкаў напісання *е* замест ѣ была выклікана агульнай тэндэнцыяй развіцця графікі ў бок спрашчэння і уніфікацыі. Не выключана таксама магчымасць, што тут праявілася і свядомае імкненне перакладчыка надаць рэлігійнаму тэксту своеасаблівую афарбоўку і графіка-арфаграфічнымі сродкамі зрабіць яго больш даступным для чытача. Можна дапусціць таксама, што характар ужывання літар *е* і ѣ аказаўся ў нейкай залежнасці ад колькасці гэтых літар у наборнай касе друкарні. Асобныя ж памылковыя напісанні з літарай ѣ на месцы *е* накшталт *въвѣлъ, морѣ, к нѣму, овѣць, плѣменъ, ѣе,* відавочна, з'явіліся па недагляду перакладчыка ці друкара.

Варта звярнуць увагу і на тую акалічнасць, што адзначаныя парушэнні заканамернасцей ужывання літар *е* і ѣ назіраюцца не толькі ў біблейскіх кнігах, якія з'яўляюцца самастойнымі перакладамі Скарыны. Як сведчаць прыведзеныя вышэй прыклады, яны маюць месца таксама і ў выданнях Скарыны

[1] Выкарыстаныя Скарынай царкоўнаславянскія крыніцы пакуль што дакладна не вызначаны. П. У. Уладзіміраў лічыць, што ў Скарыны не было пад рукой толькі чатырох кніг бібліі — «Прамудрасцей Саламонавых», «Юдзіфі», «Эсфіры» і «Песні песняў» (П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык, стар. 163).

на царкоўнаславянскай мове — у пражскім «Псалтыры» і ў віленскіх «Апостале» і «Малой падарожнай кніжыцы». Змяшэнне літар *е* і *ѣ* з'яўляецца наогул адной з самых паказальных рыс трансфармацыі царкоўнаславянскай мовы на беларускай глебе ў асобны тып яе, што асабліва інтэнсіўна адбывалася ў XV—XVI стст., але пазней прыпынілася ў сувязі з распаўсюджаннем на Беларусі царкоўнаславянскіх твораў рускай рэдакцыі.

Неабходна адзначыць, што гэта рыса ў пасляскарынінскі час знаходзіць у беларускай пісьменнасці яшчэ большае пашырэнне. Асабліва характэрна літара *е* замест *ѣ* для старабеларускіх дзелавых кніг і дакументаў сярэдзіны і другой палавіны XVI ст., якія ў большай меры, чым помнікі іншых жанраў, набліжаліся да жывога вымаўлення і менш за ўсё адчулі ўплыў царкоўнаславянскай арфаграфіі. Некаторыя дзелавыя помнікі гэтага часу практычна зусім не маюць літары *ѣ*.

Другой надзвычай пашыранай рысай у выданнях Скарыны, якая набліжае іх да жывой беларускай мовы, з'яўляецца адлюстраванне непераходнага памякчэння заднеязычных *г, к, х*. Працэс памякчэння гэтых зычных у спалучэннях *гы, кы, хы* пачаўся ў старарускай мове, паводле А. І. Сабалеўскага, у першай палавіне XII ст. і закончыўся к XIV ст.[1] Адлюстраванне яго ў старарускіх помніках выразілася ў напісаннях *ги, ки, хи (великии, грехи, ноги)*, якія, аднак, ужываліся ў помніках побач з традыцыйнымі напісаннямі *гы, кы, хы*[2]. У адносінах да старабеларускай мовы Я. Ф. Карскі пісаў, што ў ёй «працэс паступовага пераходу задненёбных у сярэдненёбныя... праходзіў павольней, чым у рускай»[3]. Магчыма, гэта было сапраўды так, бо сярод дайшоўшых да нас пісьмовых помнікаў XIII — першай палавіны XV ст. няма ніводнага з больш-менш шырокім адлюстраваннем памякчэння заднеязычных. Устойліва захоўваюцца спалучэнні *гы, кы, хы* і ў некаторых рукапісах другой палавіны XV ст., напрыклад у «Судзебніку караля Ка-

---

[1] А. И. Соболевский. Лекции по истории русского языка. М., 1907, стар. 130, 131.

[2] Наконт гэтага Сабалеўскі піша: «Трэба думаць, што гэта памякчэнне праходзіла паступова і што на працягу некаторага часу склады *ки* і інш. маглі з аднолькавым поспехам перадавацца на пісьме і праз *кы* і праз *ки*» (А. И. Соболевский. Лекции по истории русского языка, стар. 131).

[3] Е. Ф. Карский. Белорусы. Язык белорусского народа, вып. I. М., 1955, стар. 364.

зіміра 1468 г.», у «Віленскім спісе летапісу», у «Летапісу Аўраамкі» канца XV ст. У зборніку апакрыфічных апавяданняў канца XV ст. № 391 (Дзяржаўная публічная бібліятэка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе), дзе змешчаны «Пакуты Хрыста», «Аповесць аб трох каралях-валхвах» і «Жыціе Аляксея, чалавека божага», спалучэнні *ги, ки, хи* сустракаюцца ўжо значна шырэй. Аднак як аб варыянтнай правапіснай норме аб іх можна гаварыць толькі ў адносінах да скарынінскіх кніг, дзе, нягледзячы на некаторую колькасць архаічных напісанняў *гы, кы, хы* тыпу *врагы, глꙋбокыи, долгыи, книгы, погыбель, проступкы, рогы, слꙋгы* і інш., перавага аддаецца ўсё ж напісанням *ги, ки, хи: великие, враги, высокии, грехи, грѣхи, драгие, женскии, источники, книги, морскиѧ, муки пшеничное, оброки, погибель, полки, превеликии, роги, струги, тихии, хитрыи, царскии* і інш.

Пры разглядзе арфаграфічнай сістэмы беларускай пісьменнасці пасляскарынінскай эпохі можна заўважыць, што ў помніках рэлігійных жанраў напісанні *гы, кы, хы* пастунова сустракаюцца ўсё радзей. Для дзелавых жа і свецкіх помнікаў яны наогул мала характэрны. Паступова напісанні *ги, ки, хи* становяцца неад'емнай часткай і для помнікаў на царкоўнаславянскай мове.

Вялікае распаўсюджанне ў выданнях Скарыны атрымалі таксама напісанні з літарай *е*(*ѣ*) на месцы ненаціскнога этымалагічнага ѧ. Калі ў беларускай пісьменнасці XV ст. такія напісанні сустракаліся яшчэ спарадычна, то, пачынаючы са Скарыны, яны набываюць у беларускіх помніках значэнне варыянтнай правапіснай нормы. Як і ва ўсёй беларускай пісьменнасці XV—XVII стст., ужыванне літары *е* замест ѧ мае месца ў скарынінскіх кнігах у наступных выпадках — у дзеепрыслоўях цяперашняга часу: *будечи, видечи, грозѣчи, завидечи, не медлѣчи, приводечи, тошнечи, хотечи* і інш. і ў паасобных назоўніках, прыметніках, лічэбніках, дзеясловах, прычым як у паслянаціскных складах, так і ў першым складзе перад націскам: *двадесеть, двадцеть, дванадесеть, десеть, ечмень, месець, паметати, память, привезали, приетелка, припоесалъ, присегати, развезати, светого, слышели, тридесеть, тридцеть, тысеща, заець, погледати, свезати, свещенникъ, тринадесеть, челедь* і інш.

Зрэдку таксама заўважаецца напісанне літары *е* замест ѧ у зваротнай часціцы *-сѧ* (*веселилосѣ, полюбилосе, почина-*

*єтсе)*, што ў беларускіх помніках пазнейшага перыяду знаходзіць асаблівае пашырэнне.

Ёсць падставы такія напісанні кваліфікаваць як ускоснае адлюстраванне якання. Іх нельга лічыць непасрэдным адлюстраваннем жывога вымаўлення перш за ўсё таму, што яны сустракаюцца амаль ва ўсіх старабеларускіх помніках незалежна ад жанру, а таксама ад месца і часу ўзнікнення іх. Можна назваць судовыя кнігі розных мясцовасцей Беларусі: «Кнігу Віцебскага замкавага суда 1533—1540 гг.», «Кнігу Віленскага замкавага суда 1551—1552 гг.» [1], кнігі Гродзенскага земскага суда 1540, 1556—1557 і 1592—1593 гг. [2], кнігі Ковенскага земскага суда 1566—1567, 1592—1593 і 1600—1601 гг., «Кнігу Укмергскага гродскага суда 1625—1628 гг.» [3] і інш., дзе *е* на месцы ѧ прадстаўлена вельмі шырока. Гэта напісанне ўласціва таксама шматлікім дзелавым дакументам, напісаным у Полацку, Навагрудку, Вільні, Троках, Ваўкавыску, Койданаве, Браславе, Слоніме, Брэсце і іншых гарадах Беларусі. У вымаўленні ж у гэтым становішчы гук *е* ці блізкі да яго быў уласцівы, безумоўна, толькі гаворкам вузкай лакалізацыі. Пацвярджэннем гэтага можа быць перш за ўсё той факт, што ў наш час еканне вядома толькі ў частцы гаворак паўднёвай ускраіны Мінскай вобласці і некаторых раёнаў Гомельскай вобласці (Жыткавіцкі, Петрыкаўскі, Тураўскі, Лельчыцкі, Ельскі, Нараўлянскі, Мазырскі і інш.). У гэтых мясцовасцях, між іншым, у старабеларускі перыяд была створана зусім нязначная колькасць помнікаў, і, зразумела, такія помнікі не маглі аказаць прыкметнага ўздзеяння на ўсю старабеларускую пісьменнасць.

Па-другое, ва ўсіх старабеларускіх помніках, у тым ліку і ў тэкстах Скарыны, прадстаўлена вялікая колькасць выпадкаў, дзе ў данай пазіцыі паралельна з *е*(ѣ) ужываюцца літары ѧ, ꙗ, *а*. Напісаннямі такога характару асабліва насычаны дзелавыя помнікі з розных мясцовасцей Беларусі. Між тым

---

[1] Арыгіналы гэтых кніг захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве (ф. 389, кн. 228, 240).

[2] Першая кніга захоўваецца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта імя. В. Капсукаса (№ 52, паводле Гарбачэўскага № 51/6772), дзве другія — у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР (ф. 1755, воп. I, адз. зах. № 1, 6).

[3] Арыгіналы захоўваюцца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта імя В. Капсукаса (паводле Гарбачэўскага № 63/13817, № 5/13795, 8/13762 і 16/13893).

агульнавядома, што арфаграфія дзелавой пісьменнасці ў большай ступені, чым іншых жанраў, адлюстроўвае жывое вымаўленне. Таму можна меркаваць, што ў першым складзе перад націскам і ў паслянацiскным становішчы ў пераважнай большасці беларускіх гаворак старажытнага перыяду вымаўляліся іменна гукі *а, ʼа* ці *ʼи* (у зоне дысімілятыўнага акання), але ва ўсякім выпадку не *е*. Напісанні ж з літарай *е* ў даным становішчы можна разглядаць як гіпернармалізмы, якія ўскосна сведчаць аб тым, што аканне было ў беларускіх гаворках старажытнага перыяду жывой з'явай [1]. Акрамя таго, у паасобных выпадках, асабліва ў часціцы *-се,* нельга адмаўляць уплыву польскай арфаграфіі і вымаўлення.

У некалькі меншай меры, чым разгледжаныя вышэй фанетычныя рысы, аднак даволі шырока адлюстроўваецца ў выданнях Скарыны пераход гука *у* ў *ў*. Як і ў іншых старабеларускіх помніках, гэты гук абазначаецца літарай *в*, бо ў старабеларускай графіцы не было асобнай графемы для абазначэння *у* нескладовага. Паралельна з напісаннямі, дзе літара *у* ў пачатку слоў і прыназоўніку захоўваецца, напісанні з літарай *в* на месцы *у* характэрны для ўсіх скарынінскіх кніг, уключаючы і царкоўнаславянскія: *вбогаго, вже, вкоризна, взоры вышивають, вмерли бы, вмывалницу медѧну, вмыти, врѧдники, вста, вчастие, вчение, вченики, вчити, вчинити, навченъ, навченыи, навчилъ, о втекании его, не втаисѧ, повчение, были суть сие кнѧзи в сыновъ ізраилевыхъ* і інш. Гэта рыса ў помніках сярэдзіны і другой палавіны XVI ст. набывае вялікае пашырэнне, асабліва ў пісьменнасці дзелавых і свецкіх жанраў.

З іншых арфаграфічных рыс, якія склаліся пад уплывам жывога вымаўлення, у кнігах Скарыны звяртае на сябе ўвагу даволі частае абазначэнне прыстаўнога гука *і*: *илжите, игде, ильстивыи, ильстиве, ильсти, слово илживое, ильва, ирдѧщаꙗсѧ, ильснущаꙗсѧ, илнѧныхъ, ирците, ирци, ильстецъ, иржати, иржавѧетъ, иртути, ильвица, илъживое, илживымъ, илживыхъ* і інш. Гэта асаблівасць скарынінскіх выданняў

---

[1] Шырока распаўсюджаны напісанні тыпу *десетина, кнегиня, петнадцеть, свещенникъ, сентебря* і ў дзелавых помніках XVII ст. з тэрыторыі паўднёварускіх гаворак, ненаціскны вакалізм якіх вельмі блізкі да беларускага. Такія напісанні тлумачацца даследчыкамі як ускоснае адлюстраванне дысімілятыўнага якання (С. И. Котков. Южновеликорусское наречие в XVII столетии. М., 1963, стар. 63—65).

набывае тым большую цікавасць, што ні ў адным старажытным помніку ні да Скарыны, ні пасля яго прыстаўны гук *і* не набыў такога шырокага адлюстравання.

Па адлюстраванню астатніх фанетычных рыс беларускай мовы кнігі Скарыны цалкам прымыкаюць да іншых старажытных беларускіх помнікаў рэлігійных жанраў першай палавіны XVI ст. У скарынінскіх выданнях амаль зусім адсутнічаюць прыклады адлюстравання акання і якання. Так, П. У. Уладзіміраў адзначае толькі тры словы (*золатарев, выстерагатисѧ, манисто*), якія могуць мець нейкае дачыненне да акання [1]. Толькі два прыклады далучае сюды Я. Воўк-Левановіч (*даконаеть, иржавѣет*) [2], у надзейнасці якіх, аднак, можна сумнявацца. Звычайнымі ж у Скарыны, як і наогул у старабеларускай пісьменнасці гэтага перыяду, з'яўляюцца этымалагічна-марфалагічныя напісанні тыпу *болѣзнь, вода, выконати, говорити, голова, дорога, здоровье, обмовити, образити, опустити, поступити, стоѧти, упоминати, ховати, ходити* і інш. Паходжанне такіх напісанняў зусім зразумелае. У вымаўленні ненаціскное *о* супадала з *а*, а арфаграфія, грунтуючыся на старарускай традыцыі, наогул не дапускала акаючага напісання. Таму кніжнікі, каб не нарабіць памылак, стараліся пісаць літару *о*. Чым большы навык у традыцыйным пісьме меў аўтар, друкар ці перапісчык, тым менш памылак, выкліканых вымаўленнем, ён рабіў.

Такое захаванне старарускіх і царкоўнаславянскіх правапісных традыцый было для таго часу ў нейкай меры станоўчым, бо яно захоўвала арфаграфію ад уплыву дыялектных рыс і садзейнічала яе ўнармаванню. Акрамя таго, унікаючы напісанняў тыпу *вада, галава, грамада,* старабеларускія кніжнікі набліжалі правапісную сістэму сваіх твораў да арфаграфіі ўкраінскіх помнікаў і тым самым рабілі іх даступнымі для ўсяго насельніцтва Вялікага княства Літоўскага.

Свой уплыў на адлюстраванне акання, безумоўна, аказала і царкоўнаславянскае вымаўленне. Як зазначае С. Буліч, «у многіх асоб духоўнага звання або паходзячых з духоўнага звання можна сустрэць вымаўленне галосных, адрознае ад агульнапрынятага, якое ў прастамоўі называюць размовай

---

[1] П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык, стар. 259.

[2] Я. Воўк-Левановіч. Мова выданняў Францішка Скарыны, стар. 13.

на «о». У ліку іншых адметных прымет тыпу «семінарыста», вядомага з жыцця і літаратуры, абавязкова прысутнічае і гэта вымаўленне»[1]. Як вядома, сярод адукаваных людзей старабеларускага перыяду асобы духоўнага звання або так ці інакш звязаныя з цэрквамі і манастырамі складалі даволі значны працэнт. Зразумела, што для іх ужыць літару *о* ў ненаціскным складзе не прадстаўляла ніякай цяжкасці, тым больш, што выкарыстання такога правапіснага прыёму патрабаваў і этымалагічна-марфалагічны прынцып, які з'яўляўся традыцыйным у беларускай пісьменнасці.

Дзеканне і цеканне ў выданнях Скарыны не адзначана зусім. У гэтым сэнсе скарынінскія тэксты нічым не адрозніваюцца ад іншых беларускіх помнікаў рэлігійных жанраў, у якіх пісцы, як тлумачыць Я. Ф. Карскі, «наогул усялякімі спосабамі пазбягалі абазначаць свісцячае вымаўленне *д* і *т*, імкнучыся ўжываць гістарычнае пісьмо часта, можа, з мэтай адрозніць яго ад польскага пісьма, нават у словах, узятых з польскай мовы»[2]. Асабліва яскрава гэта імкненне праявілася ў друкаваных кнігах, дзе ў выніку карэктарскай праўкі выкараняліся ўсялякія сляды адлюстравання мясцовых фанетычных рыс. Акрамя таго, свой уплыў на старабеларускую арфаграфію тут маглі аказаць і арфаграфічныя прыёмы стараўкраінскай пісьменнасці, якая наогул ніколі не адлюстроўвала дзеканне і цеканне, бо ўкраінскай фанетыцы пераход мяккіх *д* і *т* у *дз*' і *ц*' не быў уласцівы.

Зацвярдзенне шыпячых прадстаўлена ў Скарыны толькі некалькімі выпадкамі: *жывъ, жывыхъ, жылы, вашымъ*. Сустракаюцца таксама напісанні з літарай ъ пасля *ш, ж, щ* на канцы слоў тыпу *будешъ, ведаешъ, воздвигнешъ, возмешъ, востанешъ, загинешъ, знаешъ, знаидешъ, любишъ, насеешъ, хощешъ, мѹжъ, пещъ, помощъ*. Аднак правапіснай нормай трэба лічыць этымалагічна-марфалагічныя напісанні з галоснымі *и, е, ь* пасля шыпячых *ж, ш, щ, ч* накшталт *моцнеишии, жити, колачь, можешь, помощь* і інш.

Вельмі нешматлікія ў Скарыны выпадкі адлюстравання зацвярдзелага *р*: *стрыщи, рызъ, крыкъ, трыдцети, брытва, прынесите, прыветливыми очима*. Сюды можна далучыць і некато-

---

[1] С. Булич. Церковнославянские элементы в современном литературном и народном русском языке, ч. I. СПб., 1893, стар. 135.

[2] Е. Ф. Карский. Русская диалектология. Л., 1924, стар. 94.

рую колькасць прыкладаў з літарамі *ъ, у, о* пасля *р*: *вихоръ, вихромъ, вихру, простру, цару* і інш. Але з пункту погляду колькасных суадносін усё гэта толькі адзінкавыя прыклады на тысячы патэнцыяльна магчымых выпадкаў адлюстравання зацвярдзелага *р*. Наадварот, побач са звычайнымі напісаннямі этымалагічна-марфалагічнага характару накшталт *бритва, крикъ, принести* ў кнігах Скарыны значнае распаўсюджанне атрымалі гіпернармалізаваныя напісанні з літарамі *и, ѧ* на месцы этымалагічных *ы, а*: *рибы, мудрихъ, старихъ, рижую, подлѣ рибници, въ рибнице, покрил мѧ, открити, крила, под которими, сокритость, прикрила ихъ, съ крила ихъ, птица опущаетъ криле, прикритие, гадовъ и рибъ, рикание львово, користь, зубрѧ* і інш. Аб напісаннях такога тыпу можна нават гаварыць як аб факультатыўнай правапіснай норме ў адносінах да напісанняў, дзе этымалагічна цвёрдае *р* адлюстроўваецца.

Зусім няма ў выданнях Скарыны выпадкаў абазначэння зацвярдзелага *ц*. Звычайнымі тут з'яўляюцца напісанні тыпу *агнець, купець, гонець, дубець, жрець, моць, самець, младенець, доільниць, из криници, моци, отроци* і інш.

Толькі ў адзінкавых выпадках адлюстроўваецца ў скарынінскіх кнігах падаўжэнне зычных у інтэрвакальным становішчы: *возданне, въспоминанне, искорененне, въ день отдаваннѧ его*. Амаль выключна ў гэтай пазіцыі ўжываюцца напісанні з *-ие* (*корение, кохание, оутиснение*) і *-ье* (*веселье, збиранье*), прычым першыя пераважаюць.

З іншых фанетычных рыс беларускай мовы спарадычнае адлюстраванне ў выданнях Скарыны знайшлі прыстаўныя зычныя *в* і *г*: *вужъ, в8жъ, в навукахъ, ꙗко вось обращающаѧсѧ, гужи, гужами, гусеница;* выпадзенне зычных *д* і *т* у спалучэннях *здн, стн, рдц: власным мечемъ, празнослов, серце, празникъ, чеснаго, позно, наместникъ, празнота, жалосные, власныи* і інш.; зацвярдзенне губных зычных: *кровъ, любовъ, осмъдесѧтъ, свекровъ, церковъ, червъ* і інш.; пераход гука *в* у *ў*: *8 великомъ месте празскомъ, 8 своихъ справахъ, противъ 8сходу солнца, 8скорми, змытисѧ 8 реце, 8 воде, 8 ступе, 8 долине, трубѧще 8 трубы, по 8згоркохъ* і інш.; спалучэнне гукаў *ув* у прыназоўніку, дзе *в* развілося перад галосным наступнага слова, для ліквідацыі гіятуса: *оув очи, 8в окне, 8в олеи, 8в обувь, 8в оковы, 8в оковахъ, 8в ореху* і інш.; асіміляцыя зычных па звонкасці і глухасці: *кто звѧзалъ, съ прозбами, зделали, зделалъ, зделаешъ с шолку, прозба, писмо сее*



Старонкі з «Малой падарожнай кніжыцы» Ф. Скарыны

*светчить, з роботы* і інш.; гук *g* у іншамоўных словах, які ў беларускай пісьменнасці звычайна абазначаўся спалучэннем *кг*: *фикги, кгалбанъ, кгимель, микгдалъ* і інш.

Усе гэтыя напісанні не складаюць у кнігах Скарыны якой-небудзь нормы і толькі могуць служыць пацвярджэннем выказвання Воўка-Левановіча аб тым, «што жывая беларуская мова эпохі Скарыны ў большасці сваіх характэрных рыс... была такою, якою мы яе ведаем цяпер» [1].

Пры разглядзе арфаграфічнай сістэмы выданняў Скарыны нельга не звярнуць увагу і яшчэ на адну, хоць і не ўласна беларускую асаблівасць, якая значна адрознівае іх ад царкоўнаславянскіх помнікаў рускай рэдакцыі,— на напісанні з літарай *ж* у словах, дзе агульнаславянская мова-аснова мела *dj*. Такія напісанні выкарыстоўваліся ў беларускіх помніках па традыцыі ад старарускай эпохі і былі ўласцівы як помнікам

[1] Я. Воўк-Левановіч. Мова выданняў Францішка Скарыны, стар. 24.

дзелавых жанраў — *по бжьемь роженьи,* так і рэлігійных — *надежа.* У «Бібліі» Скарыны словы тыпу *одежа, охлажение, гражане, наслажатисѧ, осужати, освобожати* знаходзяць значнае пашырэнне, хоць і ўжываюцца паралельна з царкоўнаславянскімі напісаннямі са спалучэннем *жд* у разглядаемым становішчы. Характэрна, што напісанне літары *ж* на месцы агульнаславянскага *dj* уласціва і тым кнігам Скарыны, якія кваліфікуюцца даследчыкамі як царкоўнаславянскія, напрыклад «Псалтыру»: *одежа, одежи, превреж8, поглаж8, ражающои, посажати* і інш.; «Апосталу»: *въ одежи, осужени, со всѧкимъ 8твержениемъ, храмъ созіжете ми, розсужаѧ оутвержающе, 8твержаѧ* і інш. Гэта дае падставу лічыць даную арфаграфічную рысу адным з крытэрыяў пры вызначэнні прыналежнасці помнікаў да асобага, беларускага тыпу царкоўнаславянскай пісьменнасці, найбольш яркія асаблівасці якога заўважыў у свой час А. І. Сабалеўскі [1], а пасля аб існаванні якога неаднаразова гаварыў Я. Ф. Карскі [2].

Разгледжаныя арфаграфічныя асаблівасці скарынінскіх выданняў не засталіся ізаляваным фактам у гісторыі беларускай пісьменнасці. Калі пры сучасным стане вывучанасці мовы паасобных старажытных беларускіх помнікаў роля скарынінскіх традыцый у граматыцы і лексіцы застаецца пакуль гіпатэтычнай, то ў галіне арфаграфіі яна не падлягае сумненню. Назіранні над старажытнымі помнікамі паказваюць, што арфаграфічная сістэма з'яўляецца якраз такім узроўнем пісьмовай мовы, дзе лягчэй за ўсё знаходзілі сваё адлюстраванне пэўныя змены, выкліканыя ўздзеяннем жывога вымаўлення. Нават кананічныя творы свяшчэннага пісання, якія перапісваліся на беларускай тэрыторыі царкоўнаславянскай мовай і старанна аберагаліся кніжнікамі з боку іх знешняй формы, маюць у вялікай колькасці беларусізмы ў арфаграфіі, тады як асаблівасці беларускай мовы ў галіне граматыкі і асабліва лексікі з вялікай цяжкасцю прабівалі сабе дарогу ў перапісаныя тэксты.

Супастаўленне скарынінскіх арфаграфічных асаблівасцей з правапіснымі нормамі беларускай літаратурнай мовы пачатку XVI ст. паказвае, што паміж імі няма прынцыповых адроз-

---

[1] А. И. Соболевский. Славяно-русская палеография. СПб, 1908, стар. 90.

[2] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III. Очерки словесности белорусского племени. 2. Старая западнорусская письменность. Пг., 1921, стар. 19, 37.

ненняў. Не можа быць сумнення, што кнігі Скарыны мелі пэўнае ўздзеянне на арфаграфію беларускай пісьменнасці пазнейшага часу. Уздзеянне друкаваных кніг, якія выдаваліся значнымі тыражамі, увогуле павінна было быць значна большым, чым роля паасобных, нават даволі папулярных рукапісных помнікаў. Кнігі Скарыны, як вядома, перапісваліся ў розных частках Вялікага княства Літоўскага [1]. Пры перапісцы іх, натуральна, у значнай меры захоўваліся арфаграфічныя асаблівасці друкаваных арыгіналаў. Аб гэтым сведчаць, напрыклад, рукапісныя спісы скарынінскіх кніг, перапісаных В. Жугаёвым у 1568 г. у галіцкім горадзе Яраслаўлі.

Важна пры гэтым падкрэсліць, што нават тыя арфаграфічныя асаблівасці, якія ў выданнях Скарыны выявіліся толькі ў зародкавым стане, атрымалі пашырэнне ў беларускай пісьменнасці пазнейшага часу.

---

[1] А. В. Флоровский. Чешская библия в истории русской культуры и письменности. «Sborník filologický», XII. Praha, 1940—1946, стар. 222—223.




БІВЛИЯ РУСКА
ВЫЛОЖЕНА ДОКТОРОМЪ
ФРАНЦИСКОМЪ СКОРИНОЮ
ИЗСЛАВНАГО ГРАДА ПО
ЛОЦЬКА, БОГУ КО ЧТИ И
ЛЮДЕМЪ ПОСПОЛИТЫМЪ
К ДОБРОМУ НАУЧЕНИЮ

Тытульны ліст «Бібліі» Ф. Скарыны



А. Я. БАХАНЬКОЎ

# Сінтаксіс скарынінскіх выданняў



ова скарынінскіх кніг, гэтых па-свойму адметных помнікаў старажытнабеларускай пісьменнасці, вывучалася пераважна з боку фанетыкі, марфалогіі і часткова лексікі. Менш увагі ўдзялялася сінтаксісу. Нават адносна такой арыгінальнай і найбольш поўнай аб Францыску (Георгію) Скарыне працы, якой з'яўляецца даследаванне П. У. Уладзімірава, праф. А. Будзіловіч як рэцэнзент вымушан быў зазначыць, што ў ёй, акрамя ўсяго іншага, «вельмі няпоўна распрацаван аўтарам і сінтаксіс Скарыны, які займае менш чым дзве старонкі» [1]. А між тым аналіз сінтаксічных асаблівасцей мог бы аказацца добрым крытэрыем пры вырашэнні пытання аб першааснове скарынінскай мовы, бо «ў правілах спалучэння слоў, у заканамернасцях утварэння розных відаў і тыпаў словазлучэнняў ярка праяўляецца нацыянальная спецыфіка мовы» [2].

---

[1] А. Будзіловіч. Рэцэнзія на кн. П. У. Уладзімірава «Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык». СПб, 1888, Записки имп. Академии наук, т. 69, кн. I, 1892, стар. 34.

[2] Грамматика русского языка, т. II, ч. 1. М., 1960, стар. 11.

Мэта гэтых кароткіх нататак — прасачыць, якое адлюстраванне знайшлі ў перакладах Скарыны некаторыя з тых сінтаксічных з'яў, што ўжо ў пачатку XVI ст. складалі адметную асаблівасць, спецыфіку беларускай мовы. Для вырашэння гэтай задачы найбольшую каштоўнасць маюць тыя ўрыўкі тэкстаў, у якіх скарынінская фраза не супадае з адпаведнымі месцамі арыгіналаў. Таму, акрамя непасрэдных назіранняў над мовай Скарыны, тут шырока выкарыстаны багатыя выпіскі-супастаўленні П. У. Уладзімірава з розных выданняў свяшчэнных і набажэнскіх кніг, якія, не будучы самі па сабе даследаваннем уласна сінтаксічных асаблівасцей скарынінскай мовы, складаюць каштоўны для гэтай мэты матэрыял, бо вельмі наглядна ілюструюць не толькі залежнасць мовы Скарыны ад першакрыніц (чэшскага, царкоўнаславянскага тэкстаў біблії і каментарыяў Мікалая Лірана), але характарызуюць і саматворчасць перакладчыка, паказваючы, у якой меры ён адступаў ад таго ці іншага арыгінала.

Асаблівасці, што з большай ці меншай ступенню верагоднасці могуць быць названы беларускімі, выяўляюцца пераважна ў сістэме словазлучэнняў як катэгорыі больш рухомай і зменлівай, чым сістэма сказаў, дзе змяненні носяць звычайна характар паступовых і глыбокіх пераўтварэнняў [1].

Адной з такіх асаблівасцей можна назваць шырокае ўжыванне ў розных жанрах беларускай пісьменнасці скарынінскай пары творнага прэдыкатыўнага склону назоўнікаў на месцы другога назоўнага, чаго ў рускай мове тады яшчэ не назіралася. Спашлёмся на Ц. П. Ламцёва, які на падставе шырокіх назіранняў робіць вывад, што «помнікі XV—XVI стст., якія адлюстроўваюць беларускую мову, і помнікі XV—XVI стст., якія адлюстроўваюць рускую мову, істотна адрозніваюцца адны ад другіх па характару ўжывання творнага прэдыкатыўнага на месцы другога назоўнага. У рускіх помніках ён амаль не ўжываўся, у беларускіх помніках ён ужываўся вельмі шырока пры розных групах дзеясловаў» [2]. Пры гэтым адрозненне старажытных беларускіх і рускіх пісьмовых помнікаў у адносінах да ўжывання назоўнага і творнага прэдыкатыўнага даследчык тлумачыць тым, што «літаратурна-кніжныя трады-

---

[1] Гл.: Н. Ю. Шведова. Активные процессы в современном русском синтаксисе. М., 1966, стар. 5.
[2] Т. П. Ломтев. Очерки по историческому синтаксису русского языка. М., 1956, стар. 114.

цыі кіеўскага перыяду агульнай старажытнарускай мовы не падтрымліваліся з такой сілай на беларускіх землях у складзе Вялікага княства Літоўскага, з якой яны падтрымліваліся на рускіх землях у складзе Маскоўскай дзяржавы»[1]. У выніку гэтага асаблівасці жывой народнай мовы, да якіх адносіўся і творны прэдыкатыўны, лягчэй пранікалі ў беларускія пісьмовыя помнікі XV—XVI стст., чым у рускія помнікі таго часу.

Які ж стан — жывой беларускай гаворкі ці кніжнай старажытнарускай традыцыі — знайшоў адлюстраванне ў выданнях Скарыны?

Ужыванне назоўніка ў ролі выказніка пры дзеяслоўнай звязцы ў форме цяперашняга часу не вызначаецца ў мове Скарыны якімі-небудзь спецыфічнымі асаблівасцямі. Пры наяўнасці звязкі і пры адсутнасці яе ў творах Скарыны, як і ў старажытных (а роўным чынам і ў сучасных) рускай і беларускай мовах, адзначаецца толькі назоўны прэдыкатыўны: *Добрые речи сокритые во ѹстех завреных, сут ꙗко бы покармы различные положеные во гробѣ* (1С, 18)[2]; *Евреи вышли суть от халдей найпервый отець ихъ Аврамъ* (КЕ, 2).

Пры звязцы *быць* у форме прошлага і будучага часу і пры дзеясловах называння (у адрозненне ад старажытнабеларускіх помнікаў, дзе творны прэдыкатыўны пераважаў над назоўным) у перакладах Скарыны назоўны больш звычайная з'ява, чым творны: *Сиѧ называна была землѧ волотовъ* (ДЗ, 9); [Книжка] *называетсѧ Плачь Еремиинъ* (ПЕ, 2); *сей будеть велий и сынъ вышнѧго назоветсѧ* (ІН, 3б); *То естъ конець первыхъ моисеовыхъ* [книг] *аже от еврей называютсѧ Бремисъ.. а по руски Бытьꙗ* (КБ, 8б); *И паметовати будете ꙗко раби бѣсте въ египте* (ДЗ, 34); *Онъ же былъ шестый Царь* (ПБ, 1); *Третий же книгы Царѧ Саломоновы нарицаютсѧ Сира Сиримъ.. по рускый исказуетсѧ Пьснь песнѧмъ* (ЕК, 1б); *И нарицаетсѧ сиѧ книга Премудрость* (ПБ, 1б); *Сиѧ Книга Есферъ называетсѧ Еврейским ꙗзыком Мъкгила. то есть листы или грамоты* (КЕ, 1б); *Верженъ есть жребей до сосуда, еже от еврей нарицаетсѧ Фуръ* (КЕ, 8); *Ѕѹза градъ было есть початок Царства его* (КЕ, 2б-3); *Тои же былъ естъ пестунъ дщери брата своего Едысы* (КЕ, 5а); *Починаются книги еже словуть притчи Сало-*

---

[1] Т. П. Ломтев. Очерки по историческому синтаксису русского языка, стар. 114.

[2] Спіс прынятых скарачэнняў гл. на стар. 317 гэтага зборніка.

*мона царя* (ПС, 1); *И напустилъ есть фуръ еже нашимъ ꙗзыкомъ исказуетсѧ жребей* (КЕ, 16б); *И длѧ того названи сутъ дневе тые фуримъ. то есть дневе жребиевъ* (КЕ, 16б); *А то сѧ называеть выкладъ Книгъ ветхого закону посполитый* (КЕ, 2б) і інш.

Творны на месцы назоўнага сустракаецца досыць рэдка: *Сии же были суть И придверниками* (КЕ, 7); *Тои ѹбо былъ есть старейшиною надъ меншицами Царевыми* (КЕ, 6б); *ѡн же былъ царемъ вь Ерусалиме* (ПС, 1).

Супастаўленне асобных урыўкаў скарынінскіх перакладаў з адпаведнымі месцамі чэшскай бібліі 1506 г. і царкоўнаславянскай бібліі 1499 г. паказвае, што пры супадзенні тэкстаў абедзвюх першакрыніц Скарына, як правіла, не змяняе структуры фразы, і тады ў значэнні іменнага выказніка звычайна выступае назоўны склон. Параўн. у Скарыны: *и восхвалю тѧ бога спасителя моего: и спаведаюсѧ имени твоемѹ ꙗко помощник и заступник бысть мне* (1С, 11); у чэшскай бібліі 1506 г.: *neb pomocznijk a obrancze vczinen gsy mi*[1]; у царкоўнаславянскай бібліі 1499 г.: *ꙗко покровитель и помощникь бысть ми.*

Калі ж тэксты арыгіналаў разыходзіліся, Скарына аддаваў перавагу форме творнага склону, якая больш адпавядала духу жывой беларускай гаворкі. У Скарыны: *изволих бедным быти* (ПС, 11); у чэшскай бібліі 1506 г.: *Wywolil gsem opowrženym byti*; у царкоўнаславянскай 1499 г.: *Изволихъ примѣатисѧ.*

Аб колькасных суадносінах назоўнага прэдыкатыўнага з творным можна меркаваць па такой дэталі: з дзесяці адзначаных у кнізе «Эсфір» выпадкаў ужывання назоўніка ў ролі іменнага выказніка пры звязцы *быць* у форме прошлага і будучага часу і пры дзеясловах называння восем прыпадае на назоўны і толькі два на творны склон. Калі пры гэтым прыняць пад увагу, што царкоўнаславянскага тэксту кнігі «Эсфір», як лічыць П. У. Уладзіміраў, у Скарыны не было пад рукой, то можна меркаваць, што ў іншых кнігах, перакладзеных з царкоўнаславянскіх тэкстаў, перавага назоўнага над творным прэдыкатыўным будзе яшчэ больш відавочнай.

---

[1] Тут і далей тэксты з царкоўнаславянскай, чэшскай і польскай біблій прыводзяцца па кн.: П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык.

Такім чынам, па асаблівасцях ужывання форм прэдыкатыўнага назоўніка пераклады Скарыны стаяць бліжэй да помнікаў старажытнарускай пісьменнасці XV—XVI стст., чым да помнікаў беларускай пісьменнасці той жа пары.

Ужо ў перыяд дзейнасці Скарыны беларуская мова прыкметна адрознівалася ад рускай (а тым больш ад царкоўнаславянскай) і па выніках замены другога вінавальнага назоўнікаў іншымі формамі. Паралельна з заменай другога вінавальнага творным прэдыкатыўным (працэс гэты быў характэрны і для рускай мовы, толькі працякаў у ёй больш павольна) у беларускай мове на месцы другога вінавальнага рана пачаў замацоўвацца вінавальны прэдыкатыўны з прыназоўнікам *за*. Першы выпадак яго ўжывання адзначаецца ў Смаленскай грамаце 1229 г., а ў «XV—XVII стст. гэты вінавальны ўжо быў даволі пашыранай з'явай у беларускіх помніках розных жанраў, а значыць, і ў жывой мове» [1]. У рускай мове аналагічную функцыю прыняў на сябе вінавальны з прыназоўнікам *в*.

У перакладах Скарыны эвалюцыя гэтых форм таксама знайшла адлюстраванне. Як і ў іншых помніках беларускай пісьменнасці XV—XVI стст., старая форма другога вінавальнага без прыназоўніка яшчэ адзначаецца ў Скарыны, але ўжо рэдка і пераважна пры дзеясловах называння: *И тои поставилъ град вельми крепкий, и назвал и Егвафанисъ* (КЮ, 3); *А с того можемъ поразумети, иже оукрачена есть сиѧ книга ꙋ евреи называють бо еѧ Мъкгилѧ* (КЕ, 2); *Рьци мудрости сестра моѧ есь, и разумность назови подруга моѧ* (ПС, 13 б).

У пераважнай большасці выпадкаў на месцы другога вінавальнага адзначаюцца: а) творны прэдыкатыўны: *Достойность его тыми словы знаменует понеже нарицает его пророкомь* (КІ, 1 б); *И постави его кнѧземъ надъ всеми властьми Вавилонскими, И старейшиною и ꙋчителем надо всеми Мудръци Халдѣйскими* (ДП, 9б); *И ꙋчини ю Царицею вместо влстхи* (КЕ, 6 б); *Грѣшници же рукама и словы со хватаниемъ добывали суть собѣ еѧ и мнѧщи ю быти приѧтелемъ збежалисѧ сꙋть к ней* (ПБ, 3 б); *Ты г͠сди поставилъ мѧ еси Царемь над людми твоими* (ПБ, 1); *Жена.. перворожденного сына ее именемъ брата своего назоветь* (ДЗ, 47 б); *Они же называли суть богомъ дело рукъ человеческыхъ* (ПБ, 19 б); б) вінаваль-

---

[1] Нарысы па гісторыі беларускай мовы. Мінск, 1957, стар. 317.

ны з прыназоўнікам *за*: *И понѧл ю собѣ за жену* (КЕ, 5); *И позвала есть Есферъ Атаха скопца, его же былъ ей далъ Царь за служебника* (КЕ, 9); *И той же день поставили собѣ за празник напотом* (КЕ, 16); *мы безумный животъ их имели есмо за дуровство* (ПБ, 7 б); *И принѧли суть І8деи тые дни за празьники* (КЕ ,16 б); *согледахъ того абыхъ 8зѧлъ ю собѣ за невесту* (ПБ, 12); *возлюбилъ есми мудрость и мыслилъ есми за светло имети ю* і інш.

Можна было б дапусціць, што шырокая ўжывальнасць у скарынінскіх перакладах форм творнага прэдыкатыўнага і вінавальнага з прыназоўнікам *за* на месцы другога вінавальнага абумоўлена не толькі становішчам гэтых з'яў у тагачаснай беларускай мове, але і падтрымкай збоку, скажам, уплывам тэкстаў царкоўнаславянскай і чэшскай біблій, у якіх новыя формы на месцы другога вінавальнага таксама ўжо мелі месца.

Аднак пераканаўчых довадаў у карысць такога меркавання нельга прывесці. Некаторыя факты, наадварот, пацвярджаюць толькі тое, што значная пашыранасць новых форм на месцы другога вінавальнага — у пэўнай меры вынік творчасці Скарыны як перакладчыка і носьбіта беларускай мовы. Так, у перакладах Скарыны форму творнага прэдыкатыўнага можна сустрэць там, дзе ў тэкстах чэшскай і царкоўнаславянскай біблій ён адсутнічае. Параўн. у Скарыны: *Царь же мыслѧше поставити его справцею надо всим Царством своим* (ДП, 21); у чэшскай бібліі 1506 г.: *kral myslil gey vstawiti nade wsijm kralowstwijm;* у «Астрожскай бібліі» 1581 г.: *И Црь постави И въ всемъ црствѣ своемъ.*

Аналагічную з'яву можна назіраць і з ужываннем вінавальнага з прыназоўнікам *за*. Супастаўленне трох выпадкаў выкарыстання гэтай формы ў скарынінскай кнізе «Прамудрасць боская» з адпаведнымі месцамі «Астрожскай бібліі», якая выдавалася па Генадзьеўскаму спісу бібліі 1499 г., паказала, што ў апошняй два месцы чытаюцца інакш, чым у Скарыны, гэта значыць без вінавальнага з прыназоўнікам.

Сведчаннем таго, што для Скарыны як беларуса прэдыкатыўная форма «*за*+вінавальны» была блізкай і заканамернай, можа служыць таксама выкарыстанне ім прыназоўніка *за* пры вінавальным склоне назоўніка *места*, які кіраваў родным прэдыкатыўным: *взѧлъ ю Мардохей за дочьки место к собе* (КЕ, 5 б); у іншых помніках XV—XVII стст. назоўнік *места*

ў такой функцыі выступаў пераважна без прыназоўніка *за*: *Царствовал мѣсто него* (Юдзейск. гіст., 63 б); *мѣли цѣглу мѣсто каменя* (Біблія пачатку XVII ст., 29); *слезы мои были мнѣ мѣсто хлеба* (Псалт. XVII ст., 17 б) і інш. Замацаванне складанага прыназоўніка *замест* (*заместа*) у якасці літаратурнай нормы — справа пазнейшага часу. Усё гэта азначае, што Скарына добра адчуваў тэндэнцыю развіцця беларускай мовы і смела выкарыстоўваў новыя формы побач з традыцыйнымі.

Такім чынам, па характару ўжывання другога вінавальнага і яго заменнікаў пераклады Скарыны не адрозніваюцца ад тагачаснай жывой народнай гаворкі беларусаў.

Заслугоўвае ўвагі таксама пытанне аб сінтаксічнай сувязі лічэбнікаў *два, тры, чатыры* з назоўнікам. Вядома, што ў беларускай мове пры лічэбніку *два* на месцы форм парнага ліку пад уплывам форм пры лічэбніках *тры*, *чатыры* рана пачаў ужывацца назоўны склон множнага ліку. У XV—XVI стст. форма множнага ліку пры лічэбніку *два* пераважала ўжо над формай парнага ліку, хоць гэта апошняя паралельна бытавала яшчэ працяглы час, а ў паўднёва-заходніх беларускіх гаворках як рэліктавая з'ява захоўваецца і зараз.

У перакладах Скарыны назіраецца аналагічная з'ява: пры лічэбніку *два*, як і пры *тры*, *чатыры*, назоўнік адзначаецца пераважна ў форме назоўнага склону множнага ліку: *два волы* (КЛ, 19); *два постельники* (КЕ, 7, 11 б); *два сосуды* (ДЗ,96); *два ретезки* (КВ, 64); *четыре звери* (ДП, 22 б); *грады четыре* (ІН, 40); *четыре круги* (КВ, 47); *три мужи* (ДЦ, 113 б) і інш.

Форма парнага ліку пры лічэбніку *два* сустракаецца вельмі рэдка і носіць характар адхілення ад нормы: *два козѣлца* (ПП, 6); *два мужа* (Ап., 2 б).

У «Апостале» Скарыны форма назоўнага склону множнага ліку засведчана таксама і пры лічэбніку *пайтара: полтора годы*[1]. Гэты моўны факт мае сваё тлумачэнне. Ён цікавы тым, што сведчыць аб інтэнсіўнасці і сістэмным характары працэсу замены формы парнага ліку пры лічэбніку *два* формай назоўнага склону множнага ліку.

Спалучэнне «*пайтара*+назоўнік» магло быць захоплена названым працэсам таму, што для гэтага стварыліся адпавед-

---

[1] Гл.: Я. Воўк-Левановіч. Мова выданняў Францішка Скарыны. 400-лецце беларускага друку. Мінск, 1926, стар. 279.

ныя ўмовы. Лічэбнік *пайтара* ўтварыўся са спалучэння *полъ втора* (*второго*) шляхам злучэння абодвух кампанентаў у адно слова (пасля падзення рэдуцыраванага і пераходу *л* у *ў* з далейшым зліццём *ў* з *в*): *полвтора — пайвтара — пайтара.*

У старажытнай мове пры словазлучэнні *полъ втора* залежны назоўнік стаяў у форме роднага склону адзіночнага ліку (*полъ втора ведра*), прычым патрабаваў гэтага склону першы член словазлучэння (*полъ*), другі ж (*втора*) выступаў як дапасаванае да залежнага назоўніка слова і ўплыву на форму назоўніка не аказваў. Аднак, ператварыўшыся ў *пайтара*, спалучэнне *полъ втора* (у выніку моцных змяненняў гукавога аблічча і зацямнення значэння асобных членаў зрашчэння) дээтымалагізавалася. Слова *пайтара* пачало абазначаць не палавіну другога (прадмета), а адзін цэлы і палавіну другога, ці, інакш кажучы, два няпоўныя прадметы. Такім чынам, аказаўшыся ў адным структурным і блізкім па семантыцы радзе са спалучэннем «*два*+назоўнік», колькасна-іменнае спалучэнне з лічэбнікам *пайтара* перажыло агульныя з ім змены.

Праўда, форма множнага ліку назоўніка пры лічэбніку *пайтара* да гэтага часу не замацавалася ў якасці нормы, аднак яна не зрабілася для беларускай мовы чужой, не перастала быць для яе жывой з'явай, наадварот, можна сказаць, што гэта форма перажывае цяпер сваё другое адраджэнне. Яна сустракаецца ў народных гаворках: *Конь выпіў пайтара вядры* (в. Чаплічы Слуцкага р-на); *Не быў дома пайтара гады* (в. Скварцы Дзяржынскага р-на); *Не хваціла пайтара рублі* (Брагін). З гаворак гэта форма пранікла ў літаратурную мову: *Госці галёкалі ў пайтара дзесяткі горлаў так, што ў Сымона звінела ў вушах* (Э. Самуйлёнак. Будучыня); *Праз месяцы пайтара сюды прыйшоў гаманлівы натоўп з рыдлёўкамі і лапатамі* (І. Мележ. Дом пад сонцам); *За якіх тыдні пайтара магло наскочыць жніво* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *Матэрыяльнае становішча сям'і палепшылася, і мае пайтара рублі ў месяц ужо не патрэбны былі для агульнага сямейнага дабрабыту* (З. Бядуля. Аўтабіяграфія); *Гады праз пайтара, на адным з падобных літаратурных сходаў, мне ўжо давялося чытаць самому* (М. Лужанін. Вачыма часу) і інш.

Абумоўленая ўнутраным ладам беларускай мовы, яе імкненнем да сістэмнасці, форма назоўнага склону множнага ліку пры лічэбніку *пайтара* мае ўсе падставы для таго, каб быць замацаванай у якасці нормы.

Падобныя рэдкія ўжыванні сведчаць, што Скарына, у якой бы вялікай залежнасці ад тэксту арыгіналаў ён ні быў, тонка адчуваў усе працэсы, якія перажывала родная мова, і свядома ці несвядома, у большай ці меншай ступені адлюстраваў іх у сваіх перакладах.

У XII—XIV стст. для агульнаўсходнеславянскай мовы была звычайнай такая канструкцыя сказа, у якой пры наяўнасці адмоўя *ні* ў складзе займеннікаў або прыслоўяў часціца *не* пры дзеяслове-выказніку не апускалася. Сказы ж з апушчанай пры выказніку часціцай *не* як структурная адзінка больш старажытнага ладу мовы сустракаюцца ў пісьмовых помніках вельмі рэдка. Можна меркаваць, што ў мове беларускай народнасці змены адбываліся толькі ў напрамку далейшага выцяснення канструкцый з апушчанай пры выказніку часціцай. У «Нарысах па гісторыі беларускай мовы» яны ўжо не ўпамінаюцца.

У Скарыны знаходзім абедзве разнавіднасці гэтай канструкцыі: а) з адмоўем *не* пры выказніку: *Гледи жъ того, Абы ничего еже поведил еси не поминул* (КЕ, 12); *Никого Царь чтити не бѹдеть* (КЕ, 11 б); б) з апушчанай пры выказніку часціцай: *И ниедино место знайдесѧ имъ* (ДП, 9); *И не доткнулся их огнь и ни оскорби имъ и ниже что жалосного ѹчини* (ДП, 13).

Хоць адносна паходжання сказаў з адным адмоўем на месцы двух яшчэ і цяпер вядуцца спрэчкі (з'яўляюцца яны запазычаннем з грэчаскай або дыялектнай з'явай праславянскай мовы), у адным выпадку верагодней будзе дапусціць, што сказы з даным адмоўем у Скарыны — гэта вынік уплыву царкоўнаславянскай пісьменнасці, дзе ўжыванне гэтай канструкцыі з'ўлялася нормай. Такое дапушчэнне пацвярджаецца супадзеннем тэкстаў скарынінскай і царкоўнаславянскай біблій. Параўн. у Скарыны: *И никто же смеаше спротивитсѧ им понеже страхъ ихъ великий нападе на них* (КЕ, 15); у «Астрожскай бібліі»: *И въ тои же днь погибоша сѹпостати іоѹдеескъ ни единъ бо противѧсѧ им боѧсѧ ихъ.*

Звяртае на сябе ўвагу значна пашыраная ў скарынінскіх выданнях форма вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання, пры якіх залежны назоўнік або займеннік стаіць у вінавальным склоне з прыназоўнікам *над*: *то вчинить васъ г^с^дь богъ повышенейшими надо все народы иже суть на земли* (ДЗ, 51); *что есть богатшего надь мдр^с^ть* (ПБ, 12 б); *краснейшие*

*суть перси твое надъ вино* (ПП, 6 б); *Что ест* [illegible]*аснейщего надъ слнце* (IC, 28 б); *и тие с8ть м8дрейшие надо вси м8дреци земли* (ПС, 46) і інш.

Пытанне аб характары гэтай формы параўнання ў перакладах Скарыны (з'яўляецца яна запазычанай або выкарыстана перакладчыкам як спрадвечна беларуская) патрабуе яшчэ свайго вырашэння. У сучаснай жывой беларускай гаворцы яна ўжываецца рэдка і ўспрымаецца як астаткавая. Так, з 1027 абследаваных для «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» населеных пунктаў яна засведчана толькі ў 10 (гл. Атлас, карту № 225); прычым у каментарыі да гэтай карты зазначаецца: *«лепшы над усіх* — гавораць толькі старыя».

З другога боку, як адзначае акад. Я. Ф. Карскі, прыназоўнік *над* з вінавальным пры вышэйшай ступені быў звычайнай з'явай у старажытнабеларускай мове, дзе ён «захоўваўся з даўнейшых часоў, а магчыма, у некаторых выпадках развіўся і нанава не без уплыву польскай мовы» [1].

Супастаўленне тэкстаў скарынінскіх перакладаў з адпаведнымі месцамі першакрыніц не дае адказу на пытанне аб шляхах пранікнення гэтай канструкцыі ў мову Скарыны, бо ў адных выпадках яна выступае ў Скарыны як узятая без змен з тэксту арыгінала, у другіх — як уведзеная перакладчыкам самастойна.

Параўн. пачатак тлумачэнняў да зместу трэцяй главы «Апостала» ў Скарыны, у чэшскай і польскай бібліях (у царкоўнаславянскай такіх тлумачэнняў няма). У Скарыны: *Кажеть ап$^{с}$тлъ в чемь іоудеи были лепьше надъ поганы;* у чэшскай бібліі 1506 г.: *Apostal vkazuge w čzem žydee nad pohany byli gsu lepssij*; у польскай 1561 г.: *Żydowie dla zakona od Boga danego nie są nad pohany dostoyneyssy.*

Аднак у асноўным тэксце гэтай главы «Апостала» такой адпаведнасці ўжо не знаходзім: *Что жъ болей над иные имуть іо8деи. Или кои пожитокъ ест обрезаниѧ*; у чэшскай бібліі 1506 г.: *A czož tehda zyd ma wijecz než pohan*; у «Астрожскай бібліі»: *что оубо лишьшее іоудею польза обрѣзанію.* Або яшчэ ў Скарыны: *что сладшего надъ медь или что силнейшего надъ льва;* у чэшскай бібліі ў гэтым выпадку замест *надъ* — *nežli*, у царкоўнаславянскай — *паче.*

[1] Е. Ф. Карский. Белорусы. Язык белорусского народа, вып. 2—3. М., 1956, стар. 434.

Такім чынам, калі дапусціць, што прыназоўнік *над* пры вышэйшай ступені прыметніка ў помніках старажытнабеларускай пісьменнасці — запазычанне з польскай ці чэшскай мовы, то пранікненне яго ў жывую беларускую народную гаворку можа быць растлумачана працяглым уплывам перакладных, пераважна набажэнскіх кніг на мову тых людзей, якія гэтымі кнігамі карысталіся.

Аднак верагодней другое. Прыназоўнік *над* пры прыметніку вышэйшай ступені як з'ява агульнаславянская быў больш пашыраным, чым зараз, у жывой беларускай мове старажытнай пары. Таму Скарына свабодна ўводзіў яго ў свае тэксты нават там, дзе ў першакрыніцах яго не было.

Сярод іншых беларускіх асаблівасцей у сістэме словазлучэння можна назваць заўважанае яшчэ П. У. Уладзіміравым амаль паслядоўнае ўжыванне Скарынай прыналежных прыметнікаў там, дзе ў польскай, чэшскай і царкоўнаславянскай бібліях ужыт родны склон назоўніка. У Скарыны: *Высоту небесную широту земную*, 1506 г.: *wysokost nebe a ssyrokost semie*, 1561 г.: *wysokos'c' nieba a szerokos'c' sieme*, 1499 г.: *высоту нбсе широту земли*; *гласъ горличии*, 1506 г.: *hlas grdličzky*, 1561 г.: *glos Synogarlice*, 1499 г.: *глас горлицы; гласа насільнікова*, 1506 г.: *glasa nasylnika*, 1499 г.: *гласа собирающего дань; дверем полатным*, 1506 г.: *polaczy*, 1561 г.: *palaczu*, 1499 г.: *двери полаты; пъгавицины дщери*, 1506 г.: *pigewicze dczezy*, 1561 г.: *corce pigawki* і інш.

У сістэме сказа для разгляду возьмем толькі адну з'яву, якой ужо ў XVI ст. беларуская мова выразна адрознівалася ад царкоўнаславянскай і старажытнарускай, а іменна месца злучніка *бо* ў складаных прычынных канструкцыях.

Вядома, што стараславянскае эксплікатыўнае (сцвярджальна-растлумачальнае) *бо*, да якога ўзыходзіць і адпаведны сучасны беларускі прычынны злучнік, у структуры залежнага сказа стаяла ў постпазіцыі, дакладней кажучы, пасля першага слова, на другім месцы.

У рускай кніжнай мове ўжо ў XVI ст. *бо* страчваецца. Сцвярджальна-растлумачальнае *бо* адпадае, сутыкаючыся з іншымі прычыннымі злучнікамі: старым, але яшчэ шырокаўжывальным *понеже*, з новым складаным *потому что*, які ўжо к XV ст. склаўся ў мове прыказаў, і, нарэшце, з актывізаваўшымся *ибо*, роднасным з *бо* па саставу і блізкім па сінтаксічнай функцыі, які, аднак, больш адпавядаў кніжна-рытарыч-

наму і дзелавому стылям рускай нацыянальнай літаратурнай мовы, што пачала складвацца к гэтаму часу [1].

У беларускай (і ўкраінскай) мове развіццё злучніка *бо* пайшло ў зусім процілеглым напрамку. Старыя кніжныя злучнікі прычыны *понеже, зане(же), аче* і інш. — па меры аслаблення ўплыву старaславянскай пісьменнасці ў заходнім арэале былога ўсходнеславянскага адзінства — станавіліся ўсё больш і больш чужымі для жывой мовы і не маглі супрацьстаяць спрадвечна народнаму *бо*. Новыя ж утварэнні тыпу *таму што* яшчэ не склаліся. Гэта садзейнічала таму, што эксплікатыўнае *бо* ў сваім імкненні сінтаксічна акрэсліцца ў якасці злучніка перамясцілася з постпазіцыі ў прэпазіцыю і прыняло на сябе функцыю асноўнага сродку выражэння прычынных адносін. У той час як у гісторыі рускай мовы *бо* амаль невядома ў прэпазіцыйным становішчы (перамяшчэнне яго на першае месца ў парадку слоў прычыннага сказа наглядаецца толькі ў помніках, што адлюстроўваюць уплыў паўднёва-заходняй пісьменнасці [2]), ва ўсіх жанрах старой беларускай пісьменнасці прэпазіцыйнае *бо* адзначаецца ўжо з XIV—XV стст., а з XVI ст. становіцца адным з найбольш пашыраных прычынных злучнікаў: *А тожь о долзѣ: коли бы должникъ реклъ: «тое имѣнье, што ты дрьжишь, есть мне ближшее; бо тотъ, хто тобѣ продалъ, мнѣ былъ долженъ, первѣе нежели купилъ»* (АЗР, I, СПб, 1846, стар. 17, 1347 г.); *Уставляем, ижь предъ нашею обличностію, а любо передъ нашими паны, а любо перед нашим старостою, судья, судячи суды, не может быти каран за зло суда: бо не онъ сам судить, але пановѣ* (там жа, стар. 16); *тые искупни Круповичомъ повыдавали, бо они их извѣчные неотхожие* (АЮЗР, I, СПб, 1863, стар. 15, 1444 г.); *А про то ваша милость на нась не рачьте дивити, што есмо ваших купцов на тот часъ къ собе не пустили: бо то есть во всих землях таковъ обычай* (Грамата баяр і мяшчан полацкіх у Рыгу, 1475 г.).

У перакладах Скарыны гэта асаблівасць беларускага сінтаксісу не знайшла адлюстравання. Паслядоўна ва ўсіх ска-

---

[1] Гл.: Т. А. Шуб. К генезису и истории союза *ибо* в славянских языках. Ученые записки Ленинградского государственного педагогического института, т. XV, факультет языка и литературы, вып. 4. Л., 1956, стар. 127.

[2] Гл.: Е. Т. Черкасова. Служебное слово *бо* и его значение в древнерусском языке. Ученые записки Московского государственного педагогического института им. В. И. Ленина, т. VI, кафедра русского языка, вып. 2. М., 1948, стар. 93.

рынінскіх кнігах адзначаецца толькі *бо* постпазіцыйнае: *И сказить и влением пришестви ѧ своего. Его бо пришествие есть по действу сатонину* (ДП, 3 б. 4); *ȣказалъ красу ее всемъ людемъ и кнѧзем своим. Была бо есть красна вельми* (КЕ, 4); *по совету ихь чинѧше вси речи, они бо суть мели и знали права и обычае предковь своихь* (КЕ, 4) і інш.

Постпазіцыйнае ўжыванне прычыннага злучніка *бо* ў Скарыны абумоўлена, відаць, не толькі ўплывам старажытнарускай, у прыватнасці царкоўнаславянскай, кніжнай традыцыі, але і некаторымі іншымі прычынамі. Па-першае, ад пастаноўкі злучніка *бо* ў пачатку даданага сказа перакладчыка магло стрымліваць тое, што прэпазіцыйнае *бо*, якое было ў той час характэрна для дзелавой пісьменнасці і жывой беларускай гаворкі, мела размоўную афарбоўку і не адпавядала высокаму стылю набажэнскіх кніг. Па-другое, постпазіцыйнае *бо* ў гутарковай мове беларусаў той пары яшчэ канчаткова не адмёрла, было жывой з'явай і, значыць, не чужой для Скарыны. Рэшткі постпазіцыйнага *бо*, як вядома, захаваліся да цяперашняга часу ў паўднёва-заходніх беларускіх гаворках.

Такім чынам, адны з пералічаных асаблівасцей беларускага сінтаксісу ў перакладах Скарыны адлюстраваны шырока і поўна, другія адзначаюцца толькі спарадычна, трэція не выяўлены зусім.

Неаднародная мова Скарыны па ступені насычанасці беларускім элементам таксама і ў розных яго кнігах. У мове набажэнскіх кніг — «Апостале», «Псалтыры» і «Малой падарожнай кніжыцы»,— якія Скарына друкаваў, не парушаючы іх царкоўнаславянскай моўнай асновы, уласна беларускія сінтаксічныя асаблівасці адзначаюцца як рэдкія выключэнні. У біблейскіх жа кнігах, асабліва тых, што выдаваліся на аснове тэкстаў чэшскай біблії, наадварот, беларускія асаблівасці з'яўляюцца абавязковым структурным элементам скарынінскай мовы, і гэта набліжае яе да мовы помнікаў іншых жанраў тагачаснай беларускай пісьменнасці. Аднак і тут, у межах нават адной і той жа біблейскай кнігі, мова неаднастайная: побач з мясцінамі, у якіх беларускі элемент пераважае над царкоўнаславянскім, чэшскім, польскім, можна сустрэць цэлыя ўрыўкі тэксту, па мове блізкага да царкоўнаславянскага.

Усё гэта давала падставы даследчыкам ацэньваць мову скарынінскіх выданняў па-рознаму: называць яе то змешанай,

нявыпрацаванай, то ў аснове сваёй беларускай, то царкоўнаславянскай, то кніжнай, штучнай, на якой ніколі ніхто не размаўляў. Прыведзеных тут матэрыялаў недастаткова для таго, каб рабіць якія-небудзь катэгарычныя вывады. Яны паказваюць толькі, што мова скарынінскіх кніг, выдадзеных на аснове некалькіх першакрыніц, прытым не поўнага, а частковага іх перакладу,— гэта складаны сінтэз блізкароднасных моўных стыхій, які патрабуе далейшага вывучэння. Поўнае ўяўленне аб характары скарынінскай мовы можа даць толькі новае спецыяльнае даследаванне, у якім на шырокім фоне гісторыі ўсходнеславянскіх моў і іх сувязей з іншымі славянскімі мовамі будуць аднолькава глыбока вывучаны ўсе структурныя часткі скарынінскай мовы як сістэмы — лексіка, фанетыка, марфалогія і сінтаксіс.





Р. Р. КРУЧОК

# Аб медыка-біялагічнай дзейнасці і прыродазнаўчанавуковых поглядах Ф. Скарыны



зейнасць Францыска (Георгія) Скарыны як першадрукара беларускага народа, яго грамадскія і філасофскія погляды атрымалі даволі шырокае і рознабаковае асвятленне ў спецыяльных навуковых даследаваннях, навукова-публіцыстычнай і мастацкай літаратуры. Яго ж медыка-біялагічная дзейнасць і прыродазнаўчанавуковыя погляды і на сённяшні дзень яшчэ слаба вывучаны. З аднаго боку, гэта тлумачыцца беднасцю звестак аб яго дзейнасці як урача і натураліста, а з другога — недастаткова поўным аналізам тых нешматлікіх матэрыялаў з гэтай галіны, якія знойдзены радам даследчыкаў за апошнія два стагоддзі.

Неаднаразовыя імкненні пашырыць колькасць крыніц аб урачэбнай і прыродазнаўчанавуковай дзейнасці Скарыны пакуль не прывялі да станоўчых вынікаў.

У гэтым паведамленні аўтар спрабуе абагульніць і па магчымасці звесці ў адзінае цэлае раскіданыя, урыўкавыя звесткі першакрыніц аб медыка-біялагічнай дзейнасці і прыродазнаўчанавуковых поглядах Скарыны, выкарыстаць нешматлікія,

часам супрацьлеглыя каментарыі гэтых звестак асобнымі даследчыкамі, выказаць свой пункт погляду на асобныя пытанні.

Да цяперашняга часу недастаткова вывучана пытанне аб прычынах, якія прымусілі Скарыну вывучаць медыцыну, а пазней атрымаць вучонае званне доктара медыцыны.

Рад даследчыкаў (І. К. Шляпкін, С. А. Верхрацкі, М. А. Алексютовіч і інш.) каменціруюць або спасылаюцца на тры дакументы Падуанскага універсітэта, у якім Скарына ў 1512 г. атрымаў званне доктара медыцыны. Кожны з гэтых дакументаў мае вельмі важнае значэнне для высвятлення пытання аб атрыманні Скарынай медыцынскай падрыхтоўкі, аб яго пазіцыях у медыцыне, прыродазнаўчых навуках, філасофіі і г. д.

У першым з іх «Прысуджэнне вучонага звання ў медыцынскіх навуках божаю міласцю магістру Францыску русіну (сыну) нябожчыка пана Лукі» ад 5 лістапада 1512 г. гаворыцца аб пасяджэнні «свяшчэннейшай калегіі вядомых дактароў філасофскіх і медыцынскіх навук Падуі», на якім вырашалася пытанне аб допуску Скарыны да абароны вучонага звання ў медыцыне перад названай калегіяй.

Віцэ-прыёр калегіі «праслаўны доктар філасофіі і медыцыны» Фадзей Мусаці вельмі высока характарызуе «маладога чалавека, называемага панам Францыскам, (сына) нябожчыка пана Лукі Скарыны з Полацка, русіна» перад калегіяй вучоных: «Ёсць тут вельмі вучоны малады бедны доктар, з вельмі далёкай краіны» [1]. З выказвання Ф. Мусаці высвятляецца месца нараджэння, нацыянальная прыналежнасць, імя, імя па бацьку і прозвішча спаборніка на атрыманне ступені. Вельмі важны сэнс набываюць словы «вельмі вучоны малады бедны доктар». Яны гавораць аб тым, што Скарына прыехаў у Падую і паўстаў перад вучонай калегіяй медыцынскага факультэта не толькі маючы вышэйшую медыцынскую адукацыю, але і ўдастоены называцца вучоным доктарам. Гэта сведчыць аб яго добрай падрыхтоўцы ў медыцынскіх навуках.

Па-ранейшаму застаецца адкрытым пытанне аб месцы і часе атрымання Скарынай медыцынскай адукацыі. Амаль усе без выключэння даследчыкі сцвярджаюць, што ён, навучаючы-

---

[1] Тут і далей названыя дакументы цытуюцца па кн.: С. А. Верхратский. Доктор медицины Франциск-Георгий Скорина. Из истории медицины, т. I. Рига, 1957, стар. 33—43.

ся ў Кракаўскім універсітэце да 1506 г., атрымаў першую вучоную ступень бакалаўра філасофіі. Параўноўваючы гэтыя звесткі з прыведзенымі вышэй, большасць аўтараў лічаць, што Скарына пасля 1506 г. працягваў сваю адукацыю ў адным з еўрапейскіх універсітэтаў таго часу. На думку М. А. Алексютовіча, ён да 1512 г. не толькі «атрымлівае вышэйшую вучоную ступень доктара свабодных навук (*eximiarum artium, artium bonarum doctor*), аб якой ёсць звесткі ўжо ў дакументах Падуанскага універсітэта» [1], але з асаблівым стараннем вывучае медыцыну, батаніку і іншыя прыродазнаўчыя навукі.

Разам з тым яшчэ ў 1851 г. Вішнеўскі ў сваім даследаванні па гісторыі польскай літаратуры, якое выйшла ў Кракаве, сцвярджаў, што Скарына атрымаў ступень доктара медыцыны і свабодных навук у «Кракаўскай акадэміі». Гэту думку паўтарае ў 1888 г. С. Касьмінскі ў кнізе «Słownik lekarzów polskich» [2]. Савецкі гісторык медыцыны С. А. Верхрацкі лічыць, што першапачатковую адукацыю Скарына атрымаў у Кракаўскім універсітэце, сцвярджаючы, што тут «Скарына вывучаў філасофскія і медыцынскія навукі і праз два гады атрымаў званне бакалаўра, а яшчэ праз два гады — званне лекара (*licentiatus in medicinam*)» [3]. Праўда, усе гэтыя сцвярджэнні пакуль не дакуменціруюцца першакрыніцамі.

Калі ўзяць пад сумненне Кракаўскі універсітэт, то найбольш верагодна, што Скарына навучаўся ў Пражскім Карлаўскім універсітэце. У карысць гэтага меркавання гаворыць наступнае. Прага знаходзіцца на шляху паміж Кракавам і Падуяй, куды пазней накіраваўся Скарына для атрымання ступені доктара. Пражскі універсітэт — адзін са старэйшых у Цэнтральнай Еўропе (1347) — з'яўляўся буйным цэнтрам адукацыі і навуковай думкі, і, несумненна, ён мог прыцягнуць увагу Скарыны. Прага была цэнтрам заходнеславянскіх земляў, і Скарына мог разлічваць тут на спачуванне і падтрымку. Пры мясцовым універсітэце з даўніх часоў мелася бурса для выхадцаў з усходнеславянскіх земляў, якая магла стаць яму прыстанішчам і месцам матэрыяльнай падтрымкі. Акрамя

---

[1] М. А. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мінск, 1958, стар. 43.

[2] Гл. у кн.: П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык, стар. XV.

[3] С. А. Верхратский. Доктор медицины Франциск-Георгий Скорина, стар. 35.

таго, Прага была цесна звязана з гусіцкім рэфармацыйным, антыкаталіцкім і антыфеадальным рухам, водгукі якога былі моцнымі ў пачатку XVI ст. А гэта не магло не ўплываць на свабодалюбівую натуру Скарыны. Апошні факт асабліва сугучны таму, што стагоддзем пазней прыхільнік уніі, аўтар палемічнага твора «Antelenchus, to est odpis na Elenchus» (Вільна, 1622), архімандрыт Анастасій Сялява называў Скарыну «гусіцкім ерэтыком». Таксама і з'яўленне Скарыны ў Празе пасля Падуі, асталяванне друкарні і друкаванне кніг можа мець цесную сувязь з яго папярэднім прабываннем тут, магчымымі заняткамі ва універсітэце, знаёмства з першым перакладам і выданнем чэшскай біблії ў 1506 г., магчыма, з арганізатарам і гаспадаром першай чэшскай друкарні.

У карысць Прагі ў XIX ст. выказваўся Галавацкі. Гаворачы аб далейшай дзейнасці Скарыны, П. У. Уладзіміраў сцвярджае, што ў Прагу «яго прывяла і слава пражскіх тлумачальнікаў святога пісання, і распаўсюджанне і ўдасканаленне чэшскай біблії... калі не шукаць бліжэйшых адносін Скарыны да Пражскага універсітэта і да пражскіх друкарняў» [1].

Усё гэта разам узятае можа з'явіцца пераканальным сведчаннем таго, што Скарына навучаўся ў Пражскім універсітэце і атрымаў тут добрую медыцынскую падрыхтоўку.

Нельга таксама адмаўляць меркавання даследчыкаў, якія схільны лічыць, што Скарына атрымаў медыцынскую адукацыю ў адным з універсітэтаў Паўночнай Італіі.

Але як бы там ні было, у Падую — гэты выдатны цэнтр культуры эпохі Адраджэння — Скарына прыехаў з грунтоўнай медыцынскай, прыродазнаўчанавуковай і філасофскай падрыхтоўкай. Вось чаму «свяшчэннейшая калегія вядомых дактароў філасофскіх і медыцынскіх навук Падуі» 5 лістапада 1512 г. аднагалосна вырашыла дапусціць яго да бясплатнага экзамена «і ніхто не выказаўся супраць».

У другім дакуменце Падуанскага універсітэта ад 6 лістапада 1512 г. «Абарона (дысертацыі) у медыцынскіх навуках п. магістрам Францыскам русінам» паведамляецца, што Скарына ў прысутнасці гэтай жа калегіі ў царкве св. Урбана «на прапанаваныя яму пункты па медыцынскіх навуках адказваў на памяць і пярэчыў з такім выдатным веданнем і паўна-

[1] П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык, стар. 62.

тою, што было прызнана ўсімі прысутнымі дактарамі вышэйназванай калегіі годным дапусціць яго да экзаменаў па асобных дысцыплінах (*privatum in medicinis*)».

І, нарэшце, у трэцім дакуменце ад 9 лістапада 1512 г. «Спецыяльны (*privatum*) экзамен у медыцынскіх навуках п. магістра русіна» паведамляецца, што на гэты раз у епіскапскім палацы, «выбраным месцы, згодна са звычаем», у прысутнасці ўсёй калегіі і іншых вучоных Падуі і Вероны (усяго 24 чалавекі) «вучоны ў навуках доктар Францыск, (сын) нябожчыка пана з Полацка, русін быў асабіста экзаменаван. Адказваў ён дакладна на папярэдне дадзеныя яму пытанні. Пры гэтых строгіх іспытах ён трымаў сябе вельмі пахвальна, адказваў з вялікім веданнем і вельмі грунтоўна выказваўся супраць выстаўленых яму пярэчанняў — так што ўсе прысутныя дактары прызналі яго аднагалосна годным звання, і... ён быў аб'яўлен у прынятай форме доктарам медыцыны. Пасля гэтага выдатны доктар медыцыны і філасофіі пан магістр Варфаламей Барызон, праматор, ад свайго імя і імя вышэйназванай калегіі ўручыў яму дыплом медыцынскага факультэта».

Такая высокая ацэнка ў афіцыяльным дакуменце «свяшчэннай калегіі» медыцынскага факультэта аднаго з самых лепшых універсітэтаў таго часу з'яўляецца адначасова прызнаннем таленту і здольнасцей аднаго з прадстаўнікоў трэцяга саслоўя беларускага народа, яго ўсебаковай медыка-біялагічнай і філасофскай падрыхтоўкі. Цікава, што дыплом доктара медыцыны ў Падуанскім універсітэце, асабліва прышлым, выдавалі вельмі рэдка. «Для атрымання доктарскага дыплома дзякуючы прынятаму ў той час ва ўсіх вышэйшых школах салернскаму статуту неабходна было на працягу трохдзённых дыспутаў паказаць дэталёвае веданне не толькі «Канона» Авіцэны, але і прац Галена, Гіпакрата, Арыстоцеля, Плутарха і іншых класікаў у галіне медыцыны, філасофіі, астраноміі з шырокім цытаваннем аўтараў на мове арыгіналаў» [1].

Усім пералічаным патрабаванням адпавядалі падрыхтоўка і адказы Скарыны. Калі ўлічыць, што гэта адбывалася ва універсітэце, з якім звязаны навучанне і дзейнасць такіх выдатных вучоных таго часу, як Джыралама Фракастора (1478—1553), Мікалай Капернік (1477—1543), пазней Андрэй Везалій

---

[1] С. А. Верхратский. Доктор медицины Франциск-Георгий Скорина, стар. 37.

(1514—1564), Галілео Галілей (1564—1642), Вільям Гарвей (1578—1657) і іншых тытанаў навуковай думкі, то стане зразумелым узровень ведаў Скарыны. Вядома, ні талент, ні веды Скарыны не маглі з'явіцца безагаворачным мандатам для допуску яго к абароне дыплома без неабходнага грашовага ўзносу. Відаць, недастатковым для гэтага аказалася і тое, што Скарына пазней праслаўляў Падуанскі універсітэт ва ўсходніх землях Еўропы. Тут, верагодна, мелі месца і іншыя меркаванні, якія да нас пакуль што не дайшлі.

Аднак у цяперашні час нас больш цікавіць пытанне аб прычынах вывучэння Скарынай медыцынскіх і прыродазнаўчых навук, падрыхтоўкі да ўрачэбнай дзейнасці і атрымання вучонага звання доктара медыцыны. Гэта тым больш важна высветліць у сувязі з тым, што першапачатковае навучанне ў Кракаўскім універсітэце ён пачаў на факультэце свабодных мастацтваў і ўдастоен першай вучонай ступені бакалаўра філасофіі, а пасля атрымання ступені доктара медыцыны пачаў займацца і кнігадрукаваннем.

Калі ўважліва прагледзець прадмовы і пасляслоўі выдаваемых Скарынай кніг, прааналізаваць яго выказванні аб сабе тыпу «ў лекарскіх навуках вызваленых і ў лекарстве доктар», «вучоны муж», то стане зразумелым, што гаварыў ён так не для таго, каб атрымаць пасаду і палепшыць сваё матэрыяльнае становішча, а для больш высокай мэты.

М. А. Алексютовіч, даволі грунтоўна аналізуючы светапогляд Скарыны, прыйшоў да вываду, што ён па сваіх пераканаsuccнях з'яўляўся найбольш яркай асобай ранняга Адраджэння з уласцівымі такім дзеячам ідэямі гуманізму, жыццесцвярджальнага аптымізму, веры ў сілы чалавечага розуму, у прагрэс. «Гэта быў выдатны для свайго часу чалавек, які ўнёс вялікі ўклад у развіццё перадавой культуры беларускага народа» [1].

Для дзеячоў эпохі Адраджэння характэрна імкненне да пазнання прыроды і перш за ўсё прыроды чалавечага цела. «У шырокім коле разнастайных інтарэсаў і ведаў выдатных людзей эпохі Адраджэння медыцына займала пачэснае месца. Няма ніводнага буйнога дзеяча гэтай эпохі — ад Каперніка і Галілея да пісьменнікаў Петраркі і Бакачыо, якія б не займаліся медыцынай. Урачы ў сваю чаргу валодалі самымі разна-

[1] М. А. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд, стар. 100.

стайнымі ведамі, якія ў наступныя стагоддзі лічыліся вельмі далёкімі ад медыцыны»[1]. Натуральна, што гэтыя асаблівасці не маглі не ўплываць на выбар Скарынай урачэбнай прафесіі, а рознабаковая дзейнасць урачоў таго часу можа ў якойсьці ступені па аналогіі растлумачыць яго друкарскую дзейнасць пасля таго, як ён стаў доктарам медыцыны.

Аналагічную дзейнасць разгортваў яго сучаснік урач з Баляслава Мікалай Клаўдзіян, які выдаваў не толькі медыцынскія і перакладныя кнігі, але і рэлігійныя.

Зразумела, што гэтых аргументаў недастаткова для высвятлення прычын вывучэння Скарынай урачэбных навук. Відаць, рыхтуючыся да вялікай і рознабаковай дзейнасці на карысць паспалітага люду Беларусі, ён добра ўяўляў сабе найбольш надзённыя запатрабаванні простых людзей, якія цярпелі ад прыгонніцкай эксплуатацыі, голаду і хвароб. Магчыма, для распаўсюджання медыцынскіх ведаў сярод беларускага народа, для падрыхтоўкі да медыцынскай дзейнасці ўраджэнцаў Беларусі Скарына імкнуўся атрымаць медыцынскую адукацыю і вучоную ступень доктара медыцыны.

Іменна з гэтых пазіцый трэба разглядаць усю далейшую дзейнасць Скарыны ў галіне медыцыны. Аднак звычайна даследчыкі яго жыццядзейнасці або зусім не спыняюцца на гэтым пытанні, або закранаюць адзін-два факты з гэтай часткі яго біяграфіі і на гэтым заканчваюць аналіз медыцынскіх і прыродазнаўчанавуковых інтарэсаў Скарыны.

Ставячы, напрыклад, пытанне аб тым, ці займаўся медыцынскай практыкай Скарына, С. А. Верхрацкі сцвярджае, што няма падставы сумнявацца ў тым, што «асноўным заняткам Скарыны была медыцынская практыка, а пераклады, кнігадрукаванне былі для яго пабочнай справай». Мы не можам пагадзіцца з Верхрацкім наконт таго, што пераклады і кнігадрукаванне для Скарыны з'яўляліся пабочнай справай. Мяркуючы па ўсяму, ён у гэту справу ўкладваў усю сваю душу, увесь свой талент, паколькі ў гэтай дзейнасці бачыў крыніцу ўзняцця самасвядомасці свайго народа, прылучэнне яго да асветніцтва.

У той жа час ёсць дастаткова фактаў, якія пацвярджаюць думку аб пастаянных занятках Скарыны медыцынай. У час

---

[1] П. Е. Заблудовский. Позднее Средневековье. Медицина в период разложения феодализма и формирования буржуазного общества. История медицины под ред. Б. Д. Петрова, т. I. М., 1954, стар. 118.

знаходжання ў Вільні пасля 1520 г. Скарына займаў пасаду сакратара і хатняга ўрача віленскага епіскапа. У 1530 г. яго запрашае прускі герцаг Альбрэхт на пасаду прыдворнага ўрача ў сувязі з тым, што да яго дайшлі чуткі аб «незвычайных ведах» гэтага чалавека. У лісце да віленскага ваяводы Гаштольда і віленскага сената Альбрэхт у тым жа годзе пісаў: «Нядаўна прыехаў да нас вядомы і вельмі вопытны муж Францыск Скарына з Полацка, доктар навук і медыцыны і шчаслівы прафесар, аддадзены Вашаму сіяцельству з заслугоўваючага павагі горада Вільні». І далей у гэтым лісце гаворыцца, што Скарына дасягнуў такіх глыбокіх ведаў у галіне медыцыны дзякуючы свайму вялікаму вопыту, сваім шматгадовым занятакам і вандраванням па чужых краінах. Альбрэхт называе Скарыну вядомым і вельмі вопытным мужам, «шчаслівым прафесарам». Вядома, што прафесарам у той час называлі асоб, якія навучалі іншых якім-небудзь навукам.

Акрамя таго, як вядома, Скарына ў выдаваемых ім кнігах называе сябе так: «у лекарскіх навуках доктар», «у навуках вызваленых і ў лекарстве доктар», «у навуках і ў лекарстве настаўнік». На падставе гэтага можна сцвярджаць, што Скарына на якімсьці з этапаў свайго жыцця займаўся выкладчыцкай дзейнасцю. Гэтай справай ён мог займацца не раней, чым пасля атрымання вучонага звання доктара медыцыны ў Падуі.

Калі пацвердзіцца думка, што ў прамежак часу паміж Кракавам і Падуяй Скарына навучаўся ў Празе, то можна меркаваць, што, атрымаўшы званне доктара, ён вярнуўся ў Прагу і займаўся тут нейкі час выкладчыцкай і кнігавыдавецкай дзейнасцю. Можна таксама дапусціць, што выкладаў ён «у навуках і лекарстве» ў іншым месцы. Невядома таксама, ці імкнуўся Скарына арганізаваць навучанне медыцыне ў сябе на радзіме.

Кароткатэрміновае знаходжанне Скарыны ў Кенігсбергу даследчыкі тлумачаць па-рознаму. Прадстаўляе цікавасць думка К. Ферстрэйтара аб тым, што Скарына быў запрошан Альбрэхтам у сувязі з узнікшай у той час у Кенігсбергу якойсьці эпідэміяй. М. А. Алексютовіч дапускае, што Скарына пасля звароту ў Вільню меў намер аднавіць тут сваю друкарскую справу і адначасова разгортваў урачэбную дзейнасць. Апошняе ён у пэўнай ступені ажыццявіў, працуючы ўрачом пры двары віленскага епіскапа.

Абагульняючы ўсебаковае і даволі глыбокае вывучэнне дзейнасці Скарыны, Алексютовіч сцвярджае, што яго заняткі медыцынай і батанікай мелі трывалы характар. Медыцынскай практыкай ён займаўся яшчэ да атрымання ступені доктара медыцыны — да 1512 г. Нешматлікія дакументы пацвярджаюць яго медыцынскую дзейнасць у далейшым.

Відаць, займаючыся ў Празе і Вільні медыцынскай практыкай, Скарына быў цесна звязан з мясцовымі ўрачамі. Далейшае вывучэнне гэтага пытання, магчыма, раскрые гэты бок яго жыцця. Разам з тым нельга абмінуць цікавы факт, на які звяртае ўвагу А. П. Грыцкевіч: «У перыяд знаходжання Скарыны ў Вільні туды прыязджаў вядомы Парацэльс. Можна меркаваць, што сустракаліся гэтыя два відныя дзеячы еўрапейскай культуры XVI ст.» [1]

Не выключана магчымасць, што Скарына прымаў удзел у дыспутах з Парацэльсам — гэтым няўрымслівым бунтаўшчыком супраць устанавіўшыхся догмаў і сярэдневяковай схаластыкі.

Аб апошнім этапе жыцця і дзейнасці Скарыны пасля пераезду ў Прагу і да канца жыцця захаваўся ўсяго толькі адзін дакумент, на які ў 1885 г. звярнуў увагу Ф. Р. Дворскі і які апублікаваў і звязаў з імем Скарыны А. В. Флароўскі ў 1936 г. Гэта грамата чэшскага караля Фердзінанда I, выдадзеная сыну Ф. Скарыны Сімяону Русу 29 студзеня 1552 г. на права наследавання маёмасці бацькі. У гэтым дакуменце аб'яўляецца, што «доктар Францішак Рус Скорын з Полацка, садоўнік наш, які тут жыў, з'яўляецца іншаземцам у каралеўстве чэшскім, памёр і пасля сябе сына Сімяона Руса і нейкую маёмасць, лісты, пазыковыя абавязацельствы і іншыя юрыдычныя абавязацельствы пакінуў» [2].

На падставе гэтага дакумента А. Флароўскі зрабіў вывад, што ў Празе Скарына «працаваў як батанік-садавод, як спецыяліст адной з тых галін прыродазнаўства, што арганічна ўваходзіла ў лік навук, якія вывучаліся на медыцынскім факультэце Падуанскага універсітэта» [3]. Тут гутарка ідзе аб працы Скарыны ў каралеўскім батанічным садзе. У Празе батанічны сад быў заснаван у 1534 г., а на год раней такі ж сад

---

[1] «Советское здравоохранение», 1961, № 4, стар. 79.

[2] Цыт. па кн.: М. А. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд, стар. 55.

[3] Там жа, стар. 57.

быў закладзен пры Падуанскім універсітэце. Мэтай гэтых садоў было развядзенне і культываванне раслін «для навучання маладых людзей лекарству і для высвятлення прыроды траў усялякіх».

Больш за ўсё верагодна, што і каралеўскі батанічны сад у Празе з'яўляўся састаўной часткай медыцынскага факультэта Пражскага універсітэта для практычнай падрыхтоўкі ўрачоў па лякарствазнаўству і прыродазнаўству. У сувязі з гэтым Скарына мог працаваць тут у якасці «высокакваліфікаванага вучонага садавода», а магчыма, выкладчыкам батанікі і лякарствазнаўства, паколькі ён меў глыбокія веды ў галіне медыцыны і прыродазнаўства.

Скарына не толькі сам займаўся батанікай і медыцынай, але і сына свайго Сімяона накіраваў па таму ж шляху. Сімяон працягваў справу бацькі ў той галіне, якой Скарына прысвяціў апошнія гады свайго жыцця. «Захаваліся ўказанні, што Сімяон служыў садоўнікам у Індржыкаве Градцы і ў той жа час займаўся медыцынскай практыкай» [1].

Прыродазнаўчанавуковыя і медыка-біялагічныя погляды Скарыны можна прасачыць і па найбольш дакладных дакументальных матэрыялах, якія належаць яму самому,— гэта ўводзіны, пасляслоўі, ілюстрацыі і заўвагі да тэкстаў выдаваемых ім кніг.

Для выданняў Скарыны характэрна наяўнасць значнай колькасці ілюстрацый і застаўак. Застаўкі прадстаўлены двух памераў: вялікія з чалавечымі фігурамі (напрыклад, на адной два амуры, на другой — дзве паясныя фігуры мужчыны і жанчыны, на трэцяй двое мужчын стаяць, абапёршыся на шчыты) і малыя з белымі малюнкамі на чорным фоне з кветак, лісцяў, пладоў і г. д. Вялікія літары аздоблены малюнкамі з ізабражэннем пладоў, кветак, лісцяў, рыб, птушак, звяроў і людзей.

У ілюстрацыях да кніг асноўнай фігурай з'яўляецца чалавек, які можа знаходзіцца ў дынамічным стане, у руху, заняты працоўнымі працэсамі на фоне жывой прыроды. У супрацьлегласць іканапіснаму стылю царкоўнага жывапісу тут вельмі натуральна паказана рэчаіснасць, сцвярджаецца аптымізм жыцця.

---

[1] М. А. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд, стар. 58.

Усе чалавечыя фігуры выпісаны на высокамастацкім узроўні, у іх удала захаваны анатамічныя прапорцыі асобных частак цела. Формы цела сведчаць аб здароўі іх уладальнікаў, заўсёды гатовых да дзеяння, працоўных працэсаў. На ілюстрацыях многа святла, незалежна ад таго, дзе адбываецца дзеянне — у памяшканні ці на фоне прыроды. Усе яны сведчаць аб тым, што Скарына змог удала скарыстаць лепшыя дасягненні жывапіснай культуры эпохі Адраджэння з яе найбольш выдатнымі рысамі.

Прыналежнасць амаль усіх ілюстрацый Скарыне як заказчыку відавочная, паколькі на іх стаіць герб Скарыны, на якім намаляваны сонца, месяц з ізабражэннем чалавечых галоў. У некаторых ілюстрацыях, напрыклад у чацвёртай кнізе «Царстваў» «Наўходнасор цар Вавілонскі здабывае Ерусаліма», побач з гербам Скарыны намалявана змяя ў кароне. Вядома, што з даўняй пары змяя ўвасабляла сабою мудрасць і ўрачэбную справу.

Сярод гравюр, прыведзеных у кнігах Скарыны, асобае месца займаюць партрэты яго самога. Змяшчэнне свайго партрэта ў кнізе царкоўнага зместу з'яўлялася святатацтвам і выклікам служкам царквы з яго боку. Яшчэ большым парушэннем кананізаваных устанаўленняў было зняцце з гравюры традыцыйных прадметаў багаслоўскага зместу.

Пры больш дэталёвым азнаямленні з гравюрай можна бачыць цудоўна выкананы партрэт «вучонага мужа» ў позе мысліцеля, які працуе над перакладам кнігі або піша сваю працу. Скарына ў традыцыйнай шапачцы і мантыі. Ён сядзіць на ўзвышэнні, на пярэднім плане якога прымацавана трыма палоскамі беларускага арнаменту палатно ў выглядзе прыспушчанага вымпела з ізабражэннем герба Скарыны.

Інтэр'ер пакоя, у якім знаходзіцца Скарына, запоўнен дэталямі, якія характарызуюць яго як урача, вучонага, кнігавыдаўца. На паліцах справа размешчаны вялізныя фаліянты рукапісаў у тоўстых скураных пераплётах. У ніжнім правым вугле змешчана запаленая свечка, якая сімвалізуе самаадданую працу ўрача. Побач з ёй працавітая збіральніца мудрасці — пчала.

У левым ніжнім вугле дзве батанізіркі як атрыбут збіральніка і хавальніка лекавых раслін. Вышэй на падстаўцы апорныя прадметы для кнігі, у тым ліку посуд з гліны — посуд ведаў. На заднім плане за Скарынай ля пярэдніх сценак унут-

раных гранёных калон — скульптурныя фігуры мядзведзяў з вагамі мудрасці. Збоку калоны злева роспіс з ізабражэннем раслін з пладамі, кветкамі і лісцямі. Задняя сцяна пакоя арнаментавана лісцямі дубу. Усе гэтыя прадметы сімвалізуюць інтарэсы Скарыны ў галіне прыродазнаўства, медыцыны і лякарствазнаўства.

У правым верхнім вугле традыцыйныя пясочны гадзіннік і нябесны глобус сусвету (sphera mundi) — кананізаваныя атрыбуты вучонага таго часу, якімі карысталіся ўрачы для астранамічных назіранняў і складання гараскопаў. За глобусам няма сцяны, а замест яе відаць залітая сонечным святлом прастора сусвету. Гэта святло шырокім струменем льецца ў памяшканне на задумены твар Скарыны, як бы сімвалізуючы ўзвышаныя ідэалы вялікага гуманіста-асветніка.

У прадмовах і пасляслоўях Скарына неаднаразова закранае медыцынскія, батанічныя і заалагічныя тэмы як у шырокім медыцынскім і прыродазнаўчанавуковым плане, так і па асобных прыватных пытаннях.

Скарына актыўна прапагандаваў медыцынскую дзейнасць. Згодна з тагачаснай традыцыяй, калі нават у выдатных дзеячоў Адраджэння вялікія жыццесцвярджальныя навуковыя ідэі і рашучыя практычныя дзеянні лёгка спалучаліся з неверагоднымі і фантастычнымі ўяўленнямі, а магчыма, і баючыся за лёс выдаваемых кніг, ён медыцынскую дзейнасць прыраўноўваў да самай вышэйшай па грамадскаму значэнню дзейнасці ў той час — да набожнасці.

У прадмове да кнігі «Суддзяў» ён гаворыць: «Внегда каемся грехов своих, то посылает г(оспо)дь бог пастырей и докторов, они же научают нас противится бесовским покусом». Зыходзячы з гэтага, Скарына ў радзе месц, напрыклад у прадмове да кнігі «Юдзіф», называе адначасова «лякарствы душэўныя і цялесныя». Праўда, не заўсёды пад лякарствам душэўным хаваецца рэлігійны змест.

У прадмове да кнігі «Іова» ён адзначае, што кніга «есть зерцало жития нашего, лекарство душевное, потеха всем смутным на болеи тым они же суть в бедах и в немощах положены». Тут жа ён узнімае пытанне і аб тым, што праз распаўсюджанне кнігі ўсе, як і ён, «Францішк Скарынін сын з Полацка, у лекарскіх навуках доктар», могуць даведацца «сее иже ест наивысшая мудрость размышление смерти и познание самого себе».

Як вядома, урачы эпохі Адраджэння ў барацьбе за практычныя веды і супраць мярцвячай схаластыкі выставілі тэзіс старажытных людзей аб пазнанні перш за ўсё самога сябе. Значыць, Скарына быў адзін з першых, хто выступіў у тую эпоху за практычныя веды ў медыцыне, за вывучэнне жывога чалавека і прычыны яго смерці.

Асаблівую цікавасць прадстаўляе тая частка прадмовы да кнігі «Іова», дзе Скарына раскрывае сацыяльныя праблемы здароўя грамадства, спасылаючыся пры гэтым на аўтарытэт бога. Гаворачы аб вялікіх тайнах, якія «адчыніў нам бог святым Іовам», ён сцвярджае: «На первеи чего ради г(оспо)дь бог на добрих и на праведных допущаеть беды и немощи, а злым и несправедливым даеть щастье и здравие». У гэтых радках адначасова гучыць папрок богу за несправядлівыя адносіны да «добрых» і «праведных», якімі аўтар лічыць простых паспалітых людзей. Бедныя людзі церпяць галечу і голад, у той час як багатыя, якіх ён называе злымі і несправядлівымі, жывуць шчасліва, у дастатку.

У каментарыях да выдаваемых кніг Скарына шырока выкарыстоўвае свае прыродазнаўчанавуковыя веды, прыводзіць вялікую колькасць назваў прадстаўнікоў жывёльнага і расліннага свету. Ён неаднаразова і ў кнізе «Іова», і ў «Прытчах Саламонавых» і інш. вядзе «размову аб прыродзе дрэў і былін... звяроў, птушак, гадаў і рыб».

Свае прыродазнаўчанавуковыя веды вучоны выкарыстоўвае і для таго, каб падкрэсліць патрыятычную канцэпцыю сваіх каментарыяў. У прадмове да кнігі «Юдзіф» ён, напрыклад, гаворыць: «Понеже с прирождения звери ходящие в пустыни знают ямы своя. Птицы летающие по воздуху ведають гнезда своя. Рыбы плывающие по морю и в реках чують виры своя. Пчелы и тым подобныя боронять ульев своих. Також и люди и где зродилися и ускормены суть по бозе к тому месту великую ласку имають».

М. А. Алексютовіч сцвярджае, што Скарына па сваіх філасофскіх поглядах з'яўляўся ідэалістам, знаходзіўся пад уплывам тэалогіі і рэлігіі. Гэта знаходзіць пацвярджэнне і ў некаторых прыродазнаўчанавуковых поглядах. Напрыклад, у прадмове да кнігі «Ісход» ён вядзе размову аб зачацці без семені сына божага, прытрымліваючыся вядомай біблейскай легенды аб тым, што зачацце гэта «пройде утробу прочистое девици яко солнце скло, непорушаючи замков панества ея».

Аднак падобныя выказванні ў разглядаемых тэкстах не з'яўляюцца пераважаючымі і ў значнай ступені супярэчаць пераважна матэрыялістычным тлумачэнням Скарынай з'яў прыроды. Таму іх трэба разглядаць, з аднаго боку, як даніну часу, з другога боку, як праяўленне дваістасці і непрымірымых супярэчнасцей, якія былі характэрны для мысліцеляў эпохі Адраджэння, па словах А. І. Герцэна, «парываўшых ланцугі, якія апутвалі навуку».

На думку У. М. Перцава, Скарына выдаваў царкоўныя кнігі не столькі для ўмацавання ў веры і адкрыцця рэлігійных ісцін, колькі для распаўсюджання ведаў па гісторыі, геаграфіі, прыродазнаўству, астраноміі і іншых навуках. А ў заўвагах да іх «ніколі не праяўляў ніякай цікавасці да пытанняў веравызнання» [1]. Нягледзячы на ўсе тыя слабыя бакі тлумачэння асобных з'яў прыроды, урачэбнай справы і іншых пытанняў, з нашага сучаснага пункту погляду, гэтыя кнігі гістарычна прадстаўлялі сабою вельмі прагрэсіўную з'яву для свайго часу.

Скарына, выкарыстоўваючы кнігадрукарскую справу, з'явіўся першым вядомым нам прапагандыстам медыцынскай справы і прыродазнаўчанавуковых ведаў, друкаром на Беларусі. У гэтым сэнсе прадстаўляюць цікавасць словы з прадмовы да «Прытчаў Саламонавых», якія аднолькава маюць значэнне як для растлумачэння значэння кніжнага асветніцтва наогул, так і прыродазнаўчанавуковых ведаў у прыватнасці: «Пожиточны же суть сие книгы чести всякому человеку мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому. Наболеи тым, они же хотят иметь добрые обычае, и познати мудрость и науку. Ест бо в сих притчах сокрита мудрость, якобы моць в драгом камени, и ако злато в земли, и ядро у в ореху».

Такім чынам, Ф. Скарына ва ўмовах абмежаванага выбару кніг для друкавання лічыў, што кнігі рэлігійнага зместу павінны з'явіцца каштоўнай крыніцай звестак па гісторыі, геаграфіі, прыродазнаўству, астраноміі, механіцы і іншых галінах ведаў, бо ў іх «Соломонова и Арестотелева божественная и житейская мудрость ... краткыми словы замкнена ест». Імкнучыся як мага больш зрабіць «для посполитого (люду) доброго к размножению мудрости, умения, о потребности, ра-

---

[1] В. Н. Перцев. Общественная деятельность и мировоззрение Георгия Скорины, стар. 30.

зуму и науки», ён сваімі прадмовамі і тлумачэннямі да тэкстаў садзейнічаў выяўленню «сокрытой мудрости» ў выдаваемых кнігах, у якіх мудрасць іншы раз была захавана так глыбока, «иако злато в земли». Гэтыя кнігі мелі мэту адукацыі і выхавання паспалітага люду на шырокай прыродазнаўчанавуковай і гістарычнай аснове пад аховай біблейскіх легенд, размоў аб цудах і «знаменіях». На гэтым фоне асабліва ярка выяўляецца жаданне Ф. Скарыны прапагандаваць медыкабіялагічныя і прыродазнаўчанавуковыя веды.

Трэба дадаць, што гэту прапаганду ён імкнуўся зрабіць па магчымасці больш нагляднай, даходлівай, для чаго выкарыстаў вялікую колькасць ілюстрацый і даў каментарыі да іх, «абы братия моя Русь люди посполитые, чтучи могли лепеи разумети».

Такія ўвогуле некаторыя штрыхі медыка-біялагічнай дзейнасці і прыродазнаўчанавуковых поглядаў аднаго з першых дактароў медыцыны Беларусі, вялікага мысліцеля-гуманіста XVI ст. Францыска (Георгія) Скарыны.

Даследчыкі жыццядзейнасці Ф. Скарыны яшчэ не раз будуць звяртацца да гэтых аспектаў яго творчасці і змогуць адшукаць шмат прынцыпова важных і значных бакоў медыцынскіх і прыродазнаўчанавуковых поглядаў.





А. В. ФЛАРОЎСКІ

# Scoriniana

> «... також и мы, братья, не можеме ли в великих послужити посполитому люду русского языка, сие малые книжки працы нашей приносиме им».
>
> *Скорина*

## 1




жніўні 1517 г. у Празе чэшскай дзесьці на Старым Мясце быў надрукаван «Псалтыр», у тэксце якога былі шырока выкарыстаны элементы беларускай гутарковай мовы. І потым на працягу двух гадоў з таго ж друкарскага станка сышлі яшчэ 22 біблейскія кнігі старога завету. Выдаў гэту серыю кніг беларус з Полацка Францыск Скарына, доктар «свабодных навук» і медыцыны. Матэрыяльна яму дапамагаў нейкі віленскі жыхар Багдан Онкаў.

Гэта пражскае выданне біблейскіх кніг «рускай мовай» было і ёсць з'ява выключная ў гісторыі культуры і натуральна ўжо не адно стагоддзе прыцягвае да сябе ўвагу.

У той час з усіх славянскіх народаў толькі чэхі маглі ганарыцца наяўнасцю ў іх ужо не аднаго выдання біблii на чэшскай мове. Палякі яшчэ не пачыналі друкаваць свяшчэннае пісанне па-польску, хоць у рукапісах ужо існавалі такія тэксты. Праўда, для славян праваслаўных з'яўленне біблii на мове, набліжанай да народнай, не было з'явай нечаканай, таму што і традыцыйнае чытанне царкоўнаславянскае ўзыходзі-

ла некалі да жывой мовы аднаго са славянскіх народаў. Аднак у агульнаеўрапейскім культурным жыцці з'яўленне «рускай» біблії было справай незвычайнай. Незвычайнай і таму, што адбылося гэта ў Празе чэшскай.

Справа кнігадрукавання на ўсходнеславянскай зямлі таксама звязана з іменем Францыска Скарыны, які ў Вільні ў 1525 г. выдаў «Апостал» і «Малую падарожную кніжыцу» з тэкстам «Псалтыра» і інш.

Дзейнасць Скарыны ў Празе і Вільні не магла не выклікаць да сябе жывога інтарэсу і ўвагі. Сваімі выданнямі — ва ўсякім выпадку пражскімі — ён ішоў насустрач не так уласна царкоўным патрабаванням, як больш шырокім інтарэсам простага чытаючага славяніна, што зусім не адпавядае старой царкоўнай традыцыі. Кнігі свае Скарына прызначаў для «паспалітых» людзей, гэта значыць для шырокай кніжнай грамадскасці, а не толькі для царкоўнікаў і духавенства. І, магчыма, гэтыя асаблівасці пражскіх выданняў 1517—1519 гг былі штуршком да першых спроб вывучэння прац Скарыны, першым жа крытычным іх разборам.

У колах усходнеславянскай грамадскасці, у Беларусі і на Украіне ў першую чаргу, кнігі Скарыны знайшлі не толькі ўважлівых чытачоў і прыхільнікаў, але і крытыкаў і ганьбавальнікаў. І гэта з прычыны таго, што ў пражскіх выданнях некаторыя з чытачоў знаходзілі элементы неправавернасці або нават нейкай «ерасі». Усё гэта было звязана з тым, што ў сярэдзіне XVI ст. у польска-літоўскіх землях ужо яўна выявілася наступленне заходнееўрапейскага пратэстантызму, лютэранства і розных яго варыянтаў, у прыватнасці і ў выглядзе позняга гусіцтва і яго адгалінаванняў.

Было б занадта паспешліва рабіць вывад аб адмоўных адносінах да пражскай справы Скарыны блізкіх да часу жыцця вучонага пакаленняў кнігалюбаў і царкоўнікаў у Беларусі, ва ўсходнеславянскіх частках Польшчы і Літвы на падставе адзінкавых падобных водгукаў, якія дайшлі да нас. Але ахоўнік праваслаўнай царкоўнаславянскай культурнай і пісьмовай традыцыі маскоўскі эмігрант князь А. Курбскі адмоўна ставіўся да «Бібліі» Скарыны, лічачы, што яна перакладзена з «препорченных книг жидовских», а ў самім тэксце ён бачыў «согласие во всем» з «Бібліяй» Лютэра [1].

---

[1] Письма Курбского. СПб, 1913.

Курбскі, які змагаўся за чысціню стараславянскай традыцыі ў царкоўна-культурнай галіне, ужо ў другой палавіне XVI ст. бачыў у кнігах Скарыны элементы пратэстантызму і «жыдоўства», і гэта можна тлумачыць тым, што ён звязаў тут тэксты Скарыны з «Вульгатай», якая бярэ пачатак не ад «Сямідзесятніка», а ад яўрэйскай (Назарэцкай) версіі старога завету.

Яшчэ больш жорстка асуджаў «Біблію» Скарыны уніят Анастасій Сялява, які ў сваёй кнізе «Antelenchus» (Вільня, 1622) абвяшчаў, што «быў Скарына ерэтыком-гусітам», ён, быццам, для праваслаўных «кнігі па-руску друкаваў у Празе», а рускія ўдзячна прымалі гэтыя кнігі і высока ацэньвалі іх, таму што ён жа «зваўся русінам з Полацка»[1].

Крытычныя заўвагі уніята перш за ўсё надзвычай каштоўныя для нас тым, што сведчаць аб поспеху пражскіх кніг Скарыны ў «рускім», праваслаўным асяроддзі, дзе асабліва цанілі гэтыя кнігі як рускія, як кнігі земляка і сабрата. Цікавая крытыка Сялявы яшчэ і тым, што уніят угледзеў у кнігах Скарыны падабенства да пазнейшых выданняў пратэстанцкага характару, іх магчымую сувязь з тым, што і як рабілі яўныя праваднікі пратэстанцкага духу (арыянства) у польска-літоўскім асяроддзі Сымон Будны, Лаўрэнцій Крышкоўскі і інш.

Гэтыя сведчанні Курбскага і Сялявы ясна гавораць аб тым, што рэпутацыя пражскіх выданняў Скарыны ў канцы XVI— пачатку XVII ст. вызначалася ў пэўнай меры адносінамі артадаксальных праваслаўных і верных адэптаў каталіцтва і уніі, якія бачылі ў працах Скарыны тыя элементы, што выклікалі ў іх такую непрыязнасць да кніжнай дзейнасці польска-літоўскага пратэстантызму (у шырокім сэнсе гэтага паняцця). У справе Скарыны гэтыя крытыкі знаходзілі і з праваслаўнага, і з каталіцкага пункту погляду элементы неправавер'я, адны таму, што гэта былі кнігі не праваслаўна-царкоўнаславянскай моўнай традыцыі, другія таму, што яны не паходзілі непасрэдна ад лацінскай традыцыі «Вульгаты».

Аднак падкрэслім, што ўжо сам Сялява сведчыць аб значным поспеху кніг Скарыны ў «рускім» асяроддзі іменна з прычыны іх «рускасці», і тут, безумоўна, неправы буйны знаўца

---

[1] АЮЗР, т. VIII, ч. I. Киев, 1908, стар. 617.

царкоўнаславянскай традыцыі І. Яўсееў[1], які, іменна абапіраючыся на выказванні Сялявы, сцвярджаў, што няма сведчанняў аб тым, што хто-небудзь з сучаснікаў Скарыны або з блізкага да яго пакалення выказваўся за яго праваслаўе. Нас у даным выпадку цікавіць не так гэта пытанне аб «прававерпасці» Скарыны з праваслаўнага пункту погляду, як пытанне аб разуменні і ацэнцы значэння яго пражскага вопыту ў тыя часы. І тут можна абапірацца на некаторыя цалкам станоўчыя факты, якія можна было б супрацьпаставіць адмоўным водгукам Курбскага або Сялявы, што настроены, натуральна, вельмі палемічна ў абставінах культурна-рэлігійных хваляванняў у польска-літоўскіх землях, у час абвастрэння зацятай барацьбы паміж каталіцтвам, праваслаўем і пратэстантызмам.

Напрыклад, у 1618 г. пры апрацоўцы маскоўскага выдання «Псалтыра» ў Маскве поп Мікола выкарыстаў рад паправак тэксту з выдання Скарыны, а ў паўночнарускіх царкоўных бібліятэках ужо ў XVI ст. меліся друкаваныя або рукапісныя тэксты Скарыны, прычым, у прыватнасці, у адным спісу поўнай «Генадзьеўскай царкоўнаславянскай бібліі» сярэдзіны XVI ст. (да 1570 г.) быў пераклад амаль усіх пражскіх прадмоў Скарыны да кніг старога завету, хоць з радам цікавых змяненняў[2].

З гэтых фактаў мы маем права зрабіць заключэнне, што кнігі Скарыны, нягледзячы на своеасаблівасць сваёй моўнай і тэкстуальнай апрацоўкі, у асноўным не сустракалі непрыязных адносін маскоўскіх кніжнікаў і царкоўнікаў, у XVI—XVII стст. станоўча імі ацэньваліся і лічыліся карыснымі дапаможнікамі пры вывучэнні і рэдагаванні біблейскіх тэкстаў. І нездарма ў вядомую працу 80-х гадоў XVII ст. «Спіс кніг, хто іх склаў» было ўнесена і імя Скарыны[3]. А аўтар «Паморскіх адказаў» (1723) Андрэй Дзянісаў звярнуўся да кніг Скарыны

---

[1] И. Е. Евсеев. Очерки по истории славянского перевода библии. Черты бытовой истории славянской библии конца XV до XVIII в. «Христианское чтение», 1912, снежань.

[2] Прыклады гэтыя прыведзены ў маёй кнізе «Чэшская біблія». Кацпржак і зараз паўтарае, што кнігі Скарыны не мелі распаўсюджання ў Маскве («История письменности и книги». М., 1955). Гэта вельмі старая даведка аб Скарыне, па даных Уладзімірава.

[3] А. Флоровский. Чешская библия в истории русской культуры и письменности. «Sborník filologický České Akademie Věd», XII. Praha, 1940—1946, стар. 153—259.

як да аўтарытэтных крыніц, калі высвятляў спрэчнае пытанне аб імені «Ісус» (спасылка на «Ісуса, сына Сірахава». Прага, 1517)[1].

Прыведзеныя даныя дастаткова пераканальна гавораць аб тым, што выдавецкая дзейнасць Скарыны стала аб'ектам сур'ёзнай увагі і сучаснікаў, і блізкіх да Скарыны пакаленняў кніжнікаў і царкоўнікаў. Гэта была перш за ўсё ўвага да вялікага пачынання. Сучаснікі і бліжэйшыя пакаленні яшчэ не спрабавалі разглядаць кнігі Скарыны, улічваючы гістарычныя абставіны, але ўсё ж ставілі перад сабой пытанне аб акалічнасцях іх стварэння. І толькі ў канцы XVIII ст. да гэтых кніг звярнуліся вучоныя кніжнікі, разглядаючы іх з навукова-крытычнага і гісторыка-культурнага пункту погляду. Аднак і прыведзеныя вышэй даведкі трэба ўлічваць пры вывучэнні дзейнасці Скарыны.

## 2

У 1925 г. святкавалася чатырохсотгоддзе з часу беларускага кнігадрукавання. У сувязі з гэтым вывучэнне жыцця і дзейнасці выдатнага беларускага асветніка ўступіла ў новую фазу, з'явілася значная колькасць навуковых і папулярных выданняў і публікацый, у якіх падводзіліся вынікі ўсяго таго, што было зроблена ў справе вывучэння Скарыны, і намячаліся перспектывы далейшых даследаванняў. Надзвычай каштоўнай была праца вядомага гісторыка Беларусі У. І. Пічэты. Яго насычаны гісторыка-крытычным матэрыялам агляд «Scoriniana»[2] з'яўляецца надзейнай асновай у вывучэнні Скарыны наогул, паколькі тут чытач знойдзе ўсе праблемы, звязаныя з іменем вялікага беларускага асветніка і гуманіста, а таксама звесткі аб шляхах паступовага накаплення матэрыялаў аб ім. Праўда, у аглядзе У. І. Пічэты ёсць некаторыя пропускі, аднак у цэлым гэта карысны даведнік па скарынінскай праблематыцы, якая вывучалася на працягу больш чым 150 год (з часу першага даследавання Скарыны 1774 г. аж да 1925 г.). У гэты даведнік, безумоўна, не трапілі матэрыялы юбілейнага зборніка 1926 г., таму з іх трэба пачаць

---

[1] А. Флоровский. Чешская библия в истории русской культуры и письменности.

[2] 400-леццe беларускага друку. Мінск, 1926, стар. 234—327.

наша даследаванне, якое падводзіць вынік работы аб Скарыне за гэты перыяд [1].

У юбілейным зборніку «400-лецце беларускага друку» матэрыял аб Францыску Скарыне падаецца ў шырокім плане, які характарызуе культурныя ўмовы ўзнікнення і развіцця скарынінскай выдавецкай дзейнасці. Тут змешчаны матэрыялы вядомага гісторыка А. Н. Ясінскага, у якіх даецца агульная характарыстыка культурнага развіцця Чэхіі ў пачатку XVI ст., і выкладзеныя Д. Н. Ягоравым падрабязныя звесткі аб Падуанскім універсітэце ў XV—XVI стст., дзе атрымаў сваю медыцынскую адукацыю першадрукар, і агульны нарыс Пічэты, што характарызуе становішча роднай для Скарыны Полацкай зямлі ў XVI ст. Пяру Пічэты належаць і агульныя нарысы пра беларускае Адраджэнне XVI ст. і развіццё кнігадрукавання на Беларусі ў XVI—XVII стст. У гэтым зборніку змешчаны таксама артыкулы М. Піятуховіча, Я. Воўка-Левановіча і М. Шчакаціхіна. Яны даследуюць біяграфію і дзейнасць Скарыны. У артыкуле Піятуховіча даецца агульны нарыс аб дзейнасці Скарыны з улікам перш за ўсё асноўных прац Уладзімірава, матэрыялаў Мілавідава і інш. Я. Воўк-Левановіч робіць грунтоўнае даследаванне мовы скарынінскіх выданняў і прыходзіць да вывадаў аб важнай ролі царкоўнаславянскай моўнай традыцыі пры рэдагаванні Скарынай біблейскіх тэкстаў. Шчакаціхін прысвяціў сваю працу даследаванню ілюстрацый у кнігах Скарыны. Ён імкнецца выявіць агульныя сувязі скарынінскіх ілюстрацый з аналагічнымі еўрапейскімі мастацкімі ўзорамі таго часу. У прыватнасці, даследчык вылучае з агульнай масы пражскіх гравюр невялікую групу, якую схільны адносіць па стылістычных і тэхнічных асаблівасцях да чэшскай мастацкай традыцыі. Але разам з гэтым Шчакаціхін не выявіў чэшскіх узораў, якія і па сюжэтах і па выкананню можна было б зблізіць з графічнымі ўзорамі Скарыны. Трэба адзначыць, што ў заходнееўрапейскай практыцы тады панавала агульная нюрнбергская ілюстрацыйная сістэма, з якой непасрэдна была звязана і чэшская традыцыя. Акрамя тых аўтараў, што рыхтавалі юбілейны зборнік, над вывучэннем дзейнасці Скарыны працавалі некаторыя іншыя беларускія даследчыкі. Так, у Празе чэшскай у 1925—1926 гг. набыў ступень доктара філасофіі ў Карлавым універ-

---

[1] Агляд замежнай літаратуры аб Скарыне даведзен да 1962 г.

сітэце за даследаванне аб Скарыне беларускі студэнт Ігнат Дварчанін.

З яго працы ў друку быў апублікаван невялікі ўрывак аб даце нараджэння Скарыны[1]. Дысертацыя Дварчаніна («*František Skorina jako kulturni pracovnik a humanista na běloruské pudě*»), якая атрымала высокую ацэнку прафесараў У. Францава і Я. Махала, мае пэўны навуковы інтарэс.

З'яўленне юбілейных прац аб Скарыне выклікала рад рэцэнзій, што заслугоўваюць увагі. Акрамя артыкула М. Вайцяхоўскай, аб якім гутарка будзе весціся ніжэй, адзначым артыкул Г. Лаўмянскага, у якім па сутнасці пераглядаюцца асобныя назіранні П. У. Уладзімірава. Цікава, што Лаўмянскі ў сваёй працы дае Скарыне не зусім станоўчую характарыстыку, што з'яўляецца, безумоўна, адлюстраваннем вядомай польскай тэндэнцыі. Лаўмянскі лічыць Скарыну яўным католікам і прадстаўніком старой схаластычнай школы. Ён сцвярджае, што высокая ацэнка дзейнасці Скарыны як прадстаўніка эпохі Адраджэння на беларускай глебе з'яўляецца рускай легендай або выдумкай. На думку аўтара, Скарына быў толькі настойлівым дзялком і ў сваёй выдавецкай дзейнасці кіраваўся выключна інтарэсамі заробку, а не якімі-небудзь сур'ёзнымі ідэалагічнымі намерамі. Польскі аўтар лічыць, што Скарына імкнуўся зарабіць шляхам задавальнення кніжных патрэб сваіх рускіх братоў. Падкрэсліванне самім Скарынай жадання служыць «паспалітым людзям» Русі, каб развіць у іх зацікаўленасць да кніжнага чытання, крытык схільны тлумачыць як рэкламны прыём і разам з тым як шырму, каб пазбегнуць абвінавачанняў (накшталт Фіоля — кракаўскага кнігавыдаўца) з боку каталіцкіх інстанцый. Само ажыўленне мовы «Біблії» шляхам унясення ў яе жывой «рускай» гаворкі Лаўмянскі тлумачыць адсутнасцю ў Скарыны поўнага тэксту гэтай царкоўнаславянскай кнігі і неабходнасцю дапоўніць адсутныя біблейскія кнігі шляхам перакладу іх па чэшскай бібліі і г. д.

Гэтыя свае вывады Г. Лаўмянскі робіць на падставе кнігі Уладзімірава і асобных рэцэнзій (Сабалеўскага і інш.). Лаўмянскі, безумоўна, правы, калі выказвае думку аб тым, што тэксты Скарыны вывучаліся з пункту гледжання магчы-

---

[1] І. Дварчанін. Аб годзе нараджэння Францыска Скарыны. «Родныя гоні», кн. 1. Вільня, 1927, стар. 20—22.

мых сувязей з польскай традыцыяй, тады яшчэ рукапіснай. Заўважым, што гэтыя меркаванні і цяпер яшчэ застаюцца ў сіле і чакаюць свайго канчатковага вырашэння. Аднак агульная ацэнка Лаўмянскім дзейнасці Скарыны з'яўляецца, безумоўна, прадузятай і неаб'ектыўнай.

Усе названыя працы 20-х гадоў па сутнасці не ўнеслі нічога новага ў вывучэнне праблем скарыназнаўства. У сваёй аснове яны паўтаралі матэрыялы, сабраныя і апрацаваныя яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя Уладзіміравым. Сюды толькі дабаўлены новыя звесткі аб сувязях Скарыны з прускім герцагам Альбрэхтам, якія былі адшуканы Мілавідавым у Кенігсбергу.

## 3

Між тым у 20-я гады ў розных архівах — у Познані, у Празе былі выяўлены некаторыя новыя даныя для біяграфіі Скарыны. У другім томе мінскага выдання «Беларускага архіва» былі змешчаны дакументы, якія датычыліся судовай спрэчкі 1535 г. аб нерухомай маёмасці ў Полацку, што належала, відаць, брату доктара Францыска Скарыны Івану Скарыне, які быў даволі заможным гандляром [1]. А ў гарадскім архіве ў Познані і наогул у Польшчы М. Вайцяхоўская знайшла ў гарадскіх кнігах важны матэрыял аб маёмасных адносінах гэтых братоў [2]. Аказваецца, Іван Скарына, які гандляваў скурамі ў Познані сумесна з познанскім гуртаўшчыком, відаць, немцам Клаусам Хаберлантам, памёр у 1529 г., прычым у яго складзе ў доме Я. Корба застаўся вялікі запас скур на значную суму. На гэту маёмасць прэтэндавалі розныя людзі, у тым ліку і доктар Францыск. Частку маёмасці хацеў атрымаць малодшы сын Івана юнак Раман. Францыск на імя сваёй жонкі Маргарыты хацеў атрымаць частку маёмасці на суму ў 234 злотых і на самай справе атрымаў у лік гэтых прэтэнзій 23 500 дробных скур для жонкі і 2500 скурак за адзін пастаў ліёнскага сукна.

З перапіскі братоў можна зрабіць вывад, што Іван быў у даўгу ў Францыска, а гэта значыць Францыск нейкім чынам

---

[1] Беларускі архіў, т. II. Мінск, 1928, стар. 263—264, № 373. (Раней было апублікавана ў кнізе Уладзімірава).

[2] M. Wojciechowska. Z dziejów książki w Poznaniu w XVI wieku. Poznań, 1927, стар. 66—69.

прымаў удзел у гандлёвых аперацыях брата. У гэтых познанскіх актах ёсць, аднак, і больш цікавыя звесткі. Аказваецца, што смерць Івана прывяла доктара Францыска ў сцены познанскай турмы. Справа ў тым, што крэдыторы Івана, варшаўскія яўрэі, заявілі, што Францыск з'яўляецца галоўным праваспадчыннікам Івана і таму нясе адказнасць за яго даўгі, між тым ён быццам ухіліўся ад выплаты і паехаў з Вільні, дзе ён жыў. У 1532 г. быў выдадзены мандат на арышт Францыска, і ён быў сапраўды арыштаваны і апынуўся ў познанскай турме, аднак ужо 24 мая быў адданы загад аб яго вызваленні. Сам доктар Скарына растлумачваў, што ён не хаваўся, а ад'язджаў з горада па справах віленскага епіскапа, таму што быў пры ім у якасці сакратара і адначасова выконваў абавязкі хатняга ўрача.

Дакументы аб вызваленні Скарыны з-пад арышту былі ўжо даўно апублікаваны па актах кароннай метрыкі ў Варшаве, але У. Пічэта чамусьці не называў у сваім аглядзе гэта каштоўнае выданне М. Круповіча [1], хаця аб гэтых дакументах гаворыцца і ў вядомай кніжцы Т. Вяржбоўскага [2], які спасылаецца на Круповіча. Зрэшты гэтыя акты зноў выдадзены ў «Acta Tomiciana», а ў каментарыях да іх У. Поцех гаворыць аб гэтай познанскай справе, карыстаючыся працай Вайцяхоўскай.

Матэрыялы, знойдзеныя ў познанскім гарадскім архіве М. Вайцяхоўскай, выявілі новыя падрабязнасці, новыя бакі жыцця і дзейнасці Скарыны. З аднаго боку, яны далі звесткі аб сямейных адносінах доктара Францыска і яго маёмасных інтарэсах і сувязях у свеце беларускіх і польскіх купцоў і гандляроў, з другога — указвалі на тое, што ён пры ўсім тым у канцы 20-х гадоў XVI ст. выступаў як урач і адукаваны чалавек у ролі сакратара віленскага епіскапа, гэта значыць выкарыстоўваў сваю адукацыю і культуру для грамадскай працы. Зусім натуральна, што гэтыя сведчанні познанскіх актаў былі ацэнены як «рэвеляцыйныя звесткі аб Ф. Скарыне», па гэтых

---

[1] М. Крупович. Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединенных с нею владений (от 1387 до 1710 г.), т. 1. Вильно, 1858, стар. 35—37.

[2] Th. Wierżbowski. Matricularum Regii Poloniae Summaria, excussis codicieus, qui in Chartophylacio Maximo Varsaviensis asservantur, IV/2. Varsaviae, MCMXII, 431, N 16615 i 16622.

звестках можна разлічваць на новыя матэрыялы аб жыцці і дзейнасці Скарыны ў розных месцах і, напрыклад, у Празе [1].

Пакуль што не ўдакладнена, аб якім іменна епіскапе ў Вільні ў даным выпадку ідзе размова. Аб каталіцкім ці праваслаўным? Адказ на гэта пытанне вельмі важны, таму што ён дапаможа растлумачыць, у якім іменна віленскім асяроддзі знаходзіўся Скарына ў канцы 20-х гадоў XVI ст. пасля таго, як ён, відаць, з 1525 г. зусім не займаўся выдавецкай справай. На жаль, ніхто ў Вільні да гэтай пары не праводзіў належных пошукаў у архівах царкоўных устаноў горада.

Новыя, яшчэ больш важныя перспектывы для вывучэння дзейнасці Скарыны адкрыліся ў канцы 30-х гадоў нашага стагоддзя, калі аўтар гэтых радкоў знайшоў два цікавыя дакументы, якія асвятляюць жыццё і дзейнасць Скарыны з зусім новых бакоў.

У прамежку паміж 1926 і 1938 гг. у літаратуры з'яўляліся больш або менш выпадковыя і малазначныя нататкі аб Скарыне. Аб ім гаварылі ў новых курсах па гісторыі літаратуры, у разнастайных слоўніках і энцыклапедыях. Больш або менш грунтоўным з'яўляецца зводны артыкул Е. Прастова аб пачатку рускага кнігадрукавання, апублікаваны ў 1931 г. у Чыкага [2]. У 1928 г. кенігсбергскі архівіст і гісторык К. Форстрэйтэр у сваёй кнізе звярнуў увагу на адносіны Скарыны з прускім герцагам Альбрэхтам, выкарыстаўшы апублікаваныя А. Мілавідавым у 1918 г. чатыры цікавыя акты 1530 г.[3] Форстрэйтэр звярнуў увагу на тое, што ў адным дакуменце Мілавідаў зрабіў памылку (прапусціў et): доктар-яўрэй і друкар — не адна асоба, а дзве.

---

[1] Id. Рэвеляцыйныя весткі аб Францішку Скарыне. «Гадавік Беларускага навуковага таварыства ў Вільні», кн. I. Вільня, 1933. Параўн. водгукі на публікацыю М. Вайцяхоўскай (A. Brückner. Fr. Ckorina. Zeitschrift für Slawische Philologie, IV. Berlin, 1927; Е. Ф. Карский. К вопросу о деятельности д-ра Скорины. «Известия по русскому языку и словесности», 1928, 1).

[2] E. V. Prostov. Origins of Russian Printing. The Library Quarterly, I. Chicago, 1931, стар. 258—277.

[3] K. Forstreuter. Preussen und Russland in Mittelalter. Königsberg — Berlin, 1938, стар. 222; У навейшай біяграфіі герцага Альбрэхта аб Скарыне не сказана нічога ў сувязі са зносінамі герцага з літоўскімі і польскімі евангелікамі (W. Hubatsch. Albrecht von Brandenburg—Ausbach. Köln—Berlin, 1960). Прыведзенае ў маёй кнізе «Чэшская біблія» ўказанне Хвалевіка аб пісьмах да Альбрэхта адносіцца да пісем Фаустына Соцына, а не Скарыны.

Гэтыя кенігсбергскія даныя ўпамінае, дарэчы, у сваім аглядзе ўкраінскіх дакументаў і гісторык Д. Алянчын [1].

Нельга пакінуць непрыкмечаным меркаванне Кантака [2] (у кнізе па гісторыі бернардынскіх манахаў у Польшчы) аб тым, што Скарына ў юнацкія гады знаходзіўся пад уплывам бернардынцаў у Полацку. Аднак указанне гэта ніякіх дакументальных асноў не мае і застаецца толькі меркаваннем, што дапамагае сканструяваць версію аб акалічнасцях, якія маглі спрыяць Скарыне ў яго падарожжы для навучання ў Кракаў. Адзначым яшчэ, што ў 1930 г. вядомы нямецкі гісторык польскай царквы К. Фёлькер назваў выданні Скарыны «прысвечанымі Канстанціну Астрарогу, які садзейнічаў перакладу» [3]. Ён меў на ўвазе, відаць, славутага князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага, які быў у 1511—1522 г. каштэлянам віленскім. Гэта быў буйны апякун рускай праваслаўнай царквы і праваслаўнай культуры ў Польшчы і Літве і мог пастаянна садзейнічаць вялікаму культурнаму пачынанню Скарыны. Аднак Фёлькер не дае ніякіх пацвярджэнняў сваёй здагадкі, і яна павісае ў паветры. У матэрыялах аб Скарыне імя князя Астрожскага наогул нідзе няма. Магчыма, праўда, пакуль што!

## 4

Аўтар гэтых радкоў звярнуўся да вывучэння жыцця Скарыны ў 20—30-я гады нашага стагоддзя ў сувязі з падрыхтоўкай агульнага абследавання гісторыі руска-чэшскіх адносін у старажытны час. Гэта прымусіла аўтара пазнаёміцца з усёй літаратурай аб Скарыне і дазволіла выявіць рад новых абставін, якія датычацца адносін Скарыны да Чэхіі і да чэшскага культурнага асяроддзя. Я не меў на ўвазе вывучыць поўнасцю культурную спадчыну Скарыны, ды гэта і не было магчыма з-за адсутнасці ў Празе выданняў Скарыны — за выключэннем аднаго толькі няпоўнага экземпляра кнігі «Ісус, сын Сірахаў». Калісьці на мяжы XVIII—XIX стст. Іосіфу Даброўскаму былі даступны некаторыя іншыя пражскія вы-

[1] Д. Олянчин. Пам'ятки із минулого українського духово-культурного життя в Кенігсберзі. Науковий збірник проф. А. Огієнкові. Варшава, 1937, стар. 102.

[2] K. Kantak. Bernardyny Polscy, 1433—1533, I. Lwów, 1933, стар. 179.

[3] K. Völker. Kirchengeschichte Polens. Berlin—Leipzig, 1930, стар. 107.

данні Скарыны, але ў наш час нельга было ўжо знайсці іх сляды. Факт дзіўны, але, аднак, з ім трэба лічыцца: у Празе няма прамых слядоў дзейнасці Скарыны-друкара. Экземпляр «Ісуса, сына Сірахава» з'явіўся ў Празе ўжо ў XIX ст., калі гэту кнігу падараваў Нацыянальнаму музею ў Празе вядомы даследчык П. Бяссонаў (1857).

Першым маім выступленнем у друку па даследаваннях аб Скарыне быў невялікі нарыс аб ім як аб першым рускім урачу ў Празе [1]. Нарыс гэты не прэтэндаваў на навізну, але ўжо тут, праўда, без спасылак і без цытат, я адзначыў два этапы сувязей Скарыны з Прагай — 1517—1519 і 1539 і наступныя гады і агаварыў яго дзейнасць у Празе ў ролі батаніка-садавода. Разам з тым у гэтым артыкуле ўказвалася і на тое, што, магчыма, Скарына паспрабаваў пасля 1525 г. наладзіць якія-небудзь, хутчэй за ўсё фінансавыя сувязі з Масквой і накіраваць туды свае выданні, распаўсюджанне якіх у Маскве некаторыя аўтары дарэмна не прызнавалі. Усе гэтыя сцвярджэнні і меркаванні асноўваліся на двух «знойдзеных» мною актах, якія, безумоўна, адкрывалі новыя перспектывы ў галіне скарыназнаўства.

Слова «знойдзеныя» я стаўлю ў двукоссе, таму што гаворка ідзе пра дакументы, якія даўно выдадзены, але дрэнна прачытаны або не заўважаны ўсімі чытачамі гэтых старых выданняў.

Адзін з гэтых дакументаў, правільнае прачытанне якога давала новыя магчымасці для вывучэння жыцця і дзейнасці Скарыны, быў выдадзены яшчэ ў 1885 г. чэшскім архівістам Ф. Дворскім у адным з чэшскіх зборнікаў па славяназнаўству [2]. Копія гэтага дакумента была ў зборніку грамат, якія выйшлі з канцылярыі чэшскага караля. Дворскі ўзнавіў тэкст гэтага акта, прычым, даючы імя асобы, аб якой ішла размова, няправільна падзяліў словы, сказіўшы гэтым імя. Капііст, які запісваў гэты акт у кнігу грамат, мусіць, не вельмі добра разумеў абазначэнне імя і горада, адкуль гэта асоба паходзіла, і таму назваў яго «Dr. František Rus s Koryn s Poloczko», а Дворскі апошнія два словы надрукаваў як «Horyn Poločko», дадаўшы яшчэ sic! Шукаючы матэрыял аб рускім доктару

---

[1] А. Флоровский. Первый русский врач в Праге. «Русский врач в ЧСР», 9 верасня 1936 г., стар. 380—382.

[2] Fr. Dvorský. Přispěvky k dějinam slovanským. Slovanský sborník, red. E. Jelinek, IV. Praha, 1885.

Скарыне (з рэдкім для рускага іменем Францыск!) з Полацка, я адразу ж западозрыў тут якісьці намёк на Скарыну. Рукапісны тэкст гэтага акта цудоўна захаваўся і яго прагляд цалкам пераканаў мяне ў тым, што звесткі датычацца іменна Скарыны з Полацка, а не нейкага выхадца з «Гарынполачка». Я паведаміў аб гэтым назіранні прафесару У. А. Францаву, які з канца мінулага стагоддзя шукаў хаця б які-небудзь чэшскі дакументальны след жыцця Скарыны ў Чэхіі, а затым падзяліўся сваімі меркаваннямі і са слухачамі Другога з'езда славянскіх філолагаў у Варшаве ў верасні 1934 г. Мае здагадкі не сустрэлі ніякіх пярэчанняў. Але, прызнаўшы гэты акт за бяспрэчнае сведчанне аб Скарыне, непазбежна было зрабіць са зместу гэтага акта ўсе магчымыя вывады, і гэта адкрыла новую главу ў біяграфіі Скарыны [1].

Справа ў тым, што ў разгледжаным акце, які быў падпісаны чэшскім каралём Фердынандам Габсбургам у Празе 29 студзеня 1552 г., доктар Францішак Рус Скарына з Полацка быў названы ўжо нябожчыкам: размова ішла аб прызнанні за яго сынам, Сімяонам Русам, правоў на спадчыну з усімі станоўчымі і негатыўнымі яе бакамі — «некаторая маёмасць», дакументы, кнігі, даўгі і г. д. Гэтым вызначаецца дата, раней якой скончыў свой зямны шлях Скарына, памёр ён, мусіць, перад 1552 г., прычым дзе-небудзь у Чэхіі, таму што іменна тут знаходзілася спадчына, якую павінны былі перадаць сыну. Але яшчэ больш важная тая акалічнасць, што ў гэтым акце вызначаецца становішча чужаземца Скарыны ў акружэнні чэшскага караля. Скарыну Фердынанд I называў «zahrádník naš», гэта значыць «наш каралеўскі садавод». Гэта сцвярджэнне магло б уразіць нас сваёй нечаканасцю, таму што цяжка было б уявіць кракаўскага і падуанскага дыпламаванага чалавека, доктара медыцыны і «свабодных навук», чалавека вялікага жыццёвага і культурнага вопыту ў ролі садоўніка ў якім-небудзь, хоць бы і каралеўскім садзе, але Скарына мог выступаць у ролі садавода высокай кваліфікацыі: нездарма ён вучыўся або давучваўся медыцыне іменна ў Падуанскім універсітэце, які ў тыя часы быў буйным цэнтрам і медыцынскай батанікі, іменна тут у 1533 г. быў адкрыты першы ў Еўропе батанічны сад. У сваім артыкуле 1938 г. я гэтыя агульныя мер-

[1] Гэтыя меркаванні ёсць у маім артыкуле: A. F l o r o v s k ý. Nové zprávy o pobytu Fr. Skaryny v Praze. «Časopis Národního Musea», XLVIII. Praha, 1938, стар. 11—19.

каванні пацвердзіў яшчэ і тым, што іменна ў Падуі вывучалі батаніку многія польскія медыкі XVI ст. Зварот да гісторыі пражскага каралеўскага батанічнага саду, на жаль, не дапамог высвятленню гэтага пытання аб Скарыне. Мы толькі ведаем, што сад гэты быў закладзены ў 1534 г. паблізу пражскага Крамля, дзе быў у той жа час пабудаваны і славуты летні палац для каралевы Анны (Letohradek). Стары гісторык гэтага саду Іосіф Сватэк паведамляе, што першым садаводам каралеўскім быў нейкі італьянец магістр Франчэска. У 1539 г. для ўпарадкавання саду быў запрошаны з Галандыі доктар Гуга Веніус, які хутка пакінуў Прагу. Для доктара Скарыны не было, відаць, сорамна супрацоўнічаць у справе ўладкавання каралеўскага саду і нагляду за ім з тытулам доктара. Я не адважыўся ні ў 1938 г., ні пазней атаясамліваць Скарыну з магістрам (толькі магістрам) Франчэска, хоць гэта вялікая спакуса — звязаць іх у адно; падуанскі доктар мог быць лёгка названы і італьянцам. А тут трэба падкрэсліць, што Скарына мог атрымаць службу пры каралеўскім садзе ў Празе адразу пасля 1534 г., і, такім чынам, мы атрымалі б новую дату для яго біяграфіі. Дарэчы, трэба памятаць, што апошняе ўпамінанне аб Скарыне ў Вільні адносіцца да 1535 г., таму ханалагічных перашкод для меркавання аб тым, што хутка пасля гэтай даты ён апынуўся зноў у Празе, дзе раней, у 1517—1519 гг. ён працаваў над выданнем сваіх кніг, няма.

Ужо ў артыкуле 1938 г. я звярнуў увагу і на магчымасць яшчэ больш абмежаваць кола гадоў, калі Скарына мог у другі раз працаваць у Празе. Справа ў тым, што ў 1541 г. у пражскім Крамлі і на ўчастках так званай Малой Страны, якія межавалі з ім, узнік вялікі пажар, які знішчыў многа палацаў, цэркваў, дамоў і ў самім Крамлі. І вось у доме вядомага ў чэшскай культурнай гісторыі свяшчэнніка Яна з Пухава ў час пажару загінуў хлопчык («pacholatko») Францішак, сын ужо нябожчыка доктара Руса («syn ňekdy Doctora Rusa»)[1]. Гэты доктар Рус меў сына, якога звалі Францыск? Зноў вялікая спакуса звязаць усё гэта з нашым доктарам Скарынай. У гэтым выпадку трэба было б дату смерці Скарыны адсунуць на час перад 1541 г., гэта значыць увесь другі эпізод жыцця Скарыны ў Празе абмежаваць рамкамі 1534 і 1541 гг. Выказваючы гэтыя меркаванні, я не быў схільны і не схільны зараз настай-

---

[1] А. Флоровский. Чешская библия..., стар. 213—214.

ваць на іх у гэтай апошняй частцы, аднак нельга ўсё ж не ўлічваць і гэту акалічнасць, таму што яна адзін з важных фактаў для пазнання жыцця і дзейнасці Скарыны ў Чэхіі ў сувязі са «знойдзеным» мной каралеўскім актам 1552 г.

Працягваючы свае пошукі аб чэшскіх сувязях Скарыны, я ў тым жа 1938 г. паведаміў аб сваіх агульных назіраннях над дзейнасцю падуанскага доктара і ў Цюрыху ў сваім дакладзе на сходзе федэрацыі гістарычных аб'яднанняў Усходняй Еўропы і славянскіх земляў [1]. Гэты даклад быў выдадзены на французскай мове і сустрэў агульнае адабрэнне. Тут я спыняў сваю ўвагу галоўным чынам на дзвюх істотна важных праблемах. І перш за ўсё на пытанні аб агульнай культурнай і рэлігійнай арыентацыі Скарыны ў час яго працы ў Празе ў абстаноўцы чэшскага культурнага жыцця. Дапускаючы, што Скарына, мяркуючы па яго імені Францыск, быў тады па веравызнанню католікам, я выказваў думку ў карысць дапушчэння аб агульнай гуманістычнай культурнай арыентацыі Скарыны. Чэшскае гусіцкае асяроддзе магло мець у гэтым выпадку істотны ўплыў на светапогляд полацкага ўраджэнца, хаця было б залішнім перавелічэннем настайваць на акрэслена гусіцкіх канфесіянальных элементах у яго агульным культурным абліччы. З такім сцвярджэннем, якое выказвалі ў старой гістарыяграфіі Галавацкі (1865) і асабліва Яўсееў (1912)[2], нельга зараз згадзіцца, асабліва ў прапанаванай Яўсеевым фармулёўцы. Лічыць Скарыну ў час яго выдавецкай дзейнасці ў Празе выканаўцам пэўных гусіцкіх (утраквісцкіх) планаў і звязваць яго работу з нейкімі агульнымі місіянерскімі чэшскімі задумамі (чэшскіх братоў і іншых) было б недапушчальным перавелічэннем, таму што ва ўсіх агульных выказваннях Скарыны няма прамых пацвярджэнняў канфесіянальнага пратэстантызму, хаця сам факт выдання ім біблейскіх кніг на ўзбагачанай жывой народнай гутаркай мове і займае сваё пэўнае месца ў агульнай эвалюцыі, тыповай для гуманізму і пратэстанцкай нацыяналізацыі мовы свяшчэннага пісання: Скарына звярнуўся да венецыянскага выдання чэшскай «Бібліі» 1506 г. (гэта ўжо даўно ўстаноўлена Уладзіміравым), да

[1] A. Florovský. Fr. Skorina et son activité parmi les slaves. Bulletin d'information des sciences historiques en Europe Orientale, IX, 1—2. Varsovie, 1939.

[2] Гл.: В. И. Пичета. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961; И. Е. Евсеев. Очерки по истории славянского перевода библии.

біблії, якая была накіравана супраць папы і не можа ў дадзеным выпадку быць выкарыстана для таго, каб даказаць залежнасць Скарыны ад утраквізму, таму што тут справа датычыцца выдання чэшскай «Бібліі», якое прызнавалі і католікі, да таго ж натуральна прыцягнутай Скарынай у выглядзе агульналітаратурнай і культурнай каштоўнасці іменна гэтага найноўшага для часоў Скарыны славянскага выдання свяшчэннага пісання. З прычыны гэтага я некалькі спыніўся і на эпізодзе зносін Скарыны з адным з выдатных прадстаўнікоў пратэстантызму, з пражскім герцагам Альбрэхтам (1530). На жаль, даступныя (па выданню Мілавідава 1918 г.) кенігсбергскія дакументы не растлумачваюць гэтага эпізоду, хаця і ствараюць магчымасць дапускаць, што Альбрэхт прыцягнуў Скарыну да свайго двара ў сувязі з планамі выдання літаратуры ў інтарэсах пратэстантызму. Таму я паставіў перад сабой пытанне, але ніяк яго не вырашыў, што прадстаўляе сабой «книга на полдести, зовомая Катехизис Францешкова друку», якая захоўвалася ў пачатку XVII ст. у бібліятэцы Стаўрапігіі ў Львове. Ці не ідзе тут размова пра якое-небудзь невядомае зараз выданне Скарыны? Цяжка дапусціць існаванне сярод выдаўцоў кніг для рускіх чытачоў яшчэ другога Францыска.

Іншае пытанне, якое я ўзняў у гэтым сваім цюрыхскім дакладзе, датычыцца магчымых сувязей Скарыны з Масквой. У літаратуры раней выказвалася сумненне аб магчымасці такіх адносін з прычыны больш або менш «ерэтычнай» рэпутацыі літоўска-рускіх выданняў у Маскве. Аднак ужо a priori было б немагчыма меркаваць, каб буйны выдавец біблейскіх кніг і асабліва «Апостала» і «Псалтыра», якія карысталіся найбольш шырокім попытам сярод праваслаўных чытачоў, мог пакінуць па-за ўвагай маскоўскі кніжны рынак, дзе можна было б разлічваць на шырокі збыт рэлігійнай літаратуры, асабліва «Апостала», які ў выданні Скарыны 1525 г. паўтарае традыцыйны царкоўнаславянскі тэкст і менш за ўсё адчуў на сабе сляды тыповай для пражскіх выданняў 1517—1519 гг. мадэрнізацыі і нацыяналізацыі мовы [1]. Я і ў гэтым артыкуле звярнуў увагу

---

[1] Ва ўсякім выпадку выдатны дзеяч беларускага рэлігійнага радыкалізму другой палавіны XVI ст. С. Будны крытычна ставіўся да гэтай традыцыйнай рысы тэксту «Апостала» Скарыны. Параўн.: Г. Я. Голенченко. Русские первопечатники и Симон Будный. Книга. Исследования и материалы, Х. М., 1965, стар. 155.

чытача на тое, што выданні Скарыны былі ў XVI і XVII стст. шырока вядомы ў Маскоўскай Русі і што нават вельмі чуллівыя да навін маскоўскія старабрадцы знаходзілі ў кнігах Скарыны аўтарытэтную падтрымку некаторых сваіх сцвярджэнняў. У маскоўскіх крыніцах удалося выявіць адно сведчанне, якое апраўдвала наша дапушчэнне аб тым, што Скарына і беларускія фінансісты, якія супрацоўнічалі з ім у Празе і ў Вільні, маглі разлічваць і на маскоўскі рынак для сваіх выданняў.

Справа ў тым, што хутка пасля 1525 г., калі ў Вільні выйшла выданне «Апостала» Скарыны, у Маскве з'явіўся Багдан Онкаў, добра вядомы нам саўдзельнік кніжнага прадпрыемства Скарыны. Ён наведваў Маскву па сваіх фінансавых справах, заклапочаны тым, каб атрымаць грошы ад сваіх даўжнікоў князёў Шамякі і Мажайскага[1]. Наўрад каб вопытны фінансіст, які ўклаў, відаць, немалую долю сваіх грошай у кніжную справу Скарыны, мог пакінуць зусім па-за ўвагай умовы кніжнага рынку Масквы. Трэба думаць, ніяк нельга было б паўтарыць сцвярджэнні Г. Лаўмянскага аб тым, што Скарына быў перш за ўсё дзялок і што, ствараючы сваё выдавецтва, ён думаў больш за ўсё аб эфекце камерцыйным і менш за ўсё заняты быў меркаваннямі ідэалагічнымі[2]. Аднак, прызнаючы ў поўнай меры вышэйшыя ідэалагічныя імкненні падуанскага доктара, нельга не звяртаць увагу і на чыста дзелавыя меркаванні, якія не мог не мець на ўвазе адказны пачынальнік такой вялікай выдавецкай справы. І таму было б проста недапушчальнай наіўнасцю не прызнаваць магчымасць разліку Скарыны, ва ўсякім выпадку пасля 1525 г., на збыт царкоўных друкаваных кніг у маскоўскім асяроддзі. У сувязі з гэтым набывае пэўную цікавасць і другая наша «знаходка» — таксама ў старой кнізе, якая чамусьці амаль не сто гадоў аказвалася па-за ўвагай вучоных «скарыназнаўцаў».

Вядомы аўстрыйскі гісторык і архівіст І. Фідлер яшчэ ў 1862 г. апублікаваў у даступным выданні Венскай Акадэміі навук адзін дакумент 1552 г., дзе ёсць звесткі, так ці іначай звязаныя са Скарынай, хаця яго імені там і няма. У гэтай інструкцыі польскаму паслу ў Рым караля Сігізмунда Аўгуста гаворыцца, што ў часы бацькі яго караля Сігізмунда, гэта значыць

---

[1] РИБ, т. XXXV, № 10, стар. 752, 759.
[2] «Ateneum Wileńskie», 1925, III, стар. 175—176.

да года 1548, калі Сігізмунд I Стары памёр, адзін з яго падданых заняўся друкаваннем свяшчэннага пісання па-руску і затым паехаў у Маскву, дзе па загаду гасудара кнігі яго публічна спалілі, таму што яны быццам бы былі выдадзены ў духу рымскай царквы і ў краіне, дзе рымская царква карысталася аўтарытэтам [1].

Гэтыя падзеі, якія адзначаў раней у літаратуры I. Перwольф (1886), цяжка суадносіць з якім-небудзь эпізодам з гісторыі ўласна маскоўскага кнігадрукавання, пачатак якога ніяк нельга было б аднесці да першай палавіны XVI ст., гэта значыць і да часу дзейнасці маскоўскіх кнігадрукароў. Мусіць, нехта з польска-літоўскай дзяржавы спрабаваў знайсці шлях сваім кнігам і ў Маскву. Безумоўна, у першую чаргу прыгадваецца дзейнасць Скарыны ў Празе і Вільні. Ці не ён паспрабаваў выкарыстаць маскоўскі кніжны рынак для збыту сваіх выданняў і ці не над яго кнігамі чынілі жорсткі суд, аддавалі агню «jussu principis» (па загаду гасудара). Маючы толькі гэта паведамленне 1552 г., нельга катэгарычна сцвярджаць, што Скарына, Онкаў і іншыя разлічвалі на абслугоўванне сваімі выданнямі праваслаўнага чытаючага свету, але нельга і выключаць такую магчымасць.

Мой французскі артыкул выйшаў з-пад друкарскага станка ў Варшаве літаральна ў пачатку другой сусветнай вайны, я атрымаў яго адбітак у Празе ў той дзень, калі немцы напалі на Польшчу. Гэта стварыла выключна неспрыяльныя ўмовы для таго, каб мае назіранні і меркаванні маглі быць прадметам абмеркавання і ацэнкі ў навуковай літаратуры. У сувязі з усім гэтым на некалькі гадоў прыйшлося адкласці і публікацыю маёй вялікай завяршальнай працы аб Скарыне, якая была ўжо набрана ў 1940—1941 гг.; яна выйшла ў свет толькі ў 1946 г.[2]

Неабходна агаварыць, што ў гэтай працы асноўная ўвага аддаецца сувязям Скарыны з Чэхіяй, дарэчы, і сама гэта праца спачатку павінна была скласці адну з глаў маёй вялікай кнігі «Чэхі і ўсходнія славяне». Таму нельга шукаць у маім даследаванні разгляду ўсіх пытанняў, якія звязаны з жыццём

[1] J. Fiedler. Ein Versuch der Vereinigung der russischen und der römischen Kirche im XVI. Jahrhunderte. Wien, 1862; Sitzungsberichte der Akademie der Wissenschaften, historisch-philologische Klasse, XI, стар. 30, 86.

[2] А. В. Флоровский. Чешская библия..., стар. 153—259.

і дзейнасцю Скарыны, хаця за ўсім, што ёсць у кнізе, — знаёмства з сукупнасцю праблем, якія ставяцца перад вучонымгісторыкам, што вырашыў займацца Скарынай. З другога боку, трэба адзначыць, што для мяне былі недасягальнымі выданні Скарыны (як ужо адзначалася, выключэнне складаў «Ісус, сын Сірахаў»). З гэтай прычыны асаблівасці тэксту біблейскіх кніг Скарыны мне былі вядомы па таму, праўда, багатаму падбору чытанняў, які прыводзяць у сваіх кнігах Уладзіміраў, Каратаеў і інш. Гэта не выключала, аднак, неабходнасці ўважліва разабрацца і ў матэрыяле тэкстаў, таму што ўзнікла пытанне аб устанаўленні якой-небудзь залежнасці або сувязі іх з тэкстам чэшскай біблііі.

Праца «Чэшская біблія» пачынаецца з главы, дзе ў агульнай форме разглядаецца пытанче аб тым, ці адыграў прыклад выдання біблііі на чэшскай мове вызначальную ролю ва ўзніканенні біблііі на Русі на жывой народнай мове. Я адказваю на гэта пытанне стрымана і асцярожна, таму што не бачу магчымасці станоўча гаварыць пра сур'ёзны гусіцкі ўплыў ва ўсходняй Еўропе ў XV—XVI стст. і ісці ў гэтым выпадку па слядах, напрыклад, М. Грушэўскага. Тлумачэння звароту да жывой мовы на Русі пры рэдагаванні біблейскіх кніг я схільны шукаць у агульнай атмасферы эпохі, эпохі гуманізму і Рэфармацыі, не падкрэсліваючы наўмысна ролю іменна чэшскага ўплыву, які, аднак, усё ж займае сваё станоўчае месца ў агульнай перспектыве духоўнага развіцця славянства наогул. У другой главе я прыводжу некалькі фактаў, якія сведчаць аб тым, што чэшская друкаваная біблія была вядома ў XVI—XVII стст. на ўсходзе, у Літве і Маскве. Да справы Скарыны я звяртаюся ў трэцяй главе. Тут я раблю сістэматычны перагляд даных аб выкарыстанні Скарынай чэшскай біблііі ў якасці асноўнага дапаможніка пры апрацоўцы ім тэксту біблейскіх кніг для пражскага выдання. Даўно ўстаноўлены ў літаратуры факт выкарыстання пры гэтым Скарынай чэшскай біблііі ў венецыянскім выданні 1506 г. цалкам пацвярджаецца, сутнасць праблемы зводзіцца да таго, што Скарына, які паклаў у аснову сваёй рэдакцыі біблейскіх чытанняў — не паўсюдна — традыцыйны царкоўнаславянскі іх тэкст, пры фармулёўцы канчатковых чытанняў выкарыстаў у радзе выпадкаў чытанне і чэшскай біблііі, адначасова абнаўляючы іх у духу жывой беларускай мовы. Мне здаецца, што ў некаторых выпадках Уладзіміраў перавялічвае залежнасць Скарыны ад чэшскіх чы-

танняў і дапускае наяўнасць чэшскіх моўных элементаў і там, дзе было толькі падабенства да іх. Так, наўрад ці можна паўтарыць за Уладзіміравым, што нярэдкае ў Скарыны *ся* перад дзеясловам было засвоена ад чэхаў, таму што гэта з'ява была звычайнай ва ўсходніх славян і ў маскоўскіх помніках яшчэ XV—XVI стст.[1] Пры ўсім гэтым застаецца бясспрэчным, што Скарына засвоіў з чэшскай біблii рад чытанняў і фармулёвак. У даным выпадку былі запазычанні чытанняў, і толькі зрэдку быў прамы ўплыў мовы. Гэта ў кнізе ілюструецца вялікім падборам прыкладаў, прычым для большай перакананальнасці я звычайна прыводзіў паралельна чытанні Скарыны, «Біблii» 1506 г. і «Біблii» царкоўнаславянскай у астрожскім выданні 1580—1581 гг.

Пры разглядзе пытання аб чэшскім уплыве на пражскія выданні Скарыны я закрануў і пытанне аб сувязі з чэшскім матэрыялам ілюстрацый у пражскіх кнігах Скарыны. У гэтым выпадку трэба абмяжоўвацца толькі тымі супастаўленнямі, якія зрабіў у зборніку «400-лецце беларускага друку» М. Шчакаціхін, які даў там амаль што поўны падбор малюнкаў. Яго назіранні і вывады, аднак, і зараз застаюцца вызначальнымі. Ніхто з чэшскіх гісторыкаў кніжнай справы старажытнай Чэхіі, і ў прыватнасці ілюстрацыйнай яе часткі, не адгукнуўся на гэтыя меркаванні Шчакаціхіна, хаця я і спрабаваў зацікавіць іх гэтай праблемай. Я толькі дапоўніў прыведзены Шчакаціхіным матэрыял кароткай даведкай аб тым, што вядомы чэшскі гісторык Ч. Зібрт звязваў выданні Скарыны з чэшскай мастацкай традыцыяй, таму што ў ліку яго ілюстрацый ёсць і вядомы ў Чэхіі малюнак троіцы з трыма тварамі[2]. Не бярэмся і тут разабрацца ў гэтым пытанні, таму што лёс адбітка трох твараў троіцы ў еўрапейскім мастацтве наогул надзвычай складаны і патрабуе асобага спецыяльнага падыходу[3].

---

[1] Параўн.: Л. Булаховский. Исторический комментарий к литературному русскому языку. Киев, 1939; А. Флоровский. Чешская библия..., стар. 183.

[2] Č. Zibrt. Zobrazováni trojice skupinou tři hlav za středověku i v lidovem umĕni nynĕjšim. «Vĕstnik Královské Společnosti nauk», rok 1894. Praha, 1895, № 7, стар. 1—14.

[3] Параўн.: А. Гаккель. Образ трехглавой троицы. Статьи и материалы. Берлин, 1932, стар. 28—40 (Аб Скарыне тут упамінання няма, хоць аўтар ведае працу Зібрта).

У чацвёртай главе даецца агляд даных жыцця і дзейнасці Скарыны ў Празе ў 1517—1519 гг. Пасля таго як прыведзены фактычныя даныя аб паходжанні Скарыны (я прыцягваю, дарэчы, дакумент, які ніхто раней не выкарыстоўваў,—дакумент аб маскоўскай эпапеі 1497 г. з яго бацькам Лукіянам Скарынай і аб гадах яго навучання ў Кракаве і Падуі), у главе даюцца звесткі аб яго дзейнасці ў Празе. На натуральнае пытанне аб тым, чаму Скарына для сваёй выдавецкай дзейнасці абраў іменна Прагу чэшскую, я адказваю ўжо не аднойчы паўтораным указаннем на наяўнасць у Празе добра наладжаной друкарскай справы, у прыватнасці і ў галіне чэшскага і часткова яўрэйскага кнігадрукавання. Разам з тым я не выключаю магчымасці і службовых сувязей Скарыны з дваром чэшскага караля, які паходзіў з польска-літоўскага роду Ягелонаў. Пры гэтым я зусім не схільны звязваць гэта пражскае знаходжанне Скарыны з магчымымі яго гусіцкімі сімпатыямі (глава V) — у кантэксце некалькі разгорнуты тыя аргументы, якія былі прыведзены мною ў артыкулах, апублікаваных яшчэ ў 1938 і 1939 гг.

У шостай главе даецца больш шырокая зводка даных аб другім знаходжанні Скарыны ў Празе ў 30-я і наступныя гады XVI ст. Тут гаворыцца аб абедзвюх маіх «знаходках» і аб магчымых сувязях Скарыны і Онкава з Масквой, аб дзейнасці Скарыны ў якасці садавода і г. д. Для высвятлення агульных перспектыў сувязей Скарыны-палачаніна з Чэхіяй я даю рад даведак аб тым, што ў пачатку XVI ст. паміж Полацкам і Чэхіяй былі пэўныя кантакты, таму што Полацк карыстаўся дапамогай чэшскіх ваенных спецыялістаў для абароны горада («campiductor Cyrna», Чэрнін, 1502), напрыклад у пачатку XVI ст. у Беларусі існавалі чэшскія роты. Разам з тым я звяртаю ўвагу і на тое, што ў гэты час нярэдка Чэхію наведвалі выхадцы з Літвы і з самога Полацка, у прыватнасці ў Паўднёвай Чэхіі нават стала жылі ўраджэнцы тых краёў у якасці службовых шляхціцаў тутэйшых магнатаў. Канкрэтна я вяду размову аб нейкім Сімяоне Русе, які ў 1584 г. быў ужо стары, на пенсіі, і знаходзіўся ў Індржыхаве Градцы ў Паўднёвай Чэхіі ў тутэйшых землеўладальнікаў. Па спецыяльнасці ён быў садоўнікам, садаводам. Ці не той гэта Сімяон Скарына, за якім у 1552 г. былі прызнаны правы на спадчыну пасля смерці яго бацькі, каралеўскага «садоўніка» доктара Францыска Руса Скарыны з Полацка?

Не маючы падбору рускіх надрукаваных кніг, я абмежаваўся толькі некаторымі агульнымі супастаўленнямі, гаворачы аб уплыве выданняў Скарыны ў XVI—XVII стст. Але пры гэтым я падкрэслена звяртаю ўвагу на пытанне аб знаёмстве з гэтымі выданнямі не толькі ў польска-літоўскіх землях, але і на Русі Маскоўскай, таму што раней беспадстаўна выказваліся сумненні ў поспеху кніг Скарыны ў прававерней Маскве. Не выключана магчымасць, што спачатку, у першай палавіне XVI ст., у Маскве маглі быць сур'ёзныя пярэчанні супраць выданняў Скарыны, аднак ужо ў другой палавіне XVI ст. ім была адкрыта дарога.

«Чэшская біблія» не мела за мэту асвятліць аднолькава падрабязна і закончана ўсе бакі жыцця і дзейнасці Скарыны, таму што ў цэнтры ўвагі былі толькі яго чэшскія адносіны. Аднак у выніку абследавання з'явілася магчымасць выявіць рад новых фактаў і акалічнасцей, якія істотна дапаўняюць раней вядомыя звесткі аб Скарыне і ўдакладняюць назіранні над самімі яго біблейскімі тэкстамі. Трэба адзначыць, што вучоная крытыка наогул прызнала мае думкі і згадзілася з усімі меркаваннямі, палічыўшы правільнымі і тыя агаворкі, якімі я суправаджаў выкладанне сваіх даследаванняў, таму што адказаць на некаторыя пытанні я не мог, як ужо гаварылася, з прычыны абмежаванасці матэрыялу. Спасылаюся на больш або менш падрабязныя рэцэнзіі прафесара І. Вашыцы [1], прафесара І. Мацурэка [2], прафесара Т. Іанеску-Нішкава [3].

Нельга не адзначыць, што вывады маіх даследаванняў, сфармуляваныя ў працах 1938—1947 гг., далёка не адразу сталі прадметам увагі даследчыкаў, якія працавалі над праблемамі Скарыны, хоць у віленскім навуковым цэнтры (Беларускае навуковае таварыства) знаходку акта 1552 г. адразу ж улічылі, нават да з'яўлення звестак аб гэтым у друку, на падставе майго даклада на II з'ездзе славістаў у Варшаве ў 1934 г.

## 5

Між тым і на беларускай глебе пасля вядомай затрымкі ў вывучэнні справы Скарыны наступіла ажыўленне, і пасля за-

---

[1] «Časopis pro moderni filologie», XXX, 2. Praha, 1947.
[2] «Česky časopis historycký», XLVI, 1940.
[3] «Romanoslavica», I. Praha, 1948.

канчэння другой сусветнай вайны беларускія вучоныя зноў звярнуліся да актыўнага даследавання лёсу і самога Скарыны, і яго справы. Далёка не адразу, як ужо гаварылася вышэй, былі поўнасцю асэнсаваны і засвоены ў навуковай літаратуры выяўленыя ў 30-я гады новыя факты і новыя супастаўленні. Увага даследчыкаў, асабліва ў Беларусі, пачала ў пэўнай меры канцэнтравацца на некаторых агульных праблемах, якія паўсталі ў сувязі з дзейнасцю Скарыны. Перш за ўсё даследчыкі, вывучаючы асветніцкую дзейнасць Скарыны, канцэнтравалі сваю ўвагу на яго светапоглядзе і займаемым ім месцы ў агульнай перспектыве духоўнага развіцця ў тую эпоху. Спыняліся на праблемах, што былі звязаны з асаблівасцямі мовы скарынінскіх выданняў, дакладней кажучы, на месцы літаратурнай творчасці Скарыны ў агульнай сістэме развіцця літаратуры і мовы ў Беларусі. Пры такой агульнай арыентацыі ў вывучэнні з'явы Скарыны ў цэлым нельга было, безумоўна, абысці і рад найбольш канкрэтных і фактычных бакоў, таму што ў некаторых выпадках даследчыкі звязвалі спецыяльныя лінгвістычныя або гісторыка-філасофскія назіранні з вывучэннем фактаў біяграфіі і дзейнасці Скарыны.

Нельга не спыніцца на адным важным пытанні, якое ў апошнім дзесяцігоддзі займае асаблівае месца ў сувязі з вывучэннем даследчыкамі біяграфіі Скарыны. Мы маем на ўвазе пытанне аб імені Скарыны. Здавалася б, што яно не магло выклікаць ніякіх сумненняў, паколькі сам Скарына ва ўсіх сваіх выданнях выразна і нязменна называе сябе Францыскам і гэта імя суправаджае яго прозвішча ва ўсіх (апрача аднаго) дакументах розных інстанцый — і ў Кракаве, і ў Падуі, і ў Празе, і ў Вільні, у Кенігсбергу і Познані і г. д. Скарына, відаць, нідзе і ні пры якіх абставінах не ўжываў іншага імені, хоць ён дзейнічаў у розны час і ў розным асяроддзі і з рознымі мэтамі — і ў каталіцкім, і ў праваслаўным, і ў утраквісцка-гусіцкім асяроддзі і, бясспрэчна, у евангелічным (у Кенігсбергу). Няма сумнення, што імя Францыск — каталіцкае, праваслаўныя яго ні тады, ні пазней не давалі пры хрышчэнні і наогул ім не карысталіся. Гэта не вырашае яшчэ пытання аб тым, ці быў Скарына католікам (уніятам) або праваслаўным па свайму паходжанню, а тым больш па арыентацыі ўсёй сваёй дзейнасці. І тым не менш у гістарычнай літаратуры пасляваеннага часу сталі неяк звычайна і настойліва называць Скарыну Георгіем, часта побач з іменем Францыск, якое часам наогул

не ўпамінаюць. Мы не ведаем, хто першы ўвёў такую практыку. Ва ўсякім выпадку гэта пачалося пасля таго, як быў надрукаваны М. Круповічам у 1858 г. адзін каралеўскі акт з польскай «каралеўскай метрыкі» 1532 г., у якім Скарына называецца Georgius Franciscus [1]. На гэты дакумент звярнулі тады ўвагу А. Петрушэвіч у Львове і А. Віктараў у Маскве [2]. Петрушэвіч, напрыклад, выявіў імя Юрый (Георгій) на партрэце Скарыны (зроблен вяззю), які быў прыкладзен да пражскай «Бібліі». Абодва аўтары мяркуюць, што Скарына як праваслаўны першапачаткова насіў імя Юрый, але замяніў яго іншым у сувязі з паступленнем у каталіцкі польскі універсітэт у Кракаве.

Хоць гэта перамена імені была і праўдападобная і зусім магчымая, але ўсё ж пытанне аб імені заставалася нявырашаным. Тым больш, што спасылка Петрушэвіча на даволі падазроную рэпрадукцыю партрэта Скарыны, вязь на якім нельга прачытаць і на самых новых здымках, з'яўляецца малападстаўнай. Гэта, з аднаго боку. А з другога — даследчыкі мелі і цяпер маюць у сваім распараджэнні толькі адзін дакумент з іменем Георгій. Таму зусім зразумела, што ў літаратуры былі выказаны правамерныя сумненні аб магчымасці аперыраваць гэтым матэрыялам [3]. І ўсё ж пасля 1945 г. стала як бы абавязковым называць Скарыну Георгіем і Юрыем. Георгіем, напрыклад, называюць Скарыну ў сваім гістарычным рамане М. Садковіч, а таксама ў драматычнай паэме «Георгій Скарына» беларускі пісьменнік М. Клімковіч, гэта ж імя выкарыстоўваюць многія даведачныя і перыядычныя выданні [4]. Гэткай практыкі прытрымліваўся і У. І. Пічэта, які раней вельмі скептычна адносіўся да такой аргументацыі, і іншыя беларускія і асобныя зарубежныя даследчыкі [5]. Безумоўна, імкненне даследчыкаў падкрэсліць праваслаўны і ўсходне-

---

[1] М. Крупович. Собр. соч. т. 1, стар. 35—37.

[2] В. П. Пичета. Скориниана. 400-леццe беларускага друку, стар. 742—743.

[3] А. Ф. Флоровский. Чешская библия, стар. 742—743.

[4] История Белорусской ССР, т. 1. Минск, 1954, стар. 102—127; Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Мінск, 1966, стар. 89.

[5] В. В. Чапко. Беларускі першадрукар Георгій Скарына. Мінск, 1956, стар. 10; В. Казбярук. Беларускі першадрукар (Г. Скарына); «Літаратура і мастацтва», 1960, 27 красавіка; Ц. П. Ломцеў. Георгій Скарына — першы беларускі кнігадрукар. «Беларусь», 1945, № 6, стар. 13—16; В. М. Люблинский. На заре книгопечатания. Л., 1959, стар. 138; V. Zidlický. Přispěvky k dějinam česko-běloruské vzajemnosti. Slavia,

славянскі момант у асобе Скарыны і вызваліць яго імя ад каталіцкага адцення — з'ява зусім заканамерная. Даследчыкі так і тлумачаць, што Скарына вымушан быў звацца Францыскам, дакладней, прыняць аблічча католіка, каб мець магчымасць вучыцца ў каталіцкай вышэйшай школе.

Аднак трэба ўсё ж катэгарычна прызнаць, што Скарына ніколі (наколькі нам вядома) не карыстаўся двума імёнамі (як мяркуе, напрыклад, В. Жыдліцкі), а з'яўленне імені Георгій у адной з каралеўскіх грамат 1532 г. можна лічыць ні больш, ні менш выпадковай памылкай. Звернем увагу перш за ўсё на той факт, што амаль адначасова з гэтай граматай у тыя ж дні тая самая каралеўская канцылярыя выдала і іншую грамату Скарыне, у якой імя Георгій ужо адсутнічае. Тут Скарына назван «egregius et famatus Franciscus Skorino de Poloczko medicinae doctor». А ў наступнай грамаце тых жа дваццатых дзён студзеня 1532 г. з'яўляецца імя Георгій у наступным запісу: «virtutem et doctrinam in arte medica non vulgarem perniciem et dexteritatem Georgii Francisci Scorinae de Poloczko artium et medicinae doctorii eumque singulari gratas nostra propterea prosequi volentes...»

Трэба сказаць, што і лагічна, і граматычна замест Georgius было б зусім да месца не столькі другое імя, колькі іменна слова «egregius (род. egregii), што ёсць у першай грамаце, у якой уся фраза заключае ў сабе пахвалу вучонасці і дабрачыннасці «egregii», гэта значыць «выдатнага, паважанага» Францыска Скарыны. Так, здавалася б, у прававым акце не павінна быць апісак — замест egregius устаўлена зусім іншае па сэнсу слова Georgius (як сцвярджае Алексютовіч). Аднак калі гэта не памылка, то ў наступным дакуменце, які таксама мае прававое значэнне, выходзіць, дапушчана апіска?! Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што перад намі не сам арыгінал акта, а ўсяго толькі яго запіс у канцылярыі[1].

---

1960, стар. 215—219. Цікава, што чэшскі аўтар у зводзе даных аб знаходжанні Скарыны ў Празе прыводзіць іх галоўным чынам па маіх работах, але не «Бібліі» і імя Юрый урэшце блытае з імем Рыгор.

[1] Між іншым, не так даўно выдатны знаўца ўсходнееўрапейскага старадруку А. А. Сідараў у абвяржэнне майго скептыцызму ў адносінах імені Георгій спасылаецца на тое, што быццам у Польшчы выяўлены дакументы, у якіх сапраўды напісана імя «Georgius» (Гл.: А. А. Сидоров. Узловые проблемы и нерешенные вопросы истории русского книгопечатания. Книга, IX, 1964, стар. 23). Аднак, як потым было высветлена ў Маскве, гутарка ідзе аб тым жа адзіным акце 1532 г.

Аднак тыя крыніцы, якія маюць даследчыкі ў сваім распараджэнні, не даюць падстаў сцвярджаць, што Скарына пераважна, калі не выключна, насіў імя Георгій, і зусім пазбаўляць яго сапраўднага імені **Францыск**, з якім ён увайшоў у гісторыю культуры і якое ніколі і нідзе не саромеўся называць. Наадварот, у адрозненне ад іншых сваіх сучаснікаў ён заўжды і паўсюдна падкрэсліваў імя **Францыск**.

Безумоўна, пытанне рэлігійнай арыентацыі вялікага асветніка набывае больш шырокі і важны характар, чым пытанне аб імені. Але справа яшчэ не ў тым, да якой рэлігійнай канфесіі ён фармальна належаў і якім іменем карыстаўся, а ў тым, што Скарына сваёй выдатнай дзейнасцю служыў інтарэсам праваслаўнай і рускай (перш за ўсё беларускай) культуры. І тут, здаецца, ужо няма ніякіх спрэчак і сумненняў. І мне думаецца, што даследчыкі аказалі б самому Скарыне значна большую павагу, калі б лічыліся з сапраўдным яго гістарычным іменем, не ўпрыгожваючы гэта імя ўласнымі домысламі.

## 6

У аснове вывучэння справы Скарыны знаходзяцца, натуральна, яго выдавецкая дзейнасць, яго пражскія і віленскія выданні. З часу важнай знаходкі А. Віктарава, які выявіў экземпляр пражскага «Псалтыра», мінула ўжо сто год, але колькасць вядомых нам кніг Скарыны не павялічылася і сам склад яго друкаваных твораў застаўся такім жа. Трэба меркаваць, што толькі па непаразуменню вядомы бібліёграф Н. В. Здобнаў дапусціў існаванне асобнага віленскага выдання 1517 г. з тытулам «на первые книги царств сказание» [1]. Яго назваў у канцы XVIII ст. у сваёй «Бібліятэцы Расійскай» епіскап Дамаскін (Сямёнаў-Руднеў, які памёр у 1795 г.) [2]. У гэтым выпадку Дамаскін, напэўна, меў на ўвазе дэфектны экземпляр скарынінскай «Першай кнігі Царстваў», якая выйшла ў Празе 10 жніўня 1519 г., а выпісаны ім загаловак — гэта загаловак прадмовы Скарыны да гэтай біблейскай кнігі. Між іншым і

---

[1] Н. В. Здобнов. История русской библиографии до начала XX в. М., 1951.

[2] Дамаскин (Руднев). Библиотека Российская, или сведения о всех книгах в России с начала типографии на свет вышедших (до 1785 г.). Изд. Ундольского—Белокурова. Чтения, 1891, стар. 1, 10. Трэба заўважыць, што Дамаскін гэтага выдання не бачыў, а дзесьці ўзяў даведку аб ім.

дату выдання яе, відаць, хутчэй за ўсё паставіў сам Дамаскін, паколькі яму было вядома аб дзейнасці Скарыны ў Вільні і яго рабоце ў 1517 г.

За апошнія дзесяцігоддзі былі, безумоўна, знойдзены новыя экземпляры выданняў Скарыны, але гэта не дало магчымасці значна пашырыць асноўную базу для іх вывучэння. Аднак істотна важна правесці ўлік па магчымасці ўсіх наяўных у бібліятэках экземпляраў такіх кніг, і ў гэтым сэнсе заслугоўваюць пэўнай увагі іх апісанні і каталогі. Сярод новых апісанняў трэба адзначыць, напрыклад, спіс выданняў Скарыны ў вялікай польскай бібліяграфіі Эстрайхера [1] або адпаведныя старонкі апісання кірыліцкіх кніг у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы УССР[2] і г. д. Улік усіх экземпляраў выдадзеных Скарынай кніг мае сваю цікавасць і таму, што ён дае магчымасць выявіць асобныя варыянты, а гэта дазволіць даць адпаведнае тлумачэнне тэхнічнаму боку скарынінскіх выданняў.

Так, А. С. Зёрнава (дарэчы, яна валодала выключнымі ведамі ў галіне славянскага старадруку) па адзінаму дайшоўшаму да нас экземпляру адной старонкі з віленскай «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны выявіла, што ён скарыстаў адзін з ініцыялаў алфавіта мастака XV ст. Ізраіля фон Мекенена, сістэма алфавіта якога была шырока распаўсюджана на Захадзе і вядома ў XVI ст. у Маскве [3]. З другога боку, амаль адначасова і ў Маскве і ў Лондане былі знойдзены экземпляры кнігі «Ісус, сын Сірахаў», у якіх гравіраваны партрэт Скарыны адрозніваўся нязначнымі дэталямі ад іншых вядомых такіх партрэтаў. На гэта ў Маскве звярнула ўвагу А. С. Зёрнава [4].

Трэба адзначыць, што кніжна-тэхнічны бок выданняў Ска-

---

[1] K. Estreicher. Bibliografia Polska, XXVIII. Kraków, 1930, стар. 189—190; параўн. і XIII, стар. 36—37.

[2] Славянские книги кирилловской печати XV—XVIII вв. Киев, 1958, стар. 13. Між іншым, у У. І. Пічэты не адзначана апісанне дзевяці кніг Скарыны ў А. Радоскага. Описание старопечатных и церковнославянских книг, хранящихся в библиотеке СПб духовной академии, т. I. СПб, 1891, стар. 18—20.

[3] Н. П. Киселев. Происхождение московского старопечатного орнамента. Книга, XI, 1965, стар. 192. Параўн.: Г. Я. Голенченко. Библиографический список белорусских старопечатных книг XV—XVIII вв. Минск, 1961.

[4] А. С. Зернова. Обзор выставки книг кирилловской печати, посвященной 375-летию со дня смерти Ивана Федорова. Труды Государственной библиотеки СССР имени В. И. Ленина, т. III. М., 1959, стар. 215.

рыны ў апошні час шырока і сістэматычна не даследаваўся. Праўда, у сувязі з чатырохсотгоддзем пачатку кнігадрукавання ў Маскве, якое шырока адзначалася ў 1964 г., у многіх навукова-даследчых працах аб маскоўскай выдавецкай справе, і ў прыватнасці аб Іване Фёдараве і яго выданнях, даследчыкамі выказаны асобныя заўвагі і меркаванні аб выдавецкай дзейнасці Скарыны, якія галоўным чынам датычаць афармлення яго пражскіх і віленскіх выданняў і іх адрознення ў тэхнічным і графічным выкананні ад больш позняга маскоўскага друку. Аб гэтым напісаў буйны знаўца рускай старадрукаванай кнігі А. А. Сідараў у сваім артыкуле «Аб мастацка-тэхнічных асаблівасцях славянскага кнігадрукавання», які выйшаў у Маскве ў 1959 г. Ён таксама і ў сваіх іншых працах неаднаразова выказваў меркаванні аб асаблівасцях друку скарынінскіх выданняў.

Асабліва каштоўнымі ў гэтым сэнсе з'яўляюцца працы Я. Л. Неміроўскага, які даволі глыбока даследаваў славянскае кнігадрукаванне з самага яго пачатку ў канцы XV ст. У сваіх даследаваннях ён даў глыбокі аналіз працэсу развіцця славянскай кірыліцкай друкаванай кнігі, што папярэднічаў маскоўскім выданням 60-х гадоў XVI ст.[1] У яго грунтоўных даследаваннях рад змястоўных, цікавых старонак прысвечан Скарыне (імя Георгій даследчык не падкрэслівае). У сваёй працы Неміроўскі перш за ўсё ў сціслай форме апісвае жыццё і дзейнасць Скарыны. Ён шырока выкарыстоўвае зусім новыя назіранні і знаходкі іншых даследчыкаў, у тым ліку і мае, дае досыць глыбокае тлумачэнне новым матэрыялам, якія датычаць біяграфіі Скарыны. Неміроўскі таксама дае агульную характарыстыку шрыфтаў і мастацкага афармлення скарынінскіх выданняў (пражскіх і віленскіх), кожнае з якіх мае свае асаблівасці. Даследчык разглядае і пытанне аб уплыве тэхнікі скарынінскага кнігадрукавання на наступныя выданні. Аўтар лічыць гэты ўплыў не вельмі пашыраным і меўшым месца толькі ў межах Беларусі і Літвы (нясвіжскія друкарні, выданні Цяпінскага, асобныя кнігі віленскіх выданняў). А «ў маскоўскай друкаванай традыцыі ўплыў Скарыны адшукаць цяжка»,— падкрэслівае аўтар. Трэба заўважыць, што вядомасць кніг Скарыны ў Маскве Неміроўскі (як і аўтар гэтых радкоў) поўнасцю прызнае. Разам з тым ён адмоўна ставіцца да роз-

[1] Е. Л. Немировский. Возникновение книгопечатания в Москве. Иван Федоров. М., 1964, стар. 89—97.

ных домыслаў, што ёсць у літаратуры, аб асабістых кантактах Скарыны з дзеячамі маскоўскага кнігадрукавання, у прыватнасці з Пятром Мсціслаўцам. Аўтар катэгарычна адмаўляе якую-небудзь залежнасць выданняў Івана Фёдарава ад выданняў Скарыны.

Трэба канстатаваць, што і ў новай літаратуры іншы раз паўтараюцца сцвярджэнні аб тым, што з выданнямі Скарыны непасрэдна мела сувязь у сэнсе выкарыстання тых жа тэхнічных сродкаў і некаторая выдавецкая практыка пазнейшага часу. У прыватнасці, напрыклад, Чапко мяркуе, што Пётр Мсціславец, які працаваў з Іванам Фёдаравым у Маскве ў 60-я гады XVI ст., ці не быў памочнікам Скарыны ў яго віленскай друкарні і што ён быццам выкарыстоўваў у сваёй друкарскай справе віленскае абсталяванне і шрыфты [1].

А вось, да прыкладу, А. С. Зёрнава ў сваім даследаванні аб друкарскай дзейнасці Пятра Мсціслаўца рашуча адхіляе такое сцвярджэнне [2]. Яна лічыць, што ў прыёмах кнігадрукавання Скарыны і Мсціслаўца няма нічога агульнага, у іх выданнях нават адсутнічае падабенства друкарскага матэрыялу. Зёрнава зазначае, што «зусім арыгінальныя» шрыфты Скарыны не падобны на буйны шрыфт Мсціслаўца. Адсутнічалі ў гэтых выдаўцоў і агульныя дошкі для арнаменту. «Няруські характар» агульнага выгляду кніг Скарыны нічым не падобны да «тыповага маскоўскага шрыфту». Больш таго, сама храналогія звестак аб жыцці Мсціслаўца выключае магчымасць яго знаёмства са Скарынай. Наколькі мне вядома, у 1965 г. А. С. Зёрнава закончыла даследаваннне аб выданнях Скарыны.

Між іншым, трэба заўважыць, што ў новай сваёй працы аб віленскіх выданнях Скарыны А. Анушкін робіць супрацьлеглы вывад аб Мсціслаўцы. Ён схільны прызнаць, што была прамая сувязь выданняў Мсціслаўца з вопытам Скарыны. Відавочна, пытанне аб сувязях першадрукароў не можа быць прызнана канчаткова вырашаным і чакае больш грунтоўнага даследавання. Толькі пасля гэтага можна будзе весці гутарку аб ролі вопыту Скарыны ў дзейнасці яго пераемнікаў па віленскіх кніжных справах. Разам з гэтым адзначым, што Анушкін у

---

[1] В. Чапко. Беларускі першадрукар Георгій Скарына, стар. 30.
[2] А. С. Зернова. Первопечатник Петр Мстиславец. Книга, XI, стар. 80—81.

сваёй цікавай працы [1] робіць зусім беглы разгляд біяграфіі Скарыны. Ён яе даследуе толькі з улікам асобных новых звестак і больш спыняецца на характарыстыцы «Апостала» і «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны, падкрэслівае іх мастацкую вартасць і перавагу перад скарынінскімі выданнямі ў Празе.

## 7

У апошні час наглядаецца значны прагрэс у вывучэнні асаблівасцей мовы выданняў Францыска Скарыны. Гэтыя праблемы даўно ўжо сістэматычна даследаваліся, і ў сур'ёзнай навуковай літаратуры ўстанавіліся трывалыя погляды на гэта пытанне. Але разам з тым у літаратуры можна сустрэць яшчэ і зараз меркаванні, якія не адпавядаюць навуковаму падыходу да гэтай важнай праблемы. Часам такія меркаванні просталінейна спрашчаюць або нават зусім скажаюць рэчаіснасць. На мову выданняў Скарыны асноўны свой вызначальны ўплыў аказвалі стараславянская традыцыя перадачы біблейскіх чытанняў, чэшскія дапаможнікі, якія былі выкарыстаны Скарынай, і жывая яго беларуская мова, што надавала скарынінскім біблейскім тэкстам адметнае гучанне і своеасаблівасць. У сувязі з гэтым не варта паўтараць яўна памылковыя выказванні, што Скарына нібы зрабіў пераклад бібліі на беларускую мову з чэшскай і нямецкай, як аб гэтым сцвярджаюць М. Н. Ціхаміраў [2] або Н. Ф. Наважылаў [3], а таксама казаць аб тым, што Скарына быццам з'яўляўся «рэфарматарам папярэднічаўшай рускай царкоўнаславянскай мовы», як аб гэтым гаворыць Г. Прахазкава [4].

Пасля каштоўнага артыкула Я. Воўка-Левановіча аб мове Скарыны ў зборніку 1926 г., у якім аўтар грунтоўна разглядае асноўную царкоўнаславянскую стыхію, гэта праблема атрымала новае і глыбокае вырашэнне ў радзе артыкулаў А. І. Жураўскага [5]. Яго назіранні зводзяцца да прызнання некаторай

---

[1] А. Анушкин. Во славном месте виленском, стар. 25—44, 45—54.

[2] М. Н. Тихомиров, С. С. Дмитриев. История СССР, т. I. М., 1948, стар. 86.

[3] Н. Ф. Новожилов. Библия у русских славян, греков и румын. Православная мысль. Прага, 1956, стар. 3, 171.

[4] H. Procházková. Po stopách davného přatelstvi. Praha, 1959, 34.

[5] А. І. Жураўскі. Матэрыялы да IV Міжнароднага з'езда славістаў. Мінск, 1958, стар. 51—66.

складанасці гэтай мовы, у аснове якой ляжыць царкоўнаславянская біблейская моўная традыцыя. Але Скарына ў шмат якіх выпадках ажыўляе гэтыя чытанні, з аднаго боку, элементамі сваёй гутарковай беларускай мовы, а з другога — элементамі, якія былі запазычаны з чэшскай, магчыма, і не непасрэдна, а праз польскую мову, хоць чыстых паланізмаў у яго мове і не так ужо многа.

Гэта прызнанне значнасці царкоўнаславянскай асновы ў мове выданняў Скарыны не адмаўляе, безумоўна, заслуг вялікага гуманіста ў стварэнні ўласна беларускай моўнай літаратурнай традыцыі і яго выключнага месца ў гісторыі беларускай мовы наогул. У гэтых адносінах значную каштоўнасць маюць даследаванні М. Р. Судніка, які зрабіў сканцэнтраваны аналіз глосы ў багатай літаратурнай спадчыне Скарыны [1]. Карыстаючыся царкоўнаславянскімі кнігамі і ў сувязі з недахопам слоўнікавага запасу ва ўласна беларускай мове, Скарына імкнуўся шляхам сваіх глос аблегчыць разуменне некалькі архаічных ужо чытанняў і наблізіць іх да масавага чытача, на якога перш за ўсё ён разлічваў і кнігі для якога выдаваў.

## 8

Няма сумнення, што зараз з'яўляецца важным пытанне аб месцы Скарыны ў агульнай перспектыве духоўнага развіцця яго часу. Калі раней многіх даследчыкаў займала пытанне аб прыналежнасці Скарыны да той ці іншай канфесіі, пытанне, ці быў ён праваслаўным або каталікам, а можа быць, гусітам ці лютэранінам, то ў сучасны момант праблема набывае некалькі іншы характар. Зараз даследчыкі імкнуцца вызначыць месца Скарыны ў агульнай культурнай перспектыве еўрапейскага жыцця пачатку XVI ст., яго адносін да асноўных плыней эпохі асветніцтва і наступіўшай Рэфармацыі. На сваім складаным жыццёвым шляху Скарына знаходзіўся ў традыцыйным ася-

---

[1] М. Р. Суднік. Гісторыя ўзнікнення і этапы развіцця беларускай лексікаграфіі старажытнай пары. Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР, т. IV. Мінск, 1957, стар. 63, 77, 81—83. У Пічэты не ўказана важная для вывучэння мовы і тэкстаў Скарыны праца архімандрыта Амфілохія (П. Сергееўскага) «Старaславянскі псалтыр XIII—XVI стст.» Тут прыводзяцца шматлікія чытанні «Псалтыра» Скарыны ў параўнанні з грэчаскімі і старaславянскімі тэкстамі.

роддзі сваіх праваслаўных землякоў і сучаснікаў, а таксама ў каталіцкім грамадстве Польшчы. Ён жыў у час італьянскага Адраджэння — Рэнесанса ў Падуі і, магчыма, Венецыі, і сярод чэшскіх утраквістаў і, магчыма, больш радыкальных гусітаў. Ён уваходзіў, напэўна, у шчыльны дзелавы кантакт і з прадстаўнікамі нямецкага евангелізму ў Прусіі пры двары герцага Альбрэхта і г. д. Якую пазіцыю займаў Скарына ў адносінах да кожнай з гэтых плыняў, што адначасова праяўляліся ў тых краях, дзе і ці надоўга або на кароткі час заставаўся наш доктар свабодных навук, медык і друкар, батанік-садавод і мысліцель?

Як жа адлюстроўваліся ў яго свядомасці ўсе гэтыя, пачаўшыя ўжо бурліць стыхіі пераходных дзесяцігоддзяў пачатку XVI ст. наступлення Рэфармацыі і сур'ёзных сацыяльна-культурных канфліктаў і супярэчнасцей?

Той факт, што Скарына ажыццявіў надзвычай адказнае пачынанне свайго жыцця — выданне ў Празе біблейскіх кніг на мове, што была набліжана да народнай, а таксама што ім была выкарыстана ў якасці асноўнага дапаможніка чэшская «Біблія» 1506 г., натуральна ставіць пытанне аб адносінах вялікага асветніка да чэшскага духоўнага жыцця яго часу, да гусіцтва ў той яго форме, якую яно прыняло ў канцы XV ст. Пяцьдзесят год назад І. Яўсееў спрабаваў убачыць у справе Скарыны простае адлюстраванне гусіцкіх або чэшскабрацкіх культурных прапагандысцкіх планаў і водгукаў гусіцкіх ідэй. Такі падыход да дзейнасці Скарыны з'яўляецца беспадстаўным. Справа Скарыны мае цэлы рад асаблівасцей, што вынікаюць з унутраных адносін яго да Беларусі, а таксама ўсходнеславянскага асяроддзя і культуры, якім ён самааддана і сумленна служыў. У гэтым заключалася праграма і галоўная задача ўсёй дзейнасці Скарыны. Нядаўняе катэгарычнае сцвярджэнне асобных аўтараў, што Скарына з'яўляўся «чалавекам, засвоіўшым светапогляд чэшскіх братоў, пратэстантам і што яго «Біблія» была хутчэй пратэстанцкай, чым праваслаўнага напрамку» [1], наўрад ці будзе да месца ў папулярным гістарычным выкладзе, які зроблен без сапраўднай навуковай адказнасці. Справа Скарыны адпавядала гістарычным патрэбам роднага яму «паспалітага люду» Беларусі і Русі наогул і ніколі чужога ўплыву тут не было. Аднак Скарына не

---

[1] Н. Ф. Новожилов. Библия..., стар. 171.

быў ізаляваны ад духоўнага руху Заходняй або Сярэдняй Еўропы, ідэйнае жыццё якой знаходзіла ў ім жывы водгук.

Некаторыя аўтары лічаць, што ў дзейнасці і выказваннях Скарыны былі думкі, якія мелі агульны характар з ідэямі Яна Гуса і яго паслядоўнікаў. Безумоўна, усе яны імкнуліся дапамагчы культурнаму развіццю сваіх народаў, яны былі ахоплены пачуццямі любві да яго, з'яўляліся патрыётамі сваёй айчыны і служылі інтарэсам сваіх народаў. Скарыне, як і табарытам, была ўласціва перакананасць у тым, што ў жыцці павінна панаваць справядлівасць, у прыватнасці і ў размеркаванні маёмасці, аб чым ён, дарэчы, гаворыць ва ўступным артыкуле да кнігі «Другазаконне» [1]. Гэтыя агульныя для Скарыны і гусітаў думкі, аднак, з'яўляюцца вельмі агульнымі для таго, каб можна было сцвярджаць аб запазычанасці іх Скарынай ад Яна Гуса і паслядоўнікаў яго руху. Патрыятызм і імкненне служыць свайму народу маглі непазбежна вырастаць са сваіх уласных беларускіх і рускіх нацыянальных караняў і не варта было іх ад каго-небудзь запазычваць. Зусім непатрэбную мадэрнізацыю дапускае чэшская даследчыца Гелена Прахазкава, калі сцвярджае, што ў ідэалогіі Скарыны «ажывае ідэалогія рэвалюцыйнага гусіцкага руху», што Скарына «змагаўся супраць царквы і свецкай іерархіі і гэтым ускосна і супраць феадальнага ладу, быў непрымірымым у адносінах да пануючай рэакцыі». На думку Прахазкавай, «гэтыя проста рэвалюцыйныя погляды Скарыны на лад грамадства» і тлумачаць, чаму іменна ён быў вымушан пакінуць Прагу (быццам у 1525 г.), баючыся праследаванняў [2]. Аднак фактычны матэрыял у Г. Прахазкавай вельмі абмежаваны, каб зрабіць з Скарыны «рэвалюцыянера» на гусіцкай аснове. Акрамя таго, трэба заўважыць, што даследчыца нядбайна і няўважліва карыстаецца павярхоўна вядомай толькі ёй адной асноўнай літаратурай аб Скарыне, пры гэтым дапускае яўныя скажэнні фактаў. Дастаткова сказаць, што, на думку Прахазкавай, Ска-

---

[1] Гэта параўнанне каротка выкладаюць З. Ю. Капыскі і В. У. Чапко з даволі беднага па крыніцах чэшскага артыкула «Ohlas husitstvi na Bílé Rusi ў зборніку «Mezínárodní ohlas husitsví». Praha, 1958, стар. 106—107. Параўн. словы праф. Ф. Вольмана: «З чэшскай біблія звязана пранікненне прагрэсіўных ідэй — гэта ясна перш за ўсё ў выпадку Фр. Скарыны, які жадае адрозніць праўду ад крыўды на падставе прызнання, што свабода — адна для ўсіх і маёмасць — агульная для ўсіх».

[2] H. Procházková. Po stopách davného přátelstvi, стар. 35—36.

рына выдаў у Празе ў 1517 г. «Псалтыр», а ў 1520 г. цэлую «Біблію», прытым быццам па форме «малой кніжкі». Цікава адзначыць, што ў агульным аглядзе гісторыі чэшска-рускіх адносін, які выйшаў у Празе ў 1952 г. (таксама абмежаваны і мае недакладнасць у старажытнай частцы), проста ўказваецца, што няма пэўных звестак аб тым, ці быў Скарына «прыхільнікам гусіцкіх ідэй» [1]. Такім чынам, варта заключыць, што праблема гэта патрабуе далейшага даследавання і ніякія паспешлівыя вывады і канстатацыі Г. Прахазкавай яшчэ не вырашаюць пытання, наадварот, яны выклікаюць неабходнасць крытычнай стрыманасці і глыбокага вывучэння дзейнасці Скарыны ў гэтым напрамку.

У апошнія гады свайго жыцця да Скарыны звярнуўся У. І. Пічэта. Не ведаю, калі закончыў ён сваю вялікую характарыстыку беларускай культуры XVI ст., якая ўпершыню была надрукавана пасля смерці даследчыка (1961) [2], але ў гэтым каштоўным нарысе старонкі, што прысвечаны Скарыне, падрыхтаваны, безумоўна, шырокім вывучэннем усёй ранейшай літаратуры аб «найвялікшым прадстаўніку гуманістычнага культурнага руху ў Беларусі». У сваёй працы Пічэта не ідзе далей накопленага да 1935 г. гістарычнага матэрыялу, а таксама яшчэ не робіць упамінання аб знаходках Вайцяхоўскай або маіх, але ўжо засвойвае пасляваенную традыцыю называць Скарыну Георгіем. Між іншым, у цэнтры ўвагі У. І. Пічэты стаіць пытанне аб агульнай культурнай арыентацыі Скарыны і яго месцы ў развіцці беларускай духоўнай культуры XVI ст. Нельга сказаць, каб назіранні і вывады Пічэты былі строга паслядоўнымі і прыведзенымі да некаторага пэўнага адзінства. На самай справе, даследчык у адным месцы сцвярджае, што ў дзейнасці Скарыны «няма ніякіх падстаў на яго сімпатыі к пратэстантызму» (які тады, праўда, ледзь вызначаўся), і гэтаму сцвярджэнню рашуча супярэчыць абарона Скарынай культу святых. Далей Пічэта адзначае, што Скарына стаіць «на пазіцыях царкоўнасхаластычнага светапогляду», але разам з тым адлюстроўвае ўжо і элементы «індывідуалістычнага гуманістычнага руху», выступаючы «абаронцам чалавечай асобы, якая абвяшчае новую мараль», з'яўляю-

[1] J. Pfaff — V. Závodský. Tradice česko-ruských vztahů v dějinách (Projevy a doklady). Praha, 1957, стар. 28.

[2] В. И. Пичета. Культура Белоруссии в XVI в.; яго ж: Белоруссия и Литва, стар. 633—730.

чыся разам з тым і абаронцам укаранення асветы ў шырокія народныя масы. І вось тут Пічэта сам аслабляе сваю ранейшую заяву сцвярджэннем, што «ў сваіх клопатах аб грамадскай карысці Скарына хутчэй стаіць на пазіцыях рэвалюцыйнага гусіцкага руху, чым індывідуалістычнага светапогляду Адраджэння». І далей Пічэта гаворыць аб Скарыне, што ён «чалавек свайго часу, які парваў з традыцыямі Сярэдневякоўя», «прыхільнік рэалістычнага светапогляду». Затым, пасля кароткага разгляду сацыяльных поглядаў Скарыны, асабліва па пытанню аб непатрэбнасці прыватнай уласнасці і інш., даследчык робіць заключэнне, што «сацыяльна-эканамічны ідэал Скарыны, мабыць, быў звязан з арганізацыяй сацыяльна-эканамічнага жыцця ў табарыцкіх абшчынах». На вялікі жаль, У. І. Пічэта абмяжоўваецца толькі гэтымі агульнымі славеснымі супастаўленнямі Скарыны з гусітамі або табарытамі, не прыводзячы ніякіх дастаткова пераканальных ілюстрацый.

Але разам з тым застаюцца нявырашанымі супярэчнасці гэтых сцвярджэнняў з катэгарычнымі вывадамі аб тым, што асновай светапогляду Скарыны былі ўсё ж сярэдневяковыя паняцці і ўяўленні. Між тым гутарка ідзе быццам бы і аб супрацьборстве з гэтымі ўяўленнямі на глебе рэвалюцыйных ідэй гусіцтва і табарыцтва. Мне здаецца, што будзе больш правільнай фармулёўка, якую дае Пічэта ў тым жа артыкуле некалькі ніжэй, дзе піша, што «мараль Скарыны свецкая, гуманістычная», што ён «сапраўдны гуманіст». Інакш кажучы, Скарына належыць хутчэй да прадстаўнікоў Рэнесанса, чым Рэфармацыі, хоць чэшскі культурны ўплыў і пакінуў нейкія адбіткі на яго поглядах. З элементамі гуманізму і Адраджэння лягчэй і больш натуральна было зжывацца элементам сярэдневякоўя і схаластыкі, чым элементам рэвалюцыі і бунтуючага пратэстантызму ў яго першапачатковых формах. Трэба сказаць, што У. І. Пічэта падкрэсліваў неабходнасць вывучаць і тлумачыць з'яву Скарыны не ў плане шукання ўплыву і запазычанняў, а быў больш схільны адцяняць яго ўнутраныя беларускія корані. Дзейнасць Скарыны, зусім правільна пісаў Пічэта, «была звязана з глыбокімі ўнутранымі зменамі ў сацыяльна-эканамічным жыцці Беларусі і з культурнымі зрухамі ў XV ст.»

Падводзячы вынікі ўсім гэтым выказванням У. І. Пічэты, якія не пазбаўлены асобных супярэчнасцей і неадпаведнасцей, можна зрабіць вывад, што Скарына з'яўляўся сапраўд-

ным сынам свайго часу, духоўныя плыні якога ён меў магчымасць назіраць і ўспрымаць і ў Італіі, і ў Чэхіі, і ў Польшчы. На фоне ўнутраных духоўных адносін роднай яму Беларусі складваўся светапогляд, які адпавядаў асноўным павевам часу і быў афарбаван адценнямі сярэдневяковага кансерватызму і прагрэсіўнасці Рэнесансу. Іменна ў гэтай пераходнай сферы духоўных уплываў фарміравалася аблічча Скарыны і вызначаліся галоўныя імпульсы і мэты яго дзейнасці на карысць «паспалітаму люду», на карысць роднаму народу, у жыцці якога вялікі гуманіст хацеў бы бачыць перамогу справядлівасці і асветы.

Адна з апошніх прац аб Скарыне беларускага даследчыка М. Алексютовіча [1] раскрывае іменна такія рысы скарынінскіх поглядаў на свет наогул і на грамадскае жыццё той эпохі. Скарына — чалавек яшчэ пераходнага часу, ён яшчэ моцна трымаецца старых рэлігійных традыцый бацькоў і дзядоў, але разам з гэтым асэнсоўвае многае ў поўнай адпаведнасці з подыхам новага часу і часоў гуманізму. Безумоўна, грамадскія погляды Скарыны маглі складвацца на падставе ацэнкі аб'ектыўнай рэчаіснасці Заходняй Русі, а таксама ў сувязі з тымі ўражаннямі, якія на яго зрабіла, несумненна, знаёмае яму вучэнне «чэшскіх братоў», а можа быць, і П. Хяльчыцкага. Трэба меркаваць, што Скарына ў Празе не жыў ізалявана ад акаляючага яго культурнага грамадства. Сама дзейнасць Скарыны ў такой адказнай справе, як выданне «Біблії», непазбежна вымушала яго ўступаць у зносіны з прадстаўнікамі духоўнай культуры Прагі, як і раней у Падуі з прадстаўнікамі італьянскага культурнага асяроддзя. У выніку гэтага ў Скарыны маглі скласціся некаторыя агульныя погляды, на якія рабілі свой уплыў розныя павевы часу і пэўныя колы, што цалкам вызначылі яго адносіны да праблем светабудовы і грамадскага жыцця.

Скарына быў адным з выдатных прадстаўнікоў гуманізму, праўда, ён яшчэ не адмовіўся ад старых традыцый, але ўжо больш-менш свабодна адносіўся да пытанняў рэлігіі і канфесіі. Наўрад ці варта ў гэтай сувязі рабіць спробу прымацаваць яго светапогляд да якой-небудзь пэўнай ідэі часу ці да пэўнага асяроддзя.

---

[1] М. А. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мінск, 1958.

У сваёй кнізе М. А. Алексютовіч спрабуе найбольш поўна і грунтоўна падвесці вынікі тым матэрыялам аб жыцці і дзейнасці Скарыны, якія былі накоплены да 1958 г., а таксама на падставе ўсіх выказванняў на старонках скарынінскіх выданняў вывучыць асновы светапогляду вялікага гуманіста. Вийшаўшая двума гадамі раней брашура В. У. Чапко[1] яшчэ не ўлічвала ўсяго таго новага біяграфічнага матэрыялу, які быў выяўлен пасля выхаду ў свет кнігі П. Уладзімірава. Даследчыца вельмі недакладна і, можна сказаць, мімаходам упамінае аб тых звестках, якія былі сабраны пра Скарыну ў Празе. Наогул у брашуры Чапко даецца вельмі сціслы выклад біяграфічных звестак аб Скарыне і яго дзейнасці ў галіне выдання кніг. Разам з гэтым трэба сказаць, што брашуру Чапко з цікавасцю і карысцю прачытае кожны, хто пажадае атрымаць агульнае ўяўленне аб значэнні Скарыны ў гісторыі беларускай культуры, у прыватнасці ў галіне кнігадрукавання і развіцця беларускай літаратурнай мовы. Не пайшоў далей такіх старых звестак і аўтар літоўскай брашуры аб Скарыне Л. Уладзіміравас[2]. Трэба адзначыць, што на старым матэрыяле грунтуецца нядаўняя польская зводка звестак аб дзейнасці Скарыны, якія сабраны ў вялікім выданні па гісторыі кнігадрукавання ў Польшчы[3], дзе таксама змяшчаецца шырокая бібліяграфія аб першым беларускім друкару, часткова не ўлічаная Пічэтам у яго «Скарыніяне». Між іншым, М. А. Алексютовіч у артыкуле «Цікавыя матэрыялы аб Скарыне» («Літаратура і мастацтва», 9 студзеня 1957 г.) пісаў аб вялікім значэнні пражскіх знаходак і ўжо ў сваёй кніжцы, якая выйшла ў свет пазней, ён поўнасцю выкарыстаў гэтыя звесткі, дзякуючы чаму атрымаў магчымасць асвятліць новыя, дакладней кажучы, невядомыя бакі і этапы жыцця і дзейнасці Скарыны[4].

---

[1] В. У. Чапко. Беларускі першадрукар Георгій Скарына, стар. 40.

[2] L. I. Vladimirovas. Pranciškus Skarina — Vilnius spaudos pradininkas. Vilnius, 1956.

[3] Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Zeszyt 5: Wielkie księstwo Litewskie. Opracowała A. Kawecka-Gryczowa і інш. Wrocław—Kraków. 1959, стар. 34, 69, 225—230, 243.

[4] Чэшскі тэкст, як відаць, быў некалькі цяжкаватым для аўтара, і таму здарылася, што імя паважанага рэдактара чэшскага «Славянскага зборніка» 1885 г. Э. Елінека (E. Jelinek) ператварылася ў М. А. Алексютовіча ў назву зборніка «Малады алень». Ёсць у кніжцы і іншыя недакладнасці ў выкарыстанні дакументальных матэрыялаў.

Як ужо вядома, Алексютовіч настайвае на прысваенні Скарыне імя Георгій. Далей ён прасочвае пройдзены Скарынай жыццёвы шлях. Аўтар не вырашае на старонках сваёй кнігі пытання аб рэлігійнай арыентацыі юнага Скарыны. Ён толькі рэгіструе ў заўвагах існуючае ў літаратуры рознагалоссе паміж прыхільнікамі праваслаўя або каталіцызму Скарыны, якое асобныя гісторыкі звязваюць і з місіянерскай дзейнасцю ордэна бернардынцаў у Полацку і Літве наогул. Аўтар мае падставы, калі сцвярджае, што Скарына яшчэ ў сценах Кракаўскага універсітэта, дзе ён навучаўся ў 1504—1506 гг., пазнаёміўся з ідэямі заходнееўрапейскага гуманізму і іх канфліктам з традыцыямі каталіцкай схаластыкі, што затым і пацягнула яго ў Італію да непасрэдных крыніц новай ідэалогіі. Між іншым, Алексютовіч не ўлічвае, што Скарына ў Падуі знаходзіўся вельмі нязначны час. Аўтар некалькі больш падрабязна робіць разгляд дакументаў аб дзейнасці Скарыны ў Падуі, які там у 1512 г. набыў ступень доктара медыцыны, а затым накіраваўся ў Прагу, дзе, на думку Алексютовіча, некалькі год рыхтаваў сваю адказную акцыю па выданню новых тэкстаў старога завету. Ідучы да гэтага часу пераважна ўслед за вывадамі Уладзімірава, Алексютовіч затым звяртаецца і да матэрыялаў, знойдзеных мною. Беларускі даследчык лічыць, что Скарына, магчыма, рабіў спробу ўстанавіць з Масквой сувязі ў галіне кнігавыдавецкай справы. Пасля кароткай характарыстыкі кенігсбергскага эпізода ў жыцці Скарыны аўтар спыняецца на яго дзейнасці ў Вільні, на выданні «Апостала» ў 1525 г. М. Алексютовіч дапускае думку, што лёс гэтай працы ў наступныя гады быў звязан як з матэрыяльнымі цяжкасцямі, так і з перашкодамі з боку каталіцкіх царкоўных колаў. У гэтай кніжцы змешчан больш або менш падрабязны выклад звестак аб паўторным знаходжанні Скарыны ў Чэхіі.

У сваёй даследчай працы Алексютовіч згаджаецца з прапанаваным мною супастаўленнем звестак 1552 г. з апавяданнем Гаека аб смерці сына Скарыны ў час пажару 1541 г. Аўтар схільны аднесці смерць Францыска Скарыны таксама да гэтага года. Варта сказаць, што пры ўсёй сцісласці той часткі кнігі, што датычыць жыцця беларускага першадрукара, біяграфія Скарыны атрымлівае тут папаўненне некаторымі новымі матэрыяламі і, такім чынам, становіцца больш поўнай, чым гэта было да нядаўняга часу. Трэба канстатаваць, што аўтар не выходзіць за межы простых сведчан-

няў крыніц і не робіць спробы дапоўніць іх якімі-небудзь здагадкамі для большай верагоднасці і ўстанаўлення адпаведных сувязей паміж асобнымі этапамі жыцця Скарыны. Праўда, у адным выпадку Алексютовіч парушае гэту сціплую стрыманасць. Ён выказвае меркаванні, што нейкі магістр Франчэска (італьянец), які працаваў у каралеўскім садзе ў 1534 г., гэта не хто іншы, як Францыск Скарына. Аўтар гэтага артыкула ў сваёй кнізе аб Скарыне падзяляў гэтых асоб. Трэба прызнаць, што іх атаясамліванне было вельмі спакуслівым. Мне не адзін раз даводзілася гутарыць на гэту тэму са знаўцам пражскай старажытнасці доктарам Я. Мараўкам, дырэктарам Архіва пражскага Крамля. Мы сумняваліся ў магчымасці гэтага атаясамлівання, улічвалі, што Скарына з'яўляўся высокаадукаваным чалавекам, быў доктарам, у той час як Франчэска называецца ў крыніцах толькі магістрам. Аднак ці нельга слова «магістр» разумець як маэстра, майстра ў высокім сэнсе? Тады знікла б непаразуменнне аб тым, чаму ў пражскіх актах адсутнічае адначасова ўпамінанне Franciscus Italus і Franciscus Skorina, а называюцца толькі кожнае паасобку. І ці не быў у сапраўднасці пражскім садаводам адзін і той жа Францыск, пры гэтым абазначэнне Italus магло вызначаць і падуанскага вывучаніка Скарыну [1].

Далей М. А. Алексютовіч дае агульную характарыстыку выдавецкай дзейнасці Скарыны. Пры гэтым ён шырока скарыстоўвае ўключаныя ў кожную біблейскую кнігу рэдактарскія прадмовы Скарыны, якія адлюстроўваюць яго асабістыя адносіны да самой сутнасці адпаведных біблейскіх кніг, да мэт іх выдання, моўнай і тэкстуальнай апрацоўкі і г. д. Скарына, як справядліва зазначае Алексютовіч, не толькі быў кнігавыдаўцом, ён ставіў сваёй мэтай больш высакародныя культурна-выхаваўчыя задачы і сваімі кнігамі імкнуўся служыць духоўным інтарэсам «простых людзей» сваёй радзімы. Ён клапатліва апрацоўваў тэксты сваіх кніг у моўных адносінах і тым самым з'яўляўся абаронцам беларускай мовы і літаратуры.

Характарыстыцы гэтага агульнага светапогляду Скарыны і аддае галоўную ўвагу М. А. Алексютовіч.

---

[1] Да прыведзеных у мяне ў «Бібліі» матэрыялаў аб пражскім садзе дададзім: J. Teige. Přispěvky k dějínam záhrad pražských. «Krása našeho domova», 1901, V, стар. 109—110, але імені Скарыны тут няма.

Светапогляд Скарыны быў ужо не раз прадметам стараннага вывучэння і ў старой літаратуры, і ў больш новы час. У прыватнасці, беларускі акадэмік У. М. Перцаў у 1948—1955 гг. зрабіў філасофскі аналіз прадмоў Скарыны з марксісцка-ленінскага пункту погляду[1]. У тым жа напрамку вядзе свой разгляд і М. А. Алексютовіч. Цікавая і змястоўная яго кніга заканчваецца раздзелам, прысвечаным пытанню аб уплыве Скарыны на развіццё пісьменнасці, асабліва ў беларускім і ўкраінскім асяроддзі. Але разам з вартасцямі працы М. А. Алексютовіча трэба адзначыць, што яго невялікая кніжка не сказала аб Скарыне апошняга слова і для разумення вялікага гуманіста і яго справы трэба будзе зрабіць яшчэ нямала крокаў па шляху як архіўна-бібліяграфічных пошукаў, так і культурна-гістарычных даследаванняў ва ўмовах поўнай навуковай незалежнасці і шырокай гісторыка-культурнай інфармаванасці.

9

Гэта пытанне набывае асабліва важнае значэнне хоць бы і таму, што цяпер перад даследчыкамі Скарыны паўстала новая нечаканая задача — асэнсаваць і даследаваць новую знаходку, якая з'яўляецца пакуль што загадкай. Справа ў тым, што ў 1960 і 1962 гг. вучоным сталі даступнымі новыя, вельмі кароткія запісы аб Скарыне, у якіх ён называецца «secretarius regis Datiae» або «Daciae». Гэтыя запісы былі знойдзены ў Падуі сярод дакументаў аб здачы Скарынай экзаменаў для набыцця ступені доктара медыцыны. У 1892 г. Шляпкін выдаў тры падуанскіх дакументы аб Скарыне, цяпер жа знойдзен чацвёрты запіс аб экзамене, а затым у архіве падуанскай епіскапскай кафедры, дзе адбывалася гэта цырымонія, выяўлен яшчэ адзін такі запіс з падобным указаннем. Знайшоў гэтыя дакументы беларускі даследчык Я. Садоўскі. Выдадзены яны ў Рыме ў беларускім рэлігійным часопісе «Зніч»[2].

[1] У. М. Перцаў. Грамадская дзейнасць і светапогляд Георгія Скарыны. Известия Академии наук БССР, 1948, № 6; Нарысы па гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі народаў СССР, т. І. Мінск, 1955; артыкул П'янкова «К вопросу об оценке деятельности и мировоззрения Скорины». «Советская Белоруссия», 13 лютага 1948 г.

[2] Egzaminacyjnyja dakumenty Dr. Franciška Skaryny u Paduanskim Universytecie — часопіс «Žnič» (La Brace). Roma, 1960—1962, № 56, 61, 62—65.



Старонкі з «Малой падарожнай кніжыцы» Ф. Скарыны

Неабходна заўважыць, што мне яшчэ ў 1937 г. было вядома гэта абазначэнне Скарыны як сакратара караля «Дакіі» («Daciae», варыянт «Datiae» я не ведаў). Але мне тады было нязручна публікаваць гэты акт. Я чакаў моманту, калі яго надрукуе тая асоба, якая яго першапачаткова выявіла. Справа ў тым, што неяк увосень 1937 г. прафесар Этора Ла Гата паказаў мне ў прафесарскай чытальні Карлава універсітэта ў Празе рукапіс невялікага артыкула, які яму прапанавалі надрукаваць у часопісе «L'Europa Orientale». Прафесар запытаў тады ў мяне, ці вядомы ў друку прыведзеныя ў гэтым артыкуле падуанскія акты. Сярод тэкстаў, з якімі мне тут жа давялося бегла азнаёміцца, знаходзіўся раней незнаёмы тэкст з абазначэннем, што зараз нас цікавіць. Я меркаваў, што ў бліжэйшы час акт гэты будзе надрукаваны, таму ні ў адной з сваіх прац аб Скарыне 1938—1946 гг. не рабіў спасылак на гэты цікавы дакумент, бо лічыў, што прыярытэт знайшоўшага

матэрыял павінен быць захаван. Акт гэты, аднак, настолькі прыцягнуў маю ўвагу, што я тады ж прыняў захады, каб навесці папярэднія даведкі для сябе асабіста і асэнсаваць выключна цікавую знаходку.

У якога караля «Дакіі» мог быць у 1512 г. сакратаром Скарына, як ён набываў у Падуі ступень доктара медыцыны і быў увянчан лаўрамі гэтага высокага звання? На гэтыя пытанні трэба было шукаць адказ. Слова «Dacia» ў той час магло быць зразумелым у двух напрамках: з аднаго боку, тады так называлася Данія (цяпер ужо магчыма рабіць спасылку і на дакумент, на якім напісана Datia, гэта значыць ужо несумненна Данія). З другога боку, гэта імя нагадвала старую традыцыю Малдавіі, Румыніі. У сувязі з гэтым я неадкладна звярнуўся ў Капенгаген у Дзяржаўны архіў з просьбай паведаміць, ці няма там якіх-небудзь матэрыялаў, якія б сведчылі аб службе Францыска Скарыны пры дацкім каралеўскім двары. Адказ быў атрыман адмоўны. У пісьме ад 11 снежня 1937 г. дырэктар архіва Аксель Лінвальд паведаміў мне, што наогул у сціплых архіўных фондах за першыя дзесяцігоддзі XVI ст. няма ніякіх звестак аб Скарыне.

Пазней, у 1965 г., я яшчэ раз паспрабаваў высветліць, ці няма ўсё ж якіх-небудзь звестак пра сувязі Скарыны з каралеўскім дваром або універсітэтам у Капенгагене. Я шчыра ўдзячны рэктару гэтага універсітэта за паведамленне, што ні ў дакументах, ні ў літаратуры па гісторыі Даніі пачатку XVI ст. няма нічога, чым можна было б вытлумачыць гэту загадку Скарыны.

Гэта не знімае, вядома, з парадку дня пытання аб магчымасці з'яўлення Скарыны ў Даніі ў перыяд паміж яго вучобай у Кракаве і яго прамоцыяй у Падуі ў 1512 г., але для станоўчага сцвярджэння аб яго сувязях з дацкім культурным і палітычным светам усё ж патрэбны яшчэ дадатковыя падставы. Не больш паспяховымі былі і мае пошукі ў Румыніі. Вядомы румынскі гісторык прафесар П. П. Панаітэску прыслаў мне адказ, у якім ён пісаў (20 сакавіка 1938 г.), што вельмі непраўдападобна, каб Францыск Скарына з'яўляўся сакратаром якога-небудзь князя і перш за ўсё таму, што ў XVI ст. у адносінах да князёў зусім рэдка ўжывалася старое імя Дакія. З другога боку, ні адзін з румынскіх князёў той эпохі не насіў тытула «rex» — кароль, а называліся яны звычайна «dux» — князь. У 1512 г. у Валахіі княжыў князь Няча

Басараба (1512—1521), а ў Малдавіі — Багдан III (1504—1517). Ва ўсякім выпадку ў дакументах таго часу адсутнічаюць усякія звесткі аб сувязі Скарыны з кім-небудзь з гэтых князёў.

Не ўтаю, я і пасля атрыманых мною тлумачэнняў нават і цяпер не зусім адмовіўся ад свайго меркавання, якое мне падказвае, што Скарыну ўсё ж маглі звязваць нейкія ніткі з малдаўскім або валашскім культурным асяроддзем. Як вядома, Скарына пачаў выдавецкую справу ў Празе ў 1517 г. Ён быў добра знаёмы з чэшскімі выданнямі ўжо хоць бы таму, што выкарыстаў у сваёй друкарскай дзейнасці адно з чэшскіх выданняў «Бібліі». Быў ён знаёмы і з выдавецкім вопытам Валахіі, дзе ў першыя гады XVI ст. пад апекай князя Басарабы разгарнулася выданне царкоўнаславянскіх кніг. У 1508 г. у Валахіі (Тарговішча) выйшаў «Служэбнік», у 1510— «Васьмігласнік», у 1512 — «Чацвёраевангелле» і г. д.[1] Пражскія і віленскія выданні Скарыны, напэўна, не маюць якой-небудзь сувязі з гэтымі кнігамі. Аднак магчымасць сувязей Скарыны хоць бы з людзьмі, якія ўдзельнічалі ў выданні гэтых кніг, захоўвае сваю цікавасць. Трэба таксама ўлічваць і той факт, што выхадцы з Валахіі і Малдавіі з'яўляліся нярэдкімі слухачамі навук у Карлавым універсітэце ў тыя гады, калі Скарына тут жыў і працаваў. Гэта давала яму магчымасць непазбежна мець сувязі з прадстаўнікамі розных культурных пластоў і галін, у прыватнасці, можа быць, і з прадстаўнікамі Малдавіі і Валахіі, якія захоўвалі тады яшчэ жывыя сувязі з царкоўнаславянскай традыцыяй і верай[2].

## 10

Наш агляд ахапіў перыяд за сорак год. За гэты час вывучэнне Скарыны ва ўсёй паўнаце гэтай выдатнай з'явы зрабіла наперад нямала значных і важных крокаў. Даследаванні датычылі галоўным чынам біяграфіі Скарыны, а разам з гэтым

[1] П. М. Попов. Початковий период книгодрукования у східних слов'ян. Київ, 1958, стар. 15; Г. И. Коляда. Из истории книгопечатных связей России, Украины и Румынии в XVI—XVIII вв. У зб.: У истоков книгопечатания. М., 1959, стар. 8—10; Е. Л. Немировский. Возникновение книгопечатания в Москве, стар. 88—89, 361. Тут указанні на даследаванне гэтых кніг у працах П. П. Панаітэску.

[2] M. Dan. Cehi, Slovaci şi Români în vecaurile XIII—XVI. Siliu, 1944, стар. 60 і наст.

і вывучэння моўных сродкаў, якімі ён карыстаўся ў дасягненні ўсіх культурных мэт — дзеля «паспалітага добрага». У меншай ступені за гэтыя сорак год вывучалася сама кніга Скарыны. Падбор выданняў Скарыны застаўся ранейшым. Не вельмі багатымі былі і новыя даследаванні тэхнікі друку і афармлення пражскай «Бібліі» або віленскага «Апостала». Некалькі стаў набліжаным Скарына да чытача як мысліцель і пісьменнік.

Даследчык А. А. Сідараў у сваім крытыка-гістарычным аглядзе галоўных праблем гісторыі рускага кнігадрукавання вельмі выразна адзначыў сутнасць і значэнне гэтага «пражскага ўрока». У адрозненне ад усіх іншых выдаўцоў славянскіх кніг больш ранняга часу ў асобе Скарыны А. А. Сідараў бачыць «першага славянскага дзеяча кнігі, які свядома ставіўся да кнігі як да зброі асветы, да сваёй дзейнасці як да вырабу матэрыялу для чытання, для ідэйнага ўзбагачэння чалавека, а не для дапамогі богаслужэнню». Скарына, падкрэслівае Сідараў, перш за ўсё выдавец, не друкар, не работнік станка, але «вучоны, інтэлігент, пісьменнік, перакладчык, ён ідэолаг, рэдактар, мовазнаўца і грамадскі дзеяч, ён перш за ўсё патрыёт і асветнік». Далей Сідараў указвае, што са «Златай Прагі чэшскай дадзен выразны ўрок кнігадзелання і кнігавытлумачэння», што «і ілюстрацыі Скарына ўводзіў у свае выданні першым у славянскай выдавецкай практыцы свядома, для лепшага «разумення», не для пустога ўпрыгожвання». «Яго ўрок жыве да сённяшняга дня» [1].

Варта адзначыць, што гэтыя і іншыя заўвагі А. А. Сідарава з'яўляюцца як бы нейкім апафеозам дзейнасці Скарыны, чалавека заходняй школы і адукацыі, а мабыць, і веравызнання, але адданага сына свайго народа, які прысвяціў сваё жыццё і нястомную працу культурным інтарэсам сваёй радзімы.

* * *

Вывучэнне вялікай з'явы Скарыны прайшло доўгі шлях, які быў увянчаны вядомымі станоўчымі вынікамі. Некалькі пакаленняў сур'ёзных і таленавітых даследчыкаў сабралі грунтоўны і правераны матэрыял для больш або менш поў-

[1] А. А. Сидоров. Узловые проблемы и нерешенные вопросы истории русского книгопечатания. Книга. Исследования и материалы, т. 9, стар. 22—26.

нага і закончанага разумення гэтага выдатнага дзеяча славянскай культуры, беларускай асветы. Але разам з гэтым застаецца яшчэ нямала белых месц у біяграфіі Скарыны і шмат недаследаванага і незразумелага ў яго дзейнасці.

Лічу, што перш за ўсё трэба даць у рукі больш шырокаму колу даследчыкаў усю літаратурную спадчыну Скарыны. Зараз да яе поўнасцю маюць доступ толькі адзінкі даследчыкаў, якія могуць працаваць у сценах буйнейшых біблiятэк СССР, дзе знаходзяцца камплекты выданняў Скарыны. Рэпрадукцыя ўсіх тэкстаў, што належаць пяру Скарыны, дакладней кажучы, друкарскіх заяў, асабліва прадмоў, глос, прыпісак і г. д. магла б значна дапамагчы пры вывучэнні поглядаў Скарыны як выдаўца біблейскіх кніг. І не менш важна было б сабраць разам усе дакументы, якія асвятляюць жыццёвы шлях Скарыны. Вельмі шкада, што нам даступныя ў гэтым сэнсе толькі ізалявана адна ад другой асноўныя вехі, па якіх прайшоў гэты выдатны чалавек і ўзвёў для сябе бессмяротны помнік сваёй выдавецкай справай.

Акрамя таго, было б вельмі важна ўзяць на ўлік і параўнаць усе экземпляры выданняў Скарыны, якія захаваліся да нашых дзён, для выяўлення магчымых варыянтаў у іх афармленні. Указаны вышэй факт існавання варыянтаў партрэта Скарыны ў розных экземплярах пражскіх кніг яго выдання дае пэўную падставу для сістэматычнага прагляду ўсіх экземпляраў. Разам з тым было б вельмі важна сабраць усе паметы на экземплярах выданняў Скарыны для высвятлення кола іх чытачоў і ўласнікаў, што можа дапамагчы выявіць вобласці іх распаўсюджання,— у прыватнасці, гэта асабліва цікава для высвятлення ступені вядомасці выданняў Скарыны і ў межах Маскоўскай дзяржавы.

Трэба зрабіць агульнадаступным усё тое, аб чым у свой час марыў Скарына: «...для паспалітага добрага»... «и людем посполигым к доброму научанию...»



28. Зак. 986

# Змест





НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ

**450 ЛЕТ**
**БЕЛОРУССКОГО КНИГОПЕЧАТАНИЯ**

Издательство «Наука и техника»
Минск, Ленинский проспект, 68



Рэдактары
Н. Царова, Г. Юрчанка
Афармленне і мастацкае рэдагаванне
В. Саўчанкі
Тэхнічны рэдактар А. Атлас
Карэктар С. Шынкевіч



Друкуецца па пастанове РВС АН БССР

АТ 15254. Здадзена ў набор 15/VIII-67 г. Падпісана да друку 28/VI-68 г. Папера глыб. друк. Фармат $60\times84^{1}/_{16}$. Друк. арк. 27,25. Уч.-выд. арк. 26. Выд. зак. 395. Друк. зак. 986. Тыраж 1400 экз.
Цана 1 р. 86 к.

Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па друку. Мінск, Ленінскі праспект, 68

Ч 54 **450 год** беларускага кнігадрукавання. Рэдкалегія: К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва) [і інш.]. Мінск, «Навука і тэхніка», 1968.

436 с. з іл. (АН БССР). 1400 экз. 1 р. 86 к. У перапл.

У кнізе разглядаецца гісторыя кнігавыдавецкай справы Беларусі і роля выдатнага беларускага вучонага-асветніка Ф. Скарыны ў распаўсюджанні друкаванага слова. Аналізуюцца кнігі Скарыны з боку мовы. Даецца агляд сусветнай Скарыніяны за апошнія 40 гадоў. Бібліягр. у падрадковых заўвагах.

1-6-2
6-67 002